ISSN 0130 — 8068

4/2007



# ПОЛЫМЯ

Я ў зоне нясцерпнага болю:
над краем маім крыж-накрыж маланкі —
ад болю не могуць яны расчапіцца,
блакітны агонь выкрасаюць.

І падае гэты агонь
на чорныя стужкі дарог,
на сінія рэчкі, азёры
ды на залатыя хлябы
і ў душы людскія ільецца.

Ала Канапелька



# ПОЛЫМЯ

4

(930)

2007

красавік

ЛІТАРАТУРНА-МАСТАЦКІ
І ГРАМАДСКА-ПАЛІТЫЧНЫ
ЧАСОПІС

ВЫДАЕЦЦА СА СНЕЖНЯ 1922 ГОДА



РЭДАКЦЫЙНА-ВЫДАВЕЦКАЯ ЎСТАНОВА
«ЛІТАРАТУРА І МАСТАЦТВА»

Мінск 2007

# ЗМЕСТ





**ЗАСНАВАЛЬНІК — Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь**

*ПРОЗА*



**Уладзімір ДАМАШЭВІЧ**

# НА МЯЖЫ ЦЯРПЕННЯ

***Раман***

**1**

Апошнім часам Рамейка нечага стаў задумвацца, нешта як успамінаць, спыняцца на паўдарозе — перастаў хутка хадзіць, як гэта ён любіў заўсёды, абыходзіў бокам знаёмых ці рабіў выгляд, што не заўважае іх; дома, у сям'і, гаварыў мала, стараўся як найхутчэй знікнуць з вачэй жонкі, дзяцей, часам без прычыны пачынаў сварыцца, каб ніхто не лез у вочы, — хацелася быць аднаму, нікога не чуць і не бачыць. Нейкія няясныя прадчуванні турбавалі яго, вярэдзілі душу.

У яго гадах — яму бралася пад пяцьдзесят — такія перамены ў настроі — не навіна, з ім такое здаралася і дагэтуль. Ён ужо дабраўся да піка, да вяршыні свае жыццёвае гары і ўжо спускаўся ўніз, а гэта намнога лягчэй і хутчэй, чым узбірацца. Пастурова ён лавіў сябе на тым, што жыве мінулым, што вочы і памяць яго скіраваны назад, а не перад сабою.

Што гэта? Старасць? Прыкметы яе, першыя веснікі? Напэўна, хоць фізічных перамен у сабе ён яшчэ не знаходзіў, не адчуваў, быў па-ранейшаму лёгкі на хаду, сэрцам не кволіўся, браў добра пад'ёмы, калі даводзілася дзе ісці пад горку, нават без перадышкі адольваў дзевяты паверх у сваім доме, калі часам псаваўся ліфт. Ну, з твару пэўна ж — выглядаў не так, як у трыццаць ці нават у сорак, аднак пры яго хударлявасці яму можна было даць на гадоў пяць меней. Выдавалі найбольш валасы — недзе за апошнія гады здорава пасівелі.

А тут нейкія новыя зрухі ішлі ў яго душы, адольваў нейкі неспакой, не пакідала трывога.

І пачалося ўсё, здаецца, з глупства, з дробязі. Перад Новым годам Рамейка, як заўсёды, выпісваў газеты. На картачцы, якую яму дала пажылая паўнацелая жанчына, што прымала падпіску, ён напісаў усе назвы газет

---

***Дамашэвіч Уладзімір Максімавіч*** *нарадзіўся ў 1928 годзе ў в. Вадзяціна Ляхавіцкага раёна. Скончыў філфак Белдзяржуніверсітэта. Працаваў у выдавецтвах, часопісах «Полымя», «Маладосць».*

*Выдаў кнігі прозы «Заклінаю ад кулі», «Між двух агнёў», «Абуджэнне», «Кожны чацвёрты», «Выбранае», «Камень з гары» і інш.*

*Лаўрэат прэміі Федэрацыі прафсаюзаў Рэспублікі Беларусь, Літаратурнай прэміі імя Івана Мележа.*

і часопісаў, пазначыў сваё прозвішча і адрас. Потым расплаціўся — выходзіла недзе на пяцьдзесят рублёў, сярэдняя гадавая падпіска.

Прайшоў Новы год, а газет не было. Што за прычына? Рамейка ўзяў квіткі на падпіску і адправіўся на сваё паштовае аддзяленне, у аддзел дастаўкі, хацеў ужо нават пасварыцца, але яму паказалі, што пошта ідзе туды, куды яна адрасавана: дом той жа, а вось кватэра!.. Замест «211» стаіць «21». Згубілася апошняя адзінка! Цікава, хто ўсё ж такі вінаваты? Рамейка імчыць туды, дзе выпісваў газеты, тая паўнацелая жанчына знаходзіць яго картку, на якой ён уласнаю рукою запісваў адрас: «кватэра 21»! «Скляроз!»— сказаў ён сабе, пачырванеў, як школьнік, і нявесела ўсміхнуўся. Яшчэ раз давялося цягнуцца на паштовае аддзяленне, перапраўляць адрас — і газеты пайшлі.

Такі, на першы погляд, нязначны эпізод паўстаў раптам у яго свядомасці нядобрым знакам: нехта выбудзе з яго сям'і! Дзвесце адзінаццаць, ён так лічыў, сімвалізавалі яго сям'ю: адзінка — ён, двойка — дзве дачкі, яшчэ адзінка — жонка. А можна перастаўляць як хочаш: двойка — ён з жонкай, адзінкі — дзеці. Дык вось — нехта згубіцца, выбудзе, адпадзе... І чым болей ён думаў, тым страшней яму рабілася.

Сам — усё можа быць. Тут жывеш — тут цябе няма: трапіш дзе пад калёсы, увяжашся ў якую-небудзь бойку, перап'еш — не прачнешся назаўтра. Ды яшчэ такі крытычны ўзрост — ён ведаў гэта трохі з медыцыны, хоць сам яе не любіў, асабліва цярпець не мог лячыцца, а калі і лячыўся, то сам, зёлкамі, у сілу якіх верыў. Жонка — здаецца, здаровая, ні на што асабліва не скардзіцца, толькі нервовая, курыць, кашляе. Дзеці... Няўжо?.. Старэйшая — студэнтка, вучыцца ў Віцебску, ездзіць у месяц раз, бывае, радзей — сюды, да іх... Малодшая — школьніца, ходзіць у сёмы клас, часам хварэе — нешта з печанню, шчытавідкай, некалькі разоў клалі ў бальніцу, але не так, каб ужо безнадзейна. Дык хто ж тады, хто?

Час ішоў непрыкметна — работа, клопаты, хваробы, нягоды, што засланялі сабой тое здарэнне, адсоўвалі недзе яго далёка, на нейкі час яно зусім прападала, але ненадоўга: як асколак ці куля ў целе, яно сяды-тады ды нагадвала пра сябе шчымлівым болем, успывала зноў: хто?

І часцей за ўсё ён згаджаўся на такі варыянт: калі ўжо тое павінна здарыцца, то хай лепш з ім. Маральна ён рыхтаваў сябе да такой непазбежнасці — каб не застала яго знянацку.

І, здаецца, доўга не давялося чакаць. Недзе пад вясну, калі дні пачалі прыбываць, а сонца прыгравала і снег гатоў быў крануцца ў дарогу, каб ачысціць зямлю, Рамейка нечакана адчуў непрыемны сігнал — боль у пахвіне ля правай нагі. Спачатку нават нічога не падумаў — ці мала там што забаліць, ды пройдзе. А ў суботу, прымаючы ванну, абмацаў пухліну — уздуліся лімфатычныя вузлы. Боль не востры, але нейкі глыбокі, як ідзе з сярэдзіны.

«Ну вось, радуйся, Алесь Рамейка, Усявышні выбраў цябе, уласнай персонай, — са здзекам сказаў ён сам сабе. — Твая песенька спета. Гэта — рак. А калі гэта ён, то колькі табе засталося? Мінімум — некалькі месяцаў, максімум — паўгода, год, і ён сваё возьме, ён сваю ахвяру не выпусціць. Так што рыхтуйся».

Ды што тут рыхтавацца? Ён быў якраз гатовы.

Глядзеў на сябе ў люстэрка ў ванным пакоі і не пазнаваў: вочы з ліхаманкавым бляскам, чырвоныя, прыпухлыя, як заплаканыя, павекі, нос «гурочкам» — тонкі ля пераносся і пад канец, з патаўшчэннем пасярэдзіне, — неяк яшчэ больш стаў вылучацца на твары з запалымі шчокамі, вусны пад жорст-

кімі, напалову сівымі вусамі сцяліся ў тонкую лінію, на шчоках — нездаровыя пліты румянцу, валасы, здаецца, яшчэ больш пасівелі. А мо яму так проста здалося пасля ванны? Проста распарыўся, разагрэўся... Не, гэта ўжо быў не той чалавек, што паўгадзіны назад зайшоў сюды. Хай сабе знешне ён мала змяніўся, але ў душы ўжо не пазнаваў самога сябе.

Пра свой дыягназ ён нікому не сказаў, нават жонцы.

Але ад яе цяжка было схаваць любую перамену ў яго настроі, у яго выглядзе. За дваццаць год сумеснага жыцця яны навучыліся «чытаць» нават думкі, не тое што распазнаваць настрой, асабліва душэўны стан, боль ці яшчэ што — якая непрыемнасць на рабоце.

Яго настрой жонка заўважыла назаўтра, калі снедалі — была якраз субота, малодшая дачка пайшла ў школу, яны засталіся ўдваіх.

Жонка дастала з халадзільніка пачатую ўчора пляшку «Зверабою», проста на патэльні паставіла на стол яечню-подкалатку, якую вельмі любіў Рамейка, паклала кавалак вяленай рыбы, адкрыла слоік памідораў свае засолкі.

— Сядай, гаспадар, за стол, — роблена весела запрасіла жонка. — Будзем снедаць.

Яна была ў старым бляклым і ўжо добра пастраляным халаце, які даўно прасіўся на звалку, але вось неяк ні ў яе, жонкі, ні ў яго, мужа, не хапала смеласці выкінуць яго і ўзяць новы, які недзе ляжаў у шафе і даставаўся толькі ў вялікія святы.

— Дзякую, Марына, ты сёння вельмі ласкавая, — сказаў ён і падышоў да яе, пагладзіў па плячы. Ён толькі што скончыў галіцца, быў свежы і духмяны.

Яна сцепанула плячом, скідаючы яго руку, і гэтак жа весела, як і спачатку, дадала:

— А ты нешта сёння як недаспаў. Нейкі шэры. Ці не пасварыўся часам з любоўніцай?

Гэта быў яе любімы намёк: жартам і ўсур'ёз прыпісваць яму любоўніц. Ён ужо нават перастаў крыўдаваць на яе за такія словы, хоць часам пад злосць груба і рэзка асаджваў яе, і тады пачыналася сварка.

Сёння для Рамейкі гэты намёк-папрок гучаў больш чым смешна, і ён у такім жа жартоўна-прыўзнятым тоне сказаў:

— Ты як у ваду глядзела: пасварыліся і разышліся кожны ў свой бок.

— Не бядуй, засумуе — то перапросіць...

Рамейка нехаця выпіў сваю чарку, падумаў сам сабе: «Адпіў ты, братка, сваё, можаш быць спакойны». А жонцы, каб не перапыняць гутаркі, сказаў:

— Ды ўжо ж, перапросіць. А калі і не — гэтулькі той бяды. Знойдзе другога, маладзейшага.

Яна глянула на яго сваімі цёмна-шэрымі, халоднымі вачыма, нібы шукала адказу: жартуе муж ці гаворыць сур'ёзна?

— І праўда, што з цябе возьмеш? Бач, як пасівеў... на чужых падушках, — дадала яна і нервова зарагатала — гэта была кепская прыкмета.

Рамейка прамаўчаў. Есці не хацелася, ён вяла закусваў, думкі яго разбягаліся, увязвацца ў сварку не хацелася.

— Давай яшчэ па адной, — сказаў міралюбна жонцы і наліў ёй і сабе: яны пілі пароўну.

Неяк непрыкметна, на яго вачах, яна мянялася, ён бачыў у ёй, у яе характары многа больш, чым дагэтуль, — нібы адышоўшыся ад чалавека, можна і праўда ўбачыць болей, чым зблізку.

— На тым тыдні я еду ў камандзіроўку, так што ты тут глядзі, вельмі не бегай, — сказала Марына і зірнула, здаецца, у самую душу. — Дзеці мне ўсё скажуць — калі і ў колькі прыходзіў.

— Я табе і сам скажу, за гэта не турбуйся.

— Ого, ты скажаш! Ты скажаш усё наадварот, — ужо трохі пачынала заводзіцца жонка. — Каб я толькі табе верыла!

«Да чаго ж бываюць дурныя і ўпартыя бабы! — закіпеў, але тут жа асадзіў сябе Рамейка. — Як убіла сабе ў галаву, што я бабнік, то ўжо і памру я такім у яе вачах. І нічым не дакажаш — не паверыць».

— Ты ў мяне галава! На тры аршыны пад зямлёю бачыш, — пахваліў ён жонку. — Каб не ты, я прапаў бы, як рудая мыш...

— Ты надта не смейся! Каб не я, ты мохам аброс бы, плесняю пакрыўся б.

Рамейка крыва ўсміхнуўся.

— То ты кажаш, што я лятун, што на месцы не ўседжу, то наадварот. Які ж я ўсё-такі?

— Хочаш шчыра? — яна закурыла, пускаючы дым угару, яго тут жа цягнула ў фортачку. — Ты толькі не крыўдуй... Ты гультай і бабнік, а гэта самая горшая катэгорыя мужчын, каб ты ведаў, мой мілы Алесь.

— Ну што ж, дзякуй за атэстацыю, — зазлаваў Рамейка, хоць і стрымліваў сябе. — Але мяне здзіўляе, як гэта ты, такая прынцыповая і сумленная, жывеш ужо дваццаць год з такім вось нікчэмным чалавекам, як я? Я — не жыў бы, каб ведаў, што ты, дапусцім, сякая і такая...

Яна зацягнулася дымам, абабіла попел з папяросы — манерна, указальным пальцам правай рукі, у якой і трымала папяросу, рука яе прыкметна ўздрыгвала.

— Эх ты, чалавеча! А што мне рабіць? Куды падзецца? А сям'я? З-за дзяцей я жыву з табою... Ды і што людзі скажуць? Бацькі...

— Людзі, бацькі! Мы павінны жыць перш за ўсё для сябе, а не для людзей. Што людзям да таго, як мы жывём? Думаеш, яны плакалі б ад радасці, калі б мы з табой разышліся? Нічуць.

— А бацькі?

— Бацькоў шкода, яны хочуць дабра сваім дзецям. Але калі яны будуць ведаць, як ты жывеш цяпер са мною, як пакутуеш, то яны скажуць — лепей жыві адна... — Рамейка хацеў тут жа дадаць: «Бо так ці іначай ты будзеш адна — праз які год ці паўгода», — падумаў — ці варта? Не, хай гэта будзе для яе знянацку, не трэба даваць нітку-повад для сумнення, для неспакою. І ўся гэтая гутарка, якая спачатку яго трошкі запаліла, цяпер ужо страціла цікавасць.

— Я ведаю, што скажуць мае бацькі, ты мяне не вучы. Мае — не тое, што твае...

— А што мае? Ты хочаш сказаць — горшыя за тваіх?

— Горшыя-лепшыя... Як хочаш называй. Але мае мне ніколі не казалі — кідай яго, жыві адна, з дзецьмі. Казалі — цярпі, мо адумаецца, мо паправіцца...

— Выцíралі табе слёзы, адным словам. А мае — наадварот, агітавалі мяне кінуць цябе? Так ты хочаш сказаць?

— Табе лепей ведаць, што яны казалі, а па табе я бачыла, куды, у які бок усё хіліцца.

— Нічога ты не бачыла... Усё, што ты пра мяне гаворыш, — лухта. Ты знарок прыніжаеш мяне, каб выглядаць самой лепшай, чым ты ёсць. Але

хутка ты мо пераменіш сваю пласцінку. І гэты час не за гарамі! — не стрымаўся ўрэшце Рамейка, даў нітачку.

Марына адразу насцярожылася — яна не любіла, калі падзеі развіваліся незалежна ад яе, яна хацела іх кантраляваць.

— Вось як ты загаварыў! Ты пагражаеш? Мне? За што? Што я, як рабыня, служу табе дваццаць год? Што гадую дваіх дзяцей, што шлю грошы тваім бацькам, братам і сёстрам? Што я не ведаю спакою ні днём, ні ноччу, — думаю, як стачыць канцы з канцамі, дацягнуць да зарплаты? Ты думаеш, што мы мелі б гэтую кватэру, каб не я? Па табе мы душыліся б у той двухпакаёўцы...

Пакінуўшы ўсе першыя закіды без адказу, бо яны ўжо не былі новымі для Рамейкі, ухапіўся за апошні — ажно рассмяшыла яго жончына самаўпэўненасць, — ён зарагатаў.

— Ну, які ж я нездагадлівы! Чаму гэта я не паслаў цябе да начальства гадоў пяць назад, гэта ж мы жылі б ужо вунь колькі ў новай кватэры! — А потым перамяніў тон — са з’едлівага перайшоў на сур’ёзны: — Няўжо ты і напраўду думаеш, што кватэру дабілася ты, а не я? Што проста яе далі мне па чарзе, як, дарэчы, і першую, двухпакаёвую?

Марына ўспрыняла яго тыраду надзіва спакойна, абышла ўсе яго закіды і пытанні, пакінуўшы іх без адказу. Яна пачала з папроку:

— Эх ты, чалавеча! Нічога ты не разбіраешся ў жыцці, хоць да сівых валасоў дажыў. Не так трэба да жыцця адносіцца, інакш мы ніколі не выберамся з гэтага балота...

— Якога гэта балота?

— Ну вось, ён жыве і не бачыць. Добра такому чалавеку. Як таму дурню: ён думае, што самы шчаслівы чалавек на свеце. Ці, лепей сказаць, ён нічога не думае — ён існуе... Вось так і ты. Жывеш — абы жыць. Ніякай у цябе светлай мэты ў жыцці.

— Затое ў цябе — вунь колькі! І ўсе, як адна, светлыя: мэблю новую замежную прыдбаць, дываноў персідскіх, дочкам на кніжку па пару тысяч пакласці... Яшчэ што? Машыну, дачу. Багатых зяцёў адхапіць. Вось твае светлыя мэты. Я іх ведаю. А ты ўжо забылася, з чаго мы пачыналі? З нуля! На голым месцы пачыналі...

— Каб не я, ты на нулі і застаўся б. Падзякуй Богу, што ён табе паслаў мяне.

— Кожны дзень малюся і дзякую... Завошта ён мяне так ашчасліві — сам не ведаю.

— Ах, якая іронія! Проста брытва! А для чаго чалавек жыве? Каб толькі капціць неба? Раз жывеш — дык жыві — май усё, што даступна чалавеку, што ўпрыгожвае яго быт, яго жыццё. Што думаеш — дача, машына, добрая мэбля — гэта так сабе, іх дурні прыдумалі? Не, якраз разумныя, тыя, што дбалі пра чалавека...

— Яны нават дбалі пра чалавецтва. Але іх вынаходства прысвоілі асобныя людзі, чалавечкі, якія думаюць толькі пра сябе, а не пра чалавецтва. Трэба думаць, трэба дбаць пра ўсіх!

— Гэта называецца дэмагогіяй, мілы мой Алесь. І ты дэмагог самы праўдзівы: ты гаворыш адно, а робіш другое. Ты сваю ляноту прыкрываеш пышнымі фразамі — і ўся твая прамудрасць. І дбаеш толькі пра адно: як бы дзе-небудзь пагладзіць круглы бок чужое бабы.

Рамейка дакорліва паківаў галавой, скрывіўся:

— Трапло ты, Марына, — як была, так і застаешся, і гаварыць нам з табою болей не варта, бо канец будзе падобны. Ты — параджэнне святла.

Я — цемры. Мы антыподы. Толькі як мы адною коўдраю накрываемся — проста не разумею.

— Ты многа чаго не разумееш. І ў гэтым уся наша бяда, — глыбакадумна падвяла вынік размовы жонка і ўстала, пачала прыбіраць посуд са стала.

А Рамейка, не слухаючы болей жончыну гаману, пайшоў у свой пакой. Хай пабурчыць адна. Завёўшыся, яна магла гаварыць гадзіну, дзве і болей. І ўвесь час таптацца па яго мазалях.

## 2

У аўторак Марына паехала ў камандзіроўку. Якраз пачалося разводдзе. Яна абула гумовыя боты, апранула сваё рыжае, з цыгейкавым каўняром, «камандзіровачнае» паліто, завязала хустку і стала як вясковая кабета. Нешта ў яе ёсць такое вельмі сялянскае: уедлівасць, учэпістасць, прыжымістасць. Здаецца, каб некалі, дык была б з яе вунь якая дробная ўласніца. Але Бог з ёю!

Рамейка застаўся з малою. На душы трохі стала спакойней — хоць няма звягі. Хоць можна заглыбіцца ў сябе, падумаць, разважыць — і рашаць: а што ж далей? Як жа далей? Нешта раптоўна як зламалася ці сагнулася ў ім: нейкі маральны стрыжань ці хрыбет. Усё стала другім, нейкім не такім, як было дагэтуль. Нават новая кватэра, якое ён так чакаў і якая яму так спадабалася — тры асобныя пакоі, добры раён: ціхі, зялёны, далёка ад доўгіх заводскіх камінoў; нават дзевяты паверх — таксама па-свойму цікава, вунь які пейзаж! — нават усё гэта, разам узятае, не абуджала ў ім тых пачуццяў, якія перапаўнялі яго ўсяго некалькі дзён назад. Усё цяпер паблякла, страціла свой жывы колер, стала шэрым, як попел.

І людзі сталі іншыя, як і ён сам. Свет стаў змрочны, нелюдзімы, а ён сам у гэтым свеце — чужы, непатрэбны, часовы. І што б ён, Рамейка, ні рабіў, чым бы ні быў заняты, а нейкі нябачны цяжар, як дамоклаў меч, вісеў над ім неадчэпна. «Чакаеш, як вол доўбні», — ёсць такая прымаўка ў беларусаў. Вось ён і чакае. Доўбня ўжо занесена, узнята над ім. Калі толькі стукне?..

Цікава, няўжо ён так слаба прывязаны да жыцця, што адразу апусціў рукі, паплыў па цячэнні, нават не думаючы супраціўляцца? Ён чуў не раз і не два, што ёсць людзі, якія гатовы рабіць што хочаш, каб толькі прадоўжыць сваё жыццё, каб толькі зачапіцца за што-небудзь — хоць за саломінку. А яшчэ ёсць людзі, якія гатовы былі б пацягнуць на той свет усіх, каго толькі можна — і чым болей, тым лепей. Калі няма мяне, то няхай і нікога не будзе — так яны разважаюць. Не, у яго такіх і падобных думак і жаданняў не ўзнікала, была толькі пустата ў душы, абыякавасць, усё страціла сваю цану.

І яшчэ яму здавалася, што аддаліўся ад усіх і ад усяго, апынуўся як у нейкай студні — ціша і глухата, толькі маленькі круг неба над галавою — і ніводнай зоркі, ніякай надзеі.

Хадзіў па кватэры з пакоя ў пакой і ні за што не мог узяцца. Чытаць— не, які сэнс? Супакойваць сябе чытаннем, як наркотыкам — глупства. Рабіць работу — рыхтаваць рукапіс новага рамана вядомага празаіка — таксама не гарыць. Паспее ён атрымаць свае тысячы, пачакае.

Спыняўся ля кніжных паліцаў-стэлажоў — іх было тры, яны займалі ўсю сцяну яго кабінета. Кнігі даўно стаў збіраць, яшчэ студэнтам, яны сталі яго захапленнем, другім хлебам, калі не першым...

Многа тут цікавага, многа прачытанага, многа непрачытанага... І вось цяпер ён глядзеў на гэты жывы скарб упершыню спакойна і нават абыякава, нібы гэта былі не кнігі, а якія-небудзь дровы. І яго ранейшае захапленне здалося яму сёння, цяпер дзіцячым і смешным.

Абыякава перавёў позірк на свой пісьмовы стол, на якім ляжала работа — пераклад з рускай на беларускую, падборка апавяданняў маладога цікавага празаіка. І гэта не закранула за жывое — даволі пабочных заробкаў, хопіць! Людзі жывуць і на зарплату, а тут усё пяклуй і пяклуй, давай, перавыконвай планы і нормы. І ўсё мала...

Позірк яго паволі спыніўся на вазоне — альвасе, што стаяў на падаконні. Сталетнік... Сто летаў і зімаў можа ён жыць-расці, гэтая нягеглая з выгляду расліна. Сто год! Навошта яму так многа? Раней гэта быў чалавечы век — сотня. А цяпер — палавіна таго. Вось як яму, Рамейку. Паўсотні адстукала — і досыць... А што, калі папрасіць... у гэтага альваса-альяса здароўя? Мо і пазычыць?

Ён падышоў да вазона, уважліва акінуў вачыма густы разгаты куст, выбраў мясістую шырокую галінку-ліст, адламаў. Потым памыў добра пад кранам, зрабіў з ваты тампон, выдушыў сок...

Смяяўся сам з сябе: а як жа, знайшоў панацэю! Чакай!

Прайшло тры дні. Іскра надзеі то загаралася, то тухла, як слабы агонь на сіберным ветры. Тры дні былі чорныя, як сажа. Мо схадзіць да доктара? Не, хай ідзе так, як ідзе. Хай будзе тое, што мае быць. Дактары — адна марока: пачнуцца аналізы, агляды, кансіліумы. Не, хай будзе тое, што мае быць.

Падводзіў вынікі жыцця: яны былі нікчэмныя, дасягненні — мізэрныя. Ці варта было жыць для ўсяго гэтага? Не варта, — адказваў сабе. А потым, падумаўшы: а мо і варта? Дзве дачкі пусціў ён на свет, мо гэта і нямала. Выгадаваў, хутка стануць на свае ногі... Зрабіў трохі людзям дабра, памог у цяжкую гадзіну не аднаму чалавеку — хіба гэта кепска? Жыў сумленна, не заграбаў да сябе ўсяго, што траплялася пад рукі, думаў і пра іншых, пра такіх, як сам, нават пра слабейшых за сябе. Яшчэ больш хацеў памагчы таму, каму дапамога была патрэбна, але той яе не прасіў, бо саромеўся і цярпеў. Многім хацеў памагчы — суседзям, знаёмым, усім бедным, казаў сабе: калі ў мяне будуць вольныя — лішнія! — грошы, я аддам іх тым, каму яны вельмі патрэбныя. Але, на жаль, лішніх грошай у яго яшчэ не вадзілася, хоць і жылі яны сціпла, не мелі дарагой мэблі, не мелі дачы, машыны. У той час як яго таварышы па рабоце, хоць і не усе, нават яго сябры — ужо мелі гэтыя атрыбуты дабрабыту — на зайздрасць яго Марыне. Яна такіх сяброў яго паважала і любіла больш, чым раней, калі яны яшчэ былі роўныя з усімі, а вось у Рамейкі выходзіла неяк наадварот. Сяброўства, дружба ў яго неяк паволі затухала, глухла. Спачатку прападала шчырасць у адносінах, пасля сустрэчы рабіліся ўсё радзейшыя і радзейшыя, потым зусім выпадковыя, потым... яны сустракаліся як добра ці проста знаёмыя, і было чагосьці крыўдна, чагосьці шкада, а чаго — невядома. Мо што даста-так раз'ядноўвае людзей? Гэта Рамейка заўважаў увесь час: калі чалавек жыве сціпла, калі ён яшчэ толькі становіцца на ногі, яму патрэбны суседзі і сябры, бо яму самому сюд-тут ды нешта патрэбна — пазычыць грошай, параіцца, завязаць карыснае знаёмства, нешта дастаць, нешта збыць. Гэтае «дастаць» вунь як многа плодзіць «сяброў»-даставалаў: ты мне, я табе. Не, такіх сяброў Рамейка не шукаў, такіх не любіў. Ён у сваім жыцці нічога не даставаў, ён проста купляў, калі было за што. І купляў тое, што куплялі ўсе ў любым магазіне. І гэтым нават у душы ганарыўся — што жыў сумлен-

на, нікому нічым не быў абавязаны, не прыніжаўся, не выпрошваў, ні на кога не скардзіўся, не капаў ямы нікому, не зайздросціў першым поспехам і ўдачам. Адзін яго грэх — што часам даводзілася пазычаць грошы, і гэтая працэдура была для яго цяжкай, пакутлівай, але ён на яе ішоў, бо інша-га выйсця не было. Ды галоўнае, што грошы заўсёды аддаеш — і тады сумленне тваё зноў чыстае, а на душы робіцца лёгка.

Жыў сумленна... Ці не ў гэтым галоўны змест жыцця — каб пражыць сумленна? Жыў сумленна... А вось жонка Марына сказала, што не — і ты нічога не дакажаш. Цябе ўжо не будзе. Нават дзеці паверацьмаці, а не табе... Як зрабіць так, каб змыць з сябе гэтую брудную пляму, як даказаць, што ты белы, а не чорны? Напісаць апраўдальнае пісьмо? Але напісаць можна ўсё. А тут трэба нешта такое, каб яны паверылі. Але што зрабіць, што прыду-маць? Ламаў галаву і не знаходзіў адказу.

Урэшце, ці гэта так важна? Важна, як ты жыў, а не тое, што пра цябе скажуць людзі. Але... што застаецца? Тое, што скажуць людзі. Як гісторыя: не так важна тое, што было, як важна тое, што напісалі гісторыкі.

Ды ўсё-такі праўда выплыве наверх, рана ці позна — і гэта ў рэшце рэшт самае галоўнае!

Здаецца, і знайшоў трохі супакаенне ад надакучлівых думак, трохі ад-лягло ад сэрца.

Што яшчэ? Даўгоў ён не меў, ачысціўся ад іх гады два-тры назад, а то віселі, як камень на шыі. Праўда, і грошай у запасе няма — мо ў жонкі на кніжцы якая тысяча, не болей, а тыя, што меў ён сам ад сваіх зароб-каў-перакладаў, распускаў на гаспадарскія патрэбы. Год, як перабраліся ў новую кватэру, шыкарнай мэблі не набылі, але звычайная, шырпатрэбаў-ская, таксама недарма дасталася.

Шкада, што не можа ён пакінуць дзецям таго, што ім трэба для буду-чага, ды нічога! Ужо не маленькія, хай дабіваюцца свайго шчасця самі, больш будуць яго цаніць.

У суботу позна вечарам прыехала з Віцебска старэйшая дачка Лена. Рамейка з малодшай, Геняй, якраз вячэраў. Малая адварыла бульбы, сам Рамейка напёк цэлую патэльню сала, і яны заселі на кухні. Лена ўварвалася ў кватэру як вецер: загрымела дзвярыма, загрукала, закрычала з парога:

— О, як смачна пахне! Вітаю вас, затворнікі! Як вы? Дзе мама? Чаму яе няма? — трывога пачулася ў яе голасе.

Дачка была вясёлая, ружавашчокая, узбуджаная — відаць, трохі засума-вала па сваіх, хоць жыла ў інтэрнаце і там таксама, пэўна ж, не сумавала.

— Вось бачыш, мы адны, — адказаў ёй на гэта Рамейка сумна. — Кіну-ла нас мама... — І паглядзеў у вочы — як адгукнецца?

— Вы што, падурэлі? — бухнула яна. — Не можа быць! — Твар яе пабялеў, вочы акругліліся. — Дзе мама, кажыце! — І яна закруцілася па кухні, узняўшы рукі.

Рамейка ўжо быў не рад, што так пажартаваў, хацеў прызнацца, але тут з табурэткі ўскочыла Геня, кінулася да сястры, абняла за плечы і ска-зала ласкава:

— Супакойся, Лена, чаго ты, мама ў камандзіроўцы. Тата проста пажартаваў!

— Добрыя жарты! — дачка рэзка села на кухонны табурэцік. — У мяне аж сэрца зайшлося.

— Распранайся, мый рукі і за стол, — падагнала яе Геня. — Бульбачка якраз гарачая, а ты з дарогі, пагрэемся.

Праз колькі хвілін Лена ўжо сядзела за сталом, з маладым апетытам ела бульбу з салам.

Рамейка адчуваў, што пачатак для гутаркі выйшаў добры, хоць і надта рэзкі. І таму не варта траціць зручны момант — калі другі такі надарыцца?

— То што, сумна, нябось, без мамы, дзеткі?

Дочкі паглядзелі на яго, як на дзівака, які хоча здзівіць іх нейкай банальнасцю: што ж тут такога? І так ясна, што без мамы сумна, хоць яны ўжо і вялікія.

— А каб і праўда яна ад нас пайшла? Што мы рабілі б? — пытаўся Рамейка далей, хоць і адчуваў, што дзецям гэта непрыемна.

Старэйшая ў сваёй рэзкай манеры, як заўсёды, выпаліла:

— Абы-што гаворыш, бацька! Гэтак не будзе!

— Ну, я не кажу, што будзе, але калі ўявіць на момант... Што мы рабілі б? Ты не злуй, Лена.

— Яна не злуе. Проста ў яе такі характар, — заступілася за сястру малодшая, Геня.

— Ну і што? Ну характар! А ў цябе ніякага няма! Усіх толькі мірыш! — агрызнулася Лена, калюча глянуўшы на сястру.

Меншая панікла, ужо, здавалася, гатова была заплакаць. Рамейка мякка папракнуў старэйшую:

— Няможна ж так, Лена! Завошта ты крыўдзіш нашу Геню? Яна за цябе заступаецца, а ты ёй грубасці гаворыш. І прымі локці са стала, так некультурна.

Лена як што ўспомніла, павяла вачыма на бацьку, потым на сястру, локці прыняла, але адказала рэзка:

— Не трэба за мяне заступацца. Я сама за сябе магу пастаяць.

— Ну, завялася Ленка! — усміхнулася Геня. — Супакойся, я не злую. І на цябе ніхто не нападае.

— Правільна, Геня. Тут цябе і так ніхто ў крыўду не дасць. Ты абараняй сябе там, дзе нас не будзе.

Дзеці супакоіліся, замоўклі. Рамейка бачыў, што яны ніяк не хочуць ісці туды, куды ён іх вёў. Яны заняліся вячэраю. Старэйшая ела хутка, неакуратна, сагнуўшыся над сталом, малодшая наадварот — павольненька, далікатна, як не сваім ротам, аж хацелася ёй памагчы. «Вось жа дзеткі — і ад аднае маткі, а такія розныя: як у ядзе, так і ў натуры», — падумаў Рамейка —і вярнуўся да перарванай гутаркі. Ім, дзецям, пэўна, і ў галаву ніколі не прыходзіла, што маці ці бацька могуць іх кінуць ці пакінуць, што тут можа нешта рэзка змяніцца. Чалавек — тым болей дзіця — прывыкае да аднастайнага роўнага ходу жыцця і не чакае рэзкіх паваротаў — таму і жыве спакайней, чым дарослыя. Што ж, трэба зайсці з другога боку, — сказаў сабе Рамейка. Раз пачаў, то трэба давесці да канца. Што ўжо будзе...

— А што вы рабілі б, каб я вас пакінуў? — Рамейка глядзеў то на адну, то на другую дачку, якія на момант перасталі жаваць, адарваліся ад сваіх талерак і ўставіліся на яго здзіўленым позіркам. Катdebrisая з іх першая адрапартуе? Пэўна ж, старэйшая, у малодшай, як і ў яго самога, замаруджаная рэакцыя.

Але якраз першай азвалася Геня.

— Паплакалі б і жылі б сабе далей.

Відаць, яна ўспрымала бацькавы словы як жарт. А большая адказала ў сваім стылі:

— Ідзі з Богам, толькі не вяртайся...

Рамейка разумеў, што ў гэтых словах больш бравады, чым шчырае праўды, аднак і па іх можна было аб сім-тым меркаваць.

— А каб я раптам памёр? — пайшоў напралом Рамейка.

На яго паглядзелі, як на вар'ята.

— Ты сёння, бацька, нейкі не таго, — сказала старэйшая і, прыглядзеўшыся ўважлівей, дадала: — І праўда, нейкі ты сівы, стары стаў, нібы на табе ваду вазілі...

Ён чакаў ад дачкі прафесійнага як ад медыка пытання: «Мо ты, бацька, хворы?» — але яна змоўкла і зноў пачала есці.

А малодшая са слязамі ў голасе сказала:

— Не трэба так гаварыць, тата, а то мне робіцца страшна. Ну навошта ты так?

— Ну добра, не буду, — прымірыўся Рамейка. — Але часам і пра такое не лішне гаварыць. Каб не было нечаканасцей...

І падумаў сумна: «Што ж, пасля гэтага можна смела паміраць».

### 3

На чацвёрты дзень «лячэння» Рамейка адчуў, што яму стала лягчэй, што адбыўся нейкі зрух. Зноў зрабіў ванну, праверыў: пухліна паменшала, памякчэла, паменшаў і боль пры дотыку.

Дзікая радасць сама сабой хлынула яму ў грудзі. Няўжо ўсё мінецца? Няўжо пранясе?

Але асадзіў сябе: не дрыгай нагамі, рана весяліцца, яшчэ нічога няясна. Цярпенне і яшчэ раз цярпенне.

І аднак жа міма яго волі настрой адразу перамяніўся, свет зноў стаў цікавы і прывабны, захацелася жыць, рабіць работу, варушыцца. А ён жа ўжо быў змірыўся з думкаю, што жыццё скончана, і нават не шкадаваў нічога і нікога — нават самога сябе. І раптам яму стукнула ў галаву: а што, як гэта толькі ілюзія? Як раптам зноў стане горш і зноў давядзецца перажыць тое, што ён перажыў за гэтыя дні? Э-э-э, не, тады ўжо лепей у вір галавою...

Жонка вярнулася з камандзіроўкі прастуджаная, сярдзітая — не ў гуморы. Прыдзірліва-ўважліва аглядала. яго, зазірала ў вочы, нібы хацела знайсці ў ім сляды нейкага злачынства. Яму гэта было смешна бачыць, ён не мог схаваць ад яе свайго добрага гумору, а яна не магла зразумець, чаму ён так перамяніўся за тыдзень — то быў змрочны, як чорная хмара, а тут проста цвіце на вачах. Такі яго стан інтрыгаваў яе, яна хацела за нешта зачапіцца, каб разведаць прычыну перамены ў яго настроі.

Але знешне ён выглядаў па-ранейшаму стомленым: вочы запалыя, шчокі худыя — якраз быў повад падазраваць яго ў растраце энергіі ў той самы час, калі яна, жонка, ездзіла ў камандзіроўку.

— Ну, расказвай, як паводзілася, — сказаў ён жонцы, калі яны селі за стол вячэраць.

— Што ты, не бачыш? — буркнула Марына. — Ледзь ногі прынесла. Гразёта, разводдзе, кармоў няма, жывёла ледзь трымаецца... Выбракоўваюць на мяса.

— Што, усюды? Не можа быць!

— Ты ўжо захацеў, каб і ўсюды! У тым калгасе, дзе я была. Хадзіла ў райкам разам са старшынёй, выбівала дапамогу. Але дзе райкам возьме? У багацейшых калгасаў ці саўгасаў? А тыя не вельмі хочуць раскашэльвацца. Як паслухаеш іх, то на іх баку праўда. У аднолькавых умовах жывуць,

суседзямі — у адных усё ёсць, другія канцы з канцамі не зводзяць. Хто вінаваты? Самі? Ці Гасподзь Бог так хоча? Пайдзі разбярыся.

— Трэба разабрацца, інакш мы ніколі не вылезем з прарыву — будуць бедныя і багатыя калгасы.

— А яны і будуць, як і людзі. Усіх не ўраўняеш.

— Не ў літаральным сэнсе слова ты хочаш сказаць? — спытаўся ён і глянуў ёй у вочы. Яны былі шэрыя, стомленыя, з трохі пачырванелымі бялкамі — як у чалавека нявыспанага, а носік яшчэ больш завастрыўся.

— А хоць бы сабе і ў літаральным... Але досыць мяне дапытваць. Зараз я цябе пачну. Па-першае, чаго прыязджала Лена?

— Ну чаго? Цябе хацела пабачыць.

— Яна так і сказала?

— Сказала. І вельмі шкадавала, што цябе няма. Тут я жартам ляпнуў, што ты нас пакінула, дык яна ведаеш як абурылася? Ого, не можа такога быць!

— А ты знайшоў чым жартаваць, зварыла галава, — з дакорам паглядзела на яго жонка.

— А што ты хочаш? Мы ўжо ў такім узросце, калі ўсё можа быць... Раптам — і няма чалавека. Трэба, каб дзеці, так сказаць, былі маральна падрыхтаванымі. Ведаеш, як нечаканасць шакіруе чалавека?

— Ну, ты заўсёды што-небудзь змарозіш... Якое-небудзь глупства. — Яна адставіла шклянку з-пад чаю і ўзялася за свой «Беламор», задыміла.

— Я ж не такі дасціпны, як ты, — трохі пакрыўдзіўся Рамейка. — Ты пытала пра Лену, вось я і кажу...

— А што яна яшчэ хацела? Як выглядае?

— Здаецца, нічога, нармальна...

— Эх ты, бацька! Нармальна... — перадражніла яго. — У якім паліце?

— У зімовым. А што? Нармальнае паліто...

— Табе ўсё нармальна, што ў людзей ужо даўно ненармальна... Грошай ты ёй даваў?

— Даў дзесятку...

— І гэта ты называеш грошы?

— А што? Па-першае, яна больш не захацела браць, а па-другое, хай прывыкае да сціпласці. Хай не вучыцца раскідаць...

— Ай, ты гатоў роднае дзіця голадам замарыць. Як на што другое, то сам раскідаеш, не пашкадуеш, а тут, бачыш, у яго няма!

— Як будзе галадаць — папросіць. Не трэба быць на пабягушках у дзяцей. Яны прывыкнуць да гэтага і стануць лічыць нас не за людзей, а за сваіх слугаў.

— Ты разважаеш, як старарэжымны дзед з дамастрою, — пыхнуўшы дымам, сказала жонка.

— Не думай, што нашы дзяды былі дурнейшыя за нас з табою.

Рыпнулі дзверы, на кухню зайшла меншая дачка ў цёмным халаціку. Яна неяк уся сцялася, на твары была вінаватая ўсмешка.

— Чаго ты, Генька, хочаш? — спытаўся бацька.

— Нічога, — адказала дачка, — я толькі прашу, каб вы не сварыліся. — І яна глядзела то на маці, то на бацьку, а ў вачах было маленне: «Ну не трэба сварыцца, не трэба...»

— Мы не сварымся, мы толькі гаворым... Якраз і пра вас, — сказаў Рамейка. — Я вось кажу, што вас трэба прывучаць да сціпласці, а мама кажа, што трэба даваць усё, што вы хочаце.

— Хіба я так казала? Не хлусі, — абарвала яго жонка.

— А што, не? Сэнс такі: мала таго, што просяць, — дай яшчэ болей. Ты ведаеш, чым мы калечым дзяцей? Гэтым сваім разважаннем, што вось мы гаравалі-бедавалі — у вайну і пасля вайны, дык хай хоць нашы дзеткі пажывуць за нашымі плячыма, хай не ведаюць ні голаду, ні холаду. А яны і рады: бацькоў голых пусцяць па свеце, хай толькі адчуюць іх слабасць. Якая-небудзь калгасніца-ўдава пасылае дачцэ ці сыну апошні рубель, а яна ці ён сядзіць у кафэ і папівае віно ці нават каньяк. Або купляе сабе замежныя джынсы за сто дваццаць рублёў. Мо, скажаш, няпраўда? Як, Генька?

Дачка памаўчала.

— Не ведаю, — адказала коратка і пайшла з кухні.

— А трэба ведаць, — наўздагон ёй паслаў параду Рамейка, — ты ўжо вялікая. Мне здаецца, што наша Лена ведае гэта і не просіць лішніх грошай — толькі на пражытачны мінімум.

— Мінімум розны бывае. Цяпер не той мінімум, што раней, — запярэчыла жонка.

— А я кажу — той. Пад'есці ёсць, сціпла-прыстойна апрануцца — і што яшчэ студэнту трэба? Толькі вучыся! Дык не! Цяпер многія студэнты ходзяць лепш, дражэй апранутыя за прафесараў. А дзе яны грошай узялі? Бацькоў720 дояць, а тыя, дурні, даюць. А навошта гэта? Вылучыцца трэба, свет здзівіць? Адзежай свету не здзівіш. Адзінае, чым студэнт можа вылучыцца сярод усіх, — гэта яго веды, розум. Але гэта складана, гэта цяжка і няпроста. А вось анучкі — гэта прасцей, можна і за кошт бацькоў. Па лініі найменшага супраціўлення — вось іх дарога. Яны, яшчэ нічога не даўшы грамадству, хочуць самі мець усё. А што ж яны будуць рабіць дзве трэці свайго жыцця, калі ў дваццаць ужо будуць мець усё? Якая ў іх будзе мэта?

— Будзе ў іх мэта, не плач ты па іх, — махнула рукою жонка.

— Будзе, ды не тая. Вельмі кепска, калі чалавек не мае вялікае, гуманнае прытым мэты. Проста такі чалавек, я лічу, няшчасны, сляпы. Калі джынсы засланілі яму свет — грош цана такому чалавеку. Калі ён не бачыць, як жывуць побач людзі, калі ён не бачыць, чым і як жывуць яго родныя бацькі, урэшце — яго родны народ, увесь свет. І калі ён не стараецца, каб гэты ўвесь свет жыў лепей, чым жыў да яго...

— Цябе паслухаўшы, можна падумаць, што ты жывеш так, як гаворыш: ідэал, ідал, ды і толькі!

— Ну, калі не жыву, то стараюся так жыць. — Рамейка ведаў, што жонка такога моманту не прапусціць — і не памыліўся.

— Ты стараешся! Каб ты стараўся, не так бы мы жылі. Муж і бацька перш за ўсё павінен думаць пра жонку, пра дзяцей. А ты? Пра каго хочаш думаеш, толькі не пра нас.

— І пра вас думаю. І клапачуся. І ўсё ў вас ёсць. Чаго вам яшчэ трэба? Чаго?

— О Божа! Ён лічыць, што ў яго ўсё ёсць! Ды ты басяк у параўнанні з другімі. У цябе ўсяго на адзін дзень, не болей.

Зноў на кухню зайшла Геня.

— Мама, ну чаго ты крычыш? Мне цяжка рабіць урокі.

— Ах, якая далікатная! Ужо нам і пагаварыць нельга, ужо мы тут ёй замінаем! Бач ты яе! — закіпела Марына.

Дачка заплакала і пайшла з кухні, апусціўшы галаву.

Рамейка прамаўчаў, хоць яму хацелася сказаць жонцы парачку «шчырых» слоў. А жонка затушыла папяросу, устала з-за стала, пачала збіраць

посуд у ракавіну. Ён пачакаў трохі — будзе мыць посуд ці пойдзе? Не, узялася мыць...

Другім разам Рамейка памог бы ёй, але сёння завярнуўся і сам пайшоў у свой кабінет-спальню, хоць хацелася зайсці да дачкі, супакоіць яе. Але няхай, паміраццa самі. Хай урэшце вучыцца быць цвёрдай, а то чуць што — у слёзы. Нейкае зусім не цяперашняе дзіця: мяккае, слязлівае, любіць цішыню, баіцца шуму і крыку — каб крый Божа ніхто ні з кім яе сварыўся. Хоць ён ведаў, што яна не баязліўка: калі яе давесці да злосці, то робіцца рашучай і цвёрдай. У ёй яму ўгадвалася яго маці, яе бабка, і нават трохі ён сам — ён таксама быў зверху мяккі, але цвёрды ўсярэдзіне. І на гэтым многія ашукваліся.

Ён сеў за свой пісьмовы стол і супакоіўся. Стаў учытвацца ў апавяданне, якое трэба было перакласці. Польскую мову ён трохі ведаў, у былой Заходняй да трыццаць дзевятага года вучыўся ў пачатковай — паўшэхнай — польскай школе. Ніколі потым не думаў, што прыдасца яму калі гэтая польская мова. Цікава было ўжывацца ў перыпетыі лёсу героя, маладога польскага хлопца, які пайшоў баяўнікам у Варшаўскае паўстанне жніўня сорак чацвёртага года, а потым загінуў. Рамейка паволі ўжываўся ў гэты вобраз, паступова нібы сам рабіўся паўстанцам, нібы сам сваёю скурай і душою адчуваў боль і пакуты таго, хто быў яму спачатку чужы. І хоць сам у душы ён асуджаў авантуру паўстання, справакаванага польскім эмігранцкім урадам, усё ж ён спачуваў такім польскім хлопцам, якія самахоць пайшлі са зброяй у руках супроць акупанта, хоць мала спадзяваліся на поспех, і пачынаў хварэць за іх душою. А ўжо гэта адно настройвала яго на тую хвалю, на якой быў сам пісьменнік, запальвала тым агнём, якім гарэў аўтар. А калі ён, Рамейка, не адчуваў гэтай сугучнасці з аўтарам, то пераклад выходзіў халодны, а сам твор, безумоўна, траціў нешта важнае. Але гэта была тонкасць, якую збоку часам цяжка ўлавіць, і слабасць ці халоднасць твора можна было спісаць на аўтара, а не на перакладчыка.

Рамейка зачытаўся, а потым паволі стаў перакладаць — не запісваючы, а так, для сябе — як гучыць апавяданне па-беларуску.

Ён так захапіўся, што не пачуў, як у пакой увайшла жонка і стала разбіраць ложак-канапу, якую звычайна разбіраў і складаў сам. Чамусьці ён не любіў шырозных двухспальных ложкаў, якія звычайна займалі ўвесь пакой-спальню і іх трэба было абыходзіць, каб не зачапіцца. А чаму не любіў — і сам не ведаў: мо таму, што ніколі не спаў на такім ложку і не адчуў усяе асалоды ад такое раскошы. Як, дарэчы, доўга не мог прывыкнуць да ванны, а яшчэ даўжэй — да туалета ў кватэры. Правінцыялізм сядзеў у ім моцна, як і ў многіх вясковых людзей, што перасяліліся ў горад.

Жонка лягла ў пасцель, уключыла таршэр і ўзялася чытаць. Перад сном яна заўсёды чытала. Але шархаценне старонак хутка заціхла, яна пстрыкнула выключальнікам.

Рамейка пасядзеў яшчэ з паўгадзіны — хацеў, каб жонка заснула. Сёння ў яго былі нейкія асаблівыя пачуцці да Марыны, Мані, як ён яе называў па-вясковаму, хоць яна такую форму свайго імя не любіла і часам сярдзіта выгаворвала яму за гэта. Сёння Рамейка ўжо зусім не той, якім быў тыдзень назад, калі яна пакінула тут яго аднаго. Яна і не падазравала, якія змены адбыліся ў ім за такі кароткі час.

Але менавіта якія — у гэтым яшчэ не разабраўся і сам Рамейка. Сёння ён клаўся побач з жонкай і быў нейкі як чужы ёй, а яна — чужая яму. Хацелася нават не датыкацца да яе. Яна спала з кра́ю, ён — пры сцяне, гэта спачатку нейк нават абражала яго — мужчына, і ля сцяны, — але потым ён

плюнуў на такое глупства. Хай спіць з краю, калі ёй так хочацца — некалі уставала да малых дзяцей, а цяпер устае, каб пакурыць ноччу — то каб не турбаваць яго... А сёння ён успрыняў сваю ўступку як нешта значнае: вось так пакрысе, непрыкметна ён здаваў свае пазіцыі галавы сям'і, паволі і непрыкметна ён апынуўся ў куце, а ўсімі справамі ў іх сям'і кіруе яна. Праўда, часам у яго прачынаўся бунт у душы, хацелася ўсё перапаставіць і зрабіць па-свойму, а потым думаў: навошта? Хіба гэта галоўнае? А з другога боку — што тады галоўнае? Галоўнае, вялікае складаецца з малога, нязначнага. Будзеш саступаць у малым — непрыкметна ці прыкметна — ужо не будзе залежаць ад цябе! — саступіш і ў вялікім.

Яе, Марыну, такія яго сямейныя бунты палохалі, яна як бы адчувала, што ў душы ён не згодзен з тым ці іншым рашэннем, якое прымала яна, што толькі знешне ён згаджаецца з ёю, і гэта яе заядала, брала за жывое: бач ты яго, яшчэ і брыкаецца!

Ён думаў, што жонка ўжо заснула, ажно не: яна павярнулася да яго, паклала яму руку на грудзі.

— Бачу, ты па мне не вельмі засумаваў, — напаўголаса сказала яму проста ў вуха. — І нейкі павесялеў, не такі, як я ад'язджала.

Ён павёў плячыма па падушцы, нібы яму стала раптам мулка.

— Бачыш, тады сумаваў, што ад'язджаеш, а цяпер — рады, што прыехала. Усё натуральна, — сказаў з прыхаванай іроніяй.

Яна памаўчала трохі, уздыхнула.

— Не, нешта тут нячыста. Прызнавайся шчыра; памірыўся з пасіяй? — Яна ўжывала гэтае слова, калі была ў добрым гуморы, замест грубага, рэзкага, якім звычайна называюць каханак сваіх мужоў разгневаныя жонкі. — Што ёй паабяцаў? Ці даставіў на дом? Персідскі дыван? Швейную машыну?

Рамейка ўжо ведаў, што калі ён пачне апраўдвацца, казаць, што ўсё гэта лухта, што няма ў яго ніякай пасіі, што ён увогуле сумленны чалавек і яму патрэбна толькі яна адна, то Марына пачне даказваць сваё — і дакажа, «дакументальна» пацвердзіць, што ў яго ёсць пасія, і нават не адна, бо ёй гаварылі і той, і тая, што бачылі яго то там, то там, як ён стаяў з адной маладой і цалаваўся. Таму ён усміхнуўся сам сабе і вырашыў гаварыць у яе тоне.

— Ну, ты ж заўсёды ў мяне ўсё ўгадваеш, усё ведаеш. Не дасі нічога ўтаіць... Праўда, была ў мяне пасія, як ты кажаш, ды цяпер няма. Пасварыліся — і ўсё скончана. Яна многа ад мяне хацела. Дыван — глупства. Яна хацела, каб я купіў ёй дачу. Я падумаў-падумаў ды паслаў яе да д'ябла. Так што цяпер можаш спаць спакойна. — І ён пагладзіў яе па руцэ, што ляжала ў яго на грудзях.

— Ой, ты хітрун! Я цябе ведаю. Проста збіваеш са следу... А скажы, чаго ты такі стаў зношаны за гэты тыдзень? Як табе хто спаць не даваў? — і яна ўчапілася ў яго піжаму, злёгку тузанула.

— Ну, перажываў трохі. Сама разумееш... З вашым жа братам нялёгка развязацца...

— Гэта праўда... Але я цябе адпушчу без усякага гвалту. На ўсе чатыры бакі. Толькі скажы.

— Добра. Буду ведаць, — усё так жа спакойна знешне і з унутраным хваляваннем сказаў Рамейка.

Яму ніколі раней не прыходзіла ў галаву нават і думкі, што давядзецца ісці ад сям'і, ад жонкі ці наадварот — жонку выганяць з хаты, разводзіцца. Фініш ужо быў блізка, і ён спакойна збіраўся пражыць той час, які яму яшчэ

быў адмераны прыродай. Ды і жылі яны адносна мірна, часам толькі злёгку сварыліся, але да вялікіх скандалаў не даходзіла, ён заўсёды знаходзіў у сабе нейкі тормаз, каб не даць стыхіі авалодаць сабою і не сарвацца на ярасць.

А яна сама, адбушаваўшы, як брага, супакойвалася і праз якія дні дватры адыходзіла, рабілася мякчэйшаю, ласкавейшаю, чым была. Але праўда і тое, што вялікай цеплыні і шчырасці між імі не было, мо толькі які год пасля жаніцьбы, а потым як што стала вырастаць між імі — нейкая нябачная сцяна холаду і недаверу. Спачатку Рамейка нават не ведаў, што робіцца з жонкай: аддаляецца, астывае, робіцца чужою. Мо ён што рабіў не так, мо сам перамяніўся? Не, здаецца, ён заставаўся такі ж, як і быў. А потым разгадка, як маланка, асляпіла яго: Марына лічыць яго, Рамейку, непастаянным, ён, яе муж, мае палюбоўніц! Адкуль з'явіліся ў яе такія падазрэнні — цяжка сказаць, але хутчэй за ўсё пасля таго, як яго пасылалі на курсы рэдактараў у Маскву, дзе ён пазнаёміўся з ленінградкай Наташай, таксама рэдактарам з іх групы. З таго ўсё і пачалося... Чым толькі скончыцца...

Ён зноў падумаў, што жонка заснула, бо маўчанне цягнулася доўга, але яна заварушылася і спыталася ў Рамейкі — спакойна-жартаўліва, як дагэтуль:

— А ці не даў бы ты мне адрас тае пасіі?

Рамейка ажно страпянуўся, як уджалены.

— Ды кінь ты глупства, Марына, табе трэба адпачыць з дарогі. — І ён дэманстратыўна павярнуўся да сцяны, спінай да жонкі.

Яна памаўчала трохі і загаварыла зноў, але ўжо з трывогай, узбуджана:

— Не, Алесік, сёння я не засну хутка, ты ўжо даруй. Нешта мне на сэрцы як кошкі скрабуць. Думаецца пра дзяцей, пра цябе... Вось пабыла адна, паглядзела на ўсё наша жыццё збоку — і здаецца, што нешта ў нас не так, як трэба, а што — і сама не ведаю...

«О д'ябал, што за сінхроннасць перажыванняў! Каб і хацеў прыдумаць — не прыдумаеш. І ў яе на душы тое, што і ў мяне. Але чаму?» А ўголас спытаўся:

— Што ў нас не так, як трэба?

У яе ўжо нібы быў гатовы адказ:

— Няма ў нас, між намі цеплыні і шчырасці. Вось гэтая пасцель, коўдра, як ты кажаш, нас толькі і злучае. А больш — нічога. А гэта так мала, так мала, што робіцца страшна — дакуль так можа цягнуцца? Яшчэ год, яшчэ два — а там усё прахам... Ты не думаў пра гэта, Алесь?

Сёння яна назвала яго Алесем ужо разоў пяць. А бывае, што па тыдні і болей не называе яго па імені, а неяк так — ці «ты», ці жартам — сур'ёзна «Рамейка» або яшчэ «Ламейка», як гаварылі сваё прозвішча малыя Лена і Геня.

— Дапусцім, што ўсё гэта так... А ці думала, ці пыталася ты ў сябе, чаму няма цеплыні, шчырасці? Бачыш ты прычыну ці не?

— Я думаю... Каб ты гэтулькі думаў, Алесь... — яна змоўкла і толькі ўздыхнула, нібы кажучы — што тут гаварыць?

— Ну і што ж ты прыдумала? — не адставаў ён, хоць не спадзяваўся пачуць што-небудзь прыемнае для сябе.

— Мне здаецца... Не, я ў гэтым упэўнена, што... Даруй, але я буду гаварыць шчыра...

— Гавары, хоць раз...

— І не раз, — папраўіла яго Марына. — І не два... Я ўвесь час табе гаварыла, намякала, а ты ўсё неяк прапускаў міма вушэй. Ці ты дурны, ці

ты прыкідваешся, што не разумееш... Ну ты вось са мной, пад адной коўдрай, а ці патрэбна я табе? Ці патрэбна? Мо толькі для цела, а для душы... Ты можаш жыць без мяне, колькі захочаш... Мо ты ходзіш куды — налева ці направа... Але ты без мяне жыць можаш...

— А ты без мяне — не? — перабіў пытаннем Рамейка.

— Я — іншая рэч. А вось ты, я ў цябе пытаюся: можаш ты жыць без мяне?

— Калі ты без мяне можаш, дык і я без цябе...

— Вось як! Усё залежыць ад мяне?

— Ва ўсякім разе, на семдзесят пяць працэнтаў. А ты гэтага не хочаш разумець. І чаму гэта ты — іншая рэч?

— Таму што я ўсё раблю ў імя сям'і. А ты — каб яе разбурыць.

— Чаму ты так думаеш? — ужо ўзлаваўся ён, але яшчэ рабіў выгляд, што спакойны. — Ты лічыш, што толькі табе дарагая сям'я, а я на яе плюю? Памыляешся! Калі б я так думаў, я цябе кінуў бы праз два гады пасля таго, як мы пажаніліся. Пасля таго, як я адчуў, што ты мяняешся, што ты астыла, што робішся чужая. Чаму ты перамянілася да мяне, чаму?

— Таму што ты да мяне перамяніўся.

— Я — не, кажу табе шчыра. Я да цябе не змяніўся за ўсе дваццаць год. Я ўсё чакаў... І для мяне было ўвесь час загадкай, чаму ты да мяне змянілася. А потым ты сказала, што падазраеш мяне...

— Нібы ты сам гэтага не ведаў! Смешна!

— Нічуць не смешна! Бо муж заўсёды дазнаецца апошні, што яго жонка гуляе...

— Як і жонка, што яе муж бегае да другіх.

— Але прабач, дагэтуль я не ведаў, што я — бабнік. Ад цябе толькі і чую...

— Ты заўсёды ўмеў прыкідвацца глухім і сляпым. І гэтым ты мяне біў у самае сэрца.

— Проста я лішні раз не хацеў падымаць шуму з-за нейкага там твайго выбрыку ці падазронасці. І мо таму я рабіў кепска: не тушыў іскру, якая разгарэлася ў пажар, і цяпер не ведаю, як яго патушу.

— О, ты падліваў масла ў гэты пажар, яшчэ і як! Цяпер радуйся! Мо згарым абое, а не — дык я адна...

— Ну, згарым абое. Я згодзен... Толькі вось як дзеці? Што яны вінаваты?

— Гэта праўда... З-за іх я цярплю ўсё і гатова выцерпець яшчэ болей.

— Ах, як ты з-за іх нацярпелася! Нічуць не болей, чым другія маткі.

— Больш! Я цярплю яшчэ і за тваю долю.

— Бач яе! Сваю долю я нясу сам!

— О, ты нясеш! Ты едзеш, а я вязу! Няўжо ты сляпы? Ды ты горш за айчыма!

Такіх цяжкіх закідаў Рамейка не чакаў, яму стала горача і млосна. Таму ўжо з азартам, запальчыва загаварыў:

— Не сляпы і бачу, што я рабіў і раблю: памагаю табе гадаваць дзяцей. Зарабляю грошы, разам думаем, што каму купіць, разам перажываем за няўдачы, разам радуемся. Чаму ты лічыш, што я горш за айчыма?

— А памятаеш, як ты не даў Лене апрануць мой чорны касцюм у тэатр?

— Памятаю. І лічу, што правільна зрабіў. У яе ёсць свая вопратка. Не трэба разбэшчваць дзяцей, не трэба дазваляць ім усё, што яны хочуць. Гэта сам Горкі сказаў, не я...

— А што ты ім даў? Хіба яны так апранутыя, як другія?

— Я не збіраюся спаборнічаць з усімі моднікамі. Ніколі гэтым не займаўся і дзецям не дам. Нават табе!

— Тут ты праўду кажаш. Не дасі!

— Ды ты і сама вырасла не ў раскошы. Гэта я цаню ў тваёй натуры — што не фарсіш.

— Цэніш, што танна табе абыходжуся? Звычайна цэняць дарагіх.

— Ад дарагіх большае расчараванне. Усяго толькі розніцы. Але мы вярнуліся да таго, з чаго пачалі. Ці не час канчаць гэтую гаварыльню?

Аднак жа «гаварыльня» цягнулася яшчэ гадзіны дзве, а мо і болей, — Рамейку пачало здавацца, што цягнецца яна цэлую вечнасць. Стомлены і разбіты, ён яшчэ не мог доўга заснуць — думкамі ніяк не мог адарвацца ад нядаўняй спрэчкі, знаходзіў важкія аргументы, якіх не знаходзіў тады, калі яны былі патрэбны, зноў пачынаў усё спачатку і каторы ўжо раз выходзіў пераможцам у дуэлі, якая цягнецца ўжо дваццаць год.

## 4

Дзень выдаўся пахмурны, церусіў дождждык, але людзей на вуліцах было многа. Зелень сама што бралася ў сілу, гусцелі на вачах ліпы, цяснейшымі сталі тратуары, на газонах гатовы былі распусціцца кветкі, пах зяляніны перабіў смурод адпрацаванага газу з машын.

Рамейка ішоў з работы. Адчувалася лёгкая стомленасць, хоць у душы глыбокага суму не было, паволі выспявала нейкая бадзёрасць, якую ён не хацеў паказваць нават сабе, хоць яна прасілася вонкі, — здаецца, стаў бы і загалёкаў на ўсю вуліцу: «Эй, хлопцы, хто хоча са мною падужацца?» Вясна вінавата? Мо і вясна. Сяды-тады ён кідаў позірк на прахожых, асабліва на маладых жанчын і дзяўчат, спыняў зрок на каторай, што кідалася ў вочы сваім тварам, станам ці формай грудзей. Пасля зімы, пасля зімовых вопратак жанчыны як перараджаюцца: яны маладзеюць тварам, фігурай, целам, яны выглядаюць, як вясеннія кветкі, імі хочацца любавацца — іх гожасцю, хараствам, іх заўсёды такою новаю прывабнасцю, якая пачынае хваляваць, нараджае нейкія імпульсы, нейкія пачуцці, што ўжо зусім, здаецца, заснулі ў табе і не прачнуцца ніколі. І гэтае абнаўленне пачуцця, якое бывае кожны год з прыходам вясны, цяпер для Рамейкі было асаблівым, — мо ніколі так востра ён не адчуваў у сабе новых сіл, прагі нейкай дзейнасці, пошукаў нечага новага, чаго ён дагэтуль не знайшоў, не зведаў, не адкрыў...

А ўсяго тыдні два ўжо зусім развітваўся з жыццём, маляваў самыя змрочныя карціны... Якое, аднак, жыццё! Як яно ўмее закруціць, замуціць, панясці, як дзікі конь! Ад аднаго берага да другога, з крайнасці ў крайнасць! Раптоўна ці амаль раптоўна развеяліся яго страхі — і гэты, з хваробаю, з выдуманым ім самым ракам, і з тою прыкметаю з газетамі, калі прапала ў яго адрасе адзінка. Усё гэта лухта, і няма чаго верыць ва ўсякія забабоны, калаціцца і чакаць невядома чаго — толькі таму, што недзе прапусціў лічбу ці прысніў сон, які можна тлумачыць па-рознаму. Глупства, глупства ўсё гэта!

Ад думак, ад сузірання паволі вяртаўся да таго, што было сёння на рабоце.

Недзе ўжо к абеду яго выклікалі да дырэктара Ткачука. Трохі, як заўсёды, захваляваўся: чаго?

У цесным дырэктарскім кабінеце быў сам дырэктар — мажны, русавалосы, вясёлы па натуры чалавек, і загадчык рэдакцыі прозы — высокі, таксама светлы, хударлявы і рухавы — Калядзіч.

Дырэктар, павітаўшыся, запрасіў яго сесці.

Адчувалася, што перад прыходам Рамейкі яны гаварылі пра нешта вясёлае, бо абодва былі ўзбуджаныя, задаволеныя, усмешка блукала на вуснах у аднаго і ў другога.

Рамейка сеў насупраць дырэктара, побач з загадчыкам. Тое, што яны былі вясёлыя, настройвала і яго на аптымістычны лад.

— Табе, браце Алесь, баявое даручэнне, — сказаў адразу дырэктар, трымаючы шырокую далонь на даволі тоўстай сіняй папцы з завязанымі белымі матузкамі. Ён звяртаўся да ўсіх проста, хоць і ветліва аднначасова. У яго была шчырасць у голасе і ў натуры, таму большасць людзей адказвала яму тым жа.

— Якое ж даручэнне? — усміхнуўся Рамейка.

— Нядаўна ў нас была Варанчак. Вось рукапіс яе новай аповесці. Мы тут пагаварылі з тваім загадчыкам і вырашылі аповесць перадаць табе, Алесь.

— Але ж па плане яна ў Юрлевіча, — сказаў Рамейка.

Дырэктар сумна паківаў галавой.

— Бяда ў тым, што Варанчак пасварылася з Юрлевічам і вельмі прасіла нас, каб мы яе аповесць перадалі на рэдагаванне табе. Яна так і сказала: «Вельмі прашу вас прызначыць рэдактарам майго твора таварыша Рамейку». Так што ты ўжо не адмаўляйся, апраўдай яе надзеі.

— А калі яна і са мной пасварыцца? — засумняваўся Рамейка.

— Пытанне тваё слушнае, — засмяяўся дырэктар, — але ты лепшы дыпламат, чым Юрлевіч, у цябе да сваркі не дойдзе.

А загадчык рэдакцыі Калядзіч дадаў:

— Якраз з жанчынамі Юрлевіч дыпламат неблагі, але з Варанчак у яго нешта не спрацавала.

Загадчык намякаў на тое, што Юрлевіч, нібы ў апраўданне свайго прозвішча, быў вялікім аматарам і знаўцам жаночага роду і меў сярод яго заслужаны — і немалы! — поспех.

— Відаць, ужыў не той прыём — і сапсаваў усю справу, — зрабіў вывад дырэктар і падміргнуў Рамейку. Потым узяў са стала папку, устаў. — Так што трымай, Алесь, рукапіс. Мы паставілі яе ў графік на чэрвень, улічы гэта.

Рамейкаў аптымізм адразу развеяўся.

— А калі раптам аповесць слабая, што тады? Ці ёсць на яе рэцэнзія? — звярнуўся ён да загадчыка рэдакцыі.

— Ёсць, і станоўчая, — сказаў загадчык. — Вазьмі ў малодшага рэдактара, пачытай. Мо знойдзеш што карыснае.

— Дацягвай разам з аўтарам, — напаўсур'ёзна, паўжартам пажадаў дырэктар.

— Толькі не набівайся ў сааўтары, — падаў слушную параду загадчык Калядзіч.

На гэтым гутарка скончылася. Рамейка ўзяў папку і пайшоў з кабінета... «Не хапала мне яшчэ гэтай Варанчак. Хай бы ўжо яе рэдагаваў Юрлевіч. Чаго яны не паладзілі? Няўжо з-за росту?» — усміхнуўся ён сам сабе. Бо і праўда, Ван Ваныч быў невысокі, таўсматы, плячысты мацак, з вялікай галавой, якая, здаецца, адразу, без шыі ўрастала ў яго крутыя шырокія плечы. І галаву ён паварочваў, як воўк — разам з усім тулавам.

А Нона Варанчак была рослая, мажная, грудастая, даволі агрэсіўная па натуры. Да таго ж яна была разведзеная, пра яе хадзіла шмат плётак, з якіх, як лічыў Рамейка, большая палова не мела ніякай асновы: мо хто пусціў са злосці, што яго адшылі. Ёсць і такія мужчыны, Рамейка добра ведаў.

Ды што тут казаць? І што Рамейку павінна абходзіць, з-за чаго яны пасварыліся? У чужыя адносіны ён ніколі не любіў мяшацца, а яшчэ горш не цярпеў, калі нехта без дазволу лез у яго душу. Але чаму Варанчак папрасіла рэдактарам якраз яго? Хутчэй за ўсё тут звычайная выпадковасць, бо Варанчак яго мала ведае — і як рэдактара, і як чалавека. Мо толькі з чужых слоў. Але хто мог пахваліць яго? Аднак жа нехта пахваліў...

Так разважаючы, Рамейка і не заўважыў, як апынуўся на паўдарозе да свайго дома. Тут ён часам садзіўся на транспарт, калі спяшаўся. І тут заходзіў звычайна ў гастраном, купляў хлеб, масла, каўбасу ці малако, каб потым не заходзіць ля свайго дома ў цесны маленькі магазінчык, які ўжо даўно збіраюцца зносіць...

Ён пастаяў ля дзвярэй у гастраном — заходзіць ці не заходзіць? — як гэтыя дзверы тут жа адчыніліся, і перад ім апынулася... Варанчак. У руках у яе была сетка, напакаваная рознымі скруткамі і пакетамі, сумка і вялізная папка, у якой звычайна носяць ноты.

Яна спачатку нібы спалохалася, убачыўшы яго, а потым тут жа прыязна ўсміхнулася на ўвесь рот і сказала нізкім грудным голасам:

— Добры дзень, таварыш Рамейка. Проста рада, што вас тут спаткала.

— Добры дзень... Я таксама, — нічога не заставалася рабіць Рамейку, як сказаць тое ж, толькі з прыхаванай іроніяй, якую ён пастараўся не выдаць. Дзіўна, але ён адчуў нейкую разгубленасць, якая яго ахоплівала перад жанчынамі, што хоць трохі яму падабаліся. — Вы ў гэтых мясцінах жывяце? — недарэчы спытаўся ён, каб схаваць гэтую сваю разгубленасць ад уважлівага позірку Ноны Варанчак, якім яна яго пранізала.

— Тут побач, — адказала яна, — можа, вы мне паможаце? — і яна, не чакаючы згоды, падала яму сетку з прадуктамі — і даволі цяжкую, на кілаграмаў сем.

— О, не на маю сілу, — пажартаваў Рамейка. Ён сам быў вышэй сярэдняга росту, танклявы, сухарлявы і выглядаў слабаком і напалову танчэйшым побач з гэтаю мажною жанчынай.

— А што казаць слабай жанчыне? — зноў усміхнулася шырокай усмешкай Варанчак, падрабляючыся пад яго тон.

«Нішто сабе слабая, — падумаў з'едліва Рамейка, — ты бугая за рогі паваліш, не то што гэтую сетку валачы».

— Я так рада, што вас спаткала, — паўтарыла яшчэ раз Варанчак, і далей яны ішлі моўчкі.

Рамейка ўсю дарогу перажоўваў гэтую фразу і лаяў сам сябе, што згадзіўся быць падносчыкам. Але што зробіш? Не ўцякаць жа ад чалавека... І трэба ж якраз на яе натрапіць! Проста цуд! Мо паўгода ці болей не бачыў яе Рамейка ў Мінску, а тут — на табе, наляцеў. Ёсць, няйначай, нейкая тэлепатыя, ці што — бо чаго тады скрыжаваліся іх дарогі?

Яны павярнулі ў завулак, зайшлі ў двор, як у глыбокую каменную яму, і спыніліся ля пад'езда высокага — дзевяціпавярховага — дома. Рамейка здагадаўся, што недзе тут і жыве Варанчак.

— Ну што ж, перадаю вам ваша багацце, — Рамейка ўзняў цяжкую сетку на ўзровень яе грудзей, а то яшчэ зробіць выгляд, што не заўважыла.

— Дзякую, — адказала яна, але за сетку не ўзялася. — Я вельмі хачу, каб вы зайшлі да мяне... Вельмі прашу... Мне з вамі трэба пагаварыць. Ці вы спяшаецеся? — яна, здаецца, гатова была заплакаць, каб толькі ён не адмовіўся.

— Ды не вельмі, — няпэўна пацiснуў плячыма Рамейка.

Ён чакаў, што яна запросіць яго, раз ужо апынуўся на яе дарозе і блізка ля яе дома, — тым болей, што яна і слова не сказала пра сваю аповесць, і здзівіўся з яе вытрымкі. Значыць, спадзявалася на свае чары — не ўстоіць Рамейка, зойдзе. «Ну што ж, магу і зайсці, пагаварыць, калі вам так захацелася, таварыш Варанчак. Бо зацікаўлены болей вы, чым я... факт, што болей». Праўда, недзе ў яго свядомасці тлела думка, што яму таксама цікава пабыць у яе — у ім яшчэ жыў цікаўны мужчына. Ды, самае галоўнае, падзеі апошніх дзён многа, калі не зусім, змянілі яго адносіны да ўсяго таго, што ён лічыў нявартым увагі ў жыцці.

— Дзякую, — яшчэ раз сказала Варанчак і першай рушыла ў пад'езд. Рамейка з сеткай і сваім партфелем пайшоў следам.

Яны селі ў ліфт — стары, жалезны, грымучы, усё з яго відаць праз драцяную сетку, — узняліся недзе на сёмы ці восьмы паверх. І абое цярпліва маўчалі, толькі пераглядваліся вачыма і злёгку пасміхаліся. І што азначалі іх усмешкі — цяжка было зразумець. Як здавалася Рамейку, у вачах Ноны Варанчак ён улоўліваў надзею на паразуменне, на ўзаемнасць. Цікава, што знаходзіла ў яго позірку сама Варанчак? Няйначай, тое, чаго сама хацела ад яго.

Ліфт тузануўся і стаў, Рамейка з бразгатам адчыніў дзверы, потым, калі выйшлі, зачыніў. Цяпер яны стаялі ўжо каля дзвярэй у кватэру Варанчак. Яна дастала звязку ключоў, адамкнула два ці нават тры замкі — і прапусціла Рамейку першага. Ён апынуўся ў вузкім доўгім калідоры, застаўленым і цесным — вісячыя этажэркі з кнігамі, халадзільнік, дзіцячыя каляскі і ложкі, вешалка, яшчэ нешта такое, што цяжка сказаць — для чаго яно? Уражанне такое, што тут трэба прабірацца, як у якім лёху, — каб не звярнуць толькі галавы. І як яна, Нона Варанчак, са сваей камплекцыяй тут не засядзе?

— Распранайцеся, — сказала яна Рамейку.

Ён скінуў плашч, павесіў на скасабочаную вешалку. Пра разуванне яна нічога не сказала, і Рамейка сам не збіраўся гэтага рабіць — не любіў разувацца ў гасцях.

Кватэра была з двух пакояў — налева і направа ад доўгага калідорчыка. Яны прайшлі направа, тут жа была і кухня, і ўсё астатняе, што патрэбна ў кватэры.

Нона Варанчак на кухні распакоўвала пакеты, а Рамейка застаўся ў пакоі — амаль пустым, вялікім і высокім. Стаялі толькі канапа, столік ля яе, цёмны пісьмовы стол ля дзвярэй на балкон і піяніна. У куце ў вялізнай светлай фарфоравай вазе стаяў пук зялёнага сухога чароту, высознага, у метры тры, аж да столі — дзе ён такі і рос?

Піяніна было раскрыта, на пюпітры стаялі ноты, разгорнутыя на незнаёмым прозвішчы кампазітара: Гольдэнвейзер, «Маленькі канон». Цікава, што былі адны ноты, без слоў. Рамейка ўзяў нотную кніжачку, паглядзеў на вокладку, на тытульны ліст: так і ёсць, сальфеджыо, другая частка, «дапушчана ў якасці падручніка для дзіцячых музычных школ».

Рамейка заўсёды зайздросціў людзям, якія разбіраліся ў музыцы, самі былі музыкантамі. А вось ён неяк вырас так, што не сутыкнуўся з музыкай і быў у ёй, як сляпы ў лесе, хоць душою музыку любіў і па-свойму ўмеў яе цаніць і адрозніваць — што прыгожа, што не. А да піяніна якраз Рамейка

адносіўся спакойна, яно не кранала Рамейкавай душы, а чаму, ён і сам не мог зразумець. Мо таму, што гук яго быў сечаны, а не працяглы, як у скрыпкі, гармоніка ці тым болей у аргана — як бы суцэльны, без пачатку і канца. Або калі ўзяць прыроду, то піяніна — гэта ціўканне вераб'я, а скрыпка — пералівістая песня жаўранка. Потым зразумеў, што дарагое тое, з чым вырас. Тое ж піяніна ці фартэпіяна ён пачуў ужо дарослы, ды і то па радыё.

Так ён разважаў, хадзіў па пакоі, разглядаўся, а вушы чуйна лавілі ўсе гукі на кухні, дзе гаспадыня брынчэла посудам, дзе нешта шыпела, сквірчэла, адкуль ужо даўно цягнула смачным пахам смажаніны.

— Алесь, ідзіце сюды! — паклікала яго Нона Варанчак — неяк нязвыкла проста, нібы яны вунь як даўно знаёмыя.

Рамейка зайшоў на маленькую і застаўленую так, што не павярнуцца, кухню. Гаспадыня ў ружовым паркалёвым фартуху паўзверх блакітнай сукенкі выварочвала з патэльні ў глыбокую вялізную талерку печаную свініну.

— Алесь, памажыце, не спраўляюся, — усміхнулася Нона Варанчак. — Даруйце за лірычны беспарадак. Бярыце паднос, стаўце на яго ўсе гэтыя талеркі, — паказала на столік, — нажы, відэльцы, бутэлькі — і нясіце туды. А я зараз...

— Дазвольце памыць рукі, — папрасіўся Рамейка.

— Ідзіце ў ванны пакой, калі ласка.

Рамейка зайшоў. І тут таксама быў «лірычны беспарадак», мо яшчэ большы, чым на кухні.

Мыючы рукі, Рамейка пазіраў на сябе ў люстэрка. На твары сваім, на якім вылучаліся цёмныя вусы, выразныя піўнога колеру вочы і вялікаваты, гурочкам, нос, відна была нейкая трывога — трывога чакання ці штосьці падобнае. І праўда, у душы ў яго жыло прадчуванне незвычайнага — нібы ён стаяў на парозе нейкага новага адкрыцця для сябе. «Няўжо тут яшчэ можна што адкрыць? Няўжо тут без мяне не адкрылі?»— усміхнуўся сам сабе. І тут жа падумаў са з'едлівасцю: «А калі ты лічыш сябе ўжо такім асаблівым, то чаго ты тут? Хто цябе прымушаў?.. — І ўжо больш прымірэнча: — Ды ладна, паспрачаемся другім разам..»

Ён выйшаў з ваннай, узяў паднос і асцярожна, каб ні за што не зачапіцца, панёс у пакой, расставіў на століку, на якім не надта ўжо і разгонішся. Яна скінула фартух, села на канапу, а ён насупраць яе, на круглым вінтавым табурэціку ад піяніна, апусціўшы яго на самы нізкі ўзровень.

Пілі смачны пахучы югаслаўскі вермут, патрохі закусвалі, гаварылі. Больш гаварыла яна, гаспадыня, Рамейка падтрымліваў гутарку.

— Я спяшаюся на аўтобус... Праз дзве гадзіны... Таму ў мяне такі тэмп... А так бы можна было пасядзець даўжэй...

«Ну і добра, што ты спяшаешся, — нешта як адлягло ад сэрца ў Рамейкі. — Не люблю доўгай гаварыльні».

— Хоць на душы ў мяне вельмі трывожна. Нейкі зачараваны клубок. З работай — раз, з дачкою — два, з кніжкаю — тры. І ўсё неяк раптам на галаву.

Яна глынула віна, пасмакавала і гаварыла далей, беручы на відэлец добры кавалак свінога мяса.

— Вас напэўна цікавіць, чаго я пасварылася з Юрлевічам?

— Каб сказаць што вельмі, дык не, — шчыра прызнаўся Рамейка.

— А ён вам нічога не расказваў?

— Не...

— Нешта нейкае... Але... ён раскажа, што ўсё было наадварот... Слухайце, смех! Прыйшоў, прынёс гарэлкі і адразу — у дамкі: я твой рэдактар,

цяпер ты ў маіх руках, і гэтак далей... Ну, я яго выставіла за дзверы — у літаральным сэнсе... Не люблю нахабнікаў і карантышоў. Хоць што хочаш рабі — не люблю... Ну, тады ён паскардзіўся дырэктару — што ён зрабіў мне сур'ёзныя заўвагі па аповесці, а я не хачу іх прымаць! Вы бачылі такога гада? Як яго толькі зямля трымае...

Яна ўжо трохі захмялела — гаварыла гучна, шчокі заружавеліся, галаву яна закідвала назад, нібы збіралася браць самую высокую ноту, а яе круглыя вялікія калені ўвесь час так і бліскалі перад вачыма ў Рамейкі, дражнячы яго сваёю белізной.

Так, было ў ёй нешта такое, што магло запаліць мужчыну, было, хоць з твару яна не выглядала прыгожай, прывабнай. Яе псаваў надта маленькі для яе шырокага і вялікага твару носік — таксама пляскаты, татарскі, з невялічкаю гарбінкаю або, праўдзівей, патаўшчэннем пасярэдзіне. Было такое ўражанне, што вялікай птушцы праз памылку прыляпілі маленькую дзюбу — і сапсавалі ўвесь малюнак.

Нягледзячы на гэты недахоп, у ёй адчувалася вялікая фізічная сіла і тэмперамент чалавека з усходняй ці паўднёвай крывёй. Тэмпераментная яна была ў гутарцы, у спрэчцы, асабліва пад чаркай ці пад злосць.

І цяпер яна пачынала паказваць свой буйны нораў, рабіцца грубаватай — гаварыла, не выбіраючы слоў, і гэта трохі рэзала далікатнае вуха Рамейкі. Яна яшчэ трохі палаяла Юрлевіча, дадала колькі «цёплых» слоў загадчыку рэдакцыі Калядзічу і ўзялася за самога Рамейку. Але тон яе адразу ж змяніўся — нібы перад ім была не тая жанчына, не Нона Варанчак, якая не ўмее быць лагоднай.

Рамейку не зусім прыемна было чуць пра яго «багаты вопыт рэдагавання», пра яго «прынцыповасць» і нават пра тое, што ён, Рамейка, заўсёды паводзіць сябе незалежна, у большасці выпадкаў становіцца набок аўтара ў спрэчцы з начальствам.

— Ды і як мужчына вы мне падабаецеся, — сказала яна, нават не міргнуўшы вокам. І, відаць, каб неяк загладзіць свой промах, усміхнулася і дадала: — Я такая, што думаю, тое і гавару, так што даруйце. Ну, чаго мне таіцца, каго баяцца? Мужа ў мяне няма, ён недзе жанаты без мяне. Каго яшчэ баяцца? Вас? Вашай жонкі? І не падумаю, я жыву так, як мне хочацца, падабаецца гэта каму ці не. І нікому не замінаю. І не люблю, як мне замінаюць, як вучаць жыць. А-а-а, вучыць жыць заўсёды знойдуцца, а вось як грошай няма, то ніхто не пазычыць, — скончыла яна не тым, з чаго пачала.

— Што, у вас няма грошай? — неяк нечакана для сябе вырвалася ў Рамейкі.

— Не, проста да слова прыйшлося, — асеклася яна, — але часам і гэта бывае, што тут таіцца... Вось дачцэ вяселле справіла — выкінула ўсё, што мела. Цяпер дзіця чакаюць. Як былі двое, то жылі ў іх, у свата, у іх там трохпакаёўка. А цяпер, як малое намецілася, ужо да мяне збіраюцца. Ну, што вы на гэта скажаце? Мне радавацца ці плакаць? А як жа! Вялікая радасць! Пялёнкі, распашонкі, крык дзіцячы! Новая музыка! Мне і мая горла пераела! У мяне работа, у мяне свае планы, сваё жыццё! Я пабыла замужам пяць год, потым сама гадавала дачку, вучыла, выводзіла ў людзі... Калі мне самой пажыць як чалавеку? Думала, вось аддала, то хоць адпачну душою — дык не, хваробу — не даюць!

Тут яна яшчэ выдала поўныя характарыстыкі дачцэ, зяцю, яго бацькам — і таксама рэзкія, не выбіраючы слоў і гладкіх фармулёвак: куркулі, абжэрліся, нэпманы, машыну маюць, дачу маюць — і яшчэ ім мала, заслугі іх вунь якія вялікія.

Да свае работы не дайшла: глянула на гадзіннік — спахапілася.

— Ой, пазнюся! Давайце аглабельную! — яна наліла па поўнай чарцы. — Будзем!

Выпіла і адразу пайшла ў другі пакой насупраць — збірацца ў дарогу.

Праз хвілін дзесяць-пятнаццаць выйшла ў грубай вязкі шэрым світэры, у чорнай спадніцы, у белым берэце на галаве, а не ў сваёй клоунаўскай, у чорна-белую клетку, шапцы, як гадзіну назад, — кабета што трэба! — і сказала вінавата:

— Даруйце, Алесь... Мы так і не дамовіліся ні да чога... Калі вы за мяне возьмецеся? За рукапіс, — папраўілася яна і неяк шматзначна ўсміхнулася.

— Недзе на тым тыдні, — адказаў Рамейка сур'ёзна.

— Дык я вас буду прасіць: перш чым брацца, пазваніце мне. Вось тэлефон. — І яна падала яму паперку. — Бывайце здаровы!

«Каб хаця мяне тут не замкнула», — падумаў зларадна сам сабе Рамейка, зачыняючы за сабою дзверы.

## 5

Увесь тыдзень прайшоў у Рамейкі пад знакам Ноны Варанчак. Ён чытаў яе аповесць, думаў пра яе. Не пазваніў, як яна прасіла, перш чым сесці чытаць, — нешта яму не давала гэта зрабіць. У інструкцыі ён не меў патрэбы. Даволі таго, што перад ім была аповесць. І аповесць сярэдняя, а калі такая — неадрэдагаваная, расцягнутая — то і пасрэдная. Аповесць пра гады акупацыі ў маленькім гарадку: вісельні, расстрэлы, жахі, гібель раённага падполля. І побач — пра мяшчан-прыстасаванцаў, якія знаходзяць сабе выгоду нават на слязах і крыві сваіх суседзяў, рабуючы іх дабро, займаючыся спекуляцыяй. Але глянец наводзіць тут трэба вялікі. Так што з аповесцю, можна лічыць, ён усё давядзе да ладу. Што ж датычыць самой Варанчак, хоць яна і бесцырымонна сказала: «Вы мне падабаецеся», — то Рамейка вырашыў не ісці на збліжэнне. Ён яе трохі ведаў і разумеў, чым усё можа скончыцца.

У канцы тыдня Рамейка з работы пазваніў Ноне Варанчак. Яна якраз была дома і, калі даведалася, што Рамейка прачытаў яе рукапіс, не дала яму гаварыць, запрасіла да сябе на каву. Рамейка, як мог, выкручваўся, яму было няёмка — нібы ён знарок напрасіўся. «Калі вы не прыйдзеце, я проста буду на вас у вялікай крыўдзе. Хіба можна адмовіць у просьбе жанчыне?» — гэты яе довад здаўся Рамейку даволі важкім, і ён згадзіўся.

Па дарозе да яе думаў: што купіць? Цукерак — гэта раз. А вось каньяку ...да кавы? Мо і варта ўзяць? Ва ўсякім разе хай ляжыць у партфелі. Не зашкодзіць. Жыла ў падсвядомасці і думка, што ён ідзе да небяспечнай жанчыны — і павінен быць гатовы да ўсяго.

Ён выйшаў з магазіна, сеў на тралейбус і праз хвілін дваццаць быў ужо ў раёне, дзе жыла Нона Варанчак. Зайшоў ён да яе без хвалявання, неяк спакойна — як па дзелавым выпадку, як рэдактар да аўтара — усяго толькі.

Яна была сёння ў хатнім халаце зялёнага колеру ў вялікія ружы, з гладка прычасанымі доўгімі — можна ў косы заплятаць — валасамі, у зялёных мяккіх тапках на босую нагу. Але тут жа папрасіла ў яго прабачэння і пайшла ў другі пакой — пераапрануцца, нібы да гэтага яна не мела часу.

Рамейка сеў на канапу, дастаў з партфеля цукеркі і рукапіс, паклаў на столік.

«Пейзаж» у пакоі быў той жа самы — зялёны чарот у вазе, пісьмовы стол з раскіданымі паперамі, раскрытае піяніна і ноты на пюпітры.

Рамейка, як падкінуты, падхапіўся з канапы, падышоў і глянуў на ноты: тая ж самая старонка, той жа Гольдэнвейзер, «Маленькі канон». Ён толькі хмыкнуў, дакорліва пакруціўшы галавою: на паліраванай паверхні піяніна ляжаў лёгкі слой пылу. Хацелася напісаць на ім якое-небудзь слоўца тыпу «абломаўшчына», але ён стрымаўся і зноў вярнуўся на канапу. Раптам убачыў на сцяне злева партрэт сівога дзеда з вялікай барадою, маляваны маслам. Здаецца, партрэт быў свежы, палакіраваны, і празрысты лак блішчаў, пераліваўся на святле, варта было Рамейку змяніць позу.

Няўжо ён тады не заўважыў гэтага партрэта? — здзівіўся сам сабе Рамейка. А потым стаў лаяць сябе за такую няўважлівасць — ён часам адкрываў для сябе такія рэчы на дарозе, па якой мог хадзіць пяць год, што ажно ахаў.

Зайшла Нона Варанчак, апранутая ў ружовую сукенку з кароткімі рукавамі, з падфарбаванымі вуснамі і падведзенымі вузкімі бровамі, з пахам ці не французскіх духоў, прайшлася паволі па пакоі, нібы не заўважаючы госця, а потым села за столік насупраць Рамейкі, якраз на тое месца, дзе тыдзень назад сядзеў ён сам. Убачыла рукапіс, пакет цукерак — усміхнулася, але нічога не сказала.

— Гэта вам і вашай дачцэ, — і Рамейка пасунуў да яе пакет.

Яна падзякавала кіўком галавы і спыталася:

— А чаму вы не пазванілі мне, як я вас прасіла? — тон яе быў даволі халодны.

Рамейка чакаў гэтага пытання і быў гатовы адказаць, але чамусьці зрабіў выгляд, што яго засталі знянацку.

— А чаго было званіць, прабачце? Я не люблю, калі мне навязваюць думку. Мне падумалася, што вы будзеце расказваць пра сваю аповесць, трошкі хваліць яе і абвяргаць довады вашага ранейшага рэдактара Юрлевіча. Ці не так?

— У прынцыпе — так, — згадзілася яна, — але хваліць ці, як вы сказалі, трошкі хваліць сябе я не збіраюся. Проста хацела ўвесці вас у курс...

— Прабачце, я ўвайшоў у курс, прачытаўшы ваш рукапіс. Гэта самы лепшы спосаб. Цяпер я ведаю, што мне ад вас трэба.

— Што ж менавіта? — усміхнулася яму чакальна.

— Усяго тыдзень вашай работы... Сядайце сюды, я пакажу вам у рукапісе, дзе што дарабіць.

Ён дастаў свае акуляры, раскрыў папку. Яна перайшла на канапу, села побач ля яго — іх калені дакраналіся, ад яе магутнага сцягна ішло цяпло, і Рамейку гэта не замінала, — наадварот, было прыемна.

Яны прасядзелі так з паўгадзіны, а мо болей: Рамейка паказаў, дзе што скараціць, падціснуць расцягнутыя сцэны, сям-там дапісаць, развіць асобныя вобразы, удакладніць час, некаторыя яго рэаліі, — адным словам, даў разгорнутую дзелавую кансультацыю, як ратаваць рукапіс.

Як ні дзіўна, Нона Варанчак згаджалася з усімі яго заўвагамі, баялася толькі, што не зможа ўсё зрабіць так, як таго ён патрабуе, і ці хопіць ёй тыдзень часу на такі кавалак работы. І ці сапраўды яна разумела, што заўвагі і парады яго правільныя, ці згаджалася дыпламатычна, — Рамейка не разабраўся, але не бяда, будзе відаць пасля таго, як паправіць рукапіс.

За час, пакуль ён гаварыў, а яна слухала, ён лавіў на сабе цікаўны і нейкі прыветлівы пагляд яе шэрых вялікіх вачэй, адчуваў дотык да яе круглага калена, да аголеных поўных рук, калі ён паказваў ёй у рукапісе, што і як трэба зрабіць ці паправіць, адчуваў, што паволі расслабляецца, паддаецца чарам яе жаночай абаяльнасці, што яму тут па-асабліваму ўтульна і нават

прыемна. І таму, калі, скончыўшы гутарку, Варанчак сказала «Ну, цяпер я пачастую вас кавай», — ён, доўга не думаючы, выпаліў: «А я вас — каньяком», — і палез у партфель па пляшку.

Яна не здзівілася, не сказала «не трэба», толькі неяк па-асабліваму ўсміхнулася, нібы ўхваліла яго жэст — «вось гэта сапраўдны мужчына!» — і адразу пайшла на кухню гатаваць каву.

Нечакана нехта пазваніў у дзверы. Варанчак выйшла ў калідор, адчыніла, загаварыла з некім — быў чуваць малады дзявочы голас, спачатку ціхі, а потым чагосьці сярдзіты, з папрокам ці патрабаваннем.

Праз хвілін колькі Нона Варанчак зайшла ў пакой і вінавата-пакрыўджаным голасам спыталася ў Рамейкі, ці можа ён пазычыць дзесятку — зайшла дачка, патрэбны грошы, хоць чырвонец. У Рамейкі якраз былі, і ён тут жа даў ёй дзесятку. Яму нават стала прыемна на душы, што выручыў чалавека з бяды, хоць бяда не такая тут ужо і вялікая, а дзесятка ўрэшце — не грошы, ды часам вельмі патрэбная рэч.

Варанчак хутка вярнулася, уся пунсовая, раззлаваная.

— Аж сэрца разрываецца ад злосці з гэтымі дзецьмі... То ж адна! А каб пяцёра, як у мае маткі? О Божа! Нібы ў мяне тут грошай хоць заваліся! Нібы яна сама не ведае...

Яна пайшла на кухню, адтуль ужо разносіўся пах кавы — ці не выбегла толькі? Бразгала посудам, гаварыла як сама сабе, лаялася. Урэшце прынесла каву, сыр, масла, шпроты, хлеб.

— Вось так яны робяць нам творчы настрой. Ведаюць адно — толькі дай, — ніяк не магла супакоіцца Нона Варанчак, і гэта здалося Рамейку непрыемнаю рысай у яе характары — заводзіцца з паўабарота і доўга не астывае.

— Нічога, супакойцеся, — папрасіў яе Рамейка. — На тое яны і дзеці, каб бацькам быў клопат. Хіба з намі нашы бацькі яго не мелі? Яшчэ колькі!

— Ой, не кажыце! Цяперашнія дзеці — то не мы з вамі. Цяпер — гэта страх, што за дзеткі!

Яны заспрачаліся, але лёгка, Рамейка знарок скіраваў гутарку на жартаўлівы тон, Нона Варанчак паволі астывала і праз колькі часу ўжо як забылася на сваю злосць. Уся яе ўвага перайшла на яго, Рамейку.

Яна распытала яго — і даволі бесцырымонна, — як ён жыве дома, у сям'і, якія ў яго адносіны з жонкай.

Другім разам Рамейка не так лёгка і вольна расказаў бы пра ўсё, а сёння тут, перад гэтай жанчынай, ён неяк шчыра і проста прызнаўся, што дома ў яго не ўсё ідзе да ладу, што жонка чамусьці яму не давярае, хоць відавочных грахоў, ён, Рамейка, за сабою не мае. Ён — звычайны чалавек, стараецца быць добрым сем'янінам, а вось нічога не выходзіць — сцяна між ім і жонкай усё неяк непрыкметна расце, яны робяцца як чужыя, аддаляюцца адно ад другога.

Лавіў сябе на тым, што як бы напрошваўся на спагаду, на жаль да сябе, гэтым як даючы ёй зразумець, што ён пойдзе на ўсё, варта ёй толькі зрабіць крок насустрач.

Яна сама не засталася ў даўгу, таксама расказала сваю гісторыю: каханне, якое аказалася ілюзіяй, замуства, потым здрада — натуральна, з яго боку, — затым разрыў, доўгія гады адзіноты, калі жыццё, здавалася, траціць усякі сэнс, і каб не дачка, не цяжкі абавязак выгадаваць яе, вывесці ў людзі, то не варта было б і жыць.

За гутаркай, за чаркай яны не заўважылі, як лёгка перайшлі на «ты», як яна, Нона, села побач з ім на канапу, як ён паклаў ёй руку на плячо,

а яна нахіліла да яго галаву, а пасля прыхінулася да яго ўсім сваім мажным гарачым целам.

У такім узросце, які быў у іх цяпер, усе адносіны былі намнога прасцейшыя, чым раней, калі ён меў дваццаць год і страшэнна саромеўся дзяўчат. Хоць, з яго боку, гэтыя адносіны ўскладняліся — ён быў муж, бацька, а яна зусім не тое — вольная жанчына, якая шукала сабе мужчыну: можа, ён, можа, хто іншы... Раз ён сёння тут, хай будзе ён... Тым больш, калі ён яшчэ падабаецца, тым больш, што ён і сам хінецца...

— Хадзем у спальню, — сказала яна млява.

...Нона Варанчак была стомлена-пяшчотнай і ласкавай — Рамейку ажно не верылася. Дзе падзелася яе рэзкасць, грубаватая мужчынская размашыстасць, якая адчувалася ў ёй на кожным кроку? А цяпер яна — як шаўковая, як зусім другі чалавек. Што яе так перамяніла? Усяго толькі тое, што яна пазнала мужчыну? Відаць, такое для яе не навіна, хоць — хто ведае? Людзі заўсёды гавораць шмат больш, чым чаго бывае.

— Алесь... Ты перавярнуў мне душу, — сказала ціха Нона.

Ён думаў зусім пра іншае, не чакаў пачуць ад яе пахвалу, аднак жа гэта было прыемна. Бо хіба мы вельмі цэнім блізкасць чалавечых душ, нейкую сумяшчальнасць, адпаведнасць, хоць бы часовую гармонію? Пра гэта мы звычайна сарамліва маўчым. А яна сказала тое, што думае, што адчувае.

Ён шукаў у сабе нейкіх асаблівых пачуццяў, узнёслых думак, але, на жаль, не знаходзіў. Ён быў звычайны, трохі толькі мо здзіўлены яе пераменай, і сказаць тое, што яна, ён не мог бы.

— Скажы, Алесь, ты мяне любіш? — не сунімалася Нона.

Рамейка маўчаў, пазіраючы ў столь на люстру з пяці ражкоў, ля якой віліся дробныя мошкі. Што ён мог адказаць? Схлусіць? Навошта...

— Ну скажы! Не будзь скупы! — не адставала Нона.

— Ты мне падабаешся... — хацеў дадаць: «крыху», але змаўчаў.

Яна прыўзнялася на локаць, павярнула да яго галаву, і вочы яе акругліліся, сталі халодныя.

— Ух ты, гультай, — змякчылася яна і ўсміхнулася.— Нічога, я цябе разварушу!

Яму стала смешна — што яна яго разварушыць — і ён палюбіць яе? І сказаў неяк нечакана для сябе:

— Для мяне ты, як снег на галаву.

— А ты для мяне — як агонь. Але я ведала, што ты будзеш маім, — даволі самаўпэўнена заявіла Нона.

«Быць з табою — яшчэ не значыць быць тваім», — круцілася на языку ў Рамейкі, але стрымаўся — ёй даволі аднаго неасцярожнага слова, каб усё сапсаваць.

Рэзка зазваніў тэлефон у калідоры. Нона Варанчак неяк надта хутка для свае камплекцыі ўсхапілася з ложка, накінула на сябе зялёны халат у ружы і выйшла. Гаварыла яна коратка, адрывіста, нервова бразнула трубку. І вярнулася як усё роўна другая — цень клопату ўжо ляжаў на яе твары, вочы сталі халодныя, няўважлівыя, зрок як бы чагосьці шукаў, не спыняючыся на чым-небудзь адным. Яна стала апранацца: надзявала ліфчык, камбінацыю. Не гледзячы на Рамейку, сказала суха, як загадвала сярдзітая маці малому дзіцяці:

— Збірайся, Алесь. Мне няма часу. Да мяне прыйдуць...

Хто і што — прамаўчала, а ён не стаў пытацца.

Праз пяць хвілін ён ужо быў гатовы. Яна толькі скупа ўсміхнулася на развітанне. У душы ў Рамейкі сядзела нейкая крыўда. Штосьці адразу

пачынала заблытвацца ў іх адносінах, нешта ўскладняцца, не паспеўшы наладзіцца. Ужо хутка адзінаццаць вечара, а да яе нехта прыйдзе — «прыйдуць». Ён нават нібы пачынаў раўнаваць. Але якое ён меў права на рэўнасць? «Ніякага, — сказаў сабе. — Нібы яна ўжо твая... Твая — жонка, родная, так сказаць, законная. Дык не — табе яе ўжо мала... Ну, глядзі, Рамейка, каб не каяўся ты, каб не кусаў сабе локцяў», — прыгразіў ён сам сабе.

## 6

Рамейка чуў ад людзей, што каханне — гэта такі вір, што ніхто не ўтрымаецца, каб не трапіць у самую яго чорную глыбіню, і што трэба быць вельмі моцным, каб вырвацца з яго. Але на сабе ён гэтага не паспытаў і не вельмі верыў у такія легенды. Ён лічыў, што зможа справіцца са сваімі пачуццямі і павярнуць падзеі ў тым кірунку, куды яму трэба. Ды так яму толькі здавалася. Ён стаў пераконвацца, што людзі казалі праўду.

Пасля таго памятнага візіту са збліжэннем Рамейка рашыў, што больш да Ноны Варанчак не пакажа і носа. Але... літаральна назаўтра яна пазваніла яму на работу і сказала, што не можа разабраць адной яго заўвагі і вельмі прасіла яго зайсці пасля работы. Ён катэгарычна адказаў, што яму няма часу, але, аказваецца, Варанчак ведала, як падступіцца да яго: яна стала такою пяшчотнаю, такою салодкаю і добраю, што ён здаўся: паабяцаў прыйсці, але з цвёрдым намерам — высветліць, што там ёй няясна, і ісці дадому. Яму не падабалася такая валтузня, ці, як яе назваць: то ты ёй патрэбен, то непатрэбен, то зноў раптам патрэбен. Не, гэта не ў яго натуры: ён, што ні кажы, любіў нейкую пэўнасць, пастаянства, а тут нешта не тое.

Вось жа дурная натура: ужо каторы? трэці раз ідзе ў гэты дом, і нікога знаёмага тут няма, ніхто яго не ведае, ніхто не спаткае. Ды калі і спаткае? Ці мала чаго тут трэба чалавеку? А вось жа... Не, здаецца, толькі сёння такое нікчэмнае хваляванне — нібы ў таго хлапчука, што забраўся ў смачныя суседавы яблыкі, ці ў юнака, што ідзе на першае спатканне.

Ля дзвярэй трохі пастаяў, супакоіўся, потым націснуў на кнопку званка — раз, другі. Недзе пачуліся крокі — не, крокі цяжкага павольнага чалавека. Нона адчыніла, з усмешкай абняла Рамейку, як госця, якога даўно не бачыла, пацалавала ў шчаку. Ён не паспеў што-небудзь падумаць, як яна ўжо замыкала дзверы на ўсе ключы і замкі, а ён скінуў плашч, паставіў партфель, які сёння быў пусты, і не ведаў, што рабіць далей. З кухні ішоў сюды прыемны пах свежае стравы, ад яе самой пахла нейкімі катлетамі ці нечым смажаным — відаць, адразу ад пліты, бо ў халаце.

— Ідзі ў залу, — сказала Нона Варанчак і выключыла святло ў калідоры, пачакаўшы трохі, пакуль ён пралезе далей па гэтым вузкім застаўленым лабірынце. — Ты выбачай, што ў халаце цябе сустракаю... — і знікла на кухні.

«Бач, якая культурная стала». Яму сапраўды было непрыемна, што яна сустракае яго, як свайго, а які ж ён для яе ўжо свой? За адзін вечар паспеў стаць сваім? І тое, што яна прыдумала, быццам ёй тут нешта няясна ў яго заўвагах, — звычайная жаночая хітрасць, на якую ён зноў папаўся.

— Сёння я разбагацела, — сказала Нона, паяўляючыся з кухні з падносам. — Аддала адна маці за ўрокі. Вучу яе геніяльную дачушку... Ох, як мне гэта абрыдла, каб хто толькі ведаў... Памагай, сядзіш, як пан вялікі, не

бачыш, што я разрываюся — так стараюся табе дагадзіць. — Яна састаўляла на столік сподкі, талеркі, жароўню з качкай, кансерву баклажаннай ікры, яйкі, вяндліну. — Бачыш, які выбар? Як у рэстаране. Думаю, чаму не адзначыць такую падзею? Ды яшчэ з чалавекам, які любы сэрцу...

Здаецца, Рамейка пачырванеў — шчокі зрабіліся раптоўна гарачыя.

— А што табе няясна ў маіх заўвагах? — ужо без ніякай надзеі на рэальны адказ спытаўся ён.

— Усё няясна, ад пачатку да канчатку, — з хітрай усмешкай адказала Нона Варанчак. — Вось каб за мяне гэта ўсё нехта зрабіў, проста не ведаю, што яму аддала б.

— Аднак жа давядзецца самой, — ацверазіў яе Рамейка. — Каб не было рознага стылю.

Яна гарэзліва паківала яму пальцам.

— Ай, ты вялікі гультай. Што табе, пры тваім вопыце, значыць прайсціся па рукапісе?

— Ведаеш, я гэта рабіў, пакуль быў малады і дурны. Баяўся, каб начальства не сказала: што ты за рэдактар, калі не можаш дацягнуць да нормы? А цяпер мне неяк сорамна за аўтара: а за што ж ён будзе браць грошы? Бо дзяліцца са мною ён усё роўна не стане.

— А, вось на што ты намякаеш! — зарагатала Нона Варанчак. — Не, з грашыма я і сама распраўлюся, будзь пэўны!

— Я думаю, што і з рукапісам — таксама.

— Пастараюся...

Яны расставілі посуд, закуску — на століку не засталося вольнага месца нават на пачак цыгарэт, — і Нона, уздыхнуўшы з палёгкай, села ля яго на канапу. Рэзка абхапіла яго за шыю, пацалавала ў вусны — доўга, аж у Рамейкі не хапіла паветра.

— Ты чаго? — вырваўся ён ад яе.

— Эх ты, кавалер! — паўшчувала яго Варанчак. — Сядзіш, як на афіцыйным прыёме. Няўжо ты не адчуваеш, хто побач з табою? — Грудзі яе, поўныя і вялікія, узнімаліся ў такт дыханню.

Рамейка адчуў пах спіртнога з яе рота і толькі цяпер зразумеў, што яна п'яная — вось чаму сёння не такая, як была тыя разы.

— Мне сёння ўвесь дзень шэнціць, — гаварыла між тым Нона Варанчак, сама наліваючы ў чаркі. — Сустрэла аднаго прыяцеля — зайшлі ў кафэ, узялі кавы з каньяком. Потым гэтая высокапастаўленая матка аддала грошы за дачушку... Праўда, невялікія, але, як няма, то і гэта добра... Давай вып'ем, каб дома не журыліся. — І яна першай перакуліла чарку.

Рамейка выпіў таксама. А чым жа закусваць? Сёння тут сапраўды выбар — па прымаўцы — як мукі скрыня, то і свіння гаспадыня. І ўзяўся за вяндліну — ужо нешта даўно не стала яе ў магазіне.

— А тут і ты якраз, — гаварыла, жуючы качку, Нона Варанчак. — Дзякуй, што зайшоў, адведаў...

— Калі так будзеш працаваць над рукапісам, то невядома, ці паспеем у графік, — вярнуў на сур'ёзны лад Рамейка. Уся гэтая бравада яму не падабалася.

— Ну і нуднік ты, Алесь! Як ты можаш сёння гаварыць са мною пра такія дробязі, як рукапіс, графікі, работа? Плюнем на ўсё гэта! Хіба я для таго цябе паклікала? Такое шчасце я мела і ведала і без цябе... А вось цяпер... Чаму ты мяне не цалуеш? Ну што ты за мужчына? Як цябе толькі жонка пераварвае? Я на яе месцы не сцярпела б такога.

Яна выцерла вусны і рукі сурвэткай, зноў абхапіла яго за шыю, стала цалаваць.

Сёння такая павышаная актыўнасць Ноны Варанчак шакіравала Рамейку. Яму хацелася вырвацца ад яе, хацелася, каб хто-небудзь хоць пазваніў. Але, як назло, усе званкі зацята маўчалі — і тэлефонны, і ў дзвярах.

Ды паступова каньяк рабіў сваё — у Рамейкі закруціла ў галаве, свет непрыкметна перамяніўся, стаў мякчэйшы, не такі строга-суровы, як быў дасюль, а Нона Варанчак паступова набывала ўсё больш прывабныя рысы, рабілася сваёю, усё больш праступала ў ёй жаноцкасць, якая адразу не была прыкметнай, нібы сядзела недзе глыбока, а на паверхні панавала толькі адна мужчынская размашыстасць і знарочыстая грубаватасць.

Чым растлумачыць такую перамену ў чалавеку, Рамейка не ведаў, а потым падумаў, што яна проста міжвольна раздвойваецца на два характары, як адзінокі чалавек, які павінен у жыцці ўмець пастаяць за сябе, рабіць тое, што ў нармальных сем'ях робяць мужчыны. Жыццё зрабіла яе такою мужчынападобнаю. А мо проста такая ўжо натура? Хутчэй за ўсё. Нечым, хоць і далёка, яна нагадвала яму жонку Марыну...

Званок з калідора прагучаў так недарэчы рэзка, што яны абое ўздрыгнулі, разнялі рукі, неяк крытычна-цвяроза агледзелі адно аднаго: ён паправіў у яе валасы на галаве, яна сцерла ў яго нешта на шчацэ.

Званок паўтарыўся, яшчэ больш рэзкі і доўгі.

— Ох, праклятае! — Варанчак вылаялася і нехаця ўстала з канапы, абцягнула памяты халацік, павяла далонню па твары, нібы здымаючы з яго ўсе недазволеныя фарбы і эмоцыі, якія дагэтуль былі свабодныя, але якіх ніхто чужы не павінен бачыць.

А Рамейка падумаў: дзівачка, няхай бы званілі. Не дазваніліся б — і пайшлі б. Яму нават стала смешна: а мо яна з кім згаворваецца так рабіць? Але навошта? Што ў гэтым прыемнага?

На калідоры пачуліся галасы — жаночы ці дзявочы, потым мужчынскі. Усе кіраваліся ў залу, першай ішла гаспадыня, а за ёю — дзяўчына, не, маладая жанчына, ужо з прыкметным жыватом, высокая, трошкі падобная на матку, хоць вельмі далёка. Хлопец — відаць, муж гэтай маладой кабеты. Яны былі добра апрануты: яна ў квяцістую, ці не фінскую, сукенку, а ён у светлы крымпленавы касцюм, у белы гольф. Гэта быў танклявы, валасаты і насаты хлопец, даволі прывабны.

— Знаёмцеся, — сказала гаспадыня з кіслай усмешкай, — мае дзеці. — А гэта — дзядзька Алесь, мой рэдактар, — кіўнула на яго.

Рамейка ўстаў, яму нават стала весялей, чым было, а чаму — не ведаў. Ён падаў руку дзяўчыне, пасля хлопцу. Іх звалі Наталі і Жан.

— Парле ву франсэ? — сарвалася з языка ў Рамейкі, калі ён пачуў такія французскія імёны. І калі заўважыў здзіўленне на іх тварах, растлумачыў: — Я падумаў, што ў вас нешта з Францыі.

Абое маладыя зарагаталі.

— Яны такія французы, як я амерыканка, — растлумачыла гаспадыня. — Цяпер жа мода на чужое. Сваё — усё нясмачна, усё прыелася.

— Ну маці, ты менш гавары, ты лепей запрашай нас за стол. А то вы тут, я бачу, каньячок смакуеце, а мы мо галодныя, — пачала дачка, і ў гэтай яе бесцырымоннасці ўгадвалася адразу сама маці.

Рамейка падумаў толькі, што яна зараз узарвецца, выбухне гневам ад гэтых слоў, але яна толькі крыва ўсміхнулася і неяк вяла, без свайго ранейшага тэмпераменту, сказала прымірэнча:

— То і праўда, сядайце, мо вы і галодныя. А мы тут... — і яна не скончыла фразы, выйшла на кухню, бразгала там посудам, шукала, відаць, відэльцаў, нажоў.

На століку стала яшчэ цясней, бо гаспадыня дадала закусак, прынесла яшчэ бутэльку віна, бо каньяк ужо канчаўся.

— О, маці, багата жывеш! — гаварыла дачка, узяўшыся адразу за крыло качкі, а мужу паклаўшы ножку. — Ой, трэба цябе трошкі паграбіць, ой трэба, — ужо з поўным ротам скончыла яна, і абое маладыя зарагаталі.

Неяк цікава ў іх атрымлівалася: глянуць адно на другога і закінуць галовы, зарагочуць у два галасы — як два буслы на буслянцы заклякочуць. Іх такая дзіцячая непасрэднасць адразу ўзняла настрой у Рамейкі, паступова раствараючы пачуццё непрыязнасці, якое ўзнікла ў яго адразу да гэтай маладой пары, асабліва да Наталі пасля яе першай фразы пра каньяк.

— А калі вы да мяне прыходзілі, каб не паграбіць? Калі вы ад мяне з пустымі рукамі пайшлі? Успомніце хоць раз! — Варанчак села на канапе побач з Рамейкам, а дзеці размясціліся насупроць, на табурэціках з кухні. — Убачылі каньяк? А вы ведаеце, што гэта мне добры чалавек паставіў? — і яна шматзначна зірнула на Рамейку і нават падміргнула яму — не выдавай, не прадавай!

— Нешта табе, маці, усё добрыя чалавекі памагаюць жыць. Дзе б гэта мне знайсці такога добрага чалавека?

— Як гэта дзе? — зрабіла круглыя вочы Варанчак. — А вось ён сядзіць побач з табою. Хіба табе мала?

Наталі зарагатала адна, але праз хвіліну да яе далучыўся і Жан — зноў ва унісон, дуэтам.

— Ну ты і праўду сказала, маці! Каб яшчэ адзін такі, як мой Жан, то хоць ідзі ў старцы. Ён так мне памагае, што маёй зарплаты, а яго стыпендыі нам хапае на два тыдні, а на два другія мы павінны класці зубы на паліцу.

— Я во бачу, што ў вас зубы, як новыя, — пажартавала маці. — Па два тыдні ў месяц на паліцы ляжаць! Як вы так і ўхітраецеся? Навучыце мяне, мае дзеткі!

Яны так трохі пазубаскалілі, нязлосна пагыркаліся, а потым перайшлі на звычайны тон, але ад грошай так і не адсталі: дачка пайшла з маткай у спальню гаварыць пра нешта сакрэтнае, а Рамейка застаўся з Жанам. Яны налілі ў кілішкі віна, чокнуліся і выпілі.

— Дык вы яшчэ студэнт? — спытаўся Рамейка ў хлопца. Той кіўнуў галавой і вінавата ўсміхнуўся.

— Якога курса? — ужо неяк па інерцыі пытаўся Рамейка.

— Вось трэці канчаю...

— То чаго ж? Хутка і фініш, — суцешыў яго Рамейка.

— О, яшчэ доўга...

Ён адказваў коратка, адрывіста, і Рамейку было няёмка выцягваць з яго па слове: хто яго бацькі, ці памагаюць ім, як яны, маладыя, жывуць, — гэта ўжо Рамейка трохі ведаў ад Варанчак, калі яна скардзілася на сваіх сватоў — што куркулі, што ўсяго многа, а вось як збіраецца Наташка радзіць, то ўжо і мерацца да іх перасяліцца.

Але першае ўражанне ад хлопца ў Рамейкі было прыемнае: сціплы, не выпінаецца, не казырыцца. Але што? Пры незнаёмым чалавеку так можа паводзіць сябе кожны малады хлопец, а вось які ён сярод бацькоў,

блізкіх ці сяброў, знаёмых — гэта іншая рэч. Толькі там ён натуральны, а тут — часовы, у масцы. А п'е ён без прагі, як часам бачыш сярод моладзі: каб толькі болей! Па ўсім відаць, што хлопец культурны, выхаваны.

Вярнуліся ў залу маці і дачка, абедзве не садзіліся да століка, былі нейкія невясёлыя, нахмураныя.

— Жан, мы пойдзем, — сказала дачка.

Той моўчкі ўстаў. Яму таксама перадалася нейкая трывога: штосьці тут не так...

— То чаго вы? — паспрабавала затрымаць іх маці. — Пасядзіце, паспееце на тое вяселле.

— Вяселле праз тыдзень, маці, не блытай, — рэзка абсекла яе дачка.

— Ай, я й забылася, затлуміла ты мне галаву! То пазвані мне вечарам, мо я што і разведаю, — шматзначна сказала Варанчак дачцэ.

Маладыя развіталіся. Гаспадыня правяла іх, нешта яшчэ яны доўга бубнелі на калідоры, нават з ноткамі сваркі, але сцішанай.

Урэшце грукнулі дзверы, крокі заціхлі.

«Няйначай, зноў прыходзілі да маці пазычаць грошай», — усміхнуўся сам сабе Рамейка.

Зайшла Нона Варанчак, сумна і ціха села на канапу, закрыла твар далонямі, схіліла галаву. Рамейка заўважыў, што ў яе гэты жэст быў часты: яна нібы збіралася засяродзіцца ці адкаснуцца ад нейкіх назойлівых думак.

— Ну чаго ты такая кіслая? — паклаў ёй руку на плячо Рамейка. — Зноў дзеці грошай хацелі? — спытаў проста, без дыпламатыі.

— Адкуль ты ўгадаў? — яна адняла далоні, усміхнулася, гледзячы яму ў вочы.

— Па табе бачу...

Яна ўзяла бутэльку, выліла сабе і яму астаткі каньяку.

— У дзяцей адна песня — дай, — сумна ўздыхнула яна. — А вось дзе, адкуль ім набрацца?

— Хай выцягваюць ножкі паводле адзёжкі, — адказаў прымаўкаю Рамейка. — Ведаеш, што іх губіць, маладых? Гэта тое, што яны не ведаюць меры, як жывуць пры бацьках. Потым ідуць на свой хлеб, бачаць, што свае зарплаты ім зусім мала — і ведаеш, што пачынаюць рабіць? Красці, як гэта ні празаічна, займацца нейкімі махінацыямі — абы толькі задаволіць свае без меры высокія патрэбы.

— Ну, не дай Бог такое бачыць, — махнула рукою Нона Варанчак. — Дзе ты сёння вельмі ўкрадзеш, калі далёка ад усякіх базаў ці складаў? Вось я ці ты? Дзе, пакажы мне, мо і я пайду, бо грошы патрэбны... — яна гаварыла ні то жартам, ні то сур'ёзна.

— Дзівачка! Гэта ўсё проста. Красці можна ўсюды. Вось ты прыносіш мне рукапіс. Я яго чытаю, доўга вывучаю і кажу табе: рукапіс твой слабы, я магу яго зарэзаць, але... але калі ты мне, то я табе. Разумееш цяпер?

— Вось які ты хітры! А я і не думала. І ты так калі-небудзь рабіў?

Рамейку ажно скаланула ад гэтай яе наіўнай прастаты і такой жа прасталінейнай бесцырымоннасці, але ён зусім спакойна — як толькі мог спакойна — адказаў:

— Ніколі... А вось з табою так і зраблю. Ты ў мяне не выкруцішся. — І пагразіў пальцам, як нядаўна яна яму.

Нона Варанчак глянула на яго сур'ёзны твар, сама стала сур'ёзнай, а потым па-вясковаму ўспляснула рукамі і разрагаталася:

— О Божа, як ты мяне напалохаў, Алесь! Далібог, аж сэрца зайшлося.

— Чаго гэта? Грошай стала шкада? — усміхнуўся Рамейка і абняў Варанчак. — Вось я цябе і раскусіў, якая ты ёсць. На дзяцей кажаш, а грошы любіш лепей за хлеб.

— А хай яны праваляцца, тыя грошы. І няма — кепска, а як ёсць — то яшчэ горш. Вось прыйшлі, спыталіся, няма — і пайшлі. Што я павінна рабіць? Сама ў доўг жыву.

«Бо не ўмееш гаспадарыць», — хацеў сказаць Рамейка, але стрымаўся: не трэба падліваць масла ў агонь, ёй і так нялёгка.

— А той дзесяткі табе не аддалі? — спытаўся знарок, каб выведаць, ці папросіць у яго Нона яшчэ раз пазычыць.

— Дзе там! І не ўспомнілі! Ім яшчэ пяцьдзесят трэба. Чуў ты такую навіну? — яна нібы запрашала і яго падзівіцца з такога сямейнага цуду.

— Ну а як жа? На вяселле абы з якім падарункам цяпер не ідуць, — паспачуваў знарок Рамейка. — Шкада дзяцей.

— Дзяцей ці грошай? — ажывілася Нона Варанчак.

— Дзяцей, кажу табе. Ты ж ім паабяцала, што дастанеш? Так ці не?

— Паабяцала, — панурылася яна, — але дзе я ім вазьму? Хіба ў цябе? — глянула на яго, але без усякай надзеі. — Пазыч, Алеська, з ганарару аддам. — І яна пагладзіла яго па чарнявай з сівымі ніткамі, прарэджанай на цемені чупрыне.

— Раз ты так ласкава просіш, давядзецца пазычыць, — сказаў паблажліва Рамейка. Яму было прыемна, што ў яго просяць, і што просіць гэтая грубіянка Варанчак, якая не ў кожнага папросіць, ён ужо ведаў. — Толькі ў мяне тут няма, можа, заўтра? Як ты на гэта глядзіш?

— А чаго мне яшчэ хацець? Ой, дзякуй табе, Алеська, век цябе не забуду. — Яна абхапіла яго за шыю, моцна пацалавала некалькі разоў у шчаку. Аддыхалася і ўжо спакайней, але весела, з азартам сказала: — Засталася там у мяне дзесятка, то збегай ты, Алеська, у магазін, вазьмі яшчэ бутэлечку каньяку. Адзін раз жывём, дзе наша ні прападала! — і яна накіравалася ў спальню.

— Пачакай, — дагнаў яе Рамейка. — Я схаджу, але толькі не з тваёй дзесяткай. Добра? Інакш не пайду.

— Ну ідзі, ладна.

За вечар яны выпілі яшчэ тую бутэльку, але назаўтра Рамейка не памятаў, што было далей, — у яго памяці застаўся чорны правал.

## 7

Канчалася сухая гарачая вясна, і пачыналася такое ж гарачае, без дажджоў, лета. Ужо нешта гадоў пяць ці болей, як пагода збілася са свайго звычайнага рытму, усё пайшло наперакос: зімы былі цёплыя, нават з дажджамі, а не толькі з адлігамі, вясной мог ісці снег у канцы мая, летам залівала дажджом, восень магла быць сухая і цёплая, як бабінае лета, а на другі год усё ішло наадварот, — людзі не разумелі, што робіцца на свеце. Клімат мяняецца на вачах...

Рамейку, гарадскому чалавеку толькі фармальна, хоць ён і пражыў тут цэлую палову свайго жыцця, было балюча за вёску, за таго калгасніка-селяніна, які павінен быў рабіць неверагоднае, каб даць шматмільённаму гараджаніну ўсё патрэбнае да стала. І яшчэ калі спрыяла надвор'е, то гэта было хоць і нялёгка, але магчыма, а вось калі ўсё ідзе абы-як, цераз пень-калоду, то тут хоць разарвіся на кавалкі: таго дасі — гэтага не хапае, таго збярэш — гэтага не дабярэш.

Далягляды — шырокія, без адзінай хмурынкі, а на душы — нявесела: прырода просіць ратунку, а чалавек не можа ёй памагчы нічым. Як усё добра — тады, здаецца, вунь які ён мудры. А як такое — разводзіць рукамі. Хоць ты маліся.

У горадзе, здаецца, няма чым дыхаць, пад нагамі, як цеста, угінаецца асфальт, ля латкоў з вадою — доўгія чэргі, піва наогул недзе прапала — мо стаў на рамонт піўзавод? У нас так бывае: вуліцы і дрэвы паліваюць тады, як прайшоў дождж, канаву капаюць тады, як толькі што скончылі асфальтаваць вуліцу, гарачай вады не даюць у самы холад, а ў гарачыню — няма часам звычайнай халоднай, асабліва на высокіх паверхах — ад пятага і вышэй.

Усё перамяшалася. Як тая цётка казала: змяшаў языкі, змяшаў і розум — няма парадку ні на небе, ні на зямлі. Купляй кажух летам, а купальнік — зімой.

Рамейка выбраўся з аўтобуса «Вакзал—Мінскае мора» ўвесь потны, злы, як галодны звер, і стомлены. Надумаў урэшце зрабіць вылазку на мора — адзін. Бо жонка з малодшаю дачкою паехалі ў Віцебск да старэйшай, павезлі падмацункі да сесіі, а ён адмовіўся, хоць і яго клікалі, хоць жонка і пакрыўдзілася. Ды гэта не першы і не апошні раз, бачыў ён яшчэ большыя крыўды, пераўжыве. І вось сёння ён падумаў-падумаў і рашыўся выйсці на прыроду — вясна скончылася, а ён не дакрануўся яшчэ босымі нагамі да травы, не дакрануўся рукою да кары дрэва ў лесе, не чуў песні жаўранка, не кажучы ўжо пра салаўя, гэты гарадскі чалавек. Усё сядзіць у сваім каменным мяшку, усё нечым заняты, усё яму не стае часу. А як азірнецца аднойчы — то і жыццё прайшло, зімы-вёсны прашумелі, праляцелі, як іх і не было! Вось так!

Людзей на моры сабралася поўна, мо не менш, як у горадзе, і дарэмна Рамейка шукаў, дзе радзей, дзе не так густа бялеюць, смуглеюць і стракацяць купальнікамі жаночыя, мужчынскія, дзіцячыя целы, дзе пры беразе ў вадзе не так мільгаціць у вачах ад мітусні чалавечых фігур, дзе не такі шум-гам і гармідар узнімаецца над вадою. Аднак жа ён прайшоў пару кіламетраў пры беразе, усё прыглядаўся, выбіраючы шчаслівейшае месца, хацеў дабрацца хоць да якіх кустоў, дрэў, але тут іх не было і блізка, і таму ён са стогнам кінуў свой цяжкі партфель на траву, сеў і стаў разувацца-распранацца.

Потым разаслаў на траве дзяружку, якую заўсёды браў з сабою ў такіх выпадках, дастаў тоўсты часопіс, акуляры і хацеў ужо брацца за чытанне і загаранне, як перадумаў: трэба паглядзець, якая вада, хоць ногі абмачыць. Прабегся да берага, выкіроўваючы, каб не наступіць на каго, каб не збіць каго з ног, ускочыў у ваду. Адразу ногі як апякло, але ён пастаяў, апырскаўся, абліўся — і гарачынь з цела паволі адступіла, стала лягчэй на сэрцы і ў галаве.

Тады Рамейка прайшоў па вязкім дне далей ад берага, вада дайшла яму да грудзей — і паплыў. Вада была прыемная, цёплая, толькі каламутная, з нейкім пухірыстым накіпам, з нейкім жаўтавым пылком на паверхні — ці не пылок траваў і дрэў, што нагнала сюды ветрам? А мо мінеральныя ўгнаенні? Але не, дажджоў доўга няма, яны ляжаць сабе спакойна на полі, не прыносячы ні шкоды, ні карысці. Гэта некалькі год назад Рамейка быў тут на пачатку лета пасля вялікіх дажджоў, то бачыў, як пры беразе плавала жыватом угару вунь колькі нежывой рыбы — атруцілася рознымі ўгнаеннямі, якія дажджы пазмывалі з поля. Вось так і выходзіць: адным канцом на карысць, другім — на шкоду.

А калі нахлябтацца такой вады? Ён павярнуў назад, бо ўжо адплыў далёка ад берага. Знайшоў нават вачыма свой бярлог: дзяружка, партфель, белая майка на ім — знарок, каб было відаць здалёк. Людзі то закрывалі яго арыенцір, то зноў адкрывалі, а ён плыў паралельна берагу, часам касіў вокам — на ўсякі выпадак. У тое, што там у яго нехта ўкрадзе — не верыў, бо колькі жыве, у яго нічога ніколі не ўкралі, а колькі давялося ездзіць на цягніках, начаваць на вакзалах...

З непрывычкі хутка стаміўся: задыхаўся, сэрца аж, здаецца, стукае аб рэбры грудное клеткі. Але стаў заграбаць рукамі спакайней, павольней, пасля лёг на спіну, праплыў трохі, зноў перавярнуўся на жывот. Людзей усё прыбывала, было недзе пад дванаццаць, сонца ўзнялося высока, а ў небе — ні адной хмурынкі. Але яму пачало рабіцца холадна — значыць, растраціў усю вольную энергію, час вылазіць з вады.

Калі выбіраўся на бераг, яго аж хістала, але адчуванне было прыемнае: цела стала лёгкае, як бязважкае, сонца лашчыла мокрую скуру, лёгкі ветрык асвяжаў твар і ўсё цела. Добрая гэта рэч — вада! Шкода толькі, што так рэдка даводзіцца нам дакранацца целам і душою да гэтага гаючага бальзаму. Гэта ж сорамна людзям сказаць: ён толькі першы раз за ўвесь гарачы май і палову чэрвеня выбраўся на прыроду, ды і то неяк выпадкова — мо толькі таму, што не вісела на шыі сям'я. А ўвогуле часам добра адарвацца, адкаснуцца ад усяго, што цябе акружае, звязвае, не дае табе пабыць сам-насам з прыродай, з сабою самім урэшце, бо калі ты ў вечным акружэнні людзей, ты ўжо робішся сам не свой, а нейкі падобны на пятага, на дзесятага, на каго хочаш, толькі не сам на сябе.

Рамейка ўпрыскочку наблізіўся да свайго берлагу, не выціраючыся бухнуўся на дзяружку і доўга ляжаў, як раскрыжаваны, раскінуўшы рукі і ногі, пазіраў у неба — чыстае, бяздоннае і блакітнае да рэзі ў вачах, дыхаў на поўныя грудзі і адчуваў, як ад зямлі ў яго ўліваецца нейкая новая сіла, якая дагэтуль была яму невядома і незнаёма. Няўжо яшчэ можна вярнуць маладосць і той час, поўны, здавалася, невычэрпнай і беспрычыннай радасці, час летуценняў і пошукаў, якія не заўсёды нешта давалі, але якія прыемныя самі па сабе, як працэс, што прыносіць асалоду і адчуванне шчасця — і нават бясконцасці жыцця!

Э-э-э, не, такое адчуванне — ненадоўга, яно толькі як напамінак, што ўсё лепшае ўжо мінулася і не вернецца ніколі, а гэта — толькі далёкае рэха, толькі адгалоскі той песні, якая ўжо спета, толькі іскры, бледныя іскры таго вогнішча, якое ўжо дагарэла да тла. Бо прырода такая, што яна па два разы не дае, яна дае ўсяго адзін раз, а другі — гэта ўжо некаму другому, а не табе. І не падстаўляй дарэмна рукі — апячэшся. А калі ты не змог правільна распарадзіцца тым, што табе далі, і калі ты нават каешся і просіш даць паўтарыць тое, што ты рабіў, але ў новым і лепшым варыянце, — цябе ўсё роўна ніхто не пачуе і не пашкадуе. Таму не кайся і не плач: ты пражыў так, як пражыў, — і памылкі свае не паправіш, бо на гэта патрэбна новае жыццё. А мо і не памылка тваё жыццё, проста яно такое атрымалася, бо ты хацеў так, бо ты ішоў туды, куды цябе цягнула, бо ты рабіў тое, што табе было люба, і не рабіў таго, чаго табе не хацелася. І таму вось і такі вынік, такі падрахунак твайго жыцця. Не плач і не трапячы нагамі.

А мо ўсё ж паспрабаваць паправіць памылку? Толькі ці ўпэўнены ты, што гэта памылка? Ці ўпэўнены? Не ўпэўнены, аднак... Калі жывеш і ў цябе пуста ў душы, нікога там няма і нічога туды не просіцца, то ці не памылка тут самой прыроды? Хоць сама прырода не выцерплівае пустаты. Яна запаў-

няе ўсе пустоты. І часам, калі няма чым добрым, то яна запаўняе гэтую пустату абы-чым. І гэта, няйначай, і называецца іроніяй лёсу...

Але чаму ты, як той дзікун пад пальмай, што ляжаў і чакаў, пакуль на цябе не сыдзе божая літасць, чаму сам не паварушыў і пальцам, каб нешта змяніць, каб спатоліць прагу душы, каб запоўніць яе жывой вадою? Чаму? Чаму?

Пытанне заставалася без адказу.

У душу ўрэшце не клічуць. Туды заходзяць, не спытаўшыся нават дазволу, як у храм. Але застаюцца толькі выбраныя, толькі рэдкія.

Часам чалавек можа пражыць жыццё, і ў яго душу не прыйдзе той, каго ён чакаў, — гэта ўжо няшчасны чалавек. А калі гэта адбудзецца на заходзе сонца? Як тады лічыць? Усё ж, відаць, шчасцем таксама, бо чалавек паспытае ўсё ж таго, чаго прагнуў шмат гадоў.

Нона Варанчак? На заходзе сонца? Не, проста гэта не тое. Яна не для яго душы. Яна мо толькі праз цела абудзіла прагу да нязведанага. А так у іх зусім мала агульнага, у іх няма таго клею, які можа склеіць, знітаваць дзве палавіны ў адно...

Раптам нешта цёмнае і вялікае са свістам і шумам праляцела над Рамейкам і бухнула яму пад грудзі. І ў той жа момант ён пачуў недалёка дружны малады рогат. Ён усхапіўся, як уджалены, але не мог адразу разагнуцца і дыхнуць — футбольны мяч трапіў яму ў самае сонечнае спляценне.

— О чэрці! — вылаяўся Рамейка і перавярнуўся на жывот, падстаўляючы спіну і ўсё астатняе сонцу і другому мячу. — Не дадуць падумаць чалавеку, — сказаў сам сабе і ўзяўся за часопіс.

Але пагартаў, паглядзеў адно, другое — чытаць не хацелася. Перад ім кампанія хлопцаў і дзяўчат рэзалася ў карты, далей, за метраў дваццаць, стаяла кола з маладых, загарэлых і стройных, якія так білі па мячы, нібы стараліся загнаць яго ў неба, — і каб ён адтуль не вярнуўся; справа ад яго дзве дзяўчыны на квяцістай дзяружцы чыталі кніжкі, злева тры хлопцы падабедвалі і пілі гарэлку. У такую спякоту — і хоць бы што, зараз пойдуць у ваду, і будзе гэтае мора ім па калена.

Было многа маладых бацькоў з дзецьмі. І як адны з іх не адпускалі сваё дзіця ні на крок, не давалі праявіць самастойнасць — ні на беразе, ні ў вадзе, дрыжалі за іх і ўвесь час камандавалі, так другія занадта спакойна займаліся сваім — пераважна чытаннем ці картамі, круцілі ручкі транзістараў, а дзеці пасвіліся на волі — рабілі, што хацелі, і хадзілі, дзе хацелі. І чаму гэта такія розныя людзі на зямлі? Няўжо гэта для таго, каб жыццё не было аднастайным і сумным, а каб заўсёды было шматфарбным, шматаблічным, зменлівым і рухомым, як вечная рака? Яно ідзе сваім ходам і нічым ты яго не спыніш, Рамейка, як бы ты ні хацеў, каб яно цябе пачакала. Адзінае выйсце — даганяць яго. Калі яшчэ маеш сілы — даганяй, калі ж не — не бярыся. Бо няма горш, як даганяць тое, што не стаіць на месцы...

Чытаць не цягнула. Ён пазіраў сяды-тады на дзвюх суседак справа і зайздросціў ім: яны, здаецца, ні разу не перакінуліся словам адна з другою, не адрываюць вачэй ад кнігі. А ён — сапсуты чытач, не можа чытаць без алоўка. Не можа чытаць і тое, што трапіць пад руку, выбірае, перабірае: то яму не так, то яму не гэтак. Вось узяўся чытаць аднаго прыстойнага, у гадах, празаіка — і ходзіць, як мядзведзь каля калоды пчол, і не можа падступіцца: ніяк не ўгрызціся. Патрэбен аловак, бо часам слова так перакручана, што доўга думаеш — а навошта? Няўжо знарок арыгінальнічае? Каб гаварылі ці каб не разумелі? Колькі гадоў назад Рамейка купіў быў дзіцячую кніжачку таго ж аўтара, весела размаляваную добрым мастаком.

Раз пачытаў сваёй меншай дачцэ — неяк яна безуважна яе праслухала. А калі праз некалькі дзён узяў яе пачытаць яшчэ, яна сказала: «Не чытай гэтай кніжкі, яна нецікавая».

Недзе ў гадзіны тры па абедзе Рамейка зноў сеў у душны аўтобус і рушыў у Мінск. Пасажыраў было яшчэ нямнога, яшчэ не скранулася з месца асноўная маса, яшчэ загаралі, купаліся, весяліліся, — таму тут меліся нават вольныя месцы. Рамейка ўсеўся на заднім сядзенні, ля матора — грэла і ў плечы, і ў шыю — ад сонца, грэла і ніжэй — ад матора. «Хоць выграю старыя косці», — падумаў сам сабе з усмешкаю.

Недзе на другім ці на трэцім прыпынку ад мора ў аўтобус селі пасажыры. Праз пярэднія дзверы зайшла жанчына сярэдняга росту, у яго гадах. Сэрца Рамейкі неяк міжвольна здрыганулася-страпянулася — гэта была яго зямлячка, некалі разам вучыліся, толькі яна скончыла школу раней за яго на год, паехала вучыцца ў Мінск і адразу ж выйшла замуж. Сяды-тады, вельмі рэдка, ён яе бачыў — зблізу ці здалёк, сяды-тады вітаўся і гаварыў пару слоў, калі выпадала сутыкнуцца твар у твар, бо знаёмыя яны былі павярхоўна, яна для яго ўяўлялася чалавекам з другога свету, як лічыў ён, і баяўся да яе падысці, тым болей — загаварыць. Да ўсяго яна яму падабалася яшчэ з таго часу, са школы. Але пра гэта яна, пэўна ж, нічога не ведала. Ён нават у думках не асмельваўся пазнаёміцца з ёю бліжэй, распытаць, чым яна жыве, што яе хвалюе, пра што яна думае. Праўда, цяпер трохі ўсё змянілася. Цяпер ён не толькі былы пастух, вясковы хлопец, ён ужо нейкая фігура на роўным месцы: выдавецкі работнік, нават літаратар-перакладчык. І на настаўнікаў ужо глядзіць не так, як глядзеў тады, амаль трыццаць гадоў назад, лічачы іх па меншай меры раўнёй з багамі. І хоць яна дачка настаўнікаў, а лёс яе выйшаў нялёгкі і складаны, горшы, як у яго. Здаецца, яна ўжо даўно засталася з дзецьмі адна, без мужа. Дзе ён падзеўся, Рамейка не ведаў: ці памёр, ці яны разышліся. Праўда, дзеці ў яе ўжо дарослыя, як і ў яго, нават старэйшыя, бо яна выйшла замуж студэнткай, недзе на першым курсе, а Рамейка ажаніўся, калі пайшоў ужо на свой хлеб. Што казаць, у кожнага свой лёс, сваё жыццё, свой тэмп...

Ён цяпер не зводзіў з яе вачэй, хацеў, каб яна азірнулася назад, ды яна, Ларыса Ланеўская, а па мужу Сечанава, як знарок, пазірала толькі перад сабою, нават не адчувала, што за ёю сочаць вочы земляка. І не толькі земляка... Яна стаіць, бо месцы ўсе заняты. Яму робіцца няёмка, яшчэ больш горача і нават млосна, ён ужо стаў увесь мокры ад поту, але што тут рабіць? Сеў у летні аўтобус, то цярпі. Можна было ехаць электрычкаю, але чамусьці яго пацягнула на аўтобус. І вось цяпер ён яе ўбачыў... За гэта ён гатовы быў вынесці і не такія пакуты, як сённяшняя гарачыня...

Раптам Рамейка заўважыў, што Ланеўская загаварыла з маладым высокім хлопцам у жоўтай тэнісцы, з якім яна разам заходзіла ў аўтобус. Няўжо яе сын? Нешта зусім не падобны — светлавалосы, нос роўны, вялікаваты, твар худы і бледны, мала загарэлы. А яна шатэнка, у меру таўсматая, фігурыстая кабета, хоць з твару хударлявая, але прыемная, — нешта ў ёй было ад паўднёвага, грэцкага тыпу — гарбаносасць, непакорлівасць валасоў, круталобасць. І дзіўна было тое, што яна не старэла — нібы чагосьці чакала. Здаецца, што яна мала чым змянілася за гэтыя многія гады...

Калі ўехалі ў горад, Рамейка не зводзіў з яе вачэй — яму трэба было выйсці з імі разам.

«Няўжо на мяне сёння, як на таго дзікуна пад пальмай, зваліцца какосавы арэх? — думаў сам сабе Рамейка. — Як той футбольны мяч, які стукнуў

мне сёння пад дых... А то? Тут ёсць нешта нават сімвалічнае. Футбольны мяч, какосавы арэх, божая благадаць... Што ж, мо як і пражыву», — уздыхнуў ён. Аўтобус пад'язджаў да кальцавога прыпынку.

**8**

Нона Варанчак ледзь не сарвала графіка — зацягнула з дапрацоўкай на цэлы тыдзень. Пакуль перадрукавалі рукапіс, пакуль вычыталі, пакуль прачытала начальства...

Рамейка нават хваляваўся: ці ўсё пройдзе гладка? Праўда, галоўны рэдактар сказаў, прачытаўшы рукапіс: «Слабавата ты адгабляваў гэтую Варанчак, мала падціснуў, скажу табе шчыра. Але што зробіш? Не вяртаць жа яшчэ раз на дапрацоўку. Толькі лішняя нерватропка».

На што Рамейка яму адказаў: «Вы правільна заўважылі, што мала я падціснуў рукапіс. Малавата было часу. Я ўжо каюся, што згадзіўся так лёгка браць яе рукапіс ад Юрлевіча. Неяк справіўся б і ён сам, неяк бы яны памірыліся. Неяк бы ён яе падціснуў і сам, без мае дапамогі».

Галоўны рэдактар не ўсё, відаць, зразумеў са слоў Рамейкі, ён успрыняў іх у прамым сэнсе, а падтэксту не ўлавіў. А каб ён ведаў, то пасмяяўся б з Рамейкі яшчэ болей, бо Рамейка ўліп, што называецца, у гісторыю, і як ён з яе выберацца, яшчэ невядома.

Учора ўсё павярнулася ў такі бок, што Рамейка быў проста ашаломлены. Нічога падобнага ён не чакаў, хоць, ідучы да Ноны Варанчак і трохі ведаючы яе, быў гатовы да ўсяго.

Здаецца, спачатку ўсё ішло звычайна. Яна пазваніла яму на работу, каб ён зайшоў, бо ў яе да яго важнае пытанне. Голас яе быў нейкі трохі як усхваляваны, нечым узбуджаны, хоць яна і старалася гаварыць спакойна і не больш таго, што гаварыла кожны раз. Чамусьці толькі адзін Юрлевіч у рэдакцыі раўніва перажываў званкі да Рамейкі. Ён здагадваўся, хто яму цяпер так часта звоніць, і вельмі, відаць, хацеў, каб Рамейка хоць раз пахваліўся якімі-небудзь падрабязнасцямі. Але, як на злосць, Рамейка маўчаў, бо лічыў, што яму няма чым пахваліцца, лічыў, да таго ж, непрыстойным гаварыць пра нешта інтымнае.

Пасля работы, як звычайна, ён зайшоў у магазін, узяў пляшку гарэлкі, кансерваў, мінеральнай вады і накіраваўся да Ноны на кватэру. Яна нешта доўга не адчыняла — ці не знянацку яе застаў? Рамейка нават захваляваўся, стоячы пад дзвярыма. Урэшце адамкнула, прапусціўшы яго ў дзверы. Валасы ў яе былі мокрыя, твар ружовы, свежы, халат на голае цела, а ад цела, здаецца, ішла пара — толькі што з ванны.

— Ты што гэта сярод белага дня купаешся, як амазонка? — пажартаваў ён.

— Я не бязгрудая, — капрызліва адказала яна, — не абражай мяне.

— Аднак жа гэта ўжо не тое, што было, — не хацеў адступаць Рамейка. — Памятаеш анекдот пра каўбоя, які я табе расказваў? Пра татуіроўку на грудзях у дзяўчыны?

— Ідзі ты са сваім дурацкім анекдотам, — замахала яна рукамі, — прыдумай што цікавейшае.

— Урэшце, магу прыдумаць, хоць я не запамінаю анекдотаў: сёння пачую, заўтра ўжо забыўся.

— Лепей я табе раскажу быль, — памякчэла Нона, — толькі давай рыхтаваць стол, я страшна галодная.

— Добра, толькі я табе ўсё ж раскажу на хаду, бо пасля забудуся.

Так яны і зрабілі: насілі на столік бутэлькі, бульбу, хлеб, кансервы, а Рамейка расказаў анекдот, хто з чым ходзіць у госці і як вяртаецца.

— Ай, глупства анекдоты. Вось паслухай быль. Даўно было. Я спраўляла свае імяніны, яшчэ пры мужу, а муж у мяне — вялікі начальнік, ты не думай. Выпіць і закусіць было. Сабралася нямнога, чалавек дваццаць пяць. Прыйшоў адзін паэт-песеннік, такі здаравіла і аматар паесці і выпіць за чужы кошт. Якраз ля яго апынулася ваза з паюснаю ікрой. То ён яе абхапіў абедзвюма рукамі і тою лыжкай, якая там тырчала, пачаў аплятаць за абедзве шчакі. Мая свякроў і кажа яму: «Лявонка, то мо ты лепей скібачку маслам намаж ды ікры наверх пакладзі, а то так мо табе зашкодзіць?» — «Нічога, маці, — кажа той Лявонка, — я і так спраўлюся, мне і так смачна». І так і з'еў за вечар усю місу ікры. А пасля яшчэ песні спяваў — як мы некалі галадалі.

— А дзе ж тут смяяцца? — спытаўся Рамейка. — Тут плакаць трэба. О, паэтаў яшчэ вунь як трэба вучыць, я іх ведаю.

— Таму ты такі строгі, што сам не паэт, — не падтрымала яго Нона.

— Але па тым, колькі п'ю, можна запісаць у паэты? Так ты хочаш сказаць?

— А, як я бачу, можаш добра ўзяць!

— Ад цябе не адстану, будзь пэўна.

— Знайшоў чым ганарыцца! Я ж баба.

— Такая баба заважыць за добрага мужчыну.

— Наконт «заважыць» ты не памыліўся. Вось усё збіраюся пахудзець... А як ты ў мяне тут паявіўся, то прыбыла на тры кілаграмы.

— А я ведаю спосаб, як пахудзець. Магу табе параіць.

— Няўжо? — ажывілася Нона. — Раскажы!

Яны сядзелі на канапе побач перад густа застаўленым столікам.

— Будзем аб'ядацца. І гаварыць пра тое, як пахудзець? — падкалоў яе Рамейка. Яна нешта хацела сказаць, але ён узняў далонь: — Даволі, лепей паслухай...

Яна наліла ў чаркі, яны выпілі, сталі закусваць, а Рамейка між тым расказваў:

— Перш за ўсё трэба кінуць піць. Бо гарэлка, ці віно, ці нават піва — вялікія калорыі.

— А я і не ведала! — здзівілася Варанчак.

— Дык ведай. І другім гавары. Цяпер другое — твой арганізм прывык толькі браць.

— Як гэта? А што яшчэ ён павінен умець?

— Павінен умець аддаваць. А ты яго не навучыла. Вось у гэтым уся і бяда, што ты таўсцееш.

— То навучы! Буду ведаць.

— Гэта проста, але нялёгка. Вось ты захацела есці — і кідаеш штонебудзь у рот, жуеш, даеш арганізму, у той час як у яго свае запасы — аж твае ногі не трымаюць. А ён гэтых запасаў не чапае. Чаму? У гэтым уся і загвоздка.

— Нешта ты цямніш, Алеська.

— Зараз пасвячу. Вось слухай такі прыклад. Два чалавекі галадаюць... Аднолькавай камплекцыі. Адзін толькі п'е ваду, а другі — нічога, нават і вады не прымае. І што ж? Той, што не піў вады, праз тыдзень памірае, а той, што піў, жыў цэлы месяц, нават два.

У чым тут прычына, у чым сакрэт?

— Ну, сказаў! Вада — аснова жыцця!

— А ці многа ты п'еш вады?

— Зусім мала. Ад вады таўсцеюць, усе так кажуць. Вось я і баюся піць ваду.

— Цёмныя людзі так кажуць. Ад вады нельга ні растаўсцець, ні пахудзець. У ёй няма калорый, энергіі, так сказаць.

— Дык чаму ж той, што піў ваду, жыў цэлы месяц?

— Ага, вось і кумекай — чаму?

— Не ведаю, — паціснула плячыма Нона Варанчак і зноў наліла гарэлкі.

— Увесь сакрэт у абмене энергіі. Бо калі я стану аддаваць без задатку, я хутка зусім застануся ні з чым. Арганізм не пазычае, ён толькі мяняе.

— І гэта праўда? — яшчэ больш зацікавілася Нона.

— Бо калі ў нас няма чаго есці, то мы вып'ем вады — і арганізм аддасць учарашнюю энергію. Ён не ведае, што мы яму далі — каларыйную ці пустую страву, у даным разе — ваду. Яму важна ўзяць задатак, ён тут жа выдасць запас учарашняй гатовай энергіі.

— А адкуль жа ён возьме назаўтра энергію, калі мы далі яму вады? — пачынала ўжо разбірацца Нона Варанчак, хоць прыкметна п'янела.

— Вось арганізм агледзіцца, што яго ашукалі, але ўжо нічога не зробіш — трэба, каб запас заўсёды быў, ён гэта добра ведае — і таму адразу стане шукаць па ўсіх закутках, дзе можна пацягнуць. Там возьме, там, — Рамейка скубянуў Нону за бок. — Бачыш, колькі на табе лішняга тлушчу? Гэта ўсё склады гатовай энергіі. Вось ён і бярэ з гэтых складоў. А яму зноў даюць на задатак, на абмен, ваду. І так цэлы месяц — будзе браць у задатак ваду, а аддаваць чыстую энергію са сваіх запасаў, пакуль усе іх не спаліць. І нават калі запасы зусім скончацца, арганізм усё роўна нешта будзе знаходзіць — падмятаць засекі — і нешта аддаваць, калі яму толькі будуць даваць задатак — хоць ваду, хоць бурду, як давалі ў канцлагерах, у лагерах ваеннапалонных, як гэта было ў блакадным Ленінградзе.

Нона Варанчак заслухалася, перастала жаваць.

— Нешта нават навукападобнае. Адкуль ты гэта ўзяў?

— Вычытаў у нейкай газеце гады тры назад. І ўяві сабе, ніхто за гэты артыкул не зачапіўся, ідзе я больш нічога падобнага не чуў. Чаму нашы медыкі не возьмуцца за гэтую праблему? У нас жа амаль палова людзей у нашым узросце — атлусцелыя, асабліва вы, жанчыны.

Рамейка агледзеў крытычным вокам столік і заўважыў, што ўся багатая закусь знікла — засталося пару скрылькоў каўбасы, хвост асяледца, гурок.

— Нішто сабе папрацавалі! — усклікнуў Рамейка. — І я тут гаварыў пра галаданне!

— Вось такія мы цяпер: гаворым адно, а робім другое.

— А думаем — трэцяе.

— Што ж ты думаеш — трэцяе?

Рамейка натрапіў на нейкую дурную вясёла-пустую хвалю і мог цяпер гаварыць абы-што, мог спрачацца, абы спрачацца, гатовы быў абвяргаць самыя відавочныя ісціны і абараняць самыя недасканалыя — адным словам, лезці на ражон. І таму ён сказаў:

— Думаю геніяльна проста: як бы мне зматацца дадому, покуль ходзяць трамваі.

І ў тую ж хвіліну пакаяўся, што так сказаў. Бо вочы ў Ноны Варанчак акругліліся, як шкляныя шарыкі, твар стаў белы і ад таго яшчэ большы, валасы, здаецца, узняліся дыба — яна размахвала кулакамі перад атарапелым Рамейкам і, пырскаючы слінай, крычала:

— ...Не пушчу я цябе дадому! Не пушчу! Ты думаў, што адробішся лёгкім фліртам? Не выйдзе, даражэнькі-міленькі! З сённяшняга дня — ты мой! Досыць я з табою чыкалася, думала, ты сам, як чалавек з галавою, здагадаешся, што трэба рабіць. Ажно ты проста тупагаловы, аблавухі, віславухі дурань, а не сапраўдны мужчына! Ты не ведаеш, як павінен жыць мужчына, якія яго правы і абавязкі! І якая ў яго павінна быць жонка! Ты паглядзі на сябе, які ты мужчына! Ты тут мне расказваў байкі, што галадаеш, морыш сябе голадам... Дурань! Гэта жонка морыць цябе голадам, ты мо ў тыдзень раз спіш з ёю як мужчына, вось чаму ты і высах у трэску, як манах, адны мошчы засталіся... А я з цябе зраблю чалавека, ты ў мяне будзеш як маляваны — усе бабы будуць перад табою падаць!..

Яна перавяла дыханне, адштурхнула ад сябе столік, ажно з яго пасыпаўся і зазвінеў посуд, але яна нават не глянула ў той бок і выйшла на хату, стала хадзіць, то нечакана спыняючыся, то робячы рэзкія павароты, упірала ў яго свае круглыя лупатыя вочы:

—Ты... ты атруціў мне жыццё! Цяпер я не магу без цябе... Ты гэта ведаеш? Ведаеш? Усё мне не міла... Адзін ты для мяне... І што я буду рабіць, як ты ад мяне пойдзеш? Я павешуся, я атручуся, я жыць усё роўна не буду... Не буду адна... Не змагу адна!.. Ох, якая я дурная баба! Не магу сабе даравацъ! Ужо думала, што знайшла сабе шчасце, што буду, як і ўсе, радавацца і жыць. Ды дзе там? Ён усё трымаецца за тую сухую пятніцу, служыць ёй, як чорны раб! Няўжо табе не абрыдла яшчэ гэтае рабства? Ты ж мужчына, вольны выбіраць, дыктаваць умовы! Дык няўжо ты сляпы ці ў цябе няма чалавечых пачуццяў, няма мужчынскай гордасці, калі ты можаш жыць і рабіць тое, што табе няміла, што табе астабрыдла! Які ты пасля гэтага мужчына, які пасля гэтага чалавек? Які? Скажы мне, які?

Рамейка сядзеў, як пад градам каменняў, і слухаў, і думаў, чакаў, калі ўжо гэты вулкан вывергне ўсю сваю лаву, калі скончыць бушаваць.

І калі на пачатку яе словы толькі смяшылі, то цяпер яны пачыналі закранаць за жывое, траплялі ў балючае месца, і яму ўжо хацелася з ёю не згаджацца, не маўчаць. Але ж хай выгаварыцца, хай ачысціць душу, хай!

А яна ўжо зрабіла поўны круг і вярталася да таго, з чаго пачала:

— Так і ведай, Алеська! Не пушчу цябе дадому! Не пушчу! Тут будзе твой дом! Тут, у гэтай кватэры! Даволі я нацярпелася! Касцьмі лягу, а не выпушчу цябе адгэтуль!

«Вось табе, Рамейка, за тваю цікаўнасць і мяккасць. Так табе і трэба», — ужо сур'ёзна думаў ён сам сабе.

## 9

У той спякотны дзень, едучы з Мінскага мора, Рамейку так і не ўдалося як след пагаварыць з зямлячкай. Нешта яна спяшалася і ўвогуле была нейкая ці хворая, ці нечым вельмі ўзрушаная. Гаварылі мала: ён сказаў некалькі слоў пра сябе — што збіраецца ў адпачынак, яна — што многа клопату дома, на рабоце таксама, — усё тое, што ў такіх выпадковых сустрэчах людзі могуць спытаць адно ў другога ці сказаць. Яна нават не ведала, дзе ён працуе, і ўзяла ў яго рабочы тэлефон, а ён запісаў яе хатні.

Высокі светлы хлопец — гэта, аказваецца, яе самы меншы сын — маўчаў увесь час, толькі кідаў у яго бок цікаўныя позіркі, як бы ацэньваў гэтага пажылога незнаёмца, які штосьці мае да яго маці.

Прайшоў тыдзень ці больш, покуль яны сазваніліся і «прызначылі спатканне». Яна канчала работу — начное дзяжурства ў бальніцы, — а ён адпрасіўся ў начальства: ёсць важная справа. Для чаго ён так рабіў — і сам не ведаў, але яго цягнула дазнацца ўрэшце, што гэта за зямлячка і як яна жыве. Паколькі пры бацьках, як ён лічыў, яна жыла лёгка, то цяпер, гадуючы двух сыноў, ёй, пэўна ж, не соладка жылося, ды і цяпер, відаць, хоць дзеці ўжо дарослыя.

Падумаў, што ўзяць з сабою. Цукерак — і больш нічога. Пэўнага плана ці намеру ў яго не было, але нейкая схаваная нават ад яго самога падсвядомая цікаўнасць жыла ў ім, нешта было ў гэтай жанчыне такое, што абавязкова хацелася спазнаць: як добра аформленая тоўстая кніга абяцае чытачу многа нечаканасцей і цікавых часін. І чамусьці яшчэ яму здавалася, што ў яе, Ларысы Ланеўскай, ёсць тое, чаго няма ў яго жонкі, чаго няма ў Ноны Варанчак, хоць яны і распінаюцца, жартам і сур'ёзна хваляць сябе і сваё непадабенства да іншых, сваю арыгінальнасць.

Праўда, у іх шмат «арыгінальнасці», але якраз цяпер яна не здаецца Рамейку такой прывабнай, як здавалася некалі, — гэта прасталінейнасць, грубаватасць, што больш падыходзіць мужчынскаму, а не жаночаму характару.

А Ларыса Ланеўская, яшчэ па школе ён памятае, вызначалася далікатнасцю, выхаванасцю. Гэтая рыса ў чалавеку з гадамі яму падабалася ўсё больш і больш.

Чамусьці яго трэсла ад хвалявання. Чаго, якога? Стаў сябе лаяць, ушчуваць: яму, «старому донжуану», яшчэ хвалявацца, ляскаць зубамі? Час павінен быў прытупіць яго пачуцці, а тут нешта нейкае — не мінаецца, не праходзіць. Мо ён і не старэе... душою? Смех — ён не старэе? Усе старэюць, значыць, і ён не выключэнне.

Ларыса Ланеўская павінна была выйсці недзе ў гадзін дзесяць, і ён чакаў яе на дарожцы з корпуса, у якім яна працавала. Медыкі ішлі на змену. Адны свежыя, адпачнутыя, адпрасаваныя, з пахам парфумы; другія — з дзяжурства: стомленыя за ноч, з бліскучымі запалымі вачыма, нейкія як памятыя, з пахамі, далёкімі ад парфумаў і адэкалонаў; ішлі людзі з пакетамі і сумкамі, перадачамі для хворых — заклапочаныя, з трывогаю і горам у вачах. Ён за сваё жыццё нагледзеўся на такіх людзей, бо даводзілася хадзіць у бальніцу — ці да жонкі, ці да дзяцей, ці да каго блізкага або таварыша, а самога яго, праўда, пакуль што абмінала гэтая горкая чаша — ляжаць у бальніцы... Але сюды, ён ведаў, трапіш і здаровы, а робішся як хворы. Нават чужы боль баліць і табе — па індукцыі, ці як гэта назваць дакладна.

Насустрач ішла жанчына ў белым касцюме, з чырвонай сумачкай у руцэ. Здаецца, яна? Рамейка захваляваўся, пайшоў насустрач: так, гэта была Ларыса. Яна выглядала стомленай — твар бледны, трохі падфарбаваныя вусны, гладка прычэсаныя валасы — і больш ніякіх штучных атрыбутаў, усё натуральнае.

Яны павіталіся, абое сталі.

— Ну, як прайшло дзяжурства? — першы спытаўся Рамейка і глянуў у яе чыстыя блакітныя вочы.

— Сёння якраз спакойна, нават трохі заснула, — усміхнулася Ларыса, паказаўшы тры пярэднія залатыя зубы.

— А кветкі? Гэта падораныя? — паказаў ён на букецік гваздзікоў.

Яна сціпла кіўнула галавой.

— Бачыце, а я з пустымі рукамі. Нібы мне папрок...

— Ну што тут такога? Не перажывайце. А кветкі нам дораць часта.

— Нават і цукеркі?

— Бывае, што і цукеркі. Асабліва пры выпісцы, калі хворы паправіўся.

— Пасля хваробы чалавек заўсёды дабрэе душой. Хвароба ачышчае. Так ці не я кажу?

— Відаць, не ўсе роўныя перад хваробай. Некаторых яна робіць яшчэ больш злымі.

— Ну, гэта тых, хто страціў надзею выздаравець.

— Магчыма, што і так, — адказала яна няпэўна. І перавяла гаворку на другое: — Мне яшчэ трэба ў магазін.

— А мне з вамі можна? — усміхнуўся Рамейка.

— Калі ласка, — адказала сур'ёзна.

Яны зайшлі ў гастраном, яна купіла малака, паўбохана хлеба, яек. Рамейка здзівіўся, што так мала, але падумаў: а якая ж у яе сям'я? Два ці тры чалавекі? Ён так і не ведаў дакладна, але пытацца не стаў: хіба гэта яго клопат? Хоць хацелася ведаць пра яе ўсё, да драбніц... «Землякі. Як мала мы цікавімся сваімі блізкімі, як многа заняты самі сабою! Што гэта робіцца з людзьмі?» — перайшоў на дакоры Рамейка.

З гастранома яны накіраваліся на аўтобусны прыпынак. Рамейка нёс поліэтыленавы мяшэчак з пакупкамі і свой неразлучны партфель, а Ларыса Ланеўская — ён ніяк не мог прывыкнуць да яе прозвішча — Сечанава, — несла свае кветкі і сумачку.

Яны селі на аўтобус і паехалі па вуліцы, якая была добра знаёма Рамейку. Тут з аднаго боку стаялі дамы, карпусы акадэміі, з другога быў Батанічны сад, абнесены высокай металічнай агароджай з дзіўнымі графінападобнымі бетоннымі слупамі. Гуляючы калі-небудзь у вольную часіну, Рамейка любіў прыходзіць сюды — колькі гадоў назад тут яшчэ не было вуліцы, ісці даводзілася па глухой сцежцы ля Батанічнага саду, якая вяла да часовага інтэрната акадэмічных аспірантаў.

Цяпер ад таго інтэрната ўжо не засталося і следу, аўтобус паімчаў іх далей, павярнуў налева — і праз адзін прыпынак яны выйшлі, зноў скіравалі налева. Мінулі невялікі магазінчык, невялікія двухпавярховыя домікі і падышлі да вялізнага, доўгага, як кітайская сцяна, дома на кватэр семсот ці болей. У гэтым доме і жыла цяпер яго зямлячка Ларыса Ланеўская.

На засмечаным і слаба асветленым ліфце яны ўзняліся на сёмы паверх. Выйшлі на пляцоўку, зайшлі ў тамбур — і тут жа Рамейка пачуў з кватэры сярдзіты сабачы брэх. Ларыса Ланеўская пацiснула на ручку дзвярэй, яны адразу адчыніліся — і Рамейка ўслед за ёю ўвайшоў у прыхожую — як дзве кроплі вады падобную на тую, што ў іх кватэры. Гаспадыня супакоіла сабаку — чорнага бясхвостага дабермана з рыжымі абводамі-дугамі над вачыма і рудою грудзінай, і правяла Рамейку цераз прахадны пакой направа. Сабака абнюхаў яго неяк падазрона, але, здаецца, не знайшоў нічога варожага і прапусціў спакойна.

— Гэты сабака не кусаецца? — на ўсякі выпадак спытаўся Рамейка.

— Гэты сабака не сабака, а сучка, — адказала з усмешкай Ларыса, — і мая лепшая сяброўка.

— Вашы сябры — мае сябры, — жартам адказаў Рамейка.

І тут ён як у ваду глядзеў — пасля яны ўспаміналі не раз. Толькі цяпер зразумеў Рамейка, што ён у такой жа кватэры, як і яго, толькі два пакоі, якія ў яго сумежныя, тут адзін прахадны — вось і ўся розніца. «О чорт, — ледзь не ўскрыкнуў Рамейка, — тут нават шпалеры такія, як у мяне — блакітнаватыя, з узорам — драбінкай, адціснутым залацістай фарбай. Лоджыі, выхад — усё, як у мяне. Не, тут нешта нават сімвалічнае. Каб часам я не зблытаў гэтай кватэры са сваёй», — падумаў са смехам у душы.

У пакоі стаялі два вузкія драўляныя ложкі пры супрацьлеглых сценах, камод, трыльяж на ім, нешта падобнае на сервант, але нейкіх паменшаных габарытаў, чорная бліскучая шафа, маленькі столік, некалькі крэслаў, — адным словам, было цесна. Так, ва ўсякім разе, на першы погляд здалося Рамейку.

— Вы даруйце, што ў мяне так... няўтульна. Жывём неяк сённяшнім днём, як госці, — сказала Ларыса, абводзячы ўсё лёгкім жэстам правае рукі. Яна ўжо скінула свой белы касцюм і апранулася ў доўгую карычневую спадніцу і белую шаўковую блузку з кароткім рукавом, вышытую англійскай гладдзю, якая добра падкрэслівала яе формы і маладзіла твар, — ведала, што апрануць!

— Ну што вы, якраз вельмі ўтульна, — трохі мо перабольшыў Рамейка, хоць гатоў быў паклясціся, што ўсё тут цудоўна.

Яна трохі як быццам паспакайнела ад яго слоў, нават павесялела і сказала:

— Я рада, што вам падабаецца ў мяне... Вы пабудзьце тут трохі, я прыгатую чай. — І яна выйшла, неяк артыстычна крутнуўшыся.

Рамейка адно пакруціў галавою: ну і кабета! Хацеў сказаць наўздагон, што ён ужо снедаў, але перадумаў: хай будзе так, як яна кажа. Раз прыйшоў у госці, то рабі тое, што табе кажуць. Дзіўна неяк апынуўся ён тут: увязаўся за ёю, а яна нічога не сказала — раз едзеш, то едзь, не буду ж я цябе праганяць. Рамейка яшчэ раз агледзеў пакой і адчыніў падвойныя дзверы на лоджыю. І тут было цесна: стаялі нейкія скрынкі, вялікія, кілаграмаў дваццаць-трыццаць, калі пакласці туды хоць бы бульбы, нечым, відаць, напакаваныя — нібы людзі збіраюцца куды пераязджаць ці нядаўна толькі пераехалі. Не, здаецца, яны тут ужо жывуць гадоў пяць, не меней.

Пейзаж... Перад вачыма была невялікая плошча, застаўленая цаглянымі двухпавярховымі домікамі, збудаванымі няйначай даўно; далей, як скінуць вокам, — відналіся карпусы і каміны заводаў. А гэты вялізны дом-гармонік, «кітайская сцяна», трохі як перакрыўлены, як разгорнуты звітак папіруса, пабудавалі тут, відаць, гадоў пяць назад на насыпным грунце, бо побач была рэчачка, а паабапал яе — нізкія балоцістыя берагі. Адным словам, з аднаго боку — горад з усімі яго дабротамі, з другога — сельская прырода: рачулка, сажалкі, канавы, далей — зяляніна Батанічнага саду. А ўнізе, на заасфальтаванай вузкай дарожцы пры доме, снавалі людзі, ездзілі машыны, на дзіцячай пляцоўцы ў пясочніцы і на арэлях бавіліся дзеці пад пільным наглядам мамаў і бабулек, на лаўках ля кожнага пад'езда сядзелі пенсіянеры, пераважна жанчыны.

Пачуліся крокі, у пакой зайшла гаспадыня — нейкая ўзрушаная, нават паружавелая.

— Скажыце, дзе будзем піць чай: тут ці на кухні?

Хоць тут было б больш утульна, а галоўнае — інтымна, але навошта насіцца, калі можна і там.

— Хай на кухні, вам меншы клопат, — сказаў ён.

Яны пайшлі — Ларыса першая, ён за ёю, а сабака — следам за ім. У Рамейкі жыло недарэчнае чаканне, што вось зараз гэтая чорная сучка-даберман схопіць яго за калошу штаноў, але па тым, як гаспадыня смела давярала свайму сабаку, мог толькі здагадвацца, што на такое яна не здольна.

Кухня была дакладна такая, як і ў яго, толькі столік стаяў не пры акне, як у яго, а пасярэдзіне, упрытык да ўнутранай сцяны, і таму здавалася цяснейшай — мо нават таму, што быў большы халадзільнік.

Злева стаяла палічка для посуду з квяцістай фіранкай, а ў кутку за плітой Рамейка ўбачыў прыстасаванне, якога ён не бачыў даўно, з таго часу, як выехаў з вёскі. У іх гэта называлася стойкай — для малых дзяцей, якія ўжо могуць стаяць, але яшчэ не ходзяць. Цяпер у дзірцы, куды ўстаўляецца малое, стаяла міса, у якой кармілі сабаку.

Гаспадыня ўбачыла яго пільны погляд у куток за пліту, моўчкі ўсміхнулася.

— Сядайце вось тут, — паказала яму, а сама села насупраць плячыма да акна. А сабаку загадала: — Магда, ляжаць!

І тая паслухмяна лягла пры стале — так, каб быць паміж госцем і гаспадыняй.

Стол быў засланы палатняным абрусам, вышытым дробнымі палявымі кветкамі вяночкам — вышыты ўмела, з густам. Злева ад сподачкаў ляжалі згорнутыя канвертам-трохкутнікам адпрасаваныя накрухмаленыя сурвэткі, таксама з вышыўкай.

— Хто вышываў? — неяк само сабой сарвалася з языка ў Рамейкі.

— Я сама. Хто ж мне вышые? — адказала гаспадыня.

— Прабачце, падумаў, што мо куплялі. Не падазраваў, што вы ўмееце вышываць.

— Я ўсё умею. Жыццё навучыла.

— І дровы калоць умееце? — спытаў з усмешкай.

Яму было дзіўна, што гэтая беларучка, дачка гарадскіх настаўнікаў, умее вышываць, умее ўсё рабіць сваімі далікатнымі рукамі.

— А што тут такога? Вось да гэтай кватэры мы жылі ў доме з печкамі, дык даводзілася ўсяго — старэйшы хлопец быў у арміі, а гэты яшчэ малы... Усё сама рабіла.

— Дык колькі ў вас хлопцаў — я так і не ведаю.

— Няўжо? А мне здаецца, што ўвесь свет ведае, — неяк стушавалася і нават як бы засаромелася яна. — Двое хлопцаў у мяне, ні многа ні мала. — І, нібы папярэджваючы ўсякія другія пытанні, якія могуць яшчэ быць у госця да яе, тлумачыла далей: — Адзін ужо жанаты старэйшы, з сям'ёю жыве тут, пры мне, і малодшы таксама, яшчэ вучыцца ў тэхнікуме, будзе будаўніком. Вось якая я багатая...

— А што, і праўда! Два сыны — гэта вунь якое багацце. А колькі ўнукаў?

— Усяго адна ўнучка.

— Малавата, але не сумуйце, яшчэ ўсё наперадзе.

— Ды ўжо ж, буду яшчэ багацейшая.

— Смех смехам, а гэта і ёсць галоўнае наша багацце: дзеці, унукі...

— Каб жа так яно было...

Яны пілі чай, гаварылі. Успаміналі школу, настаўнікаў, сяброў і знаёмых. Землякоў, якіх многа жыве ў Мінску і якіх даводзіцца бачыць у тры, у пяць гадоў раз. А каб запрасіць у госці, пагаварыць, пасядзець спакойна — то ўсё няма калі.

Сучка нечакана пачала церціся носам яму аб нагу.

— Хоча гасцінца... Можна ёй даць што-небудзь? — спытаўся ў гаспадыні.

— Чаму ж не? Яна возьме.

Рамейка намазаў маслам кавалак батона, даў з далоні сабаку. Магда ўзяла далікатна, як нехаця, але праглынула хутка, не жуючы. Зноў лягла і пазірала то на яго, госця, то на гаспадыню, нібы чакаючы каманды.

— Мне здаецца, што вам з ёю шмат лішняга клопату, — сказаў Рамейка гаспадыні.

— Для мяне дык ён не лішні, а нават прыемны. У мяне нешта сялянскае ёсць у натуры — я люблю ўсё жывое. У мяне былі нутрыі, каты, вожык, вось сабака, гэта ўжо другі. Быў маленькі, трапіў пад машыну... Дзеці аж плакалі... Трусіная гаспадарка ў мяне была. Сякі-такі даход прыносіла...

— Ну, ніколі не думаў, што вы такая... — дзівіўся не на жарт Рамейка. — Каб вы ды займаліся гадоўляй нутрый, трусоў! Уявіць немагчыма!

— Нічога тут дзіўнага няма. Трэба было выкручвацца...

Раптам сучка ўсхапілася на ногі, кінулася да дзвярэй, але чамусьці не брахала.

— Чуе, што свой ідзе, — растлумачыла гаспадыня.

Хутка рыпнулі дзверы, нехта прыйшоў, сучка тут жа вярнулася на кухню і лягла на ранейшае месца.

— Віталік прыйшоў, — сказала гаспадыня.

Праз хвіліну на кухню зайшоў высокі барадаты хлопец, чарнявы, даўганосы, і паставіў на халадзільнік сетку з бутэлькамі малака.

— Добры дзень, прыемнага апетыту, — сказаў ён.

— Зноў ты гэтага кумысу накупляў, — папракнула яго маці, калі ён ужо ішоў з кухні. — У халадзільнік не ўбіцца.

Але сын не абазваўся і знік у сваім пакоі.

Рамейка сядзеў, як аглушаны. Перад вачыма стаялі дзве скалечаныя дужыя рукі: на левай, здаецца, засталіся два пальцы, а на правай — укарочаны ўказальны і вялікі.

— Што гэта ў яго... з рукамі? — І хацелася, і страшна было пытацца пра такое, бо ведаў, што закране балючую рану. Аднак жа не мог не спытацца — ад гэтага нікуды не ўцячэш.

— На Поўначы служыў... Трапіў у аварыю. Вось і абмарозіўся, — адказала, панурыўшыся, Ларыса. Яму здалося, што на вачах у яе закруціліся слёзы. Яна памаўчала, пямешвала лыжачкай чай, якога ўжо нямнога засталося ў шклянцы.

Рамейка ўжо каяўся, што запытаўся ў яе пра такое. Ні піць, ні есці яму больш не хацелася.

— Вы даруйце, што я так неасцярожна... сыпнуў вам солі... — няўпэўнена пачаў Рамейка, не знаходзячы патрэбных слоў, каб супакоіць яе, а не зрабіць балюча яшчэ раз.

— Нічога, нічога, — загаварыла яна спакойна, нібы здагадаўшыся пра яго думкі і настрой. — Цяпер ужо нічога. Рукі загаіліся — і душа зажыла. А тады... Думала, што не пераживу — бачыць, як з яго рук костачкі выходзілі... Ды і сам ён быў на мяжы... А цяпер вось астояўся. Ажаніўся, мае дачку, вучыцца ў інстытуце, канчае праз год...

Рамейка толькі ўздыхнуў:

— О, чалавек — гэта сіла! Многа ён можа вынесці, як толькі захоча.

Гэтым ён як бы хацеў сказаць, што вось яна вынесла гэтулькі, што хапіла б на траіх, а яна гадавала адна дзяцей, вывела іх у людзі, а тут яшчэ трэба перажыць такую бяду з сынам.

Ларыса толькі ўсміхнулася на яго словы.

— Захоча — тут як сказаць. Тут хочаш — не хочаш, а будзеш несці тое, што табе наканавана. Незалежна ад таго, хочаш ці не хочаш.

— Але другі на вашым месцы мог бы зламацца, так ці не?

— Ну, у мяне мо трохі мацнейшы хрыбет, чым у каго іншага. Таму і цягну.

— А я, прабачце мне за маю слепату, лічыў вас беларучкай, — прызнаўся Рамейка.

Ларыса ціха засмяялася.

— Вось ужо кім не была, дык не была. Неяк усё не выходзіла. Даводзілася маім рукам больш чорнага, чым белага.

Але скаргі на лёс Рамейка так ад яе і не пачуў. «Дык вось якая ты беларучка, зямлячка», — з нейкім змешаным пачуццём радасці і крыўды падумаў ён.

## 10

Жывучы ў горадзе, нават былому селяніну сенакос можна прапусціць, не заўважыць, але не давалі гэтага зрабіць бацькі ў вёсцы: клікалі на дапамогу. Грошы — глупства, у іх саміх ёсць грошы, але паспрабуй найміі — няма каго. Памагчы тут можна толькі ўласнымі рукамі.

Рамейка звычайна падбіраў сабе адпачынак на сенакос, так прымяркоўвала і жонка, але ў гэтым годзе ім разам ісці не выпадала, і Рамейка выбраўся да цесця адзін. Праз які тыдзень мелася прыехаць на вёску малодшая дачка, у якой скончылася школа.

Як заўсёды, адпраўляючыся ў вёску, Рамейка купіў кілбасы, селядцоў, батонаў і булак, цукерак для цешчы і пляшку гарэлкі для цесця. Жонка дадала нейкіх там кофтаў, адзежак, бялізны для бацькі — і багаж атрымаўся хоць не надта вялікі, але ёмкі.

І вось аўтобусам Рамейка коціць па магістралі Мінск—Масква ўбок Оршы, дзе жывуць жончыны бацькі.

Дарога заўсёды супакойвала Рамейку, і за гэта ён яе любіў. Мільгалі за акном краявіды, вёскі, гарадкі, мільгалі сустрэчныя машыны, а думкі яго паволі набывалі нейкі адзін стройны кірунак, як гэты вось аўтобус, у якога была адна мэта — Орша.

У арбіту яго думак ужо трывала ўваходзіла Ларыса Ланеўская, яго зямлячка. Хоць, здавалася, што яму было да яе — і наадварот?

Ён перабіраў у памяці ўсё да драбніц з той іх апошняй сустрэчы, калі заходзіў да яе і яны разам пілі чай. Тое, што яна гаварыла, што рабіла, у што была апранута і як выглядала, як паводзіла сябе, засела ў яго памяці, як зафатаграфаванае, і было з ім неадлучна, саграваля яго душу, весяліла і бадзёрыла: аказваецца, ёсць яго зямлячка Ларыса Ланеўская, якая была, жыла і дагэтуль, але недзе далёка-далёка, і ён толькі часам у думках успамінаў пра яе, ведаў, што яна жыве, а як жыве, чым, якія ў яе клопаты, трывогі і праблемы, ён не ведаў і таму быў абыякавы. Цяпер ён убачыў зблізку, на свае вочы, і зразумеў, што яна — мо чалавек нават незвычайны, але лёс, жыццё яе склалася не так, як трэба, інакш яна пайшла б далёка, раскрыла б сябе хоць у чым-небудзь, бо ў школе вучылася добра, прыгожа спявала

і танцавала, малявала і іграла на піяніна, любіла кнігі і многа чытала. Аднак жа няўдалае замужжа павярнула яе жыццё не туды — і яна вымушана была адна гадаваць дзяцей, выводзіць іх у людзі. І ўсё гэта на зарплату медсястры, беручы па паўтары, а то і па дзве стаўкі. І вось жа выстаяла, не звіхнулася, не пайшла па слізкай дарожцы. І нават выглядае не горш, чым тыя, што жывуць у раскошы. За думкамі не заўважыў, як праляцела дарога. Вось ужо і знаёмы прыпынак ля яе вялічкага пасёлка. Рамейка просіць шафёра спыніцца, той нехаця, з кіслым тварам прыпыняе аўтобус, Рамейка дзякуе, саскоквае з падножкі і пускаецца пешкі па селавой дарозе, якая ідзе лесам. Лес тут, праўда, не густы, не стары — пераважна маладняк, што ўзяўся пасля вайны, але ўсё ж такі лес. Як і той, у якім вырас Рамейка, і таму дагэтуль у лесе ён маладзее душою, прачынаюцца ў ім нейкія нябачныя струны, якія пераклікаюцца, утораць музыцы лесу, нараджаючы тое суладдзе, якое зачароўвае чалавека, узнімае яго на сваіх крыллях, нясе ў невядомае, прывабнае, шырокае, як акіян, і бясконцае, вечнае, як сусвет, як космас.

З аднаго боку дарогі густа буяў маладняк, ягады яшчэ былі зялёныя, але завязі як усыпана; там, дзе радзей раслі дрэвы, цвілі-раскашаліся лясныя травы — амежнік, сіняя лясная валошка, жоўты яркі кураслеп, кустамі ў цені алешніка лапушыўся чыстацел, вылучаючыся сваімі шэрымі, з матавым налётам зубчаста-рэзанымі лісцямі.

Птушкі не спявалі — бралася пад абед, стаяла цішыня і спёка. Рамейка скінуў пінжак, перакінуў цераз плячо, пайшоў памалей. Хацелася прысесці, адпачыць, але і цягнула хутчэй адолець дарогу.

Старыя жылі ў невялічкім, на хат дзесяць паселішчы, які ўжо збіраліся зносіць, і ўсе, хто меў сілу, — пераважна маладзейшыя — перасяліліся на цэнтральную сялібу калгаса, а тут засталіся адны пенсіянеры, якія, як і бацькі яго жонкі, дажывалі свой век і не хацелі скранацца з месца.

Іхняя хата стаяла крайняй ад лесу, была ўжо, як і яе гаспадары, старая, але дагледжаная: пафарбаваныя на блакітнае вокны, плот не надта каб паламаны, хоць ужо і такі, што кожны год трэба замяніць тры-чатыры штыкеціны, дах шыферны, яшчэ даволі свежы — не так даўно перакрывалі.

Рамейка ўзышоў на ганак і свіснуў: на дзвярах вісеў замок. Дзе ж яны маглі падзецца? Глянуў у хляўчук насупраць хаты — каровы на месцы не было. Зарохкалі два белыя ладныя падсвінкі, кінуліся да краю загарадзі, нібы чакаючы гасцінца, — пранізалі яго круглымі шрацінамі сваіх дзікіх вачэй. Рамейка выйшаў, прычыніўшы хлевушок, пахадзіў ля хаты, вызірнуў на ўтравелую вуліцу, падышоў да блізкага калодзезя, выкруціў вядро вады і напіўся. Вада была халодная, але з прымессю нейкай солі, якая збівала смак, рабіла ваду нейкай непітной — яе п'еш толькі па неабходнасці, а не са смакам, у ахвоту, калі кажуць, што п'еш і хочацца.

Ён толькі выліў ваду з вядра ў траву, як тут жа ўбачыў, што з лесу па дарозе ідуць двое з кароваю і цялушкаю. Так і ёсць — гэта яго цешча і цесць. Ён вёў на вяроўцы карову, а старая несла нешта ў лазовым кошыку — ці не крапіву для парсюкоў.

Пярэстая — белае з рыжым — карова была, як лось — блішчэла на сонцы, высока трымала рагатую галаву і аж цягнула старога на повадзе — рвалася да калодзезя. Рамейка ведаў, што яна злая, нікога з чужых не падпускае да сябе і кідаецца з рагамі, таму адразу нейк міжволі наструніўся, выкручваючы новае вядро — ужо для каровы і чакаючы, калі яна падыдзе. За крокаў трыццаць ад калодзезя карова рэзка крутнула галавой, тузанулася — і вяроўка выскачыла з рук у старога, а жывёла трушком скіравала да калодзезя.

Рамейка ўжо чакаў яе з вядром вады, паставіўшы яго на траву. Карова з прагнасцю, не адрываючыся, з усхліпамі, апаражніла вядро і, коса глянуўшы знізу ўверх на Рамейку, пайшла на яго з рагамі. У яго нешта ўсярэдзіне пахаладзела, у галаве прамільгнула: ну вось, дурныя жарцікі, — і ён, сам таго не чакаючы, кінуўся да каровы, цэлячы схапіць яе за рогі. І ўхапіў, але недакладна — злавіў толькі канцы рог, вострых і цвёрдых, як жалеза, хацеў крутнуць, але карова апярэдзіла яго — сама крутнула галавою, трохі падаючыся на яго, і ён паляцеў назад, ажно сеў і праехаўся па траве, паспеўшы ўсё ж падперціся ззаду рукамі. Як пантэра, ён тут жа ўсхапіўся, рыхтуючыся яшчэ раз паўтарыць прыём, а карова, ужо з большай злосцю, зноў пайшла на яго, але раптам тузанулася і стала.

Да затуманенай шаленствам галавы Рамейкі толькі цяпер дайшло, што гэта паспеў схапіць жывёлу за вяроўку яго цесць. Ён даволі спакойна для такой сітуацыі прывязаў карову да слупа ля калодзезя, перацягнуў яе пару разоў палкай па спіне, сказаўшы «Стой, дурная ваўкарэзіна», — і падышоў да Рамейкі, падаў руку. Рамейка ў нейкім парыве, яшчэ не астыўшы ад сутычкі з каровай, моцна абняў яго і пацалаваў — можа, нават і свайго збаўцу, бо чым усё скончылася б — яшчэ невядома. Затым падышоў да цешчы, забраў у яе даволі цяжкі кошык і, прытуліўшы старую да грудзей, пацалаваў таксама.

— То хадзем у хату, — першы азваўся цесць, — чаго мы тут пасталі, як на праяву.

Рамейка неяк раптам адышоў ад напругі, расслабіўся, нейкая хваля радасці хлынула на яго — як пасля небяспекі, якая мінулася, надыходзіць усведамленне таго, што ўсё абышлося добра.

— Не ўжо, давайце напоім карову і цяля, — не згадзіўся Рамейка.

— Тады я прынясу вядро, — сказаў стары і пачэпаў да хаты.

Быў ён сярэдняга росту, шырокі ў касці, плячысты, апрануты ў картовую шэрую вылінялую і пабітую потам на плячах рубашку, у такія ж картовыя няпэўнага колеру штаны, запраўленыя ў кірзачы, што з магазіна ні разу не чысціліся, на галаве сядзела прапацелая зверху цёмная кепка. А цешча была хударлявая, тонкая і ўжо зусім слабая — як на нogі, так і на галаву. Вось яна пазірае на яго, а не ведае, хто ён і чаго тут. Мо потым раптам нойдзе на яе прасвятленне і яна спытаецца нечакана: «Чаго ж ты, Алеська, адзін прыехаў? А дзе ж мая дачушка Маня? Дзе ўнукі?» А потым зноў забудзецца і можа спытаць у мужа: «Павел, а чаго гэты чалавек у нас? Што яму трэба?»

Але жыццёвы інстынкт ці рэфлекс у яе быў магутны: падаіць карову, накарміць свіней, курэй, ката, зварыць абед мужу і сабе, — усё гэта сядзела ў яе памяці моцна, хоць гаспадар ужо і стараўся памагчы, а часта і замяніць яе.

Стары прынёс вядро, Рамейка зноў падышоў да калодзезя і стаў даставаць ваду. Карова касілася на яго, але, прывязаная да слупа, стаяла спакойна. Яна выпіла яшчэ вядро, а цялушка толькі пакаштавала — ёй ваду падагравалі або нават падлівалі малако ці рабілі пойла, таму і расце, як на дражджах.

Старыя пайшлі ў двор, павялі карову ў хлеў, а Рамейка зачэрпаў яшчэ вядро і панёс у хату.

У драўляным будынку нават здавалася, што на дварэ няма ніякай спёкі — так тут было свежа, стаяў такі прыемны халадок. Толькі на кухні дыхала цяплом ад печы, якую ў вёсцы паляць кожны дзень, — нават і летам.

Рамейка выклаў на стол усе свае гасцінцы, цесць злёгку паўшчуваў яго, што дарэмна яны трацяцца на такія рэчы, што ўсё ў іх ёсць, наадварот, гэта яны павінны пасылаць ім у горад, а не з горада, жывучы на зарплаце.

Такія размовы Рамейка чуў не раз і не два, аднак заўсёды, едучы сюды ці да сваіх бацькоў, нешта прывозіў, бо як гэта ехаць да сваіх людзей ды нічога не ўзяць з сабою? Яны ж таксама не адпусцяць з голымі рукамі. У гэтым было нейкае як бы таптанне на месцы, але і нешта большае, значнае: змацоўвалася іх крэўная сувязь, якая без такіх вось узаемных абменаў стала б слабець, а то нават і зусім магла б заняпасці.

Урэшце, пакуль гаспадыня даіла карову, яны, мужчыны, збіралі на стол. А стол ажно гнуўся: і ад гарадскіх гасцінцаў, і ад дамашніх: масла, сыр, смятана, яйкі, сала. Але ўсё гэта было ёлкае, зацвіўшае, пакрытае плесняй. Раней, калі гаспадыня была здаровая, то масла і сыры насіла прадаваць у раён, а цяпер — спажываюць толькі самі, а што псуецца — то аддаюць свінням, курам, а добрае — сваім дзецям, якія час ад часу прыязджаюць з унукамі з гарадоў, вось як сёння ён, Рамейка. І як ты ні будзеш выкручвацца, а з сабою ў сумку пакладуць кавалак сала, масла, сыру ці яек. Не возьмеш — то пакрыўдзіш людзей.

— Нешта ж доўга няма маёй, пайду пагляджу, — затурбаваўся цесць і пайшоў у хлеў. Праз колькі часу яны вярнуліся ўдваіх: ён нёс поўнае вядро малака — белы шум ажно выпадаў праз верх.

Старая працадзіла малако і спаласнула марлю-цадзілку, уселіся за стол. Хоць і горача на дварэ, лета, сярэдзіна дня, але ж святая нядзеля, ды і госць у хаце — і цесць паставіў на стол тую пляшку, што прывёз яму Рамейка. Старой дастаў недзе прыхаванага напітку.

— Ну што, бацька і маці, за ваша здароўе, — падняў чарку Рамейка.

— Якое тут здароўе, — махнуў леваю рукою цесць, бо ў правай трымаў чарку. — Яшчэ я сяк-так клеваю, а Юстына мая ўжо зусім ашлягла, не ведаю, як далей і рады даць. — Ён выпіў чарку, задумаўся, выцер далонню потны белы лоб і такую ж незагарэлую лысіну, якія так вылучаліся на загарэлым і абветраным маршчыністым твары, потым узяў скрылік гарадское кілбасы, укусіў. — А як жа вы там, ці ўсе здаровыя? Расказвай, — падахвоціў ён Рамейку, бо ведаў, што зяць не вельмі любіць гаварыць пра сябе, пра сваіх.

Рамейка ўзяў жоўценькае, як усё роўна пафарбаванае вялікае яйка, спачатку пазубаваў яго — праверыў, ці моцнае, а потым стукнуў аб стол, садраў разбітую лушпіну, сыпнуў трошкі солі і са смакам пацягнуў у рот, пасля дадаў хлеба. Апаражніўшы яйка і кінуўшы лушпіну ў качарэжнік, ён пачаў гаварыць:

— Мы здаровы, нічога сабе... Дзеці растуць, вучацца. Што ім? Усё ёсць, толькі вучыся... А мы таксама — ходзім на работу, глядзім дзяцей. Здаецца, усё нармальна, — і асёкся: усё сказаў, больш няма чаго дадаць.

А думкі былі неспакойныя: не ўсё нармальна. Нават вельмі ненармальна, бацька, каб ты толькі ведаў. Ты мо толькі здагадваешся, бо ад цябе нічога не ўтоіш, нездарма жыццё пражыў. Ды і дачка, відаць, сёе-тое калі не казала, то намякала. Ёй даўно ўжо здаецца, што яе муж не глядзіць на яе, адбіўся ад рук і недзе завёў сабе каханку. Так яна думала і гаварыла яшчэ тады, калі ён нічога падобнага не меў, то што думае цяпер, калі ён стаў часта вяртацца дадому позна, ды яшчэ п'яны?

І недзе толькі пасля трэцяй чаркі, калі абодва захмялелі, у іх пачалася шчырая гутарка, бо дагэтуль за ўсе дваццаць год, як яны сталі сваякамі, не гаварылі яны так пра Маню — яго, Рамейкаву, жонку, і яго, Паўлаву, дачку.

Бацька дачку хваліў, хоць і не ўтойваў сяго-таго кепскага ў ёй, бо хто лепей ведае сваіх дзяцей, як не бацька ці маці? Ды маці часамі, аслепленая

любоўю, не заўважае кепскага ў сваім дзіцяці, усё ёй здаецца ў ім толькі добрым, а бацька глядзіць на сваіх дзяцей больш крытычна.

— Маня на сваю матку, на маю Юстыну падобна, як мне здаецца. Усе яе замашкі — і добрыя, і кепскія. Неспакойная, непаседлівая — і сама не адпачне, і табе не дасць. Будзе падганяць, будзе варушыць — аж часам абрыдне. І сам ведаю, што трэба тое, трэба гэта, — не, будзе сто раз табе дудзець... Але работу любіць. Мая Юстына то даходзіць да смеху з гэтаю работаю. За кароваю, за свіннямі ці курамі то сама паесці забываецца. От глядзі, — і паказаў вачыма на старую, — накрышыла місачку хлеба — гэта ўжо курам панясе. А сама толькі твае гарадское кілбасы пакаштавала. Нічога не хоча есці, таму і слабее, сохне на вачах... Відаць, ужо нядоўга ёй засталося... Ой, колькі яна гэтай работы перарабіла! Чацвёра дзяцей выгадавала, у людзі вывела, унукаў колькі даглядала, нянчыла, пакуль магла... Работа — то для яе ўсё жыццё. Бывала, пайду касіць, то кажу — ты, прынясі мне сняданак, не хочацца валачыся з балота за блізкі свет. Спячэш якіх блінцоў. Ну, кашу, паглядаю на сонца, чакаю... Дзе там! Няма і няма, порткі ўжо не трымаюцца на жываце, пад абед бярэцца. Прападзі ты! Іду дадому. А яна свіней корміць — ім бульбы напарыла, натаўкла, схадзіла ў лес крапівы нарвала, тое-сёе — і раніца прайшла, а нам снядання яшчэ не зварыла... Ну, часам зазлуеш, накрычыш. То крыўдуе, нябось... Ай, каб ты здарова была! Як гэта самой сабе шкадаваць? Часам нешта прарываецца ў ёй — нейкая скупасць, прагнасць. Я заўважаў во цяпер ужо, як з ёю горш стала. Хто прыедзе, павесіць тут, у гэтай хаце, плашч ці пінжак, то ўсё з кішэняў падастае і пахавае. Ледзве потым знойдзем. Ці цукерак дзеці прывязуць... То пахавае так, што сама не знойдзе. Нядобра, нядобра...

Пра гэта ўжо Рамейка ведаў, расказвала і сама Маня, і дзеці, калі тут былі. Дзіўная рэч адбываецца з чалавекам: тое, што раней мо нават і не было відаць у ім, тое, што ён умеў хаваць ад усіх, пад старасць, вось у такім стане, калі ён ва ўладзе ўжо толькі інстынктаў, а не розуму, яны кіруюць ім, ён робіцца іх слугой.

— Ці гэтая карова, што сёння на цябе кінулася, — гаварыў стары, як бы вінавацячыся перад зяцем, што ў яго такі звер. — Яшчэ добра, што так скончылася... Ой, магла б бяды нарабіць...

— Ну што вы, ці я не ведаю, што карова за звер? — не згадзіўся з ім Рамейка. — Мне не раз даводзілася брацца за рогі з каровою. Памятаю, раз купілі карову ў сваякоў у суседняй вёсцы, вялі з бацькам дадому... Ніяк не хацела ісці, усё вярнула назад. Дык я як узяў яе за рогі, як крутнуў, то яна і лягла на бок. А потым пайшла, як міленькая... Ды тады я быў яшчэ, можна сказаць, смаркач, меў гадоў семнаццаць. Рослы быў, але худы...

— Ну, ты і цяпер худы нешта. Хіба апетыту няма? — спытаўся цесць.

— Не, на апетыт не скарджуся, вы ж самі бачыце, але знарок не хачу аб'ядацца, каб не растаўсцець. Што гэта за мужчына з чэравам?

— Кінь сябе мучыць! — махнуў рукою цесць. — Як хочаш есці, то і еш... Ну, давай яшчэ па адной.

Яны зноў выпілі, сталі закусваць ужо нехаця.

— Дык вы нешта пачалі пра карову, ды я перабіў, — нагадаў цесцю Рамейка.

Той памаўчаў, падумаў, прыгладзіў некалькі валасін на лысіне і загаварыў зноў:

— Карова як звер, як лось. Малаком залівае. Але сена вунь колькі з'ядае за зіму, цяпер на вяроўцы да яе як прывязаны. Навошта яна нам такая?

Нам казы хапіла б! То не, не хоча расставацца, яшчэ і цяля пакінулі — з-за яе, — паказаў вачыма на жонку. — Ніяк не хоча змірыцца, што ўжо старая, што сілы ўжо няма. І не дакажаш — у слёзы...

— Праўда, клопату вам лішняга многа, — згадзіўся Рамейка і глянуў цесцю ў вочы, нібы хочучы, каб ён прыслухаўся да яго. — Хоць мне і няёмка пытаць, а ўсё ж такі... Як вы былі маладыя, ці раўнавала вас жонка да другіх?

Цесць выцер рукавом рубашкі вусны, зірнуў спадылба на яго, усміхнуўся, што азначала, відаць: зразумеў, куды хіліш, — і сказаў з развагай, як заўсёды ён рабіў:

— Ведаеш, сыне, не было ёй калі рэўнасцямі займацца, жылі мы роўна, мірна, толькі часамі на яе находзілі нейкія страхі, калі яна пачынала за мною прыглядваць, рознае ёй пачынала здавацца... Ці мо хто на вуха нашэптваў... Але потым зноў супакойвалася... Ды я сам, прызнаюся, не даваў поваду для рэўнасці... Хоць, што грэх таіць, часам і было — пашкадуеш якую кабеціну. Але ж гэта, як кажуць, гады ў рады, — скончыў стары і неяк нават як засаромеўся свае шчырасці, правёў далонню па твары і зняў з яго ўсмешку няёмкасці.

«Пашкадуеш якую кабеціну...» — як мудра сказана, — падумаў Рамейка. — А хіба пашкадаваць чалавека — грэх?»

Доўга, да позняга вечара прагаварыў тады Рамейка з цесцем.

А заўтра яго чакала касьба.

## 11

Вяртаўся з вёскі Рамейка памаладзелы, пасвяжэлы, загарэлы, як цыган — не толькі з твару, але і на целе, бо ён біў двух зайцоў адразу — і касіў, і загараў, хоць па медыцыне гэта лічыцца шкодным для здароўя. Ён толькі надзяваў на галаву цесцеў саламяны капялюш.

Ехаў прыгарадным цягнікам. У Барысаве зрабіў перасадку на электрычку, сядзеў і драмаў. Людзей у вагоне было нямнога, усе сцішыўшыся сядзелі невялікімі купкамі ці па адным, як Рамейка.

Недзе ў Жодзіне ў вагон увалілася шумная кампанія маладых хлопцаў, вясёлых, добра падпітых. Яны селі праз пару купэ ад Рамейкі, адразу пачалі гуляць у карты, весела рагаталі на ўвесь вагон. Толькі адзін, пяты, быў лішні і сланяўся без занятку, пераходзіў з аднаго месца ў другое — нібы шукаў шчаслівага. Гэта быў сярэдняга росту юнак, добра апрануты: дарагі шэры, адпрасаваны касцюм, белая кашуля, і з твару выглядаў інтэлігентна. Няйначай, з рабочых — які токар ці пекар, але выпіў дома ў маткі і бацькі — і ўжо яму тут цесна, многа энергіі, а дзе яе падзець? І вунь як хочацца маладому хлопцу паказаць сябе, паказырыцца.

Урэшце ён падсеў да маладой жанчыны, якая ехала з дзіцем. Дзіця мірна спала на лаўцы, а маці сядзела збоку, у нагах. Спачатку ўсё ішло нармальна, але праз колькі часу хлопец палез да маладой жанчыны абдымацца. Яна папрасіла яго прыняць рукі, але ён ужо ўваходзіў у азарт, стаў гаварыць такія слоўцы, ад якіх вянуць вушы...

Рамейка ўвесь напяўся, як тады, калі на яго збіралася кідацца карова, і толькі чакаў моманту, каб умяшацца. А мо яны разыдуцца мірна? Не, хлопец выходзіць ужо за рамкі прыстойнасці, гэтага яму нельга дараваць. Рамейка, як па сігнале трывогі, падхапіўся з месца, у тры крокі апынуўся ля хлопца і моцна схапіў яго абедзвюма рукамі за штрыфелі пінжака.

— Ты чуў, што табе сказалі? — са злосцю прашыпеў ён у твар хлопцу і скалануў яго, як мяшок, які ўтрасаюць, каб у ім стала менш насыпанага туды збожжа ці бульбы.

Рамейка не паспеў заўважыць, як побач з ім апынуліся тыя хлопцы, што непадалёку гулялі ў карты, як яны акружылі Рамейку і таго свайго сябра і жанчыну, нешта гаварылі, крычалі, разнімалі ці мо наадварот, лезлі біцца, але з іх слоў да свядомасці Рамейкі даходзіла адно слова «вусаты», паўторанае некалькі разоў, ён адчуў дотыкі іх рук да свайго цела, але не балючыя — значыць, яны не біліся. І тут голас маладой жанчыны ўзвысіўся над усім шумам і гамам:

— Хлопчыкі, хлопчыкі, адыдзіце, не трэба, не трэба падымаць шуму! — і яна выпіхвала іх з купэ, а разам з імі і таго, з-за каго ўсё пачалося.

І Рамейку яна таксама прасіла супакоіцца і дзякавала за ўмяшанне і заступніцтва.

Ён, як у трансе, падпарадкоўваючыся яе словам, пайшоў на сваё месца, да сумкі, якая стаяла ля лаўкі. Сэрца яго моцна білася, адразу ўзняўся ціск — у скронях ажно звінела. Але праз пару хвілін паволі супакоіўся.

Хлопцы зноў узяліся за карты, а іх шумны таварыш улёгся недзе на лаўцы спаць.

Маладая жанчына прысела па-ранейшаму ля свайго дзіцяці, якое, нягледзячы на шум і гвалт, які тут быў нядаўна, нават не прачнулася.

Здаецца, што нічога і не адбылося — пасажыры як драмалі па адным ці купкамі на сваіх лаўках, так і не зварухнуліся.

А цікава: каб хлопцы пачалі яго біць? Ці знайшлося б тут некалькі чалавек, каб заступіцца за яго ці хоць бы разбараніць? Рамейка, калі зрываўся з месца, пра гэта не думаў, але ў падсвядомасці жыло, што ён тут не адзін, што праўда на яго баку, ён абараняе жанчыну-маці — і яго падтрымаюць. Хоць у жыцці ён ведаў нямала выпадкаў, калі людзі заставаліся глухія да чужое бяды. Бо і праўда, каму гэта хочацца з-за некага, зусім незнаёмага чалавека, лезці ў гісторыю, якая можа скончыцца невядома чым? Самы лепшы спосаб — перачакаць. Не чапаюць мяне — то і добра. Зачэпяць — буду бараніцца — або ўцякаць... Тыповая хутаранская пазіцыя...

Калі пад'язджалі да Мінска, Рамейка зноў наструніўся. Ён падумаў, што хлопцы пойдуць следам за ім, як гэта водзіцца ў такіх выпадках, будуць даганяць яго ў цёмным месцы, але яны не спяшаліся выходзіць з вагона, і Рамейка іх болей не бачыў.

Дарога здалася яму сёння цікавай і не такой доўгай, як звычайна. І мо яшчэ каб не гэтая сутычка, то ён адчуў бы, як заўседы, балючы для яго пераход ад вясковага ладу жыцця да гарадскога, калі раптоўна і гвалтоўна ў яго душы, у памяці адны малюнкі павінны замяніцца другімі, новымі, якія нічуць не лепшыя за тыя, што жылі ў ім гэты тыдзень і якімі ён жыў, аднак жа яны часовыя, і апошняе слова — за новымі, гарадскімі.

Давялося доўга чакаць тралейбуса, і Рамейка дабраўся дадому ўжо ў дванаццатай гадзіне.

Жонка яшчэ не спала, нібы ведала, што ён прыедзе — ляжала на раскладной канапе і чытала.

Нечым новым павеяла на Рамейку, нібы ён не быў тут цэлы год.

— Уставай, павячэраем разам, — падняў яе Рамейка, — я прывёз гасцінцаў. Вунь якія смачныя.

А сам пераапрануўся ва ўсё дамашняе — шырокія шаравары, безрукаўку няпэўнага колеру, але бліжэй да шэрага. Потым памыў рукі, стаў рас-

пакоўваць сумку-сідар: дастаў кавалак сала, галушку масла, літровы слоік смятаны, клінковы жоўты, ужо трохі цвілы сыр, — адным словам, шчырыя дары вёскі.

— А яшчэ — пляшку самагонкі, — Рамейка патрос пляшку перад сабою, — бацька недзе раздабыў, хоць і сказаў, што цяпер не гоняць — поўнасцю перайшлі «на чарніла», — жартам гаварыў Рамейка жонцы, якая на доўгую начную кашулю апранула светлы халат і выйшла на кухню. Яна выглядала стомленай і пахудзелай. — Ты часам не хворая?

— Будзеш тут здаровы ад такога жыцця. — І яна звяла на грудзях свой халат, нібы ёй было холадна.

Ён насцярожыўся, агледзеў яе ўважліва, але нічога падазронага, акрамя таго, што ўбачыў адразу, не знайшоў. Хоць, здаецца, была ў яе нейкая прыхаваная думка, нібы яна ведала нешта важнае, але рабіла выгляд, што ўсё так, як яна кажа. Няўжо што разведала за гэты час? Не можа быць, каб яна не праверыла некаторых сваіх сумненняў, каб не схадзіла па яго слядах ці, ва ўсякім разе, не пастаралася іх разблытаць. Не такі гэта чалавек, што будзе сядзець, склаўшы рукі, калі яе нешта турбуе. Ці мо, чаго добрага, тая дурніца Нона Варанчак прыходзіла? Ад той можна ўсяго чакаць. Прыйдзе і скажа ў вочы: «Аддай мне свайго мужа, калі не ўмееш цаніць».

— Што-небудзь на рабоце?

— Ат, усякія дробязі... — ухілілася яна ад адказу. — Лепш раскажы, як там старыя.

Ужо не раз Рамейка нават сварыўся з жонкай, што проста некультурна так называць сваіх бацькоў — і сваіх, і яго. Старыя, або дзед, баба, — проста рэзалі яму слых і рвалі нервы, а яна ці не хацела пераходзіць на новую форму звароту, ці проста не магла.

— Старыя, гэта значыць, твае бацькі, — знарок падкрэсліў Рамейка, — перадаюць табе, апрача гасцінцаў, шчырае прывітанне. Жывуць яны па-ранейшаму, маці слабая, але яшчэ сёе-тое робіць, а бацька — малайцом: і матку даглядае, і ўсю гаспадарку. Агітаваў я яго збыць карову, ён як бы і сам згаджаецца, але, мусіць, маткі пашкадуе, бо тая ні за што не хоча разлучацца з каровай.

— Дакажаш ты ім, а як жа, — неяк абыякава сказала жонка і, глянуўшы на ўсе гасцінцы, што ляжалі на стале, абурылася: — Навошта гэтулькі набраў? Я табе што заўсёды кажу: не смей браць нічога!

— Дзівачка, я ж не браў цэлы воз. Узяў трохі, каб не пакрыўдзіць бацькоў. Яны ж не хочуць, каб ім дарма памагалі, яны не прывучаны да такой раскошы. Няўжо ты гэтага не ведаеш?

Жонка прамаўчала. Яны выпілі па чарцы «сельгаснапітку», абое паморшчыліся: быў ён моцны, але трохі прыпалены, відаць, роблены па метадзе «з катла», а не «з бражніка», як гэта рабілі ці робяць у некаторых мясцінах.

Праз колькі часу Рамейку стала неяк весялей, наступіла расслабленне, з'явіўся апетыт, і сялянскія закускі падаліся вунь якімі смачнымі — не тое, што ў вёсцы.

— Ну, як ты тут змагаешся? Чаму Лена не прыехала? — спытаўся Рамейка, бачачы, што жонка сёння нешта не дужа ахвочая да гутаркі. — І як яна здала?

— Хіба цябе гэта цікавіць, як яна здала? — пачала з апошняга жонка, няйначай, каб укалоць мужа.

— Ну, я ж такі, — знарок у тон ёй загаварыў Рамейка, — ты ж мяне ведаеш... Дык як здала? Як і вучылася?

— А ты чаго захацеў? Пяцёрак? Для гэтага ёй трэба было мець не такога, як ты, бацьку...

Рамейка не чакаў такога павароту — яго проста абурыла.

— Дык чаго ж ты не знайшла ёй другога бацьку? — спытаўся ён груба, гледзячы ў вочы. Яна маўчала. — А мо болей залежыць ад маткі? Мо каб ты не курыла, яна была б здаравейшая? Ды каб ты яшчэ яе грудзьмі карміла, як другія маткі...

Гэта ўжо кранула за жывое і жонку.

— У дурнога салаўя дурная песня, — ледзь стрымліваючы сябе, каб не ўзарвацца, сказала рэзка. — Усё якраз ідзе ад цябе: ты не быў тады зношаны, як атопак, збегаўшыся за гэтымі сваімі каханкамі... А цяпер звальваеш на мяне. Але не паможа: Бог і людзі бачаць, які ты муж, які ты бацька.

Усё ішло да таго, што вось зараз разгарыцца сварка, але Рамейка сёння не хацеў, каб яна разраслася, хоць і ўтрымацца не змог, каб не падліць масла ў агонь.

— Збегаўшыся? Ды гэта ўсё таму, што ты мяне ў чорным целе трымала... І трымаеш. Вось чаму! Мне адна кабета проста ў вочы сказала: «Пераходзь да мяне, я з цябе зраблю мужчыну, а то твая скупая жонка цябе засушыць, імпатэнтам зробіць...»

І полымя адразу шуганула — аж пад неба! Жонка ўскочыла, кінула аб стол відэлец, той падскочыў і са звонам паляцеў на падлогу.

— Дык ідзі да тае шлюхі! Ідзі хоць сёння, я цябе трымаць не буду! — закрычала яна ўжо з істэрыяй у голасе. — І так ты тут лічышся мужам і бацькам, а душы тваё тут няма, даўно няма! Ідзі.

Рамейка наліў у чаркі, сказаў цвёрда:

— Супакойся! І сядзь, як чалавек. Чаго цябе дрэнчыць?

Яна паслухмяна села, не зводзячы з яго вачэй, дрыготкімі рукамі стала запальваць папяросу, зацягнулася пару разоў і паспакайнела.

— Давай вып'ем і пагаворым спакойна. — А сам думаў: няўжо яна што ведае? Па ўсіх яе паводзінах, па настроі — як быццам ведае. А мо ўсё тое ж ранейшае — падазрэнне? Хутчэй за ўсё — і таму гэтае чаканне: а можа, ён прагаворыцца? Скажа нешта лішняе, за што можна будзе ўчапіцца, — як довад, як доказ? І вось ужо ёсць: «Адна... мне казала». Чым не доказ, што ў яго ёсць пасія, як яна кажа?

І таму яна ўжо хацела, відаць, каб ён пайшоў далей, каб раскрываўся яшчэ болей. І падштурхнула яго — смялей!

— Дык чаго ж ты цягнеш? Чаму не ідзеш да той, што абяцала цябе зрабіць мужчынам?

Рамейка толькі цяжка ўздыхнуў.

— Каб было да каго — пайшоў бы...

— Як гэта — каб было? Што — у цябе іх мала?

— Ды хапае, але каб жыць па-чалавечы — такое няма, — неяк зусім мірна і, фактычна, шчыра гаварыў Рамейка, ды яна, пэўна ж, не верыла.

— А, разумею: усё шукаеш кахання! Хваробу знойдзеш! Яго няма. Пустыя ілюзіі.

— А мне здаецца, што ёсць.

— Уся і бяда, што табе нешта здаецца. Не жывеш, як чалавек, а ўсё ганяешся за нейкімі хімерамі. Што табе трэба, я хачу ведаць!

— Магу сказаць, чаго мне трэба: даверу, шчырасці, кахання, цеплыні.

— Ой, многа хочаш, чалавеча! А дзе ты быў раней? Чаму не бярог усяго гэтага, што ў цябе было?

— Дваім трэба ўсё гэта берагчы, дваім. Адзін не дасі рады. Адзін нават не завядзеш таго, што трэба чалавеку. Чаму ты перастала мне верыць? Скажы мне шчыра!

— Таму што ты стаў няшчыры, стаў гаварыць няпраўду. Я цябе злавіла пару разоў на хлусні — і перастала табе верыць. Спачатку ў малым, а потым і ў вялікім.

— У цябе былі пустыя падазрэнні. Беспадстаўныя. Чаму ты мне не гаварыла тады, а толькі цяпер, праз дзесяць і больш гадоў? Ты ўхапілася за тую фразу, якую я аднойчы сказаў Місюку, — што, маўляў, возьмеш пляшку ў кішэню і пойдзеш вечарам на праспект, то і знойдзеш сабе пару? Дык ты падумала, што гэта я са свайго вопыту гавару? Дурная! Гаварыць можна ўсё. І думаць таксама. А вось рабіць трэба сумленна.

— Ха-ха! Ён загаварыў пра сумленне! Чулі вы, людзі? — яна зрабіла тэатральны жэст праваю рукою, у якой трымала папяросу. — Рамейка ўрэшце загаварыў пра сумленне! Яго ў цябе ніколі і не было, проста ты ўмеў спрытна прыкідвацца! Усяго толькі! І я, дурная, паверыла ў гэты твой хітры падман, думала, што знайшла шчасце. Ажно...

— Ах, бедная! Расчаравалася! Думала, што знайшла сабе пакорлівага слугу, чорнага парабка, на якім можна толькі ехаць: каб ён рабіў, прыносіў зарплату, гадаваў дзяцей, а сама — вольная птушка, раблю, што хачу... А ён пачаў дабівацца роўных правоў, яшчэ захацеў нейкага кахання, шчырасці, цеплыні...

— Не пляці лухты, слухаць моташна! — закрычала зноў жонка. — Калі ты прыносіў усю зарплату? Калі ты гадаваў дзяцей? Ты жыў і жывеш, як чужы! Як чужаніца! Я не ведаю, як я жыла з табою, я не бачыла ні твае цеплыні, ні ласкі, ні шчырасці, ужо не кажучы пра каханне. Ты мне нічога гэтага не даваў! Таму і я табе не давала! Плаціла табе той жа манетай.

Рамейка рэзка ўзняў галаву, пранізліва глянуў на жонку.

— Вось як? А я думаю: чаго мая Маня такая нейкая вечна халодная, такая фрыгідная, як медыкі кажуць. А яна мне плаціць тою ж манетаю! Якою гэта тою? Хіба ў нас на пачатку не было таго, што трэба? Я верыў, што і каханне ў нас будзе, і шчыры быў з табою, душу ўсю табе аддаваў...

І яго панясло, як калёсы з гары, — не спыніцца. Быў у яго словах боль, была крыўда — што ўсё патраціў дарма, што страціў гэтулькі сілы — а навошта? Каму стараўся? Дзецям? Што дзеці? Хіба яны ацэняць? Хіба мо некалі, як паразумнеюць, як разбяруцца, дзе праўда, дзе крыўда. А могуць і не разабрацца... Тады яшчэ большая крыўда — што даверыўся чалавеку, які цябе не зразумеў, ці не захацеў разумець, не ўбачыў у табе таго, чым ты даражыў, для чаго жыў: душы твае не ўбачыў. Як магло такое адбыцца? Як і чаму?

Рамейка гаварыў шчыра, мо трохі ўзнёсла. А жонка сядзела і задуменна курыла, пускаючы дым пад столь, і ніводная жылка на яе хударлявым твары не ўздрыгнула; і яе спакой Рамейку проста даводзіў да шаленства: ён ведаў, што яго словам яна не верыць ні на грош. Таму ён ужо з раскаяннем, праўда, запозненным, ацаніў сваю тыраду як стрэл з гарматы па вераб'ях. Гэтулькі пораху патраціў — і ўсё марна!

Але, мусіць, не марна! Яна затушыла папяросу, выкінула яе ў фортачку, зноў села за столік, наліла ў чаркі — сабе і яму.

— Дык ты скончыў сваю пропаведзь ці не? — спыталася, нібы збіраючыся яго паправіць ці разбіць яго довады.

— Скончыў, бо бачу, што гэта пустая гаворка.

— О, тут ты сказаў праўду, а што гаварыў дагэтуль — лухта! Сабачы брэх!

І тут Рамейка не стрымаўся, адвёў руку і стукнуў ёй па шчацэ.

— Перастань! — крыкнуў пераселым голасам. — Бо я не ручаюся за сябе!..

Сэрца ў яго гатова было разарвацца — аж не хапала паветра, аж стала горача ў горле: у гэтую хвілю, каб ён даў сабе волю, невядома што мог бы зрабіць. Не, такога дзікага шаленства ён не адчуваў ніколі, нават сёння ў электрычцы.

Яна, як загіпнатызаваная, глядзела на яго акруглелымі вачыма, маўчала, хоць было бачна, што нейкія словы ці крык круцяцца ў яе на языку, але яна не мае сілы, каб павярнуць ім, каб паварушыць пасінелымі вуснамі. Нарэшце прарвала:

— За што, паразіт? За што?.. — спытала і задыхнулася.

— За твой подлы, хлуслівы язык, за тваю няпраўду! Вось за што! Ведай! — і ён плюнуў, павярнуўся і пайшоў з кухні.

Што ў такія хвіліны робяць людзі? Робяцца ненармальнымі, напэўна! Яшчэ нейкі маленькі паварот, яшчэ адна неасцярожнасць — і ўсё магло пайсці прахам. Ды яно, лічы, і пайшло — і без маленькае неасцярожнасці. Тут і так ясна, што камень раскалоўся па самай сярэдзіне — і яго не склеіш. Няма такога клею на свеце, каб склеіць. Нічога не паможа.

## 12

Астатак адпачынку ў Рамейкі прайшоў неяк непрыкметна — з'ездзіў яшчэ да сваіх бацькоў, але ўжо на сена спазніўся, скасілі і без яго, потым пабыў у аднаго прыяцеля, з якім некалі разам вучыліся, той працаваў вясковым настаўнікам — цікавы і вясёлы чалавек, — і ўсё, трэба брацца зноў за работу.

Цяпер пайшла ў адпачынак жонка, забрала меншую дачку і паехала да бацькоў, старэйшая была ў будаўнічым студэнцкім атрадзе недзе на Смаленшчыне. Рамейка застаўся адзін. Гэта было вельмі дарэчы: трэба падумаць, сабрацца з думкамі і рашаць, што рабіць і як жыць далей. Нешта трэба мяняць у яго шэрым існаванні, так цягнуць далей немагчыма, інакш можна дайсці да чорцікаў.

Лета па-ранейшаму было сухое і спякотнае, без пары пачала спець збажына на полі, яшчэ нават добра не наліўшыся. Год намячаўся цяжкі — як для жывёлы, бо сена не ўсюды парасло, пераважна толькі на нізінах, па паплавах, дзе вышэй — выгарала, так і для людзей — недабор зерня будзе вялікі, тым болей, што Паволжа і цаліну таксама засушыла.

Два дні, што заставаліся да работы, Рамейка не ведаў, як дабіць: схадзіў на возера, але народу было так шмат, што яму рабілася моташна — хацелася як найхутчэй уцячы ў спакайнейшае, зацішнейшае месца. Але дзе яго знайсці? Хіба ў лесе, пры вадзе? Але колькі гэта кіламетраў трэба туды дабірацца? Дома таксама было душна і горача, дом, здаецца, ажно плавіўся, дымеўся на сонцы, хоць ён і быў з бетонных панеляў, а вады, як на тое, няма — на дзвярах у пад'ездзе вісела аб'ява, што ў сувязі з рамонтам сеткі вады не будзе яшчэ цэлы тыдзень.

Рамейка хадзіў па кватэры ў адных плаўках, лаяўся на чым свет стаіць, шукаў сабе ўтульнага месца — і ніяк не знаходзіў. Нешта яму было так кепска, так цяжка, што хоць вый воўкам. Здаецца, чаго болей трэба: адзін,

сам сабе гаспадар, рабі што хочаш, ідзі куды хочаш... Дык не, нешта як знарок сядзіць у ім і бракуе ўсе яго варыянты, якія прыходзяць у галаву.

Ну хоць бы гэты — схадзіць да Ноны Варанчак... Не... Нават не хочацца пра яе і думаць.

Пазваніць хіба Ларысе Ланеўскай? Але што ёй сказаць? Што сумуе без яе? Самая звычайная банальшчына. А што другое ён можа сказаць? Што прапанаваць? А як яна скажа яму — не траць дарма часу? Пустыя думкі, пустыя турботы...

А найлепей было б пажыць аднаму. Адпачыць душой і целам, ачысціцца ад усяго дробязнага, што накіпела за гэты час сямейнага так званага шчасця, адчуць свабоду, дыхнуць ёю на поўныя грудзі. Не жыць пад вечным страхам за заўтрашні дзень, што там нешта знасілася, нешта парвалася, нешта трэба купляць, нешта рабіць — дробнае, мізэрнае, непрыемнае, да чаго твая душа не ляжала і не ляжыць, але ты павінен гэта рабіць, каб не было звягі, каб цябе не папракалі, што ты не ўносіш свае долі ў сям'ю, што не думаеш, не дбаеш пра гэты чортаў заўтрашні дзень і чорную гадзіну, якая ўсё недзе цябе чакае, якою цябе вечна страшаць, прападзі яна пропадам!

Час падумаць, Рамейка, над тым, што ты зрабіў, што ты яшчэ можаш зрабіць, што павінен зрабіць.

Тое, што зрабіў, няма чаго і ўзважыць, калі гаварыць пра культуру, літаратуру, якой ты служыш. Рэдагаваў, выдаваў... Гэта мог бы зрабіць горш ці лепш кожны іншы рэдактар, чалавек. А вось як творца, як перакладчык? Што ты выдаў такога, каб людзі ахнулі, ажно вачам не паверылі? Нічога — ніякага, адно глупства — усё толькі каб заткнуць дробныя дзюркі ў сямейным бюджэце. Дык ці для гэтага ты жыў, жывеш, ці для гэтага ясі хлеб, зроблены рукамі твайго працавітага народа? Чым ты яму адплаціў, дзе праславіў яго і ўзвысіў — так, як ён таго заслугоўвае?.. Не праславіў, не ўзвысіў — нават не аддзячыў за тое, што ён табе даў: вывеў у людзі, даў хлеб і работу, вышэйшую адукацыю. Не думай, што гэтага ўсяго дабіўся ты сам. Гэта заслуга ўсяго народа, усяе нацыі, ты гэта павінен памятаць, Рамейка, калі ты лічыш сябе сынам гэтае зямлі, патрыётам свае Беларусі. Бо ты вучыўся, а нехта павінен быў у гэты час працаваць і за цябе, каб дзяржава давала табе стыпендыю, а тваім выкладчыкам — зарплату, каб выдавала кнігі для бібліятэк, у якія ты хадзіў, каб будавала інтэрнаты, у якіх ты жыў. Не забудзься пра гэта, Рамейка! Дык калі, калі ты скажаш сваё важкае дзякуй гэтым мільёнам сваіх братоў за тое, што далі табе ўбачыць святло навукі, што памаглі прылучыцца да яго душы — культуры, што складае самую сутнасць народа, нацыі? Вось над чым падумай, Рамейка! Ці не час табе ўзяцца за нешта значнае, важкае, што надоўга застанецца, запомніцца і не забудзецца? Ці не перакласці табе з той жа польскай мовы, якую ты некалі вучыў з такой неахвотай, перакласці з гэтай мовы на сваю, беларускую, таго ж Адама Міцкевіча, які жыў на нашай зямлі, любіў яе і многа напісаў пра яе? Узяць таго ж «Пана Тадэвуша»? Што ты скажаш на гэта?

А мо ўзяцца табе за прозу пані Элізы? З паэзіяй, ды яшчэ такой, як у Адама, табе не справіцца, не той у цябе хрыбет, а вось тут ты змог бы! Пані Эліза, Эліза Ажэшка... Яна таксама вырасла на нашай зямлі, таксама пісала пра нас, беларусаў, і калі палякі ведаюць Ажэшку, то яны ведаюць і беларусаў, бо лепшая яе проза — пра іх, сялян і парабкоў з наваколля Гродна — «Дзюрдзі», «Хам», «Над Нёманам», — усё гэта пра нас. І яшчэ ніхто з нас не аддзячыў гэтай светлай, далікатнай пані Элізе за яе вялікую пачэсную працу. Дык чаму не быць першаму табе? Хоць раз ды будзь першы!

Колькі можна сядзець у цені, у цяньку, калі гаварыць больш справядліва. Вось табе хутка пяцьдзесят. Адкладваць няма куды, няма! Не забывайся, што ўжо едзеш з горкі, а з горкі вунь як хутка каціцца. Не заўважыш, як апынешся там, адкуль не вяртаюцца. Вунь ужо колькі тваіх сяброў-аднагодкаў перайшло за тую рысу, што падзяляе свет на гэты і той.

Так што падумай, Рамейка! А ўрэшце, што тут доўга думаць? Трэба закасваць рукавы — ды за работу. Не адкладваць на заўтра, як ты гэта ўмееш...

Рамейка так увайшоў у сябе, што не адразу разабраў: здаецца, нехта звоніць. Прыслухаўся: і праўда, доўгі прарэзлівы званок у дзверы. Ах, чорт, як недарэчы! І трэба ж некаму якраз у такую часіну!

Ён нехаця ўстаў з канапы, нацягнуў шаравары і босы, голы да пояса пайшоў у прыхожую. «А мо не адчыняць? Каму я здаўся? Які-небудзь паштальён? Ці мо прыехаў сваяк — мой ці жончын? Паступаць у інстытут...»

Ён адчыніў дзверы — і ледзь не ахнуў: перад ім стаяла Нона Варанчак!

У паўзмроку калідора нават не было відаць, ці хвалюецца яна, ці перажывае свой такі вар'яцкі крок. Яна была ў светлай палатнянай сукенцы, у белым капелюшы з вялікімі палямі — ад сонца, з сумачкай — таксама светлай, нейкай надта пузатай, як напампаванай.

Яны абое, як анямелыя, маўчалі, можа, з хвіліну ці болей, і першай загаварыла яна:

— Добры дзень... Я да вас...

Голас прыдушаны хваляваннем, вочы неспакойна бегаюць, — няйначай, баіцца, што прагоняць. Нават не спыталася, ці ён адзін, ці няма жонкі, сям'і. Ну і разведка працуе!

— Заходзь, — выдыхнуў Рамейка, прапусціў яе ў прыхожую і зачыніў дзверы. Калі ён толькі яе ўбачыў, адразу нешта як сціснула сэрца, а цяпер чамусьці стала лягчэй: праціўнік знаёмы.

— Я на секундачку, ты не хвалюйся... — і яна крутнула галавою, як некага шукаючы, глянула на сябе ў люстэрка, паправіла капялюш.

— Ды ўжо ж, як-небудзь вытрымаю, — Рамейка нават усміхнуўся ёй, а яна яму. — Ты пачакай тут, — ён завёў яе ў пакой-залу, — а я апрануся.

Зайшоў у свой кабінет, нацягнуў тэніску, глянуў на сябе ў люстэрка, здаўся сабе напалоханым, крыва ўсміхнуўся: «Ну, трымайся, Рамейка!» Узбуджанасць і нейкую трывогу ён адчуваў — недарэмна яна прыйшла сюды, на такую рызыку не ідуць з-за глупства. Тут — нешта надта сур'ёзнае. А ён лічыў, што ўжо ўсё скончылася ў яго з Нонай. Які наіўны!

Аднак жа — будзь смелы, Рамейка!

Падбадзёрыўшы сябе, ён зайшоў у залу. Яна хадзіла па пакоі — павольна, як супакойваючы сябе.

— То сядай, — сказаў, паказваючы на канапу. — Пагаворым. Ці памаўчым? — спытаўся з інтанацыяй.

Яна села першая, ён прысеў ля яе, пакінуўшы між сабою і ёю месца на чалавека.

— Сядзь бліжэй, не бойся, — папрасіла яго лагодна. — Я не стану табе грубіяніць, вось пабачыш... Я настроена зусім мірна.

— Нешта я цябе не пазнаю, — з недаверам гледзячы на яе, сказаў Рамейка і трохі пасунуўся — на паўчалавека: ён гаспадар і павінен быць гасцінны ці хоць памяркоўны.

— Ты мяне мала ведаеш, Алеська. І гэта кепска. Калі і ведаеш, то толькі з аднаго боку.

— Якога ж такога?

— Ну, з гэтага самага... сексуальнага.

— Гэта ўжо нямала...

— Яно так, але ведай, што жанчына — айсберг, відна толькі адна чвэрць, астатняе — схавана...

— Пад вопраткай? А калі без?..

— Твой жарт пашлаваты, але трапны. Я табе дарую за першым разам... Але і ты мне павінен дараваць...

— Што я павінен дараваць? — зірнуў ёй у вочы і ўбачыў не звычайную халоднасць, а нешта вельмі лагоднае, далікатна-пяшчотнае, што рэдка можна было ўбачыць у Ноны Варанчак.

— Ты мне даруй за той вечар, калі я не пускала цябе дадому, сюды вось, — яна павяла рукою па пакоі, як бы заклікаючы агледзець яшчэ раз небагатую яго мэбліроўку: стол, канапу, два мяккія крэслы карычневага колеру, дыван на сцяне, тэлевізар «Гарызонт» дзесяцігадовай даўнасці. — Я была тады зусім, ну... дурная, гаварыла абы-што... Зразумела: сілаю не будзеш мілаю. Так я кажу?

— Дапусцім, так, — ён не ведаў, куды хіліць Варанчак. — А што далей?

— Мужчыну не так трэба заваёўваць... як я тады... Павер мне — я добрая сэрцам, але жыццё зрабіла мяне такою... ядавітай, інакш бы мяне даўно ўжо з'елі...

— Дык што? — усё яшчэ не разумеў яе Рамейка.

— Што, што! — яна ўскіпела, але тут жа спахапілася, загаварыла зноў спакойна, але неяк шчыра, з пачуццём — Рамейка таксама бачыў такое першы раз: — Няўжо ты не бачыш, што я цябе люблю? Што жыць без цябе не магу? Навошта я кінулася ў гэты вір, навошта? А ты сам? Навошта ты разбіў маё сэрца?

«Ды яго разбівалі хто толькі не ленаваўся» — у злосці падумаў Рамейка і сказаў:

— Ніколі не думаў, што тваё сэрца так лёгка разбіць. Мне здавалася, што яго нават разбудзіць цяжка...

— Дык ты ж яго і разбудзіў! І разбіў! Я табе ўжо казала: ты перавярнуў мне душу. Я не магу без цябе... Што мне рабіць? Ты ж разумны чалавек — памажы мне, парай!

Рамейка маўчаў, хоць яму ўжо рабілася шкада яе: ён нават не падазраваў, што іх збліжэнне так балюча параніць яе псіхіку... А мо гэта толькі звычайная гульня? Пастка? І толькі той, хто, развесіўшы вушы, слухае і паверыць, трапіць у яе — і не вылезе. Хто скажа дакладна, што менавіта гэта і ёсць пастка, у якую трапляюць прасцякі?

— Што ж ты маўчыш? — ужо са слязамі на вачах пыталася Нона Варанчак. — Няўжо ты мяне ні кропелькі не любіш? Я ў гэта не веру! У нас былі такія хвіліны, якія без любві немагчымы... Пераходзь да мяне, кінь сваю жонку, бо дарма страціш астатак свайго жыцця. Кінь парабкаваць, будзь вольным мастаком, як я! Чуеш, Алеська? Я ж люблю цябе! Я зраблю ўсё, каб ты быў шчаслівы. Ты будзеш у мяне панам, а я — прыслугай...

«Мякка ты сцелеш, ды цвёрда спаць, — думаў Рамейка, выслухоўваючы спакойна ўсе яе абяцанні. — Упражыся толькі ў тваю калясніцу, то не выпусціш з ярма. Але ж нешта ты сёння і праўда мяккая». І адказаў:

— А калі ўсё тое, што ты гаворыш, — толькі словы, толькі твая хворая фантазія? Дапусцім, я пайду да цябе... А праз месяц мы пасварымся — і ўсё да д'ябла? Ты можаш паверыць у такі фінал?

— За цябе я нічога не магу абяцаць, а за сябе ручаюся, што так не здарыцца: я буду табе вернай, буду любіць цябе да смерці! Клянуся!

— А калі я не змагу цябе любіць так, як ты мяне? Што тады? Будзеш мне помсціць?

— Ты палюбіш мяне, я табе абяцаю, Алеська! Я ўсё зраблю, каб ты мяне палюбіў! Зраблю! Клянуся! Я стану перад табою на калені! Любі мяне! Любі-і-і! — і яна спаўзла з канапы, апусцілася на калені перад Рамейкам.

Ён разгубіўся — не чакаў такога павароту, — не ведаў, што рабіць, што гаварыць, што сабе парадзіць. О Божа! Такога з ім яшчэ ніколі не здаралася! Каб жанчына выпрошвала ў яго каханне? Проста цуд зямны, небывалы! Што ж гэта рабіць?

— Перастань, Нона, што ты так прыніжаешся! — і ён, седзячы, учапіўся ў яе рукі, стаў падымаць, але яна абвісла на падлогу, стала яшчэ цяжэйшай, потым абхапіла яго ногі, прыціснулася тварам да яго каленяў. Цела яе ўздрыгвала — яна плакала.

«Мо яе трэба чым абразіць ці пакрыўдзіць, тады яна зноў стане такой, як была?» — гарачкава думаў Рамейка, ужо, здаецца, сам гатовы расплакацца. Яшчэ трохі — і ён не вытрымае такога напору, скажа, што згодзен рабіць так, як яна кажа, што кіне ўсё і пойдзе да яе. Толькі каб скончылася гэтая драма...

— Не адштурхоўвай мяне, Алеська, інакш я загіну, вось пабачыш! Мне не хочацца жыць! Я проста не магу без цябе! Не магу! Няўжо ты гэтага ніколі не перажыў — калі без любімага чалавека нельга прабыць і гадзіны? — гаварыла і плакала яна ў яго ля каленяў, а ён сядзеў, як звязаны, нават не мог устаць — як у пастцы. Вось табе на!

— Нона, ну хопіць, перастань! — ён ірвануўся, устаў на ногі, зноў узяў яе за плечы і ледзь адарваў ад зямлі, пасадзіў на канапу. Задыханы, сеў каля яе, абняў: — Ты ўсё перабольшваеш! Мы кахаліся п'яныя, няўжо ты не можаш гэтага зразумець? А жыць і ўвесь час быць п'янымі проста нельга!

Яна раптоўна супакоілася, твар яе стаў суровы і злы — вось такой яна была для яго больш у натуры, як тая, што была нядаўна. «Ну, зараз нешта выпаліць» — прамільгнула ў Рамейкі ў галаве. І ён не памыліўся.

— Сухая ты вобла! Прыземлены, паўзучы рэаліст! Усё ты апашляеш, усё зніжаеш і прыніжаеш, з усяго скідаеш прыгожы флёр! Сляпы душою і сэрцам! Нуднік ты, вось хто ты! Ненавіджу цябе! Ідзі да д'ябла! — і яна адпіхнула яго ад сябе і рашуча ўстала: — Але не думай, што табе гэта так проста абыдзецца! Вось тут, — яна паказала на сваю пузатую сумачку, — ляжыць папера, якую я пашлю твайму дырэктару, пашлю копіі яшчэ сёму-тому з высокіх інстанцый — і ты загрыміш уніз, як гнілая калода. Ты зразумеў гэта ці не? Так што рашай: або мы будзем разам — і будзем шчаслівыя, або па адным — і няшчасныя?

Рамейка сядзеў на канапе, слухаў і не пазнаваў Нону Варанчак — такою яна яму яшчэ ніколі не паказвалася, — і праўда, што ён не ведае яе як след. А лепей было б, каб не ведаў і зусім... Яна думае, калі застрашыць, дык ужо Рамейка і падыме лапкі ўгору? Не, ты таксама яшчэ не ведаеш Рамейку.

— Мне здаецца, што ты мяне страшыш, Нона, — знарок спакойна і холадна сказаў ён, хоць голас прасіўся на крык, а сэрца пачало шалець у грудзях. — Але ведай, што мяне гэтым ніколі не возьмеш! Яшчэ ласкай, жалем, слязамі, чым хочаш — толькі не страхам.

— Даўбешка ты! — ускрыкнула яна. — Цябе нічым не праймеш! Бо да цябе цяжка даходзіць! Але дойдзе! Вось пабачыш! І яшчэ ёсць адзін вары-

янт, запасны! Запомні! Калі я скокну з восьмага паверха на асфальт і ў мяне знойдуць запіску, што ты вінаваты ў маёй смерці, ты, нябось, паскачаш!

Рамейка, як загіпнатызаваны, не адводзіў вачэй ад яе твару — ён быў рашучы, строгі і мо нават прыгожы, а вочы сталі вялікія, бліскучыя, яны нібы выпраменьвалі святло. І ўся яна была перад ім як багіня справядлівасці — і Рамейку стала ажно холадна. Але толькі на момант ён мог успрыняць яе сур'ёзна, яе словы зноў загучалі для яго як гульня, як шантаж, як фальш. Таму не раззлаваўся, не ўскіпеў, а нечакана зарагатаў.

— Дык каго ж ты хочаш пакараць? Сябе ці мяне? І навошта сябе? Хіба ж ты вінаватая?

Яна падышла і стала супроць яго.

— Хачу пакараць нас абаіх: сябе раптоўнай смерцю, а цябе — доўгімі пакутамі сумлення, калі яно ў цябе яшчэ засталося.

Рамейку здалося, што ў галаве ў яго нешта крутнулася.

— Як я бачу, ты майстар недазволеных прыёмаў... Ты можаш вывесці мяне з цярпення, хоць я гаспадар і павінен быць ветлівы, — ужо з пагрозай сказаў Рамейка і ўстаў.

Цяпер ужо зарагатала Варанчак — звонка, з'едліва, з насмешкай — і адышлася да акна, глянула ўніз.

— Гаспадар... ветлівы... Добра, што сесці запрасіў... Я цябе вінам, як вялікага госця, сустракала, а ты нават не ўспомніў, што я ў цябе таксама госця.

— Няпрошаная госця, ты забываеш, — паправіў яе Рамейка.

— Ах, я няпрошаная! Дзякуй табе, што ты нагадаў, хто я і хто ты... Я — нішто, гуляшчая баба, ты — самаўпэўнены надзьмуты бурдзюк, які думае, што ён самы галоўны на свеце і што ўсё будзе так, як яму пажадаецца, бо ў яго ёсць усё: кватэра, жонка, дзеці, пасада, грошы. Што грашыма можна ад усяго адкупіцца і за грошы можна ўсё купіць... Не, памыляешся, пцібуржуа, грошы — гэта ўсяго толькі ілюзія свабоды і шчасця. Свабода і шчасце якраз там, дзе іх няма, дзе імі і не смярдзела... Жыві і раскашуйся... — Яна адкрыла сумачку, пашукала там нечага, знайшла і кінула на стол. — Вось грошы, якія ты мне пазычаў. Дзякуй... Каб ведала, абышла б цябе за сто вёрст, абышлася б без тваё ласкі. Як-небудзь пражыла б... Ды што ўжо каяцца? Бывай, Алесь, бывай назаўсёды!..

Яна ўсхліпнула, закрыла твар далонню і асцярожна, як сляпая, пайшла да выхаду.

Рамейка моўчкі прайшоў за ёю, адчыніў дзверы. Нона Варанчак, не азірнуўшыся, дайшла да ліфта, націснула на кнопку. Загарэлася чырвонае вочка.

Ён зачыніў дзверы. І адчуў, што вось-вось упадзе — апанавала нечаканая слабасць.

## 13

Чалавек заўсёды, пакуль жыве, шукае свайго шчасця. Яго эталон, яго ідэал заўсёды ёсць у кожным чалавечым сэрцы. Рамейка думаў і лічыў, што ён як быццам шчаслівы, аказалася, што гэта была ўсяго толькі ілюзія шчасця.

Не будзе больш у яго сэрцы законнае жонкі Мар'яны, хопіць, што яна там і так доўга займала пачэснае месца. Ён прымаў яе дагэтуль як свайго, блізкага чалавека, аказалася, што яна была не такой, якою ён яе бачыў, ведаў; аказалася, што і яна ўспрымала яго не такім, якім ён быў напраўду, лічыла яго сваім ворагам, здраднікам. Чаго больш хацець? Цяпер ён такі, якім яна лічыла яго дзесяць і больш гадоў, цяпер яна можа сказаць, што

кажа праўду. Хай ён ёй здрадзіў, але толькі таму, што яна здрадзіла яму першая: адраклася ад яго — сумленнага, чыстага і ні ў чым не вінаватага перад ёю. Калі б яна больш верыла яму, мо не зрабіла б такога, тады не пайшоў бы і ён на крывую дарогу. А так — яны цяпер квіты. У душы ён нават рады, што змог пайсці на нялёгкі крок і зблізіўся з Нонай Варанчак.

Ён не стане тлумачыць сваёй Марыне, што яго пацягнула да Ноны, — мо проста жаданне ўбачыць жанчыну, зусім не падобную да Марыны. Як жанчына, яна і праўда не падобная да Марыны, але як чалавек — яны як родныя сёстры. Будзьце здаровы абедзве! Марыне ён удзячны за тое многае, што злучала іх і што злучыла назаўсёды, — за іх дзяцей.

Ноне Рамейка ўдзячны таксама — ён атрымаў урок, які шмат чаму яго навучыў, на многае адкрыў вочы. Ён убачыў і адчуў каханне, яго сілу і хараство, — убачыў яе каханне да яго, Рамейкі. Хай яна даруе яму, што ён не змог адказаць ёй тым жа, проста яна не была якраз той жанчынай, што зробіць яго шчаслівым да канца яго дзён. Ён амаль ведаў, што не знойдзе ў Ноне свайго шчасця, калі ішоў да яе, але нездаровая цікаўнасць павяла — і завяла надта далёка...

І ўсё ж ён не каецца, бо першы раз у сваім жыцці ўбачыў, як жанчына можа гарэць, як яна можа аддаваць сябе ўсю, без астатку, любімаму чалавеку — пры ўмове, што яна любіла яго.

І Рамейка паверыў у тое, што і ў яго ёсць такі агонь, што ён у ім не патух, а жыве, і што рана ці позна ён, Рамейка, знойдзе чалавека, якому аддасць увесь свой агонь душы без астатку, — і яны будуць шчаслівыя. Ён у гэта паверыў — і за гэта будзе заўсёды ўдзячны Ноне Варанчак.

Што ж цяпер, пасля развітання?

У дарогу? Відаць, так. Часу засталося няшмат. Часу мо зусім мала. Але адкуль урэшце мы ведаем, колькі яго засталося? Паўгода назад ён лічыў, што ён ужо ўвесь...

На даляглядзе яго жыцця ёсць адна зорка. Яна неяк то аддалялася ад яго, то набліжалася. Але яны не былі нават сябрамі, усяго толькі знаёмымі, землякамі. Яна — Ларыса Ланеўская.

Усё тое, што ён ведаў пра яе дагэтуль, было супярэчлівым. У яе было шмат добрых задаткаў, яна пасля школы паступіла ў інстытут, але хутка выйшла замуж — і яе жыццё неяк пайшло не туды, куды трэба. Усё пайшло наперакос. Ён ніяк не мог зразумець, як яна, маючы гэтулькі задаткаў, так марна растраціла іх, не ўзняўшыся на тую вышыню, на якую ўзнімаюцца звычайна такія вось адораныя прыродай людзі.

Няхай ён не дасягнуў вышынь і вяршынь — дык ён быў звычайным вучнем, звычайным студэнтам, і прынялі яго ў інстытут хутчэй за ўсё таму, што тады, пасля вайны, патрэбны былі кадры, іх патрабавала абяскроўленая народная гаспадарка, асвета, культура, іх трэба было аднекуль браць, рабіць як мага больш — і іх давалі, рабілі, штампавалі інстытуты і універсітэты. Вось чаму і застаўся ў горадзе Рамейка, хоць за гады вучобы нават і не падумаў, што стане гарадскім жыхаром, ён рыхтаваў сябе настаўнікам у вёску.

А яна, Ларыса Ланеўская, наколькі ён ведаў, была адорана сузор'ем талентаў. І вось фінал — медсястра з дваіма дзецьмі на руках. Гэта адно... А другое: шмат перажыўшы, вынесшы на сваіх плячах такі цяжар, ці не надарвалася яна, ці не страціла смаку да жыцця, ці не расчаравалася ў ім, ці не зламалася фізічна і маральна? Вось што цікавіла перш за ўсё Рамейку. Трэба праверыць, ці далёка ён ад праўды — і, пакуль не позна, памагчы...

Ах, якія мы часам няўважлівыя да другіх, калі ў саміх усё гладка і роўна! І толькі тады заўважаем хворых, калі самі захварэем і трапім у бальніцу ці ў паліклініку; толькі тады бачым латкі на штанах суседа, калі ў саміх няма за што купіць новае паліто. Памагчы... Ён і Варанчак хацеў памагчы, ды вось што атрымалася. Часам хочаш памагчы, а цябе не так разумеюць — і ўсё ідзе наперакос. Ці памагчы таксама трэба умець? «Не можаш памагчы, дык лепей памаўчы». Ды і якая б бескарыслівая ні была дапамога, недзе ўсё ж схавана і выгада таго, хто памагае: бач, які я добры, бач, у мяне ўсяго столькі, што я табе магу крыху даць. Ці па прынцыпе: кінь за сабою, знойдзеш перад сабою. Ці нават прасцей: я табе, ты — мне. Хоць нешта, хоць маленькае, хоць дзякуй — ды ты ўсё ж мне дасі, скажаш, дадумаеш. А калі нават такога, нязначнага не будзе — то які сэнс памагаць?

Аднак жа трэба было задушыць у сваім сэрцы гідру выгады і пачынаць без усякай надзеі нават на дзякуй. Калі ты чакаеш падзякі, то лепей нічога не пачынаць.

І ўсё ж ніяк не мог адагнаць ад сябе думкі, што яна, Ларыса Ланеўская, ацэніць яго ўчынак, зразумее яго парыванне і не застанецца ў даўгу — аддзячыць яму тым, чым можа аддзячыць жанчына мужчыну. Урэшце згадзіўся на такі варыянт: хай будзе так, як яна захоча. Аддзячыць — добра, не — яшчэ лепей. Ва ўсякім разе, да той удзячнасці яшчэ вунь як далёка — ён яшчэ нічога не зрабіў — ні добрага, ні кепскага.

Была субота, ён пазваніў, яна якраз была дома, на нядзелю, на ноч, збіралася на дзяжурства. Ён чамусьці хваляваўся, хоць увесь час лаяў сябе і супакойваў, што нічога сур'ёзнага не будзе і быць не можа, што тут ні яго лёс, ні яе лёс не рашаюцца, усё застанецца так, як было дагэтуль.

А збоку можна было падумаць, што ён самаўпэўнены, бывалы донжуан, які ўсё ведае і ўсё можа, асабліва па лініі спакушэння адзінокіх жанчын. Можа, яна так і думала, гледзячы на яго, але паводзіў ён сябе не груба, не нахабна, а як і трэба культурнаму чалавеку: еў у меру, піў памяркоўна, не перабіваў, калі яна гаварыла, даваў выгаварыцца да канца, часам штонебудзь пытаўся, наводзіў на тэму, якая яго цікавіла больш.

Неяк у яе ўсё было не так, як у Ноны, і тут ён быў зусім не такі, як там, — нават не пазнаваў сябе. Натуральна, што тут ён адчуваў сябе яе земляком, сялянскім хлопцам, а яна зноў жа была па-ранейшаму чалавекам з іншага асяроддзя, як з іншай планеты. Хоць ён ніяк не мог скінуць з рахунку, што яна ўжо зусім не тая, якой была больш як два дзесяткі гадоў назад. Аднак жа ён ніяк не мог адкінуць грузу мінулага — на яе ён глядзеў тымі і не тымі вачыма.

Паступова крок за крокам ён дазнаваўся пра яе жыццё, хоць за гэта трэба было выкладваць нешта і пра сябе, бо тут неяк само сабой выходзіць, што чалавек на шчырасць адказвае шчырасцю. Яны нават дзівіліся, як мала яны дагэтуль ведалі адно аднаго.

Ларыса Ланеўская, да прыкладу, вельмі здзівілася, што ён, Рамейка, трапіў у літаратурныя колы, а яна ўвесь час лічыла, што ён мо які-небудзь юрыст, міліцыянер ці нават з органаў дзяржаўнай бяспекі. Мо таму так лічыла, што ён здаваўся тады, у школе, вельмі строгім і прынцыповым і аднойчы на камсамольскім сходзе адвёў яе кандыдатуру ў камсоргі школы, сказаўшы, што ў яе малы камсамольскі стаж ды па сваім сацыяльным паходжанні яна таксама не надта падыходзіць.

Цяпер ён рагатаў з сябе, са свае прынцыповасці, а тады яна плакала, што ён перад усімі так прынізіў яе — і запомніла той выпадак на ўсё

жыццё. А ён сам, як ні дзіўна, забыўся пра той эпізод зусім — значыць, ён не быў тады на высокім напале пачуцця, бо тое, што яго моцна ўражвала, ён запамінаў назаўсёды.

Яшчэ ён даведаўся, чаму яна пайшла ў лесатэхнічны інстытут, а не ў які педагагічны ці ў політэхнічны на архітэктурнае аддзяленне ці ў тэатральна-мастацкі, хоць у яе былі схільнасці і здольнасці па адной, па другой і па трэцяй лініі. Пайшла яна на лес таму, што так захацеў яе бацька, які думаў зрабіць з яе лесавода, а пасля самому да яе перасяліцца на старасці гадоў. На першым курсе ў яе закахаўся іх выкладчык. Ларыса Ланеўская ўсур'ёз не хацела прымаць яго заляцанні, але зноў жа ўмяшаліся бацькі, і маці ў адны канцы захацела, каб дачка, доўга не думаючы, выходзіла замуж. Чаго болей хацець? Выкладчык, былы афіцэр-франтавік, паважаны чалавек, ды і прыстойны, прадстаўнічы: высокі, чарнявы, родам з растоўскіх казакоў. І стала маладая студэнтка жонкай выкладчыка, але вучыцца ён ёй не даў. «Будзеш гадаваць маіх дзяцей», — катэгарычна сказаў маладой жонцы. І яна стала гадаваць...

А калі Ларыса трохі жартам, а трохі ўсур'ёз сказала, што яна выйшла замуж за таго выкладчыка Сечанава з-за яго, Рамейкі, ён аслупянеў. Пры чым тут ён, Рамейка? Аказваецца, сувязь была, і яшчэ якая. Ён папракнуў яе паходжаннем: бацькі настаўнічалі яшчэ пры Польшчы, самі не з простых, не з бедных, а з багатых мяшчан... А тут яе бярэ пад сваё крыло былы франтавік, афіцэр, выкладчык, парторг інстытута. І не пабаяўся яе паходжання... Што ты цяпер скажаш, Рамейка?

Зноў яны смяяліся — ужо абое. Смяяліся над сабой — як усё тады было спрошчана.

Калі шчыра, то яна не крыўдуе на яго, Рамейку, бо ён і памог ёй многа. Яна лічыла, што менавіта такім і павінен быць камсамолец — смелым, прынцыповым і шчырым. І яна вучылася ў яго быць такою — прыйшоў час, і яна смела сказала ў вочы свайму тытулаванаму мужу, што не любіць яго. А калі ён зусім разбэсціўся, апусціўся і стаў алкаголікам, забрала дзяцей і разышлася з ім.

«Вось чаму ты не пераносіш паху гарэлкі», — толькі цяпер здагадаўся Рамейка.

Віна яны ў тую суботу раскаштавалі няшмат, пайшлі ў пакой. І сталі слухаць пласцінкі — грэцкую музыку і песні. І раней іх Рамейка неяк вылучаў з усяго, што чуў і ведаў, а цяпер слухаў з вялікім захапленнем — яны ўсе былі афарбаваны ў мінорныя тоны, вельмі адпавядалі яго і яе настрою. Нешта такое блізкае, такое роднае было ў гэтых мелодыях, своеасаблівых, горскіх, з нейкім як бы галашэннем, з нейкай як бы скаргай на лёс ці на долю, што ў Рамейкі ўвесь час закіпалі слёзы, — нібы гэтыя грэкі выказвалі, выспеўвалі яго душу.

Што галоўнае ў песні? — усплывала ў яго памяці спрэчка: словы ці мелодыя? Ён сам стаяў за тое, што мелодыя, а спявак — прафесіянал, саліст з хору Тэраўскага Шабуня даказваў, што галоўнае — словы... А вось тут слоў ён не ведае, а чаму ж так кранае яго песня, што пяецца проста і шчыра, без высокіх узлётаў, без асаблівай эквілібрыстыкі, — менавіта глыбока і шчыра і таму прыгожа, таму да болю шчымліва. «А вось гэтая песня — «Верабейкі з нашага двара» — пра наш Клецк, — сказала Ларыса Ланеўская, — і не толькі пра Клецк, а яшчэ болей пра...» — і яна недагаварыла, пра каго, пра што... І Рамейка не дапытваўся, ён ужо ведаў ці спадзяваўся толькі яшчэ, што не раз будзе слухаць гэтую песню і даведаецца ўсё, чаго не даведаўся за першым разам.

А цяпер яны сядзелі і слухалі музыку бузукі, слухалі не надта шырокія ў дыяпазоне, але надта багатыя, каларатурныя, каларытныя, трохі з усходнім налётам галасы грэцкіх спявачак і спевакоў, — і абое ўспаміналі сваю маладосць, сваё маленства, якое ўжо так далёка ад іх адляцела, ужо і маладосць вунь дзе — ажно не відаць! — а вось душы іх як быццам нічога не страцілі, а наадварот — набылі, узбагаціліся, напоўніліся да краёў дарагім сонечным нектарам, які можа перастаяцца, перабрадзіць, сапсавацца, калі не ў час яго раздарыць, раздаць людзям. Нешта падобнае адчуваў у сабе Рамейка і думаў, што Ларыса Ланеўская таксама думае і ўсё адчувае так, як і ён, хоць, безумоўна, такога напраўду быць не магло.

Неяк зусім нечакана для сябе, ахоплены пачуццём замілавання, ён абняў Ларысу, прытуліў да сябе і пацалаваў у шчаку.

Яна вырвалася ў яго з рук і, уся заірдзеўшыся, выскачыла ў другі пакой.

Рамейка ўжо лаяў сябе, называў апошнімі словамі, абяцаў сабе, што больш не ступіць сюды і нагою, — паказаў сябе такім паляшуцкім лапцем, што горш не прыдумаць. Ён чакаў, што зараз адчыняцца дзверы і Ларыса пакажа яму на парог. Яе не было доўга, і яго пачало непакоіць: што яна робіць, што думае? Можа, плача, мо праклінае яго? Адным словам, ён ужо быў упэўнены, што такі добры пачатак сапсуты і больш яму сюды дарогі няма! А гэтулькі было планаў — ружовых, вялікіх, неабдымных, і ўсе яны лопнулі ад яго неасцярожнага руху, лопнулі, як мыльныя бурбалкі. Ну хай бы ж ён быў хоць трохі стрыманы! Але... тут вінавата музыка.

І ён злавіў сябе на думцы, што глядзіць на свой учынак вачыма дваццацігадовага хлопца, які яшчэ нічога не паспытаў у жыцці і не ведае, з чаго што пачынаць. І чуць не разрагатаўся: ну і псіхолаг! Пражыў жыццё, а як дзіця! Аднак жа гэтая знаходка супакоіла яго ненадоўга. Пачуў крокі, устаў з крэсла, наструніўся, чакаў самага горшага. Дабра не чакаў, хоць спадзяваўся на яе літасць...

Не, здаецца, усё застаецца так, як было. Ларыса Ланеўская не падала нават выгляду, што зазлавала ці, наадварот, — ухваліла яго недарэчны жэст. Яна проста дыпламатычна прамаўчала, нешта стаіўшы ў душы, падышла да прайгравальніка і паставіла новую пласцінку — клавесінавую музыку, здаецца, Вівальдзі. І зноў яны сядзелі на крэслах амаль адно пры адным, локці іх часам дакраналіся, яны гатовы былі прасіць прабачэння адно ў аднаго і, наадварот, хацелі, каб іх локці сутыкнуліся яшчэ і яшчэ.

А шчымлівае і радаснае пачуццё ад таго, што ён абняў і пацалаваў яе, ужо жыло ў ім і не праходзіла, гэта было як нейкае новае ўзыходжанне на вяршыню, з якой яшчэ лепш відаць далягляды іх сяброўства, — Рамейка на большае не разлічваў.

Цяпер яго палохала адно нямалаважнае пытанне: што думае пра яго Ларыса, як адносіцца да такога факта, што ён, муж і бацька, прыйшоў да яе, чужое жанчыны, робіць выгляд закаханага ці нешта падобнае. Ларыса, ён адчуваў, можа вельмі проста спытацца ў яго: чаго ты прыйшоў да мяне? У цябе засталіся дома жонка і дзеці, ты — муж і бацька. Што ты ад мяне хочаш? І ты яшчэ дазваляеш сабе нейкія вольнасці? А вечарам будзеш хлусіць сваёй жонцы, што ты яе любіш?

Вось так магла сказаць Ларыса Ланеўская, і Рамейка баяўся, што кожную хвіліну ён можа пачуць ад яе такое ці нешта падобнае, мо толькі не такімі грубымі словамі, але сэнс будзе ясны і просты, ад гэтага не будзе лягчэй, Рамейка ведаў.

А мо яна змянілася за гэты час, стала зусім не такой, якой ён яе ведаў?

Здаецца, што не, інакш усё тут, навокал, ды і яна сама, было б іншым. Тут — сціпласць, нават, можна сказаць, беднасць, а яна, каб хацела, магла б... магла б мець нешта большае.

Такая жанчына, як яна, калі пажадала б, заўсёды жыла б не бедна, а мо нават больш — у раскошы. Аднак жа яна не хоча так жыць. Значыць, яна чалавек сур'ёзны і самае галоўнае — сумленны.

Як змянілася музыка — вясёлая бузука на шчымлівы клавесін — так, здаецца, памяняўся іх настрой. Ларыса была сумная, гатовая вось-вось заплакаць; нешта невыразнае рабілася і на душы ў Рамейкі. Ён не ведаў, як на яго тут глядзяць, ці сур'ёзна ўспрымаюць, і не ведаў, як паводзіць сябе: ці замольваць свой «грэх», ці мо «грашыць» і далей — галоўнае пачатак, а там неяк усё пойдзе. Потым падумаў: хай будзе тое, што ёсць, хай застаецца залатая сярэдзіна.

Клавесін Рамейка любіў, хоць у музыцы не вельмі разбіраўся. Даўно ўжо, яшчэ на пачатку работы, жыў на кватэры ў аматара-музыканта, у яго быў стары клавесін-фісгармонія, гаспадар у свята любіў пайграць і запрашаў на свае канцэрты і Рамейку. Гэта было сапраўднае свята музыкі. І сёння яму ўспомніліся тыя аматарскія канцэрты, у якіх мо не было высокага прафесіяналізму, але была душа, а душа заўсёды і ўсюды відна і чутна, і нідзе так невідавочная, як у музыцы. Калі ты з пустою душою, не бярыся за музыку, бо музыка твая нікога не кране.

«А што такое пустая душа?» — чамусьці падумалася Рамейку. Няйначай, душа, пазбаўленая спагады, жалю, спачування, а ўсе гэтыя праявы могуць быць скіраваны толькі на слабога, прыніжанага, няшчаснага, таго, хто пакутуе, хто бездапаможны і безабаронны. Калі няма ў цябе жалю да такіх — значыць, душа твая пустая, чым бы ты ні стараўся запоўніць,— золатам, диванамі, машынаю, дачай.

І Вівальдзі сваёй музыкай як бы пацвярджаў гэта, даказваў і пераконваў, што менавіта так яно і ёсць: любыя высокія матэрыі нішто ў параўнанні з самай звычайнай спагадай да чалавечага гора, з самым звычайным жалем да таго, каму балюча, каму цяжка — свой гэта ці чужы. Ён нібы гаварыў, што самая высокая, вялікая місія чалавека — гэта памагчы таму, хто ў бядзе, падаць руку таму, хто выбіўся з сіл; вывесці на дарогу таго, хто заблудзіў; выцерці слёзы таму, хто ў горы, у бядзе, а не па трупах, па касцях чалавечых ісці да свае так званае важнае мэты, якая мо апроч, як табе самому, больш нікому не прынясе шчасця і радасці. Дык навошта яна тады, твая высокая мэта?..

Ці тое хацеў перадаць Вівальдзі сваёю музыкай, Рамейка дакладна не ведаў, але здалося, што яму самому пачулася менавіта такое.

Скончыўся Вівальдзі — і Ларыса паставіла на прайгравальнік «Рэквіем» Моцарта, дзіўны твор з дзіўным лёсам, пісаны кампазітарам для кагосьці, хто не прыйшоў забраць гатовую рэч, але які затое прыдаўся самому кампазітару, калі яго праводзілі ў апошнюю дарогу.

Рамейка пачуў гэта ад Ларысы Ланеўскай, і яго страшэнна ўразіла, што ў жыцці могуць быць такія фатальныя збегі акалічнасцей. І мо таму ён слухаў яшчэ з большай пранікнёнасцю, чым звычайна, і ўражвала яго музыка геніяльнага кампазітара яшчэ больш, чым усё чутае дагэтуль. Плач па невядомым — плач па сабе. Змаганне з жыццём, змаганне з беднасцю, імкненне жыць па-чалавечы, жаданне быць зразуметым сваімі сучаснікамі і ацэненым па сутнасці — і поўнае расчараванне ў сваіх памкненнях, у жыцці, і вечная нястача, як фатум, як цень неадступны, што ідзе за падарожнікам

па спякотнай пустыні, — усё гэта ці нешта падобнае чулася Рамейку, калі ён зачаравана слухаў магутную трагічную музыку, што вадаспадам лілася на яго з дзвюх калонак — на адно вуха і на другое — і аж пранізвала яго навылет, ажно сыпала марозам па скуры. І, слухаючы гэтую магутную, як горны, абвал, музыку, Рамейка адчуваў нейкае вялікае ачышчэнне душы, катарсіс, як называлі такое пачуццё грэкі, усе яго вялікія і малыя беды бляклі і меркнулі перад веліччу і сілай гэтай мелодыі, якой наканавана бессмяротнасць разам з аўтарам. Вось якую трэба мець вялікую, глыбокую і чулую душу, каб так умець, так змагчы выявіць гора, няшчасце, бяду чалавека, чужога яму чалавека, якога ён нават не ведаў. Ён пісаў для другога, пра другога, а пісаў пра сябе, для сябе! І таму — для кожнага, хто хоць раз у жыцці быў нешчаслівы, пакрыўджаны, ашуканы, асмяяны дужэйшымі, хоць такімі ж людзьмі, як ён сам, толькі з чэрствымі душамі.

Як чытаеш цікавую кнігу і хочаш, каб яна як мага даўжэй не канчалася, так і Рамейка хацеў, каб «Рэквіем» гучаў бясконца, хоць слухаць яго было цяжка, часам невыносна цяжка, але гэта было нешта падобнае на салодкі боль.

Музыка змоўкла, надышла цішыня. Яны доўга маўчалі, седзячы нерухома, нібы страціўшы здольнасць варушыцца, гаварыць, разважаць і нават думаць. Толькі ніякімі словамі нельга выказаць таго, што яны, кожны пасобку, адчулі і перадумалі пад гукі музыкі і пасля таго, як яна скончылася.

Рамейка сёння, як ніколі дагэтуль, адчуў, наколькі душа чалавечая мацней за цела, відаць, нездарма людзі лічаць, што яна бессмяротная.

**14**

Балюча-жалобныя гукі «Рэквіема» адгукнуліся ў сэрцы Рамейкі недзе на пачатку верасня, калі ён дачуўся, што Нона Варанчак утапілася. Яна паехала да бацькоў на вёску, і там недзе ля Пухавіч у невялічкай рэчцы здарылася бяда. Казалі, што гэта няшчасны выпадак, але Рамейка сумняваўся ў такой версіі. А калі казаць шчыра, то быў ён страшэнна ўражаны, а мо яшчэ болей — напалоханы. Калі толькі яна пайшла на той свет з-за яго, то і яго яна не пашкадуе: ужо недзе ляжаць лісты — пра яго, пра раман. А напісаць можна чаго хочаш. Бо недзе за тыдзень да няшчасця яна пазваніла яму на работу і прасіла — лагодна, мякка, без усякай пагрозы — прасіла зайсці да яе, пагаварыць пра адну важную для яе рэч. Рамейка сказаў, каб гаварыла па тэлефоне, але яна не захацела, а ісці да яе ён адмовіўся — баяўся якой правакацыі. Яна ўздыхнула і павесіла трубку.

І вось цяпер ён чакае з дня на дзень, што яго пакліча аднойчы дырэктар, папросіць прысесці, дастане з шуфляды стала ліст і пакажа яму канверт — пазнаеш почырк?

І гэта будзе апошні ліст да людзей Ноны Варанчак, у якім, пэўна ж, першае месца будзе займаць ён, Рамейка. І што б ён ні сказаў у сваё апраўданне, яго словы будуць гучаць непераканаўча, бо пераважаць довады чалавека, якога ўжо няма жывога і якому няма чаго хаваць праўду. Так кожны падумае і так скажа... Так што ты, Рамейка, калі ішоў да Ноны Варанчак, як быццам гаварыў сабе быць гатовым да самага горшага, але то былі толькі словы, а вось калі дайшло да справы, можаш пераканацца, што тут зусім іншая рэч.

Спачатку ў яго было жаданне схадзіць да яе дзяцей — напэўна ж яны, дачка і зяць, цяпер перайшлі ў яе кватэру, — але нешта не давала яму асмеліцца на такі крок. Проста было страшна глянуць у вочы дзецям, якія

могуць сказаць яму: «Ты забіў нашу маці!» І ён не зможа апраўдацца — у яго не хопіць доказаў. І, горш за ўсё, не хопіць сумлення сказаць, што ён не вінаваты.

Хутка прыйшла і карэктура аповесці Варанчак, аўтар павінен яе прачытаць...

Рамейка пайшоў да дырэктара. Рэдка калі можна было застаць яго аднаго ў сваім кабінеце: то які госць, то цэлая дэлегацыя, то хто са сваіх — што-небудзь трэба вырашыць.

І цяпер у яго сядзеў лысаваты мажны чалавек каўказскага тыпу, нешта яны гаварылі.

Дырэктар устаў, падаў руку Рамейку, жэстам запрасіў сесці. Быў ён нейкі заклапочаны.

— Пачакаеш, ці ў цябе што невялікае? — спытаўся.

— Якраз невялікае, — адказаў Рамейка. — Вось карэктура... Варанчак. Хто цяпер яе павінен чытаць?

Дырэктар сеў, на хвіліну задумаўся.

— Аддаваць дачцэ няма сэнсу. Што яна тут разбярэцца? Чытай сам, — сказаў упэўнена.

— І я так думаў, дзякую. — І ён выйшаў.

Вось як хутка вырашае дырэктар такія — ды і не такія простыя — справы. А пісьма ад Варанчак, відаць, у яго няма, інакш ён паглядзеў бы на Рамейку іншымі вачыма.

Трохі спакайней стала на душы, але нейкая няясная трывога не праходзіла. Як адчуваў, што яшчэ не ўсё. Пазванілі па тэлефоне. Гаварыла маладая жанчына.

— Алё, гэта таварыш Рамейка? Я — Наталі, дачка Варанчак. Вы памятаеце?

Рамейкава сэрца азвалася на гэтыя словы нейкім няпэўным рухам ці зрухам — неяк нязвычна страпянулася і замерла на момант у чаканні, а потым пайшло далей, як спынены на момант маятнік.

— А як жа, памятаю, памятаю... А што вы хацелі?

— Ды тут мы знайшлі ў запісной кніжцы ў маці... Неяк і непрыемна вам гаварыць...

Рамейка пахаладзеў, сэрца зноў, здаецца, спынілася: вось такі знайшлі, шыла ў мяшку не ўтоіш.

— Што знайшлі? — голас яго перасеў, быў як чужы, у руках адразу ўзнікла дрыготка, а пульс ці не пачасціўся ўдвая.

— Тут такі запіс... Даруйце, што я пытаюся, але з яго няясна...

Нешта як бы не тое, пра што думаў Рамейка, пытае яго Наталі, дачка Варанчак. Было такое ўражанне, што вялізны камень, пушчаны ў яго галаву, прасвістаў ля самага вуха.

— Што вам няясна? — ужо трохі падбадзёраны спытаўся Рамейка.

— Тут так запісана: «Рамейка — 10 руб, потым — Рамейка — 50 руб, потым яшчэ — Рамейка — 150 руб». Дык вось, нам, мне і мужу, няясна, самі разумееце, ці гэта вы пазычалі маме, ці яна вам, — голас неяк захваляваўся і змоўк, як сарваўся.

— І да якой жа думкі вы схіляецеся? — спытаўся з прыхаванай іроніяй: хацелі б, каб маці вам пакінула толькі ашчадныя кніжкі.

— Спачатку мы палічылі, што гэта вы вінаваты маме, а потым перадумалі... І цяпер баімся, каб нам не давялося аплачваць маміны даўгі, — гаварыў высокі голас у трубцы.

— Магу вас супакоіць: ваша мама аддала мне ўвесь доўг.. Так што не бойцеся, — стараўся заспакоіць дзяўчыну Рамейка.

У трубцы чулася дыханне, але адказу на яго словы не было.

— Алё! — азваўся Рамейка. — Вы чулі, што я сказаў?

— Чула, дзякую за такую інфармацыю... — зноў паўза, і раптам, як вострым шылам у сэрца — пытанне: — Дык што ж там у вас атрымалася з мамай? Хіба яна вам што кепскае зрабіла? — голас гучаў усхвалявана, але ўжо з яўным выклікам, з кепска прыхаванай злосцю.

Рамейку таксама хацелася адказаць ёй чым-небудзь рэзкім, накшталт: не лезь не ў сваё, дзяўчынка, але стрымаўся, — мо нават таму, што ў пакоі сядзелі людзі, вушы навастрыў Юрлевіч, хоць і рабіў выгляд, што ён надта заняты рукапісам, зачытаўся да чорцікаў.

— Я вельмі шкадую, што вашай мамы няма, — з прыхаваным хваляваннем гаварыў Рамейка. — Яна вам адказала б на першае пытанне... што ў нас атрымалася — праўдзівей, што не атрымалася... Магла б адказаць, ва ўсякім разе... А на другое адкажу, бо гэта датычыць мяне: мне яна нічога кепскага не зрабіла. Так што і на гэты конт будзьце спакойны. У мяне да яе — ніякіх прэтэнзій. Цяпер вось што: прыйшла карэктура аповесці вашай маці. Я раіўся з дырэктарам, чытаць яе будзем мы, у выдавецтве.

— А што трэба ад мяне? — спыталася Наталі.

— У якім сэнсе? — не зразумеў Рамейка.

— Ну, з карэктурай...

— Я ж сказаў: карэктуру будзем чытаць мы. А вось з аплатай трэба будзе пракансультавацца. Умова падпісана вашай мамай, па ёй, відаць, вам выплацяць ганарар, але толькі пасля таго, як вы аформіце дакумент на права спадчыны.

— А як гэта робіцца, вы не скажаце?

— Нават не ведаю, не даводзілася займацца. Схадзіце да юрыста... А лепей — да натарыуса. Ён вам усё растлумачыць.

— О Божа! — усклікнуў голас у трубцы. — Навошта мне ўсё гэта, навошта!

Рамейка нічога не паспеў адказаць, як пачуліся гудкі.

Ён паволі пайшоў да свайго стала, сеў. Адчуваў сябе стомленым і спустошаным. Здаецца, ён вывернуўся ад страшнай навалы, не трапіў пад колы сляпога лёсу. Хоць маральна, псіхалагічна ён будзе яшчэ доўга, а мо і да самай смерці, пад прэсам віны, і не так віны, як раскаяння, што паддаўся спакусе, што даў сябе ўблытаць у не надта чыстую гісторыю і мо нават паслужыў прычынай гібелі чалавека. І ён, як тая дачка Варанчак Наталі, можа з горыччу ўсклікнуць: «О Божа! Навошта мне ўсё гэта, навошта!»

От цікавы псіхалагічны дослед: тады, калі ўсё між імі фактычна скончылася і Рамейка не прыйшоў больш да яе, ён лічыў сябе не вінаватым у разрыве, не вінаватым увогуле перад ёю, Нонай Варанчак, а цяпер, калі яе няма, ён ужо грызе сябе і вінаваціць ва ўсім: што ён пераступіў мяжу звычайных таварыскіх адносін і пайшоў на збліжэнне; што не пакахаў яе, хоць у гэтым вінаваціць яго было цяжка, і, урэшце, за тое, што прычыніўся да яе гібелі, а гэта ён лічыў недаравальным, самым страшным смяротным грахом, бо, здаецца, ніколі яшчэ яму не даводзілася быць прычынаю — нават ускосна — чужое смерці. Навошта яму ўсё гэта было, навошта?

Напаследак у канцы дня далі яму работку — тоўсты раман аднаго пісьменніка, які ніяк не мог прабіцца да чытача. Надрукаваў некалькі дробных рэчаў і вось адразу адбухаў тоўсты раман, але такі, што адна назва: сыра-

віна, а не гатовая рэч. Але ўсім хоча даказаць, што гэта чуць не шэдэўр. І вось такое шчасце прываліла да яго, Рамейкі. Цяпер пачнецца новая гісторыя... А чым скончыцца, то і невядома.

Ён прыйшоў дадому стомлены, разбіты і злы. Але, як надзіва, жонка неяк перамянілася да яго. Ён заўважыў перамену нават трохі раней, хоць не была яна раптоўнай, а ледзь прыкметнай, паступовай. Што ж тут такое, чаму такая перамена?

Можа, тое, што ён апошнія два-тры тыдні нікуды не ходзіць, нідзе вельмі не затрымліваецца пасля работы, стаў, так сказаць, сем'янінам, гаспадаром, бацькам? Можа, і гэта... А мо жонка перадумала, перагледзела свае адносіны да яго, мо адумалася, што была рэзкая з ім, што дарэмна зневажала? Мо да яе дайшло, што дарэмна яна яму так не давярала, і не такі ўжо ён бабнік, як ёй дагэтуль здавалася?

Як бы там ні было, але жонка перамянілася. Замест яе вечнай сур'ёзнасці, засяроджанасці ў сабе — нібы свету наогул няма вакол яе — яна стала заўважаць яго, Рамейку, стала ўсміхацца, глядзець яму ў вочы, голас таксама змяніўся — стаў звычайны, нават лагодны, нават ласкавы. А замест вечнай занятасці ў яе з'явіўся час пацікавіцца чым-небудзь такім, чым яна раней ніколі не цікавілася.

Прыйшоўшы з работы, Рамейка звычайна пераапранаўся, трохі адпачываў, а пасля браўся гатаваць вячэру, калі жонка яшчэ не прыйшла першай, а калі была дома, то чакаў, калі яна згатуе ці падагрэе згатаванае ўчора вечарам. На гэта ішло нямнога часу — ад паўгадзіны да гадзіны, — і вячэра гатова. Іх вячэра была не меншая за абед, і заўсёды Рамейку хацелася памяняць такі недарэчны рэжым, які ідзе толькі на шкоду здароўю, але пакуль што ўсё заставалася па-ранейшаму.

Сёння ён пераапрануўся ў старыя вельветавыя мяккія штаны з амаль што працёртымі каленямі, апрануў лёгкую цёмна-паласатую піжамную кашулю, лёг на канапу і стаў праглядаць «Литературную газету». Кожны раз ён знаходзіў сабе нешта цікавае — судовую хроніку або матэрыял пра якіх-небудзь сучасных неафашыстаў ці рэваншыстаў. А доўгія артыкулы пра тэхнічныя перавароты, пра новыя метады гаспадарання, пра перадавікоў вытворчасці яго трохі хілілі на сон. Лепей іх чытаць не цяпер, прыйшоўшы з работы, а пазней, у гадзін адзінаццаць-дванаццаць, каб хутчэй апынуцца ў царстве Марфея.

Сёння быў цікавы артыкул пра вучняў старэйшых класаў, якія правучылі сваю адну выдатніцу — проста за тое, што яна ім не падабалася. Білі яе сяброўкі-аднакласніцы, нават хацелі паставіць на калені, каб прынізіць як мага больш. Артыкул наводзіў на роздум...

І чым болей думаў Рамейка, тым болей прыходзіў да пераканання, што чалавек у маладосці болей жорсткі, чым пасля, калі ў яго паяўляецца сям'я, дзеці, старэюць бацькі. Неяк тады ён больш пачынае думаць не толькі пра сябе, але і пра іншых, нават пра народ, нават пра чалавецтва. Яшчэ ён прыходзіў да вываду, што тыя, каго білі ў маленстве, б'юць пасля сваіх дзяцей, але адны з меркаванняў педагогікі, а другія — каб спагнаць сваю злосць. Тыя, з каго некалі здзекаваліся ў маленстве, любяць здзекавацца са слабейшых пасля. Помстаю гэта назваць цяжка, але нешта падобнае: цярпеў я некалі — пацярпі і ты цяпер.

Яго развагі перарвала жонка, Мар'яна.

— Ну, гаспадар, годзе дрыхнуць, пайшлі перакусім, — сказала яна і далікатна дакранулася да яго пляча.

Рамейка здзіўлена паглядзеў на яе і ўстаў з канапы.

— Тут во цікавы нарыс пра старэйшых школьнікаў. Прачытаеш. І Гені трэба даць, якраз яе ўзрост... Пра жорсткасць...

— Добра, пачытаем. — Жонка махнула рукою. — Як ты пра нас клапоцішся! Проста не пазнаць. І дома стаў прыпыняцца. Што гэта з табою, калі не сакрэт?

— Ніякага сакрэту. Як у лес, так і з лесу.

— Што ты хочаш сказаць? Нешта я не цямлю....

— Хачу толькі сказаць, што мы забываем свае абавязкі ў сям'і. І з гэтага ўсё пачынаецца.

— Што ж ты забыўся са сваіх абавязкаў? Па-мойму, іх у цябе зусім няма.

— Затое ты стараешся за нас дваіх. Няма табе спакою. Мала таго — яшчэ выводзіш у людзі сваіх вучоных, наводзіш ім стыль. А яны табе купяць за гэта пачак цукерак.

Жонка насцярожылася: куды верне Рамейка, ці не збіраецца кінуцца ў сварку? Яна села за столік, узялася за відэлец.

— Ну, давай не будзем пра балючае, а то зноў залезем у балота... Вось еш лепей свае любімыя пельмені і папраўляйся.

— Пельмені — мае любімыя? Няўжо я пераблытаў? Ці мо ты? — усміхнуўся Рамейка, падсоўваючы да сябе талерку пельменяў са смятанай. — Калдуны — іншая рэч. Але ж ты пра іх зусім забылася, усё табе часу няма... Ці хоць бы верашчака...

— Як і табе. Таму так і жывём: абы дзень да вечара.

«Трэба канчаць такое жыццё», — хацеў сказаць Рамейка, але прамаўчаў — не хацелася пачынаць песні без канца.

— А трэба было б брацца ўжо за розум, адкладваць няма на калі, — неяк разважліва гаварыла Мар'яна, ажно не верылася Рамейку.

— Нешта ты паразумнела, як дадому з'ездзіла.

— А што, хіба няма ў каго розуму набрацца? Хіба мой бацька не можа навучыць любога, як жыць на свеце? Каб ты да яго прыслухоўваўся, то мы мо не так жылі б...

— Як жа мы жылі? — ужо трохі загарэўся Рамейка. — Як мы жылі, жывём?

— Не так, як людзі, — сумна сказала жонка.

— Сляпая ты ў сваёй упартасці, ну зусім сляпая. Нічога ты не бачыла, а толькі слухала, што другія скажуць. На словах людзі жадалі табе дабра, а на справе разбуралі тваю сям'ю. І ты, фактычна, верыла сваім ворагам, а мне, свайму мужу, не верыла. Вось чаму мне крыўдна за цябе... І за сябе таксама.

Ён чакаў, што жонка раззлуецца, але яна толькі паглядзела на яго, хмыкнула, выцерла сурвэткай з паперы вусны і ўзялася за пачак «Беламора».

— А чай? Што ты хапаешся за гэту атруту?

— Кіну, ужо нядоўга засталося, — сказала яна шматзначна і ўздыхнула, моцна зацягнуўшыся. — Давай з сённяшняга дня будзем разам рабіць тое, што мы павінны... Я і праўда была халоднаю з табою, мо і лішне падазравала, а ты не мог ці не хацеў апраўдвацца. А я думала, што ты вінаваты перада мною.

— Нешта я не чуў ад цябе раней такіх меркаванняў. Як ты толькі і дадумалася да такога?

— Бачыш, дадумалася. Бацька мне трохі памог. Нечым ты яму вельмі падабаешся. Надта ён за цябе стаіць. І чым ты яго так узяў — не ведаю.

Рамейка ўсміхнуўся.

— Чым? Напэўна, касою.

— Мусіць жа нечым болей, чым касою. Ці ты прасіў яго, каб ён пагаварыў са мною?

— Не, нічога я яго не прасіў.

— А чаму ты пытаўся ў яго, ці раўнівая была мая маці?

— Чаму? Што ты ў яе ўдалася. Вось чаму пытаўся.

— Мне бацька так і сказаў. І лаяў мяне добра, — неяк самакрытычна прызналася Мар'яна і хітра паглядзела на Рамейку. — Нешта ў вас думкі сыходзяцца на многае... Але ён кажа, што цяпер людзі не тыя, што былі раней. Яны вольныя, нічым не звязаны, толькі абавязкамі. А што абавязак для другога? Плюнуў і пайшоў... Страх голаду, адзіноты — зусім іншая рэч. Вось чаму раней жонка трымалася за мужа, хоць ён быў і сякі, і такі. А сёння што? Навошта ён ёй, калі не даспадобы, калі мала зарабляе, калі часам вып'е ці яшчэ што? Ды і яна яму, калі ён лепшую можа знайсці... А дзеці — урэшце і дзяржава пагадуе, яна багатая. Вось чаму і сем'і нетрывалыя. Бракуе, ён кажа, у людзей дзвюх рэчаў: сумлення і цярпення. Зрабіў не зрабіў, украў, ашукаў — сумленне не мучыць. Не ладзіцца што, не вяжацца — май цярпенне, давядзі да ладу, сто раз перарабі, а зрабі, каб цябе людзі не лаялі... Ого, якраз! Цяп-ляп — і гатова, а там — хоць трава не расці! Хутчэй — абы грошы...

— Тут ён разважае хоць проста, але вельмі правільна. Я сказаў бы — мудра.

— Яшчэ не ўсё. Сумленне, страх перад тым, што людзі скажуць, яшчэ раней — грэх, — вось той тормаз, які не даваў дарогі распусце. А што цяпер? Толькі закон. А ён у нас мяккі...

— Асабліва для жанчын... На абароне правоў маці-адзіночкі, жонкі-развядзёнкі...

Упершыню за некалькі гадоў яны гаварылі мірна, не пасварыліся, і думкі іх амаль што супадалі, а калі і разыходзіліся, то толькі ў дробязях.

Гаворачы пра тыя ці іншыя з'явы, яны не пераносілі ўсё на сваю сям'ю, на сябе, не тыкалі пальцамі ў балючыя месцы.

Рамейка падумаў: ці надоўга толькі?

***Працяг будзе.***





## Алесь ЖЫГУНОЎ

# СПАТКАННЕ З ТРОЙЦАЙ

***Споведзь***

* * *

Самотны лісток
закружыў у паветры,
Чарговая восень
спраўляе свой баль.
У роздуме ціхім
абшары і нетры.
І выцвіў дашчэнту
бярозак паркаль.
І возьме ў абдымкі
якаясь трывога.
З нябёсаў сыходзіць —
ідзе па зямлі...
Аднойчы прысніцца
дадому дарога,
І ўдалеч паклічуць
мяне жураўлі.

* * *

І скажа хтось: знаёмыя матывы.
Вяртаннем не прадоўжыш маладосць.
Пакінь свае дзіцячыя наівы
І ў рэшце рэшт змірыся з тым, што ёсць.

---

*__Жыгуноў Аляксандр Міхайлавіч__ нарадзіўся 27 лютага 1954 года ў вёсцы Тройца Шклоўскага раёна Магілёўскай вобласці. Скончыў філалагічны факультэт Белдзяржуніверсітэта. Настаўнічаў на Глыбоччыне, працаваў на раённым радыё, у газеце «Шлях перамогі». Цяпер — загадчык аграпрамысловага аддзела раённай газеты «Веснік Глыбоччыны».*

*Аўтар паэтычных зборнікаў «Матчына вышыванка», «Мая Тройца», «Пагаворы са мной пра восень». Піша вершы для дзяцей.*

*Лаўрэат Літаратурнай прэміі імя Уладзіміра Караткевіча (2004).*

Ці ж лірыка сягоння у пашане?
Ды й з мовай беларускай нелады.
Не тыя ўжо сягоння і трайчане:
У бізнесе — усе, хто маладых.

Туды-сюды снуюць іх «Аўдзі», «Форды».
Будуюць і катэджы ў гарадах.
А родныя і песні і акорды
Прапісаны на троіцкіх кладах.

Я скептыку душою запярэчу
І шмат што ўспомню ў гэтую сустрэчу.

* * *

Гармонік мне купляла мама,
Каб на ўсю вёску гарманіст
Быў я і весялун таксама.
Каб не згубіўся ў мітусні.

І сапраўды: я не згубіўся.
Таму на ўсе ды ўсе лады
Звінеў гармонік, весяліўся.
Бярог вяскоўцаў ад бяды.

Я музыку запомніў тую —
І не забуду, дзе б ні жыў!
Гармонік не ўбярог матулю,
І я прадаць яго рашыў.

У рукі ўзяў, каб раз апошні
На ім «Сямёнаўну» сыграць.
...Але матулі скрушны позірк
Забараніў яго прадаць.

Бывае так, што і сягоння,
Калі ўжо скруха ахіне,
Парыўна расцягну гармонік,
Які купляла мама мне.

* * *

Званок. На провадзе — сталіца.
А сябраў голас я пазнаў:
— З табой не бачыліся, быццам
У нас мільён праблем і спраў.

Нядаўна я гасціў у Тройцы,
Там дачнікаў — хоць гаць гаці.
Такія спрытныя малойцы,
У рот ім пальца не кладзі.

Сябры маленства?
Анікога.
Параз’язджаліся яны.
І нас з табой вядзе дарога
Далей ад роднай стараны.

Мне проста крыўдна, проста дзіўна...
Давай сазвонімся, браток.
І — на маленькую радзіму,
Дзе і аснова і уток.

* * *

Плылі ў нябёсах аблачыны,
Стаяла летняя пара.
Дзядзькі сышліся і жанчыны
Ўсе да бацькоўскага двара,

Дзе вершы я чытаў заўзята.
Як п'едэстал мне быў парог.
І на мяне глядзела хата
Бацькоў, якую не ўбярог.

Той вечар быў у Тройцы першы.
І пачуццё гняло віны.
У неба ўзносіліся вершы,
Ды прыпазніліся яны.

...Слязінку выцер я таксама,
Хаця трывушчым быць хацеў.
А да цябе мой голас, мама,
Хоць на хвілінку даляцеў?

* * *

Чыя, скажыце, тут віна,
І на каго мне тут маліцца?
Гуляла вёска давідна,
Як знепрытомненая быццам.

Суседка ў стоенай журбе
Ўздыхнула гэтак горка-горка:
— Мы гаварылі пра цябе,
Няхай твая не гасне зорка.

Ты столькі вершаў прачытаў,
А спадабаліся — пра маці.
...Не помню, колькі прастаяў
Нібы чужы у роднай хаце.

Ні на хвілінку не прысеў,
Хоць ногі стомлена трымцелі.
І на мяне глядзелі ўсе,
Бы штосьці мне сказаць хацелі.

* * *

Восень шчодра рассыпала медзь.
Сто гадоў абмінаў цябе, можа, я,
А цяпер вось хацеў бы сустрэць,
Кажуць: ты яшчэ вельмі прыгожая.

— Прыязджаць?
І адказ як дакор:
— Прыязджай... — Не гасцінна-сардэчны.
— У яе муж нядаўна памёр, —
Скажа потым мне брат мой стрыечны.

— Што за гэтакі выдаўся лёс,
Што за доля жанчыны такая?
З-за цябе праліла столькі слёз,
Ды і сёння, напэўна, кахае.

Што рабіць мне? У тую ж раку
Не увойдзеш, як ты ні старайся.
Пра настрой мой ты лепш не пытайся,
Зрэшты, многа самоты ў радку.

* * *

Мой дзядзька Віця рады мне,
Частуе, весела гаворыць.
І фразу «ісціна ў віне»
Ён, можа, сто разоў паўторыць.

Калі ўжо крышку падап’е, —
Махне на ўмоўнасці рукою
І, задаволены сабою,
Крытыкаваць мяне пачне:

— Я працаўнік, а ты гультай,
І не крыўдуй: кажу я прама.
Але маё жыццё не рай,
Ды і тваё не рай таксама.

Хоць называешся паэт,
Па ўсім відаць — зарыфмаваўся:
Аб’ездзіў, можа, цэлы свет,
А на радзіме лішні стаўся.

Цяпер клянешся у любві.
Каму? Магілам і бярозам?
...Ды што я? Проста нецвярозы,
Даруй, пляменнік. Се ля ві!

* * *

На могілках спакой і цішыня.
Спіць вечным сном уся мая радня.

Спынюся пад бярозай ці сасной,
Падумаю пра шлях жыццёвы свой.

Ад роспачы і смутку я ўздыхну
І кветачку, што сам садзіў, крану.

Магілкі дарагія прыбяру,
І памаўчу я, і пагавару...

Пасля пайду. Варотцы прычыню,
Каб хтосьці не парушыў цішыню.

* * *

Выпаў лёс. І яго не зыначыць.
Проста выткаўся гэткі сувой.
Што хацеў я урэшце пабачыць
На далёкай радзіме сваёй?

Я не маю на гэта адказу.
Дзень самотны. Журба. Лістабой.
Нечакана і неяк адразу
Захацеў размінуцца з сабой.

Ліст апошні з галінкі зляцеў.
У прыродзе такая падзея!
...Размінуцца з сабой захацеў?
Значыць, ёсць яшчэ ў сэрцы надзея.



*ПРОЗА*



**Навум ЦЫПІС**

# ДВА ЎРОКІ

***Аповесь-эсэ***

*Пішу, як люблю.*

Дзве падзеі адбыліся ў маёй 13-й Замасцянскай чыгуначнай школе. Калі раздзялілі навучанне на жаночае і мужчынскае, чыгуначныя школы, якія былі ў падпарадкаванні аддзела адукацыі Упраўлення дарог, а не ў нарадукацыі, пакінулі сумеснымі. Я і сёння думаю, што таму мы і выраслі нармальнымі ў адрозненне ад усяго астатняга СССР. А па часе два гэтыя разгалінаванні развіцця савецкага чалавецтва разышліся так далёка, што паміж імі можа змясціцца ўвесь астатні свет са сваім смехам, слязамі і людаедствам.

Ды вернемся да пачатку. Тыя дзве падзеі помняцца мне ўсё жыццё. Інакш праз паўстагоддзе не пісаў бы. Адна — добраахвотная ідэя дырэктара школы — запрасіць на ўрок прадстаўніка сапраўднага рабочага класа; другая — прымусовая, якая зыходзіла ад таго самага дарожнага аддзела адукацыі. Мая бабуля вымаўляла гэта слова па-яўрэйску на рускай мове. Скажам, яна магла спытацца: «А у него есть высшее обрезование?» Дык вось, ідэя гэтага «обрезования» была такая: не проста адкрыты ўрок, а паказальны масавы адкрыты ўрок з прымяненнем новых форм навучання ў сярэдніх класах. У якім з сярэдніх? Такога пытання не ўзнікала. Вядома ж, у 6-м «Б», таму што ў ім працавала Мая Навумаўна. А якая, дазвольце вас запытацца, ваша новая форма навучання і якая пры гэтым тэма ўрока? Ах, вось як! Пісьмова-вусны, значыць, разбор усенародна вядомай карціны вялікага рускага мастака Віктара Міхайлавіча Васняцова «Тры асілкі»... Спачатку, значыць, кароткі расказ настаўніка пра Васняцова і яго легендарную карціну, потым тры хвіліны дзеці самастойна ў выключнай цішыні сузіраюць карціну, потым яны коратка запісваюць свае назіранні і выва-

---

*__Цыпіс Навум Фроімавіч__ нарадзіўся 6 мая 1935 года ў горадзе Вінніцы ва Украіне. Скончыў гісторыка-літаратурны факультэт Курскага педінстытута. Працаваў настаўнікам у мінскім прафтэхвучылішчы, карэспандэнтам газеты «Піянер Беларусі», загадчыкам аддзела часопіса «За безопасность движения», літсупрацоўнікам газеты «Культура».*

*Аўтар кніг прозы «Где-то есть город», «Старые дороги», «Билет до Винницы», «Иду и возвращаюсь», рамана «Балканская рама» і інш.*

ды... Так, так, а далей? Ага, яны па жаданні зачытваюць тое, што напісалі. Ага! А як жа з адзнакамі? Самым актыўным у канцы ўрока ў журнале выстаўляюцца адзнакі... Двойкі не ставяцца?! Ага... І правільна, гэта вы вельмі правільна сказалі, Маечка, красуня вы наша, Навумаўна, — двойкі за дзіцячую творчасць ставіць нельга. Так, так, вось і пакажыце народу, як трэба вучыць дзяцей.

І здараецца ж так, каб усё супала, але — усё, ды наадварот... У мяне ў жыцці таксама так было. Ды і ў каго не было? А тут вось на ўроку... Але каб адразу на ўсіх, хто адказваў, — бы гіпноз, нібыта гэта клас разумова адсталых дзяцей з недаразвітаю моваю. Я чаму гэтак падрабязна пра той феномен. Таму, што мы ўсім табарам пайшлі на гэты адкрыты ўрок у актавай зале. А пайшлі, бо ў гэтым 6-м «Б» вучылася Танька Кілімчук, сястра нашага Пецькі. Ён пайшоў па роднасці з Танькаю, а мы — па роднасці з Пецькам. Сяброўства для нас было вышэйшым за роднасць. Ды гэта не так і важна, вы лепш паслухайце, што там было і паспрабуйце даць гэтаму рады, адным словам, хоць якое вытлумачэнне. Бо, калі ўсё зразумела, дык і пісаць няма пра што. Уся літаратура — гэта спроба зразумець невытлумачальнае.

Кажуць, не ўмееш, але стараешся, але то карта не выпадзе, то зорка твая на небе на хвіліну адхіліцца ад свайго перпендыкуляра. Якраз у тую самую хвіліну, якая ўсё вырашае. Не магу ж я думаць, што лёс над малымі дзецьмі здзекаваўся, калі на той вялікі адкрыты ўрок у 6-ы «Б» клас, акрамя начальства са світаю метадыстаў і дырэктараў вінніцкіх школ, прыйшлі і бацькі, і, як на тое! — хлопцы з замасцянскай Стандаркі, — усяго чалавек дзвесце!

Дырэктар цалкам даверыўся красуні і разумніцы Маі Навумаўне, настаўніцы лепшай з лепшых. А каму ж яшчэ. Але і яна была тут ні пры чым. Дзень такі надарыўся, і ўсё. І вось што я яшчэ думаю: жыццё праз той адкрыты ўрок паказвала дырэктару і начальнікам дулю. І хоць дуля тая была з весялінкаю, але намёк вымалёўваўся празрысты: не ганіце дзяцей на шлях з вашымі напрыдумлянымі методыкамі — хай ідуць і полем, і лесам, ягады па дарозе збіраюць, а не толькі «Няхай жыве... хтосьці там і штосьці там». Я так думаю, як казаў Фрунзік Мкртчан, неблагі артыст і самотны чалавек.

У пацверджанне таго, што я, няхай сабе інтуітыўна, не памыляюся, раскажу вам перад апісаннем таго ўрока выпадак з жыцця беларускіх паэтаў у сярэдзіне незабыўных 60-х гадоў. І не трэба са мною спрачацца: яны сапраўды былі выдатныя, тыя гады, нягледзячы на тое, што не спраўдзілі надзеі мільёнаў людзей. Але ж надзеі былі. А раней і іх не было. А яшчэ, і яно такое аб'ектыўнае і вечнае... Быў я малады і любіў жыць, і, напэўна, у той час жыццё таксама любіла мяне, і мне ўсміхаліся дзеці і жанчыны. Але вернемся да невытлумачальнага, як і той урок у нашай школе, да выступлення беларускіх паэўтаў.

Былі пры рэспубліканскіх Саюзах пісьменнікаў у складзе літфондаў такія падраздзяленні, як бюро прапаганды савецкай літаратуры. Заснавальнік літфонду Аляксей Максімавіч Горкі прадугледжваў гэтыя бюро як інструмент узаемавыгадны: пісьменнікі выступалі перад працоўнымі калектывамі, расказваючы народу «пра час і пра сябе», а прафкамы

і мясцовыя камітэты прадпрыемстваў і ўстаноў аплачвалі гэтыя выступленні. Частку грошай атрымліваў пісьменнік, частка ішла ў бюджэт літфонду. Так падкормліваліся прафесійныя літаратары. Гэта было разумна і карысна.

Цяпер можна расказаць пра даўняе выступленне групы прызнаных паэтаў у Палацы культуры Мінскага трактарнага завода, тым самым надаць таксама дзіўнаму адкрытаму ўроку Маі Навумаўны хоць бы не выключнае значэнне. Растлумачыць ні тое, ні другое ніхто так і не здолеў. Як НЛА.

Мой сябра Валя Тарас, які быў удзельнікам таго выступлення, замест тлумачэння спрабаваў перадаць мне свае адчуванні. «Ведаеш, стары, — казаў ён, нібыта прыслухоўваючыся да сябе, — гэта як на машыне ў галалёдзіцу: усё робіш, як трэба, а цябе нясе на слупы так, што без прамаруджвання хочацца выпіць».

Узначальваў гэту групу паважаны літаратурны крытык, аўтар «Нового мира» з пісьменніцкім білетам, падпісаным яшчэ Горкім, Рыгор Саламонавіч Бярозкін.

Ну вось, прывязлі іх у Палац... Заўважце, не на старым падрапаным аўтобусіку, дзверца якога адчыняецца-зачыняецца доўгай ручкаю, падобнай да качаргі, а на двух легкавіках «Победа». Трактарны генеральны распарадзіўся: пісьменнікаў везлі на выступленне перад ветэранамі і пенсіянерамі легендарнага завода, які ўвасабляў Беларусь. «Публіка... — успамінаў Валя, — ну, не далей, чым за сто метраў ад крэматорыя...» Дырэктрыса Палаца мякка так папрасіла: «Дарагія нашы паэты, вы ж бачыце, хто да нас на мерапрыемства прыйшоў... Пажадана, каб у вашых выступленнях было паболей гумару і жартаў. Ім жа гэта, як лекі». Дырэктрыса паправіла беласнежную нейлонавую кофтачку на авантажных грудзях і раптам прадэкламавала: «И долго буду тем любезен я народу, что чувства добрые я лирой пробуждал!» І ўжо ў прозе дадала: «Давайце ж будзем узаемна карысныя адно аднаму, як завяшчаў ваш вялікі калега». Рыгор Саламонавіч ледзь не згубіў сківу. Ігар Шклярэўскі, самы малады, але вельмі таленавіты і гэтакі ж нахабны, перапыніў свой расказ Ваню Бурсаву пра хітрасці лоўлі магілёўскага галаўня і застыў, бы аслупянеў ад здзіўлення. Навум Кіслік звыкла не паказаў нічога тварам, толькі паказаў вуснамі і бровамі: «Ну ты і загнула, старая!» Ваня ж Бурсаў здзіўлена круціў галавою: ён, як заўсёды, з-за сваёй рассеянасці не зразумеў выкрунтасаў дырэктрысы. А Юры Лакербая, гарачы абхазец, мала, што паэт, ды яшчэ і майстар спорту па фехтаванні, які з самага пачатку яе з'яўлення не адвёў свайго арлінага вока з яе сапраўды прывабных форм, уважліва выслухаўшы культуртрэгерніцу, ціха сказаў Навуму: «Слухай, цяжкая гэта справа — выступаць перад народам?» Навум, прыплюшчыўшы вочы, кіўнуў.

Калі яны выйшлі на сцэну, многія ветэраны і пенсіянеры ўжо злёгку падрэмвалі. Амаль усе яны былі старэйшыя за самага старэйшага з літаратараў Рыгора Саламонавіча, які, сказаўшы кароткае ўступнае слова пра паэзію ўвогуле і пра кожнага з прысутных яе прадстаўнікоў у прыватнасці, абвясціў: «Паэт Навум Кіслік!»

Нечакана зычным голасам, калі суаднесці з ростам і фактурай паэта, першы выступоўца прачытаў:

У меня за стеною приглушенный свет,
у меня за стеной умирает сосед.
Умирает сосед, и кричи не кричи,
не помогут сиделки ему и врачи.

Памірае стары салдат, памірае мужна, як і належыць старому салдату. Такая вось, таварышы, невясёлая справа. Так... Папляскалі ветэраны, паважаючы такую смерць, а многія і на сябе, воленс-ноленс, прымералі...

Бярозкін дакорліва паглядзеў на свайго сябра: ты хоць і паэт неблагі, і салдатам быў геройскім, хоць і зусім хлапчуком у той час, але трэба разумець, што і каму чытаць. А то, калі так, ніякія вароты шырокімі не будуць.

Выйшаў Валя Тарас і паслаў у залу факт сваёй біяграфіі:

Были у меня когда-то бабушки,
Славные старушки, обе набожки,
Нету их давно на белом свете…

Таксама паапладзіравалі, але не так гучна, а ўсё ж спачуваючы паэту — бабуляў няма, памерлі. Тут не да апладысментаў...

«Хлопцы, вы што, розум страцілі? Ды хутка ва ўсёй залы будзе калектыўны спазм каранарных сасудаў сэрца!» «Зразумеў, Рыгор Саламонавіч!» — даволі гучна шэпча Шклярэўскі і лёгка выбягае на авансцэну, бліжэй да залы. З запалам гучыць яго высокі малады голас:

Уже уходит лето на покой.
Старуха в землю просится клюкой…

Пра тое, значыць, вершы, што хоць вы, старыя, і памраце, — не хвалюйцеся, мы, маладыя, падхопім сцяг жыцця і панясём яго ўперад! Не без аптымізму, значыць, вершы.

Рыгор Саламонавіч цяжка соп, вытрашчыўшы вочы і не разумеючы, што адбываецца: усе ж стараліся зрабіць сустрэчу светлай і вясёлай. Дык і былі ж яны ўсе, гэтыя паэты, нават Ваня Бурсаў, сапраўды вясёлымі і жартаўлівымі людзьмі з выдатным пачуццём гумару. Бярозкін даўно ведаў іх і добра адчуваў. І тое, што адбывалася, не было падобна на розыгрыш, ён бачыў, што выступоўцы стараюцца, але штосьці неспазнанае нястрымна цягне іх у зваротны бок, і яны, супраціўляючыся, нічога не могуць зрабіць. На сцэну ўжо выходзіць Ваня Бурсаў і, як з гары, па наезджанай лыжні:

Похоронен мой дед на крутом косогоре,
там, где речка Лобжанка шумит…

І давай, давай Ваня пра тое, што, маўляў быў дзед, і няма дзеда. Але след застаўся, харошы след — вось ён, Ваня, стаіць перад вамі, чытае вершы пра свайго дзеда. Хіба гэта не дзедаў след? Так што няхай спакойна ляжыць сабе дзед і слухае Лабжанку...

Мама родная! Бярозкін абедзвюма рукамі ўхапіўся за галаву — паноптікум. Але сапраўдны салдат змагаецца да апошняга патрона, а апошнім

быў каўказскі паэт Лакербая. «Юра! — гарачым шэптам пачаў маліць Рыгор Саламонавіч. — Юра, ратуй! Што-небудзь смешнае! Перапыні гэты жалобны парад!» — «Зразумеў! — таксама гарачым шэптам адказаў Юра. — І праўда трохі жалобна атрымаўся, да? Зараз выпраўлят будэм». І ён пайшоў да рампы мяккай пластычнай паходкаю майстра спорту па фехтаванні. Спыніўся каля самага краю, шырока расставіўшы доўгія ногі, і зала, якая амаль уся была пахавана, пачула яго прыгожы густы барытон:

В старом городе Риге, как зубры,
вымирают последние большевики.

Рыгор Саламонавіч пляснуў рукамі... Але сапраўдны салдат змагаецца і пасля апошняга патрона. Бярозкін выйшаў на «лобнае месца» і сказаў: «Дарагія таварышы ветэраны, так мы з вамі ў літаратурнай форме памянулі ўсіх, хто загінуў і памёр на нашай роднай зямлі! А вам мы жадаем моцнага здароўя і — да новых сустрэч!»

Зала горача апладзіравала. Як ніводнаму з паэтаў. А тыя сядзелі за чырвоным сталом і , прыкрываючы твары хто далонню, хто кніжкаю, плакалі ад смеху. Праўда і тое, што ў смеху тым была і істэрычная нотка. А незразумелае засталося незразумелым.

А цяпер можна і пра ўрок. Актавая зала поўная... Ледзь з разгону не напісаў «уж ложи блещут». Пятнаццаць партаў у тры кароткія рады стаяць перадам да сцяны. Перад імі стол. Трохі ззаду на шпагатах вісіць добра-такі павялічаная фатакопія каляровай рэпрадукцыі «Трох асілкаў». На павелічэнне былі кінуты ўсе сілы Стандаркі. А мацней у Вінніцы нікога не было. І як гэта рабілася — каханкі і палюбоўніцы ў некалькі фотаатэлье горада, перадача праз праваднікоў цягніка Кіеў—Жмерынка фотапаперы нябачаных памераў, завіханне лепшых фотамайстроў, якія па частках сабралі «Асілкаў» і дзякавалі за аказаны ім гонар... — гэта асобны распавед, але я не буду выпрабоўваць вашы чытацкія нервы, ім і так ужо хапіла, ды і яшчэ чакае...

Мы пачынаем, шаноўныя! За партамі — дзеці Замосця, за сталом — лепшая настаўніца горада. У зале — панства і народ... У гэтым месцы мне прыйшла ў галаву думка: «Я так думаю», ці ж не? Навошта я стану пераказваць гэты фантастычны ўрок, калі вы ўжо ведаеце пра не менш фантастычную літаратурную сустрэчу, блізня гэтага ўрока. Уся розніца ў тым, што ролю Рыгора Саламонавіча Бярозкіна на ўроку ігралі, змяняючы адзін аднаго, дырэктар школы, загадчык рана і загадчык райана. Апошні, які нядаўна быў пасаджаны ў крэсла раённай адукацыі, ледзь не згадаў, што нядаўна быў простым школьным завучам і пасля чарговага дзіцячага «доклада» хацеў быў па-чалавечы зрэагаваць, ціхенька пачаўшы: «Ё...» — але за секунду спахапіўся, успомніўшы, хто ён цяпер, і скончыў шыфрам: «Ёпрст!» Партыйнае ж, райкамаўскае начальства, з адным і тым жа спакойным тварам прасядзела ўсе сорак пяць хвілін: загартаваныя таварышы, і не такое бачылі. Але магчыма, што былі прастакаватымі і не ўмелі здзіўляцца. А ў ролі ветэранаў і пенсіянераў Мінскага трактарнага завода выступалі мы, народ. «Без мяне народ няпоўны», як сказаў яшчэ ў сярэднявечча святар Джон Дон. На гэтым адкрытым уроку народ Замосця стаўся няпоўны, — не было ў актавай зале Яшкі Меламуда. Але і быць яму

там ніяк нельга было. Калі стала вядома пра незвычайны ўрок, мы пачалі выбудоўваць сцэнарый нашай на ім прысутнасці. Яшку выключылі адразу і без лішніх слоў. Калі б ён там прысутнічаў, то ўрок адкрыты стаў бы такім адкрытым — усім зрабілася б дрэнна, а нам дык яшчэ і няёмка. Яшка быў непрадказальны. Пра яго подзвігі, выступленні і выбрыкі, магчыма, калі-небудзь напішуць эпас. Ад Яшкі адкупіліся: далі паглядзець гіганцкую фотарэпрадукцыю «Трох асілкаў» і купілі пончык з павідлам. Гэта было ўмоваю малалетняга хулігана. «Хто хоча, каб я не блытаўся пад нагамі, то купіце мне пончык», — сказаў ён. Купілі, каб не стала даражэй.

Урок ішоў па плане. Усё было добра, пакуль Мая Навумаўна не прамовіла: «А цяпер па жаданні можна падзяліцца з намі сваім бачаннем шэдэўра вялікага рускага мастака». Над пятнаццаццю партамі вырас лес рук. І...

Я прыняў хірургічную выснову, якая выратуе аповед ад паўтарэння: я працытую некаторыя выказванні шасцікласнікаў пра шэдэўр Васняцова, і мая доўгая заяўка на поспех у чытачоў перастане вас здзіўляць.

Адзін дзіцячы голас змяняў другі дзіцячы голас, і былі яны чыстыя і натуральныя, як галасы птушак.

— Васняцоў маляваў карціну 17 гадоў. І поўнасцю яе запоўніў. Ён захапляўся гэтым, і таму відаць, што асілкі ахоўваюць радзіму — няма ні дамоў, ні людзей.

— Асілкі строга назіраюць, каб ніякі-ніхто не прабраўся праз мяжу на замку.

— Конь сам чорны, а на задняй капыце, ой, лапе кавалачак белага колеру, але з жоўтай брухай. На кані спераду павешана медаль з вупражкай. І ўсе трое коней гатовы ўвайсці ў бой разам з чужаземцамі.

— У Іллі Мурамца лук, якім ён трапіў у правае вока Салаўю-Разбойніку.

— Дабрыня быў гатовы на бой, ён ужо напалову выцягнуў свой меч з кабуры і наладзіў свой шчыт.

— Пасярэдзіне адлюстраваны Ілля з грозным паглядам і насцярожаным кап'ём. На Іллі цёплая кашуля, жалезны шлем на галаве, кап'ё на кані, булава на руцэ, на другой — шчыт, а ў левай руцэ кап'ё.

— Алёша мае на галаве шлем, кальчугу, лук і дзе ён захоўвае стрэлы...

Начальнікі круцілі галовамі, ціха абменьваючыся думкамі, а потым змоўклі. Народ жа весяліўся, як на выступленнях артыста Хенкіна. Зала які ўжо раз заходзілася ад рогату. З «галёркі» чуліся галасы адабрэння: «Ну вы і малайцы, усім паказалі!..», «Усяму класу — ад Замосця па марожанаму», «Правільна, шмакадзяўкі! Хто вышчэ б'е, той крашчэ грае!», «Ото, хлопцы! Няхай памятаюць адмірала Нельсана!»

Не ведаю, як доўга я буду памятаць аднавокага англійскага адмірала Нельсана, — той урок запомніў надоўга.

А зараз — другая частка «марлезонскага балета», як казаў Дзюма ў любімых намі «Трох мушкецёрах».

Запрасіць на ўрок прадстаўніка рабочага класа... Гэта была смелая, затое перадавая ідэя. Але яшчэ далей пайшоў наш Сямён, ну, Сямён Захаравіч, завуч доблеснай 13-й Замасцянскай чыгуначнай школы, настаўнік рускай мовы і літаратуры, якому дырэктар даручыў «адабраць» кандыдатуру. Пасля таго як параіўся з нашым класам, ён спыніўся на дзядзьку Пецю, якога таксама трохі знаў. Многа і не трэба было... Лепш і фантастычней,

чым гэта, прыдумаць не змог бы спецыяльна за грошы наняты чалавек. Але Сямён быў вялікім эксперыментатарам. І недалёкае будучае, — дзядзька Пеця прыйшоў да нас на ўрок праз чатыры дні пасля прынятага Сямёнам рашэння, — даказала, што нябёсы любяць паравозы, якім надакучылі рэйкі. Напэўна, гэта і сапраўды відовішча, што прасвятлее позірк — паравоз, які гуляе па кветкавым лузе ці лёгкай хадою коціцца па прасёлку...

Дзядзька Пеця, начапіўшы тры свае медалі на даваенны і адзіны ў яго гардэробе нанкавы пінжак, прыйшоў да нас у якасці «пражылага» чалавека, каб пагаварыць пра жыццё. Сямён так і сказаў: «Сёння дзядзька Пеця пагаворыць з вамі пра жыццё, як ён яго разумее». Адважная была гэта задума збоку вопытнага дырэктара і разумнага яўрэя-педагога. Мы ж ведалі дзядзьку Пецю і разумелі, што ён можа аказацца нечаканым не толькі для вучняў, але і для самога Сямёна, не кажучы ўжо пра Аляксеенку. Не ведаю, ці хацеў гэтага дырэктар, але Сямён, мне здаецца, гэтага і хацеў. Я зараз думаю, што ён тады падумаў: няхай дзеці, перакормленыя класікаю і тэорыяй, сутыкнуцца з жыццём лоб у лоб у асобе аднаго з яго натуральных прадстаўнікоў. Не прадбачыў Сямён маштаб. Наколькі просты і натуральны быў гэты прадстаўнік ведалі толькі мы, хто з пялёнак жыў побач і разам з дзядзькам Пецем. А яшчэ мы ведалі, што часта ў выніку яго размоў на нашай лаўцы каля дома то ўсчынаўся рогат, то наставала цішыня.

Не часта дазваляецца аўтару пагаварыць пра тое, што ён напісаў. Выпаў перадых, калі не пішацца. Хто яго ведае, чаму, але ў такі дзень і прыгожая жонка варыць нясмачны боршч. Вось я і карыстаюся магчымасцю: не справа, дык хоць пра яе.

Каб не здараліся ў школе такія ўрокі, і не было б на Замосці такога дзядзькі Пеці, а сярод маладняку — такіх чыстых дзяцей, як шасцікласнікі Маі Навумаўны, і такіх дапытлівых і рамантычных хлопцаў, — «заглохла б нива жизни», як сказаў Мікалай Аляксеевіч Някрасаў, наш зямляк, які нарадзіўся пад самай Вінніцай у памешчыцкім маёнтку непадалёк ад сяла Нікіфараўцы. Але гэта іншая гісторыя...

Калі ўзяцца яе пісаць, то будзе там прыгожая легенда пра непрыступную куму-ўдоўку, якая дачакалася, нарэшце, вялікага, «як нэбо», кахання. Праводзячыся з ненаглядным і жаданым у сляпую завіруху, не згледзеўшы краю, сарваліся з гранітнай стромы па-над Бугам. Так і знайшлі іх у абдымках смяротнага кахання, калі растаў лёд на рацэ.

І як з таго ж стромага правага берага першы раз падняў у вінніцкае неба свой самалёт Мажайскі і прызямліў яго на лугавіне, на дальнім краі якой і сёння яшчэ відны разваліны маёнтка бацькі Колечкі Някрасава.

І пра тое, што жыў у Нікіфараўцах майстар, які на малюпасенькі экранчык самаробнага тэлевізара прымаў перадачы з усёй Еўропы, калі гэтага не мог яшчэ і сам старшыня вінніцкага КДБ. І бульба ў таго хлопца, на выгляд смаркатага пэтэвушніка, сама з пограба ў кухню трапляла, толькі ручку ад мясарубкі пакруці. Што й казаць, майстар не горшы за дзядзьку Пецю. А як там слівы вэндзяць! А самагонка — лепшая нават у такой вобласці, як Вінніцкая...

І, вядома ж, нідзе не дзецца ад лавачнай інтэрпрэтацыі дзядзькам Пецем вольнай вольнасці на нашай зямлі і дакладнага вызначэння радзімы свабоды. Адно гэта... Ну добра, ад няма чаго рабіць перакажу, як памятаю,

каб вы мелі ўяўленне пра бязмежнасць замасцянскага патрыятызму і заўзятай, да шаленства і слепаты, любві замасцянцаў да сваёй Вінніччыны. Упэўнена і непахісна: «Зараза гэта выдатная — свабода і вольнасць пайшлі па ўсёй вялікай Русі ад нас, з Падолля, з Вінніцы. Гэта і зразумела: паяднанне такой колькасці самагонкі — у нас жа ўсе цукровыя заводы СССР былі, — і такіх людзей, што тут панараджаліся... З Тульчына гэта пайшло, з таго Паўднёвага таварыства. Тут жа такія людзі жылі... Яны ж па жыцці, геаграфіі і гісторыі ішлі шырокім крокам і без дарогі. А часта і без мэты. Ішлі ды ішлі. Гулялі, сябравалі, біліся, калі з кім сустрэнуцца, а калі не, то паміж сабою кроў пускалі. Многа той свабоды было, на ўсю зямлю хапіла... Вядома ж, і весяліліся, а як жа? А тады ўжо і жаніліся — і зноў ішлі. Іншы раз і мэта была, але якаясьці мройная: то ўсіх палюбіць, то ўсіх, як капусту, пакрышыць, то, зноў жа, усіх накарміць і напаіць гарэлкаю. Паперадзе першым нумарам ішоў той Манілаў з «Мёртвых душ», які дужа марыў скласці вежу да неба, не ведаючы, для чаго тая вежа патрэбна. Не, нездарма Мікалай Васільевіч Гогаль у нас вырас, на Украіне, з усімі яе ярманкамі, чарцямі і чэрэвічкамі.

Ох і зямля! Дзекабрысты, Сувораў, зноў жа Някрасаў са сваёй магільнай песняй па расійскай жабрацкай вольніцы... А казакі соль зямная — усім піратам заморскім — дуля! Толькі як тыя арапы абардажныя, ніякіх залатых кладаў з брыльянтамі яны ўнукам не пакінулі. Вось і не змаглі ўнукі ў свой час Сарбону закончыць. І, вядома, таму ад Еўропы адсталі. Ага, забыў сказаць, што тут жылі і тварылі і Леся, і Пірагоў, і Мыхайла Кацюбінскі, ды яшчэ два лаўрэаты Нобелеўскай прэміі, забыўся на іх прозвішчы, вось».

Такі, бачыце, цікавы віраж у гістарычную атмасферу... Гісторыі тут — кот наплакаў. Фактаў — уга як хапае. А колькі страснасці і напору, першабытнай філасофіі, любві, прыняцця-непрыняцца... Жывое. Гарбатае, касое, кульгавае, але — жывое, і шалёныя вочы, што прагнуць усё ведаць, і маркотныя — усяго ведаць нельга. І Богу ёсць мяжа — далей бязмежнасці яго няма. А ўжо чалавеку...

Ёсць што распаведаць у той, іншай, гісторыі. Але мы з вамі ўзяліся расказваць гэту, дык і будзем рабіць сваю справу.

У чалавечым грамадстве, дзе здараецца ўсё, галоўнае слова павінна быць за пачуццямі і нечаканасцямі (выключце з гэтага спіса эканоміку), і толькі тады грамадства будзе нармальнае. І тут на дапамогу маім крамольным думкам прыйшоў выпадак з гісторыі яўрэйскай дзяржавы новага часу. (Без канкрэтных, але, галоўнае, простых прыкладаў людзі глухнуць і слепнуць, і ходзяць самі сабе.) Да першага прэм'ер-міністра Ізраіля Бен-Гурыёна прыйшоў міністр унутраных спраў і крычыць: «Геволт! (Што азначае ці «Божа мой!» ці «Атас» і «Шухер!») У Тэль-Авіве, — крычыць ён і, вядома ж, махае рукамі, — з'явіліся прастытуткі і іншыя негатыўныя моманты! Што рабіць?» — «Што рабіць? — зусім спакойна адказаў мудры Бен. — Ідзі і аддзяч Тварца: нарэшце мы становімся паўнацэннаю дзяржаваю».

Гэта справядліва і ў адносінах да сям'і, і да школы, і ўвогуле да ўсяго, дзе ёсць людзі. (Заўвага. Тыя чытачы, якія, не задумваючыся, напрамую перанясуць аналогію з прастытуцыяй у адносінах дзяржавы на сям'ю і школу, а таксама на ўсё, дзе ёсць людзі, напрамую ж і памыляцца, таму што законы развіцця малых і вялікіх чалавечых груп і супольніцтваў адрозніваюцца іншы раз да проста супрацьлеглага знака.) І яшчэ адна крамоль-

ная, але, упэўнены, што чалавечая думка. Уратуй нас, Божа, ад грамадства, дзе заўсёды, усюды ва ўсім будуць панаваць толькі розум і закон.

Зараз мне здаецца, што наша школа была адной з рэдкіх выспачак, дзе выхоўвалі такія адносіны да жыцця. Вось вам яшчэ адзін просты прыклад. Любка з суседняга дома, прыгожанькая маладзічка, не хаваючыся, мела двух мужоў. З адным яна жыла і мела ад яго дзяўчынку, а да другога хадзіла. Усё Замосце здзіўлялася і, вядома, абуралася. Гэта быў час, калі ў кіно выстройвалася нецярплівая чарга, — ці хопіць квіткоў? — калі ў тым кіно нясцерпна цалаваліся. А калі «Дзяўчына маёй мары», дзе Марыка Рок — зусім ужо — го-ла-я купалася ў бочцы...

На нашай лаўцы часта гучалі злосныя жаночыя галасы ў адрас двухмужніцы. Эскапады, зазвычай, канчаліся словам «бл...». Мая Бабуля, аўтарытэт на Замосці бясспрэчны, аднойчы паклала гэтаму канец. «Калі вас не хапае на аднаго вашага мужа, — сказала яна сходу на лаўцы, — дык не трэба выплёскваць сваю злосць на рэдкай жанчыне, якое хапіла і на тое, каб аднаго кахаць, і на тое, каб другога шкадаваць. Не пэцкайце свае раты лаянкаю, а то яны стануць чорнымі і ўсе даведаюцца, хто вы такія». І — цішыня... Пра сябе хоць і не хочаш, а будзеш ведаць. Па начах ці калі ніхто не бачыць, рабілася такое, што і ў «Кама-сутры» пашукаць трэба (дарэчы будзе сказаць, пра такую павучальную кнігу, ручаюся, на Замосці тады не ведаў ніводзін чалавек). Гэта днём ці пры электрычнасці мараль і сорам былі — я табе дам!

Тое, што да нас на ўрок запрасілі дзядзьку Пецю, вы ведаеце. Але для таго, каб у мяне пра гэта атрымаўся аповед, я павінен да яго непрыкметна наблізіцца, нібыта я зусім і не хачу яго пісаць, а калі і хачу, то не вельмі моцна. Ну, скажам, калі б я гуляў каля дома, дзе на падаконні маляўніча так сядзіць і паволі расчэсвае доўгія валасы дзяўчына, што мяне цікавіць, а мне «вшыско едно». Набліжаючыся, для карысці справы раскажу хоць тое-сёе пра дзядзьку Пецю. А то ён увойдзе ў клас, а вы пра яго нічога не ведаеце.

Калі пішаш пэўную, нават вузкую, маламетражную, як кажуць, рэч, абсалютна не ведаеш, што табе патрэбна будзе ў працэсе яе выбудовы. А калі дакладней, што яна ад цябе сабе запатрабуе. І вось пры напісанні якосьці навелкі пра вінніцкае Замосце — гэта мая пажыццёвая тэма — зазірнуў мой пастаянны герой, дзядзька Пеця, які ў многім мною і народжаны: я на яго, як на навагоднюю ёлку, навешваў свае «цацкі», — зазірнуў ён у прыступе сваёй свярблівай цікаўнасці ў кніжку пра Лацінскую Амерыку, і ўсё! Мне ўжо неадкладна трэба даведацца, што грашовай адзінкай Коста-Рыкі, са сталіцай Сан-Хуан, з'яўляецца калон. Дык і гэтага мала, аказваецца, дзядзьку Пецю, хоць ты трэсні, трэба ведаць, што гэту Коста-Рыку ў 1502 годзе ў час свайго чацвёртага падарожжа, як яму здавалася, у Індыю, адкрыў Хрыстафор Калумб. На якога д'ябла дзядзьку Пецю гэта трэба, я не ведаю. Ведаю толькі тое і дакладна, што без гэтага, як і без многіх іншых, мякка кажучы, дзівацтваў, не было б майго і сапраўднага замасцянскага дзядзькі Пеці.

Яшчэ адно, што здзіўляла нават нас, захапленне жывога Цымбала, якое я мог бы параўнаць з запалам гульца ў карты, — пяшчотная і неўтаймоўная любоў да незразумелых слоў. Калі вы хочаце зрабіць дзядзьку Пецю радасць і шчодра расплаціцца з ім за рамонт вадаправода ці якую іншую хатнюю работу — ён умеў усё, — трэба падарыць яму энцыклапедыю ці слоўнік. Цётка Моця аднойчы ўз'елася і прагнала хадакоў з падарункам:

«То ідыце і самі кушайце той талмуд! Токо ешчэ не хапало этого, як воно... эти-мо-ло… шоб вы здохлі! Токо этого і не хапало ў хаці! І рэйтузы Лідкі ўжэ купував! Шоб тобі дышло ў жывіт трапыло! Кныжкы яму... Вжэ ў хаці спаты нема дэ! Гэць, шоб я вас нэ бачыла!»

Дзядзька Пеця тыдзень гараваў па гэтым этымалагічным слоўніку. Жонцы сказаў толькі: «На цябе я не забідзеўся, бо ты не розуміеш, шо есць свет, а шо — цьма. А еслі шэ адного разу, када мэнэ не будэ, не возьмеш яку кныжку, — дзело отак патэрналісцічаскі і сепаратно не завершыцца, от». На што цётка Моця, не апошняя на язык цётка на Замосці, адказала: «Пятро, як ты хочаш залышытыся без абеду, то пагавары шэ одну хвылыну...»

Далі мы аднойчы дзядзьку Пецю пачытаць «Галінку сакуры», якая толькі што з'явілася. Наконт гэтай кніжкі хачу запісаць асобнае меркаванне, якое супадае з меркаваннем нашага замасцянскага брацтва пасляваеннай моцна начытанай падлеткавай генерацыі. Да «Галінкі...» мы ведалі Японію па возеры Хасан і па Халхін-Голу, а таксама па расповедах пра надакучлівых марскіх браканьераў і кантрабандыстаў — «моя твоя не понимай!» Ага, яшчэ ж і па песні «Злодейка акула хотела напасть на соседа кита, а-а-а, а-а-а, напасть на соседа кита». Гэту песню з запалам, піянерскім голасам, спявала Эдзіт, дачка неаспрэчна любімага намі Уцёсава. Ну... і па трафейным альбомчыку фотаздымкаў, якія прывёз бацька Боркі Цёбакіна з вайны. Вайну ён закончыў у Японіі, і альбомчык быў у лік кантрыбуцыі канфіскаваны з японскага публічнага дома. Я і сёння не разбяруся ў пачуццях, якія абвальваліся на нас пры патаемным разгляданні незямных японак з гэтага альбомчыка... Вось такую Краіну ўзыходзячага сонца ведалі мы да моманту выхаду «Галінкі...»

Аўчыннікаў паказаў рэальную Японію, і няхай позна, але з павагаю і здзіўленнем мы даведаліся пра яе і пазнаёмілі з ёю ўжо даўно немаладога дзядзьку Пецю. Я чаму пра гэта згадаў? Таму, што яго рэакцыя была прыблізна такою ж, як і ў нас, але яго карані ў родную зямлю ўраслі непараўнаўча глыбей. Я гэта бачу, як у праекцыі, на ўроку трыганаметрыі: на ўсім зямным шары па ўсёй яго паверхні ідуць у глыбіню, ажно да самага цэнтра, карані людскіх плямёнаў і родаў, і там у цёмнай і гарачай глыбіні пераплятаюцца адзін з адным, утвараючы агульны зямны корань-пачатак усіх людзей-братоў, што жывуць на паверхні.

Іншы раз у маіх дзіцячых фантазіях я бачыў дом добрага Бога не на небе, а там, у цэнтры планеты, адкуль і пайшлі людзі наверх, каб жыць мірна і па-сяброўску. А сонца, вялікае сонца, гледзячы на тое, як зямля натхняецца, усё цяплей і шчадрэй грэла яе сваімі промнямі, як любімую дачку, якая нарадзіла, нарэшце, доўгачаканых унукаў... Але што вытварылі тыя ўнукі, калі падраслі, дык не пра тое напісана, што злавіла мой ранішні настрой, як заўсёды, трохі маркотны, крыху трывожны і поўны надзей на жаданую сустрэчу, на радасныя слёзы і на яшчэ хоць трохі жыцця без страху і болю.

Вось на такім душэўным фоне і ўбачыў я дзядзьку Пецю з яго звычным ад нараджэння пачуццём, якое спрабавалі вызначыць словам «інтэрнацыяналізм» (як яно на самой справе вызначылася, мы ўжо ведаем...). І вось, скончыўшы чытаць «Галінку сакуры», закрывае ён кнігу, і ўвесь яшчэ там, у Японіі, зрабіўшы малую сцэнічную паўзу, — без сцэны дзядзька Пеця не жыве, — павярнуўшыся ў профіль да нашага чырвонацаглянага дома, — вось так бы яго, што арлом узляцеў да высотаў аб'яднанай зямлі,

курносаносага майстра ўсіх жалезных спраў, і высечы на вінніцкай манеце часоў бясхлебіцы на залатой каласлівай Украіне, і як ён вось так, у профіль, прамаўляе, — не, не для нас, і не для Замосця, — для космасу: «Не бывае непрыгожых гейш — бывае замала саке...»

Вось табе і брацтва народаў у дзеянні. На чыстай японскай мове дзядзька Пеця выказаў не толькі рускую, але і ўсеагульную ісціну. А на яе адвалах якраз і выявілася ісціна пабочная, і не менш значная: спасцігаючы жанчыну, спасцігаеш і краіну, а спасцігнуўшы краіну, спасцігнеш і яе мову. Міжволі згадаеш Зошчанку з яго пытаннем да сусветнай садружнасці: «Дык што ж галоўней у складаным тэатральным механізме: манцёр, рэжысёр, а можа, тэатральны цесля?» У Зошчанкі галоўным аказаўся манцёр, у дзядзькі Пеці — жанчына. Пры ўсёй павазе да Зошчанкі, я ў думках апладзірую дзядзьку Пецю.

Думаю, што цяпер, разагрэўшы мышцы, можна выходзіць на арэну. Я не памыліўся: той, хто паклаў аркуш паперы на стол і ўзяў у рукі асадку, калі робіць гэта ўсур'ёз, заўсёды будзе падобны на Лёню Енгібарава. Сумна і смешна, трывожна і радасна... А дзесьці перад табою і трохі вышэй — мелодыя любові. Абавязкова любові. Таму што нічога іншага людскога на зямлі няма. Толькі гэта. Таму і пішацца тымі, хто піша, сусветная кніга пра ўсё і пра дзядзьку Пецю таксама, і пра дзяцей, якія так убачылі былінных герояў Сурыкава, але ўсё роўна ўсё гэта — пра любоў. Без гэтага няма ні кніг, ні карцін, ні мелодый... І дзяцей без гэтага няма.

Я люблю свайго чытача і, мяркуючы, што ён можа ўсумніцца, падсцялю саломку. Справа ў тым, што праз гады я, вядома, не помню той урок у падрабязнасцях, і таму пераказ мой будзе фрагментарны і складзецца з запамінальных маналогаў дзядзькі Пеці. А дзе і дадумаецца па запатрабаванні маёй душы, якая вучылася хадзіць на тым жа Замосці. Вось калі б дадумваў чужы, мы мелі б падставы крыўдаваць. Атрымаўся ў нас нябачаны жанр — маналог у маналогах. На тое і дзядзька Пеця, каб незвычайна і нечакана. І, як казаў наш сусед Лёня Гершберг, няхай сціпласць трохі адпачне, — я ж таксама з Замосця.

І каб зусім ветліва было, — дык дзядзька Пеця ў жыцці размаўляе на ўкраінскай мове, і я яе для вас перакладаю. Бывае, не зусім удала. А іншы раз і спецыяльна, каб вы не забылі, што ён размаўляе на ўкраінскай мове. Нельга чалавека зусім пазбаўляць яго мовы.

Ну, а цяпер, як казаў наш ваенрук, Фёдар Цімафеевіч, вернемся да нашых практыкаванняў, тыпу абавязкаў, і пастараемся выканаць іх сумленна, тыпу натхнёна.

Сваё пралетарскае слова да вучняў 9-га «А» дзядзька Пеця пачаў з пытання:

— От, скажыце мне, хлопцы, навошта Сямён Захаравіч, — тут Цымбал зрабіў амаль мушкецёрскі паўпаклон убок нашага завуча, — і працягваў, — от нашто ён мяне да вас паклікаў? А таму ён мяне да вас паклікаў, шо сумна-маркотна стала жыць у сферы чалавечых камунікацый, от!

У гэтым месцы паўкласа пападала з партаў. Пасля такога ўступнага слова і пачаўся той легендарны ўрок, у час якога яшчэ не адзін раз то паўкласа, то ўвесь клас падаў з партаў. Другога такога ўрока ў гісторыі нашай школы не было. Ды і за ўсё маё доўгае і разнастайнае настаўніцкае жыццё падобнага не згадваю.

— Вам цяпер тэлевізар стаў замест Сямёна Захаравіча. А можа, і вышэй... Вы потым разумець будзеце, шо гэта міраж — фата-маргана, як казалі ў даўніну. Жывога чалавека нікым і нічым замяніць нельга, бо любіць нават харошы рашпіль не атрымліваецца. Выдатную сабаку, як наша Муфта, можна, дзіця — можна, жанчыну — абавязкова і непахісна! Гэта ўсё будзе чалавечая любоў. А без жанчыны нічога не атрымаецца. Праверыў. Сакрэт просты — тады на зямлі не будзе дзяцей, от. А гэта і ёсць, у чыстым выглядзе, мэта чалавечага руху ўперад па касмічных прасторах. Хоць мой любімы Эпікур сцвярджае, шо ў космасе няма ні пераду, ні заду. Када вы павырастаеце і распачняце палеміку з навукай мінулых стагоддзяў, тады і высветліцца той парадокс. Я асабіста, як жыхар нашай Стандаркі і Замосця, а ў маёй асобе і ўсе вядомыя вам дзядзькі, моцна спадзяёмся на вас у асобе такіх хлопцаў, як Лобік ці Лёўка, от.

Клас павярнуўся да Юркі Лобава і Лёўкі Глейзера і заапладзіраваў. Дзядзька Пеця быў задаволены.

— Тут я заканчваю сваё выступленне такімі словамі: калі нікым нельга замяніць проста чалавека, дык настаўніка... Самі разумееце, ужо не зусім дурні. А отут я ўжо пачынаю сваё выступлене. Пытанні можна задаваць, хто дзе хоча, і перабіваць таксама. Я гэта люблю: называецца жывая палеміка.

— Сямён Захаравіч і таварыш Аляксеенка, вы не будзеце крыўдаваць за жывую палеміку? — дзядзька Пеця звярнуўся да бацькоў школы, якія сядзелі на апошняй дымбелеўскай парце: Дымбеля, Кольку Дэмбіцкага, адправілі ў вольны палёт, і ён, вядома ж, прызямліўся побач з Насцяй Рашчупкінай — такіх ног, як у яе, у школе больш не было. Бацькі, усміхнуўшыся, сказалі, што яны таксама за жывую палеміку, і што дзядзька Пеця можа адчуваць сябе, як дома. Ну, мы ж ведалі, што ён і без такога дазволу будзе адчуваць сябе, як дома. Па-іншаму не ўмеў, так жыў.

Дарэчы, пра гэта, пра стыль жыцця Цымбала, я не магу не расказаць менавіта зараз: каб не забылася. Не доўга, адзін эпізод. Тое, што нам стала вядома з размоў на лаўцы.

Калісьці ўжо я пісаў, што сваякі, дзядзька Мукамол і дзядзька Пеця, — жонкі ў іх сёстры былі, — у час вайны на тыдзень трапілі да немцаў у палон. Справа была пад Кіевам. Вядомая аперацыя... Яны тады зрабілі нам свой Сталінград. Народу паляглo... — тры Вінніцы засяліць можна было б. Так...

Ну вось, сядзяць у яме, агароджанай калючкаю, некалькі соцень і нашы два будучыя дзядзькі з імі. Параненыя, галодныя, абарваныя... З гэтай ямы ў мірны час гліну капалі. Дождж ідзе, ахова ходзіць вакол і ад няма чаго рабіць зрэдку пастрэльвае ў гэты чалавечы студзень... Нават уявіць немагчыма, што гэта было. І тут дзядзька Пеця пачынае на ўвесь голас мацюкаць Гітлера і Гебельса, — ён тады больш ніякіх фашысцкіх прозвішчаў не ведаў, — і ўсіх немцаў з іх мамамі і багамі, ну, і, вядома, натрапляе: кліча яго паставы да дроту. Цымбал ідзе па зямлі, нібы ў апошні раз, і ведае гэта. І хоць росту ён невялікага, але відаць, што ідзе выпрастаўшыся. Чамусьці дзядзька Мукамол, расказваючы, менавіта гэта падкрэсліваў. Для нас жа тады «вшыстко едно» было, як ён ішоў. Ішоў, ды ўсё. Але не, выпрастаўшыся, стаяў на сваім Мукамол. Зараз, канечне, зразумела, хоць і па-ранейшаму цяжка ўявіма, а тады... Ды хто мы былі тады? Заўсёды галодныя, страшэнна цікаўныя і штохвілі без прычыны вясёлыя хлапчаняты. А ў галаве — тырса, як у Страшыдлы з «Чараўніка ізумруднага горада». Адзі-

нае апраўданне нашага тагачаснага жыцця — чыталі шмат і ўсё падрад. І моцна сябравалі. Той інерцыі больш чым на пяцьдзесят гадоў хапіла.

Дайшоў дзядзька Пеця да дроту, а немец у яго чыста па-руску пытаецца: «Так, дык хто ґэта там у цябе гаўно?» Цымбал яму і кажа: «Акрамя тых, каго паспеў назваць, яшчэ і ты». Немец зарагатаў і сказаў: «Прынясці табе люстэрка, каб ты на сябе паглядзеў і зразумеў, хто ёсць гаўно?» — «Не трэба, — кажа дзядзька Пеця. — Лепш чым бегаць па люстэрка, паслухай, што я скажу. Паглядзі на мяне: я галодны, босы-абадраны, у руцэ — гнойная дзірка ад тваёй кулі, і от я — гаўно. А ты сыты, памыты, здаровы — і таксама гаўно. То ж падумай: якое з нашых гаўноў больш гаўністае, га?» Немец падумаў і рассмяяўся: «Пастой тут, я зараз вярнуся». Пайшоў і прынёс дзядзьку Пецю буханку іхняга хлеба ў упакоўцы. Такая вось была гісторыя, якая прыгадалася мне, калі сказалі Цымбалу, каб ён адчуваў сябе, як дома. А як жа яшчэ па-іншаму ён павінен быў у нашай школе сябе адчуваць?

Ён хадзіў ад стала да акна, ад акна да стала і казаў:

— У тэлевізары часта пытаюцца: дык якія ў вас творчыя планы ці — што б вы хацелі сказаць маладому пакаленню... Творчых планаў у мяне на сённяшні дзень два. Першы — паставіць Людцы Фармагеісе новы кран на кухні, бо не дасць жыты. І другое — трэба адчыніць сейф у начальніка Вінніцкай чыгункі. Спецыялісты нават з самога Кіева прыязджалі — паказаў той сейф ім дулю з макам. Намеціўся толькі адзін выхад — узарваць яго да... Так. Ледзь маху, як той казаў, не даў. Так. Адно — лаўка, а зусім іншае — урок у школе. Ну от, тады ўспомнілі вашага дзядзьку Пецю. Сейф той, дай Бог! Мне здаецца, шо спачатку паставілі яго, а потым ужо вакол пабудавалі ўпраўленне дарогі, от.

Даўно, але была справа... Начальнік нашай чыгункі, генерал-дырэктар Мельнікаў, вы ж усе яго ведаеце, загадаў перасунуць таго сейфа ў іншы куток кабінета. Ну і шо?

— Што? — зацікаўлена спытаўся клас.

— А от шо. Нагналі ў кабінет народу, колькі ён мог змясціць. Узяліся і...

— І?..

— Дулю! Клічуць мяне. Я, значыць, кажу генерал-дырэктару, шо калі б рэйкі ў кабінет пракласці, а да сейфа прычапіць калёсную пару і манеўровую «кукушку», то, канечне, вельмі проста перакацілі б той сейф у іншы куток кабінета. Ну, начальнік пасмяяўся, сказаў усім: «Свабодныя» і пытаецца: «І шо ж мы, Пятро Радзівонавіч, будзем рабіць з гэтым монстрам?» А я яму адпаведаю: «А зараз, Леанід Лявонцьевіч, — так ён сябе назваў, калі мы знаёміліся, — мы тут свайго струмента з торбы дастанем, зробім такі кангламерат, падобны на калодзежны журавель, а калі па-навуковаму, дык рычаг з маім КПД трошкі большым, чым у вашых паравозаў, і тыхесенька перасунем сейфа ў патрэбны вам куток. Да слова, скажу, Леанід Лявонцьевіч, а чаго гэта сейфу не стаіцца там, дзе ён стаіць?» І ведаеце, шо мне адказаў генерал-дырэктар? Слухайце, дзеці, бо гэта таксама ўрок нашага жыцця. «Пятро Радзівонавіч, — кажа ён, — сейф павінен стаяць там, дзе я гэтага захачу. І хоць пяць разоў на дзень мяняць сваю дыслакацыю, калі захачу. А інакш — вялікая шкода аўтарытэту начальніка дарогі і, значыць, усёй Вінніцкай чыгунцы. Хіба ж я так упіраўся б, калі б здуру пры сакратарцы не сказаў, шо, можа, добра было б сейф перасунуць, каб праваруч стаяў... Ну і пайшло па ўсім упраўленні. Цяпер ужо адступаць ніяк нельга. Калі сейф не перасунуць, дык, выходзіць, і расклад цягнікоў неабавязкова выконваць да хвіліны. А праз месяц цягнікі пачнуць спаз-

няцца на суткі. Яшчэ праз паўгода зусім перастануць хадзіць. Вось што сёння азначае гэты чортавы сейф для нашай дарогі. Так што пастарайся, Пятро Радзівонавіч, выручай і мяне, і расклад цягнікоў». Ну я і пастараўся: праз хвілін сорак сейф стаяў праваруч ад начальніка. Нават паркету ў кабінеце не падрапаў. А важыў той монстр, як таварны вагон, от. Народу набегла паглядзець на гэты фокус... І, вядома ж, усе пяць намеснікаў Леаніда Лявонцьевіча тут. Генерал-дырэктар доўга-доўга маўчаў і глядзеў на іх і от, як я зараз вам, кажа: «Так, панове афіцэры, выходзіць, што, акрамя вышэйшай адукацыі, трэба іншы раз мець яшчэ і сярэдняе разуменне». Тым справа і скончылася. Канечне, паціснуў мне руку і папрасіў дазволу і надалей пры востpай неабходнасці карыстацца маімі паслугамі. Я дазволіў. Ну, вось ён і скарыстаў мой дазвол.

Дзядзька Пеця памаўчаў і сказаў:

— Я разумею, што ў паўкласа на языку зараз круціцца законнае пытанне: «А скоко ж вы, дзядзька Пеця, за такую вашу работу грошай атрымалі?»

Паўкласа апусціла вочы.

— На гэта я вам, канечне, дам адказ. Грошы былі добрыя. А скоко, — дык вы не крыўдуйце, — пра гэта нават мая Моця, у чыстым выглядзе, так і не даведалася. Надоўга нам — Яроме, Гільку, Лейзеру, Сярожу і Колю — хапіла вольна пасядзець вечарам на нашай лаўцы і падыхаць свежым паветрам.

За добрую работу трэба добра плаціць, шоб майстры не перавяліся. У жыцці чалавек бывае ў розных пазіцыях: бывае, шо яму плоцяць, а бывае, шо ён плоціць. І гэта правільна. Я табі сейф перасунуў, — ты плоціш; ты мэнэ на цягніку павіз — я плачу. За ўсё трэба плаціць. Слова супраць не скажу. Але тут на ўвесь рост, як Сувораў на кані, узнікае пытанне з пытанняў: а калі няма чым? От гэтае пытанне і марнуе ўсё людское жыццё. Адкуль узяць, калі няма? То ж патраціў на гульню ў карты ў ларыкіным садочку ці купіў занадта дарагое паліто з каракулевым каўняром, ці, ужо зусім, — як той аўтамабіль «хорх», шо начальнік чыгункі ездзіць... Ну, тада зразумела, і майго шкадавання тут няма. А от, када трэба пеніцыліну Кляну на яго сэрца ці ж маёй Моці хай сабе сабачага каўняра на паліто, а — няма чым... О тут у мяне ўзнікае камуністычнае пытанне: чаму ў роўным грамадстве не зусім роўныя магчымасці? Адны могуць, іншыя — не. І пры гэтым, заўважце, таварышы дзевяцікласнікі, дужэ часта здараецца, шо могуць лайдакі-нядбайнікі, а не могуць сумленныя працоўныя. Шо скажаце?

— А мы вас паслухаем.

— Ух ты, які хітрун, га! Дзядзька Пеця, выходзіць, сам сябе і спытаўся, так? Ну добра, адказваю. Аксюмарон суцэльны атрымліваецца, хлопцы. От, калі ты сумленны працаўнік, то ў дзяржаві, дзе непахісны закон, то ідзі па вуліцы і саромейся, шо не можаш купіць жонцы каўнер на паліто. Таму, шо ў сумленнай і законнай дзяржаве сорамна быць бедным. Калі ж у грамадстве закон ёсць, але ён не дзейнічае... Тут, хлопцы, сорамна ўжо наадварот, у чыстым выглядзе, — быць багатым. Нават калі ты купіш два паліта і да іх два каўняры, я цябе любіць не магу, бо ты злодзей.

А аксюмарон, хлопцы, гэта — словаспалучэнне супрацьлегласцей. Ну, от, як да паравоза прычапіць гумовага маторчыка. Канешне, вы можаце сачыніць нераўнавесную сістэму ўсялякіх доказаў і падумаеце, шо перамаглі ўжо ў спрэчцы і шо вам паважаны мною Эпікур прынясе вянок са старажытнагрэцкага лаўру. Ну, от, скажам, вы даводзіце, шо мне нельга есці м’ясо амараў. Узнікае пытанне: як мне, Пятру Цымбалу, цяперачкі жыць, га? А я вам з замасцянскай прастатою адказваю: калі нельга, дык і не

буду, от! А падпытанне вам ад мяне будзе такое: а шо гэта за яно — амары? І можа, я лепш паем квашаніны са свіной скуры, га?

Шоб разабрацца ў гэтым пытанні, то нам не хопіць не тока аднаго ўрока, але і ўсіх нашых мазгоў, бо мазгі нашы выхаваны ў роўным грамадстве з няроўнымі магчымасцямі.

Ці можна ручацца за адэкватнасць успрыняццяў і адчуванняў, якія зведаў паўстагоддзя таму? Не ведаю. Але сёння мне здаецца, што дырэктар школы і Сямён Захаравіч, седзячы на дымбелеўскай парце, пры гэтых словах дзядзькі Пеці зрабіліся меншыя ростам. Сталіну яшчэ жыць было год. Калі ўлічваць інерцыю, а яна ў грамадска-гістарычных фармацыях нашмат большая, чым у фізіцы, дык час для адкрытага роздуму пра «м'яса амараў» і мазгі, выхаваныя «ў родным грамадстве з няроўнымі магчымасцямі», тым больш у школе ды яшчэ пры дырэктары і завучы, быў выбраны не вельмі ўдалы. У тым грамадстве, у якім дзядзька Пеця і ўсе нашы дзядзькі Замосця жылі і працавалі, яны добра-такі спатрэбіліся ў сферы фізічнай працы. І калі выпадак і дырэктарская воля перамясцілі Цымбала ў сферу ідэалогіі, ды яшчэ ў школу, ды на ўрок, і паставілі за настаўніцкі стол... Згадаўся адэскі анекдот з такою канцоўкаю: «Ну, хлопцы, я вам напрацую...»

У грамадстве сапраўды роўных магчымасцей дзядзька Пеця быў бы яго ідэальным членам. А ў тым, у якім жыў, — барані Божа, адысці на два крокі ад свайго жалеза і пачаць думаць і разважаць. «Кожная гайка павінна ведаць свой болт», — не раз казаў нам дзядзька Пеця. А тут вось сам парушыў свой закон. Каўнер для «паліта» Моці, бачыце, людзі, яму спатрэбіўся, а хоць бы і сабачы. Цікава, як цётка Моця ў ім глядзелася б пасля сваёй вечнай «куфайкі»? А калі, барані Божа, сабаліны? Такое паліто яшчэ і насіць трэба ўмець, пры ім жа хадзіць трэба інакшай і галаву паварочваць, як Ала Тарасава ў МХАЦе. Вось і ўявіце, калі я зараз, праз пяцьдзесят гадоў, кінуўся ў падрабязныя развагі на гэты конт, то што ж нараджалася ў нашых мазгах і ў нашых думках тады, на гэтым дзіўным уроку...

— От, вас вучылі, шо быццё вызначае свядомасць? — чуецца мне, як сёння, хітраваты голас дзядзькі Пеці. — На гэтай тэорыі і трымаецца роўнае грамадства няроўных магчымасцей. То ж зусім дурнота якая, у чыстым выглядзе. І жыццё гэта пацвердзіла.

У гэтым месцы перадавыя кіраўнікі доблеснай 13-й чыгуначнай школы разам захацелі апынуцца ў падуладнай Хатабычу прасторы і к чортавай мацеры знікнуць з гэтага перадавога ўрока. «Сямён, — злавесным шэптам вымавіў Аляксеенка, — гэты перадавы гамнавоз дорыць нам чыстую «дзесятку з правам перапіскі»! І гэта, Сямён, мы ўтварылі сваімі ўласнымі рукамі...»

А дзядзька Пеця працягваў ствараць «дзесятку з правам перапіскі», як для высокіх гасцей урока, так і для сябе, ні пра што такое не здагадваючыся: ён выкладваў свае погляды на сваё і наша агульнае жыццё. «Маці ні ў пройму!», як казаў дзядзька Ярома Мукамол, неразлучны Цымбалаў сябра, на розныя стасункі гэтага жыцця.

— На самой жа справе толькі свядомасць вызначае быццё. Гэта вам скажа кожны рабочы чалавек, таму, шо зразумела нават Яшку з нашага дома, нягледзячы, шо дытына, — якая ў цябе галава, такое ў цябе жыццё, от. І нікога не слухайце, калі скажа іншае.

— О! Д-д-дзядзька П-п-еця! То ж М-м-аркс з Эн-н-гельсам разам сказалі, шо ад т-таго, як жывееш, то гэтак і р-р-разважаеш, — у плане жывой палемікі, нарэшце, выказаўся заікасты Дымбель.

— Ну то шо, я супраць іх кажу нешта не тое? І я кажу, шо, калі ты хранова жывеш, дык трэба ўключаць на поўную хуткасць галаву, і тады будзеш жыць лепш. То вецер роўна на ўсіх адзін, і тут, хто супраць яго, прабачце, мочыцца, а хто, як той хлопец у Нікіфараўцах, ставіць вятрак і чэрпае электрычную энергію для сваёй гаспадаркі і хаты. Тут, у чыстым выглядзе, яскравы прыклад: магчымасці роўныя, але няроўна выкарыстоўваюцца. Але ж то вецер — прырода. А мы ж ёсць грамадства, та яшчэ і сапіенсаў. Законы іншыя, як у мушкецёраў: адзін за ўсіх і ўсе за аднаго.

Тут я перапыню дзядзьку Пецю: нястрымна хочацца сказаць, што, калі мы ў тым вінніцкім часе, вядома ж, жылі па такім прынцыпе, — я кажу пра сваіх сяброў і сябе, — дык нашы ветразі напаўняў не вецер, а святло. Гэта быў пераход на іншы ўзровень пачуццёвасці, дзе галоўную ролю пачалі іграць не веды, а штосьці нават большае, чым інтуіцыя. Мы тады не разумелі, што нас палюбіла неба. Таго святла і любві хапіла і на гэты час. А цяпер зноў вернемся ў наш клас узору 1952 года.

— Пакуль шо не вельмі атрымліваецца, як у мушкецёраў, — падвёў прамежкавы вынік дзядзька Пеця. — А класікі абяцаліся. Таму і ўзніклі ў нас з Марксам і Энгельсам невялікія разыходжанні. Як ні круціся, а ўсё роўна выходзіць, шо жыццё і хлеб з салам на стале, а іншы раз і якая чарка моцна залежаць не толькі ад таго, якая ў цябе галава, але якія ў цябе сумленне і праўда. А Маркс і Энгельс былі людзьмі. Я тут у аднаго дацэнта ўліўны бачок рамантаваў, то даў ён мне старую кнігу. Цікавая кніга. Я Маркса і яго сябра Энгельса бачыў тока на малюнках і ў кіно на помніках, от. А шо яны такое, я не ведаў. Адно — класікі марксізму і зноў-такі ленінізму, і ўсё. А тут чытаю — Фрыдрых быў дужа добрай і цярплячай людынай, а Карл — нават разумны і вельмі любіў жаночы пол. От табе і на! Нармальныя людзі, мне і вам зразумелыя. А калі людзі, то маглі калі-небудзь памыліцца. І не трэба імі злякаць-палохаць людзей.

Тут ужо і Сямён Захаравіч нервова рагатнуў, і абодва яны з дырэктарам зрабіліся хлопчыкамі з ногцік. А дзядзька Пеця ішоў далей шырокім пралетарскім крока гома-натуральніка.

— Мы з вамі, узагале, ну, увогуле, дзіўны народ, хлопцы, і краіна нашая, значыць, дзяржава... такое яшчэ ў гісторыі ўсяго чалавецтва не было, і я так думаю, шо больш і ніколі не будзе. Адно тое, шо Гітлера на стэлю-столь загналі і жывыя засталіся, от! А ў спорце — няма шо казаць. Аднаго нашага Толіка Жыцецкага ўзяць: жывучы на нашым Замосці, ужо шэсць разоў усіх у свеце перамог — такую штангу падымаў, шо ў вялікіх чэмпіёнаў боршч пракісаў, от. Слова не скажу — добрыя хлопцы ў краіне жывуць. (На задняй парце Аляксеенка з Кержнерам з палёгкаю ўздыхнулі і выпрасталіся. Але рана музыка зайграла...) Хлопцы добрыя, а жывём мы бедна. Часу пасля вайны мінула нямала, маглі б ужо і лепей жыць. А чаму не жывём? То называецца рытарычнае пытанне: сам спытаўся — сам адказваю. А таму так, шо ў нас у адных у свеце вытворчасць бывае стопрацэнтна адыходнай.

Дымбелева парта зрабіла выгляд, што нічога такога яна не чула і ўвогуле яна стаіць на самым краёчку гэтага ўрока.

— Дзядзька Пеця, можна прывесці прыклад, бо не зразумела? — прыгожа спыталася Насценька Рашчупкіна.

Цымбал з замілаваннем паглядзеў на красуню Насцюху і сказаў:

— Асабіста для цябе, донька, расказваю прыклад, які кажа сам за сябе. Зрабілі пад Кіевам Цымлянскае мора. А для таго яго рабілі, перасяліўшы тышчы народу і заліўшы тышчы га ворыва і лугоў, шоб каскад гідраэлектрастанцый на Дняпры пабудаваць, і, дадаўшы электраэнергіі ў прамысловасць, даць людзям найлепшае жыццё праз магазіны, сельпо і зарплату, от. Высакародная справа, як кажуць аратары. І ўчынак варты — гэта ўжо старажытныя грэкі. Але ад таго, шо ты хочаш, да таго, шо ты можаш, — дык ужо не помню, хто з вялікіх сказаў, — бывае дыстанцыя вялікага памеру. Ну і тут: занадта навучоныя былі майсцяра... Парушылі ў прыродзе водныя законы. Пачалі заліваццa шахты Данбаса. Паставілі на шахтах магутныя электранасосы, шоб адкачваць ваду. Палічылі, колькі энергіі трацілася на гэта, і атрымалася, што столькі, колькі дае той каскад на Дніпрі. Сто працэнтаў. Для чаго ўпарціліся столькі гадоў і столькі грошай і клопату, у чыстым выглядзе, «ляснулі», пусцілі ў дым і ранішні туман, от. Як табі гэты прыклад, донька? А іх па краіне, як яблык у садочку, от.

Насцюха паднялася і нібы зніякавела... Чаго б толькі яна ні дасягнула ў нашы дні, калі б вось так своечасова зніякавела паміж Абрамовічам і Беразоўскім ці на Канскім кінафестывалі.

— Я думаю, што яны зрабілі не так, як трэба было б, — сказала яна і села.

— І я гэтак думаю. Зусім няправільна, проста на вашу двойку. І ўжо зусім — ніхто не сеў у допр і не страціў ніводнага рубля са сваёй кішэні.

— А хто ж страціў? — голас масы.

— Як хто? Мы ж з вамі і страцілі. Таму сёння м'яса каштуе ўдвая. Пачалі шукаць выхад з цяжкага становішча і знайшлі! Аб'явілі па ўсёй краіне месячнік ударнай камуністычнай вахты. Вось... Ніхто на цэлым свеце не ўмее так выходзіць з цяжкіх становішчаў, як наш чалавек. Але! Ніхто не ўмее так хітра і глыбока заганяць сябе ў такое становішча.

Задняя парта зусім знікла з дзевятага «А». Зусім!

— Шо такое харошы чалавек? Калі правільна адказаць на гэта пытанне, дык чалавецтва вернецца да натуральнага шляху свайго развіцця. І толькі тады, хто будзе жыць у якімсьці трыццатым тысячагоддзі, зусім не абавязкова, шо гэта будуць зямляне, не змогуць сказаць пра нас: «У мінулым у іх быў неблагі шанц на будучае...» Я гэтак думаю.

Дзядзька Пеця ішоў у жыццё не выхаваннем і адукаванасцю, а інтуіцыяй і вопытам і, апынуўшыся ў ролі настаўніка школы, вядома ж, не мог не пацэліць.

— Я, хлопцы, не Брахмапутра, шоб усё ведаць... — пачаў ён новую тэму.

І быў перапынены маім сябрам Юркам Лобавым, які трываць не мог недакладнасцей і неахайнасці:

— Дзядзька Пеця! Ну што ж гэта такое? Колькі разоў паўтаралі! Не Брахмапутра — то ж рака, а Заратустра — то ж філосаф!

Цымбал палюбоўна крутнуў галавою:

— Бачыце, якія хлопцы павырасталі на Замосці, га? Не баяцца жывой палемікі, і ўсё! Даруй мяне, Лобік, пам'яць ужо не тая... От спытайся, колькі ў мяне грошай у заначцы — не памятаю. А калі Мотра спытаецца, дык

і пра заначку забудуся, от. Ну, вядома ж, Заратустра, а не Брахмапутра. От жа ж, якія прыгожыя словы ў гэтай Індыі... Так, той Заратустра ўсё ведаў, а я — толькі тое, шо людзьмі могуць звацца адны харошыя людзі. І тут паўстае пытанне пытанняў: а шо гэта такое — хароша людына? Для памочніка машыніста — яшчэ больш зашмальцаваны і замурзаны памочнік? А вось ужо для Дона Жуана, — толькі той, хто паслаў, прашу дзяўчат даравасць, на аборты яшчэ болей жанчын, чым сам Дон. А справа нежартоўная, пытанне схавана ў фундаменце. Не адкажам на яго — не будзем ведаць, за каго аддаваць замуж нашых дочак. З кім сябраваць нашым сынам. І з кім працаваць у калектыве і адпачываць на Бугу. Каго загадаеце любіць да самазабыцця? Каго бязмежна паважаць? Га?

Я дзесьці прачытаў нібыта разумную рэч. Не той харошы, хто гатовы на харошыя ўчынкі, а той, хто не робіць дрэнных. Якаясьці атрымліваецца для ўсіх добрая праўда, нібыта яна сядзіць адразу на двух табурэтках. Калі ўвесь час рабіць толькі добрае, дык ты ўжо не чалавек, а герой нашага часу. А папраўдзе, калі не робіш дрэнных учынкаў, дык гэта проста нармальна. А нам трэба, шоб і добра, але дзе-нідзе меў чалавек права і памыліцца.

Аднаго разу пачуў я, як хлопцы на нашай лаўцы гаманілі. Яны зараз тут у класе сядзяць, але я іх не назаву, таму шо гэта будзе несумленна. Яны ўсе — слова не скажу! Але і сярод іх ёсць лучшэйшыя, як Алег Кашавы ў таго Фадзеева, — няпраўды ніяк не скажуць. Як быццам у іх пасля гэтага зуб пачынае моцна балець. І от, седзячы на нашай лаўцы, адзін аднаму кажуць: «Ты ў нас такі разумны і выхвалены, шо нам побач з табою неяк нязручна, нібыта мы дэбілы і злачынцы. Ты сваімі паводзінамі бянтэжыш людзей, якія жывуць побач з табой. Адно выйсце: трэба цябе забіць і адразу паставіць залаты помнік з надпісам: «Ганарымся! Мы жылі з ім у адзін час!»

Жартуем, хлопцы, так, шо самі не разбяромся, дзе сур'ёзна кажам... А калі сур'ёзна, то старажытныя тут далі добры прыклад: «Спяшайся рабіць дабро». І гэта, нягледзячы на тое, шо гісторыя мае шмат прыкладаў, калі за дабро плацілі злом. І таму ў нашым жыцці мы, бывае, чуем: «Рабі дабро і... асцерагайся» ці «Рабі дабро, але не залішне». Тут нядаўна я прачытаў аднаго старажытнага грэка — Плутарха, хлопцы падсунулі. Ой як піша: словы такія, быццам ён на трыбуне стаіць, от.

Факты і тока факты. І наконт дабра і наадварот — зла, вельмі сардэчна. От, скажам, Фемістокл. Стока, скока ён зрабіў для любімай радзімы, дык яшчэ трэба пашукаць па ўсёй даўняй гісторыі. І шо? А то, таварышы дзевяцікласнікі, — прагналі яго суайчыннікі з любімай яго Грэцыі куды вочы глядзяць. Не паспеў я яму паспачуваць, як на табе — выдатнага палкаводца Каміла праганяюць з Рыма, а ён жа той Рым ад галаў выратаваў — грудзямі абараніў!

Без варвараў самі сваіх ляпшэйшых сыноў вынішчалі... І хто?! Старажытныя грэкі! Спытайся сягоння ў калідорах вашай школы... Шо ты хочаш у жывой палеміцы зноў сказаць, сябра мой, Лобік?

— А тое, дзядзька Пеця, што гаварыць трэба не ў калідорах, а «в коридорах». Мы ўжо гэта з вамі праходзілі.

Цымбал зноў круцянуў галавою, але цяпер ужо прабачаючыся:

— Дзякуй за навуку, Юра. Пастараюся не забыць. Запамятаў жа я наконт транвая, шо ён трамвай. Так і тут будзе. Але вернемся да грэкаў. Спытайце ў калідорах — цяжкае слова... — нават шасцікласніка, шо такое Грэцыя, і ён тут жа адрапартуе: калыска чалавечай культуры, яркім прадстаўніком якой быў скульптар Фідзій! Праз яго слава ў стагоддзях прыйшла і да Афінаў, і да

ўсёй Грэцыі. А яшчэ — быў ён сябрам самога Перыкла! Ужо няма пра што казаць. І шо? Судзілі, пасадзілі ў турму, а там атруцілі! Хоць і старажытныя, але зладзеі! Ён жа зрабіў вам такую залатую Афіну, заступніцу вашага горада, якую і сёння ніхто не зробіць! Далёка з мора была відна яна караблям, шо плылі з усяго свету ў калыску культуры, і папераджае ўсяго сустракала іх залатая Афіна старажытнага грэка Фідзія. Як на тое, быў данос, шо вялікі скульптар украў золата з тае статуі. А я вам і сёння смела і непаваротна скажу: не браў ён тога золата, не трэба яно было яму пры той славе, шо ён з Багамі параўняўся. Зайздрасць, от шо тое было. Падлюка-людына напісала маленечку паперку і — таго хапіла. Усяго аднаго даносу хапіла, шоб за непараўнальную ў мастацтве Афіну пасадзіць ды яшчэ й атруціць. Калі я гэта чытаў, у мяне сэрца калацілася ад гневу і гора. Я ўяўляў сабе, шо Фідзій уяўляў, сідзючы ў роднай старажытнагрэчаскай турме... І я ўпэўнены, шо там, у цудоўнай Грэцыі, былі свае гітлеры і гебельсы, от.

Ну, на тое я вам скажу, як ведаю: захочаш кепскае ўтварыць — падумай, таму шо, калі ў нас у Замосці зловяць, біць будуць доўга і не абы-як. А дабро — добра рабі і не зважай: нават калі будуць біць, шо не адзін раз у гісторыі было, дык хоць ведацьмеш, за шо. І галоўнае, — ніколі не выбачайся за дабро: без яго ўнукаў не бывае, а толькі адзін тормаз грамадскага развіцця, от.

Як далёка ўніз, у чорную бездань подласці, можа падаць чалавек і як высока ўзносіцца ў сіняе неба высакароднасцей? Ці ёсць мяжа ці мяжы няма? Сёння я ў вас пытаюся, а заўтра таго пытання вам задасць жыццё. Таму, шо гэта адно карэннае пытанне, на якое вам самім трэба абавязкова адказаць, от.

Я часта пытаюся ў сябе: чаму мяне гэтак вабіць, прыцягвае тэма замасцянскага дзяцінства і юнацтва; чаму я ўсё жыццё пішу адну, «вінніцкую», кнігу. Канечне, кожны чалавек, што піша, укладвае ў фундамент любой кнігі самога сябе — чужым вопытам да чытача не дагрукаешся. Але штосьці ў маёй заўзятай прыхільнасці ёсць, акрамя «штуршковага моманту» і псіхалагічнай школы. Я шмат пра гэта думаў і зразумеў, што пэўнага адказу ніколі не знайду, таму што гэтыя абсягі падпарадкоўваюцца пачуццю, дзе ўвогуле не бывае пэўнасці. Але, радасна адыходзячы ад перманентнай эмігранцкай маркоты-суму ў сваё мінулае, дзе разгортваецца дзеянне «Двух урокаў», я, здаецца, высветліў адну з прычын непазбыўнай душэўнай прывязанасці да майго пакалення, без якога няма і майго часу.

Тымчасовыя атланты ўжо нямала пратрымалі на сваіх зусім не геркулесавых плячах. Трымалі так, што самі ўкамянелі і зрабіліся зямлёю. Хто трымае зараз? Напэўна, і вы заўважылі, што сёння над намі нізкае неба. І я думаю, што такіх урокаў, як тыя два, пра якія я распавядаю, і шмат якіх, засвоеных намі на ўсё жыццё, сёння нават здарыцца не можа — чалавечы матэрыял не той. Калісьці я, па-вар'яцку закаханы, казаў сваёй будучай жонцы: «Мы ўваходзім у прамень святла!» Сёння я хачу сказаць, няхай толькі тым, хто прачытае: «Вы ўвайшлі ў эру духоўнай абломаўшчыны». Калі б я так думаў... — я так адчуваю. Тут менш памылак.

Што можа апраўдаць прысутнасць у мастацкім расповедзе публіцыстыкі ці, яшчэ горш, павучання? Хіба што такая аўтабіяграфічная падрабязнасць з жыцця аўтара, як тры дзесяткі гадоў настаўніцтва. А цяпер,

нарэшце, — адна з прычын маёй любві да сяброў і гарачага жадання вяртацца ў той час.

Большасць дзяцей Замосця былі запраграміраваны на паразу: генетыкай і сацыялістычным ладам, у якім узніклі і развіваліся іх роды і плямёны. Але ж тыя ўмовы стварылі такую біялогію, якая, бунтуючы, імкнулася да выжывання і перамогі. Перамогу ж ад паразы, як па тым жа Пастарнаку, адрозніць не маглі, таму засталіся звычайнымі людзьмі нават тады, калі таранамі розуму і здольнасцей, упартасці і лютасці «вылазілі» наверх і нахапаліся грошай. Ну, вядома ж, не ўсе, — увогуле, слова «ўсе» ў мове мне здаецца дэгенератыўным. Яно ўжо нічога не адлюстроўвае. Нідзе няма ўсяго і нічога не адпавядае сабою «ўсё», нават у адной сям'і, нават з трох чалавек... — але замасцянскі працэнт у параўнанні з іншымі, вядомымі мне племяннымі групамі, быў у гэтых адносінах захапляльны.

Энергія змяну. На ёй і ехалі, пакуль ехалася. А калі яна скончылася, — хто рабіўся вар'ятам, хто алкаголікам, трапляў у зону... А Замосце, якое «закалялася, як сталь» — у нялёгкую чалавечую будучыню. Разумнець. Яе сустрэць — дзяцей займець, чакаць унукаў і на іх спадзявацца. Нехта ж павінен дайсці. Іначай усе — непатрэбныя. Але галоўнае — любіць. Над усім — велічэннае нявыказанае, першае пасля жыцця і адзінае перад смерцю. Чалавек гэтага пазбегнуць не можа.

— Жыц-ц-цё... — працягваў жывую палеміку дзядзька Пеця. — Так казаў адзін мой знаёмы, дзед Іван з Літына. Хто ведае, дык гэта пад самаю Вінніцаю. Дзед гэты меў незвычайную прафесію — капаў крыніцы. Зробіць калаўрот, падчэпіць цабэрак да вяроўчыны і зямлю наверх падымае, і сам спускаецца-падымаецца. А цабэрак — гэта такое вялікае драўлянае вядро. Чарга да яго па крыніцы стаяла, калі ўсіх паставіць, дык ад вашай школы да Жмерынкі. Чыстая і смачная вада ўсім людзям патрэбна. Ён ведаў, дзе ёсць такая вада і на якой глыбіні яна жыве. Дзед Іван быў харошым чалавекам і моцна любіў у добрай кампаніі выпіць чарку-другую. І калі мне было сумна, я садзіўся на лісапед і ехаў да дзеда...

Тут наш Юрка зноў не вытрымаў:

— Дзядзька Пеця! Ну колькі можна паўтараць, шо не лісапед, а веласіпед!

— От, бачыце, як мае настаўнікі незадаволены мною. Усё, усё, Юрка, больш не буду нявечыць вялікую рускую мову, якая была надзеяю і апірышчам не вельмі любімага мною Івана Сяргеевіча Тургенева. — І з душою дадаў: — Які год ужо я з хлопцамі, шчо жывуць у нашым доме, а вучацца ў вашым класе, праходжу курс навукі на нашай лаўцы. Колькі кніг па іх падказцы прачытаў, скока хатніх заданіеў выканаў... і скока яны мне двоек панастаўлялі... То ж, ведаеце, завялі журнал маёй паспяховасці... От вы ўсе з маімі хлопцамі ў дзявятым класе, а я вас даганяю — я зараз у сёмым. Думаю, да канца года даганю.

— Ну то шо там з дзедам Іванам? — безыменны голас з нетраў 9-га «А».

— А шо з дзедам Іванам... Аднаго разу прыехаў я на сваім... веласіпедзе, а мне кажуць: скончыўся дзед Іван. Як так? Вмэр?! Не, кажуць, знявечыўся. Абарваўся цабэрак, і перастала быць у дзеда ног — прыраслі яго рукі да мыліц-кастылёў. Рукі ў яго залатыя былі. І лёгкія — пасля таго, як ён налівае, ніколі галава не балела, не трэба было пахмяляцца. А Толік, шо ў педінстытуце дацэнта, добрую песню склаў.

І дзядзька Пеця заспяваў:

Шлях на Литын. Чорни лыпы. Небо з крыци.
Завертаймо, хлопци, коней до крыныци,
Завертаймо, куме, коней до Ивана,
До Ивана, водяного дидугана.

Як кыдав Господь у прирву Люцифера,
Так летила та останняя цыбера,
Так летила, шо, як крыла, руки сталы,
Мов да мылыць назавжды попрыросталы.

Доля темна, доля шчыра, мов крыныця.
Не журиться, добри люды, не журиться!
Дай, Иване, нам воды из того глека,
Пыймо, куме, бо шчэ ихаты далеко.

Колькі цудоўных песень чуў я потым, пасля Вінніцы, і якія спевакі іх выконвалі, а такое напоўненай чыстым пачуццём цішыні, якая панавала тады ў нашым класе, я пасля ніякіх песень не чуў. А дзядзька Пеця трохі памаўчаў і працягваў урок.

— А неўзабаве дзед памёр. Я думаю, што не мог ужо капаць свае крыніцы. І жыццё стала крыху іншым. Таму, што дзеда Івана ў ім ужо не было. Так... жыццё ўвесь час мяняецца. Яно можа перамяніцца нават ад аднаго крыку дытыны. От вам прыклад, які я прыкмеціў. У нас на Замосці, скока я сябе памятаю, лішніх кацянят і цуцанят тапілі. Ці ў вядры, ці ў Бугу. Бо іх не было куды дзяваць: у самых хлеба нястача. Пакінуць аднаго, і хопіць.

А тут наспеў час, як у нашым доме вырас Яшка. Ну, не шоб моцна вырас, а так, гадоў яму было п’яць. А тут Муфта наша нарадзіла двух шчанюкоў. Мокрыя, сляпыя... І ўбачыў Яшка, як Вера-крывуляка з другога пад’езда кінула ў вядро з вадою аднаго цуцанятка. А Яшка ж такога ніколі раней не бачыў. Як закрычаў ён — уся Стандарка збеглася. Думалі, што кагосьці забілі, от. А гэта Яшка стаяў у парваных трусах і прытуляў да сябе мокрае цуцаня, і крычаў, крычаў тока адно: «Яно ж жывое! Жывое!..» І от, шо я вам скажу: з таго часу на нашым Замосці перасталі тапіць і цуцанят, і кацянят. Ходзяць па Вінніцы і шукаюць, каму падараваць. Бывае, па тры дні ходзяць, але тапіць перасталі.

От вам і змены ў свеце ад аднаго дзіцячага крыку. А зараз бывае і шмат разоў, калі крыві — мора, забітых — мільён, — і ціха, ціха — няма Яшкі, шоб закрычаць: «Яно ж жывое!» Не перастаюць ваяваць, і ўсё. Шо гэта? А то, шо свет не дарос яшчэ да Замосця. І шо багата людзей засталіся ёлупамі, якімі былі ў сярэдневякоўі, от. Рознае ў свеце было і ёсць, але трэба, каб не забылі Яшкаў крык: «Яно ж жывое!» Можа, тады і сонейка калінебудзь узыдзе над чыстаю зямлёю. От!

Жыццё на Замосці было шматаблічнае, а ў іншы момант нават і шматкаляровае, — нібыта баі мясцовага значэння: як быццам такія-сякія поспехі ёсць, але ні на што, акрамя хлапечага ўяўлення, яны не ўплываюць. Жыццё наша, безумоўна, было савецкім і ніякім іншым: пра іншае тое-сёе чыталі ў кнігах... Таму я лічу, што тыя два ўрокі на фоне нашага існавання сталі момантамі штуршковымі і каталізатарнымі.

Калі я распавядаў пра два даўнія ўрокі, нарадзілася і вырасла патрэба растлумачыць адзін парадокс. Усяго два словы.

Не здзіўляйцеся відавочнаму несупадзенню: напісанага хапіла б на ўрокаў шэсць-сем. Але адзін клопат сам урок, а другі — расповед пра яго. Там час рэальны і агульны, а тут — адносны і мой. Іншая гульня, зусім іншая... І дзядзька Пеця ўмее гуляць па маіх правілах, застаючыся тым рэальным, з жыцця, любімым мной дзядзькам Пецем Цымбалам, бацькам маёй аднакласніцы Лідкі.

Дапамог дырэктар школы. Калі прагучаў званок, Аляксеенка падняўся і абвясціў:

— Працягваем заняткі без перапынку яшчэ адзін урок. Час перапынку я кампенсую вам удвая.

Вось як бывае... З таго дня мы перасталі баяцца нашага дырэктара.

А дзядзька Пеця, як гэтак і трэба, нібыта ў школе напланавана аб'ядноўваць урокі, працягваў сваю прамову «тыпу жывой палемікі».

— Мы з вамі вядзём урок. Навучаемся, як мае быць. І мая думка, з якою я з вамі зараз падзялюся, можа быць, таксама вучэнне. Хто хоча, той пакладзе гэту думку ў кішэню. А хто не, дык і не трэба. Бо навучыць вас не зможа ніхто, нават Сямён Захаравіч, калі вы самі не хочаце навучыцца, от. Дык яно ж так і ёсць, як спавядаў разумны кітаец Канфуцый: тока розум і бязглуздасць — велічыні непарушныя. Хто хоча — едзе на трамваі, а хто не хоча, то й не трэба. Паслухайце, значыць, маю тэорыю, якая вырасла з майго вопыту.

Ёсць тры градацыі чалавецтва. Гома сапіенс — гэта чалавек разумны. Нарадзіўся, расплюшчыў вочы — ужо разумны, бо ад разумнага нарадзіўся. Яно, канечне, не абавязкова, шоб і вырас разумны. Часцей атрымліваюцца ці паўгалоўкі, ці недачалавекі... Таксама правільна, шоб то было на зямлі, калі б кожны прыдумаў свой цягнік, а можа, сваю табліцу множання. Тады б са ўсёй Галактыкі да нас звозілі б дурняў — для раўнавагі. На сённяшні дзень вы і знаходзіцеся на гэтай пазіцыі: чалавек на пачатку разумнага развіцця.

Але ёсць іншая ступень маёй градацыі: чалавек, што можа распавядаць і разам з тым робіць. На гэтай прыступцы знаходжуся я, мой сябра Ярома Мукамол, мой таварыш Скатніцкі — а яшчэ кірмашовы работнік Лейзер і яшчэ некалькі чалавек з Замосця і, вядома ж, вашы настаўнікі.

Мы кажам, шо яно ёсць, як яно павінна быць, і робім гэта рукамі. Вы спытаеце, а як жа настаўнікі, яны ж рукамі не робяць нічога. То я вам скажу: калі б яны і мы не гаварылі, то і рабіць было б няма чаго. Сядзелі б мы ў адной вялікай пячоры і гуртам лавілі б мамантa, от! Вы калі-небудзь лавілі маманта са штыкецінаю ў руцэ? А-а... Як казаў адзін сярэднеазіяцкі герой літаратурнага эпасу, гэта вам, хлопцы, не ешака купіць.

Але ёсць і трэцяя ступень градацыі, — найвышэйшая. То — чалавек, што піша. Калі б не ён, то не маглі б людзі карыстацца вопытам старэйшых пакаленняў, не маглі яны, стаўшы на плечы малодшы старэйшаму, карабкацца да асляпляльных вяршынь ведаў, от! Бо скеля тая вышынёю да самага неба. А шо мы от зараз, на гэтым уроку робім, га? Мы зараз, хлопцы, па той скелі і лезем патроху ўгору. Марудна, ды лезем..

Чаго толькі не было на тым уроку! Мы задавалі пытанні, дзядзька Пеця нам задаваў пытанні, дазваляў пісаць ананімныя запіскі на самыя-самыя тэмы («Хто ж вам на гэта адкажа, калі не я?»)... Такія-сякія выразы, якія здзівілі-ўразілі мяне, я запамятаў, якіясь даўспомніў — без той «мешаніны», якую вы зараз прачытаеце, аповед пра ўрок быў бы няпоўны.

— Я ведаю, шо вы любіце Д'Артаньяна, і я яго люблю. Чым адрозніваецца ваша любоў да яго ад маёй? Хто скажа? Ніхто, ну то я скажу. Вас нікога не цікавіць, ці быў ён такі ў жыцці. Вам яго хапае ў кніжцы. А мне было мала. І сталася, што быў такі бедны гасконскі дваранін, і калі яму стукнула 62 гады, ён загінуў у 1673 годзе пры аблозе такога горада... зараз скажу, толькі ў паперку зазірну: дужа цяжкая назва ў горада... от, — Маастрыхта. І быў тады ў чыне капітана-лейтэнанта каралеўскіх мушкецёраў. Тут бацька Дзюма нічога не прыдумаў, тока прыгоды. Другое пытанне-запытанне на мушкецёрскую тэму. Як звалі жывога Д'Артаньяна?.. Ніхто. Зноў адказвай дзядзька Пеця. Але і тут я без шпаргалкі не змагу. Слухайце: Шарль Аж'е дэ Бац дэ Кастэльмар і тока пасля ўжо — Д'Артаньян!

Наконт нейкага непрыемнага тыпа дзядзькам Пецем было зроблена рэзюме: «Не прадавайся — назад не купіш».

У выхаваўчым працэсе Цымбал вызначыў прыярытэты: «Спачатку павага, потым выхаванне з вучэннем». Наколькі гэта было дакладна, я меў магчымасць упэўніцца ў маёй доўгай працы настаўнікам.

Калі б па часе я ні чуў слова «трыяда», адразу ўзнікае дзядзька Пеця і яго экспромт на тым уроку:

— Хто ведае, што такое трыяда? Гэта тройчы паўторанае, можа быць дзеянне ці пытанне. У былінах гэта моцна выяўляецца. Тры разы страляе з лука малодшы царэвіч, шоб жонку сабе знайсці. То знайшоў-такі жабу шо, дзякуй Богу, стала царэўнаю. А бывае ж, шо так жабаю і застаецца. Ці Салаўя-разбойніка кліча тры разы. На трэці той з'явіўся і атрымаў стралу ў вока. То не трэба было выходзіць трэці раз. Але, відаць, дужа чароўная лічба — тры. Нават Салавей-разбойнік не мог ёй супраціўляцца.

Вернікі тройчы хрысцяцца ці тры разы кланяюцца, ці зноў тройчы хрыстосуюцца, гэта значыць, цалуюцца. І ў нас зараз будзе маленькі падзел на трыяду, от. Я задаю тры пытанні. Вы даяце тры адказы. А калі не, дык я сам адказваю.

Я не памятаю нашых адказаў, але добра згадваю ягоныя.

— Мільён рублёў — многа ці мала?

— Залежыць ад таго, зарабляеш ты той мільён ці траціш яго.

— Можна стаць шчаслівым?

— У натоўпе — не. Натоўп не можа быць шчаслівым. Злосным, п'яным, кручаным — так, а шчаслівым — не. Шчаслівым можа быць, і то не ўсё жыццё запар, — адзін чалавек. І дужа вялікае шчасце, калі ўдваіх: мужчына і жанчына — то каханне...

— Як правільна пабудаваць жыццё?

— Цяжкае пытанне і дарэшты не вырашанае. Я думаю гэтак жа, як адзін са старажытных філосафаў... Можа, нават Эпікур? Не павялічвайце сваё багацце, а стрымлівайце свае запатрабаванні. І моцна гэта пытанне залежыць ад таго, як ты да яго ставішся. От уяўляйце: шо вам лепш — мець толькі адзін касцюм да двух камізэлек ці аж дзве камізэлькі да аднаго касцюма. Што да чаго будзеш дадаваць — такое жыццё і атрымаецца.

Пытанне класа:

— Якую вагу маюць грошы? Памяць ужо не тая, але гэта помню. Адна вельмі знаная дама была ўпэўнена, што нельга быць лэдзі, не маючы грошай. Я не быў жанчынаю і спрэчкі ў нас з ёю не атрымаецца. Але сваё я скажу.

Шмат людзей грашамі мераюць жыццё і шчасце. То няправільна. Але вагу, і вялікую, грошы маюць. Як зрабіць, шоб яны ў вас былі? Іх можна займець трыма шляхамі: зарабіць, украсці і знайсці. Які выбераце, так і будзеце жыць. Ці грошы будуць вамі камандаваць, ці вы імі. Я асабіста, у чыстым выглядзе, украсці не мог, знайсці — не фарціла, а вось зарабіць... Усё жыццё зарабляю, а грошай няма. Можа, не так плоцяць, як трэба, га? Але красці не буду, хай нават Мотра без каўняра на паліце ходзіць, от.

Насця Рашчупкіна, адчуўшы, што яна цешыць дзядзькаў Пецеў пагляд: такі ўзрост — хочацца падабацца ўсім без выключэння, — паднялася і задала бязглуздае пытанне: «Чаму сярод мужчынскага полу амаль што няма разумных? Вось, напрыклад, у нас у класе з чатырох выдатнікаў толькі адзін хлопчык. Сярод дарослых таксама такая прапорцыя?»

— Такая, доню, такая, а можа, яшчэ і большая. Мне гэту прапорцыю мая Мотра растлумачыла. А таму, сказала яна, шо разумныя выходзяць замуж, а бязглуздыя — жэняцца. От, скажам, чаму пры адной і той жа канструкцыі ва ўсходніх краінах курыльная люлька атрымліваецца такая вялікая — называецца кальян, а ў нас пры тых жа чарцяжах — тока самагонны апарат? Ці, от, нядаўна прысеў на нашай лаўцы адзін камандзіровачны, як на тое, чалавек рэдкай прафесіі — археолаг. Канечне, цікава было пагаварыць з ім пра дыназаўраў. Дык ён мне сказаў, шо ўсе дыназаўры аднолькавыя, а справа ў тым, што розныя археолагі па-рознаму збіралі іх косці. От вы і расшалопайце: была то загадка ці жарт вясёлага чалавека.

Нечаканы парадокс Цымбала, які я ўзяў з сабою ў жыццё: «Не бойся рабіць тое, што лічыш правільным: гэта, на самай справе, і самае лёгкае. І нервовае здароўе захаваецца».

А вось яшчэ адна яго думка, тады нечаканая для нас і таму дзіўная: тое, што было, лепшае за тое, што будзе. Хоць бы таму, што яно ўжо было. Праз тысячу гадоў я сустрэў гэта ў Бахціна. Але на той час я ўжо до-обра разумеў, якое цудоўнае маё мінулае, таму менавіта, што будучага ўжо заўтра... ужо сягоння можа не быць.

— Радасць не мае ніякага кошту, калі ты ёю ні з кім не падзелішся. Мне зараз, на гэтым уроку дужа хораша. Я сяджу ў самым цэнтры радасці.

Вельмі, я б сказаў, яскрава помню па сённяшні дзень вось гэта, толькі ад аднаго яго пачутае: «У мяне дочка, Лідка. Адна. Харошая дочка. З характарам, але разумная і добрая. І от, Сямён Захаравіч кажа, што непагана вучыцца. А магла ж быць у Лідкі сястрычка — вайна не дала. Зразумела мая Моця, што цяжарная, а куда: такое робіцца, шо і жывым няма як. Давялося Моці аддаць таму свету яшчэ не народжаную душу, от... І от, я думаю, калі б не вайна і не хваробы, голад і жабрацтва, забойцы і падлюкі, а о так — хочаш дзіця — нараджай, мая любая, і гадуй яго ў дастатку і радасці. Калі б так, то якія ж стройныя рады і шарэнгі прыгожых людзей працавалі і гулялі па зямным шары! А калі ўявіць, што кожны ненароджаны ці забіты мог мець дзяцей і ўнукаў, а тыя сваіх дзяцей і ўнукаў... Ото і стаім зараз на нашай зямлі адзін праз тры чалавекі, праз трыццаць — трыста... Як вырваныя ў зямнога шара зубы...

Запомнілася, і ярка, таму што на тым уроку ён руйнаваў помнікі не толькі Маркса і Энгельса. Пра Мечнікава, Нобелеўскага лаўрэата, ікону нашай рускасавецкай навукі, мы, агаломшаныя, даведваемся, што быў ён шызоідам, шматразовым самазабойцам... І ён напрыканцы свайго жыцця піша: «Што можна зразумець у нашым жыцці? У ім можна толькі жыць і радавацца, што жывеш».

А мне, завяршаючы «мешаніну», хочацца пляскаць у далоні аднаму з настаўнікаў майго жыцця, дзядзьку Пецю Цымбалу, за такі эцюд аптымізму. Жыць і радавацца, што жывеш.

Альфрэд Шнітке, мала што быў кампазітарам, хоць... — кажуць жа разумныя людзі, што музыка, акрамя таго, што застылая архітэктура, яшчэ і закадзіраваная філасофія, — дык Шнітке сказаў, што значныя з'явы — непазбежны вынік перасячэння мноства праблем. (Як кажуць у суседняй Адэсе, праблем у нас было і ёсць.) Гэтыя праблемы, што чакаюць свайго вырашэння і ў адным месцы сабраныя, нарэшце атрымліваюць сваё вырашэнне. (Яны і сабраліся на тых уроках, і вырашэння не атрымалі, але след пакінулі.) Гэта можа быць адкрыццё ў галіне навукі ці культуры, новая сутнасць ці новая форма, але гэта заўсёды чалавек, праз якога «гэта» вызнаецца і вырашаецца. (Дык дзядзька Пеця ж!) І гэты крок наперад па дарозе, якою ідзе чалавецтва. І той, хто замінае гэтаму неабдумана ці свядома, — аднолькавыя рэакцыянеры. (Гэтага было дужа шмат. І здавалася, ніколі... Але тут я згадаў, што Божы млын меле марудна, але немінуча.)

Балючай і вялікай праблемай таго часу, як, між іншым, і ўсіх часоў існавання нашай шматнацыянальнай краіны, была яе шматнацыянальнасць. Чым гэта ў нядаўні час скончылася, вядома. Але і сярод усяго антысемітызм быў і застаецца вострай і нацыянальнай, і шматнацыянальнай, і сусветнай бядой і праблемай.

У той час, калі яўрэйскія дзеці саромеліся сваіх бабуляў, якія асмельваліся на вуліцах Вінніцы размаўляць па-яўрэйску, калі яўрэі стараліся не вымаўляць слова «яўрэй» услых, дзядзька Пеця не пабаяўся на тым уроку адкрыта «вырашаць» гэту праблему. Мне здаецца, што справа нават не ў смеласці Цымбала, а ў тым, што ён, чалавек «фізікі», натуральна ўспрымаў людзей як работнікаў, выканаўцаў, — ад свайго сябра, цеслі Яромы Мукамола і свайго сябра Лейзера, які збіваў тару на нашым базары, да Леаніда Лявонцьевіча, «добрага знаёмага» генерал-дырэктара, начальніка Вінніцкай чыгункі. У яго была здаровая генетыка работнага чалавека: галоўнае ў тым, хто жыве побач, было не яго родавая прыналежнасць, а яго ўменне ствараць вакол сябе не вельмі цесны матэрыяльны свет. Неразведзены спірт Лейзер і мой бацька пілі не горш за дзядзьку Пецю, і ўжо толькі гэта здымала для яго пытанне пра тое, якая ў цябе нацыянальнасць. Таму, напэўна, ён так свабодна разважаў на гэту, для ўсіх астатніх слізкую тэму, і, вядома ж, не ведаў, што трэба пры гэтым хоць бы ўнутрана хваляваца і, тым больш, пабойвацца.

— Я вырас у цэнтры інтэрнацыяналізму, вы самі ведаеце, хто тока не жыў у нашай Вінніцы. Можа, тока лаўраветланы не каштавалі самагонкі майго сябра Яромы Мукамола. Лаўраветланы — гэта такая нацыя на нашай Поўначы. Іх шо-та чалавек дзвесце засталося. Я доўга вучыўся вымаўляць гэтае слова. Так... З такою назваю то не дзіўна, шо і дзвесце засталося...

А сярод усіх, хто жыў у Вінніцы, ёсць і яўрэі, і ў вялікай прапорцыі. Я сярод іх і вырас. Ну, шоб моцна іх нацыю любіў, то не, бо моцна любіў тока сваю Моцю і, мажа, Ярому Мукамола. Ну, шо Лідку і ўнукаў, то і гаворкі няма. Але паважаў яўрэяў і вадзіўся з імі свабодна. А тут хлопцы на лаўцы падсунулі кнігу за яўрэйскую рэлігію і гісторыю. От, шо дзіўна: у нас рэлігія і гісторыя то асобна, а ў іх — адно. Так... І даведваюся там такое. Ёсць у іх свята, называецца пурым ці пірым. Гэта свята пазбаўлення ад усенароднай яўрэйскай пагібелі. Цар персіянаў Гаман, то ўжо пасля егіпецкага іга, хацеў звесці яўрэяў са свету, як Гітлер. Уключаючы і малянят, от. Але Мардэхаі, была ў яўрэяў такая самастойная сям'я, сказалі сваім: «Шо ж гэта такое? Народ мы ці не? Ці не даў нам Бог свой наказ, га? Так і пойдзем, нібы якія-небудзь авечкі, у персіянскія Бабіны Яры, га?» І як узяліся яўрэі, услед за сваімі Мардэхаямі, хто за што: штыкеціны якія, нажы сталовыя, шавецкія, там арматура — і як пайшлі-пайшлі, то дасталі самога гэтага Гамана. А шо ж вы думаеце, калі цэлым народам на дыбкі стаць... О-о, то страшэнная сіла, калі разам. І вось дзень, 7 сакавіка, стаў днём іх вызвалення і ўратавання. Але як жа яны яго святкуюць?! Той пратакол нам трэба пераняць. Няўхісна!

— Дзядзька Пеця! Непахісна!

— Хай будзе непахісна, але пераняць трэба! У святой кнізе, іх Талмудзе, напісана наступнае... Цытую па памяці, от: «У гэты дзень кожны яўрэй павінен, — гэта я падкрэсліваю трымя рысамі!.. павінен напіцца да такой ступені, каб не адрозніваць словы «Будзь ты пракляты, Гаман!» ад «Будзь ты блаславёны, Мардэхай!» Не, шо не кажыце, а павінна быць і ў нас такое свята. Каб ведала кожная жонка ў кожнай савецкай сям'і, што ў гэты дзень яе муж не толькі можа, але абавязаны так напіцца, каб не адрозніць яе, сваю жонку, ад суседкі! Так на вашых вачах нараджаюцца новыя савецкія традыцыі і абрады, от!

— Можна пытанне? — Воўка Забела. Зразумела — смяротна закаханы ў Насцечку Абрамаву і намацвае глебу на далёкую перспектыву.

— Давай!

— Дзядзька Пеця, а жонка ў гэты дзень таксама каб мужа ад суседа не адрознівала?

— От і дай вам волю задаваць пытанні ў працэсе жывой палемікі! Але я ўсё роўна адкажу. Тут, у чыстым выглядзе, справа індывідуальная: як хто з жонкаю дамовіцца, от. Сядай. Ну і, шоб закончыць тэму, скажу, што пасля таго, як я даведаўся пра такое свята, мая павага да яўрэяў моцна вырасла. І, я лічу, што дадало светлай фарбы ў маю ўласную адзінкавую культуру.

У гэтым месцы наш настаўнік Сямён Захаравіч, які разам з дырэктарам уваскрос пасля палітычных і эканамічных экзерсісаў дзядзькі Пеці, папрасіў Цымбала выказаць свае адносіны да мастацтва, што дзядзька Пеця з ахвотаю выканаў.

— Чаму ўзнікла мастацтва? Калі адказаць на гэта пытанне, то гэта будзе адказам адразу і на другое: шо такое мастацтва? Таму шо, калі ты зразумееў генезіс, — цікавае слова! — то ты і зразумееў, шо яно такое.

У плане жывой палемікі скажу, што я разумею мастацтва як культуру. Калі чалавек цяміць у гэтых справах, то пра яго кажуць, што ён культурны, а не штучны. І я зараз на вашых вачах памірыся з Сямёнам Захаравічам праз прыгожае і карыснае слова — кампраміс. Назавём тое, пра што мы гаворым, культур-мастацтвам, от. Цяпер шлях адкрыты, і мы спытаемся: «Каму яно дадзена, каму яно трэба і навошта?» Эпахальнае пытанне, як

казаў адзін класік. Ну, кіно ці цырк... — зразумела: сядзі і хочаш смейся ці плач. Але вось аднаго разу Лідка, мая дачка, прымусіла мяне пайсці ў тэатр. Я не дужа хацеў, але яна сказала, што, калі не пайду, то перастане мяне слухацца. Як вам гэта падабаецца? Яшчэ самастойнаю не стала, а ўжо — ультыматумы. Хоць, трэба сумленна прызнацца, што праўду яна казала. Спачатку я кепска разумеў, шо ад мяне хочуць. Садочак — намаляваны, кватэра — з дзікты, цалуюцца не напраўду... Але пад канец першага акта я ўжо пра тое забыўся. Таму, што мне моцна хацелася залезці на сцэну і набіць, прашу ў дзяўчатак даравання, морду таму подламу здрадніку, шо быў, як высветлілася, галоўным героем. Узяло ўсё ж... А калі ваш аднакласнік, той жа Юра Лобік, даў мне кружэлку з операй кампазітара Пучыні «Тоска», і я паслухаў, як там плача Рыгалета...

Тут дзядзька Пеця паспрабаваў праспяваць пачатковую фразу арыі: «Смейся, паяц, над разбитой любовью, смейся и плачь…»

— Таго гада, які подла падмануў і згвалціў Тоску, забіў бы сваімі рукамі. Скажу папраўдзе, у грудзях было такое, шо хоць сам кладзіся і плач. Ото, хлопцы, мастацтва і культура!

Ці, вось, гітара, ці песня пра Гандзю-маладыцю. А возьмем розныя там Траццякоўкі... Мне Клян, вунь ён сядзіць разам з Лобікам, прывёз з самой Масквы альбом той Траццякоўкі... О-о! Асабліва гэтыя мастакі-перадзвіжнікі. Шмат карысці яны прынеслі, выстаўляючы свае выдатныя карціны па ўсёй Русі вялікай. А як гляну я на пакуты княжны Тараканавай, то, паверце, з хаты пайшоў, шоб Моця і Ліда не бачылі, як бацька ледзь не плача. Зайшоў за хлеў і хвілін пяць, прабачце, мацюкаўся, от.

Спытаўся ў сябе. Міжволі. А як узнікла мастацтва? Мала таго, шо ўзнікла, — жыве нялічаныя тысячы гадоў, ад таго першага малюнка на сцяне той пячоры і да нашых дзён. А чаму яно ўзнікла? А таму, што да той пячоры кожны дзень хадзіў шаблязубы тыгра. І быў ён велічынёю з быка, а два яго зубы, — як шаблі. І кожны раз нёс ён у тых шаблях адну ахвяру. А можа, наступны будзеш ты? А можа, дзіўчына, якая табе спадабалася, га? У страшным свеце жылі тыя неандэртальскія хлопцы. От тады адзін з іх і прыдумаў сабе іншы свет, дзе не трэба хавацца, і дзе свеціць сонейка, і чалавек перамагае тыгра і маманта і нясе м’яса дзецям і жанчынам племені. І, намаляваўшы каменем па камені такі свет, і ўзяў ён сваё драўлянае кап’ё, і выйшаў сустракаць таго тыгра. І людзі ўпершыню пачулі, як тыгра вые ад болю, а не гырчыць ад злосці.

Больш людзі з той пячоры не бачылі таго першага на зямлі мастака. Але яго сонечны свет застаўся на зямлі назаўсёды, от. Так з’явілася мастацтва, цана якога, мае дарагія хлопчыкі і дзяўчаткі, жыццё, от. Я так разумею, як яно з’явілася. А як вы гэта разумееце?

Клас маўчаў. Клас бачыў, як ідзе да «таго тыгра» маленькі адважны чалавек з тонкім кап’ём, першы мастак планеты Зямля. А за ягонай спінай уздымалася сонца шчаслівага жыцця.

Ніхто і ніколі не змог чалавечней расказаць мне, як з’явілася на зямлі мастацтва. І таму я даўно і да гэтага часу як трэба разумею не толькі момант яго ўзнікнення, але і яго святую місію — стварэнне іншага свету, дзе ёсць месца чалавеку і ягонай любві да ўсяго.

Назваць тое, што хочаш паказаць, — гэта значыць даць яму аблічча, асяроддзе і сэнс... Рэальнасць — што гэта? Што ўявіў, — з бясконцасці

космасу ўсё роўна не ўцячэш, — яно і зробіцца фактам. Чароўнасць пачуццяў і адчувальнасць немагчымага... Навучыць плакаць і ратаваць дзяцей... Усё становіцца рэальным і канкрэтным, калі яно названае. Пах поту пасля касьбы і любошчаў, кроплі дажджу на аконным шкле і сняжынкі на яе вейках... Непрытомны пераможна-пагібельны стогн каханай сярод ціхай і цёплай ночы... Светла і высока...

Так хацелася, каб вы ўсё гэта адчулі, таму што яно жывое і мае сваё месца сярод нас, сваё імя і час. Імя і час.

— Ведаеце, шо казалі старажытныя людзі? — дзядзька Пеця нават падняў руку: напэўна, тое, што ён зараз хацеў нам сказаць, лічылася згодна яго градацыі вельмі важным. — Не, не першабытныя старажытныя, а старажытныя, у чыстым выглядзе, грэкі. Шо не запісана, таго не было! От шо яны сказалі. Так шо, хлопцы, шоб лунала слава нашага Замосця, трэба вам станавіцца людзьмі, якія ўмеюць пісаць. То вам наказ ад вінніцкага рабочага класа. Я думаю, шо Сямён Захаравіч і паклікаў мяне, шоб я вам сказаў гэта і шмат пра што іншае, шо сёння на нашым харошым уроку гаворана. А пастскрыптум, значыць, тое, шо пасля сказанага ці напісанага, як кажуць лаціняне... О тут я падумаў, шо вы падумалі, а як жа гэты дзядзька Пеця з чатырма класамі ведае такія словы, як «пастскрыптум» ці ж «іх хабе гедульт», што зноў жа па-нямецку азначае: я маю цярпенне. Я вымушаны адказаць: чытайце вялікую літаратуру і слухайце разумных людзей. Такіх, як Бабуля і я, от. А пастскрыптум я скажу вось шо. Няма сілы мацнейшай за каханне і веру. Пра каханне вы яшчэ самі зведаеце, а от вера...

Было то ў 1944 годзе. Немцы бамбілі вузлавыя станцыі — Казацін і Жмерынку. А ляцелі праз Вінніцу. Пралятаючы, яны кідалі дзве-тры бомбы на нас. Адна трапіла ў царкву — сцены засталіся. Іду я паўз тыя разваліны, а бабы, дзяды і дзе-нідзе маладзіцы і нават дзеці стаяць на каленях і ціха моляцца. А хто малітвы не ведае, той стаіць моўчкі. Ото ўявіць трэба: царквы няма, а яны на сцены моляцца. Я гэта Бабулі расказаў. А яна мне: «Пеця, тыя сцены намоленыя, і гэта ўсё роўна, што царква жыве. А калі чалавек верыць, то царква ці сінагога ў яго ў душы. І кожны павінен ведаць, што галоўнае не яго вера ў Бога, а вера Бога ў чалавека. А чалавек у апошні час моцна расчараваў Бога. Пеця, калі мне кажуць: «Я ў Бога не веру», я ціхенька пасмейваюся і пытаюся: «А ты маму і бацьку любіш? А дзяўчыну сваю? А жонку, дачку-сына?». «Канечне», — кажуць. «Вось і добра, — моўлю я ім. — Можаш жыць і радавацца». І яны ідуць жыць, і мне добра». «То як жа гэта разумець?» — спытаўся я. І яна адказала: «А так, што ў тых, каго ты любіш, і жыве Бог. І ты ў яго верыш, сам таго не ведаючы. Так што няважна, ёсць у той царквы дах і абразы, важна, што тыя людзі верылі і любілі. Гэта пасля такой вайны вельмі патрэбна, каб жыць па-чалавечы».

І быў званок, і быў канец урока. Развітаўшыся і чамусьці пакланіўшыся класу, дзядзька Пеця сказаў: «Ото ж, у мінулым годзе немцы першы раз за ўсю нямецкую гісторыю выпілі менш піва, чымся вады! — «І як жа ж вы да гэтага ставіцеся, га?» — пытаецца газета. То справа нямецкая, а не наша, і тут няма чаго казаць».

І ён пайшоў з урока, пакідаючы за сабою цішыню. У дзвярах спыніўся, павярнуўся да нас і сказаў: «Піць нельга. — І паўглядаўшыся на сваю змену, нашчадкаў Замосця нашага, дадаў: — Без закусі».

Ён і пасля кропкі пакідаў месца для будучыні. Чалавек быў дзядзька Пеця.

Пасля такога выбітнога ўрока з трыма рускімі былiннымі асілкамі Віктара Міхайлавіча Васняцова бачыў я, як Мая Навумаўна ішла дахаты з букетам кветак і моцна задумлівая. А вечарам таго ж памятнага дня, — бо ў той дзень, як вы ўжо ведаеце, яркі прадстаўнік савецкага пралетарыяту, мой сусед, слесар-сантэхнік Пятро Радзівонавіч Цымбал з трыма медалямі на штрыфлі нанкавага пінжака быў ганаровым госцем нашага класа, — дык вось, вечарам таго дня пасля паблажлівай чаркі сядзеў дзядзька Пеця на нашай камунальнай лаўцы і ціхенька, як для сябе, і неяк... трохі жаласліва спяваў адзін куплет, паўтараючы і паўтараючы яго, нібыта адну доўгую песню. Амаль бясконцую.

Стоит гора высокая,<br>По-пид горою — гай!<br>Зеленый гай, риднесенький,<br>Неначе справди рай.

І зноў —

Стоит гора высокая…

А насупраць, на кароткай лаўцы ля драўлянага двухпавярховага барака, ціха сядзелі задумлівыя Насця Рашчэпкіна і шчаслівы заікасты Дымбель. І я не ўтрымаюся і выбегу за межы аповеду, — гаспадар я яму ці не? — і радасцю паведамлю вам, што красуня Насця з усёй тысячы жаніхоў выбрала заварожанага Колю Дымбіцкага, і не было на Замосці шчаслівейшай сям'і.

І чаму ж нам здзіўляцца з задумлівасці Маі Навумаўны і суму-жалю дзядзькі Пеці, калі нават мы ўжо здагадваліся, што раю нідзе на ўсёй зямлі няма. А яны ж гэта ведалі. І ведалі гэта нашы бацькі і мацяркі, і ўвесь дарослы, шмат ператрывалы СССР. І яшчэ ўсе яны ведалі, што яго, раю гэтага, ніколі і не будзе. Мы ж яшчэ спадзяваліся... А шмат хто з нас ужо і на стромым схіле ўпотай, у самай глыбіні душы, усё яшчэ спадзяецца. Не для сябе ўжо — для ўнукаў. А ўнукі сёння — гэта мы ўчора, і яны ўжо таксама здагадваюцца... Няўжо ніколі чалавецтву не паставяць залаты помнік? І «сонейка не ўзыдзе калі-небудзь над чыстаю зямлёю»?

Бо ўрок працягваецца... І Сенека ўжо кажа нам: «Мы жывём у такі час, калі трэба працвітаць, а нам брыдка жыць».

***Пераклад Уладзіміра Марука.***





Навум ГАЛЬПЯРОВІЧ

# «МЫ З ТАБОЮ НА МОВЕ ГАВОРЫМ АДНОЙ...»

* * *

Адну мне кроплю ад крыніцы той,
Што ля Сафіі Полацкай бруіцца!..
Я больш нідзе не сустракаў крыніцы
З такой гаючай і жывой вадой.
Дай мудрасць мне сваю, мой родны край.
Ты мову даў мне, голас і дыханне.
Цяпер сваё святое дараванне
І сілу на маё змаганне дай.
Ты ведаеш, ці правільна жыву,
Ці ў час такі цяжкі стаю аддана
За рэчкі, і азёры, і траву,
І ўсё, што лёсам мне наканавана.

* * *

Калі глядзець з аблокаў на зямлю,
Яна адтуль прыгожая надзіва,
Пяшчотная, як маці і Радзіма,
І я яе з адданасцю люблю.

---

*__Гальпяровіч Навум Якаўлевіч__ нарадзіўся 14 студзеня 1948 года ў Полацку. Пасля заканчэння сярэдняй школы працаваў грузчыкам на заводзе шкловалакна, карэктарам, літсупрацоўнікам полацкай газеты «Сцяг камунізму», рэдактарам радыёвяшчання наваполацкага вытворчага аб'яднання «Палімір». Скончыў Віцебскі педагагічны інстытут імя С. М. Кірава (1979). Працаваў уласным карэспандэнтам Беларускага радыё ў Віцебскай вобласці, намеснікам галоўнага рэдактара часопіса «Вожык», намеснікам старшыні Саюза беларускіх пісьменнікаў, галоўным рэдактарам каардынацыйнай дырэкцыі Беларускага радыё. Цяпер — галоўны дырэктар замежнага вяшчання Беларускага радыё.*

*Аўтар паэтычных кніг «Сцяжына», «Брама», «Востраў душы», «Струна», «Шляхі і вяртанні», «Святло ў акне», «Голас і рэха», «Гэта ўсё для цябе».*

Мне кажуць: «Ты не лётай між аблок.
Спусціся на зямлю, пазнаеш праўду!»
А я хачу ў святле звычайных правіл
Знайсці свой самы правільны куток.
І шэпт нябёсаў з прагнасцю лавіць.
І спевы птушак слухаць у вышынях.
І проста жыць. І гэты свет любіць.
І бачыць зоркі у прасторах сініх.

* * *

Што хацець ад лёсу?
Разумення,
Ціхіх слоў, спагады і цяпла.
І кахання светлага імгненняў.
І Радзімы. Каб яна была!
Бо нішто, напэўна, не заменіць
Усяго спасланага з нябёс,
Што жадаў заўсёды у маленнях
За людзей усіх Ісус Хрыстос.
Як нам гэта ў нашай веры трэба!
І чарговы раз я лёс малю,
Каб з надзеяю глядзець на неба
І любіць спрадвечную зямлю.

## ЛІХТАРЫ

Ліхтары пад халодным дажджом
І бясконцае мроіва вуліц...
І здаецца, ўсе мары паснулі
Гэтым шэрым і сіверным днём.

Каб хутчэй дачакацца зары
І знаёмага голасу ў трубцы,
Калі светлую радасць затрубяць
Нам пагаслыя ўжо ліхтары!..

А пакуль хай імкнуцца праз ноч
Доўгі шлях асвятляць асцярожна,
Каб шукаў дарагое акно
У блуканні сваім падарожнік.

* * *

Калі спаткаецца душа
З жаданай блізкаю душою,
Нібы маланкаю стрыжа
Каханне ўзмые над зямлёю.
Тады суладдзе блізкіх душ
І сэрцаў зладжаных трымценне
Адводзяць гора і бяду
І спеляць радасць і натхненне.

І просіцца ў пакой святло
Імкліва, сонечна, прыгожа.
І шчасця цёплае крыло
Адчуць вышыні дапаможа.
І ціха з вуснаў прагучыць
Амаль нячутнае прызнанне.
І так захочацца пажыць
Пяшчотай, радасцю, каханнем.

* * *

Асенні ліст, што падае ў траву,
І туманы над ціхім мокрым полем...
Я думаю: ці праведна жыву,
Ці зведаў і адхланне, і патолю?
Хто дасць адказ? Самотны горкі дым
Ад вогнішча, што паліцца на ўзлеску?
Ці успамін пра першую пралеску,
Пра тое, што і я быў маладым?..
Ды маладосць не скончыцца, пакуль
Ёсць ты і я, і гэты светлы вечар,
І валасы, што падаюць на плечы,
І гэты наш адзіны родны кут.
Асенні ліст... І вогнішча гарыць,
І ў сэрцы прабіваецца надзея,
Што многае яшчэ ў жыцці паспеем,
Што трэба нам з надзеяй гэтай жыць.

* * *

Зорнай іскрынкай у зорную ноч
Я да цябе прылятаю.
Светлым імгненнем каля тваіх ног
Я з асалодай згараю.
Ветрыкам цёплым ля вуснаў тваіх
Я пакружуся маўклівa.
Я — і твой зрок, і дыханне, і слых,
Шчодрая спелая ніва.
Я — тваё рэха, якое штодня
Ў светлыя далі імкнецца.
Ты ж — быццам звонкая вышыня,
Дзе можна сэрцу сагрэцца.

* * *

Калі мілыя вочы засмуціць туга,
То здаецца, што свет пацямнеў адначассем.
Быццам грымне залева і вырвецца насцеж,
Быццам бура заб’ецца ў крутых берагах.
Што там словы, ці вершы, ці думкі мае!..
Вінавата схілюся сівой галавою
І душу на спагаду і радасць настрою,
На шчымлівы матыў, што мне сэрца пяе.
І прарвуцца санаты, санеты святла,
І захочацца плакаць, і верыць, і марыць,
І адкрыецца неба, пасунуцца хмары,
І ўпадзе адзінота, як кропля з вясла.

* * *

Ты просіш ціха: «Заспявай!»
І я ізноў табе спяваю
Пра туманы над родным краем,
Пра наш адзіны родны край,
Пра паламанае ярмо,
Пра ружу-кветку і пра вішню,
З-пад кораня якая выйшла,
Пра ўсё, што выспела само,

Што не пагасла праз гады,
Што жыць заўжды дапамагала
І што заўсёды ратавала
І ад нуды, і ад бяды,

Што паказала дом, і шлях,
І лёс, які спагадай песціць,
І я спяваю, бо зямля
Вытокам стала кожнай песні.

* * *

Што душу загартуе,
Што падорыць спакой?
Птушкі радасць вяшчуюць
Над застылай ракой.

І трывожнае раптам
Адчуванне кране:
Што, калі гэта радасць
Зноў мяне абміне?

Што, калі не паспею
Адгукнуцца, калі
Пачынаецца песні
Нечаканы прыліў

І ў яе шматгалоссі
Уласны голас пачуць
І адчуць:
Сэрца просіць
Гэты спеў працягнуць?..

* * *

Мы з табою на мове гаворым адной,
Гэта радасць, няма ў свеце лепшай такой.
Гэта шчасце, якое падорана нам —
Нашы душы і сэрцы дзяліць напалам.
Гэта мова, якая ўзрастае з вякоў,
Даражэй за багацце, паходжанне, кроў.
Яна дыхае ветрам, мурожнай травой,
Яна сее спагаду, пяшчоту, спакой.
Яе дотык — як дотык каханай рукі,
Ёй вяшчуюць вясну і натхненне гракі,
Яна кліча сумленных людзей за сабой.
І з удзячнасцю вечар сустрэну я свой —
Ціхі полацкі хлопчык з сівой галавой.
І зямлі пакланюся я поруч з табой,
З той, з якой мы на мове гаворым адной.







## Янка ЛАЙКОЎ

* * *

Анямела Слова маё, не дыхае...
Чорнай ночкаю крану яго ціха я:
— Прачынайся, маё птушанятка бяскрылае,
пойдзем у цёмны лес да Вялікай Мацеры —
праз гушчар, праз твань у самае лона,
да самага сэрца Вялікай Мацеры.
Там Яна, святарная, уссядае
на купіне балотнай пасярод вады.
Захіну цябе, нямоглае маё, у сваю душу,
паплывём праз твань ды праз цёмную ноч,
у якой толькі — пугачы ды птахі начныя.
Выплывем да купіны той святой,
цябе з душы сваёй уначэлай выму,
пакладу да ног Вялікай Мацеры.
«Матухна! Прымі, ацалі!
Падары крылы новыя, прыўкрасныя,
ды чароўныя, ды моцныя,
узнаві голас для спеваў нечуваных...»
Зварухнецца Вялікая Мацера ды заплача:
«Ах вы мае дзеткі! Ах вы мае гаротнічкі!
Чым жа я вас так угнявіла,
што вы мяне адну, самотную,
пакінулі на выспе балотнай пасярод твані?
Хіба я вас не расціла, не любіла,
песні вам не спявала, вас не вучыла спяваць?
Шмат я вас радзіла,
а цяпер па адным прыходзіце,
просіце: «Памажы!» А што я зраблю?
Грудзі мае пустыя, усё дзеткі выпілі
ды пайшлі па свеце атруту шукаць,
свой голас губляць…

---

*Лайкоў Іван Уладзіміравіч нарадзіўся 10 верасня 1979 года ў вёсцы Новая Мётча Барысаўскага раёна Мінскай вобласці. Скончыў Беларускі дзяржаўны універсітэт культуры і мастацтваў (2006). Працуе ў штотыднёвіку «Літаратура і мастацтва».*

*Аўтар паэтычных кніг «Логіка пасткі» і «Вогнепаклоннік».*

Ідзіце, нягодныя,
каб вочы мае вас не бачылі!..»

І зноў заплача...

Ідзі тады, птушанё маё бяскрылае,
выпі адну слязу Вялікае Мацеры,
а другую я вып'ю.
Панясу цябе я дадому,
пакладу ў калыску,
праспяваю апошнюю калыханку...

Заснём абое —
з салёна-горкім прысмакам у роце.

* * *

Слухай ноч,
працятую аглушальнаю цішаю,
слухай, як напінаецца ціш,
выштурхоўвае нас з сябе —
туды, дзе прарастае з нябыту,
нараджаецца, вы́шае,
уздымаецца над прасцягамі,
уразаецца ў сэрца глыбей
нешта, што ёсць невымоўнае,
неспазнанае, поўнае
жуды, трымцення смяротнага,
прагі жыцця,
нешта таемнае, роспачнае, маліто́ўнае,
даверлівае і кволае,
святое, нібы дзіця...
Слухай ноч, слухай ноч,
ашалелую, агаломшаную
тысячамі нябачных маланак,
пасланых звыш.

Нешта вечнае — там,
яно большае, большае,
захінае сабою Сусвет
і пераўтвараецца ў ціш.

* * *

Я шукаў сябе ў тых далёкіх днях,
калі дом ссамотнелы спавівалі замеці,
калі памяць гублялася ў снах,
калі сны губляліся ў памяці.

Мне шапталі шаты высокіх дрэў:
«Ачуняй, нічога яшчэ не страчана,
ты не знік, у вогнішчы не згарэў,
шмат сустрэнеш дзівос нябачаных…»

Я шукаў паўсюль прыкметы вясны,
не знаходзіў, і разам з памяццю
адляталі мае залатыя сны
ўвышыню і знікалі ў замеці.







**Уладзімір САУЛІЧ**

# АПАВЯДАННІ

## Дуля

Ці паказваў хто вам апошнім часам кукіш?! Ну фігу, або, як у нас смачна гавораць, дулю?! Ага, кумекаеце, што гэта такое? З чым яе ядуць? Во дажыліся, праўда?! Ледзь слова такое каштоўнае не страцілі. І загубілі б, як піць даць, калі б не сяржант міліцыі Бэрка. Ён і традыцыю кукішную аднавіў. І слова «дуля» падняў на недасягальную вышыню.

А было ўсё так. У наш райцэнтр мелася прыехаць «шышка». Мэр горада і раёна дыхаўку нагнаў, падымаючы на ногі ўсе службы. Кожнай — канкрэтнае заданне. Табе — з кустамі разабрацца ўздоўж маршруту следавання «шышкі». Табе — з травой парадак навесці: падгаліць, а дзе выжухла, папырскаць зялёнай фарбай. Табе — людзям напомніць, як усміхацца. Ды не абы-як. А каб на той усмешцы можна было бліны пячы.

— Ну а табе, — звярнуўся мэр да начальніка міліцыі палкоўніка Козлікава, — даручэнне надзвычайнай адказнасці: паставіць ля кожнай дарогі, ля кожнай сцяжынкі, якія выходзяць на шашу, — па міліцыянту. Каб, крый Божа, якая свіння не вылезла з пісулькай!... А ў час праезду высокай асобы — аддаць, як і належыць, чэсць!

...І вось утварылася нечуванае. Сяржант міліцыі Бэрка замест таго, каб аддаць гэту самую чэсць, паказаў «шышцы» кукіш ці, як па-нашаму, дулю. Мясцовае начальства ад такога «феномена» ледзь не хапіла мандражка, і яно пастаралася давесці «шышцы», быццам бы ў таго сяржанта паехала страха. «Шышка» тлумачэннем задаволілася або зрабіла выгляд. І хутчэй — апошняе. Бо на банкеце ў яе гонар «шышцы» не пілося і не елася. Яму падавалася, што з кожнай чаркі і талеркі зыркае дуля. Усе, на чым свет стаіць, бэсцілі сяржанта Бэрку і яго начальніка Козлікава.

---

*Сауліч Уладзімір Уладзіміравіч нарадзіўся 5 верасня 1951 года ў в. Мацясы Глыбоцкага раёна Віцебскай вобласці. Скончыў Піраўскую СШ. У 1968 г. у раённай газеце надрукаваў першае апавяданне «Гнілы яблык». У тым жа годзе паступіў на філфак БДУ. Працаваў настаўнікам у Азярэцкай СШ у родным раёне, потым карэспандэнтам-арганізатарам на раённым радыё. 25 апошніх гадоў — уласны карэспандэнт абласной газеты «Віцебскі рабочы».*

*Аўтар зборніка п'ес «Халімон камандуе парадам» (1993 г.). П'есы ставіліся ў розных тэатрах рэспублікі. Лаўрэат прэміі Саюза журналістаў.*

Палкоўнік Козлікаў уласнаручна пажадаў зняць допыт з сяржанта Бэркі і загадаў, каб апошняга неадкладна даставілі з каталажкі да яго ў кабінет. Ён настройваўся быць спакойным, але, як толькі ўбачыў Бэрку, які кукішам, нібы танкам, праехаўся па яго генеральскай кар'еры, сарваўся:

— Ты, гад недарэзаны!.. Свіння нямытая!.. Скаціна!.. Неданосак!.. Ты што гэта ўтварыў?!. Ты каму, сабака, ку, ку-ку...

Козлікава на гэтым магічным слове заклініла, і ён выхапіў з кабуры табельную зброю:

— Да сцяны, паразіт! Расстраляю!..

Бэрка, сцяміўшы, што жыць засталося зусім нічога, што праз хвіліну — каюк, жмякнуўся на калені і заенчыў:

— Не вінаваты я!..

— А хто?

— Цешча і камерсанты!

— Ты што, мяне за ідыёта лічыш? — тыцнуў руляй пісталета Козлікаў сяржанту пад нос. — Пры чым тут цешча?! Пры чым камерсанты?!

— Усё скажу! Усё вылажу да драбіначкі, толькі не забівайце! — узмаліўся Бэрка.

— Ну-у!..

— Вы ж памятаеце, таварыш начальнік...

— Свіння табе таварыш!

— Вы ж памятаеце, Каранат Каранатавіч, — паправіўся Бэрка, — як сабралі нас і паведамілі, што едзе надта важны чалавек. І што гэтаму чалавеку трэба аддаць чэсць. А ніхто той чэсці па-сапраўднаму, як належыць, не мог аддаць. Пазабываліся, як гэта рабіць. Вы і наладзілі тады заняткі па аддачы чэсці, а я адпрасіўся да цешчы ў вёску з той умовай, што патрэніруюся індывідуальна.

— І ты?!.. — грозна заракатаў Козлікаў.

— Я адразу па прыбыцці ў вёску прыступіў да трэніроўкі, — паспешліва вымавіў Бэрка. — Знайшоў падыходзячы слуп і толькі казырнуў яму пару разоў, як цешча тут як тут: «Нечага ахарошвацца ля слупа. Ідзі збіраць каларадскіх жукоў! Кумпякі са сваім начальнікам жарыцё, то і свінней памагай карміць!»

— Так і сказала: «Кумпякі з начальнікам?» — перапытаў Козлікаў.

— Цюцелька ў цюцельку!

— Кракадзіліна недабітая, — канстатаваў Козлікаў. — Далей!

— А далей, — працягваў Бэрка, — завяла яна ў бульбоўнік, нібыта ў джунглі. А жукоў гэтых самых там процьма, чырвоным-чырвона. А працў-ныя, а буйныя, як слімакі. Дык у слімака ж ног няма. А гэтага бярэш, а ён лапамі драпае, вывіжоўваецца, як хто па пячонцы скрабе...

— Ты мне не жукоў апісвай «прафесар», а пра дзела гавары! — перабіў Козлікаў.

— Дык я і кажу, — зноў павёў свае Бэрка. — Каб такія гады былі паўзучыя і жывучыя. Як толькі іх зямля носіць?! Так яны мне збрыдлі, а праз іх і цешча. Як толькі адвернецца, то я ёй кукіш у спіну. Кукіш!... Вось так! — паказвае. — І гэтак да вечара насабачыўся, што пальцы самі ў кукіш складваліся.

— Правільна! — адобрыў Козлікаў. — Так ёй і трэба. Бач ты, кумпякі ніяк забыць не можа, шэльма нештампаваная, каб ты імі падавілася!.. Далей!

— А далей было назаўтра, — заёрзаў Бэрка. — Паставілі мяне на палявую дарогу, што на шашу выходзіла, і загадалі, каб нават мыша не прабегла. Усё

спакойна было. Аднаго разу бабка з вуткамі прыцягнулася. Праганяю, а яна просіцца: «Сынок, тут траўка зялёненькая. Хай мае птушаняткі паласуюцца!» Я кажу: «Гэта фарба, цётка. Твае вуцяняты ад яе акачурацца!» Ледзь выбавіў.

— Маладзец! — пахваліў Козлікаў. — Далей!

— А далей вы па рацыі перадалі, што машына важнага чалавека ў мэтах маскіроўкі ідзе без мігалкі. Назвалі марку машыны. Сказалі быць пільным.

— А ты ?! — напяўся Козлікаў.

— А я што?! — замігаў Бэрка. — Машыны ідуць патокам. Сонца ў вочы слепіць. Не магу дапяць, дзе патрэбная марка. І, каб не прамазаць, вырашыў аддаваць чэсць кожнаму «мерсу»!

— Ну і асёл! — усклікнуў Козлікаў. — Ведаў, што дурны, але не да такой ступені! Далей!

— А далей — гэта самае. Аддаю чэсць — спыняецца іншамарка. Адчыняюцца дзверы, і такое мурло голенае высоўваецца. Пальцы ў пярсцёнках, а на бычынай шыі залаты ланцуг. Гагоча: — «Ну, мент, парадаваў. Мне, урку бываламу, чэсць аддаў! Развярнуся і зноў буду ехаць, а ты, мянцяра, мне зноў пад казырок! Даляраў дам!..» І такая мяне злосць узяла. Я ж табе пакажу чэсць! Бачу, коціць праз колькі хвілін зноў «мерс». Я тут кукішы з двух рук і засабачыў!.. А гэта была машына важнага чалавека...

Наступіла маўчанне. Козлікаў нічога не гаварыў, а толькі соп.

Цішыню парушыў Бэрка:

— Таварыш начальнік! Пастаўце мяне на тое ж месца, як важны чалавек будзе вяртацца назад. Я выпраўлюся!

— Ну не, стаяць на тым месцы цяпер буду я! — цяжка ўздыхнуў Козлікаў.

— У форме палкоўніка? — здзівіўся Бэрка.

— У сяржанцкай, бязмен!

## Варона

Такога арыгінала, як мэр нашага горада Афрыкан Патапавіч Скула, няма ва ўсёй акрузе. Памяркуйце самі: хто гадуе свіней, хто — гусей, хто — галубоў, хто, на крайні выпадак, папугаяў. А ў яго лепшыя сябры — вароны. Наляціць гэтага груганння ў двор, што пятаку няма дзе ўпасці. Каркаюць, б'юцца за месца на аблезлым, як бізун, чэрапе мэра. Іншы б ваўком завыў, а наш граданачальнік прысмакі заморскія ім прама з рук падае, прытанцоўвае, што голы ў крапіве, гяргеча нешта не па-нашаму.

Колькі разоў яму разумныя людзі раілі:

— Патапавіч, кіньце вы дурноцце. Дабром гэта не скончыцца!

Так яно і выйшла.

А зрабілася вось што. Наважыўся ён падарыць сваёй палавіне Капіталіне Маркетаўне залаты пярсцёнак. Ды не абы-які, а з брыльянтам за дзесяць тысяч долараў. Пакруціце ля скроні пальцам: паехаў у чалавека дах. Не, браточкі! Гэта быў адзіны выхад з той безнадзейнай сітуацыі, у якую трапіў мэр. Незадоўга да гэтага ён зняў двух цыпак, адвёз у сауну і там так расслабіўся з імі, так усцешыўся жыццём, што згадзіўся, як той апошні дурань, пракаціць іх на сваім службовым «мерсе» па цэнтральнай плошчы, спадзеючыся на таніраванае шкло лімузіна, праз якое ніхто нічога не ўбачыць. Ажно тры кругі даў вакол сваёй рэзідэнцыі і спахапіўся толькі тады, калі засёк, што цыпкі высунулі праз адчыненыя форткі мордачкі і ўсім прахо-

жым паказвалі языкі. Узгарэўся неймаверны скандал, які пякельным полымем палыхаў цэлы тыдзень. На шчасце, падвярнуліся жончыны імяніны, а разам з імі шанц наладзіць мір у сям'і.

Скула далікатна выняў пярсцёнак з замшавага карабка і асцярожна паклаў на капот «мерса». Паклікаў жонку. Тая закуморшчыла нос. Але, калі ўгледзела залаты пярсцёнак, з вялікім, як бобіна, брыльянтам, не вытрымала, кінулася мужу на грудзі:

— Рыбінка!.. Каточак!.. Гэта — мне!?

— Каму ж яшчэ?.. Ты ў мяне — адна!

— Праўда?! — залілася радаснымі слязьмі Капіталіна Маркетаўна.

— Каб я так жыў! — яго рука пацягнулася да капота па пярсцёнак, але на ім было пуста.

Афрыкан Патапавіч вызваліўся з абдымкаў жонкі, забег з аднаго боку машыны — няма, з другога — пуста. Пярсцёнак нібыта растварыўся.

«Мо саслізнуў?» — мэр пляснуўся на калені і запоўзаў вакол машыны, мармычучы:

— Толькі што ляжаў... На капоце... Нячысцік пажартаваў?!.

Капіталіна Маркетаўна спачатку падумала, што ў мужа нешта з галавой і не на жарты ўпудзілася. Але, калі да яе, нарэшце, дайшло, у чым справа, залямантавала:

— Лю-дзі!.. Ратуйце!.. Аба-а-кралі!..

Афрыкан Патапавіч падхапіўся з зямлі, зазыркаў туды-сюды. Навокал нікога не было.

— Варона! — крыкнула жонка і накінулася на мужа з кулакамі.

І тут мэру маланкай жахнула: «Варона! Ну, канечне ж, гэта яна сцібрыла пярсцёнак, бо прыкарміў гэтых прайдох, і круцяцца яны цэлы дзень пад нагамі, не раўнуючы, як куры». Задраў галаву ўгору. На высокай бярэзіне, ледзь не на самай верхавіне, сапраўды сядзела варона і трымала ў дзюбе пярсцёнак.

Абрадаваўся. Далажыў жонцы. Маўляў, так і так. Хваляваца няма чаго. Варона стырыла пярсцёнак і спачывае з ім на дрэве.

— Ты чаго радуешся! Вазьмі яго цяпер у яе?!

— А што тут браць?!. Варона!.. Эй, варона!? — загалёкаў Афрыкан Патапавіч, — пярсцёнак сюды! Гэць!..

Варона толькі павяла дзюбай. Брыльянт бліснуў на сонцы.

— Ага, так яна табе і падасць на талерачцы! — Капіталіна Маркетаўна задубасіла нагамі па ствале дрэва: «Аддай!.. Аддай, гадзіна!.. Заб'ю!..»

Варона занервавалася, перабралася на другую галінку. Яшчэ вышэй.

— Апомніся! — ледзь спыніў мэр жанчыну. — Варона ж з крыламі! Паляціць і — памінай як звалі.

Пры напамінку аб тым, што птушкі маюць крылы, Капіталіна Маркетаўна схамянулася, адышла ад бярозы:

— А гары яно гарам! Лезь сам на бярэзіну і забірай у яе пярсцёнак, калі ты такі разумны!

Але бяда ў тым, што сам Афрыкан Патапавіч ніколі па дрэвах не лазіў. Ён бездапаможна азірнуўся і раптам згледзеў на вуліцы вартаўніка ліцэя, Лёшку Цяцерку з сабакам Бляха-Муха.

— Эх, чалавек, сюды! — крыкнуў мэр.

Цяцерка, прызнаўшы начальства, падышоў. За ім — сабака Бляха-Муха.

— Бярозу відзіш? — паказаў на дрэва Афрыкан Патапавіч.

— Бачу! Чаму ж не бачыць? — пакрыўдзіўся Цяцерка, бо паспеў «закласці за каўнер» і падумаў, што з яго кпяць.

— А варону?

— І птушку бачу. Мыша ў дзюбе!..

— Пярсцёнак!.. Залаты з брыльянтам! — заскуголіла Капіталіна Маркетаўна.

— Дастанеш?! — насеў мэр на вартаўніка.

— Як піць даць! — ашчэрыўся з гатоўнасцю Цяцерка, а сабака Бляха-Муха завіляў хвастом. — Толькі...

— Што? — насцярожыўся Афрыкан Патапавіч.

— Без допінгу аніяк няможна.

— Пасля!

— Не-е, высока. Галава закружыцца, — стаяў на сваім Цяцерка.

Нічога не заставалася, як паднесці яму чарку.

— Вот цяпер — парадак! Цяпер — яна наша! — вартаўнік скінуў кажушок і, як певень, падскочыў да дрэва. Ашчаперыў рукамі ствол, затанцаваў вакол яго.

Сабака Бляха-Муха забегаў побач, падбадзёрыў брэхам.

— Ну-у! — падганяў мэр.

— Лезь жа!.. — не вытрымала Капіталіна Маркетаўна.

Аднак Цяцерку нечакана павяло ўбок, і ён зваліўся.

— Звіняйце, не той імпэт! Заўтра...

— Як гэта заўтра?! — азвярэла Капіталіна Маркетаўна ад такой нахабнасці. — Падымайся, ваўкарэзіна.

Але Цяцерка ўжо быў ніякі. Тады яна накінулася на мужа:

— Хто прасіў ліць яму ў горла?!.

Афрыкан Патапавіч у адчаі сам кінуўся на бярозу.

— Падсадзі! — падаў каманду жонцы.

Капіталіна Маркетаўна наўздзіў лёгка адарвала яго ад зямлі. Афрыкан Патапавіч бездапаможна заграбаў нагамі па гладкім ствале:

— Пхні!..

Сяброўка жыцця ўпёрлася магутным плячом у мяккае месца мужа.

— Яшчэ!..

— Ды што я табе — кран!?

— Мне б за той сук зачапіцца?! — узмаліўся мэр.

Капіталіна Маркетаўна напружылася і падала цела мужа яшчэ на некалькі сантыметраў уверх. Ён дацягнуўся да сука, ухапіўся за яго і павіс, матляючы ў паветры нагамі.

— Дзяржы! — закрычаў жонцы.

— Не магу!

— Нясі што мяккае! Уб'юся!.. — заенчыў са страху мэр, і ў гэты момант сук, не вытрымаўшы цяжару, трэснуў. Афрыкан Патапавіч разам з ім жмякнуўся на зямлю.

— Ой-ёй-ёй!.. Пагіб!.. — заскавытаў з-пад сука мэр.

— Так табе і нада! Не будзеш па дзеўках шастаць! — выдала панегерык жонка.

Занятыя сабой, гаспадары не заўважылі госця. У двары стаяў дырэктар ліцэя Пятро Халімонавіч Куль. Пад пахай ён трымаў пакет, абвязаны стужкай з бантам.

— З імянінамі! — гаркнуў Куль.

— Цішэй! — застагнаў з-пад сука мэр. — Спужаеш яшчэ!

— Каго? — Пятро Халімонавіч недаўменна азірнуўся.

— Варону на дрэве!

Куль задраў галаву ўверх.

— Ага, віжу. Варона... Чорная... А што ў дзюбе?

— Пярсцёнак!.. Залаты... З брыльянтам!.. — завялася Капіталіна Маркетаўна. — У гэтага разявакі сцёбнула.

Мэр вылез з-пад сука, пачухаў бок:

— Панімаеш, Халімонавіч, свіснула мамянтальна. І вокам не паспеў міргнуць.

— Яны, зладзейкі, яшчэ тыя! — пагадзіўся Куль. — У мяне, было, гадзіннік пацягнулі...

— Гэта ён спецыяльна падсунуў вароне пярсцёнак, — усхліпнула імянінніца.

— Кіньце, Капіталіна Маркетаўна! Вы ж — разумная жанчына!

— Вот я і гавару, — не сунімалася яна, — не паспее развіднець, а ён поўныя жмені круп набярэ і груганню гэтаму. Як ненармальны. Усё цыпачкі яму. Вот хай цяпер і ловіць сваю цыпку...

Усе моўчкі паглядалі на варону з пярсцёнкам на вершаліне бярозы.

Куль у вялікім задуменні цёр лоб, ажно чырвоная паласа пайшла па ім. Вельмі ж хацелася яму дагадзіць мэру і яго жонцы. Нарэшце прыказаў:

— Ёсць рашэнне! Зараз мы прыгонім сюды аўтамабільны пад'ёмнік, паднімемся да вароны і забяром пярсцёнак.

— Ой, як геніяльна! — усклікнула Капіталіна Маркетаўна.

— Усё геніяльнае — проста! — сціпла канстатаваў Пятро Халімонавіч, дастаў з кішэні мабільнік і пачаў набіраць патрэбны нумар.

Аднак перазвон па мабільніку скончыўся нічым. Вадзіцель пад'ёмніка паспеў ужо «ўзяць на грудзі» і стаяў на прыколе. Ды не такі быў характар у Пятра Халімонавіч, каб проста так здацца і на нейкай вароне згубіць свой аўтарытэт. Ён выклікаў міліцыю.

Неўзабаве на іншамарцы прыкаціў сяржант Бэрка.

— Что за праішэствіе? — адразу прыступіў ён да выканання службовых абавязкаў.

— Пярсцёнак з брыльянтам!..

— Сярод белага дня...

— Памажыце!.. — пачуліся крыкі.

— Не ўсе ўмесце! — спыніў сяржант. — Хто-небудзь адзін.

Ініцыятыву на сябе ўзяў Пятро Халімонавіч.

— Гэта я патэлефанаваў у аддзел, — важна пачаў ён, — бо ведаю вашага начальніка Караната Каранатавіча Козлікава як мудрага і інтэлігентнага кіраўніка, якога не раз паказвалі па тэлебачанні.

— Бліжэ к дзелу! — перабіў сяржант.

— А справа ў тым, што ў гэтай паважанай сям'і ў самы нявыгадны момант укралі залаты пярсцёнак.

— З брыльянтам! — удакладніла Капіталіна Маркетаўна.

— Панятна, — сяржант выцягнуў з сумкі бланк і ручку. — Зараз складзем пратакол.

— Навошта пратакол? — не зразумеў Пятро Халімонавіч.

— Прашу не ўмешвацца ў дазнанне! — зрабіў заўвагу Бэрка. — Фамілія?

— Чыя? — перапытаў Куль.

— Прэступніка! Непанятна сказана?

— Па прыроднаму палажэнню гэта стварэнне э-э... — Пятро Халімонавіч сумеўся, — не можа мець прозвішча.

— Э-э! — раздражнёна паморшчыўся Бэрка і звярнуўся да мэра: «Прозвішча прэступніка?»

— Варона! — без запінкі адчаканіў той.

— Ва-ро-на! — акуратна вывеў на паперы сяржант. — Імя?!

— Цыпкамі клікаў пры кармленні. Усіх агулам.

— А вы ў яе самі спытайце! — падказала Капіталіна Маркетаўна. — Во, на бярозе сядзіць.

Сяржант глянуў уверх.

— Не віжу!

— А вы бярыце вышэй!

Бэрка задраў галаву, ажно фуражка ўпала:

— Гм, там толькі варона!.. Іздзеваецесь?!..

— Дык яна і ёсць зладзейка!..

Бэрка сплюнуў:

— І эта із-за какой-та птушкі міліцыю дзёргаць? Не маглі самі разабрацца?

— Папробуй, калі такі хват! — усклікнула Капіталіна Маркетаўна. — Я жалавацца буду!..

Сяржант Бэрка скаргаў не любіў, бо за гэта здымалі прэміі. Таму паспяшаўся супакоіць кампанію:

— Не валнуйцесь! Січас усё ўладзім!..

Ён сеў у машыну і па рацыі, ці не самому начальніку Козлікаву, далажыў абстаноўку. Пасля працяглай паўзы з прыёмніка вырвалася:

— Арыштаваць!..

Сяржант па інерцыі адшпіліў наручнікі. Пакруціў. Яны яўна былі не для лапак вароны. Зноў уключыў рацыю.

— Дрэнна слышна!.. Паўтарыце, пажалуста!..

Зноў пачулася сіпатае і грознае:

— Арыштаваць!..

— Да, без ста грамаў не разбярэшся! — парушыў маўчанне мэр.

Гэтыя словы знайшлі свой водгук ва ўсіх без выключэння ўдзельнікаў здарэння. На капоце «мерса» з'явіліся пляшка і закусь. Гулькалі, штораз зыркаючы на дрэва, ці на месцы варона. Тая, у сваю чаргу, з цікаўнасцю назірала за тым, чым займаліся на зямлі людзі.

Сяржант Бэрка, да якога толькі цяпер дайшло, што п'е гарэлку з самім мэрам, стаў шоўкавым і гатоў быў касцьмі легчы, каб услужыць. Ён выхапіў з кабуры зброю і заявіў:

— Я, яе прасцітутку, такую-сякую з аднаго стрэлу з галіны здыму!

— Ты ўпэўнен, што пацэліш? — паспрабаваў удакладніць мэр.

Бэрка замяўся: на апошніх стрэльбах у мішэнь мо ў дзесяткі разоў большую, чым варона, ён пацэліў толькі з апошняга патрона.

— Мы не тым займаемся, — ачомаўся пасля чарговай чаркі Пятро Халімонавіч. — Вароны — стварэнні разумныя. З імі трэба па-харошаму, — ён падступіў да бярозы: «Воронька, прынцэса, вярні, што ўзяла!»

— Па-чалавечы яна не разумее, — прасвяціў сябра мэр. — З ёй трэба размаўляць на яе, варанячай, мове. Вось так: «Кар-кар-кар!»

— Кры-кры-кры! — забасіў побач Пятро Халімонавіч.

— Кру-кру-кру! — выводзіў старанна сяржант Бэрка.

— Гаў-гаў-гаў! — падцягваў ім сабака Бляха-Муха.

Варона з вялікай увагай слухала канцэрт і, здавалася, што сама зараз разявіць дзюбу і каркне ў адказ. Мо так і выйшла б, калі б Пятро Халі-

монавіч не пацікавіўся, колькі грошай выклаў мэр за залаты пярсцёнак з брыльянтам.

— Дзесяць кускоў! — агучыў ён.

Капіталіне Маркетаўне пасля гэтага адразу зрабілася кепска. Яна заявіла, што памірае, і страціла прытомнасць. Мужчыны гуртам кінуліся ратаваць жонку мэра, забыўшыся пра варону. І — дарэмна. Тая, як ні ў чым не бывала, зляцела з бярозы на любімы капот машыны і прынялася за пачастункі.

Крыкі разбудзілі вартаўніка Цяцерку. Ён працёр вочы, падыбаў да машыны, сагнаў варону, сквапна схапіў келіх з гарэлкай і — ледзь не падавіўся. На дне ляжаў залаты пярсцёнак з брыльянтам!

## Любоў на лысую галаву

Халімона пацягнула на любоў. Калі сцямнела, ён, як той кот, падкраўся да трошкі мурзаценькіх Кулініных пятак, якія вытыркнуліся з-пад коўдры, і пяшчотна пашкроб іх пазногцямі. Скура на пятках залубянела, і таму жонка як ні ў чым не бывала працягвала сапці на ўсе свае насавыя завёрткі.

Тады Халімон злаўчыўся і цапнуў яе зубамі за жаўтлявую палавінку вуха.

— Вой-вой-вой!.. Ву-у-у !.. — узвыла Куліна. — Каб ты праваліўся са сваёй дурасцю! Ашалеў, можа?

— Лапачка! Ну якая ж дурасць? Пры чым тут шаленства? Гэта што ні на ёсць — самая любоў! — зашаптаў Халімон жонцы ў вуха.

— Саўсім ачмурэў, старлыбіна, корч балотны! Аблысеў даўно, а ўсё брыкалкі, любосці!.. Заўтра, нябось, ланцугамі не падымеш карову выгнаць у поле.

Куліна адвярнулася да сцяны, і памаленьку ў яе носе зноў завялася музыка.

Халімон стаяў, што аплёваны. Хацеў па звычцы пацерабіць патыліцу, але рука, каўзануўшы па гладкай скуры, заціхла. У грудзях бязладна боўталася сэрца. Нібы восвы, узварушыліся думкі: «Дваццаць пяць гадкоў, самых адборных, самых сакавітых аддаў гэтай вярціхвостцы. Ды што там казаць «аддаў». Уцяпаў, як у гразь!.. І каб там на якую жанчынку загледзеўся? Загуляў? Дык не ж! Усё гэтай зебры паласатай!»

А можна было б адвесці душу. Падбіваліся і да яго ласыя на выгляд кабеты. Дарка Лявонава не раз адвячоркам мулілася на вачах, то грудзьмі, што мячыкамі, пад кофтай пагуляе, то спадніцай спакусліва махне.

Марфа Дамінікова, яшчэ дзеўкай, як пры фігуры была, нават пацалунак яму ўляпіла і аблізалася:

— Ой, Халімонка, якія ў цябе вусны!.. Ну-я, як мёдам намазаныя!

Тут бы і падкаціцца да яе. Ён жа, каб чаго-небудзь не выйшла, даў цягу.

Ды што там вясковых чапаць. Калі па тэлевізары пачыналі выстаўляцца спартсменкі або балерыны, ён, каб угадзіць Куліне, як ні карцела паглядзець, збіраў у кулак усю сілу волі і адварочваў галаву ад экрана:

— Ат, няма нашто! Пустое. Пайду лепш парсюку есці дам.

І вось жа — на табе! Дачакаўся падзякі за гэта: «старлыбіна», «корч балотны».

Халімон прыслухаўся да варожага яму цяпер храпу Куліны і з пагрозай у голасе прашыпеў:

— Дрыхні, змяюка! Праз бок табе ўсё гэта вылезе!

Усю ноч у грудзях у Халімона смылела, як бы хто там надзёр драчкай. Ён кідаўся на сцяну, тузаў сябе за вушы, цёрся лбом аб рэбры ложка і пад раніцу цвёрда наважыўся: здрадзіць жонцы! Заставалася знайсці — з кім.

...Назаўтра пасля абеду да яго ў хату, як на тую бяду, прыкруцілася ўдава Марфа і зажалілася з парога:

— Свіння, каб на яе ваўкі, рые, як трактар. Ніякая ежа не прыстае. Ёй бы драціну ў лыч уцягнуць, ды няма каму: мужчыны то на рабоце, то атопкі якія. Адзін ты, Халімонка, і здатны.

Халімон ледзь не ўпаў з зэдліка ад такой пахвалы. На Марфу ён даўно кідаў вока, а тут — сама заявілася. Кампліментамі сыпле.

— Кхе!.. Эхе!.. Для мяне на лычы свінні вузел з дроту завязаць, што жонцы па шыі з'ездзіць... І дрот падыходзячы медны ёсць. І абцугі! — усхадзіўся ён, і сэрца заёкала ў прадчуванні любошчаў.

Захаканы, з дрыжачымі рукамі, падступіў Халімон да загародкі, дзе гадавалася Марфіна свіння і даўся дзіву: жывёліна мала чым уступала яго-наму дваццаціпудоваму парсюку.

«Можа парваць, звяруга! Лепш не лезці!» — замуліўся, зачмыхаў носам Халімон.

Марфа па-свойму расцаніла яго нерашучасць:

— Там бруднавата, дык я зараз саломкі ўкіну! — заспявала яна.

— Укінь-укінь, — ахрыплым голасам паддакнуў кабеце Халімон і адхінуўся, каб неўпрыкметку змыцца, а можа, і ўратаваць жыццё.

Але тут як бы хто штурхануў яго ў бок: «Куды, дурань?! Ну шкуматне свіння за руку ці нагу? Ну і што з таго? Дзяржава пенсію адваліць! Не трэба будзе на работу цягацца, мазалі набіваць. І Марфа будзе ягоная! А то бач чаго надумаў — дармавой любві захацеў. Дзе гэта сёння відана?!»

І ён, пакрэкваючы, палез у катух.

...У Марфінай хаце смачна пахла смажанінай. За сталом, на покуці, важна, як пераможца, уссядаў Халімон, які незадоўга перад гэтым учапіў-такі ў лыч свінні драціну. Ад печы да стала, павільваючы клубамі, хадзіла Марфа. Халімон ледзь паспяваў глытаць слінку ў чаканні і пачастунку, і любві. Нарэшце не стрываў:

— Хопіць строіць! Сядай во!..

Гулькнулі па чарцы-другой першаку. Яшчэ прывабней падалася Халімону Марфа. Пацягнула да яе, нібы вяроўкамі. Аж заёрзаў на ўслоне.

«Ну, смялей, смялей! — падбадзёрваў ён сам сябе. — Кожны сапраўдны мужчына павінен прайсці праз здраду!» І пачаў:

— Слаўная ў цябе свіння, Марфа!

— А, ні кажы... А як купляла, не было на што глядзець.

— І ты слаўная!..

— Выпі, Халімонка! Ты ж — мужчына! — заружавелася Марфа. — У стакан налівай! Што гэтымі кроплямі цадзіць?!.. Не сказаць, каб я ўжо такая была, як ты гаворыш, але тое-сёе ёсць. Пры мне!

Халімон залпам асушыў шклянку самагонкі і пацягнуўся да Марфы, каб абняць яе. Але падлога і Марфа з ёй калыхнуліся ў яго пад нагамі і паплылі.

«Во, каб ты згарэла, такая работа, — вылаяўся ён пра сябе. — Перабор! Уся любоў можа пайсці кату пад хвост».

— Марфа, ты не закрывайся! Вярнуся! — папрасіў Халімон і, чапляючыся рукамі за сцяну, падаўся на вуліцу ахаладацца. Аднак свежае паветра

яшчэ больш здурыла яму галаву. Да таго ж, паспяшаючы назад, у хату, ён даўся лбом у вушак. У вачах зацьміла. Заместа таго, каб падацца направа, да дзвярэй у Марфіны пакоі, ён павярнуў налева, у хлеў да свінні. Укуліўся ў катух, прастагнаў:

— О-ох, і высокі ложак у цябе, Марфа!... Па-а-сунься!.. Свіння ціха рохнула і не вельмі ахвотна зварухнулася да сцяны. Халімон пачакаў, пакуль трохі праяснілася ў галаве, загаварыў:

— Ты вот што, Марфа... Хачу апраўдацца,чаго г-гэта я да цябе прыбіўся. Звабная ты! Цельпухоўку прачашы і суседнія вёскі, а такой не спаткаеш! Не тое, што мая карга. Унурыць вечна галаву ў плечы і глэньбіць... Э-э, даўно, Марфа, я па табе вачамі г-гэта чыркаў. Вот дабраўся. Ты цяпер раздзетая г-гэта... А каб цябе апрануць! Сукенку каб такую, у якой арцісткі круціліся ў цілівізары! Хустку пуховую. Шубу за тысячу!.. Каб вусны табе намазаць гэтай памадай хранцузскай... Не-е, не трэба. Ты тады ўвесь раён збаламуціш!..

Свіння паблажліва рохнула.

— Р-рагочыш!... Смешна? — Халімон ямчэй прыціснуўся да свінні. — Г-гарачая ты!.. Не тое, што мая змяюка: вылазіш з пасцелі, што з лядоўні. Відаць, мно-о-га ў цябе г-гэтага ж-жару, лю-любві, л-ласкі!..

Халімон прыўзняў цяжкую, з шышкай на лбе галаву, і ўкусіў свінню за вуха. Свіння і гэта сцярпела, толькі рохкнула гучней.

— І што г-гэта ты ўсё дражнішся? Хоць бы слова па-людску сказала? — прыставаў Халімон.

Ягоная рука з'ехала свінні на лыч і напаролася на драціну, уцягнутую напярэдадні.

— З-завушніцы ў цябе х-хвацкія!... Ненаскія, га?!.. Англійскія ці германскія! Маёй прахадзімцы такія і не сніліся!..

Халімон неасцярожна пацягнуў за драціну, і свіння, якая дагэтуль усё мужна выслухоўвала, — завішчэла на ўсю вёску, як бы яе рэзалі. Ускочыла і загарцавала па Халімоне.

Халімон засланіўся рукамі:

— Ма-марфа, ты што г-гэта!?.. Ты што-о, ашалела?!..

І раптам ягоныя пальцы намацалі капыты. П'янку, як языком злізала.

— Га-а!.. Ведзьма! — зароў Халімон і што было сілы рвануў з катуха.

У праёме дзвярэй ён з разгону яшчэ раз трэснуўся лбом аб нізкі вушак і, як падкошаны, жмякнуўся на зямлю.

— Цьфу!.. Цьфу!.. Згінь!.. Прападзі!.. — запляваўся ён, прыпісваючы ўдар нячыстай сіле.

На чацвярэньках вышмыгнуў на вуліцу, затраўлена азірнуўся, дзе б уратавацца, і, ускочыўшы на ногі, матлянуў далей ад бяды, на агароды. Больш на любоў Халімона не цягне.

## А на халеру мне тыя вусы!..

Як кажуць разумныя людзі, у кожнага чалавека павінен быць свой стрыжань. Асабліва ў мужчыны.

Ну без чаго не можа жыць мужчына? Многія тут думаюць няправільна: вось, каб быў лысы, каб раскатваў на іншамарцы, каб ад баксаў кішэня пухла, і, яшчэ самі кумекаеце, тое-сёе. Але са свайго жыццёвага вопыту ведаю, што ўсё гэта — глупства. Сапраўдны мужчына не можа быць без вусоў!

— Бывала, прыязджаю ў санаторый, а сакратарка шчабеча па мабіле сваёй сяброўцы:

— Паслухай, тут у нас такі кент намаляваўся!.. Вусы — ляснешся!..

Ды я і без таго ведаў, што без вусоў — і не туды, і не сюды. Не раз пытаўся ў палюбоўніцы:

— І чаго ты да мяне прысохла? У мяне ж ні твару, ні — тавару. А яна мне:

— Дурань! Ты хоць ведаеш, якім скарбам валодаеш? Ды плявала я на тваіх «шварцнегераў» бязвусых!

Імкнуся асцярожна высветліць вартасць вусоў. Яна не ўтойвае:

— Пацалунак без вусоў, як дранікі без смятаны. Паказычаш вусікам, і — адразу ў космасе сябе адчуваеш!

Вот, браточкі мае, якія песні! І калаціўся я над сваімі вусамі, не раўнуючы, як Кашчэй над золатам. І раптам, у адзін дзень, усё паляцела к чорту.

Выклікае, значыцца, мяне начальнік Афрыкан Патапавіч і нахабна заяўляе:

— Я табе, Бэрка, прэміяльныя ў гэтым месяцы ўразаю.

— На якой падставе? — цікаўлюся.

— А на той, што ты з-за сваіх вусоў пільнасць да работы згубіў. Сядзіш, то за адзін вус тузаеш, то — за другі... Вот прадукцыйнасць і ўпала.

— Не маеце права! — гавару. — Ёсць параграф недатыкальнасці асобы!.. І што вам мае вусы здаліся? Вунь людзі, — паказваю на партрэт на сцяне, — не раўня мне, носяць!..

Адстаў.

Але думаеце, на гэтым усё скончылася?!.. Завальваюся я дахаты, а мая лядашчая палавінка пытае:

— А дзе гэты ты, галубок, швэндаўся-бадзяўся?

— Так і так, — дакладваю, — быў пры справе.

А яна як лясне мне патэльняй па галаве:

— Ведаю тваю кабяліную справу! Добрыя людзі падказалі... Ачомаўся трохі, спрабую апраўдацца:

— У кампаніі быў. З начальствам.

Яна як умалоціць яшчэ раз:

— Заткніся, казёл! Начальства тваё даўно спіць, а вусаты, мне пазванілі, жанчыну павёў.

— Мала куды?

— У ну-у-мар! — і залілася слязьмі.

— Эх, што за жыццё? — застагнаў. — Кроку не ступіш без канспірацыі. Праклятыя вусы!..

З вялікімі намаганнямі канфлікт быў уладжаны. Вусы памыў адборным шампунем, пафарбаваў. Зноў фраяруся па вуліцы. І тут, прыцемкам, пераймае шобла:

— Чувак, падпаўзі бліжай!

Падышоў. Углядваюцца гэтак, за вусы цягнуць:

— Ён?

— Ён!

І як пачалі дубасіць. Ледзь ногі ўвалок. Толькі пасля дацяміў, што перапала за чужое донжуанства. Нехта пагуляў, а мяне адмяцелілі. Крыўдна!..

Плюнуў на ўсё і — у цырульню.

— Далоў канцы вусоў! — заказваю.

Абкарналі з двух бакоў. Люстэрка падсоўваюць:

— Ну як? Хопіць ці болей?

Гляджу — выліты фюрэр. Гітлер — не ўбавіць, не прыбавіць. Я ажно закалаціўся. Не хапала яшчэ, каб клічку непрыстойную на ўсё жыццё прысабачылі. Залямантаваў:

— Збрывайце дарэшты! Каб і следу іх не было! У нейкія хвіліны ўсё было скончана.

Так я застаўся без вусоў. І яно б нічога. Толькі вось іншыя пачалі іх актыўна насіць. І цяпер, калі што, гавораць:

— Гэта бязвусы там быў!..

## Няпрошаная госця

Шчыра прызнацца, мух у нас не любіць ніхто. Ну а для Халімона яны — найзлейшыя ворагі. Супраць гэтага маленькага крылатага стварэння ён нацягаў столькі атруты, што не толькі муху — слана можна на той свет адправіць. Прыведзены ў поўную баявую гатоўнасць і іншыя сродкі знішчэння: розныя там хлопаўкі, ліпаўкі, заганялаўкі. А калі нават з гэтага пекла муха вырвецца, усё роўна ёй не жыць. Халімон ды і Куліна ўжо зловяць яе на ляту. Махель рукой, і — муха ў кулаку.

— Адляталася! — выскаліцца Халімон і зноўку выглядвае, ці не затаілася дзе яшчэ адна.

Калі Халімон не ўкакошыць за дзень ніводнай мухі, лічыце, дзень для яго прапаў. І настрой будзе кепскі. І ноч — без сну.

Чым жа так правінаваціліся мухі перад Халімонам?

— Ды яны мне ўсё жыццё паламалі! — плюне ён, адказваючы на гэтае пытанне. — Каб не гэтая паскудзіна, дзе б я ўжо быў?!

І ў гэтым сапраўды ёсць доля праўды. Але давайце усё па парадку. Неяк, косячы ў кааператыве ледзь не па прынудзілаўцы сена, Халімон нацёр на далоні мазоль. Здаровы, пухлісты. З крывавым падцёкам.

— Каб жа ты лопнуў! — вылаяўся Халімон і тут жа з горыччу падумаў, што далей так жыць нельга. Трэба шукаць лягчэйшую работу. Безмазольную. Хаця б — малаказборшчыкам... Пракаціўся ранічкаю ў брычцы па вёсцы, сабраў гэты самы лішак малака ў насельніцтва і дрыхні потым цэлы дзень, падставіўшы сонцу жывот або спіну. А ноччу, калі конь у руках, можна наперці дабра ў дом на цэлы год.

— Не паставяць цябе малаказборшчыкам, — засумнявалася Куліна.

— Кы-ыш!.. — адмахнуўся Халімон. — Не бабскага розуму справа. Строй лепей закусь. На суботу зазваў у госці старшыню.

— Самога Мітрафана Пятровіча? — войкнула Куліна.

— Яго! А тады варон не лаві. Як падап'е, развесяліцца, дам знак, разжалобся, паенчы. Не вучыць жа. Папрасі, каб прыставілі мяне малако вазіць. Ды не забудзь сказаць, што сумленне ў мяне яшчэ тое. Дармаедам быць не хачу. А то ведаю цябе: як завядзешся — галоўнае і ўпусціш. Я б і сам мог, але гэта ўжо будзе занадта. Як набіваюся.

— Усё скажу, Халімонка.

Стол зрабілі на славу. Пасярод стала, ганарліва задраўшы лычык, ружавела смажанае парася. Спакуслівы пах біў у нос ад тушанай бульбы з курацінай. Цэлае суквецце ўтварылі талеркі з агуркамі салёнымі і свежымі, прама з градкі, з рыжыкамі па пятачку, з мёдам, якога пастараліся

ў суседа. І, як вялося, Халімон дастаў са сваіх сховаў запацелую літроўку першаку.

— Ну, ці быць мне малаказборшчыкам? — скубануў ён за бок Куліну.

— Быць, родненькі!.. Быць! — аж засвяцілася тая.

І вось жаданы старшынёўскі «козлік» рыпнуў тармазамі ля іхняга плота. Халімон трушком пагоцаў да машыны:

— Калі ласка, Мітрафан Пятровіч, просім!

— От дзякуй, што паслухаліся, уважылі! — засакатала побач Куліна. — Праходзьце ж у добрую хату. Касцюм на вас файны які! Зіхаціць увесь. Пэўна японскі?..

Халімон зыркнуў на жонку, каб не цяўпла абы-што. Але старшыня, відаць, быў у гуморы.

— Галандскі! Шэрсць — сто працэнтаў! — паказаў ён на падкладцы каляровую этыкетку.

Старшыня хацеў выдаць яшчэ нешта пра свой касцюм, але пахі са стала надзейна аблажылі целепкаваты нос. Пад пупырыстай скурай старшынёўскага горла нецярпліва заслізгаўся кадык.

У Халімона ад гэтых добрых прыкмет часцей затахкала сэрца. Яно як бы выбівала ў рытм думкам:

— Быць малаказборшчыкам! Быць!

Каштуючы мёд, старшыня цмокнуў чырвоным, у кропачкі языком. Гэтага было дастаткова, каб Халімонава рука пры напаўненні кілішкаў задрыжала і некалькі кропель чыстай «слязы» пралілося на абрус.

У другі раз Куліна за гэта з’ела б яго на месцы. Цяпер жа і вокам не павяла.

— Быць!.. Быць!.. Быць!.. — звінела ў Халімонавай галаве.

І раптам да гэтага крыштальнага звону прымяшалася нейкае глухаватае брыдкае гудзенне. Халімон спачатку нават не сцяміў, што гэта такое, пакуль на талерку з мёдам не села вялікая восеньская муха-кусліўка.

У Халімона аж дыханне зацяло. Далікатна, каб не прыцягваць лішняй увагі, ён пстрыкнуў пальцамі над беражком талеркі. Але няпрошаная госця і не думала злятаць. Адно прыціснулася больш да талеркі ды чорны брудны хабаток захадзіў жвавей.

— Во свіння!.. Каб цябе парвала! — узнерваваўся Халімон. — Ну пачакай жа!

Ён схапіў відэлец і тупым яго канцом тыцнуў пад муху. Муха сарвалася з месца, аднак, не зарыентаваўшыся, плюхнулася валасатым, цёмна-бэзавым брушкам у самы мёд.

— Куліна! Дзе цябе чэрці носяць?! — выгукнуў на ўсю хату Халімон. — Убірай гэты мёд з мухай!

— А божачкі! Адкуль у нас тыя мухі? — затупала Куліна, зграбаючы са стала талерку з мёдам. — Гэта збродлівая нейкая. Не наша!

Старшыня зачмыхаў носам, дастаў папяросу.

«Вот табе і сон у руку: чорныя свінні пасярод дарогі, — цюкнула Халімону. — Вот табе і малаказборшчык!.. І каб з-за каго? З-за нейкай мошкі...»

У хаце ўсталявалася цішыня. Парушыў яе Мітрафан Пятровіч.

— Дык што ж гэта мы бяздзейнічаем? — кіўнуў ён на смажанае парася. — Давай, Халімон, камандуй!

І ў гэты самы момант, адкуль не вазьміся, над сталом зноў забрынчэла муха і без разведачнага аблёту апусцілася прама на лыч кулінарнага шэдэўра.

Халімон, што ўджалены, сарваўся з месца. Аднак муха, відаць, зразумела, што прымуць яе тут далёка не па-людску і шуснула далей ад бяды ў адну з дзірак лыча.

— Сядзі там, зараза! Цяпер нікуды не дзенешся! — прыказаў Халімон і заторкнуў дзірку вішняй.

Але не паспелі яны ўзяцца за кілішкі, як нахабніца выпаўзла з лыча праз другую дзірку. Расправіла крыльцы, узвілася і села на абадок старшынёўскага кілішка. Прабегла па ім, заглянула асцярожна ўнутр, торкнулася жвавым хабатком у даволі буйную кроплю гарэлкі, падсалоджаную мёдам.

Халімон зніякавеў. Яму зрабілася горача, як у лазні.

Муха ж, нюхнуўшы гарэлачнага духу, зусім знахабілася. З нейкім жжуканнем, пэўна, са сваёй застольнай песняй, яна вылецела з кілішка і палезла цалавацца да старшыні, спікіраваўшы яму на адвіслую вусніну, на якой блішчэлі малюсенькія кроплі мёду.

— Фыр-р-р!.. — затрубіў Мітрафан Пятровіч і запляваўся.

Муха, зрабіўшы некалькі разоў сальта ў паветры, прыліпла Халімону да лысіны.

— Ах ты, паскудзіна! — ён з усёй сілы гакнуў кулаком сабе па галаве.

Калі прыйшло прасвятленне, убачыў, што муха, як ні ў чым не бывала, каштавала салату з вялікай талеркі, відаць, закусвала.

Халімон прыўзняўся з крэсла, паволі выцягнуў руку, маючы намер рэзка махнуць над талеркай і злавіць урэшце гадаўку. Напэўна, яно так бы і выйшла. Але Халімон быў надта ўзнерваваны. І заместа таго, каб прайсціся над талеркай, далонь апусцілася ніжэй, зачапіла салатніцу і ўсё, што ў ёй было, замальдавалася ў старшыню. Па яго галандскім касцюме са стопрацэнтнай шэрсці пацякла смятана.

Халімон пасунуўся сціраць салату рукавом, аднак яшчэ больш размазаў яе па старшыні. Падскочыла з ручніком Куліна, зарумзоліла:

— Вы ж даруйце, Мітрафан Пятровіч! Аблысеў во зусім, пастарэў. Хваробы абступілі. А сумленне ў яго сістэматычнае. Малаказборшчыкам бы мог...

Старшыня нешта мармытаў, адступаючы задам. Зачапіўся за парог і паляцеў цераз яго дагары нагамі. Аж застагунела ўсё навокал.

З той пары і ўзненавідзеў Халімон мух. Ніякай ім літасці. Праўда, адну нядаўна адпусціў. Раскрыў акно, папляваў у кулак, у якім была муха, паглядзеў на яе ўважліва, як бы вызначаючы яе вартасць, і сказаў:

— Ляці да суседа Кузьмы! Там старшыня гасцюе!..







Васіль АНДРЫЕЎСКІ

# «ГЛЯДЗІЦЬ СПАДЗЕЎНА БАГАРОДЗІЦА...»

## ВЯСНОВЫ МАТЫЎ

Святлом усё заліта.
(Зіма, бывай здарова!)
Пралескавым блакітам
Асвечана дуброва...

## СОНЦА НАД БУСЛЯНКАЙ

Звонкі клёкат ловіць слых
Красавіцкім ранкам.
Зноў вярнуліся буслы
Ў родную буслянку.

Над палескаю зямлёй,
Дзе вятры гуляюць,
Ўсёй буслінаю сям'ёй
Хутка залунаюць.

А пакуль над іх жытлом,
Над птушыным лёсам —
Сонца весняга святло,
Хараство нябёсаў.

---

*__Андрыеўскі Васіль Рыгоравіч__ нарадзіўся 20 кастрычніка 1967 года ў вёсцы Града Калінкавіцкага раёна Гомельскай вобласці. Скончыў філалагічны факультэт Мазырскага дзяржаўнага педагагічнага інстытута імя Н. К. Крупскай (1989). Працаваў настаўнікам, журналістам, бібліятэкарам, займаўся выдавецкай справай. Цяпер — супрацоўнік Мазырскага аддзела Дэпартамента аховы МУС Рэспублікі Беларусь.*

*Аўтар зборніка паэзіі «Пад літасцю нябёс».*

*Жыве ў Мазыры.*

## ВЕРБНІЦА

Разліваецца ў аблоках
Свіст і шчабятанне —
Напаўняецца высокай
Музыкай світанне.

І плыве па-над зямлёю
Вербная нядзеля,
І лунаюць разам з ёю
Вера і надзея...

## МАЗЫРСКАЯ ВЯСНА

Патанаюць у абдымках
Майскай зелені яры.
Сярод безлічы будынкаў
Храмаў высяцца муры.

Разлілася, як ніколі,
Прыпяць — кругам галава.
Колькі моцы, колькі волі,
Колькі ў плыні хараства!

Так і вабіць, так і кліча
Непаўторнасцю абшар:
Гор дзівоснае аблічча,
А над імі — сонца шар...

* * *

Відаць, у кожнага свае
На сцежках вечнасці бар'еры.
Ды часта ўзяць іх не стае
Любові, мужнасці і веры.

* * *

Напоўню чарку, прыгублю
І боль закалыхаю.
І сумна выдыхну: люблю,
І роспачна: кахаю.

Агорне думка пакрысе —
Даруюцца правіны.
І дзень наступны прынясе
Шчаслівыя хвіліны.

* * *

І ноч — не ноч, і дзень — не дзень,
Калі на сэрцы адзінока:
Няма ратунку анідзе,
Ніпто наўкруг не цешыць вока.

І ўсё ж, магчыма, за спіной
Самотнай постаццю блукае
Твой лёс, які ўжо даўно
Цябе адзіную шукае.

* * *

Намалюю спатканне
(Старамодны сюжэт):
Ён. Яна. Хваляванне.
Пацалункаў букет...

* * *

Я тут, дзе Прыпяць, ты — дзе Сож.
І травень хмеліць нас пяшчотай.
І спадзяёмся мы употай
На шчасце блізкае усё ж.

* * *

Кожны дарованы Госпадам золак —
Цуд пад гармоніяй вечнаю зорак.
Так і каханне — часіна прыходзіць —
Сэрца да сэрца сцяжыну знаходзіць.

* * *

Душа не стамляецца верыць у гэта
Праз боль і пакуты зямнога жыцця:
Усё, што дабром і любоўю сагрэта,
На небе калісьцы свой знойдзе працяг.

* * *

І акрыяе, і адродзіцца
Зямля.
Жыццём зноў шугане.
Глядзіць спадзеўна Багародзіца
І на цябе, і на мяне...





## Эдуард ЗУБРЫЦКІ

### ЗАЛЁТНЫ ПТАХ

А я адсюль нікуды не паеду,
Хіба што ў свой апошні шлях.
Усе мае тут радасці і беды,
Пяшчота ў сэрцы, слёзы на вачах.

На кронах сосен змрочныя аблокі
І па начах няспраўджаныя сны, —
У іх заўсёды чую твае крокі, —
Ды толькі ўсё нязбытныя яны.

І голас твой далёкі, шапатлівы
Заўсёды чую поўначчу глухой,
Нібыта за сцяною шэпча ніва
Жытнёвай вечнай моваю сваёй.

І будзе крона воблачкам зялёным
Працягам дум начных маіх і сноў,
Што я ў жыцці нібы той птах залётны,
Які ніяк не вернецца дамоў...

### ВОРАН

Перажыта нямала на доўгім вяку.
Не пазнаў і сябе,
Пазірнуўшы ў сінечу азерца, —
Галава у сівым,
Як чаротава пер’е, вянку,
І дрыжыць, і калоціцца слабае сэрца.

Дзень і ноч у барку на яліне крывой
Ён цікуе, як колісь, нязбытную сечу.
А як слаўна было б
У цямноце начной
На скляваныя целы ў натоме прысесці!

Ён даўно ўжо, як пень, і аслеп і аглух,
Ды сарвецца і целам усім здрыганецца,
Калі коней іржанне

---

***Зубрыцкі Эдуард Іосіфавіч*** *нарадзіўся 17 красавіка 1942 года ў вёсцы Шклянцы Докшыцкага раёна Віцебскай вобласці. Скончыў Беларускі дзяржаўны універсітэт імя У. І. Леніна. Выкладаў беларускую мову і літаратуру ў Чашніках і Асвеі на Віцебшчыне. Цяпер працуе ў верхнядзвінскай раённай газеце «Дзвінская праўда».*

*Аўтар паэтычных зборнікаў «Блакітныя казкі», «Рабінавыя астравы», «Мне б хоць кропельку неба» і інш.*

Абудзіць начлежніцкі луг, —
Цугляў звон яму звонам кальчужным здаецца.

Цяжыць сон пад скляпеннем балючых павек,
У трызненні ён бачыць ахвярныя мёртвыя вочы.
Як бы рад скараціць
Трохвяковы пастылы свой век
І сустрэць цішыню,
Што затуліць ад стомы аднойчы...

## АСЕННІ ДЫМ

Гарэлі позпія лугі,
Каціўся дым над Расцяробам,
І недзе птах за Доўгім Логам
Крычаў, заходзіўся з тугі.

Гарэлі позпія лугі.

Такі сцюдзёны гэты дым!
Над цішай лесу пракаветнай
Клубіўся ён парой дасветнай.
І я вяду размову з ім.

Такі сцюдзёны гэты дым!

Гарэлі позпія лясы,
Жыцця цішэлі галасы,
І доўга дым неападаў,
Пакуль сівым я ўвесь не стаў.

Гарэлі позпія лясы...

## ВАРАНЫЯ

Шэпчуць травы маладыя,
У крыніцах стынь-вада.
Праімчалі вараныя,
Праскакалі — не бяда.

Ветру стужкам вольна ў грывах.
Свет блакітны, залаты.
Хутка, хутка бубны грымнуць,
Расцалуюцца сваты.

За вясельнымі сталамі
Госці зблізку і здалёк.
Ну а мы з табой адстанем,
Захіне ад воч барок.

## І УСМІХНУЦЦА, І УБАЧЫЦЬ

...і усміхнуцца, і пакласці
На плечы смуглыя руку,
І зразумець, што гэта — шчасце
На мною пройдзеным вяку.

...і прамаўчаць, і ціха ў вочы
З надзеяй тайнай паглядзець,
І ўбачыць шлях, якім аднойчы
Мне да цябе ўжо не паспець.





## Васіль МЕДУНЕЦКІ

### БАЦЬКА

Ён — упаў...
Не падняўся ён,
Не пачуўшы ні рук, ні ног.
Быў канцлагер, і быў палон,
Ў чорным небе месяца рог.

Меў зялёных
Семнаццаць год
(За калючкай — аховы крок).
Пазіраючы смерці ў рот,
Уначы ад яе уцёк.

О, жыццё!
Грош табе цана.
Свет ЧАЭС павіла ў драты.
Беларуская старана,
Бацькі болем хварэеш ты...

Ўсё мінецца...
Аднак другой
Не знайсці нам павек зямлі.
Ён падняўся ў апошні бой,
Каб пад небам любіць маглі.

### ЗОРКА ПАЛЫН

Збылося: свет канцом сваім жахнуты,
Дняпро і Прыпяць — трэць прагоркла вод.
У нахлысце нябачнае атруты
Жыцця пачаўся ядзерны зыход.

Згадалі мы пра цэрквы і пра Бога,
Пра тое, што другой няма зямлі.
Яе пакуты страшнаю дарогай
Сягоння нас да прорвы прывялі.

Пагнаў за свет тубыльцаў мірны атам.
Біблейскі знак — легенда альбо лёс?
Звон ратавальны гулкім б'е набатам,
І нарастае атамны хаос.

---

***Медунецкі Васіль Хрысаноравіч*** *нарадзіўся 7 студзеня 1943 года ў Барысаве. З 13 год выхаванец Савецкай Арміі. Закончыў Мінскае музычнае вучылішча. Працуе мастаком-афарміцелем.*

*Піша на рускай мове. Аўтар паэтычных зборнікаў «Посох Аввакума» і «Черный хлеб».*

*Жыве ў Барысаве.*

## ДЗЕЛЯ СОНЦА

Аб прыгожым рана гаварыць —
Час насумавацца па сучасным.
Шмат лягчэй нам сэрца спапяліць,
Як шукаць высокае ў пагаслым.

Жорсткі свет над прорвай нематы:
Стоўпішча вар'яцкага звярынца.
Кветку б мець чароўнай зіхаты,
Каб ператварыць пачвару ў прынца.

Мрой гучаць зазыўна галасы,
Грэе свет таемнасцю мастацтва.
Усявышні, дай зямлі застацца
Дзеля сонца, неба і красы...

## ГАЛАТЭЯ

Ў вачах заплакаў месяц залаты,
Ад слоў расстання ўздрыгнула алея:
«Шкада, другому жонкай стала Ты —
Даруй мне ўсё і помні, Галатэя...»

І, мабыць, не забыта слоў цяпло,
Як не забыта сумная алея...
Мне люб стары твой домік, Галатэя,
Дзе сэрца закаханае жыло.

## «АФГАНЕЦ»

— Хрыстос васкрос!
— Ваісціну васкрос! —
Пад зводамі гучыць у Божым храме.
Хлапец цалуе крыж —
Іскрыны слёз,
Малітву шэпча смяглымі губамі.

На пінжаку —
У свечак цеплыні —
Два ордэны,
Бы кроў смыліцца ў ране.
А позіркам
Даўно ўдалечыні —
Блукае дзесьці
У Афганістане.

Ён даў зарок,
У пекла ідучы:
«Як выжыву — даўжнік павечны Бога».
І свечак рад запаленых зырчыць
Па зніклых
На расстрэленых дарогах.

Імёны незабытыя
Шаптаў,

Стаяў нязрушна
Перад абразамі.
Сам, як Хрыстос,
Васкрос,
Хоць ў бітве паў.
І з Усявышнім гаварыў
Вачамі.

— Здароўя дай Гасподзь
Табе, сынок! —
Шапталі бабкі.
Юныя гарэзы
Сачылі потай,
Як заместа ног
Парыпвалі
Халодныя пратэзы.

* * *

З дзіцячых год — як макаў цвет.
Таемна ў сэрцы нёс каханне.
А маляваў яе партрэт —
Абагаўляў адлюстраванне.

На ўзлёце мрой кружыў нас лёс,
Парыўна нёс пад аблачыны.
Між белых стоеных бяроз
Радкі аб ёй чытаў гадзіны.

Яна прыйшла, як першы гром,
Знянацку ўсё ж мяне заспела.
Зачараваўшы, міражом
Над сумным лёсам зазіхцела.

Спазнаў пазней, што жорсткі свет,
Не доўга музыка гучала.
Але ў душы не гас партрэт
Тае, што так зачаравала.

Гады міналі, быццам сны.
Каханне іншых піў жадобна.
Аднак не стрэціў больш вясны,
Каб на яе была падобна.

* * *

Жыцця імгненне, збеглае расстайна,
Мільгнула, быццам промень залаты.
Загадка,
не спазнаная мной тайна,
І шчасце, і пракляцце маё —
Ты.
Твой лёт няўлоўны,
быццам блік маланкі.
Захопленасць і страх —
жывая ніць
У будучыню агнявога ранку,
Што ў траўным лузе
росамі звініць.

## ДУША

Душа мая, не адлятай,
Як птушка, ўзнятая трывогай.
Мяне палошыць небны рай,
Рука разгневанага Бога.

Яна пад полагам нямым
Стрыжэ світанкі і змярканні.
Ты не спяшай на стрэчу з Ім,
Яшчэ палёт такі — заранні!

Душа мая, магчымасць дай
Спаўна жыццём мне наталіцца.
Мяне не вабіць небны рай,
Не маніць вечнасцю зямліца.

Яшчэ пад небам многа дзён
Жадае сонцам мне ўсміхнуцца.
Табе, душа, працяг відзён —
Не адлятай і дай прачнуцца.

## АРЭЛІ

Усё жыццё — вялізныя арэлі:
Наверсе хто — да мэты узляцелі,
А ніжнія чакаюць прагна ўсе,
Што ўзлёт падобны лёс ім паднясе...
Гушкаюцца няспынныя арэлі,
І, жывучы на розных паралелях,
Адной і той мы прагай узгарэлі:
Пазнаць жыццё ва ўсёй яго красе.

## СКВАПНАСЦЬ

О, сквапнасць! З апраметнай прыляцела.
І, як зараза, точыш мозг і цела.
Да мэты мкнеш і стоўпішча заган
Бярэш на службу да сябе ўсёцэла.

Ды выйшаў тэрмін. Прад табою — яма.
Ты без граша...
пад саванам таксама.
Жабрачкай адышла — усё бясплатна там.
Паслухацца б табе мудрэйшага Хаяма!

## САМАПАДМАН

І зноўку дзень,
і зноўку перамены,
Да іх мы прывыкаем пакрысе...
Звычайным сталі ўжо:
выццё сірэны,
Аварыі, абрушаныя сцены...
І што чарговы дзень
з сабой нясе?

Калоцяць свет,
як пыльную пярыну:

Гарыць Ірак,
ў Прыбалтыцы — туман, —
І гронкі абмарожанай рабіны
Упалі
на дзяржаўныя руіны,
Крывавыя,
як наш самападман.

* * *

І грымнуў арган.
Кафедральны сабор
Ажыў —
Светлай музыкі поўны.
Пад голас званоў
Усёбачны дазор
Сышоў,
Як і час сам грахоўны.
Жыццё за сцяною —
Ашчэр заварух:
Прымружыла вочы спрасоння...
Лунае над светам
Ўсявышняга дух,
А наш —
Ледзьве дыхае сёння...

***Пераклад з рускай Міколы Мятліцкага.***







**Іван ШАМЯКІН**

# З ДЗЁННІКАЎ

**7 верасня 2002 года**

Пачынаю новы сшытак — 18. Калі я пачаў нумараваць? Дзе 16? Нешта схавалі Алеся і Сяргей. Сшыткі тры аддаў Таццяне. Убачыць напісанае калі-небудзь свет? Хачу, каб убачыла. Многія дробязі, але ёсць думкі, вартыя ўвагі даследчыкаў і чытачоў. Любы чалавечы дакумент — часцінка летапісу эпохі, часу.

З 1-га верасня, пераехаўшы ў горад, дзённік не пісаў. Хацеў пачаць новае жыццё — спакойнае. Дзе там! Не той характар! Да ўсяго мне ёсць справа. Да заявы Пуціна, да артыкула Іпатавай...

Са страхам чакаю 13 — уручэння прэміі. Чаго баюся? Сам не разумею. Старасці сваёй. Праблема ўзняцца на сцэну.

Але супакойся, Іван, усё будзе добра. Дай Бог атрымаць гэтыя грошы. Але калі іх перавядуць на рахунак у «Беларусбанк» (адкрыў Сяргей спецыяльны). Не будзе як з ганарарам? <…>

Заўтра 8 — дзень нараджэння Сашы. Сынок мой! Табе было б 52! І ўжо 11 цябе няма — 12 верасня — дзень смерці. Папрасіў Алёшу звазіць на могілкі. Безумоўна, паедзе Вольга Філатаўна. Святая бабуля! Дай Бог ёй здароўя. Баюся яе смерці, як сваёй уласнай. Можа, да думак пра ўласную смерць прывык больш. Усе смяротныя. Усё мае пачатак і канец.

Па-ранейшаму спякотна. У верасні. Ці было такое на маёй памяці? Калі дажджы? Масква задыхаецца ад навакольных лясных і тарфяных пажараў.

**9 верасня 2002 года**

Учора ездзілі на могілкі — дзень нараджэння Сашы. Мне, як ніколі, хацелася плакаць, праслязіўся разоў колькі. З намі ездзіла Таццяна — жонка Сашы. Вельмі ўдзячны ёй, што не забывае. Ёсць другі муж, у 46 год нарадзіла сынка Міраслава, але Сашу не забывае, на могілкі ездзіць. Дзякуй ёй. Кранае яе ўвага. <…>

9-га акуратна прыносілі пенсію. Сёння не прынеслі. Няўжо затрымка пенсій? Ганарар па паўгода не выплачваюць. «Скучно жить на свете, господа». (Адкуль?)

Чытаю Ул. Рэйманта «Апошні сейм». Гнеўная сатыра на вярхушку польскай шляхты, якая ў 1796 г. прадала Польшчу Расіі і Прусіі (другі падзел). Як рускія ціснулі на дэпутатаў сейма, як куплялі іх! Тое ж маем сёння. Гісторыя паўтараецца. <…>

**12 верасня 2002 года**

Заўтра ўручэнне прэміі Саюзнай дзяржавы, якой пакуль што няма ў тым выглядзе, якую мае на ўвазе Лукашэнка і ўсе мы, яго прыхільнікі. Уручэнне яўна робіцца палітычнай акцыяй — у Палацы Рэспублікі (малой зале), аж 500 чал. І нават прыём на 150 чал. Хвалююся. Чаму? Сам не разумею. Арганізатар заг. аддзела Сергіевіч Вас. Ів. часта звоніць, унікае ў кожны білет, як бы не пакрыўдзіць сваіх — усіх запрасіць. Быць у форме. А «форма», мякка кажучы, няважная. Як падняцца на сцэну? Трэба ж і слова сказаць. <…>

Бралі інтэрв'ю «СБ», «Р[эспубліка]», і я ім нагаварыў. Прыйдзецца паўтарацца. Новага нічога не прыдумаю.

Алёша прасіў, каб я ўзяў яго праважатым, але памочнікам можа быць толькі Сяргей, ён бегаў усе гэтыя дні: адкрываў рахунак у банку, забіраў білеты, не адзін раз — пасля карэкціровак, якія рабіў Васіль Іванавіч. <…>

**14 верасня 2002 года**

Учора адбылося ўручэнне прэміі. Урачыста. У малой зале Палаца Рэспуб[лікі]. У 16.30 паказалі фільмы пра ўсіх нас траіх. Пра мяне той, што здымалі да 80-годдзя. У 17.00 выйшаў Лукашэнка. Гімны двух дзяржаў. Слова прэзідэнту. Уручэнне па алфавіце — Д[удараў], П[ятрэнка], Ш[амякін]. Перад гэтым мне сказалі, што слова будзе казаць адзін — Пятрэнка, чаму я ўзрадаваўся, бо больш баяўся слова, хоць і падрыхтаваў яго, напісаў нават старонку, не маючы на ўвазе гаварыць па напісаным. Напісанае проста супакойвае мяне, ненапісанае не дае сну, як начныя ўспаміны, — кружу сюжэт, хоць ён з жыцця, абсмоктваю дэталі — пакуль не занатую на паперы, тады наступае спакой — да чарговага ўспаміну.

Трохі баяўся, як паднімуся на сцэну. На шчасце, яна нізкая, Алёша памог, прымасціўшыся побач у першым радзе, Сяргеева месца заняў...

Лукашэнка, уручаючы дыплом, пасведчанне, прышпільваючы медаль, паказаў на мой кій:

— Што гэта ты так?

— Здае апорна-рухацельны. Дзякую, Аляксандр Рыгоравіч, за ўручэнне высокай узнагароды, — уся мая прамова.

Нялёгка было трымаць дыплом, кветкі, пакуль Пятрэнка казаў слова. Пра Саюз сказаў хораша, сваю неньку Украіну ўспомніў з надзеяй, што і яна будзе ў Саюзе. Будзе? Не! Лукашэнку забыўся падзякаваць. Дарэмна.

Канцэрт. Дзяжурны. Крануў той жа Ал. Пятрэнка, які, будучы драматычным акцёрам, праспяваў на ўкраінскай песню, як няве-



*З Уладзімірам Ліпскім і ўнукам Іванам.*

ста развітваецца з родным домам. Упершыню чую гэтую песню. Моцна ўражвае.

Планаваўся прыём там жа ў Палацы ў зале прыёмаў з удзелам прэзідэнта. Туды суправаджаў Сяргей. Алёша не адставаў ад мяне. На яго шчасце, прыём ператварылі ў вячэру ў «Планеце». З нашага боку найвышэйшы міністр Гуляка Л. П. І госці. З Масквы, іх было нямнога на чале з Паўлам Барадзіным, сакрат. ВДС Саюзнай дзяржавы. Дзяржавы яшчэ няма, а штат, відаць, немаленькі. Барадзін сказаў слова, пасядзеў паўгадзіны, выпіў, закусіў — і ў дарогу, на поезд ці на самалёт.

Тут, за сталом, я выкарыстаў сваю прамову, спакойна, разважліва, аздобіўшы словамі Джэка Лондана пра славу і грошы, што выклікала смех. Алёша Дудараў сказаў, што яму яшчэ трэба і слава і грошы. Я какетнічаю, што слава мне не патрэбна. Трэба. Прыемна было, калі сёння званілі з Гомеля, Полацка, нашы. Іпатава спіса не падала. Падаў Мятліцкі. І ўсе гэтыя добрыя хлопцы былі на ўручэнні, віншавалі, цалавалі. Цалавацца не люблю (з мужчынамі), але не скажу, што з такой нагоды гэта непрыемна.

Вярнуўся з вячэры і яшчэ чытаў «Накануне» Тургенева. Тайну яго талента, Чэхава, Буніна, па-мойму, ніхто не раскрыў. Проста і чароўна. Талстога раскрылі, Горкага. Пушкіна — само сабой, Пушкіна прасцей — Паэт.

На ўручэнні быў Ванечка. Спыталі ў яго — «Што табе больш за ўсё падабалася?»

— Дзед.

Во хітруган малы! <…>

Позна спаў. Алеся, Ваня, Сяргей хадзілі на свята горада. Трэба памяняць рэжым.

Нарэшце нахмарыла і пайшоў дождж. Восень. Дай Бог перажыць восень і зіму. Званіў мой аднакурснік па партшколе Ул. Кушнер.

— Чым занімаешся, Валодзя?

— Хаджу па грыбы.

А яму — 84. Пазайздросціў. Я, не лічачы ўчарашняй язды на машыне і поўзання па Палацы і рэстаране, пяты дзень не выходжу на вуліцу. І мне падабаецца. Дамасед!

**16 верасня 2002 года**

Атрымаў матэр. частку прэміі (галоўную) — грошы. Больш, чым разлічваў. Відаць, у Расіі вырасла мінімальная. У банку агітавалі зрабіць валютны ўклад. Я быў за, Сяргей запрацівіўся. Чаму? <…> Раздзяліў пабацькоўску...

**20 верасня 2002 года**

Мінулую ноч дачытваў «Отцы и дети». У трэці ці чацвёрты раз перачытваў і з такім захапленнем плакаў над смерцю Базарава. Не помню, каб малады плакаў. Зараз падумаў: не смерць Базарава я аплакваў — сваю ўласную. Грэшна так думаць, але нельга не думаць. Прыкметна слабею, хаджу ой цяжка. Почырк псуецца — дрыжаць рукі. Баюся ісці на з'езд СП, які 24. Нагоняць мне там ціск пры маёй эмацыянальнасці; дурных выступленняў хопіць. І будзе, як з Капусціным (памёр на пасяджэнні рады). Не хачу паміраць! Господи, помилуй меня грешного!

З 13 з'ездаў прысутнічаў на 12. Актыўна прысутнічаў на 10! Хочацца пабыць на апошнім — для мяне самае балючае — развал Саюза. <…>

**22 верасня 2002 года**

Самаадчуванне вельмі паганае, па кватэры баюся хадзіць, тыдзень не выходжу ў двор — баюся. На з'езд не пайду — памру я там. Заўтра збірае аддзяленне Нікіценка... Званіў Бабкоў, што прышле машыну. Паабяцаў паехаць. Адбой. Не паеду! Хочацца яшчэ пажыць, хоць і гадасць яно, жыццё старога («Под старость жизнь такая гадость». Ай, да Пушкін!). Але ўсё ж лепш жыць, чым гніць. Можа, і напішу яшчэ штосьці. Вычытаў «Беднасць», «Практыка», «Аўтамабіль», «Адэса». Па-мойму, варта чытацкай ўвагі. Склалася «Тайна драмы» — гісторыя аповесці пра Андрэя (Макаёнка. — **А. Ш.**). Так называлася аповесць у часопісным варыянце. Шкадую, што памяняў назву — «Аповесць пра сябра». Спалохаўся Любы і Матукоўскага?

Усё больш псуецца почырк — дрыжыць рука. А я, гультай, не асвоіў машынку — спадзяваўся на Машу. Не, машынка, кляцанне мяне раздражняла. З чарнільнай ручкі сцякалі думкі! Наўрад ці здолеў бы я «пісаць» на камп'ютэры. Таццяна мае камп'ютэр, але піша ад рукі, пасля набірае на камп'ютэры. Напісаў старонку — і, здаецца, ажыў трохі, а то ледзьве праходзіў з кабінета да кухні і назад.

Надвор'е асенняе: хмарна, дождж. Маркотна. Баліць галава. Учора Алеся памерала ціск — 160/60. Дзіўная ніжняя лічба. Ці няправільна памерала? Па адчуванні — ціск высокі. На ноч, з інтэрвалам у 3 гадзіны, глытаю 20 мг энаму. Многа. Але не збіўшы ціск, пакутую ад бяссонніцы, дзве таблеткі тазепаму не памагаюць. Трухлявы пень! Атручваю сябе лекамі. Заўтра выклічу ўрача. Дазваніцца не мог: у яе кабінеце адключаны тэлефон за няўплату. Божа мой! Дажыліся! Лечкамісія не можа заплаціць за тэлефоны ў кабінетах урачоў. Памірайце хворыя, хто не можа пайсці на прыём. Ды і на прыём не адразу трапіш. Да некаторых спецыялістаў атрымаеш нумарок на 3-4 дзень ад заяўкі. І гэта — ва ўрадавай паліклініцы. <…>

Сумныя думкі лезуць у галаву. Прости меня, Господи! Перад табой мы ўсе роўныя. Толькі не жывуць людзі па тваіх мудрых запаветах. За 2000 гадоў не навучыліся жыць. Калі ж яно прыйдзе, царства тваё?

**23 верасня 2002 года**

Раблюся мніцельны. Усё мяне палохае. Звязаўся з нач. інспекцыі ЦР Тонкай Ірынай Паўлаўнай. Міла пагутарылі. Сыр-бор разгарэўся з-за таго, што Масква, "Масфільм" (?) яшчэ ў 2000 г. пераявіла мне 900 рублёў (рус.) за паказ фільма «Торговка и поэт». Паведамляюць, што 114 руб. падатку ўзята. Але відаць недзе запісана аб узаемным паведамленні, хоць ва ўсіх пагадненнях запісваецца аб недапушчальнасці двайнога падаткаабкладання. Навошта ж інфармаваць органы іншай дзяржавы? Размова не закрыла пытанне. Інсп. ЦР перашле маскоўскае паведамленне ў інсп. Ленінскага р-на, дзе я жыву. І ўсё пачнецца спачатку? Тысяча і адна ноч. Дробязь, а нервуе. <…>

На сход аддзялення НАН, які сёння збірае новы сакратар аддзялення Пятро Нікіценка, не паехаў. Сёння самаадчуванне пакуль што трохі лепшае; учора было вельмі дрэнна.

**24 верасня 2002 года**

Ідзе з'езд. Як? Шумна? Відаць, у першы дзень не вельмі, пакуль выступленні, хоць будзе нямала дурных выступленняў. Страсці запылаюць заўтра, калі пачнуцца выбары. <….>

Асабліва не перажываю, што я не там, у ДЛ, які будаваў. Але ўсё ж шкрабе: адступнік! Адставіла мяне хвароба. <…>

Напісаў пісьмо Гуляку — падзяку Мін., яму і асабліва Сергіевічу В. І., які праяўляў асаблівы клопат. Прашу Сяргея завезці ў Мінкульт.<…>

Год прынімаю тазепам. А ўчора адужаў інструкцыю (вельмі дробны шрыфт). Прыём не больш 4-х тыдняў. Дарагая мая Г. Я. не папярэджвала. Даканаюць мяне лякарствы. <…>

**25 верасня 2002 года**

З'езд адбыўся. Учора. За адзін дзень. Відаць, нямногія рваліся на трыбуну.

Таццяне многія выступленні не спадабаліся. Мікола лічыць, што ўвогуле ўсё прайшло прыстойна.<…>

**8 кастрычніка 2002 года**

Спаў да 4-х дня. Лёг у 3 ночы. Дзікі рэжым. З такім рэжымам жыву дзесяткі год. Але, здаецца, дажываю.Так, цэлы дзень, у бальніцы спаў Лужанін. Але яму было 92. Мне 82. Але кожнаму адмераны пэўны тэрмін. <…>

Споўнілася 70 Ів. Пташнікаву. Павіншаваў.<…>

Гаварыў па тэлефоне з новым старшынёй Алесем Пашкевічам. Настроены бадзёра. Але выдаваць кнігі можа толькі дзяржава.<…>

**14 кастрычніка 2002 года**

Прачытаў у «КП» у В. Пяскова, што М. Ал. Шолахава апошнія пяць гадоў жыцця вазілі ў інваліднай калясцы. Спалохаўся. Баюся, што мяне чакае такая перспектыва. Шолахаў памёр ва ўзросце 75 г. Мне хутка 82. І за апошнія тры тыдні моцна аслаб мой апорна-рухацельны апарат: не баліць асабліва, а хаджу ўсё горш і горш нават па кватэры. На вуліцу не вылажу. Робяць уколы дыклафенаку, паляпшэння няма. Раней, месяц назад, улетку на дачы таблеткі памагалі. Што рабіць? Лажыцца ў бальніцу? Пакутліва — не падняцца з ложка. У чэрвені ляжаў — сам хадзіў на ўсе працэдуры.

Смерці не баюся, ва ўсялякім разе думкі пра яе не наганяюць такі страх, як раней. Звыкаешся з думкай, што фінал непазбежны, усё жывое мае свой канец, часам аб сваім пахаванні думаю з іроніяй. Грэх. Даруй, Госпадзі! <…>

У «Ліме» друкую чарговую нізку начных успамінаў. Рыхтую для «Полымя». Спяшаюся. Хачу ў № 1...

Сёння Ванечку — 5 гадоў. Свята. Прыехала баба Ліля, якую Ваня настойліва запрашаў. Звоніць штовечар, размова пацешная. Ваня выдумаў імя бабон Лілён.

— Што б заўтра прыехала!

— А курачак хто накорміць?

— А ты і курачак бяры.

— Дзеду Валодзю будзе сумна.

— А ты і дзеда прывозь.

Прыехаў мой пляменнік Іван Церашкоў. Госць нечаканы. Ён сын майго стрыечнага брата Фёдара Шамякіна. Але маці ў другі раз выйшла замуж, і ён стаў Церашкоў. Сваячок. Няўжо так прыехаў. Ці мае нейкую мэту? Чалавек ён дзелавы, масцеравы, муляр, пячнік, зараз зарабляе на печах, ідзе ж дачны бум, усе будуюцца і ўзводзяць гмахі, калі не сказаць харомы. Адкуль бяруць грошы? Я атрымаў прэмію, раздзяліў на дзяцей, столькі ж (чуць больш) узяў сабе, купіў 6 тыс. даляраў і зноў без бел. рублёў. Калі заплацяць ганарар? Усё выдавецкае (Мінінфарм) пакаціла ў Франкфурт на

міжнародную кніжную выстаўку. А што выстаўляць? Дзе новыя кнігі? Марнее наша літаратура, асабліва проза — раманы.

Ноч не сплю, удзень сплю; усё не як у людзей. А хочацца яшчэ пісаць. Што? Маю трагічны сюжэт, але пазнаюцца прататыпы.

**20 кастрычніка 2002 года**

Перспектыва М. А. (Шолахава. — **А.Ш.**) мяне палохае. Ён жыў на зямлі ў Вёшанскай, у 2-павярховым пакоі, і яго было каму павазіць у калясцы. Нярадаснае жыццё, але жыццё.<…>

На Ванечкіна 5-годдзе прыйшлі Таццяна з Славянай, Алёша, і мне было радасна: за сталом усе свае. Шкадаваў, што не было Машы, яна ж хросная, але яна ў той дзень здавала экзамен (аспіранцкі) па французскай мове і ад хвалявання нагнала сабе ціск.

Адчуваю сябе, мабыць, па гадах, што датычыць галавы. А ногі... М-ц не выходжу на двор, баюся ўпасці. Ды і холадна апошнія два тыдні. Колюць адразу дыклафенак, $Б_{12}$, нікацінку. Вынікі нулявыя. Хіба нікацінка дае сон: учора праспаў да 4-х дня. Жах! Праўда і заснуў не раней 4-х, і пасля ўкола гадзіну варочаўся. Але санлівасць такая палохае. Што за жыццё! А што рабіў бы, прачнуўшыся рана? Пісаў бы. Што? «Начныя ўспаміны»? У апошніх нумарах «ЛіМа» надрукаваў нізку — чатыры навелы. У пятніцу пазванілі Алесь Савіцкі і Раман Тармола, які раней не выяўляў асаблівай прыязнасці. Хвалілі навелы. Асабліва «Эпіграф». Здавалася, пісьменнікаў больш зацікавіць «Ганарар». У «Пагарэльцах» навелы з нечаканым канцом — з «фігай» не атрымалася. Ёсць сюжэт апавядання аб паэтэсе, па сутнасці, лёс Яўгеніі Янішчыц, але чамусьці баюся брацца Чаму? Смерці баюся? Баюся. <…>

Чытаю эмігранта Гр. Клімава. Першая кніга «Божественный народ» падабалася, многа фактаў пра яўрэяў, якія я не ведаў. Публіцыстыка, а чытаецца як раман. Пачаў «Имя мое легион». Жанр — раман. А чытаецца, як публіцыстыка: сумна, паўтор. І не ва ўсё можна паверыць. Выпіскі з амерыканскіх газет часу нашай «великой чистки», як аўтар называе. Трэба вяртацца да Івана Сяргеевіча: адпачываеш душой ад «Дворянского гнезда».

Слухаў гутарку А. Максімава з пісьменнікам Вяч. Івановым. (Падобны на Усевалада Іванова, якога помню.) Сын? На пытанне: «Хто лепшы з рускіх савецкіх пісьменнікаў?» — адказвае: «Пастарнак, Федзін». Дзіву даешся. Пастарнак — паэт не вышэй Твардоўскага. «Доктар Жывага» — раман слабы. А Шолахава, выходзіць, няма? Гаўнюкі. Напішыце вы «Тихий Дон»! Хоць чаму здзіўляюся? <…>

**23 кастрычніка 2002 года**

Хочацца пісаць. Што? Напішу працяг «Начных успамінаў», ёсць што ўспомніць. <…>

Ёсць сюжэт апавядання (лёс Я[ўгеніі Я[нішчыц]), але вельмі трагічны. Баюся трагедый. <…>

Сёння падняўся рана (для мяне) — у 11. Прыкметна асыпалася залатое лісце на каштанах: дрэва пад маім акном зусім голае. +3. Мокра. Баюся выходзіць. Больш м-ца не выходжу. Што чакае наперадзе? <…>

Учора Аляксею было 35. Толькі пад вечар падаў голас па тэлефоне. Сёння збіраецца зайсці. Калі ласка. Дам на падарунак. <…>

**25 кастрычніка 2002 года**

Ашаламіў і абурыў тэракт з захопам у заложнікі поўнай тэатральнай залы. Апраўдання няма. Але ганьба і спецслужбам Расіі. А яшчэ большая (не ганьба) віна тых, хто нажываецца на чачэнскай вайне, на першай асабліва. <…>

Чым кончыцца гісторыя? Баюся, што трагедыяй. Гэта — камікадзе, яны ішлі на верную смерць. Але колькі загубяць невіноўных людзей! Стан ачумеласці, расслабленасці. <…>

**5 лістапада 2002 года**

Пляменнік мой, сын Таццяны, Саша Смірноў, падатковы інспектар, сеў на свае «Жыгулі» і з Гомеля прыкаціў у Паставы наведаць стрыечную сястру Людмілу, дробную камерсантку, якая, аднак, мае дзве машыны. Едучы назад, наведаў дзядзьку — мяне. Спадабалася мне такое пачуццё роднасці ў сталага мужчыны. <…>

Набліжаецца 7 лістапада! Найвялікшае грамадскае свята — узяцце Бастыліі, у французаў у кожную гадавіну парад. Што будзе ў нас? Інстытут гісторыі НАН правёў канферэнцыю. Сёння па радыё паслухаў кароткія цытаты з выступленняў Петрыкава, Новікава. Разумныя. Хачу верыць, што ў будучым большасць народа паразумнее. Хачу верыць!

Паўтара м-ца не выходжу на вуліцу. Закасцянею. А жыць хочацца. Аднак лёсу Шолахава не хачу.

**6 лістапада 2002 года**

Зноў разгарнуў вялікі сшытак. А што пісаць? Вычарпаў сюжэты ўспамінаў. Не, не вычарпаў. Ёсць! Але не проста яны афармляюцца. Успомніў — і навела... Не, не адразу, працэс «шліфоўкі» часам займае немалы час.

Прачнуўся ў 11. Паўгадзіны заняў Ул. Курганскі, муж Машынай пляменніцы Тамары, аграном-навуковец вопытнай станцыі па цукровых бураках. Добры спецыяліст.

Пасля чытаў газеты. З цікавасцю — «Дуэль» Мухіна. <…> Заўтра — 85 Кастрычніку. Свята! Гістарычная дата. Кароткае віншаванне Лукашэнкі (малайчына, што не забывае такое свята; Пуцін, напэўна, забыўся). <…>

Толькі што паслухаў Прэзідэнта па праблемах газу. <…>

Падводзяць ногі. Але палохае яшчэ адно і моцна. Не баляць пальцы, не дрыжаць рукі, а почырк робіцца ўсё горшы і горшы, сам не разбіраю, стараюся пісаць больш буйна, а пішу вельмі дробненька. Што за дзіўная з'ява? Я машынку, гультай, не асвоіў — за 50 гадоў, спадзяваўся на Машу. Колькі яна старонак передрукавала!!! Камп'ютэр? Тая ж машынка. Дыктаваць? Не ўмею.<…>

**7 лістапада 2002 года**

85 гадавіна Вялікай Кастрычніцкай рэвалюцыі. Падзея сусветнага значэння. Але растапталі яе заваёвы, павярнулі назад — у капіталізм. У нас — глуха. Ці была хоць дэманстрацыя ў Мінску? Глуха. Мяне ніхто не віншаваў. А я гадзіны дзве сядзеў на тэлефоне — віншаваў: Палякова, Антонава, Таццяну, Мятліцкага, званіў у Маскву, размаўляў з унукам Віктара Вольскага — Віктарам, які заняў дзедаву кватэру, у якой я так часта гасціў. Сумна, што няма такога сябра. Ад тэл. размоў стаміўся так, быццам напісаў 5 ст[аронак] рамана. <…>

**18 лістапада 2002 года**

«Паміраць збірайся, а жыта сей». Па гэтай народнай мудрасці жыву я. Думаю пра смерць без страху, але многа, часта, нельга так жыць! Але сею:

чытаю, пішу, званю калегам, мне звоняць менш, жыву клопатамі дзяржавы, СП. <…>

Перад апошнім заключным пасяджэннем Камітэта па прэміях РБ чытаў творы, якія хачу падтрымаць. Прачытаў дзве аповесці Ал.Савіцкага «Дзівосы Лысай гары»... Савіцкі адменны казачнік. Напісаць цікава, займальна пра котку, карасікаў — трэба ўмець, трэба мець фантазію.<…>

Глыбокае ўражанне зрабіла кніга лірыкі «Межань» Віктара Гардзея. Неяк раней я не звяртаў увагі на яго паэзію (ён і празаік). Вершаў — мора, тэхнікай вершаскладання авалодалі ўсе, некаторыя маладыя, учарашнія студэнты, лепш, чым старыя. Але не ўсё рыфмаванае можна назваць паэзіяй... У Гардзея — паэзія, зачароўвае, як Блок, Ясенін, малады Купала, Паўлюк Трус (мяне, маладога, Трус сапраўды зачароўваў, а Пімен (Панчанка. — **А. Ш.**) не лічыў яго добрым паэтам).

Наўрад ці буду я на пасяджэнні, з нагамі ўсё горш і горш. Напісаў Камітэту пісьмо з просьбай падтрымаць Савіцкага і Гардзея. Прыслаў кнігу п'ес Дзялендзік, запрашаў на спектакль «Султан Брунея». Пачытаю... Мінулую ноч да трох гадзін (стары дурань!) чытаў «Русский беркут» Сяргея Куняева — пра Паўла Васільева, трагічны лёс маладога паэта: у 28 год яго расстралялі. За што? За плач па сялянстве, даведзенаму да голаду калектывізацыяй? <…>

Прыслала пісьмо Яўгенія Зубрыцкая (Жэня Бугрова), з якой я перапісваўся ў вайну... Я прачытаў яго тыдні два назад. Сорамна. А ў бабулі (Яўгенія ўсяго на год маладзейшая) тыя ж хваробы, траціла прытомнасць на вуліцы. Трэба адказаць! Для старой будзе маленькая радасць.

**21 лістапада 2002 года**

Рэдка перачытваю сваё, нават тады, калі здаю раскладку на перавыданне. А тут разгарнуў том (перавыданне гэтага года — «Сэрца на далоні», «Гандлярка і паэт») канец рамана, сцэна — Шыковіч выкрывае Гукана, і не мог адарвацца, гадзіны дзве чытаў, пакуль не дайшоў да фіналу. І вельмі парадаваўся: не застарэла, хоць і напісана роўна сорак гадоў назад! Хацелася гукнуць, як Пушкін, прачытаўшы «Барыса Гадунова»: «Ай да Шамякін, ай да сукін сын!». І вось думаю: а цяпер напісаў бы так? Трэба паспрабаваць. На чым? «Начныя ўспаміны» — гэта мемуары, герой адзін — я. А там калектыў герояў, лёс якіх звязаны вайной, працай, бытам, каханнем, сямейнымі адносінамі. Пра такую панараму баюся і думаць. Сюжэт мог бы сканструіраваць — з сённяшняга жыцця. Але якая праца трэба, каб напісаць, ажывіць людзей, канфлікты, праблемы. А яшчэ падумаў: Гукан — адкрыццё і для нашага часу — Гуканы прадалі партыю, дзяржаву. Дзіўна, што крытыкі не даходзяць да гэтага, пішуць пра Арсенневу, даволі сярэднюю паэтэсу і зусім бяздарнага празаіка Сяднёва... А нашы маладыя? Або — успамін маленства, або выдуманая далёкая гісторыя. Трэба перачытаць «Вялікую княгіню». Я не апынуўся ў палоне моды? Не, я стрымліваў сваю буйную фантазію, як неаб'езджанага каня. Справа іншая, што і гісторыкі (той жа Карамзін) маглі нямала сачыніць, а я чэрпаў факты з іх прац. Але яны ўсё ж дабраліся да летапісаў. А летапісцы? Заўсёды пісалі праўду? Некаторыя запісвалі праз дзесяткі гадоў пасля таго, як падзея адбылася: з расказаў дзядоў. Хто напіша праўдзівую гісторыю нашага часу? Калі напіша? Дык у наш час хоць ёсць кіно, тэле, фота. Дакументы, рэпартажы ў газетах. Але ў іх сам чорт ногу зломіць...

*Публікацыя Алесі Шамякінай.*





# ПЛАТОН ГАЛАВАЧ
## (1903—1937)

Ужо не засталося нікога з тых, хто б мог прыгадаць яго па памяці. А мне так хочацца ўявіць яго жывым. Доўга разглядаючы адзіны выразны фотаздымак, дзе ён у касаваротцы, з хвалістымі пасмамі льняных валасоў і з падкрэслена глыбокімі вачыма, знаходжу пэўную суадпаведнасць таму, пра што піша ў сваіх нататках Ян Скрыган: «...На пісьменніцкім сходзе, сярод тых, што былі ў прэзідыуме, я ўбачыў незнаёмага чалавека гадоў дваццаці шасці. Ён сядзеў на заднім плане, за спінамі паміж Міхасём Лыньковым і Андрэем Александровічам. Валасы пышныя, вельмі светлыя і, відаць, мяккія, як кужаль. І бровы зусім светлыя, што іх аж не відно. У твары многа простай і даступнай дабраты. І сціпласці. Ён як бы пачуваў сябе няёмка, што яго запрасілі на такое пачэснае месца, і стараўся быць у цяньку. Але раз ад разу да яго паварочваўся то Александровіч, то Лыньkoў, то яшчэ хто з прэзідыума. І кожны раз, калі ён нагінаўся да іх, кужэльныя валасы ападалі на лоб, і ён шырокай рукою адкідаў іх назад. Часамі ён спрабаваў усміхнуцца, але ўсмешка не ішла яму і зараз жа згасала, паблукаўшы якое імгненне каля тонкіх губ. Усмешка занадта маладзіла яго, рабіла юнаком і як бы сама ведала, што робіць не вельмі выгадную паслугу».

Падхопліваючы гэтыя словы аўтара ўспамінаў, хочацца выказаць і сваю здагадку. Ну, вядома ж, яму хацелася выглядаць як мага сур'ёзней. Да гэтага абавязвалі і тыя пасады, якія выпала займаць яму ў такім маладым узросце: загадчык аддзела, а потым першы сакратар ЦК ЛКСМБ, адказны рэдактар газеты «Чырвоная змена», намеснік народнага камісара асветы БССР.

Бацькі яго былі беднымі сялянамі. Яму толькі споўнілася паўтара года, і тут памірае маці. Напаўсірочае дзяцінства, нястача ў бацькоўскай хаце з малых гадоў прывучылі яго да працы і самастойнасці, павазе да людзей, да ўмення вылучаць добрае і дрэннае ў гэтым жыцці.

Рана адчуў у сабе юнак і прагу да творчасці. Пачынаў ён з простай селькораўскай нататкі і тут жа адразу, нават нечакана для сябе, выйшаў на апавяданне, а крыху пазней — на аповесць і раман. І першае ж апавяданне «Загубленае жыццё», якое ў 1925 годзе з'явілася ў газеце «Савецкая Беларусь», прынесла яму вядомасць. На адрас аўтара пасыпаліся пісьмы ад чытачоў, сяброў і знаёмых. У адказ на пісьмо свайго сябра Андрэя Бародзіча, Платон Галавач пісаў: «Сюжэт для апавядання я ўзяў улетку на

Мсціслаўшчыне, а напісаў у школе, некалькі вечароў патраціў на перапрацоўку. Апавяданне пахадзіла па руках «маладнякоўцаў» і было ў гісторыка беларускай літаратуры М. Гарэцкага, па яго парадзе трапіла ў рэдакцыю, у рэдакцыі прапанавалі мне аддаць у друк, і я, вядома, згадзіўся».

Абяцаў малады пісьменнік сябру «не сапсавацца» ад зазнайства і пісаць новыя творы.

Першая ўдача акрыліла маладога П. Галавача, і ён адразу ж садзіцца за другое апавяданне «Шахцёр Анісімаў». Твор неўзабаве быў напісаны, але ў друк не трапіў. Потым аўтар выкарыстае яго ў вядомай аповесці «Спалох на загонах».

Праз два гады пасля з'яўлення ў друку апавядання «Загубленае жыццё» малады празаік выдае сваю першую кнігу «Дробязі жыцця». У «дробязях» надзвычай праўдзіва адлюстравана жыццё вёскі ў першыя гады савецкай улады. Вёску пісьменнік ведае як ніхто іншы, бо і сам вясковец (нарадзіўся ў в. Пабокавічы Бабруйскага павета), з вёскі выходзіў у людзі, стварыў першую камсамольскую ячэйку, шмат думаў над тым, як павярнуць тутэйшы люд тварам да новага жыцця, паклікаць яго ў навуку.

Талент П. Галавача набіраў сілу надзвычай імкліва. Ён як быццам прадчуваў сваё блізкае трагічнае наканаванне, спяшаўся працаваць не ў меру сваіх сіл, яго дзень сапраўды нельга было ўявіць без радка. Малады празаік неўзабаве адчуе, што ў жанры апавядання яму зацесна. Тыя новыя пласты жыцця, якія адкрые перад ім сам час, запатрабуюць больш шырокага творчага фармату. І ўжо ў наступную кнігу П. Галавача «Хочацца жыць» (1930) побач з апавяданнямі будзе ўключана і аповесць «Вінаваты». Звярніце ўвагу на назвы першых твораў і кніг маладога пісьменніка. Амаль усюды ў іх прысутнічае слова «жыццё». І самі «дробязі» ніколі не будуць дробязямі, калі яны тычацца самога жыцця. На пераломе часу гэта разуменне асабліва адчувальнае.

Вельмі няпростую тэму ўздымае аўтар у аповесці «Вінаваты». Галоўны герой твора Алесь Шавец па сутнасці нясе адказнасць за шкодную дзейнасць сваіх бацькоў. Яго выключаюць з партыі, аб'яўляюць чалавекам, варожым свайму грамадству. Дзеці не павінны адказваць за сваіх бацькоў, — упэўнены аўтар. І абгрунтоўвае гэты тэзіс мастацкімі сродкамі.

Поспех аўтару прынесла аповесць «Спалох на загонах», датаваная тым жа 1930 годам. Твор гэты закранае самую балючую тэму таго часу — абвастрэнне класавай барацьбы ў вёсцы ва ўмовах калектывізацыі. Твор, вядома, напісаны з партыйных пазіцый, і сама праўда ў ім трактуецца паводле патрабаванняў таго часу. Цяжкай была гэта ломка спрадвечнага ладу сялянскага існавання, ломка ўстояў самой чалавечай душы. Тут не абыходзілася і без чалавечых трагедый. Ці разумеў тое сам пісьменнік? Вядома ж, разумеў. У размове з Янам Скрыганом ён скажа: «Трэба, іначай нельга, браце Янка. І, можа, самае важнае, няхай сабе з душэўным болем, мець іменна вось гэтую ўпэўненасць. Бо ніколі ніякія гістарычныя пераломы не рабіліся лёгка. А мінаць іх нам няма як».

Аповесць «Спалох на загонах» вытрымала некалькі выданняў, была перакладзена на іншыя мовы, аднак крытыкай прымалася неадназначна. Пісьменніка абвінавачвалі ў тым, што ўступ да твора надта фармалістычны. І аўтар мусіў яго зняць, аднак у наступных выданнях аднавіў зноў.

Шмат прыдзірак было збоку маскоўскага дзяржвыдавецтва. Яно патрабавала перапрацоўкі многіх старонак кнігі, на што пісьменнік не згадзіўся. У пісьме выдаўцу Жамчужынай, датаваным 19-м кастрычніка

1932 года, П. Галавач пісаў: «Гісторыя з перакладам маёй аповесці працягваецца каля двух год. Працаваць над ёю я больш не магу, асабліва цяпер. А таму я лічу, што матывы, указаныя Вамі, не могуць служыць прычынай, каб не выдаваць кнігу. Пры ўсіх слабых баках маёй аповесці, яна, у шэрагу кніг аб калектывізацыі — кніг рускіх, займае не апошняе месца. Аб гэтым сведчыць хоць бы тое, што перакладзена на яўрэйскую і польскую мовы і за гэты час выйшла 2-ма выданнямі на белар. і 2-ма выд. на яўр. мове». Аповесць была выдадзена, але ў скарочаным выглядзе.

У пачатку трыццатых гадоў П. Галавач цалкам пераключаецца на літаратурную працу. Гэта яго даўняя мара, хоць у душы ёсць і свае сумненні, якія ён выказвае ў адным з лістоў да маскоўскага выдаўца Яфіма Кантара: «Ці змагу я быць больш карысны для партыі, працуючы ў галіне літаратуры? Мяне гэта пытанне вельмі і вельмі хвалюе, бо я прывык да працы адносіцца сумленна».

П. Галавач будзе працаваць адказным рэдактарам часопіса «Маладняк», а таксама кіраўніком літаратурнага аб'яднання «Маладняк» і пасля БелАППа, узначаліць часопіс «Полымя рэвалюцыі». На старонках апошняга будуць надрукаваны раздзелы самага галоўнага твора пісьменніка — рамана «Праз гады». Дарэмна сумняваўся пісьменнік наконт сваёй «карыснасці для партыі». І на чыста літаратурнай працы ў яго шмат грамадскіх клопатаў. Ён часта выязджае ў камандзіроўкі па рэспубліцы, прымае ўдзел у стварэнні кнігі «На Цішоўскім пустыры» — аб Магілёўскай фабрыцы штучнага шоўку. Непакояць яго справы і ў пісьменніцкай кагорце. У пісьме да рускага пісьменніка Уладзіміра Лідзіна П. Галавач зазначае: «Трохі пра нашы навіны. Пасля з'езда ў нас мала што змянілася. Кіраўніцтва амаль зусім не займаецца пісьменнікамі, тымі, хто па-сапраўднаму працуе... Мяне гэта непакоіць хоць бы таму, што ў падобным становішчы знаходзіцца Кузьма Чорны, у адносінах да якога ў кіраўніцтва больш падазронасці, чым клопату аб яго працы. Назіраецца гэта і ў адносінах да мяне, але мяне прывучылі ўжо да некаторай ізаляцыі, і я пагаджаюся з гэтым ды працую».

Яго вельмі паважаў Янка Купала, называў не інакш як Платонам Раманавічам і часта, абараняючы маладых, звяртаўся менавіта да П. Галавача.

Калі выйшла з друку першая паэтычная кніга Ул. Хадыкі «Суніцы», яе вельмі прыхільна сустрэлі чытачы, асабліва маладыя. Было гэта новае, свежае слова ў нашай паэзіі. І тое добра адчуваў Янка Купала. Інакшай думкі была аглабельная крытыка. Знайшла яна крамольнае нават у прыродаапісальным вершы. Купала некалькі разоў перачытваў мілагучныя радкі:

Не, не веру, брат, я, каб была прыгажэй
Па пякноце сваёй Швейцарыя!..
Паглядзі толькі ты, прыгледзься бліжэй
Вокам ясным на сіні-абшары.

Абурэнню яго не было меж. Ён тут жа пазваніў П. Галавачу. А неўзабаве ўжо госць быў у паэтавай кватэры. Сведка той сустрэчы С. П. Шушкевіч занатаваў размову двух творцаў: «У Платона Раманавіча быў стомлены выгляд, у вачах на гэты раз згаслі васільковыя агеньчыкі, шырокія дугі броваў былі нерухомымі, а ўвесь твар заставаўся засяроджаным, нібы ўтойваў нешта незразумелае і загадкавае.

— Куды ж цябе панясуць ногі? — спытаў Купала ў Галавача.

— Зноў службовая камандзіроўка. Пасылае мяне Цэнтральны камітэт партыі на тыдзень у вёску. Адмовіцца не магу, а тут сваёй працы як завязаць.

— Разбедаваўся... Ты ж шыракаплечы, на цябе можна ўзваліць яшчэ не гэтулькі, — усміхаючыся, казаў Купала. — А ты ведаеш, Платонка, што і я хачу тое-сёе ўзваліць на твае плечы. І ты ад мяне не адкруцішся».

А далей ішла просьба абараніць Хадыку. П. Галавач ужо і сам намерваўся тое зрабіць. Разам з Ул. Хадыкам абараняў ён і Сымона Баранавых, у якога таксама знайшлі нацыяналістычныя «грахі». Пісьменнік наконт гэтага выказаўся гнеўна: «Трэба біць чужое, варожае, выганяць яго, але ж трэба ўмець і берагчы людзей, якія гэтага заслугоўваюць».

Ён ніколі не крывіў душой, быў заўсёды шчырым і адкрытым. Але дадзім дамаляваць ягоны партрэт таму ж Яну Скрыгану, чыімі згадкамі яго і пачыналі: «...Мне здаецца, што сябравалі з ім усе, і ён нікога не вылучаў і не дзяліў на лепшых і горшых. З кожным ён быў роўна чулы і блізкі, знаходзіў хвіліну і сустрэцца на вуліцы, і пасядзець на канапе ў Доме пісьменніка, і ахвотна ўзяць пачытаць рукапіс, каб не пазней як назаўтра ж пабачыцца з аўтарам, бо ён, можа, чакае і хвалюецца. Ён знаходзіў нейкае сваё душэўнае слова, па-свойму раскрываў рэчы і з'явы. Не скупіўся некага пахваліць, нечаму парадавацца ці сказаць у вочы праўду, калі яму што не падабалася».

Ён быў надзвычай патрабавальны да сябе. Напісаў свой раман «Праз гады», які горача сустрэлі і чытачы, і крытыка, а да апошніх дзён усё сумняваўся ў яго вартасці і ў пісьме да таго ж Я. Кантара прызнаваўся: «...мяне вельмі моцна хвалюе пытанне: ці ёсць у кнізе тое, што мы называем мастацтвам...»

Яго жыццё абарвалася сталінска-яжоўскай куляй у страшным 1937-м. Пакутніцтва ў турэмных сутарэннях не зламала пісьменніка канчаткова. Нехта з тых жа самых пакутнікаў за турэмнай трубою знойдзе запіску. На абрыўку паперы ад тытунёвага пачка яго рукой будзе напісана: «Таварышы, даруйце, калі чым вінаваты перад вамі. Гісторыя скажа праўду. Платон».

Гісторыя ўрэшце сказала сваю праўду. Магчыма, яшчэ не ўсю. Пасля яго засталося шмат незавершаных твораў. Сярод іх раманы «Ён» і «Вялікі Дняпро» і амаль закончаны раман «Дарога ў свет», які прысвячаўся 20-годдзю Кастрычніка. Усе гэтыя рукапісы загінулі ў сумнавядомыя 30-я.

Праз гады, паўтараючы назву яго вядомага твора, мы зноў здзіўляемся, як жа шмат паспеў ён зрабіць у свае маладыя гады. І заўсёды кажам неаспрэчнае і ўжо амаль звычнае: «А колькі б мог яшчэ зрабіць!» Аддзячым жа яму за ўсё хоць нашай памяццю.

***Прадмова і падрыхтоўка тэксту***
***Казіміра Камейшы.***

# ПРАЗ ГАДЫ
## (Урывак з рамана)

Надвячоркам у гарадскую бальніцу, у якой быў у гэты час доктар Галынскі, зайшоў старшыня павятовага выканаўчага камітэта. Хутка ў прыёмную, куды зайшоў ён, трусячы кароткай, кругла падстрыжанай, зусім ужо сівой барадою, выйшаў і доктар. У руцэ ён нёс нязменную сваю другую пару акуляраў, якія надзяваў у часе аперацый. Яшчэ ад дзвярэй ён радасна ўсміхаецца госцю, але, падаўшы яму руку, таропка засоўвае футляр з акулярамі ў кішэнь пінжака і садзіцца на чысты, афарбаваны ў белае, зэдлік.

— Гэта нешта страшнае, — кажа ён. — З кожным днём па горадзе павялічваецца колькасць смяротных выпадкаў ад гэтай праклятай «іспанкі». Хворымі запоўнены ўсе бальніцы. Цесна ў нас. Я вось мерыўся да вас, таварыш Андрэй, пайсці, пагаварыць пра арганізацыю новай бальніцы. Каля вакзала я нагледзеў ужо адзін дом. — Галынскі падняўся з зэдліка і стаіць перад старшынёй выканкома, трымаючыся рукой за стол. — Сходзім, а?

— Давайце, Палікарп Мітрафанавіч, я з вялікай ахвотай. Бальніца патрэбна. Збірайцеся.

Яшчэ цераз хвіліну Галынскі вярнуўся ў прыёмную ў паліто і ў шапцы, гатовы ісці. Як выйшлі з бальніцы на вуліцу, старшыня выканкома ўважліва агледзеў сутулую, крыху згорбленую постаць старога доктара.

— Зусім вы стаміліся, Палікарп Мітрафанавіч. Можа б, вам паменш часу бываць у бальніцы?

— Я ўжо думаў пра гэта. Неяк не выходзіць, — доктар развінуў свае рукі. — Калі б можна было быць толькі хірургам, але ж гэтага нельга. Ха-ха! Часам я шкадую, што не стаў зусім вузкім спецыялістам, хоць бы па зубной справе. Сядзеў бы ў кабінеце, вырываў бы людзям зубы, і ўсё. А таму што цяпер у людзей больш важныя справы, чым хворыя зубы, дык мне і рабіць не было б чаго.

— А скажыце, Палікарп Мітрафанавіч, — раптам пытае старшыня выканкома,— што цяпер робіць сын ваш, Міхаіл Палікарпавіч?

— Сын? — доктар не разумее, чаму раптам старшыня спытаўся ў яго пра сына.— Баіцеся, таварыш Андрэй, каб ён не быў сабатажнікам?

— Ах, вунь як вы мяне зразумелі? Ды я не пра тое. Я думаю, што мы яшчэ з ім папрацуем у гэтых месцах нямала. З бацькам пад бальніцы месца шукаем, а з ім будзем шукаць месца пад хімічныя заводы.

— Я з вялікай ахвотай саступлю сыну сваё месца, — доктар усміхаецца, — хоць гэта і будзе біць па маёй прафесіі.

— Нам патрэбны будуць бальніцы і тады.

— Я хацеў бы, каб патрэба ў іх была меншая, чым цяпер. — Яны смяюцца абодва.

— Вы, Палікарп Мітрафанавіч, незвычайна жыццярадасны чалавек.

— Зусім у меру. Пры маёй рабоце інакш нельга. Стань тужыць, дык у працягу тыдня і жыць перастанеш. А вось сын мой не такі. Сын ныць любіць. Усё чагосьці шукае, як бы ў тумане ходзіць.

Занятыя гутаркай, яны непрыкметна дайшлі да вакзала. На станцыі стаяў чырвонаармейскі эшалон, які, відаць, зусім нядаўна яшчэ прыбыў, і ўся вакзальная пляцоўка была забіта чырвонаармейцамі. Яны выйшлі з

вагонаў, хто вады ў кацялок набраць, а хто проста зірнуць на новы, напатканы ў дарозе, горад, і запоўнілі гоманам і вакзал, і пляцоўку прывакзальную, і прывакзальную вуліцу.

Доктар з старшынёй выканкома схадзілі ў дом, які меркавалася заняць пад бальніцу, агледзелі яго і хутка вярнуліся зноў да вакзала. Пачынала змяркацца. За станцыяй два разы працягла ўскрыкнуў паравоз, і чырвонаармейцы, якія блукалі яшчэ па вуліцы, подбежкам кінуліся да поезда. Пацягнула пайсці за імі і старшыню выканкома, і, сказаўшы пра свой намер доктару, ён пайшоў у вакзал. Следам пайшоў і доктар. Вялікая вакзальная зала амаль пуставала, народ увесь таўпіўся за станцыяй на драўляным пероне. За перонам на трэцяй лініі стаяў чырвонаармейскі эшалон. З шырока рассунутых дзвярэй таварных вагонаў выглядалі маладыя чырвонаармейцы. Чырвонаармейцы стаялі і на пероне, і каля сваіх вагонаў. З перона даносіўся ў вакзальную залу гоман, але ў гомане чутно было, як вурчыць тэлефонны апарат дзесьці ў кабінеце дзяжурнага па вакзале. Злосна і падоўгу круціць дзяжурны ручку апарата, а пасля гэтак жа злосна і падоўгу крычыць у трубку адрывістыя, неразборлівыя словы. Калі ён сціхае, кладучы трубку на апарат, каб зноў пачаць круціць яго, чутно, як у бліжэйшым пакоі стукаціць, прымаючы тэлеграму, апарат Морзе.

— Пойдзем, ці што, таварыш Андрэй? Мы ж не збіраемся пакуль што ехаць. — І доктар шморгае паціхеньку старшыню выканкома за рукаў паліто. Але той не чуе. Ён туліцца да акна, выцягвае галаву, углядаючыся ў нейчы твар за акном, і, каб уважлівей разгледзець яго, хукае на шкло і, спяшаючыся, праціграе яго далонню рукі.

— Не можа быць! — кажа ён упаўголаса і яшчэ шчыльней туліцца да акна. — Няўжо ж?..

— Чаго не можа быць? Што там такое?

— Я зараз, — кідае старшыня выканкома і, сарваўшыся з месца, кідаецца з залы, каб пайсці на перон. Тады набліжаецца да акна і доктар і ўглядаецца ў натоўп людзей, што на пероне, але нічога не можа ў ім разабраць, не можа зразумець, хто мог бы так зацікавіць старшыню. За акном яшчэ відна, яшчэ не змерклася, але шэрая муць блізкага вечара паспела ўсё афарбаваць у цьмяныя тоны, і доктар праз адны акуляры бачыць толькі, як мітусяцца за акном людзі. Каб уважлівей разгледзець іх, ён дастае з футляра і надзяе другую пару акуляраў і тады мелькам яшчэ бачыць, як праціскаецца ў натоўпе старшыня выканкома, распіхаючы людзей працягнутымі наперад рукамі.

Паравоз зноў ускрыквае, на гэны раз ужо тры разы. Старшыня выканкома, вырваўшыся з натоўпу, падбежкам ідзе каля вагонаў даўгога эшалона, прагна ловячы поглядам наперадзе сярод чырвонаармейцаў шэрае жаночае паліто. Яно зусім блізка. Таварыш Андрэй паскарае крокі, бяжыць бягом і адчувае, як моцна стукаціць сэрца. Цяпер ён не сумняваўся, што жанчына, якая ідзе наперадзе чоткімі крокамі, гэта яна, тая, каго ён не бачыў ужо цэлых сем год, пра каго не меў ніякіх вестак. І хвалюючыся, трацячы ад гэтага голас, ён крычыць:

—Ліда!.. Ліда Міхайлаўна!..

Усё ж не зусім яшчэ ўпэўнены, што гэта яна і ёсць, ён чакае, пакуль жанчына, спыніўшыся, павяртае галаву, а тады бяжыць да яе.

— Ліда!..

Жанчына здзіўлена пазірае насустрач яму шырока раскрытымі круглымі вачыма з-пад цёмна-русых брывей, паміж якімі складка зморшчын.

Але гэта толькі азін момант, пакуль пазнала, а тады ад нечаканай сустрэчы кідаецца насустрач яму.

— Павел! Паўлуша!..

Момант адзін, трымаючыся за рукі, нясмела цягнуцца тварамі друг да дружкі, і яна першая цалуе яго проста ў вусны, але хуценька адрывае вусны ад ягоных і падаецца назад.

— Нядобра, — яна азіраецца на чырвонаармейцаў, якія выглядаюць з вагонаў. Чырвонаармейцы злёгку ўсміхаюцца. — Камісар цалуецца, — гаворыць яна і бязмерна радасна ўсміхаецца, абедзвюма рукамі бярэ ягоныя рукі. — Як жа ты мяне ўбачыў? Чаго ты тут?

— Я тут працую ў выканкоме, старшынёю. З самага пачатку. Пасля катаргі быў два дні ў Петраградзе, але ні цябе, ні каго са знаёмых не знайшоў. Думаў, ніколі ўжо не спаткаю цябе і раптам... — Ён моцна сціскае яе рукі. — Як бы я адчуваў. Цягнула зайсці ў вакзал, зусім выпадкова, а адтуль змеціў цябе...

— А мы на польскі фронт. Я працую камісарам роты... Ведаеш, я тады прыязджала да цябе. Здаецца, на другі ж дзень, як цябе арыштавалі. Памятаю, усю дарогу, як ехала, марыла пра спатканне, думала пра цябе, а пасля, як не сустрэў, было дужа цяжка і крыўдна...

— А цяпер не думала? І, бачыш, сустрэў...

— Паўлуша!.. Як я рада... А ты ўсё гэткі ж? Я часта, часта пра цябе думала, заўжды...





*ШКОЛЬНЫ ФАКУЛЬТАТЫЎ*

## Уладзімір ЛІПСКІ



«Не ведае спачыну душа гэтага падзвіжніка», — нібы сёння сказаў гэтыя словы пра Уладзіміра Ліпскага класік нашай літаратуры Васіль Вітка, бо і зараз Уладзімір Сцяпанавіч у віры жыцця — у грамадскіх і літаратурных клопатах. За заслугі ў галіне беларускай, у тым ліку дзіцячай, літаратуры ён адзначаны Дзяржаўнай прэміяй імя Кастуся Каліноўскага, прэміямі імя Янкі Маўра, Васіля Віткі і іншымі ўзнагародамі.

У творчасці гэтага аўтара выразна выявіліся характэрныя асаблівасці яго як празаіка нацыянальна адметнага, эмацыянальна яркага, аптыміста і чалавекалюба. Адзначаныя якасці глыбінныя: яны ад радаводных каранёў, ад сям'і, у якой рос і выхоўваўся пісьменнік, ад мудрых і добрых, чутых у маленстве казак, ад лясной вёсачкі Шоўкавічы, дзе 6 мая 1940 года нарадзіўся Уладзімір Сцяпанавіч Ліпскі, быў шостым, самым малодшым у сям'і.

Крыху больш як годзік было яму, калі пачалася Вялікая Айчынная вайна. Фашысты дашчэнту спалілі родныя Шоўкавічы, давялося дзецям з маці хавацца ў лесе, жыць у зямлянцы, галадаць. Вайна адабрала ў яго дзяцінства, з таго часу не можа бачыць слёзы дзяцей, іх боль, пакуты. Калі пасталеў, даў сабе слова заўсёды дапамагаць дзецям, аберагаць іх, служыць ім. Пазней сам лёс, здаецца, паспрыяў таму, каб жаданне гэтае спраўдзілася.

Скончыўшы сямігодку, У. Ліпскі паступіў у Мінскі тэхнікум харчовай прамысловасці, пасля яго заканчэння чатыры гады працаваў на Гарадзейскім цукровым заводзе. Ужо тады сур'ёзна захапіўся журналістыкай, пачаў друкавацца, у 1964—67 гадах быў супрацоўнікам нясвіжскай раённай газеты і адначасова вучыўся завочна на аддзяленні журналістыкі Беларускага дзяржаўнага універсітэта, які закончыў у 1966 годзе.

У 1967—68 гадах ён быў першым сакратаром Нясвіжскага райкама камсамола, а ў 1968—1976 гадах працаваў у ЦК ЛКСМБ. У сувязі з працай у гэтай установе ён бліжэй пазнаёміўся з часопісам «Вясёлка». Такое знаёмства было карысным для маладога пісьменніка: лепш пазнаў ён сакрэты майстэрства дзіцячай кнігі, друкаваў на старонках часопіса свае першыя апавяданні для дзяцей.

Дарагімі засталіся для Уладзіміра Сцяпанавіча два гады яго працы (1976—1978) адказным сакратаром праўлення Саюза пісьменнікаў. Шмат было адміністрацыйных і арганізацыйных клопатаў, але ўсё кампенсавалі штодзённыя сустрэчы з пісьменнікамі. Кожная з іх была, нібы глыток чароўнага пітва. Такую



*Уладзімір Ліпскі і Ігар Лучанок.*

назву — «Глыток чароўнага пітва» — і даў У. Ліпскі сваім успамінам і дзённікавым запісам, што адносяцца да таго часу, урыўкі з іх апублікаваны ў 2000 годзе ў пятым нумары часопіса «Полымя».

Упершыню ў рэспубліканскім друку Уладзімір Сцяпанавіч выступіў у 1964 годзе, а ў 1971 годзе з'явілася яго першая кніга публіцыстыкі «Райкомаўскія будні» (дзённік). У тым жа жанры напісаны былі «Дзень за днём» (1973), «Знайдзі сябе» (1974), «Якое яно, шчасце?» (1977), выйшлі кнігі нарысаў «Прыдзвінскі цуд» (1975), «Высокія зоркі» (1981).

У 1974 годзе з друку выйшла першая кніжка Уладзіміра Ліпскага для дзяцей — «Рыгоркавы апавяданні», у 1977 годзе другая — «Марынчына казка». Яны пацвердзілі добрае веданне аўтарам загадкавай краіны дзяцінства, у якую не кожнаму пісьменніку адкрыты ўваход. Уладзімір Ліпскі валодае ключыкам ад тых дзвярэй: лёгка знаходзіць тэмы, займальныя сюжэты, сітуацыі, умее гаварыць з дзецьмі даступна, захапіць іх цікавай і карыснай гульнёй, усхваляваць, зачараваць беларускім словам. Невыпадкова ў 1978 годзе па рэкамендацыі Саюза пісьменнікаў У. Ліпскі быў прызначаны галоўным рэдактарам беларускага дзіцячага часопіса «Вясёлка», які ўзначальвае амаль трыццаць гадоў.

Такое прызначэнне яшчэ больш наблізіла пісьменніка да дзіцячай аўдыторыі. Гэтаму спрыяла і абранне яго старшынёй праўлення Беларускага Рэспубліканскага дзіцячага Фонду. Дарэчы, тады ж Уладзімір Сцяпанавіч быў зацверджаны і на пасадзе віцэ-прэзідэнта Міжнароднай асацыяцыі Дзіцячых Фондаў.

Гэтыя пасады адкрылі пісьменніку рэальныя магчымасці здзейсніць запаветную мэту: дапамагаць дзецям, служыць ім. Каб дабіцца адчувальных поспехаў дзейнасці дзіцячага фонду, Уладзімір Ліпскі не абмяжоўваўся адпаведнай дакументацыяй, статыстыкай, а сам наведваў (і зараз гэта робіць) дамы дзіцяці, дзіцячыя прыёмнікі-размеркавальнікі, дзіцячыя дамы, школы-інтэрнаты, калоніі, спецшколы, грунтоўна заглыбіўся ў праблемы дзяцінства, дакрануўся сэрцам да лёсаў сотняў дзяцей і дарослых. Зразумеў: у сучасных крызісных умовах, ва ўмовах духоўнай разбалансаванасці грамадства дзецям асабліва цяжка, таму трэба біць трывогу, і, адкінуўшы ранейшыя творчыя планы, ён напісаў кнігу, сама назва якой апякае болем: «Падкідыш» (1992). У ёй пісьменнік узняў голас у абарону дзяцей, прадоўжыў і ўзбагаціў гуманістычныя традыцыі беларускай літаратуры,

якая на працягу ўсёй сваёй гісторыі не была абыякавай да лёсу дзяцей. Успомнім творы Я. Баршчэўскага, Ф. Багушэвіча, Ядвігіна Ш., Янкі Купалы, Якуба Коласа, З. Бядулі, К. Чорнага, Янкі Маўра, А. Якімовіча, Васіля Віткі і інш. Аднак не было яшчэ ў нас вось такой кнігі, у якой бы аўтар на поўны голас, з дакументальна дакладнымі лічбамі, фактамі загаварыў пра пакуты дзяцей, пра іх сіроцтва (нярэдка пры жывых бацьках), пра крызіс сям'і, сямейнага выхавання, рост дзіцячай злачыннасці, пра чарнобыльскую бяду. «Хачу, каб паверылі: кнігу «Падкідыш», — зазначае Уладзімір Ліпскі, — я не проста напісаў: кожную яе старонку пераЖыў сэрцам, выпакутаваў турботнымі днямі і бяссоннымі начамі».

Глыбока кранаюць прыведзеныя ў кнізе «Падкідыш» факты, нават само тлумачэнне слова аўтарам: «Падкідыш — дзіця, якое падкінулі ў пад'езд, выкінулі на сметнік, «забыліся» на вакзале, у скверы, кінулі на волю лёсу».

Праблемы дзяцінства ў цэнтры ўвагі кнігі У. Ліпскага «Бацькі і дзеці», якая асобным выданнем убачыла свет у 1995 годзе, а ў значна дапоўненым варыянце — у 2002 годзе. «Дзённікі» — так вызначыў пісьменнік яе жанр.

У анатацыі да кнігі «Бацькі і дзеці» адзначана, што ў гэтым творы ўвасоблены крык душы аўтара, яго заклік берагчы дзяцей, калі мы хочам меҵь заўтрашні дзень. У параўнанні з кнігай «Падкідыш» тут больш негатыўных фактаў: павялічваецца колькасць разводаў, множыцца колькасць падкідышаў, сірот.

Рытарычныя заклікі, звароты, пытанні характэрны для кніг «Падкідыш», «Бацькі і дзеці» і іншых твораў У. Ліпскага, у якіх ён выходзіць на прамы дыялог з чытачамі. Гэтыя сродкі выразнасці ўзмацняюць эмацыйную насычанасць мовы, актывізуюць думкі і пачуцці чытачоў, падкрэсліваюць актыўную грамадзянскую пазіцыю аўтара, яго аптымістычную веру ў тое, што ўсё можна змяніць да лепшага.

Хоць шмат у кнігах «Падкіш», «Бацькі і дзеці» сумнага, нават трагічнага, але пачуцця адчаю, безвыходнасці яны не выклікаюць, бо кантрастна да цёмнага тут адчуваецца святло. Верыць Уладзімір Ліпскі: «Жыве дабрыня, жыве міласэрнасць сярод людзей». З павагай і ўдзячнасцю піша ён пра чулых людзей, якія, нібы родных, даглядаюць дзяцей у дамах дзіцяці, у інтэрнатах, дамах сямейнага тыпу. Нямала і тых, хто ўсынаўляе дзетак. Пра ўсіх такіх людзей У. Ліпскі гаворыць: «Яны маюць талент любіць дзяцей».

Пажадана, каб настаўнікі, выхавацелі, бібліятэкары шырэй выкарыстоўвалі кнігі У. Ліпскага «Падкідыш», «Бацькі і дзеці» ў размовах з бацькамі, у індывідуальных і калектыўных гутарках са старшакласнікамі, з вучнямі сярэдняга школьнага ўзросту. Добра, калі гэтыя кнігі прачытаюць самі бацькі, можна наладзіць з імі абмеркаванне саміх твораў ці асобных праблем, што ўзнімае аўтар. Тое ж мэтазгодна зрабіць і ў малодшых класах, а таксама ў дзіцячых садках, каб не забываліся таты і маці на свой святы абавязак перад дзецьмі, перад Бацькаўшчынай і будучым.

У кнігах «Падкідыш», «Бацькі і дзеці» ёсць таксама матэрыял на чарнобыльскую тэму. Своеасаблівым чарнобыльскім рэпартажам з'яўляецца раздзел «Пакуль жывуць буслы». Гэта дзённікавыя запісы, якія былі зроблены Уладзімірам Ліпскім у час яго паездкі шляхамі чарнобыльскай бяды, па маршруце Гомель—Нароўля. Вельмі нялёгка, як зазначыў сам аўтар, было яму пісаць гэты дзённік болю, тым больш, што ехаў ён па родных, знаёмых з дзяцінства мясцінах.

Пажадана разам з вучнямі-старшакласнікамі прачытаць гэтыя хвалюючыя, насычаныя болем старонкі. Чалавек павінен быць спагадлівым, міласэрным, здольным адгукнуцца, нават паплакаць над чужой бядой. Сам аўтар не саромеецца такіх слёз: «Пішу пра параненыя душы. Плачу над імі». Чарнобыльскі матэрыял можна ўключыць у змест урокаў, у гутаркі, у сцэнарыі на гэтую тэму.

Нямала беларускіх дзяцей-чарнобыльцаў адпачывала за мяжой, яны знайшлі там сяброў, але казалі, што іх цягне ў Беларусь. Бацькаўшчына — найдаражэйшы скарб. Уладзімір Ліпскі піша, што сам ён дзе б ні быў, на чужой старонцы адчувае сябе, як у гасцініцы: нібы магнітам цягне яго ў Беларусь, у родныя Шоўкавічы, дзе яго радаводныя карані, да якіх чалавек сэрцам прырастае. «Адарві гэтыя кара-

ні, паруш грыбніцу, і звяне чалавек, дзе б ні быў прапісаны», — кажа У. Ліпскі ў мастацка-дакументальнай аповесці «Адпяванне жывых» (1993).

Гэты твор пісаўся як своеасаблівы рэпартаж: аўтар заходзіў у кожную хату ў родных Шоўкавічах, гаварыў з аднавяскоўцамі і ўсё запісваў: «Вуліца — кніга, кожная хата — асобны раздзел, — зазначае ён. У «Лаўрэнавы працадні» па ўсім адчувалася, што Уладзімір Ліпскі піша пра родныя Шоўкавічы. У аповесці «Адпяванне жывых» гэтая сапраўдная назва захавана. Па сутнасці, аўтарам створаны летапіс вёскі Шоўкавічы, і ў тым летапісе нямала драматычнага.

Аповесць «Адпяванне жывых» вучыць любіць людзей родную зямлю, жыць клопатамі свайго народа. Яна аберагае юных ад духоўнага збяднення, прагматызму, спрыяе іх эстэтычнаму, патрыятычнаму выхаванню. Хацелася б, каб з гэтым творам пазнаёміліся вучні-старшакласнікі.

Добра, што ў школу прыйдуць кнігі Уладзіміра Ліпскага «Мама. Малітва сына» (1999), «Бацька. Пісьмы сына» (2004). Напісаны яны душэўна, у іх спалучаны дакументалізм, публіцыстыка і мастацкая проза. Тут шмат трапных народных выслоўяў, афарыстычна адточаных думак самога аўтара, а таксама змястоўных цытат.

Кнігу «Мама. Малітва сына» Уладзімір Ліпскі напісаў да стагоддзя сваёй Маці, Марыі Адамаўны, беларускай вясковай жанчыны, ласкавай і мудрай. Яе вобраз узнесены пісьменнікам на п'едэстал Багіні. Гэтым абумоўлена наяўнасць у мове аповесці характэрных асаблівасцей малітваў, ёсць і самі малітвы, і ўсё арганічна ўпісваецца ў твор, які задуманы як споведзь, як малітва, таму аповесць «Мама» мае падзагаловак «Малітва сына».

У гэты твор уключаны радкі вершаў Янкі Купалы, Якуба Коласа, М. Багдановіча, М. Танка, А. Пысіна, А. Грачанікава, М. Маляўкі. Як сапраўдная паэзія гучаць і многія старонкі самой кнігі «Мама». Паэзіяй дабрыні прасякнуты ўспаміны сына пра Маму, нястомную руплівіцу, якая не мела часу пасядзець. «Божа, яна слугавала нам дзень і ноч, бо гэта было яе жыццё. Яна адчувала, што яе прызванне — быць Мамай. Яна ўсіх сваіх дзяцей навучыла любіць зямлю і людзей, і гэта стала яе галоўным урокам маралі».

Шмат эпізодаў, успамінаў, разважанняў з кнігі «Мама» літаральна просяцца, каб іх уключылі ў школьныя хрэстаматыі, падручнікі, каб вучылі іх на памяць, чыталі са сцэны, цытавалі, абмяркоўвалі. Гэта кніга, як надзвычай тонка падмеціла народная артыстка Беларусі Марыя Захарэвіч, — «гаючыя лекі для душы, падарунак для ўсіх нас».

Тут ёсць эпізоды, якія будзе надзвычай цікава і карысна пачуць не толькі вучням старэйшага і сярэдняга школьнага ўзросту, але і малодшым школьнікам і нават дашкольнікам. Напрыклад, як ішоў упершыню ў школу меншы сынок, як яны з Мамай малацілі пранікамі жыта, як маці, амаль непісьменная вясковая жанчына, нібы мудры педагог, вяла свайго сына да эстэтычнага пазнання прыроды. Аднойчы яна пабудзіла яго на досвітку і, заінтрыгаваўшы словамі: «Я пакажу табе нештачка», павяла праз прыгуменне на сенажаць. Тым нештачкам быў узыход сонца! Той эпізод поўніцца зачараванай узрушанасцю здзіўлення, хараством, багаццем зрокавых эфектаў, танальных адценняў, адухоўленасцю. Усё перадаецца праз успрыняцце хлопчыка з паэтычнай душою: «Мне падалося ў той міг», — прыгадвае аўтар, — што я зараз убачу не проста вогненны шар, а нейкага таямнічага светлага чалавека-велікана... О, цуд!».

Праз жыццё нясе пісьменнік у памяці тую шоўкаўскую раніцу і той незвычайны, незабыўны падарунак ад Мамы. Да яе звяртаецца, з ёю, як з жывой, гаворыць, дзеліцца сваімі клопатамі.

Натуральна, пранікнёна гучаць у кнізе «Мама» малітвы ўдзячнасці сына сваёй Матулі, міжволі перачытваеш іх, прамаўляеш, і кожнае слова, здаецца, звініць срэбным звонам, хвалюе, узвышае, ачышчае тваю душу:

«Я пажыццёвы твой даўжнік, Мама <...>

Схіляю перад табой заснежаную галаву <...> Шаную цябе і бязмежна люблю сёння, у дзень Юр'я, увесь час і на векі вякоў. Амін».

Хоць піша Уладзімір Ліпскі пра сваю Маці і называе яе сапраўднае імя, а ўсё роўна адчуваеш, што гэта — вобраз шырокага мастацкага абагульнення. Чытаючы кнігу «Мама», мы не проста знаёмімся з лёсам аднаго чалавека, а пазнаём філасофію мацярынства, прыгажосць беларускай жанчыны-працаўніцы, Маці, разумеем мудрасць і веліч маралі, ідэалаў нашага народа, і ўсё гэта дасягаецца на ўрадлівай нацыянальнай глебе, з выкарыстаннем адметна беларускіх дэталяў штодзённага народнага побыту, працы, свят, апяваннем родных краявідаў. Ва ўсім чуецца голас шчырага малення ўдзячнага і адданага сына любай Матулі, які добра разумее, што ў лёсе Бацькаўшчыны многае залежыць ад мацярок, таму да сучасных мамаў звяртаецца пісьменнік у канцы аповесці «Мама» і заклікае іх сеяць толькі добрае: «Любоў, радасць, супакой, цярплівасць, зычлівасць, вернасць, лагоднасць». Што пасееш, тое і ўзыдзе.

У гаворцы пра кнігу «Мама. Малітва сына» нельга абмінуць увагай аповесць У. Ліпскага «Бацька. Пісьмы сына». Гэтыя два творы напісаны пра адну і тую ж сям'ю, у якой рос аўтар, тут дзейнічаюць у асноўным тыя ж героі і месца дзеяння ў асноўным тое ж: родныя Шоўкавічы.

У цэнтры гэтай кнігі — бацька пісьменніка, своеадметную індывідуальнасць, псіхалагічную сутнасць якога тонка адчувае сын. Зазначым: сын піша пісьмы бацьку, якога даўно ўжо няма, на неба... Прываблівае шчырасць, цеплыня гэтага твора. У адрозненне ад Маці, якая ўмела прыгалубіць, суцешыць малых, Бацька сваёй прыязнасці да дзяцей знешне не выяўляў: лічыў, што каб раслі яны працавітымі і прыстойнымі, трымаць іх трэба ў строгасці. З-за гэтага ніхто з дзяцей ніколі не адважыўся назваць яго ласкава «Татачка», «Татуля», прытуліцца да яго. «Родны мой! Я ж не помню, — піша сын Бацьку, — каб ты калі-небудзь цалаваў мяне, лашчыў, абдымаў. Гэта, відаць, не ўваходзіла ў этыкет Бацькі <...> Чаму цяпер, калі цябе даўно няма ў гэтым жыцці, хочацца прылашчыцца да тваёй непаголенай шчакі? Чаму хочацца шкадаваць цябе, аддзячыць табе?» І пісьменнік сам адказвае на гэтыя пытанні, ён просіць у Бацькі прабачэння за тое, што толькі цяпер разгледзеў золата бацькавай душы, толькі цяпер зразумеў, што гаспадарлівы, працавіты і строгі Бацька быў «волатам дабрыні».

Запомнілася пісьменніку, як бацька стараўся ўсе цяжкасці ўзяць на сябе, з якім стараннем і любоўю ўзводзіў ён новую хату замест спаленай у вайну карнікамі. І ў хаце таксама ўсё было зроблена ягонымі рукамі: сталы, крэслы, ложкі, лыжкі, дзверы, рамы і інш. «Усё рабіў Бацька, каб новая хата стала родным кутом, бацькоўскім прычалам для ўсяго сямейнага радаводу».

Удала перакінуў Уладзімір Ліпскі ў аповесці «Бацька» масток з тых далёкіх гадоў у сучаснасць: расказаў пра вучняў 7-га класа мінскай школы, якія пісалі сачыненне на тэму «Мой тата». Адзін з іх у сваім самым кароткім сачыненні (усяго адзін сказ) даў вычарпальную характарыстыку свайго бацькі і не толькі свайго, а і многіх сучасных тат: «Мой тата, — зазначыў ён, — гэта тры «т»: тапкі, тахта, тэлевізар».

«Дарагі Татуля, — піша сын Бацьку на неба, — ты для нас «д»: дом, дзеці, дысцыпліна».

З ухвалой гаворыць дарослы сын пра строгасць і патрабавальнасць Бацькі і, ацэньваючы яго значэнне ў сваім станаўленні як чалавека, асобы, з удзячнасцю піша: «Ты — мой падмурак, мая светлая крыніца». Ён адзначае, што Бацька неўпрыкмет выхаваў у яго бацькоўскія пачуцці і разуменне Бацькаўшчыны: «Цяпер я разам з табою бязмежна люблю людзей, прыроду, зямельку нашу Беларусь, якія мілей мне за ўвесь зямны свет».

І ў гэтым творы гучыць тэма крызісу сям'і, сямейнага выхавання, сіроцтва дзяцей пры жывых бацьках. Не можа пісьменнік заставацца раўнадушным, не можа нават уявіць, каб іх Бацька кінуў каго са сваіх дзяцей ці здаў у дзіцячы дом. Бацька быў такім гаспадаром і сем'янінам, пра якіх беларуская народная прыказка кажа: «Муж у хаце, што крыж на царкве: спакойна і надзейна».

Аповесці «Мама», «Бацька» пераканаўча сведчаць, што ўзаемаразуменне і згода між мужам і жонкай — важная ўмова трываласці сям'і, поспеху сямейнага выхавання. Сям'я Сцяпана і Марыі Ліпскіх жыла ў адпаведнасці з традыцыямі і мараллю нашага народа, якія запраграмаваны ў звычаях, рытуалах, а таксама ў скарбах народнай мудрасці. Невыпадкова мова Бацькі была так шчодра насычана прыказкамі, прымаўкамі: «Дарэмна неба не капці», «Летам праспіш — зімой апухнеш», «На чужы каравай губ не надувай, раней уставай, свой зарабляй», «Грошы — вада: прыйшлі, пайшлі. Не стань рабом грошай», «Два вякі жыць не будзеш — пражыві свой век чалавекам», «Раней смерці не памірай» і інш.

Скарбы народнай мудрасці, як і народныя традыцыі, перадаваліся з пакалення ў пакаленне. «Дык хай ніколі не згасне духоўная крынічка, якая знітоўвае радаводныя пакаленні, — піша Уладзімір Ліпскі. — Бо які кошт жыццю чалавечаму, калі памяць не звязвае сучаснае з мінулым?»

Тэма захавання памяці праходзіць праз усю кнігу «Бацька», у ёй створаны значны гістарычны фон, удзельнікам многіх гістарычных падзей быў сам Бацька, салдат-пехацінец Першай сусветнай вайны, партызанскі сувязны ў гады Вялікай Айчыннай вайны, калгасны брыгадзір у пасляваенны час Сцяпан Іванавіч Ліпскі.

З усіх гістарычных падзей, што ўспамінаюцца ў гэтай кнізе, найбольшая ўвага ўдзелена памяці пра Вялікую Айчынную вайну. Сын піша Бацьку: «Цяпер некаторыя разумнікі разважаюць: «Колькі можна пра тую вайну мусоліць?» Ды гэта ж здрада тым, хто паклаў жыццё за волю нашу. Іх забываць — рана маральная, грахоўнасць недаравальная». З невялікай вёсачкі Шоўкавічы пайшлі на вайну і склалі свае галовы дваццаць шэсць здаровых, дужых хлопцаў, і Уладзімір Ліпскі ў аповесці «Бацька» называе імя і прозвішча кожнага з іх. «Мне захацелася, Бацька, іх назваць, прыгадаць і тым самым як бы прадоўжыць іх жыццё, бо ўжо няма каму іх нават успомніць».

Усцешвае аўтара і тое, што на Шоўкаўскіх могілках на помніках невядомых партызанаў, воінаў-чырвонаармейцаў паступова з'яўляюцца іх сапраўдныя імёны. Пошук ідзе.

«Помніце! — Вось мой наказ маладым, — піша аўтар, — бо калі парвецца ланцужок памяці, забудуцца мёртвыя і памруць жывыя».

Хвалюе пісьменніка тое, што ўсё менш у нас народных звычаяў і традыцый, слабне сувязь з нацыянальнымі вытокамі. Гэтай трывогай, тэмай памяці прасякнута кніга У. Ліпскага «Я. Праўдзівы аповяд пра твой і мой радавод» (1998). Пісьменнікі, даследчыкі літаратуры называюць гэты твор «сапраўдным адкрыццём». А Анатоль Вярцінскі, зазначыў, што «гэта не проста кніга, а кніга-ўчынак, кніга-подзвіг. Творчы. Даследчыцкі. Грамадзянскі».

Больш як пяць гадоў рупліва збіраў У. Ліпскі матэрыял для гэтага твора. Былы старшыня Камітэта па архівах і справаводстве Рэспублікі Беларусь, кандыдат гістарычных навук А. Міхальчанка называе аўтара «Калумбам беларускіх архіваў» і падкрэслівае, што сабранага Уладзімірам Ліпскім «дакументальнага матэрыялу хапіла б з гакам на дысертацыю доктара навук».

У кнізе «Я» выявіліся даследчыцкія здольнасці пісьменніка, які зрабіў сапраўдныя адкрыцці, што ўзбагацілі беларускае літаратуразнаўства. Маюцца на ўвазе, напрыклад, новыя звесткі пра вытокі, гісторыю стварэння і прататыпаў славутай камедыі-вадэвіля Дуніна-Марцінкевіча «Пінская шляхта», а таксама і яго паэмы «Халімон на каранацыі».

Змешчаны ў раздзеле «Дунін-Марцінкевіч і пінская шляхта» матэрыял дапаможа настаўнікам здзейсніць разам з вучнямі завочнае падарожжа, а калі ёсць магчымасць, дык і арганізаваць паездку-экскурсію па родных мясцінах гэтага пісьменніка, наведаць былы фальварак Панюшкавічы, дзе нарадзіўся Дунін-Марцінкевіч, Люцынку, дзе былі напісаны амаль усе яго творы.

У сваім расповедзе У. Ліпскі не губляе тэму памяці, яго душу вярэдзяць балючыя пытанні: «Чаму не паважаем памяць людскую, гісторыю нашу і людзей, якія

ўслаўлялі нашу Айчыну? Чаму спадчыннікі мала ведаюць класіка свайго, пачынальніка беларускай літаратуры Дуніна-Марцінкевіча?

Чаму мы такія?..»

Пытанні з гэтым занепакоеным аўтарскім «Чаму?» аж сем разоў адно за другім паўтараюцца ў прадмове да кнігі «Я». Важную прычыну многіх негатыўных з'яў пісьменнік бачыць у тым, што «мы глухія і сляпыя да продкаў, да свайго радаводу», што ўсё больш мы адрываемся ад жыватворных крыніц мудрасці, вопыту, набытых нашымі продкамі за многія стагоддзі.

Пазнаёміўшыся з кнігай «Я» ці ўрыўкам з яе, некаторыя школьнікі загараюцца жаданнем даследаваць свой радавод. Добра, калі ім у гэтым дапамогуць бацькі, настаўнікі, бібліятэкары, іншыя дасведчаныя людзі. Своеасаблівым узорам будзе для іх таксама змешчаны ў падручніку фрагмент радаводу Янкі Купалы (па бацькоўскай лініі). У працэсе гэтай захапляючай і вельмі карпатлівай працы вучні і наогул кожны, хто займецца такім даследаваннем, адкрыюць для сябе шмат цікавага, дазнаюцца пра родзічаў, якіх не ведалі, лепш пазнаюць таксама сваіх бацьку, маці. «Навучыся спачатку любіць бліжніх, тады палюбіш людзей і сваю Айчыну», — пісаў У. Ліпскі ў аповесці «Бацька». Дарэчы аповесці «Мама», «Бацька» ў многім дапаўняюць і нават з'яўляюцца нібы своеасаблівым працягам кнігі «Я». У гэтых творах па-мастацку даследуецца радавод шоўкаўскіх Ліпскіх, таму гэтыя чатыры кнігі: «Я», «Мама», «Бацька», «Мы» (2006) успрымаюцца як цыкл роднасных твораў, гэта тэтралогія.

Дакументальная аповесць-даследаванне — так вызначыў жанр кнігі «Я. Праўдзівы аповяд пра твой і мой радавод» У. Ліпскі. Гэтым творам пісьменнік яшчэ раз пацвердзіў здольнасць аўтара-дакументаліста. На дакументальным матэрыяле напісаны яго вядомыя аповесці «Крутыя вёрсты» (1980, 1985), «Стрэлы над ярам», якая ўвайшла ў кнігу «Раны», 1987 год; «Любі мяне пры ўсякай долі» (сумесна з украінскім паэтам Багданам Чалым), 1989; «Невядомы», 1990; «Дзяўчаты, дзе вы» (таксама з Багданам Чалым), 1995 (Берлін); «Пралескі ў небе» ў серыі «Школьная бібліятэка», 1997; «Басанож па зорках», 2000; «Сын дня», 2002.

Большасць названых кніг — гэта дакументальна-мастацкія біяграфіі людзей, якія жыццём сваім пацвердзілі і пацвярджаюць вялікія магчымасці чалавека, здольнага пераадолець цяжкасці, знайсці сябе, быць самаадданым у служэнні Бацькаўшчыне, роднай навуцы, мастацтву. У кожным з такіх твораў пісьменнік знаходзіць адметную манеру раскрыцця зместу, арыгінальны зачын. Напрыклад, кніга «Басанож па зорках», прысвечаная нашаму славутаму кампазітару Ігару Лучанку, мае вельмі арыгінальную назву, і пачынаецца гэты твор багатым на вобразную сімволіку уступам; аднак самога слова «ўступ» тут няма, яно заменена іншым: уверцюра.

З цікавасцю сочаць чытачы за ўзнясеннем Ігара Лучанка на арбіту сусветнага прызнання. Зноў і зноў гучаць у гэтым творы музычныя тэрміны: «Актава першая», «Актава другая», «Актава трэцяя», чацвёртая, сёмая... Такая замена слоў «раздзел», «глава», як і выкарыстанне сямі нот до, рэ, мі і інш у якасці назваў падраздзелаў, не выклікае пярэчанняў, усё гэта ўдала ўпісваецца ў кнігу «Басанож па зорках». У ёй шмат запамінальных музычных сустрэч, звестак пра міжнародныя фестывалі і пра тыя, што праводзяцца ў Беларусі. Дзякуючы псіхалагічнаму майстэрству пісьменніка, мы маем магчымасць зразумець шматграннасць яркай і ў многім загадкавай асобы Ігара Лучанка, з якім аўтара кнігі звязвае даўняе, яшчэ з гадоў камсамольскага юнацтва, сяброўства.

Па-новаму адкрываюць чытачы ў гэтым творы і самаго аўтара кнігі «Басанож па зорках», які выявіў тонкае адчуванне гарманічнай паяднанасці ў песнях І. Лучанка музыкі і слоў. Вось як, напрыклад, піша Уладзімір Ліпскі пра песню «Жураўлі на Палессе ляцяць» (словы А. Ставера): «Уступ песні, — зазначае ён, — Ігар Лучанок пабудаваў так, што некалькі тонкіх дотыкаў клавішаў ствараюць музыку вельмі ж падобную на курлыканне жураваў. Вось яны ляцяць рухо-

мым клінам у высокім небе, у сонечных промнях і на ўсю Беларусь крычаць сваё радаснае «курлы-курлы». <...>

З фартэпіяннага жураўлінага прывітання нараджаецца мелодыя, якая ўзносіць да нябёс паэтычныя радкі, і мы ўжо чуем іх з вышыні, як голас саміх нябесных вандроўнікаў:

Каб любіць Беларусь нашу мілую,
Трэба ў розных краях пабываць.
Разумею цяпер, чаму з выраю
Жураўлі на Палессе ляцяць.

Такіх прыкладаў у кнізе «Басанож па зорках» шмат.

Названы твор багаты матэрыялам, які можа быць выкарыстаны настаўнікам на ўроках, а таксама для правядзення літаратурных чытанняў, падрыхтоўкі літаратурна-музычных вечароў, прысвечаных Ігару Лучанку. Мэтазгодна правесці цыкл вечароў, звязаных з гісторыяй стварэння вядомых песень гэтага таленавітага творцы. У кнізе «Басанож па зорках» пра іх гаворыцца прафесійна, захоплена. Ёсць тут і ноты, і тэксты тых песень, што пазначаны ў «Актаве сёмай». Варта ўключыць у праграму школьных музычных вечароў водгукі вучняў пра песні, музыку І. Лучанка, выканаць песні гэтага кампазітара, а таксама па-мастацку прачытаць у музычным суправаджэнні невялікія ўрыўкі з аповесці «Басанож па зорках», можна падрыхтаваць літаратурна-музычную кампазіцыю па асобных раздзелах гэтай кнігі, інсцэніраваць некаторыя яе эпізоды, правесці літаратурна-музычную віктарыну і інш.

Матэрыял для правядзення свята гумару ёсць у кнізе Уладзіміра Ліпскага «Аўцюкоўцы», якая ўбачыла свет у 1995 годзе, другое, значна дапоўненае яе выданне з'явілася ў 2000 г. У кнігу «Аўцюкоўцы» ўвайшлі жарты, анекдоты, прыпеўкі, дражнілкі, вясёлыя, часам сумныя гісторыі, і ўсё гэта запісана У. Ліпскім з вуснаў жыхароў вёсак Малыя і Вялікія Аўцюкі, што знаходзяцца на Гомельшчыне.

Многія ведаюць, што дзякуючы гэтай кнізе, а таксама ініцыятыве, энергіі і энтузіязму яе аўтара Аўцюкі сталі цэнтрам беларускага народнага гумару, як напрыклад, Габрава ў Балгарыі. Тут праводзяцца Усебеларускія фестывалі гумару... «Паехаў на гэты фестываль у Аўцюкі, — піша народны паэт Беларусі Ніл Гілевіч, — паглядзеў, паслухаў і пераканаўся ў тым, у чым быў перакананы даўно. У тым, што здольнасцямі тварыць смех на здароўе і ўцеху добрым людзям мы можам пацягацца з кім хочаш».

Надзвычай дарагая У. Ліпскаму галіна яго творчай дзейнасці — дзіцячая літаратура. Як дзіцячы аўтар ён піша ў асноўным для дашкольнікаў і малодшых школьнікаў.

Ужо ў першых сваіх зборніках апавяданняў, прызначаных дзецям («Рыгоркавы апавяданні», «Марынчына казка»), выявілася ўменне гэтага пісьменніка зразумець псіхалогію дзіцёнка, яго інтарэсы, кола захапленняў.

Амаль 30 год Уладзімір Сцяпанавіч Ліпскі ўзначальвае часопіс «Вясёлка», які ў красавіку гэтага года адзначыць сваё 50-годдзе. Па выніках усебеларускага нацыянальнага конкурсу сродкаў масавай інфармацыі «Залатая ліцера», які ўпершыню праводзіўся ў Беларусі ў 2005 годзе, часопіс «Вясёлка» прызнаны пераможцам сярод дзіцяча-юнацкіх часопісаў Беларусі.

***Падрыхтавала Маргарыта Яфімава.***

# МАМА. МАЛІТВА СЫНА

## (старонкі з кнігі)

Цяпер маёй Маме было б сто гадоў. Дваццаць пяць з іх яна жыве ў нябесным царстве. І кожны дзень (!), як яе няма, адчуваю яе позірк, бачу яе мілую ўсмешку, чую яе напеўны голас. Яна са мною ў памяці і ў сэрцы. З ёй іду па жыцці, па яго сонечных і камяністых сцяжынах.

Мама! Ачніся, адгукніся, завітай да сына ў госці. Хачу хоць на міг убачыць цябе жывую. Асірацелым застаўся на зямлі твой меншанькі...

Во, ідзе мяккаю хадою. Яна заўсёды так хадзіла: каб не патрывожыць сон дзіцяці, каб не прытаптаць зялёную травінку, каб не спалохаць куру, якая грэбаецца ў пясочку...

У дзень 6 мая, калі загінуў святы Юры, Юрай, Юр'я, Георгій, Ягорый, Мама нарадзіла мяне. Сёння якраз гэты дзень. І я, пакуль усе ў кватэры спяць, складваю ранішнюю малітву:

«Мая святая пакутніца, мая сонечная цярплівіца! Нялёгка даўся табе апошні падскрэбак. Усіх раджала ў сваёй хаце, а мяне ў казённай радзільні пад наглядам акушэркі.

У той дзень у Шоўкавічах выганялі кароў на пашу. Прасілі Бога: каб карміліцы былі здаровымі і прынеслі прыплод, каб захаваў ніўкі ад граду, каб паслаў вясновую расу на ўраджай і на лекі.

А Мама раджала мяне ў Горвалі, у драўлянай лякарні. Быў панядзелак — цяжкі дзень.

Мама родная!

Ты зрабіла для мяне панядзелак пажыццёвым святам. У гэты дзень не жыву — лятаю. Светла думаецца. Хочацца працы, сустрэч, радасці і слёз.

Я пажыццёвы твой даўжнік, Мама.

Я вечны твой улюбёнец, матуля. Ты ў сорак два гады рашылася на подзвіг. Каб жа ты ведала, родная, як удзячны табе, што дала магчымасць спазнаць найвышэйшыя чалавечыя пачуцці і адчуць асалоду жыцця.

Мама! Схіляю перад табой заснежаную галаву.

* * *

Малоцім жыта.

Ды не камбайнам. Гасім пранікам па снапах. Малоцім, калашмацім калоссе, каб выбіць з яго зярняты.

І вось мы з Мамай, сілачы, дубасім пранікамі па жыце. Сядзім на падлозе там, дзе стаяў абедзенны стол. Цяпер ён і лавы падсунуты да печы. Шафчыкі, паліцы панакрываны посцілкамі. Абраз Ісуса з кута Мама зняла, пацалавала і занесла ў святліцу. Навошта яму глытаць пыл разам з намі.

Сядзім і малоцім жыта.

Мама падахвочвае:

— Давай, сынок, не разам стукаць, а па чарзе. Атрымаецца музыка...

Тая музыка пранікаў і цяпер гучыць у вушах: бах, бах, ба-ба-бах.

Пазіраю на Маму, а ў яе пад носам выраслі сівыя вусікі. Мне смешна з Мамы, я выпускаю з рук пранік.

І Маме смешна, бо і ў мяне пад носам такія ж вусікі. Малы, а з вусамі.

Бяжым да люстэрка. Рагочам адно з аднаго. От і перадых атрымаўся. А Мама прапануе яшчэ кубак малака з лустай хлеба.

Сядзім і ўплятаем.

Пах таго хлеба помню і цяпер. Я ведаў яму цану. Ведаў, як ён даваўся бацькам. І сам падмагаў здабываць яго.

* * *

Бацька ўнёс у хату цялятка. Мама ішла следам. Руку адцягвала даёнка. У ей малака па вушкі.

— Во, кароўку табе дарую, гадуй, — сказаў бацька.

Ён паставіў чорна-белае дзіва на падлогу. Яно пастаяла крышку, а пасля капыцікамі цок-цок і пахісталася ў кут, дзе Мама рыхтавала яму пасцельку.

Цялятка легла на посцілку. Я прымасціўся побач і пачаў гладзіць. Зверху галавы намацаў два бугаркі-рожкі. Правёў далонню па чорнай радзімцы, якая легла на ўвесь лоб. Зачапіў доўгія вейкі, з-пад якіх даверліва пазіралі на мяне вялікія вільготныя вочы. А калі мае пальцы дайшлі да пысы, то цялятка шлёпнула губамі і шустра ўхапіла мой вялікі палец, пачало прыцмокваць, ссаць яго.

— Згаладалася, маё міленькае, — тут жа азвалася Мама і падала мне бутэльку з соскай. — Кармі яго, сынок...

Цялятка, як дзіцятка, на ўсе губы абхапіла чырвоную соску і пакрэктвала ад асалоды. Праз хвіліну ажыў хвосцік у майго падкормыша, і я падумаў, што жывільнае малачко дайшло аж туды.

Цялятка стамілася ссаць, заплюшчыла вочы. А мне спаць не хацелася. У мяне апетыт узыграўся. У бутэльцы боўталася яшчэ пітво, і я перагнуў яе над сваім ротам, ухапіў соску, і ў мяне ўліўся жывільны струмень.

То было не малако, а густая смятанкавая вадкасць. Яе смак памятаю і сёння. І чую мамін голас:

— Валодзька, на й табе малодзіўка.

Яна падала мне жалезную кварту з каровіным ласункам. Я ведаў, што тую кварту ў вайну пакінуў нам паранены партызан. Бацька прынёс яго з лесу, а Мама лячыла зёлкамі. Кварта лічылася бацькавай, з яе ён піў ваду, малако, чай. Мама ў ёй падала мне малодзіва. Яна, відаць, хацела, каб я хутчэй вырас і стаў такім дужым здараўяком, як бацька.

От напіўся, от набухаўся тады малодзіва. На ўсё жыццё! Яно часта-часта нагадвае мне галоднае дзяцінства. Праз тое малодзіва, здаецца, улілася ў мяне маміна пяшчота...

* * *

Шчаслівей даваць, чым браць. Дык навучымся, людзі, шчыра аддаваць сваю дабрыню, ласку, спагаду, міласэрнасць. Хай з вуснаў нашых выходзіць добраславенства, а не кляцьба. Хай рукі нашы ўмеюць рабіць толькі добрыя справы. Навучымся цешыцца з тымі, хто радуецца, і плакаць з тымі, хто плача.

Я асабліва звяртаюся да сучасных мам. Мілыя і добрыя, ад вашай «сяўбы» залежыць «жніво», жыццё на зямлі. Пасееце самалюбства, распусту, блуд, ідалапаклонства, нянавісць, спрэчкі, зайздрасць, гнеў, забойства, п'янства, тое ж і ўзыдзе ў вашых дзецях, унуках. Давайце, родныя, навучымся сеяць толькі добрае: любоў, радасць, супакой, цярплівасць, зычлівасць, вернасць, лагоднасць. Біблія вучыць, на такіх сейбітаў няма забаронных законаў. Дык чаму ж не адчуць, мамы, што вы самі богі на зямлі, што ад вас у многім залежыць жыццё, будзе яно ў вас райскім ці пякельным...

* * *

Адзін мой добры сябар, таксама вясковец, які выбіўся ў «вялікія людзі», аднойчы сказаў:

— Валодзя, нас такімі зрабілі нашы мамы... Што пасеялі, тое і ўзышло... На «сяўбу» яны паклалі жыццё...

Згодзен, дружа!

Але ж давайма, сябры, пры восеньскім умалоце помніць сейбітаў. Давайма ўслаўляць іх у словах, тостах, калыханках для дзяцей і ўнукаў. А каб прадоўжылася жыццё на зямлі, каб не згінуў наш род, давайма рупіцца пра асабістую сяўбу. Чым кінемся ў глебу? Хто на што здатны?

Пачуйце мяне, бацькі, чые дзеці люляюцца ў казённых дзетдамах, чые дзеці беспрытульна бадзяюцца па свеце, чые дзеці пераступілі божыя запаветы...

* * *

Вераснёвая раніца 1947 года. Сонечна ў небе. Загадкава святочна на душы. Мама вядзе мяне ў першы клас.

Школа тады была ў Леўкавай хаце. Гэта, як выйдзеш з нашай, трэба мінуць хаты Трацэўскіх, Маркавых, Козыраў, Бабічаў, Новікаў, Бельскіх. Вось ты і ў школе.

Не памятаю ўсе свае ўборы ў той дзень. Але на ўсё жыццё ўсеклася, што на нагах былі лапці.

Бацька сплёў з луцця. Абадраў ліпку на лыка для першакласніка Ліпскага.

Лапці з луцця пляліся на выхад у людзі, для вечарынак. Гэта ж не тое, што лапці з лазы. У іх толькі кароў пасвіць, сена касіць. Яны хутка чарнеюць, вушкі рвуцца. А з луцця лапці беленькія, парыпваюць пры хадзьбе, як боты ў пана Быкоўскага...

Расказваю цяпер дзецям сваім, Ігару і Марыне, што ў першы клас пайшоў у лапцях, — не вераць. А ў той год пазналі мы страшны голад. Вясной збіралі на палетках мёрзлую бульбу, пяклі аладкі. З жалудовай мукі замешвалі хлеб. З лебяды і крапівы варылі супы. Не да ўбораў было, толькі б выжыць...

І вось ідзём з Мамай па пыльнай вуліцы. А мяне аж распірае ад радасці. Верабей ціўкне, і я свісну яму ў адказ. Певень кукарэкне, і мне хочацца кукарэкнуць, паздароўкацца з ім. У сваім двары хваравіта закашляла Аршулька Вельская, і я закашляў, перадражніў. Тут ужо Мама прыпыніла мяне:

— Што ты робіш, сынок?.. Хіба можна са старых насміхацца?.. А калі настаўніца пра гэта даведаецца?..

Я і абмяк. І дайшло да мяне, што адгуляў, аддзяцінеў. Пара адказваць за свае «конікі».

Настаўніца Аляксандра Лявонаўна шмат чаму навучыла мяне: пісаць літары і чытаць кніжкі, лічыць і маляваць, дэкламаваць вершы і спяваць.

А мамін урок — зарубка на сэрцы на векі вечныя. Паважай старасць. Не смейся з нямоглых. Дапамажы слабаму. Мамінай навукай мацую сваю душу.

* * *

Сядзім з Мамай і плачам.

Мама плача, таму што я плачу. А я плачу, бо шкада пеўніка. Трапечацца, акрываўлены, а галава яго ляжыць каля калоды.

Божа, я ўсё жыццё вымольваю дараванне за той грэх. А ў чым ён? І ці грэх гэта?

Захварэў бацька. Ляжыць у запечку, на палку і стогне на ўсю хату. Пеця досвіткам пайшоў касіць. Коля пабег на падсочку. Падразае сосны, збірае з кубарыкаў жывіцу. Ліда кароў калгасных доіць. Люба — у Дабужы, Клава — у Аўцюках. Жывуць там і не ведаюць, што бацька стогне. Адзін я з Мамай, мужчына і гаспадар.

— Сынок, — просіць Мама, — давай пеўніка заб'ем, бацьку суп зварым.

Не ведаю як дзе, а ў нашых Шоўкавічах мяса курынае лічылася лекарскім. Пеўніка ці курачку пазбаўлялі жыцця ў двух выпадках: калі яны захварэюць альбо калі хто, не дай Бог, у сям'і занядужае.

Выйшлі мы ў двор, Мама заманіла курэй у хляўчук, сыпанула ім жыта. Заю-

шыліся яны, дзеўбучы зярняткі. У гэты час Мама і падлавіла цыбатага агністага пеўніка. Ён не вельмі і абураўся, што яго ўзялі на рукі. Пазіраў наўкол шклянымі вачыма і нешта клекатаў, як бы пытаўся: «Што такое, у чым справа?..»

Мама паднесла пеўніка да калоды. А я ўжо стаяў там з бацькавай сякеркай. Ох, аднойчы перапала мне з-за яе. Уздумаў секчы дрот дый вышчарбіў сякеру. Злосны бацька ўскочыў у хату: «Дзе той вуж?.. Што нарабіў з маім інструментам?!» І давай вяроўчынай мянціць па мне. Б'е па спіне, а я чую, нешта цёплае па нагах пацякло.

З таго часу ніколі не браў у рукі бацькаву вострую сякерку. А тут Мама сама мне падала яе. Трэба ж ратаваць бацьку!

Я падняў угору сякерку і з усяе сілы цюкнуў па шыі пеўніка. Галава ўпала ў траву каля калоды, а пеўнік залопаў крыламі. І толькі цяпер дайшло да мяне, што ўтварыў. Я ўпаў у траву і пачаў так плакаць, аж прыбегла ў двор цётка Анэта, бацькава старэйшая сястра. Яна жыла цераз вуліцу і пачула, як я галашу.

— Ох, Валодзька... Хрыстос з табой... Думала, нагу сабе пакалечыў, — хрысцілася, божкала цётка Анэта.

Мама ціха плакала і супакойвала мяне:

— Сціхся, сынок, я болей ніколі-ніколі не буду прасіць цябе на такое...

Мама стрымала свае слова.

* * *

Ці бывае калі сорамна перад Мамай? Бывае.

Адзін сорам нашу з маленства. А было так.

Насупраць нашай хаты, цераз вуліцу, жыла цётка Анця. Гасцінная і прыветлівая, крыху набожная. Яна была замужам за Міколам, братам майго бацькі. Той рана памёр, пакінуў па сабе спадчыну — сына Ваціка і дачку Валю. Яго дзеці — мне дваюрадныя брат і сястра. А паколькі я, іх брат у параўнанні з імі — малы, смешны, то яны і пацяшаліся з мяне. От аднойчы Валя ўгаварыла перайсці да іх жыць. Узяла тым, што ў іх ёсць каза, і яна штораніцы будзе даваць мне лячэбнае малако. Паабяцала пашыць мне модны касцюмчык, ад якога ахне ўся дзятва ў Шоўкавічах.

Вечарком я сабраў нейкія свае манаткі ў торбачку, падлавіў момант, калі ў хаце нікога не было, і шмыкнуў у прымы.

У новай хаце, а я там бываў штодня, мяне тады прынялі як раўню. Частавалі ўсімі прысмакамі, налілі кубак казінага малака, паклалі спаць у самую лепшую пасцель.

А раніцай, як я толькі расплюшчыў вочы, да Анці прыйшла Мама. Яна, помню, была ўстрывожаная, стаяла ў запечку, пазірала на мяне і ледзь не плакала:

— Сынок, чым жа я табе не ўгадзіла? Чаму табе дома дрэнна? А я ж, сынок, усю ночачку не звяла вачэй...

Я кінуўся да Мамы. Абшчаперыў яе. І выгукнуў:

— Даруй, Мама!..

З тае пары ніколі не здраджваў сваёй дамоўцы. Яна для мяне — мілы кут, раднейшы за ўсё на зямлі.



**Арсен САКУН**

# ПАГЛЯДЗІМ НА СЯБЕ ЗБОКУ

*Самая прекрасная*
*из женщин —*
*Женщина с ребенком на руках:*
*Мать, жена и просто*
*женщина,*
*Лирою воспетая в веках…*

Гэтыя словы, не магу прыпомніць кім і калі напісаныя, згадаліся мне падчас гутаркі са старшынёй сельсавета ў адным з раёнаў нашай рэспублікі. Рэгіён той па памерах немалы — 20 населеных пунктаў з агульнай колькасцю пражываючых за 1000 чалавек. І калі я спытаў у кіраўніка мясцовай улады пра тое, як абстаяць справы ў сэнсе дэмаграфіі, яна сумна адвяла ўбок вочы і адказала: летась 40 чалавек пахавалі, а зарэгістравалі толькі дваіх народжаных...

Далей наша рамова ішла туга і балюча. Так ці інакш яна тычылася праблем не толькі местачковага характару, а больш маштабных — у цэлым лёсу нацыі. З яго такім трагічным гістарычным мінулым, якое тое і рабіла, што ставіла беларусаў на мяжу выжывання пад націскам войнаў, нападаў з усіх бакоў у памкненні падпарадкаваць і прыгнесці. Дасюль на нашай зямлі стаяць доты і іншыя ўмацаванні вялікаімперскіх захопнікаў.

І колькі чужынцаў не прыходзіла сюды з такой нагоды, праз той ці другі час яны ганебна зыходзілі з Беларусі, бо гэты «малы» народ любіў волю, хацеў жыць самастойна, шануючы сваю годнасць і чалавечую прыстойнасць. Хутка ў неймаверных пакутах адраджалася разбуранае, узнаўлялася жыццё, вытворчасць, нараджаліся немаўляты — былі сем'і, дзе налічвалася па 10 і больш дзяцей. Было цяжка, і вельмі. Але ніхто пра тое не думаў — памкненні былі скіраваны на працяг жыцця, на захаванне Бацькаўшчыны сваёй. Любой цаной! Яно, як запавет, само па сабе рухала людзьмі і валодала імі, пераходзячы з пакалення ў пакаленне, даючы жыццё нашчадкам і ўсяляючы веру ў яго.

...З апошняй захопніцкай вайны прайшло больш за шэсць дзесяцігоддзяў. З таго часу мы самастойныя і незалежныя, робім жыццё па сваіх магчымасцях і разуменні. Мы вельмі сягнулі наперад у адукаванасці, сталі вядомымі ў свеце па многіх параметрах чалавечага развіцця, дастойна заявілі свае стваральныя здольнасці на міжнародных рынках. Нас сталі прызнаваць, з намі лічацца цывілізаваная Еўропа і ўвесь Захад. Мы свята ўмацоўваем свой суверэнітэт, даражым ім.

Здаецца, робім усё правільна. А калі так, то нас павінна станавіцца больш, бо колькасны патэнцыял мае адметную асаблівасць нарошчваць стваральны. На жаль, такое не адбываецца. Карэнных беларусаў становіцца менш і менш, колькасна лік жыхароў рэспублікі падтрымліваецца за кошт мігрантаў адусюль, але тэндэнцыя зніжэння яе насельнікаў застаецца...

Народная мудрасць сцвярджае: «Калі твае планы разлічаны на гады — сей хлеб, калі на дзесяцігоддзі — саджай дрэвы, а калі на стагоддзі — нараджай і выхоўвай дзяцей».

З такімі абагульненнямі можна лічыцца, а можна, як гаворыцца, пакінуць іх па-за кадрам. Усё залежыць ад асабістага ўспрыняцця іх сутнасці і асэнсавання значнасці ў агульнаграмадскім гучанні.

З дзяцінства ўсе мы выхоўваемся ў сваіх айчынных школах, дзе ледзь не на кожным уроку нам так даходліва тлумачыцца пра любоў да Айчыны, яе багатай геранчнай гісторыі, слаўных традыцый продкаў, хто ахвяраваў усім дзеля Бацькаўшчыны, дзеля таго, каб яна была і жыла на роўных сярод дзяржаў свету. І сёння Беларусь на гэтым шляху самасцвярджэння і свайго ўваходжання ў цывілізаваны свет, які прад'яўляе надзвычай высокую шкалу патрабаванняў. І добра, што мы не палохаемся іх, а з году ў год спрабуем сябе дзе толькі можна: удзельнічаем у Алімпійскіх гульнях — і часам небезвынікова, разнастайных сусветных конкурсах — дзе таксама дэбютуем паспяхова, а то і прызёрамі становімся. На міжнародных арэнах усё часцей гучыць гімн нашай дзяржавы і ўздымаецца Дзяржаўны сцяг. У нас ёсць свае таленты, свая нацыянальная годнасць, дзеля чаго трэба жыць і ствараць. Якраз ставаральніцкая дзейнасць, бадай, самая ўласцівая рыса беларусаў. Увесь гістарычны шлях нашай краіны і народа адметны гэтым. І каб не губляўся гэты каштоўны традыцыйны скарб, трэба захоўваць патэнцыял яго стваральнікаў. Трэба нараджаць дзяцей і выхоўваць іх у духу паважлівых адносін да таго каштоўнага, што ў нас ёсць, і тых добрых памкненняў да прызнання краіны і нас, беларусаў, у свеце. Дзе б мы не эпізадычна засвечваліся, а прысутнічалі, там пастаянна ў рэйтынгу надзейнага партнёра, калі гэта тычыцца эканамічных зносін з цывілізаваным светам і са сваёй цвёрдай пазіцыяй і светапоглядам на развіццё міжнародных падзей.

Мне не хочацца ў гэтых публіцыстычных разважаннях кранацца палітычных праблем, гэта вельмі далікатная тэма, але так ці інакш яна тычыцца дэмаграфічнай сітуацыі любой краіны і яе геапалітычнага становішча. А таму ход сваіх разважанняў перавяду на тэму, што тычыцца кожнага, хто сёння жыве, а больш таго, якім будзе лёс народа і краіны нашай заўтра, у больш аддаленай перспектыве. Пра гэта мы павінны думаць і сёння, і заўтра, і заўсёды. І жыць так, каб перадаць сваю заклапочанасць сваім нашчадкам з усёй перасцярогай, небяспечнасць якой пагрозліва навісла над намі. З абсягу зямлі знікаюць не толькі малалікія хутары, а ўжо і вёскі, дзе некалі было па 100 і больш двароў. Бязлюдзеюць не толькі ўзмежныя пасяленні, аддаленыя ад цэнтраў, губляюць жыццяздольны рэсурс так званыя перспектыўныя населеныя пункты. Сёння індывідуальнага будаўніцтва як такога ў вёсках мала, яно перамясцілася ў ваколіцы вялікіх і малых гарадоў. Нашы людзі адыходзяць ад зямлі, чаго не назіралася, як кажуць, скону год. А было наадварот — кожны хацеў мець свой зямельны надзел і адчуваць сябе гаспадаром.

Гэта можна тлумачыць рознымі акалічнасцямі і абставінамі, а найбольш прагавітасцю да працы і жыцця. Прычым там, дзе нарадзіўся, дзе карані продкаў, іх добры след на зямлі. Ад іх і ўсяго гэтага зыходзіла тое добрае памкненне. Яшчэ падлеткамі дзеці прызвычайваліся да бацькоўскіх клопатаў, у якіх незаўважна падрасталі і самі станавіліся гаспадарамі. Вёскі і пасяленні прырасталі новымі забудовамі, а дынастыі — новымі пакаленнямі, жыццё тут заўсёды віравала, было поўнае сэнсу. Яно ніколі не пакутавала ад звыкласці.

І нікому ніколі не здавалася, што калі-небудзь з нашай беларускай вёскай адбудзецца такое, што яна так будзе губляць сваю рэпутацыю і зыходзіць у нябыт. Каго і за што вінаваціць у гэтым? Цывілізацыю, якая выклікала адсюль адток людзей у гарады? Тэхнічны прагрэс на сяле, заклікаяны зрабіць прэстыжнай працу хлебаробскую і прыцягнуць да яе моладзь? Здаецца, гэта будзе не зусім правільна. Названыя акалічнасці — гэта толькі нейкая частка з усяго, што так крута павярнула лёс вёскі. Карані з'явы ляжаць значна глыбей. На пэўным этапе развіцця нашага грамадства і вытворчасці адбылася свай-

го роду пераацэнка каштоўнасцей у сэнсе ўмоў кошту чалавечай працы там і тут. Новыя пакаленні вяскоўцаў аддалі перавагу гораду. З вёскі з'язджала ўсё больш і больш маладых людзей. З блаславення сваіх бацькоў яны ў пошуках лепшай долі множылі рады рабочага класа і гараджан, асвойвалі новы цывілізаваны лад жыцця. А да таго часу тут ужо зацвердзіўся тып сям'і, у якой максімум двое дзяцей. Гарадскія камуналкі і рабочыя інтэрнаты дыктавалі свае ўмовы, ламаючы ўстаялы вясковы побыт «гарадскіх навабранцаў». Перабудова побыту ішла балюча для неўстаялай і падатлівай душы гэтых людзей. Віхляючы ў гарадскім віры імклівасці, адны гарманічна ўпісаліся ў гэты ансамбль, іншых несла гэтай плынню на ўзмежкі жыцця. Не хапала месца ў яслях і садках, дзяцей везлі да бацькоў у вёску, уладкоўваючы сваё жыццё «на расцяжках»: рабочыя дні — у горадзе, выходныя — на вёсцы. Сацыяльнай небяспекі такой сям'і ў той час ніхто не падазраваў. А яна нарастала і вылілася ў тое, што мы маем цяпер. У цэлым у рэспубліцы каля 60% сямей абмяжоўваюцца адным дзіцем, 35% — двума. І толькі 6% беларускіх сямей маюць 3 і больш дзяцей.

У нас цяпер самая масавая сям'я — аднадзетная. Гэта значыць, пакаленне цяперашніх дзяцей будзе ў два разы меншым за пакаленне іх бацькоў. Статыстыка вельмі насцярожваючая, яе глыбінны сэнс павінен быць успрыняты намі, цяпер жывымі, як знак бяды і вялікай трывогі, як сігнал, што так жыць далей нельга, трэба нешта рабіць, каб захаваць сябе на гэтай зямлі нацыяй, здольнай да самасцвярджэння і быцця роўнай сярод роўных...

У гэтай праблемы многа ракурсаў. Да яе мае прамое дачыненне і наступная статыстыка: у 2006 годзе на Беларусі было зарэгістравана каля 76 тысяч новых сямейных саюзаў. У той жа час звыш 29 тысяч сем'яў распалася. Гэта па афіцыйных даведках. А колькі сямейнай неўладкаванасці хаваецца па-за межамі афіцыйнай уліковасці, не скажа ніхто. Тагачаснае жыццё павярнула вельмі крута, да такіх кардынальных змен у ім большасць нашых людзей аказалася непадрыхтаванай. Атрымаўшы моцны ўдар па свядомасці, многія проста разгубіліся, страціўшы жыццёвыя арыенціры. Іх душэўны стан ніяк не спрыяў справе ўмацавання сям'і. А ў заложніках ад гэтага зноў аказаліся дзеці. Хтосьці з бацькоў згубіў работу па месцы жыхарства, падаўся ў яе пошуках далёка за межы краіны. Вахтавы метад працы, вахтавы метад выхавання дзяцей...

Зноў паўстае пытанне: «Каго вінаваціць у тым, што адбылося? Дзяржаву? Уладу?» Будзе няправільным, бо яны спахапіліся і робяць усё, што могуць, — асабліва ў апошнія гады.

Сямейныя каштоўнасці сталі прыярытэтам якраз дзяржавы і ўлады. Свае намаганні яны скіравалі на пераадоленне ўсталяванай з 1993 года ўстойлівай дэпапуляцыі насельніцтва, калі памірала на Беларусі штогод больш, чым нараджалася. Сталі павялічвацца памеры дапамогі сем'ям. Цяпер сістэмай дзяржаўнай дапамогі ў рэспубліцы ахоплена звыш чвэрці дзяцей да 18 год. Павялічаны памеры дапамогі сем'ям, у якіх трое і больш дзяцей. Устаноўлены спецыяльныя чэргі на жыллё для шматдзетных сем'яў, ільготныя крэдыты для іх, іншыя віды матэрыяльнай падтрымкі.

2006 год прайшоў у краіне як Год маці, што садзейнічала павышэнню статуса жанчыны-маці і прызнанню яе аўтарытэту ў высакародным сэнсе прадаўжальніцы роду чалавечага і захавальніцы сям'і.

2007 год Прэзідэнтам краіны аб'яўлены Годам дзіцяці. Гэта трэба расцэньваць як лагічны працяг мэтанакіраванай дзейнасці па выпраўленні сітуацыі ў дэмаграфічным развіцці краіны. Праблема гэта абазначылася вельмі востра, аб чым сведчыць распрацоўка Нацыянальнай праграмы дэмаграфічнай бяспекі.

Колькасць нашага насельніцтва цяпер складае каля 9,7 мільёна чалавек. Столькі нас з усімі, хто аднекуль прыехаў і пражывае цяпер на Беларусі. Што-

год такіх фіксуецца каля 9 тысяч чалавек, дзякуючы чаму памяншаецца штучны адыход насельніцтва. Да прыкладу, у 2005 годзе памерла 115,2 тысячы чалавек. За той жа час нарадзілася толькі 79,8 тысячы чалавек. Нам проста трэба ратавацца, каб захаваць патэнцыял нацыі. Сёння ў рэспубліцы 2,4 мільёна чалавек складаюць пенсіянеры. Штогод да гэтай лічбы дадаецца не менш 70 тысяч чалавек. Простая арыфметыка паказвае, што нацыя старэе, яе ўзнаўленне пад вялікім пытаннем.

...Кажуць, нарадзіць дзіця лягчэй, чым узгадаваць. Дзякуй Богу, летась дзяцей у краіне нарадзілася на 6% больш, чым у папярэднім, 2005-м.

Прызнацца, няёмка ў гэтым святым паняцці ўжываць працэнтны тэрмін, але другой статыстыкі няма. Затое яна сведчыць і пра наступнае: сям'я, дзе нарадзілася трэцяе дзіця, рызыкуе патрапіць у катэгорыю малазабяспечанай. Гэта значыць, у ёй не будзе неабходных умоў для нармальнага развіцця дзяцей.

Тым не менш дзяцей, маючых патрэбу ў дзяржаўнай абароне, становіцца ў нас усё больш. Пакідаюць сваіх дзяцей здольныя гадаваць і выхоўваць іх бацькі, бо самі яны вядуць абыякавы лад жыцця, співаюцца. Пытанне, як разбудзіць у іх чалавечыя пачуцці, даўно стаіць рубам і непакоіць улады і грамадства. Прэзідэнт Рэспублікі Беларусь Аляксандр Лукашэнка выдаў спецыяльны ўказ «Аб дадатковых мерах па дзяржаўнай абароне дзяцей у няўдалых сем'ях», які ўступіў у сілу 1 студзеня 2007 года.

Цяпер за ўтрыманне сваіх дзяцей у школах-інтэрнатах, іншых дзяржаўных спецыяльных навучальных установах будуць плаціць самі гора-бацькі. Ім давядзецца працаваць на роўных з усімі і частку зарплаты аддаваць дзяржаве.

Пакінутыя дзеці — боль і гора, якіх не перадаць. Адна справа спачуваць дзецям, якія ўтрымліваюцца ў інтэрнатах і дзіцячых дамах, зусім іншая — як дапамагчы ім выбрацца адтуль. У іх вельмі вялікая патрэба ў бацькоўскім клопаце. І знаходзяцца добрыя людзі, прыязджаюць і забіраюць некаторых, на жаль, не ўсіх... Большасць застаецца ў сценах дзяржаўных устаноў.

Перада мною маляўніча аформленая кніга «Матери Минщины». Яна выйшла ў свет у Год маці — як даніна павагі і ўдзячнасці самым славутым прадстаўніцам рэгіёна, якія нарадзілі і выхавалі па тры і больш дзяцей. Светлыя вобразы гэтых людзей паўстаюць са старонак выдання ва ўсёй прыгажосці і веліччы. 129 звычайных жанчын з высокім званнем Маці.

Для такіх дзеці — усё. Яны іх разумеюць — як сваіх, так і пакінутых. У іх столькі дабрыні і цяпла — на ўсіх хапае мацярынскай ласкі.

Душэўныя і моцныя духам матулі — гераіні гэтай кнігі. Такой трэба нарадзіцца, інакш не можа быць, каб у адной асобе столькі спалучылася ўсяго добрага і чалавечага. У іх парадак дома і на рабоце. Яны многае ўмеюць і здатныя навучыць гэтаму тых, хто побач.

Чытаеш старонкі росповеду пра іх і міжволі задумваешся: «Чаму побач з такім цудоўным і прыгожым ужываецца тое, што так перашкаджае нармальнаму жыццю?»

Нядаўна мне трапілася на вочы публікацыя ў рэспубліканскай газеце, дзе расказвалася аб жыхарах адной з вуліц Дрыбіна, што на Магілёўшчыне. Тут ледзь ці не ў кожным з 44 дамоў выхоўваюцца прыёмныя дзеці. Няма пакуль у гэтай вуліцы ніякага афіцыйнага статуса дзіцячай вёскі ці мікрараёна. Проста тут жывуць добрыя і спагадлівыя людзі, хто цвяроза глядзіць на жыццё і неабыякавы да чужога болю. Паставіўшы на ногі сваю дзятву, яны цеплыню сваёй душы і дабрыню бацькоўскіх сэрцаў аддаюць тым, каму па абставінах жыцця не давялося гэтага зведаць ад сваіх бесклапотных продкаў.

Кожнаму з нас дарагая мацярынская любоў і бацькоўскі клопат. Кожны з нас ад гэтага адчуваў сябе абароненым і надзейна ўваходзіў у самастойнае жыццё.

Як не даражыць гэтым і не шанаваць яго?

Дык не ж, на некаторых находзіць нейкае ачмурэнне, ад чаго яны становяцца некіруемымі, губляюць стрыжань жыцця і коцяцца пад адхон, забываючыся пра сваіх дзяцей і пра тое, што яны людзі. Колькі запушчаных бадзяжнікаў шнырацъ па гарадскіх задворках — абрызлых ад «чарніла», знявечаных побытам у падваротнях. А некалі ж яны, як і ўсе нармальныя людзі, мелі сям'ю, сваё жытло, нарадзілі дзяцей, а цяпер забыліся пра іх.

А вёска ў гэтым сэнсе наогул легалізавалася. Сумленнаму і свядомаму чалавеку прыкра глядзець на гэта. Але што ён зробіць, калі эпідэмія людскога ачмурэння наступае з усіх бакоў, на сталых і на тых, хто толькі на ногі становіцца, а яны ўжо не трымаюць, бо кругам ідзе галава ад алкагольнага дурману.

Сумленныя і свядомыя як могуць стараюцца аберагчы ад гэтай напасці сваіх нашчадкаў. Каму ўдаецца, а каму і не.

Вось часам і думаецца: каб падняліся з магіл нашы дзяды і прадзеды і глянулі на нас, да чаго мы нялюдзеем, не хочам жыць па-чалавечы. Яны ж, тады жыўшы, мала вучыліся і мала ведалі. Але як правільна жылі! Калі і выпівалі, то толькі з нагоды і ў меру. Яны былі моцнымі і здаровымі, хаця працавалі ого як і колькі. І пакаленне нашчадкаў вызначалася жыццяздольнасцю.

Не, я не за тое, каб мы тут жа павярнулі ў тую даўніну. А вось за розум трэба брацца, каб людзьмі звацца...



## Стэфанія Міхайлаўна СТАНЮТА

*(1905—2000)*

## ЭТАПЫ ЛЁСУ

Стэфанія Міхайлаўна Станюта нарадзілася **30 красавіка 1905 года** ў Мінску. Бацька яе, Міхаіл Пятровіч Станюта, быў вядомым мастаком.

У **1919 годзе** пачынаецца творчая дзейнасць Стэфаніі Станюты. Яна ўдзельнічае ў спектаклях Першага таварыства беларускай драмы і камедыі, а з 1920 года працуе ў Беларускім дзяржаўным тэатры. Сёння гэта Нацыянальны акадэмічны тэатр імя Янкі Купалы.

**У 1926 годзе** Стэфанія Станюта скончыла Беларускую драматычную студыю ў Маскве і разам з іншымі выпускнікамі размеркавалася ў Другі Беларускі дзяржаўны тэатр (сёння гэта Віцебскі акадэмічны тэатр імя Якуба Коласа). Менавіта тут актрысе давялося ўвасобіць на сцэне свае першыя значныя ролі. Такія, напрыклад, як роля Тытаніі ў п'есе У. Шэкспіра «Сон у летнюю ноч» або роля Агавы ў «Вакханках» Эўрыпіда.

З **1931 года** Станюта працуе ў тэатры імя Янкі Купалы. Тут актрыса стварыла шэраг яркіх сцэнічных вобразаў, сярод якіх нямала камедыйных. Вельмі ўдала сыграла яна дуэнью Даратэю ў п'есе Р. Шэрыдана «Дзень цудоўных падманаў», Дзіяну ў спектаклі «Дурная для іншых, разумная для сябе» Лопэ дэ Вегі, Зіну Зёлкіну ў камедыі Кандрата Крапівы «Хто смяецца апошнім». З роляў некамедыйнага плана варта ўзгадаць Марылю ў спектаклі «Раскіданае гняздо» Янкі Купалы.

Адметным этапам у творчай біяграфіі Стэфаніі Станюты стала роля Бабулі ў спектаклі «Я, бабуся, Іліко і Іларыён» Н. Думбадзе і Р. Лордкіпанідзе. Гэтая работа актрысы вылучалася глыбокім псіхалагізмам, шматфарбнасцю, яркасцю гучання.

Стэфаніі Станюце было наканавана спазнаць сапраўдную славу вялікай актрысы ў сталым узросце. Прыкладам выключнага акцёрскага майстэрства і інтэлектуальнасці падыходу стала адна з апошніх яе тэатральных работ — Мод у спектаклі «Гаральд і Мод» (К. Хігінс і Ж. К. Кар'ер).

Нельга абмінуць увагай і фільмы з удзелам Стэфаніі Міхайлаўны Станюты. За межамі Беларусі яна атрымала шырокую папулярнасць пасля фільма Ларысы Шэпіцька і Элема Клімава «Развітанне з Мацёрай».

Сярод запамінальных кінаработ Стэфаніі Станюты роля настаўніцы ў фільме **1958 года** «Гадзіннік спыніўся апоўначы», роля ў лірычнай камедыі «Цешча» — **1974 года**, дзіцячы фільм-казка «Пра Чырвоную шапачку» **1977 года**, экранізацыя рамана Івана Мележа «Людзі на балоце» — **1981 год**, камедыя «Белыя Росы» **1983 года**. Апошні фільм «Курортны раман» з удзелам Стэфаніі Станюты выйшаў у **2001 годзе.**

У **1982 годзе** Стэфанія Міхайлаўна Станюта атрымала Дзяржаўную прэмію БССР за тэатральную работу.

**У 1988 годзе** Стэфанія Станюта была ўганаравана званнем Народнай артысткі СССР.

За ролі ў кіно ў **1991 годзе** актрыса атрымала прыз Гільдыі кінаакцёраў «За выдатны ўнёсак у прафесію» на фестывалі «Сузор'е-91».

А ў **1992 годзе** на II Міжнародным кінафестывалі «Залаты віцязь» атрымала прэмію за адметны ўнёсак у славянскі кінематограф.

Стэфанія Міхайлаўна Станюта пайшла з жыцця **2 лістапада 2000 года.**

# Вераніка ЯРМАЛІНСКАЯ
# ІМЯ ЗОРКІ — СТЭФАНІЯ

Стэфанія Станюта — зорка першай велічыні на небасхіле беларускага тэатра. Яна — адна з самых яркіх, таленавітых жанчын свайго часу, бліскучая актрыса мінулага неразгаданага і цудоўнага дваццатага стагоддзя. Стагоддзя, у якім з'явіўся прафесійны нацыянальны тэатр і прафесія акцёра была бадай што самай прэстыжнай з усіх існуючых тэатральных прафесій.

Амаль з дзяцінства пачалася творчая дзейнасць Стэфаніі Міхайлаўны Станюты. Маленькай дзяўчынкай марыла аб сцэне, ніколі не баялася падмосткаў і глядзельнай залы. У чатырнаццацігадовым узросце выходзіла на сцэну ў спектаклях Першага таварыства беларускай драмы і камедыі. Любіла завучваць рэплікі, уважліва слухала парады рэжысёра. Іграла гарэзлівых дзяўчатак і марыла аб сапраўдных ролях. Крыху пазней скончыла Беларускую драматычную студыю ў Маскве (1926 год) пад кіраўніцтвам вядомага педагога Валянціна Смышляева, які любіў сваіх выхаванцаў і кіраваўся ў сваёй практыцы творчым метадам Канстанціна Сяргеевіча Станіслаўскага.


*С. Станюта ў ролі Гізы. Спектакль «Гульня з кошкай».*

«Валянцін Сяргеевіч быў маім любімым педагогам. У сваіх тэатральных уроках ён спалучаў прыёмы гратэску і буфанады, прымушаў нас шмат працаваць над сабой, валодаць не толькі сваім унутраным станам, але і знешнім малюнкам вобраза. У студыі мы шмат працавалі над пластыкай, рухам і жэстам. Невыпадкова спектаклі ў пастаноўцы Смышляева, у якіх мы, студыйцы, прымалі непасрэдны ўдзел — «Цар Максіміліян» (народная драма ў апрацоўцы А. Рэмізава і М. Міцкевіча, 1924 год), «Сон у летнюю ноч» У. Шэкспіра (1925 год), «Вакханкі» Эўрыпіда (1926 год, з К. Саннікавым) выклікалі цікавасць у тагачаснага гледача. Асабіста мне былі цікавыя змены, якія адбываліся з маімі гераінямі. З задавальненнем працавала над пластычнымі малюнкамі вобразаў, шукала неабходныя выразныя жэсты, грым...» — успамінала вялікая актрыса.

Менавіта з урокаў педагогаў МХАТа і Валянціна Смышляева Стэфанія Міхайлаўна вынесла галоўную ісціну, якую пранесла праз усё сваё акцёрскае жыццё: любую ролю — эпізадычную ці галоўную — трэба іграць як самую любімую і апошнюю, якую табе могуць прапанаваць. Гэта адкрыццё і стала глыбіннай сутнасцю і асноўным законам яе творчасці.

Пасля заканчэння Маскоўскай студыі, з 1926 года, Стэфанія Станюта працуе



*Міхаіл Станюта.*
*Партрэт дачкі Стэфаніі.*

ў Другім беларускім дзяржаўным тэатры, які сёння носіць назву Нацыянальнага акадэмічнага драматычнага тэатра імя Якуба Коласа. С. Станюта была занята ў цікавым рэпертуары і выконвала самыя разнастайныя ролі: Агавы («Вакханкі» Эўрыпіда), Тытаніі («Сон у летнюю ноч» У. Шэкспіра), Псіхеі («Эрас і Псіхея» Е. Жулаўскага). Шэраг роляў быў сыграны і ў савецкім рэпертуары: Манюні («Каля тэрасы» М. Грамыкі), Паліны («Авангард» В. Катаева), Людмілы Міхайлаўны і Настаўніцы («Рэйкі гудуць» і «Горад вятроў» У. Кіршона), Эмілі («Калі спяваюць пеўні» Ю. Юр'іна) і іншыя. І ў кожнай з названых роляў Станюта была непадобнай, непазнавальнай і заўсёды самай яркай і запамінальнай на сцэне.

«...Актрысы першых набораў на-шых вядучых нацыянальных тэатраў былі вельмі ж прыгожымі. Іх хараство дзякуючы выхаванню і самавыхаванню рабілася кампанентам творчай індывідуальнасці і ўзбагачала нашу жаночую частку тэатра зусім адметнай нестандартнасцю абліччаў, — піша Заір Азгур. — Стэфанія Станюта не згубілася сярод такіх дыяментаў прыгажосці. Яе постаць, надзіва адточаныя рухі, дакладныя жэсты, тонкі стан, дзівоснае гарманічнае спалучэнне інтанацый мовы і мізансцэніровачнай позы — усё падначалена ў яе, я сказаў бы, музыцы таго лёсу, аб якім расказвае яе роля ў сённяшнім спектаклі. Размеркаванне паўз і раптоўна імклівых маналогаў, учэпісты дыялог з партнёрам і ўменне слухаць яго — абавязковыя, мабыць, для прафесійнага артыста. У Стэфаніі Станюты такія якасці таленту натуральныя. Яна нічога не робіць на падмостках па прымусе, па падказцы, па волі рэжысёра. Так, як жыве яе гераіня на сцэне, і павінна ўсё быць!..» Я невыпадкова прыводжу гэтыя радкі з успамінаў пра Стэфанію Міхайлаўну мастака, які быў зачараваны яе талентам. Таму што справядліва і цёпла скажа пра кожнага з нас толькі той, хто па-сапраўднаму любіць нас.

Першым тэатрам С. Станюты, тэатрам яе ранняй маладосці, як ужо сказана вышэй, быў БДТ-2. Далей лёс Стэфаніі Міхайлаўны складваецца так, што з 1931 года яна пераязджае ў Мінск і становіцца актрысай БДТ-1 (сёння — Нацыянальны акадэмічны драматычны тэатр імя Янкі Купалы), які становіцца тэатрам усяго яе жыцця.

— Калі я прыйшла ў БДТ-1, — успамінала Стэфанія Станюта, — то адчула сябе ў сваім сапраўдным доме і сям'і. У той час тэатрам кіраваў высокапрафесійны рэжысёр Еўсцігней Міровіч. Побач жа працавалі такія выдатныя акцёры, як Уладзімір Крыловіч, Уладзімір Уладамірскі, Барыс Платонаў, Ірына Ждановіч, Глеб Глебаў, Вера Пола, Вольга Галіна... — усе яны з пакалення першых зорак беларускага тэатра. Сярод іх я адчувала сябе асабліва ўтульна і хораша. У тэатры панавала атмасфера творчасці і ўзаемапавагі.

Сапраўды, тэатр пачатку дваццатага стагоддзя быў тэатрам своеасаблівым. Ён быў месцам дарагім і свяшчэнным. Магчыма таму, што так адносіліся да яго ўсе тыя цудоўныя акцёры, якія самааддана служылі сцэне. Тэатр 20—30-х гадоў XX стагоддзя менавіта і быў падобным на тых людзей, якія яго стваралі, — простым і шчырым. Ён красамоўна паўстае сёння з захаваных эскізаў да спектакляў Аскара Марыкса і Канстанціна Елісеева. На малюнках усё пазнавальна і даклад-

на — сціплы інтэр'ер сялянскай хаты, дабротная мэбля купецкага пакоя і раскоша княжага замка, да дробязяў распісаныя касцюмы персанажаў, у якіх захавана любоў да ствараемага мастакамі спектакля.

Стэфанія Станюта адразу ж была з цеплынёй прынята ў калектыў. Яе палюбілі акцёры больш сталага ўзросту за шчырасць, працавітасць, добразычлівасць і адданасць акцёрскай прафесіі. Яна стала душой купалаўскай трупы і такой заставалася да сыходу са сцэны.

— Маладосць мая была шчаслівай, таму што мяне любілі, падтрымлівалі і разумелі. Кожная роля для мяне таксама заўсёды была шчасцем і вялікім узрушэннем. Я працавала над кожным прапанаваным матэрыялам з адказнасцю і натхненнем. Неяк таемна для сябе акуналася ў святло п'есы, пра сябе вымаўляла словы ролі, вывучала сваю гераіню спачатку здалёк, а потым станавілася ёю самой, знаходзіла яе позірк, паходку, характар... — сведчыць сама актрыса.

Адна з першых самых значных роляў С. Станюты на сцэне БДТ-1 — Глафіра ў «Ваўках і авечках» А. Астроўскага (рэжысёр Л. Рахленка, 1936). Стэфаніі Міхайлаўне пашчасціла працаваць у спектаклі разам з Лідзіяй Ржэцкай, якая выконвала ролю Мурзавецкай — уладарная, самаўпэўненая і непахісная ў сваіх перакананнях гераіня Ржэцкай была фігурай каларытнай, непераможнай у сваёй ханжаскай набожнасці і крывадушшы. Яна нікога не любіла і не паважала апроч сябе і не бачыла перашкод у дасягненні сваіх эгаістычных мэт. Здабыць, «выгрызці» ўласнае так званае шчасце любой цаной. Глафіра С. Станюты таленавіта засвоіла ўрокі Мурзавецкай. У яе выкананні Глафіра была знешне прывабнай і абаяльнай, такім чынам добра маскіравала сваю грэшную душу. Стройная, чароўная і хітрая Глафіра добра ведала адно — ёй, маладой і прыгожай, не цяжка будзе ажаніць на сябе багатага і недалёкага памешчыка Лыняева (А. Крыніца). Было зразумела, што ў сваіх марах яна пойдзе далей за сваю настаўніцу.

Побач са Стэфаніяй Міхайлаўнай у спектаклі ігралі такія выдатныя акцёры, як Глеб Глебаў — хітраваты і вёрткі Чыгуноў, Уладзімір Уладамірскі — мітуслівы і ілжывы Апалон, кантраст з Мурзавецкай складала арыстакратычная і высакародная Купавіна ў майстэрскім выкананні Вольгі Галінай. Стэфанія Станюта бліскуча ўпісвалася ў гэты зорны ансамбль. Было відавочна, што без яе ўдзелу спектакль быў бы не такім яркім, вострым і запамінальным амаль на цэлае стагоддзе.

Услед за Глафірай С. Станюта віртуозна ўвасобіла вобраз Дзіяны ў спектаклі «Дурная для іншых, разумная для сябе» Лопэ дэ Вегі (рэжысёр В. Галаўчынер). Яе гераіня, апынуўшыся на месцы герцагіні, дэманстравала большае высакародства і мудрасць, чым названая высокая асоба. Яна адразу ж заваёўвала любоў і разуменне гледача, таму што ёй былі ўласцівы тонкі гумар і розум, уменне падаць сябе, пры гэтым не перашкодзіўшы нікому з прысутных. Яе вылучала прыгажосць і жыццярадаснасць. Дзіяна выпраменьвала святло і на працягу спектакля заставалася непадражальнай і непаўторнай.



*С. Станюта ў ролі Міхееўны ў спектаклі па А. Астроўскаму «Апошняя ахвяра».*

Значным дасягненнем у твор-

чай біяграфіі актрысы стала роля Зіначкі Зёлкінай у спектаклі «Хто смяецца апошнім» К. Крапівы (пастаноўка І. Раеўскага, рэжысёр Л. Рахленка, 1929 год). Спектакль наогул стаў значнай тагачаснай тэатральнай з'явай. Ён узнімаў вострыя сацыяльныя праблемы, аб якіх раней не гаварылася з падмосткаў, выводзіў на сцэну яркія сатырычныя характары, якія ў фінале цярпелі крах. Усё гэта было даспадобы гледачу. Зіначка Зёлкіна ў выкананні С. Станюты — асоба знешне цікавая і прывабная: элегантны ўбор і прычоска, прыгожая фігура, гнуткія дагледжаныя рукі з доўгімі пальцамі. У сваіх жа ўчынках асоба нікчэмная, мітуслівая, любіла навушнічаць і пляткарыць за спіной іншых. Актрыса знаходзіла дакладны пластычны малюнак — вобраз выдатна супадаў з унутранай сутнасцю гераіні — яна ні на хвіліну не заставалася ў спакоі: выкручвалася, падкрадвалася, у абдымках і пацалунках імкнулася сказаць, данесці нейкае толькі што падслуханае глупства, каб дагадзіць начальству.

— У той час мне падабалася эксперыментаваць, мяняцца да непазнавальнасці, да глыбіні пагружацца ў ствараемы вобраз і рабіць яго цікавым і для гледача, і для самой сябе. Мне таксама падабалася і назіраць за партнёрамі, калі выдавалася свабодная хвілінка, вучыцца майстэрству, любавацца майстэрствам, быць у захапленні ад сцэны. Не адно дзесяцігоддзе прайшло, а помніцца, як цудоўна ігралі ў спектаклі «Хто смяецца апошнім» Барыс Платонаў — Зёлкіна, Леанід Рахленка — Гарлахвацкага, непаўторныя вобразы цёці Каці і дворніка Нічыпара стварылі Лідзія Ржэцкая і Генрых Грыгоніс, святочны феерверк акцёрскіх прыёмаў дэманстравала Вера Пола ў ролі жонкі Гарлахвацкага. Я вельмі любіла гэты спектакль, з задавальненнем рыхтавалася да яго, — успамінае актрыса.

Нельга не сказаць і пра тое, што на пачатку свайго творчага лёсу Стэфанія Станюта выступала і ў трагедыйных, гераічных ролях. І яны ўдаваліся ёй не горш за камедыйныя. Дастаткова нагадаць Сару Мацісон у «Фландрыі» В. Сарду (рэжысёр Л. Рахленка). Актрыса паказала мэтанакіраванасць сваёй гераіні, вернасць уласным ідэалам і непахіснасць поглядаў.

Кожная роля ў выкананні С. Станюты набывала ўласную непаўторную інтэрпрэтацыю і заўсёды знаходзіла водгук у сэрцы гледача, таму што сама выканаўца ніколі не была раўнадушнай да створанага вобраза. А спіс роляў Станюты даволі ўнушальны: пані Вашамірская («Салавей» З. Бядулі), Куліна Чарнушка («Людзі на балоце» паводле І. Мележа), Таццяна Андрэеўна («У ціхім завулку» А. Маўзона), Арына Радзівонаўна («Верачка» А. Макаёнка), Каргота («Тры Іваны — тры браты» А. Вольскага), Рэчэл («Змова асуджаных» М. Вірты), Кашкадамава («Сям'я» І. Папова), Жабрачка («Крамлёўскія куранты» М. Пагодзіна), Шарлота («Вішнёвы сад» А. Чэхава), Эліза («Скупы» Ж.Б. Мальера), Бабуля («Дзверы стукаюць» М. Фермо), Гіза («Гульня з кошкай» І. Эркеня), Мод («Гаральд і Мод» К. Хігінса і Ж.К. Кар'ера) і шэраг іншых.

Прааналізаваўшы рэпертуар актрысы, яе можна назваць каралевай камедыі, трагедыі альбо прымадоннай лірычнай драмы. Нельга забываць і аб бліскучым выкананні эпізоду Стэфаніяй Станютай, што ўдаецца не кожнай актрысе, здольнай выконваць галоўныя ролі. І нават у самай невялікай па драматургічным матэрыяле ролі Станюта знаходзіла штосьці вельмі прывабнае ў характары, умела карысталася грымам, не баялася быць непрыгожай, непрывабнай. Наадварот — любіла быць смешнай і дзівакаватай, калі гэта было закладзена ў драматургіі. Па ўспамінах купалаўскіх акцёраў, у дуэце са Станютай вельмі любіў іграць Глеб Паўлавіч Глебаў. У «Дні цудоўных падманаў» Р. Шэрыдана (рэжысёр Л. Літвінаў, 1948 год) яны ігралі да болю смешна, бліскуча і дакладна. Глебаў іграў Жуліа Мендозу, Станюта — дуэнню Даратэю. Даратэя ў выкананні актрысы была надзвычай жыццярадаснай, рухавай, зараджальна вясёлай. Яе выхады ў спектаклі заўсёды суправаджаліся апладысментамі.

У «Салаўі» З. Бядулі Станюта некалькімі дакладнымі, графічнымі штрыхамі малявала рэалістычны, непрыглядны вобраз пані Вашамірскай. Усё было элегантным і бездакорным у яе знешнім выглядзе, але словы і думкі засяродж-

валіся толькі на ўласнай выгадзе, нажыве. Бліскучы позірк здаваўся халодным і выпраменьваў непрыступнасць і недасягальнасць гэтай жорсткай, эгаістычнай асобы. І зусім нечаканай для гледача была роля Эрны Курціус у спектаклі «Асабняк у завулку», дзе актрыса стварыла вобраз жанчыны-нацысткі, асноўнымі рысамі характара якой былі злосць, нянавісць. «Выступленне С. Станюты ў ролі Курціус было новым крокам у яе творчасці, — адзначае «Гісторыя беларускага тэатра»...— Чалавек-машына, выхаваны на муштры, фанатычна аддадзены Гітлеру— гэта незвычайна трапна падкрэслівала С. Станюта ў чаканным кроку, рэзкіх і адрывістых рэпліках і рухах, у застылых, шкляных вачах Курціус».

«Кожная роля павінна быць дыяментам — вялікая ці маленькая», — сцвярджала актрыса. У яе ўяўленні інакш і быць не магло. Яна малявала Шарлоту ў «Вішнёвым садзе» як камедыйнымі, так і драматычнымі тонкімі штрыхамі. І перад гледачом паўставала жанчына са сваім складаным лёсам і характарам, а не толькі здольная жартаваць і смяшыць іншых.

У спектаклі «Гульня з кошкай» І. Эркеня (рэжысёр Б. Эрын, 1976 год) Стэфанія Міхайлаўна сыграла адну з галоўных і значных роляў свайго ўласнага рэпертуару — Гізу, сястру Эржы (Зінаіда Браварская). Падзеі п'есы і спектакля заснаваны на перапісцы дзвюх сясцёр, вельмі розных па характарах і ўчынках. Гіза ў выкананні Станюты была ўвасабленнем жаноцкасці, мудрасці і ўраўнаважанасці. Цудоўна, з густам апранутая і прычэсаная, без аніводнага нязграбнага жэста і нават павароту галавы, яна была ўвасабленнем нейкай ідэальнай жанчыны. Жанчыны, якая нібы сышла з жывапіснага палатна класічнага майстра. Гіза заўсёды жыла правільна, без памылак і крыху зайдросціла сваёй эксцэнтрычнай, незалежнай сястры. Станюта стварала вобраз мяккі, спакойны, інтэлігентны — кантрастны — у параўнанні з гераіняй З. Браварскай. Разам жа дзве выдатныя актрысы стваралі вельмі кранальны спектакль аб процілеглых лёсах двух розных жанчын, якія дапамагалі адна адной і дапаўнялі жыццё кожнай недастаючымі фарбамі. У спектаклі сцвярджаецца думка аб тым, што, якімі б рознымі сёстры ні былі, нягледзячы на абставіны і процілегласць поглядаў, кожнай трэба захоўваць у сабе дабрыню, чуласць і спагаду да людзей.

— Майму ўласнаму Тэатру, які ў маім сэрцы і які я стварала ўсё сваё жыццё і любіла, — гэтыя думкі асабліва дарагія. Магчыма, як і ўсе мы, я звяртаюся да сваёй маладосці, калі мне было лёгка марыць, хацелася шмат працаваць на сцэне. Марылася менавіта аб такім тэатры, які будзе дарыць свайму гледачу дабрыню і святло. Я імкнулася несці гэта ў кожнай сваёй ролі — камедыйнай, эпізадычнай ці самай галоўнай у тым ці іншым спектаклі, глыбока драматычнай, — сцвярджае Станюта.

Стэфаніяй Міхайлаўнай Станютай створана на сцэне цэлая галерэя народных характараў. Сярод іх Марыля і Паланея («Раскіданае гняздо» і «Прымакі» Я. Купалы), Алена («Салавей» З. Бядулі), Ганна Пятроўна («Простая дзяўчына» К. Губарэвіча), Рыпіна («Плач перапёлкі» І. Чыгрынава») і іншыя. Актрыса надзяліла сваіх гераінь душэўнасцю і чысцінёй, вялікай мудрасцю і любоўю да жыцця.

«Раскіданае гняздо» Я. Купалы было пастаўлена на купалаўскай сцэне ў 1972 годзе Барысам Луцэнкам. Спектакль стаў значнай з'явай як для тэатра імя Я. Купалы, так і для тэатральнага мастацтва Беларусі. Філасофскае асэнсаванне быцця, пошукі шчасця, праўды — усё гэта было закладзена ў задуме рэжысёра. Стэфанія Станюта стварыла ў спектаклі высакародны, велічны вобраз Марылі. Гераіня актрысы была падобная да дзівоснай, недасягальнай істоты па сваім спакойным унутраным стане, прыгажосці паходкі і сціпласці рухаў. Яна была апранута ў простае чорнае адзенне, якое падкрэслівала ўпэўненасць і годнасць гэтай немаладой загадкавай жанчыны. Марыля глыбока перажывала трагедыю сваёй сям'і, разбурэнне дома, які быў і адзіным прытулкам, і ўсім жыццём. Пакуты яе дзяцей сталі яе ўласнымі пакутамі.

У спектаклі былі заняты цудоўныя акцёры-купалаўцы, пра якіх Стэфанія Міхайлаўна гаварыла з асаблівай цеплынёй: ролю Лявона пранікнёна выконваў

Павел Кармунін, тэмпераментна, шчыра іграў Сымона Валянцін Белахвосцік, цікавы вобраз Старца стварыў Леанід Рахленка... Спектакль меў вялікі поспех яшчэ і таму, што быў таленавіта вырашаны сцэнографам Барысам Герлаванам. На сцэне не было ніводнай выпадковай дэталі. Сцэна здавалася жывой, рамантычнай, напоўненай трапяткім дыханнем. Нават такія звычайныя прадметы, як жабрацкія торбы Марылі, сякера Сымона, вянок Зоські, скрыпка Данілкі, набылі ў пастаноўцы як сімвалічнае, так і паэтычнае гучанне. Яны сталі неад'емнымі ад тых персанажаў, якім належалі і дапамагалі, якіх суправаджалі на працягу ўсяго дзеяння.

«Раскіданае гняздо» Я. Купалы быў адным з нямногіх спектакляў, які атрымаў узрушаныя водгукі па-за межамі Беларусі. Вядомая тэатразнаўца В. Кайдалава ў часопісе «Вопросы театра» пісала наступнае: «Спектакль сапраўды народны, у ім выяўлена сутнасць народнага жыцця, паказаны лёс народа, яго імкненне да сацыяльнага вызвалення і маральнай свабоды. Форма спектакля не абмяжоўваецца пошукамі новай стылістычнай выразнасці, а становіцца сродкам раскрыцця народнага характару з яго свабодалюбствам, мудрасцю, нязломнасцю, мужнай пяшчотнасцю. Многія сцэны, насычаныя суровай прастатой, дасягаюць высокай трагедыйнасці... што надае спектаклю паэтычную абагульненасць, вострую тэатральнасць і ўнутраны драматызм». Стэфанія Міхайлаўна, расказваючы пра сваю гераіню, пра таленавітых партнёраў, ганарылася, што іграла ў гэтым выдатным спектаклі.

У пастаноўцы спектакля «Людзі на балоце» паводле рамана Івана Мележа Стэфанія Станюта стварыла зноў жа бліскучы вобраз Куліны Чарнушкі. Па драматургічным матэрыяле яна была персанажам складаным, магчыма, не такім ужо і станоўчым у звычайным уяўленні — мачахай Ганны Чарнушкі. А як вядома, мачаха — значыць няродная маці, нядобрая, злосная. Актрыса ж не стала акцэнтаваць увагу на адмоўных рысах жанчыны. Яна прапанавала гледачу вобраз неадназначны, які нельга разгадаць з першага позірку. У ім было шмат прыцягальнага і цікавага. Прывабная нетаропкай разважлівай гаворкай, высокая, худая Куліна ў выкананні Станюты была знясілена цяжкай сялянскай працай. Яна набыла падабенства з мноствам звычайных беларускіх жанчын, якім і ёсць толькі справа што да сваёй гаспадаркі і няма часу азірнуцца навокал. І толькі ў вачах нельга не прыкмеціць — бясконцую дабрыню, добразычлівасць і ўменне ўсё разумець і спачуваць іншым. Куліне Станюты было ўласціва ўсё тое, што генетычна закладзена ў беларускай жанчыне і што нельга знішчыць нічым — ні нялюдскімі ўмовамі жыцця, ні бясконцай знясільваючай працай, нават смерцю.

У спектаклі «Я, бабуля, Іліко і Іларыён» Н. Думбадзе і Г. Лордкіпанідзе (рэжысёр Р. Агамірзян, 1965 год) С. Станюта сыграла адну са сваіх значных роляў — бабулю Вольгу. Актрыса надзяляла сваю гераіню вялікай жыццёвай мудрасцю, цеплынёй, мяккім гумарам, тактоўнасцю. Моўная характарыстыка персанажа была асабліва адметнай і прывабнай. «А ў апошняй, цудоўна сыгранай сцэне смерці, актрыса ўзнімала вобраз Бабулі да сімвалічнага абагульнення. Яна здолела стварыць непаўторны нацыянальны грузінскі характар, з уласцівым яму агеньчыкам і тэмпераментам», — пішуць аўтары «Гісторыі беларускага тэатра». Рухавая, абаяльная і вынаходлівая бабуля цудоўна ўпісвалася ў бліскучы акцёрскі ансамбль спектакля, які складалі стрымананы, суровы Іларыён — У. Дзядзюшка, непасрэдны і іскрысты Зурыко — А. Мілаванаў, самалюбівы і запальчывы Іліко — П. Кармунін. Грузінская актрыса Т. Цулукідзе на абмеркаванні ў тэатры Я. Купалы назвала пастаноўку «Я, бабуля, Іліко і Іларыён» сапраўдным тэатральным святам.

У «Браме неўміручасці» К. Крапівы (рэжысёр В. Раеўскі, 1974 год) Стэфанія Станюта з уласцівым ёй пачуццём густу і гумару, адчуваннем камедыйнага жанру стварыла вобраз жонкі вучонага Дабрыяна Марыі Сяргееўны. Яе гераіня ўяўляецца інтэлігентнай, стрыманай, і вельмі неабходнай свайму таленавітаму мужу, які адкрыў «закон неўміручасці».

Стэфанія Міхайлаўна кожную сваю ролю ўспрымала як падарунак. І ні ў адной са сваіх роляў яна не імкнулася іграць сябе ці любавацца сабой. Як сапраў-

дная вялікая актрыса яна стварала на сцэне вобраз, існавала і жыла ў ім. Сродкі яе сцэнічнай выразнасці былі самыя разнастайныя і да канца непадуладныя многім сённяшнім выканаўцам — непаўторны пластычны малюнак ролі, яркая эмацыянальная напоўненасць вобраза, выразнасць позірку, жэста, руху, мімікі, вытанчанае ўменне выкарыстоўваць іронію і гратэск, уменне насіць касцюм на сцэне (апошняе таксама не ўсім падуладна). Усё гэта дазваляла надаваць канкрэтным ролям індывідуальную інтэрпрэтацыю і адзінае, непаўторнае выкананне.

Калі спектаклі з удзелам Стэфаніі Станюты нельга паўтарыць, мы можам іх толькі нагадаць, пераказаць, то яе фільмы па-ранейшаму засталіся жывымі, з яе голасам і непаўторнай постаццю. Можна назваць стужкі: «Дом продкаў», «Крыніца», «Трывожны месяц верасень», «Сад», «Сын», «Чужая бацькаўшчына», «Час выбраў нас», «Трэцяга не дадзена», тэлепастаноўкі «Людзі на балоце», «Ткачы» і іншыя, знятыя на розных кінастудыях: «Масфільм», студыя імя М. Горкага, «Ленфільм», «Грузіяфільм», студыя імя Даўжэнкі, «Беларусьфільм». Асабліва ж дарагой для актрысы стала стужка «Развітанне з Мацёрай» паводле аповесці В. Распуціна, якую здымалі Л. Шэпіцька і Э. Клімаў. Вобраз Дар'і, створаны С. Станютай, вельмі блізкі да любімых ёю народных вобразаў. Нагадваецца Марыля з «Раскіданага гнязда» і Мондрыха ў кінастужцы «Чужая бацькаўшчына» па матывах рамана В. Адамчыка. Дар'я з «Развітання...» — гэта і жанчына-маці, простая, працавітая, якая ўсё жыццё пражыла каля дамашняга агню. Яна і высокая, недасягальная Мадонна, і сімвал роднага дому, яго цеплыні, сям'і, вечнай велічнай прыроды, без якой немагчыма адчуваць сябе чалавекам на гэтай зямлі: «Я была шчаслівай, акрылёнай, але і крыху здзіўленай, што мяне запрасіла Ларыса Яфімаўна Шэпіцька на здымкі «Развітання з Мацёрай». Безумоўна ж, пасля прачытання сцэнарыя зразумела, што гэта мая роля — любімая, жаданая, доўгачаканая. Яна з'явілася працягам таго цікавага матэрыялу, які быў мне падараваны ў тэатры. Вялікім падарункам стала знаёмства і з самой Ларысай Шэпіцька — чалавекам незвычайнага таленту і душы. Яна ўвесь час была побач са мной, дапамагала, падтрымлівала, сагравала сваёй чалавечай цеплынёй. Я не здымалася, я жыла ў «Развітанні...», адчула сябе актрысай і нейкім іншым чалавекам, які, здавалася б, пражыў жыццё, усё зведаў, перажыў, але і штосьці новае адкрыў для сябе яшчэ і яшчэ раз і нечакана адчуў сябе бясконца патрэбным тым, хто побач, незамяняльным і шчаслівым...»

Калі прыходзіш у Купалаўскі тэатр на новую прэм'еру ці проста на звычайны спектакль, ходзіш у цішыні фае — менавіта ў гэтыя хвіліны сам-насам з сабой адчуваеш прысутнасць акцёраў-купалаўцаў, якія пакінулі і гэтыя цудоўныя падмосткі, і хвалюючае зямное жыццё. Тут дзесьці побач Віктар Тарасаў і Павел Дубашынскі, Павел Кармунін і Валянцін Белахвосцік, Зінаіда Браварская і Лілія Давідовіч... Адчуваеш прысутнасць і яе, Стэфаніі Міхайлаўны Станюты. Яна з'яўляецца — нібы ў сне — у розных узростах, але заўсёды кранае прыгажосцю, цеплынёй, вабіць постаццю егіпецкай жрыцы і дзівосным уборам жанчыны далёкага мінулага... Узгадваюцца яе ролі, голас, добразычлівы позірк. Яна ж застаецца такой блізкай і адначасова далёкай — цяпер ужо недасягальнай зоркай, імя якой рэдкае, незвычайнае, таямнічае — Стэфанія.

*Са Стэфаніяй Міхайлаўнай Станютай звязана цэлая эпоха ў жыцці тэатра імя Янкі Купалы. Пачатак творчай дзейнасці Стэфаніі Міхайлаўны супаў з пачаткам існавання самога тэатра. У ім прайшло амаль усё яе тэтральнае жыццё, акрамя хіба што перыяду вучобы ў Маскве і работы ў Другім Беларускім дзяржаўным тэатры імя Якуба Коласа ў Віцебску. Яна ўдзельнічала ў шэрагу яркіх, свайго роду «праграмных», спектакляў: ад камедыі Кандрата Крапівы «Хто смяецца апошнім» да філасофскай драмы І. Эркеня «Гульня з кошкай».*

*Жыве Стэфанія Станюта і ў памяці сваіх калег. Яна была не толькі актрысай выключнага таленту, але і надзвычай цікавым чалавекам.*



*М. Матукоўскі. «Брама неўміручасці». У ролі жонкі Дабрыяна.*

**Расказвае актрыса Купалаўскага тэатра Марыя Захарэвіч:**

Стэфанія Міхайлаўна была маёй сяброўкай. З ёй заўсёды любілі сябраваць маладыя, бо са Станютай было цікава. Гэта не залежала ад узросту. І сама яна ніколі не рабіла акцэнт на сваім узросце. Напрыклад, яна не прытрымлівалася ніякага рэжыму. Запрашала гасцей, і мы сядзелі ў яе да трох гадзін ночы. Яна заўсёды была аптымісткай, умела сустрэць кожнага з усмешкай.

Пасля рэпетыцыі мы часта ішлі ў парк Горкага. У Стэфаніі Міхайлаўны былі з сабою семкі, булачка — гэта для таго, каб карміць вавёрак і птушак. Яна вельмі любіла назіраць за прыродай.

Мы, калегі, любілі бываць у яе дома. А дома ў Стэфаніі Міхайлаўны было вельмі ўтульна. Уся кватэра ў карцінах. У асноўным — карціны, падораныя братам. Яна адрознівалася выключнай гасціннасцю, хлебасольнасцю. Гасцей абавязкова пачастуе хаця б кубачкам гарбаты або прапануе бакал чырвонага віна. А галоўны тост яе заўсёды быў «За любоў».

Дома, на балконе, яна таксама любіла карміць птушак і назіраць за імі. Калі Макаёнак пісаў п’есу «Верачка», бабулю ён ствараў «пад Станюту». Бабуля ў п’есе таксама любіла карміць вераб’ёў. Верабейкі счапіліся, нешта не падзяліўшы, а бабулька кажа: «Вось, наце, сыпану вам крошак. Вось ужо і памірыліся. Як мала трэба».

Стэфанія Міхайлаўна вельмі любіла кветкі. Часта пасля спектакляў ёй дарылі шмат кветак, і кветкі тыя стаялі ў Стэфаніі Міхайлаўны вельмі доўга. У іншых даўно завянуць, а ў яе стаяць свежыя. Яна добра даглядала іх, размаўляла з імі, і пацалуе іх, і пагладзіць, кране рукой, і кветкі, безумоўна, гэта адчувалі. У яе нават ружы, якія звычайна засыхаюць вельмі хутка, стаялі па два тыдні.

Яркі творчы ўзлёт Станюты пачаўся ў сталым узросце, а канкрэтней, пасля фільма «Развітанне з Мацёрай» па аповесці Валянціна Распуціна. Яе запрасіла на гэтую роль Ларыса Шэпіцька, вядомы рэжысёр, якая экранізавала «Сотнікава» Васіля Быкава. Але Ларыса Шэпіцька трагічна загінула, і фільм даздымаў яе муж, знакаміты рэжысёр Элем Клімаў. Асобных акцёраў ён памяняў, калі пачаў здымкі, але Станюту пакінуў.

Менавіта пасля ролі ў стужцы «Развітанне з Мацёрай» для Станюты пачалі знаходзіцца яркія, выбітныя ролі і ў кіно, і ў тэатры. Дагэтуль Станюта таксама здымалася ў кіно, але ў асноўным у эпізадычных ролях.

Да славы яна ішла шляхам доўгім і няпростым. І ў маладосці ў яе былі значныя ролі, напрыклад, дуэнья Даратэя са спектакля «Дзень цудоўных падманаў». Гэта

бліскучая работа. Можна прыгадаць і іншыя ролі, вельмі ўдалыя, любімыя гледачамі, але сапраўдная слава прыйшла да Станюты пазней. Усё залежыць ад таго, як акцёр пражывае сваю ролю на сцэне. Станюта была настолькі натуральнай, праўдзівай, што, здавалася, яна і не іграе. Безумоўна, гэта зачароўвала гледачоў. Прыгадваю яе ў розных ролях. Характарных, сур'ёзных, але і камедыйных. Скажам, у спектаклі «Хто смяецца апошнім» яна іграла Зіну Зёлкіну. Іграла ярка, бліскуча.

Але атрымалася так, што найбольш моцнымі, запамінальнымі, натуральнымі сталі вобразы жанчын сталых, пражыўшых жыццё, перанёсшых шмат пакут.

Яна была чалавекам вельмі сціплым, ніколі не павышала голас. Не магу не адзначыць яе выключную добразычлівасць, і пры гэтым непрыкметнасць, ціхмянасць. Не любіла канцэнтраваць на сабе ўвагу, амаль не выступала на розных сходах, а калі і выступала, то толькі для таго, каб падтрымаць, сказаць добрае слова. Нават у тым выпадку, калі акцёр не заслугоўвае пахвалы, Станюта імкнулася яго падтрымаць. Таму я лічу, што такі Бог узнагародзіў яе за цярпенне, добразычлівасць, сціпласць, за ўсю тую дабрыню, якую яна дарыла людзям, — узнагародзіў узлётам, славай сапраўднай вялікай артысткі, адной з самых яркіх зорак Купалаўскага тэатра.

*Адной з самых запамінальных работ тэатра імя Янкі Купалы стаў спектакль «Гаральд і Мод» па п'есе К. Хігінса і Ж. К. Кар'ера. Спектакль рабіўся «пад Станюту», бо галоўная гераіня яго — жанчына сталага веку, але энергічная, не схіліўшая галаву перад часам. Мод з'яўляецца носьбітам асаблівай жыццёвай філасофіі: не пасіўнасці, але назіральнасці і разважлівасці. Яна шукае карані кожнай з'явы і ўспрымае жыццё такім, якое яно ёсць, ва ўсіх яго праявах. Вобразы Мод і яе маладога сябра Гаральда, які адшукаў у гэтай немаладой жанчыне родную душу, аказаліся надзвычай абаяльнымі і блізкімі для беларускага гледача.*

**Расказвае акцёр Купалаўскага тэатра Сяргей Дзянісаў:**

Першае маё знаёмства з творчасцю Стэфаніі Станюты адбылося так. Быў я яшчэ студэнтам і аднойчы глядзеў нейкі фільм вытворчасці Беларускай кінастудыі. Фільм пра вайну, пра партызан, звычайны для тых часоў, і ў прынцыпе абсалютна нічым не адметны. І раптам у кадры паказваюць чалавек пятнаццаць



*У час вучобы ў Беларускай драматычнай студыі ў Маскве.*

масоўкі. Мясцовыя жыхары, сяляне. Але мне запомніліся некалькі чалавек, і асабліва прыцягнула ўвагу жанчына ў хустачцы. Я падумаў, як добра зрабіў рэжысёр, што паклікаў у фільм людзей простых, не акцёраў. Бо гэтая жанчына выглядала надзвычай натуральна, арганічна. Яна ўся была ад жыцця. Ніякай гульні, ніякага акцёрства. І разам з тым яе твар вельмі ярка перадаваў эмоцыю, сум, задумлівасць. Праз нейкі час я даведаўся — той жанчынай, якая здзівіла мяне сваёй натуральнасцю, проста нейкай антытэатральнасцю, была Стэфанія Міхайлаўна Станюта.

Ёй у прынцыпе і не трэба было іграць. Яна выходзіла на сцэну такая, якая ёсць, з усёй шматграннасцю, разнапланавасцю сваёй натуры. Яна прамаўляла тэкст ролі, і ён адразу рабіўся для яе сваім. Відаць, гэта «ўжыванне ў ролю» адбывалася за кошт пэўнай унутранай філасофіі, складу асобы, жыццёвага вопыту.

Здарылася так, што ў першы год маёй работы ў тэатры я трапіў у спектакль рэжысёра Мікалая Пінігіна «Гаральд і Мод». П'еса надзвычай цікавая, узялі яе спецыяльна з разлікам на Стэфанію Міхайлаўну Станюту, якой на той момант было ўжо 80 гадоў. Яна выконвала ролю Мод, а я — яе маладога прыяцеля Гаральда. Героі выпадкова пазнаёміліся, і Мод тлумачыць свайму сябру, што жыццё трэба ўспрымаць такім, якое яно ёсць. А ў героя цяжкасці ў жыцці, адсутнасць паразумення з людзьмі. Яму здаецца, што ён у безвыходным становішчы, але знаёмства з Мод мяняе яго погляды. У п'есе згадвалася фраза цара Саламона аб тым, што ўсё аднойчы праходзіць. Гераіня Стэфаніі Станюты вучыла мяне па творы і, дарэчы, па жыцці ўспрымаць усё з годнасцю. Цаніць цяперашні, сённяшні момант.

Працаваць са Стэфаніяй Міхайлаўнай было вельмі цікава. Відаць, чым больш шым талентам надзелены акцёр, чым больш яркі ён як асоба, тым лягчэй з ім працаваць. Тым больш, Стэфанія Міхайлаўна была чалавекам надзвычай мудрым. Не толькі ў філасофскім, абстрактным сэнсе гэтага слова. Напрыклад, калі я толькі пачаў з ёй працаваць, мяне, па маладосці, здзіўляла яе ўзнёслае стаўленне да рэчаў простых: птушак, кветак, прыгожага заходу сонца. Спачатку я думаў, што гэта акцёрскае, у пэўнай меры гульня. Але пасля я зразумеў, што гэта сапраўднае, яно ідзе ад душы. Мы, на жаль, не умеем радавацца дробязям, звычайным рэчам. А Стэфанія Міхайлаўна ўмела. Яна магла атрымліваць задавальненне і радасць ад кожнага імгнення. Магчыма, гэта прыходзіць з узростам.

Дарэчы, узгадваецца яе геранія ў спектаклі «Верачка». Справа адбываецца раніцай, і гераіня з'яўляецца перад гледачамі са словамі: «Вось і яшчэ адзін дзень падарыў мне Госпадзь. Дзякуй табе за гэта».

Яна і жыла паводле гэтага прынцыпу. Не трэба ўспамінаць, што было раней, загадваць, што будзе потым. Трэба цаніць дадзены момант, усведамляць каштоўнасць кожнага імгнення.

Што тычыцца ўспамінаў аб рэпетыцыях са Стэфаніяй Міхайлаўнай, дык праходзілі яны захапляльна, весела. Тым больш, што рэжысёр (Мікалай Пінігін) з самага пачатку задаў такую атмасферу — творчую, імправізацыйную. Стэфанія Міхайлаўна з лёгкасцю ўспрымала парадаксальныя задумы рэжысёра і сама любіла імправізаваць, жартаваць, любіла пэўныя моманты розыгрышу.

І вось пачаўся спектакль. Ён карыстаўся надзвычайным поспехам. Яе ўвесь час затрымлівалі на вуліцах, людзі падыходзілі, прасілі аўтограф, расказвалі аб сваіх уражаннях. А яна з усімі віталася, ветліва адказвала, выслухоўвала. Пасля рэпетыцыі Стэфанія Міхайлаўна прасіла мяне як самага малодшага адшукаць тры таксі. А гэта ж былі 86—87 гады, не так проста знайсці таксі. Але я казаў, што гэта для Народнай артысткі Станюты. Адразу ж знаходзілася тры таксі. Усе ўдзельнікі спектакля садзіліся ў таксі і ехалі да Стэфаніі Міхайлаўны. Мы сядзелі ў яе гадзін да трох-чатырох. Мы спявалі, жартавалі, прыдумлялі розныя розыгрышы. Тыя сустрэчы запомніліся сваёй утульнай, амаль сямейнай атмасферай.

Ёсць такая банальная фраза, але ў дадзеным выпадку яна абсалютна падыходзіць: Стэфанія Станюта была заўсёды маладая душой. Відавочна, калі чалавек малады душой, ён малады і фізічна. Нам здавалася, што так і павінна быць. Мы неяк забываліся, што Станюце на той час пайшоў дзевяты дзесятак…

У чым сакрэт такога даўгалецця, і творчага, і жыццёвага? Мабыць, справа ў тым, што Стэфанія Міхайлаўна была надзвычай добрым чалавекам. Помню, аднойчы ў нашым тэатры выйшаў спектакль-казка, прычым няўдалы. Ставілася тая казка зусім няшмат часу. На мастацкім савеце спектакль, зразумела, пачалі крытыкаваць — і справядліва. І тут бярэ слова Стэфанія Міхалаўна і пачынае гаварыць добрыя словы пра тое, што атрымалася ўдала. Хваліць акцёрскія работы, шукае плюсы. У першы момант я падумаў: «Божа, што яна кажа?» А цяпер разумею — такой была яе жыццёвая пазіцыя. З дабрынёй і любоўю ставіцца да ўсяго, што яе акружае. Не губляць час на дробязі, на непатрэбную зайздрасць, незадаволенасць. Усе заўважалі, што ў прысутнасці Станюты нават чалавек незнаёмы адчуваў яе прыхільнасць, добрае стаўленне. У яе была здольнасць прыцягваць да сябе людзей. Прычым абсалютна шчыра, з любоўю да кожнага.

Яна любіла жыццё, таму і жыццё любіла яе. І Бог даў ёй такія доўгія гады, каб як мага больш людзей змаглі дакрануцца да яе душэўнай цеплыні, дабрыні.

Дарэчы, Стэфанія Міхайлаўна — мая хросная маці. Мой першы спектакль у тэатры я сыграў са Стэфаніяй Міхалаўнай, яна дала мне свайго роду накірунак у жыцці. А на той момант я быў не хрышчоны, таму папрасіў яе быць маёй хроснай.

*Творчая спадчына Стэфаніі Станюты разнастайная. Яна іграла ў спектаклях розных жанраў, мела поспех і як характарная актрыса, і як выканаўца драматычных роляў. Немалы яе ўнёсак і ў беларускі кінематограф. Нам здаецца, мы добра ведаем яе, але загадка неверагоднай працаздольнасці і даўгалецця, творчага і жыццёвага, наўрад ці можа быць разгадана. Мы не можам зразумець, а можам толькі адчуць гэтае спалучэнне двух талентаў: таленту актрысы і здольнасці быць неардынарным, гарманічным і ў рэшце рэшт — шчаслівым чалавекам.*



Валеры МАКСІМОВІЧ

# КЛАСІКА І СУЧАСНАСЦЬ

Янка Купала і Якуб Колас… З гэтымі па-сапраўднаму нацыянальна значнымі імёнамі нашых класікаў наўпрост звязана лёсавызначальная сутнасць беларускай літаратуры, яе вехавыя дасягненні, яе імклівы эстэтычны і, можна сказаць, гістарычны — сусветны — рост і росквіт. Сапраўды, адметнасцю літаратурнай класікі, якую склалі перадусім творы абодвух волатаў беларускага слова, з'яўляецца яе надзвычайная грамадская запатрабаванасць, надзённасць, актуальнасць, яе глыбінная сувязь з часам сённяшнім, з праблемамі сучаснасці, з усім тым, што вызначае, акрэслівае і фарміруе нацыянальную адметнасць самога беларускага этнасу, яго сэнсавызначальныя, ментальныя дамінанты, склад мыслення, духоўны самаідэнтыфікацыйны статус.

Тытанічная падзвіжніцка-пабуджальная дзейнасць Я. Купалы і Я. Коласа на самым пачатку творчага шляху паспрыяла таму, што беларусы сцвердзілі сябе як нацыю, заклалі трывалы падмурак для пабудовы сваёй самастойнай незалежнай дзяржавы, якая і сёння шукае і знаходзіць аптымальныя шляхі для далейшага ўгрунтоўвання сваёй нацыянальнай ідэнтыфікацыі.

Гісторыяй закліканыя здзейсніць архіважную адраджэнскую місію, маючы крэўную сувязь са сваім народам, будучы выразнікамі яго мар, надзей і спадзяванняў, беларускія песняры не маглі не дбаць і пра яго нацыянальнае і грамадзянскае сталенне, пра раскрыццё ўсёй глыбіні духоўнага свету свайго сучасніка ў яго складанасці і драматызме. Літаратура пачатку XX стагоддзя., імклівы ўзлёт якой у вялікай ступені абумоўлены грамадзянскай і творча-спадзвіжніцкай чыннасцю Купалы і Коласа, насамрэч станавілася трыбунай для пашырэння і ўмацавання нацыянальнай свядомасці беларускага народа, своеасаблівым канцэнтратам духоўнасці, пасіянарнасці, тым сэнсава- і ідэязначным згусткам, які з цягам часу набыў асобую якасць *нацыянальнага канона*, эталона нацыянальнага стылю, набыўшы адмысловую эстэтычную і ідэалагічную канстантнасць.

Новыя гістарычныя рэаліі, больш-менш спрыяльныя для развіцця літаратуры абставіны, абумоўленыя надзвычай інтэнсіўным сацыякультурным працэсам, так або інакш дазвалялі культываваць пачуццё нацыянальнай гордасці, нацыянальнага самапазнання і самапавагі, скіроўвалі да генерацыі новых ідэй, новага светапогляду. Істотны ўплыў на актывізацыю ўсіх сфер жыцця аказала і рэвалюцыя 1905—1907 гадоў, якая — аб'ектыўна — паўплывала і на светапоглядна-эстэтычную эвалюцыю ранніх Купалы і Коласа. У артыкуле «Беларускае адраджэнне» М. Багдановіч пісаў: «1905 год з'яўляецца вехай, якая пазначае пункт пералому ў гісторыі беларускага адраджэння. Падзеі, звязаныя з гэтым годам, стварылі ў народных масах імкненне разабрацца ў навакольным жыцці і выклікалі ліхаманкавы попыт на ідэалагічныя каштоўнасці». Пад апошнімі, як вынікае з прыведзенага кантэксту, М. Багдановіч меў на ўвазе не аднамомантную палітычную акцыю, не ўстаноўку на татальнае разбурэнне і руйнаванне, а перадусім канструктыўны («ідэалагічны») дыялог з жыццём («разобраться в окружающей жизни») пад знакам духоўна-адраджэнскім, нацыянальна-адраджэнскім. «Узаемадапаўляльны дыялог двух волатаў аб набалелых пытаннях народа і нацыі» (В. Жураўлёў) не мог скіроўваць і папраўдзе не быў

скіраваны ў вузкае пракрустава ложа рэвалюцыйнага максімалізму. «У хуткім часе пасля драматычнага завяршэння падзей 1905—1907 гг., — адзначае В. Жураўлёў, — мастацкае слова Купалы і Коласа робіць даволі круты паварот і адчувальную, вельмі сур'ёзную пераарыентацыю з рэвалюцыйна-сілавой тэндэнцыі на пошук *кампрамісных, чалавекалюбных* (вылучага аўтарам. — **В.М.**) формаў дыялогу з жыццём...» Беларускія песняры як вялікія гуманісты выдатна ўсведамлялі, і іх творчасць таму яскравае пацвярджэнне, што ўтрапёная рэвалюцыйнасць не павінна фарміраваць канон інтэлігенцкай свядомасці і вызначаць топіку інтэлігенцкага мыслення.

На парадку дня востра стаяла пытанне актывізацыі «культурнай дзейнасці», якая захоплівала ў свае абсягі сферу прапагандысцка-асветніцкую, выхаваўчую, адукацыйную.

Купалаўская і коласаўская творчасць знаходзілася ў фокусе «стратэгіі абуджэння» (А. Яскевіч). Прыярытэтнае месца ў ёй займалі традыцыйныя каштоўнасці, спадчына мінулага, што спакваля, натуральна ўступалі ў дыялог з найноўшымі дасягненнямі сусветнай філасофска-медытатыўнай думкі, з працэсамі развіцця агульначалавечай цывілізацыі. Творчасць класікаў давала прыклад арганічнага спалучэння наватарства і павагі да мінулага. Пры гэтым яны добра ўсведамлялі, што ў культурнай традыцыі захоўваюцца вытокі інтэнсіўнага калектыўнага светаадчування, кансалідуючай свядомасці народа. «Беларуская літаратура, — падкрэслівае А. С. Яскевіч, — у выніку новага культурнага ўздыму, з аднаго боку, карпатліва адрадзіўшы традыцыю сваіх папярэднікаў, а, з другога, як бы нанава, паводле Багдановіча, прайшоўшы скарочаны курс творчага станаўлення, уступіла ў тую тыпалагічна абавязковую для духоўнага жыцця кожнай нацыі стадыю мастацкай прафесіяналізацыі, калі ў ёй на самай шырокай аснове нацыянальнага духоўнага быцця пачынае складвацца класічны нацыянальны стыль, што з'явіцца потым асноўным напрамкам, увогуле цэнтральным рэчышчам для ўсяго наступнага развіцця». Алесь Яскевіч слушна адзначае, што ў гэты перыяд адбываецца фарміраванне літаратуры як самастойна нацыянальнай мастацкай сістэмы, падваліны якой закладваліся перадусім Купалам і Коласам, актывізуецца працэс выпрацоўкі нацыянальна арыентаваных літаратурных родаў, відаў, жанраў, пашырэнне ідэй, тэм, вобразаў, станаўленне літаратурнай мовы, узбагачэнне яе стылёва-вобразнай палітры. Да класічнага нацыянальнага стылю, паводле меркавання расійскіх даследчыкаў, адносіцца «стыль, што адкрывае сабой асобны перыяд літаратурнага развіцця новага часу, уносіць у літаратуру новыя пачаткі, упершыню абапіраецца на паўнату нацыянальнага жыцця, перадавой культуры, мовы, мыслення, эмацыянальнага ладу і ахоплівае і развівае разнастайныя сферы гэтага жыцця і культуры. Такі стыль робіцца свайго роду класічным узорам, які менш за ўсё, аднак, з'яўляецца якімсцьці стандартам ці шаблонам. Наадварот, гэты жывы творчы ідэал, што арыентуе і накіроўвае мастацкі пошук, выклікае імкненне ў чымсьці наблізіцца да яго як да пэўнай вяршыні, тварыць у яго духу».

Адной з найгалоўнейшых задач, што аб'ектыўна вынікала з формулы паняцця «нацыянальны класічны стыль», станавілася выяўленне сутнаснага зместу эпохі, шмат'ёмістай сістэмы жыццевымярэнняў, спрыянне крышталізацыі, фарміраванню самасвядомасці асобнага індывідуума і народа ў цэлым. Красамоўнай праявай «стратэгіі абуджэння», удасканалення сродкаў эстэтычнага і псіхалагічнага ўздзеяння на рэцыпіента выступае прыём як бы празмернага тыражавання — на першы погляд аднастайных — тэм, вобразаў, матываў у творчасці Купалы і Коласа, настойліва-паўтаральны зварот класікаў да ўсяго комплексу грамадзянскіх пачуццяў, маральных і этычных каштоўнасцяў. Гэта выяўлялася ў шырокай і багатай вобразнай палітры твораў. Здавалася б, на самым прадвесні XX стагоддзя, калі Беларусь спакваля пачала заяўляць пра сябе словамі яе песняроў, Я. Купала ў вершы «Маладая Беларусь» («Гэй ты, гэй, Беларусь, маладая старонка...», 1909) прароча апавяшчаў пра спраўджаную волю і славу Беларусі, якая паўстала *«не з вясёласці яснай, не з ясных палацаў, / А з канаючай крыўды ў пахіленай хатцы, / Вызываная праўдай, таптанай, жывой...»*. Нястрымнае і непераможнае жаданне ашчаслівіць людзей, напоўніць іх сэрцы *«гартам, надзеяй»*, паказаць *«ім жыцця іх праўдзіву зару»*, дапамагчы ім

выйсці з хітрасплеценага лабірынту беспрасвецця, векавечнага заняпаду, занядбання сваіх праў і свабод, збудзіцца ад летаргічнага сну, бяспамяцтва і безнадзейнасці было галоўным унутраным стымулюючым фактарам жыццятворчасці паэта. Апантанасць ідэяй беларускага нацыянальнага адраджэння станавілася ўсеабдымнай і ўсеахопнай. І Купала, і Колас з самага пачатку працы на ніве беларушчыны добра ўсведамлялі, што толькі высока прачулае, шчырае і сумленнае, жывое слова здолее абудзіць у народзе *«спячы дух»*, зрабіць спробу — хай пакуль і не такую смелую і рашучую — штосьці змяніць-перайначыць у сваім лёсе, у самім алгарытме думання, самарэфлексіі, самавыяўлення, нарэшце, у самім ладзе жыцця.

З глыбокім усведамленнем эстэтычных задач, якія стаялі перад літаратурай, шырока і ўсеабдымна раскрываў разнастайныя праявы нацыянальнай рэчаіснасці Я. Колас. Галоўнай мастацкай вартасцю паэзіі Коласа з'яўляецца яе існая народнасць, дэмакратызм. Ступень і характар паэтызацыі родных краявідаў, пейзажныя замалёўкі, прыродаапісальная лірыка паэта ў цэлым — з разраду з'яў неардынарных, якія істотна ўплывалі на станаўленне асноў нацыянальнай літаратуры, на ўмацаванне нацыянальнай традыцыі, ідэалагічна-эстэтычнай нарматыўнасці. Нароўні з Купалам Колас актыўна ўдзельнічаў у працэсе канструявання знешняй карціны нацыянальнага свету і нацыянальнага тыпу беларуса, дасягаючы высокага сплаву універсальнага і нацыянальнага пачатку. Валодаючы надзвычайнай цэласнасцю светаадчування, Колас у многіх вершах па-мастацку выяўленча-пластычна паказвае стыхійна-жыццёвыя асновы рэчаіснасці з тонкай нюансіроўкай псіхічнага стану свайго лірычнага героя.

Духоўныя высілкі Купалы і Коласа і былі скіраваны менавіта на вырашэнне тых неадкладных задач, якія мелі першаступенную важнасць і значнасць у плане нацыянальнай самаідэнтыфікацыі, нацыянальнага самапазнання, самасцвярджэння. Архіважнай задачай было стварыць літаратуру не проста ў выглядзе корпуса розных тэкстаў, а надаць ёй адмысловы статус, ператварыць яе ў нацыязначны культурна-падзвіжніцкі і духоўна-адраджэнскі цэнтр, які б узяў на сябе функцыю кансалідуюча-аб'яднальную, генератыўна-стратэгічную, дзе б цераспалосіца волевыяўленняў, перакананняў, ідэй, уключаючы мараль, веру, этычныя ўстанаўленні, натуральным і мэтаскіраваным чынам прадуцыравалася ў стройнае нацыязаангажаванае адзінства. Патрэбна было скіраваць энергію і эмоцыі людзей у кірунку сцвярджэння нацыянальнай свядомасці, самой ідэі нацыі як стваральнай сілы, разумеючы, што без гэтага немагчыма духоўная інтэграцыя беларусаў. Вось чаму «ва ўмовах нацыянальнага адраджэння станаўленне беларускага «краснага пісьменства было справай не толькі ўнутрылітаратурнай, але і агульнаграмадскай, — слушна заўважае Т. Чабан, — высокая ідэйная і мастацкая годнасць літаратуры была сведчаннем жыццяздольнасці мовы, нацыянальнай культуры, духоўнага жыцця нацыі. З другога боку, пры амаль поўнай адсутнасці іншых формаў культурнага жыцця літаратура набывала універсальны характар, выяўляла і сканцэнтроўвала ўсе шматстайныя праявы нацыянальнай духоўнасці».

У суровых віхурах часу Купала і Колас шукалі шляхоў паяднальнасці, духоўнага кантакту з народам дзеля ўсталявання — у рэшце рэшт — нацыянальнай дзяржаўнай супольнасці. Крайне важна было мастацкім словам узварухнуць, абудзіць гістарычна прыспаную свядомасць народа з тым, каб наладзіць з ім духоўны дыялагічны кантакт, заклікаць да суразмоўя, да супольнага супрацьстаяння жыццёвым злыбедам, да пошукаў светланосных шляхоў у будучыню. Выпрацоўка стрыжнявога нацыянальнага ідэалу была злабадзённым патрабаваннем часу і аб'ектыўнай гістарычнай заканамернасцю. Толькі супольнымі намаганнямі, пры ўмове кансалідацыі ўсяго грамадства, можна было дасягнуць мэты. Ужо ў наш час на сустрэчы з прадстаўнікамі творчай інтэлігенцыі 17 снежня 2003 года. Прэзідэнт Рэспублікі Беларусь А. Р. Лукашэнка адзначыў, што «краіну можна назваць па-сапраўднаму моцнай, калі яе жыхары аб'яднаныя не толькі геаграфічна, але і духоўна. Калі грамадзяне ўсведамляюць і падзяляюць фундаментальныя ідэі і каштоўнасці грамадства».

А тады, на самым прадвесні нацыянальнага адраджэння, патрэбна было дарэшты разбіць разбуральны міф пра спаконвечную абяздоленасць, забітасць і непаўнавартаснасць беларусаў, пераадолець стэрэатыпную слязлівасць, якая набывала якасць і гучанне пэўнага канона на старонках адраджэнскіх выданняў. Гісторыя заклікала на авансцэну беларускі месіянізм, наўпрост звязаны з ідэяй абуджэння пачуцця нацыянальнай годнасці і нацыянальнай свядомасці, але «без найменшых знакаў нацыянальнага шавінізму і нянавісці да чужых нацый» (як адзначалася ў выданні «Маладая Беларусь». Сшытак 1, сер. 1, 1912 г.). Менавіта ў гэты час у літаратурна-крытычных артыкулах, якія друкаваліся перадусім на старонках «Нашай Нівы», была насамрэч сфармулявана канцэпцыя «літаратурнага нацыяналізму» — сінтэтычнага развіцця і самасцвярджэння беларускай літаратуры і культуры.

Беларускія вешчуны праўды і волі аднымі з першых адчулі небяспеку міжвольнага стварэння адмоўнага іміджу нацыі. Асаблівае ўнутранае пярэчанне і нязгоду выклікалі малюнкі здзіўляючага падабенства ў адлюстраванні гаротнага сялянскага жыцця, у аснове якіх — сумны і няўцешны відарыс суцэльнай галечы, побытавай неўладкаванасці, адвечнай скаргі-плачу, акурат цывілізацыйнай прорвы. Кожны з літаратараў, як можна меркаваць па тэматычнай і зместавай канве твораў, усведамляў неабходнасць фарміраваць рэпрэзентатыўна-кананічны ідэал нацыі, спалучаны з вераю ў праўду, у заўтрашні дзень, у высокія ідэалы жыцця. І гэта было надзвычай злабадзённай задачай часу. У адным са сваіх артыкулаў Максім Багдановіч горача даводзіў, што «не жаласць, не грашовая міласць памогуць змучанаму і хвораму сэрцу беларуса: увага, давер, пашана да яго грамадскіх правоў, чалавечнасць — гэта лепшае лякарства ад многіх хвароб. Ведайце толькі: не жаласці, а праўды хоча ад вас наш народ!» Насамрэч, пачынаць трэба было з самога чалавека, са звароту да яго самых найінтымнейшых, самых тонкіх струн душы, пачуццяў, адчуванняў, тых думак, якія вярэдзілі ўсю яго істоту, але не знаходзілі выйсця з фатальнай безвыходнасці, тупіковасці. Толькі ўзнавіўшы мастацкімі сродкамі адэкватную, рэальную карціну-сцэнаграму споведзі «мяцежнага духу», можна было спадзявацца на адпаведную рэакцыю-суперажыванне, жывы рэзананс, які б працінаў наскрозь, вярэдзіў, нараджаў бунтоўную хвалю ўнутранага супраціву, нязгоды, спачування, — у залежнасці ад ідэйна-тэматычнага напаўнення канкрэтнага твора, ідэалагічных і эстэтычных установак і вырашаемых аўтарам мэт. Іншымі словамі, важна было дасягнуць эфекту люстранога адбітку і своеасаблівага пачуцця гэтак званай «остранённости», што дазваляла чытачу пагля́дзець на сябе як бы збоку, а значыць, іншымі вачыма, у іншым прэзентатыўна-выяўленчым ракурсе. Але ці значыла тое, што ў сваім спавядальна-распавядальным акце і Купала і Колас наважваліся цалкам агаліць усю праўду пра чалавека, выставіць на свет усе ягоныя заганы, якімі б непажаданымі і няўцешнымі б яны не былі? Ці варта ўвогуле ў высокім мастацтве прыбягаць да аголенай самакрытыкі, ментарскага тону, павучанняў, настаўленняў, абраўшы ролю настаўніка жыцця, вешчуна ісціны ў апошняй інстанцыі? Адказ, як кажуць, з разраду рытарычных. Сусветная мастацкая практыка пераконвае: такі прыём, такі падыход малаэфектыўны, малапрыдатны, а то і абсалютна недапушчальны. Нельга, кіруючыся высакароднай задачай і светлымі памкненнямі, якія наўпрост звязаныя з мастацкім даследаваннем важнейшых жыццёвых працэсаў, сацыяльнага і псіхалагічнага статусу свайго героя, абсалютызаваць адмоўную дамінанту, пэўныя «душашчыпальныя» комплексы, якія ніяк нельга аднесці ў разрад вышэйшых, пазітыўных, *дабро*ствaральных і якія, па сутнасці, прыніжаюць годнасць чалавека.

У гэтай сувязі даволі прэтэнцыёзным, а то і, не пабаімся сказаць, адыёзным падаецца тое ж агульнавядомае ўстойлівае клішэ «ідыятызм вясковага жыцця», да якога часта прыбягаюць пры характарыстыцы менавіта вясковага ладу жыцця ў пачатку XX стагоддзя і ў першыя паслярэвалюцыйныя гады. Выраз набыў сапраўды адценне пэўнага ацэначнага вульгарызму з крайне адмоўным, прыніжальным, нават абразлівым сэнсам. Ён бессаромна тыражуецца, у самым розным фармаце і ключы, у якасці найбольш прыдатнага характарыстычнага сродку, які нібыта ўсеабдымна і ўсебакова раскрывае сярмяжную, немудрагелістую сутнасць простага чалавека з

народа. Глыбока памыляецца той, хто так думае, так разважае. Падобныя «перлы»-шчыраванні не робяць вялікага гонару «экзальтаваным» інтэрпрэтатарам гісторыі народа, арганічнай часткай якога яны з'яўляюцца, хай сабе і намінальна. Легкадумнае бравіраванне псеўдакрылатымі выразамі, прыказкамі і показкамі, якія нясуць адмоўны зарад, — красамоўнае сведчанне павярхоўнасці ці ленасці мыслення, адзнака некрытычнага розуму, начотніцтва, шкалярства, абсалютнай непасвечанасці ў таямніцу багатага і стракатага народнага жыцця — шматмернага, шматколернага.

У гэтай сувязі варта прывесці цікавыя сведчанні Усевалада Рагойшы, які ў сваім артыкуле «Творчасць Янкі Купалы як маркер нацыянальнай свядомасці: на матэрыяле сучаснага друку», звяртае сваю ўвагу на сучасныя сумніўныя інтэрпрэтацыі таго ж купалаўскага верша «А хто там ідзе?», стаўшага своеасаблівым гімнам беларускага народа. Аўтар слушна заўважае, што праз нядбайнае стаўленне да Купалавага слова сцвярджаецца «ў якасці стандарту ўзровень нацыянальнай самасвядомасці стогадовай даўнасці» і, такім чынам, замацоўваецца «стэрэатып успрымання беларусаў (у тым ліку і самімі беларусамі) як другаснай, несамадастатковай, «пагарджанай век» нацыі — што абсалютна супярэчыць ідэі, закладзенай самім Купалам у гэты твор». Аўтар выказвае слушную перасцярогу, што ў апошні час пагражальнай становіцца тэндэнцыя, калі Купалу прыпісваецца комплекс неўласцівых ягоным творам ідэй, а спекуляцыі на Купалавым аўтарытэце абумоўлены відавочнай кан'юнктурнасцю, несумленнай падменай ідэнтычных, сапраўдных купалаўскіх ідэй ілжэідэямі, папулісцкім слэнгам. Калі гаварыць пра верш «А хто там ідзе?», то, пагодзімся з тым, што ў ім паэт «у духу біблейскага старога тастаменту» (У. Гніламёдаў) выявіў высакародна-трагічнае, месіянскае шэсце нескаронага народа, які нясе сваю крыўду на паказ усяму свету з адзінай марай і адзіным жаданнем «людзьмі звацца».

Зразумела, спасцігнуць душу народа можна было, толькі скіраваўшы сваю ўвагу на выяўленне і асэнсаванне глыбінных, узаемазвязаных і ўзаемазалежных, падчас даволі няпростых, супярэчлівых грамадскіх працэсаў і аспектаў, міжасобасных стасункаў у тым ліку. Важна было ў сферу мастацкага даследавання прыцягнуць увесь комплекс сацыякультурнай, духоўнай чыннасці ў шматстайных і універсальных яе праявах, беручы пад увагу псіхабіялагічны і генетыка-антрапалагічны фактар. Творы Я. Купалы і Я. Коласа пераканаўча сведчаць пра тое, што іх аўтары, паказваючы этапы духоўнага выспявання і духоўнай абуджанасці чалавека, не маглі абысці ўвагай тыя не вельмі прыязныя моманты, якія тычыліся «высвятлення *першаасноў духоўнасці* — таго стрыжнявога матыву, што вызначае чалавечае ў чалавеку», як піша Васіль Жураўлёў у сваёй працы «Актуальнасць традыцый: Якуб Колас у пісьменніцкім асяродку». І гэта ніяк нельга расцэньваць як парушэнне праўды жыцця і мастацкай праўды. Наадварот, у спробе дакапацца да першапрычын «крыўд і бед» бачыцца імкненне бескампрамісна, але пры гэтым чуйна і сумленна падысці да асвятлення тых негатыўных праяў, якія выступаюць перашкодай на шляху да духоўнага абнаўлення. У любым выпадку, падчас жорсткія словы-звароты як крайні аргумент ідэалагічнага перакanання не мелі нічога агульнага з пагардлівым і абыякавым позіркам звысоку і былі пазбаўлены адцення якога-небудзь снабізму, фанабэрыі. За імі — суровая праўда жыцця як яна ёсць, і разам з тым неадступная вера ў жыватворныя крыніцы народнага духу, у мудрасць народа, у правільнасць яго адвечнага пакутлівага пошуку ісціны, дабра, справядлівасці. *«У народ і край свой толькі веру // І веру ў самога сябе»* — гэтыя купалаўскія словы як нельга лепш высвечваюць яго паэтычнае і грамадзянскае крэда, унутрана-стрыжнявую ўпэўненасць у неўміручасць і невынішчальнасць яго, народа, духу.

Пагодзімся: ёсць тоны, але ж існуюць і паўтоны, пераходныя, няўлоўныя тоны, ёсць адкрыты, знешні пласт, які ўспрымаецца найчасцей у ахраматычнай, аднаколеравай афарбоўцы, і, наадварот, мае месца храматычны колер, што іграе сваімі паўтонамі, пераходамі. Змяшаныя, памежныя колеры часцей заварожваюць наша ўяўленне, разнастайваюць і ўзбагачаюць ракурсы ўспрымання, прымушаюць больш актыўна працаваць уласную фантазію, інтуіцыю, што, урэшце, прыносіць унутраную асалоду, задавальненне, акрыляе і прасвятляе душу. Гэта ніколькі не азначае,

што на ўсе рэчы, з'явы, прадметы, а тым больш на чалавека патрэбна глядзець праз «вясёлкавае шкло». Справа ў іншым. У мастацкім даследаванні характару, у раскрыцці сутнасці любога мастацкага феномена важна захаваць меру і такт — у апісаннях, характарыстыках, аналізе дзеяў і ўчынкаў, у ацэнцы жыццёвых каштоўнасцяў, у пазіцыраванні пэўнай ідэі (комплексу ідэй). Тут сапраўды важна адчуць тую мяжу, тую, па-руску кажучы, «грань», якая дазваляе чалавечаму / чалавечнаму, прыстойнаму / прыймальнаму — *людскому* — застацца на вышыні, перамагчы, адолець нялюдскае, цямрачае, злое і злавеснае. Чалавеку, нават у межах мастацкай выдумкі, фантазіі важна даць шанц на тое, каб засцерагчы-захаваць душу ад нечысці і бруду, даць права на духоўную бяспеку, а разам з тым гарантаваць аўтаномнасць і недатыкальнасць унутранай цэльнасці-трываласці. У любым выпадку, твор мастацтва павінен натхняць, выклікаць духоўны катарсіс, спрыяць пошукам сябе, весці да існага, сапраўднага, высакароднага. І ў дадзеным выпадку абсалютна падставовым падаецца прыпадабненне твора мастацтва да светача, які асвятляе шлях у цемры, пасяляе ў душы спакой і ўпэўненасць у заўтрашнім дні.

Купала як прарок нацыі добра ўсведамляў, што літаратура павінна служыць духоўнаму абуджэнню і нацыянальнай кансалідацыі і таму ўсе свае намаганні прыкладаў дзеля канцэптуальнага асэнсавання нацыянальна-адраджэнскай ідэі.

Найбольшы клопат паэта-месіі ў тым, каб стварыць надзейны грунт, падмурак, тую духоўную аснову, на якой была б зведзена ў адно і надзейна трымалася свядомая беларускасць у адзіным мірным і суладным рытмабіцці сэрцаў. Вось чаму такімі ідэязначнымі, канцэптазначнымі ў моўнай палітры Купалы нашаніўскай пары паўстаюць словы і выразы *«грамадзянская згода»*, *«супольнасць»*, *«згода»*, *«брацтва»*, паэтычныя імператывы (*«любімосць, мае суседзі»*, *«кіньма, сваркі, звадкі»* — «Любімосць, мае суседзі!»). У вершы «Навагоднія жаданні» (1908) Я. Купала прама ўказвае на тыя канкрэтныя прычыны-перашкоды, якія цягам стагоддзяў не давалі спраўдзіцца адвечнай запаветнай мары людзей:

> Сваркі, звадкі не раз былі згубай для нас,
> Разлучалі са шчасцем, з свабодай...
> Хай жа з Новым Гадком новы бліжыцца час,
> Брацтва, роўнасць, супольнасць і згода!

У вершы «Маладая Беларусь» («Гэй ты, гэй, Беларусь, маладая старонка», 1909) Купала таксама дае аптымістычную карціну будучага нацыянальнага ўладкавання, сцвярджаючы яго асновасутнасныя складнікі і перадумовы:

> Грамадзянская згода, супольнасць загосце,
> Аж усцешацца прадзедаў цені і косці,
> Слоў унука не зглушыць ніякі прымус,
> Што ён роднай зямлі верны сын, беларус.

Літаратура і мастацтва на працягу доўгіх вякоў імкнуліся знайсці тую дзейсную інтэлектуальную і духоўную сілу, якая б указала шлях да ўнутранага прасвятлення, прывяла да паслаблення канфліктнасці і канфрантацыі ў любых іх праявах і дазволіла прыйсці да згоды і ўзаемаразумення паміж людзьмі. Пры выбары шляхоў вырашэння складаных жыццёвых задач мастацкае слова заклікана дапамагчы захаваць стрыжнявую ўнутраную канстантнасць, устойлівасць і ўпэўненасць у паспяховым пераадоленні магчымых цяжкасцей і перашкод. У дадзеным выпадку менавіта крытычны падыход, «крытычны розум», па словах В. Жураўлёва, «могуць быць для чалавека вельмі дзейсным і сур'ёзным сродкам і гарантам самаабароны ад розных выпадковасцей і найперш — ад моцнага, негатыўнага ўплыву на яго замаскіраванай, закамуфліраванай і загрыміраванай у формы дабрыні і праўды падманлівай ілюзорнай ідэі, што тоіць у сабе для слаба падрыхтаванай свядомасці і залішне даверлівай, наіўнай душы вялікую небяспеку лёгка прымаць «на веру… шаблон пустых слоў, пустыя выразы, чужыя формы думак і чужы змест іх».

Паводле В. Жураўлёва курс на абнаўленне і абуджэнне духоўных і творчых сіл чалавека і нацыі быў ўнутранай неабходнасцю і адной з рэальных перадумоў паспяховага і паўнацэннага выканання літаратурай сваёй грамадскай функцыі яшчэ на пачатку XX стагоддзя. Гэтая лінія паслядоўна праводзілася «Нашай Нівай». «Зыходзячы з ідэі фармавання грамадскай супольнасці, — адзначае М. Рагойша, — «Наша Ніва» заклікала чытачоў змагацца з пасіўнасцю і інертнасцю, безыніцыятыўнасцю, выступала супраць сацыяльнай раз’яднанасці нацыі, індывідуалістычнай асабістай замкнёнасці, заклікала да салідарнасці, узаемнай падтрымкі беларусаў адзін аднаго».

Красамоўным фактам, які засведчыў аб’ектыўнае імкненне і здольнасць літаратуры выйсці на новыя мастацкія рубяжы, з’яўляецца дыскусія 1913 года на старонках «Нашай Нівы», і, у прыватнасці, артыкул «Па сваім шляху» Юрыя Верашчакі (В. Ластоўскага), аднаго са стваральнікаў дактрыны нацыянальнай літаратуры. Аўтар выказаўся за неабходнасць фарміравання новага тыпу мастака, які б ўвасабляў і адлюстроўваў духоўную сутнасць народа і змог стварыць свае, нацыянальныя, формы творчасці, выпрацаваць уласныя крытэрыі мастацкага ўспрыняцця і ацэнкі жыцця, набыць свой арыгінальны голас. У прыватнасці, Ю. Верашчака сцвярджаў: «На нашых «навінах» павінна быць багатая ўрода, мы павінны знайсці сябе і даць свету новыя думы, сказаць новае слова.

А калі мы скажам новае слова, калі мы тым, што па горах ходзяць і не бачаць сонца, пакажам яго, тады мы раз назаўсёды заваюем права называцца культурным народам, тады на край свету пралунае слова беларускага імені і да нас прыйдуць людзі шукаць новых пуцяводных зор, новых праўд». Аўтар горача адстойвае думку, што ў літаратуры павінен з’явіцца новы герой — «тып чалавека будучага». Палемічна адмаўляючы «благі ўплыў бульварнай і неўрастэнічнай суседскай літаратуры», Ю. Верашчака настойліва даводзіць, што «нашы пісьменнікі павінны вырабляць талент свой не на дэкадэншчыне, а на ўсясветнай класічнай літаратуры, павінны не толькі раскрываць раны свайго грамадзянства і паказваць яго калецтвы, але і шукаць чалавека будучыні, чалавека сільнага, здаровага, чалавека — цара прыроды.

Мы павінны шукаць і знайсці новы шлях і паказаць яго тым, што дагэтуль, па горах ходзячы, не бачуць сонца».

Як бачым, пафас артыкула мае жыццесцвярджальны, аптымістычна-вітальны характар, з вялікай доляй рацыянальнага, што, зноў жа, абумоўлена канкрэтнай гісторыка-культурнай сітуацыяй. Эпоха нацыянальнага адраджэння аб’ектыўна ўспрымалася і трактавалася ў шырокім агульнакультурным кантэксце, і перад літаратурай стаяла задача выбудаваць прывабную мадэль новай, адметнай культурна-духоўнай традыцыі, нацыянальнай самасці, што мела б бясспрэчнае права на жыццё. Важна было «мадэрнізаваць», актуалізаваць ідэалагічныя, філасофскія, гісторыка-культурныя і эстэтычныя комплексы, надаць ім пазітыўнае гучанне з тым, каб яны набылі статус своеасаблівай нацыянальнай дактрыны, пэўнага грамадскага кодэксу, які б стымуляваў і падтрымліваў жыццёвы і гістарычны аптымізм народа. У гэтым кантэксце словы «новыя думы», «новыя словы», «новая праўда» набывалі адценне правідэнцыялізму і месіянства. Літаратурнай творчасці адводзіўся асобы — прарочы — статус і значэнне, а мастаку, адпаведна, роля і амплуа мудрага ўладара народных дум, прарока, песняра-правідцы, які бярэ на сябе адказнасць за лёс народа. Гаворка, па сутнасці, ішла пра новы тып пісьменніка, які можа ўказаць шлях да «новага жыцця», «новага слова», што ў кантэксце адраджэнскай ідэалагемы мела аграмадны жыццебудаўнічы сэнс.

У рэчышчы распачатай Ю. Верашчакам гаворкі красамоўным падаецца і заклік М. Гарэцкага падняць прэстыж нацыянальнага тэатра, рупіцца пра змястоўнасць драматургічных твораў, што мела для нацыянальнага адраджэння першаступенную ролю. «Пакажыце беларусу са сцэны, хто ён, чым ён быў, што ён цяпер, чым бы ён мог быць, гукніце яго са сцэны да новага жыцця — і божа мілы! — гэты гаротнік беларус, пераканаўшыся, ужо знойдзе здольнасці парваць ланцугі рабства, патрапіць крыкнуць: «Жыве Беларусь!» — так дужа, што аж

векавыя муры няволі, як тыя сцены ерыхонскія, пасыплюцца ў прах. А ў такім разе доўг нашых пісьменнікаў, каторы яны павінны сплачваць, гэта — у драматычных творах паказаць беларусу, у якой пушчы ён блудзіць і дзе ляжыць яму дарога на поле, шырока-далёкае, роднае поле вольнага жыцця».

Агульнай платформай, на якой адбываўся філасофска-светапоглядны пошук нацыянальнай ідэнтычнасці, станавіўся ўвесь духоўны комплекс чалавека, яго быційны статус, ментальныя асновы, прынцыпы светаўспрымання і г. д. У любым выпадку, шлях да агульначалавечай культуры ляжаў перадусім праз спасціжэнне адмыслова *нацыянальнай індывідуальнасці*, выяўленай у мастацтве і праз культурнае будаўніцтва. Іншымі словамі, прыярытэт нацыянальнага, інтэнсіўны пошук уласнай сутнасці станавіўся запарукай уваходжання ў сусветную супольнасць. Маючы на ўвазе вострую неабходнасць нацыянальнага пазіцыяніравання, Л. Гмырак, у прыватнасці, пісаў: «Тым болей энергічней павінны мы працаваць, каб дагнаць другіх, каб папоўніць усе недахваты многавяковага застою, каб як найхутчэй увайсці ў агульналюдскую сям'ю. Увайсці ж мы туды зможам толькі як беларусы, толькі цвёрда стоячы на грунце нацыянальнай асобнасці».

Патрэба знаходжання маркераў «нацыянальнай асобнасці», раскрыццё характару, псіхалогіі асобы было абумоўлена ў вялікай ступені і тым, што, па пераконанні таго ж Ю. Верашчакі, «гэты асобны характар і псіхалогія вытвараюць нацыянальную ідэалогію. Ідэалогія бывае заўсёды нацыянальная, бо яна, як смак у ягадах вінаграду, творыцца з варункаў клімату і псіхалогіі людзей. Ідэалогія, — падсумоўвае сваю думку аўтар, — гэта сума ідэалаў, якія нацыя ці асобны чалавек мае ў сваёй галаве, носіць у сваім сэрцы». Як бы ў працяг гэтай тэзы М. Гарэцкі даводзіў: «І трэба яшчэ паказаць беларусу са сцэны, што ён — *чалавек*, і што ён павінен мець свой чалавечы гонар, і павінен дзетак сваіх гадаваць з сумленнем [...].

І трэба паказаць беларусу са сцэны, што ён мае слаўнае прошлае, што яго дзядоўшчына нараўні з крапчэйшымі старонкамі пад сонцам была і што карані нашы родныя беларускія не згнілі, трывалы і цягучы, маюць жывы сок і жывую сілу і ўжо добрыя адросткі к небу гоняць, а з часам над імі крэпкія, высокія, прыгожыя дрэвы закрасуюцца...»

Па сутнасці, выступленні ўдзельнікаў нашаніўскай дыскусіі (Ю. Верашчакі, В. Ласта) («Сплачвайце доўг», «Па сваім шляху» і інш.), аднаго з парнаснікаў (мяркуемы псеўданім Я. Купалы) («Чаму плача песня наша»), Л. Гмырака («Яшчэ аб сплачванні доўгу», «Мова ці гутарка» і інш.), Я. Лёсіка («Ці маем мы права выракацца роднай мовы, «Ці сапраўды мы ніколі не будзем мець свайго Міцкевіча, Пушкіна, Сянкевіча, Талстога?» і інш.) набылі ўсе адзнакі літаратурных маніфестаў аб шляхах стварэння новага нацыянальнага мастацтва, выпрацоўкі новай філасофска-мастацкай канцэпцыі, якая мела на ўвазе арганічнае спалучэнне нацыянальнага і універсальнага, сваёй і іншанацыянальнай культурнай традыцыі.

Беларускія пачынальнікі-адраджэнцы бачылі тую небяспеку, якая таілася ў фаталістычным нацыянальным гіперкрытыцызме, у ганебным стэрэатыпе суцэльнай абяздоленасці і непаўнавартаснасці беларусаў, што аб'ектыўна пазбаўляла якіх бы там ні было перспектыў развіцця нацыі. Песімістычны, слязліва-сентыментальны вобраз беларуса, падача яго як ахвяры гістарычнага працэсу ніколькі не спрыяла яго прэзентатыўнаму іміджу. Больш таго, гэта быў бесперспектыўны, тупіковы шлях, які не адпавядаў зместу і логіцы развіцця нацыянальнай культурнай традыцыі, маючай моцныя скрытыя патэнцыі развіцця.

Менавіта ўжо на пачатку свайго шляху Я. Купала, узяўшы курс на культурна-духоўную кансалідацыю нацыі, на ўмацаванне ідэі аб самастойным гістарычным шляху, на адраджэнне рамантычнага пафасу пошукаў нацыянальных каранёў, мастацка-прапагандысцкімі сродкамі імкнуўся прывіць пачуццё асобаснага і нацыянальнага самаўсведамлення і самасцвярджэння. «Творчасць Купалы сведчыла, — зазначае У. Гніламёдаў, — што на змену пакутніку і плакальшчыку ў беларускую літаратуру прыходзіць новы, адраджэнскі тып чалавека, які пачынае

разумець сваю вартасць і маральную сілу. Гэты чалавек становіцца пратаганістам купалаўскай творчасці, вызначае яе ідэйны змест і мастацка-эстэтычныя рысы».

У многіх вершах паэта, уключаючы і ранні перыяд творчасці, гучыць пратэст супраць жыццёвай руціны, бязмэтавага празябання, інерцыі, бяздзейнасці, сцвярджаецца неабходнасць абрання больш актыўнай пазіцыі, гатоўнасць адстойваць свае чалавечыя правы. Вось чаму форма непасрэднага публіцыстычнага звароту, заклiку станавілася найбольш аптымальным шляхам грунтоўнага дыялога з народам:

Пакіньма напуста на лёс свой наракаць,
Скрозь слёзы скаргі сеяць па зямлі, —
Нам трэба жыць і долю папраўляць,
Каб нас патомкі з часам не клялі.

Блудныя сцежкі цёмнага жыцця
Навукі сонцам мусім рассвятліць,
Каб мы і наша ў прышласці дзіця,
Не блудзячы, маглі свой век дажываць.

Штандар свабоды хай вядзе усіх
У свет на бітву з цемрай і са злом,
А гікі грозьб мучыцеляў глухіх
Глушыма вольнай песні перуном.

Навукай, воляй зможам стогн бяды,
Засеем долю на роднай зямлі,
І зажывём шчасліва мы тады,
Як прадзеды век нашы не жылі.

Як бачым, у прыведзеным вершы Купалы, напісаным у рэчышчы агульнай тэндэнцыі да абнаўлення грамадства, відавочна заўважаецца апалогія навукі, асветы як дзейснага сродку барацьбы *«з цемрай і са злом»*, што натуральна стасоўвалася з ідэалагемай нацыянальнага адраджэння. У Купалы моцным было жаданне аб'яднаць людзей, абудзіць у іх непераадольную прагу дзеяння-спамыслення, акрыліць надзеяй і верай у лепшую долю:

Пойдзем, ўзяўшы за сцяг свой і роўнасць, і згоду,
Жыцця лепшага покуль не знойдзем,
Пойдзем, пойдзем сабе здабываці свабоду,
Як адзін, як адзін дружна пойдзем!

У рэчышчы адраджэнскай тэматыкі, у якой яскрава выяўлена аптымістычная мадэль быцця, ідэя пераўтварэння рэчаіснасці, напісаны і верш «Сваякам па гутарцы». Паэт выкарыстаў у ім — у межах рамантычнай парадыгмы нацыянальнага міфа — да сродкаў відавочна дэкларацыйна-публіцыстычных, рытарычных з мэтай узмацніць патрыятычную дамінанту, пафас веры ў жыццесцвярджальныя пачаткі жыцця:

Шлю вам песняй, братнім словам
  Здароўканне, людзі:
Не гасіце веры, што вам
  Жыцца лепей будзе.

Вы не зломкі, вы не зноскі,
  Вы народ магучы:
Ваша панства — вашы вёскі,
  Пан ваш — труд жывучы.
..................................................
Дык хай жа вас не асіле
  Зверства непагоды,
Распусціце сваё крылле,
  Як і ўсе народы.

Рухне крыўда, праўда ўстане,
  Ворагаў адстраша,
Будзе долі панаванне
  На зямлі на нашай.

Сутнасна важна было згуртавацца дзеля «вялікаснай і справядлівай, гістарычна выпакутаванай ідэі нацыянальнай незалежнасці Беларусі». «Каб сцвердзіць, узвялічыць і абгрунтаваць гэтую ідэю, — заўважае І. Багдановіч у сваім артыкуле «Патрыятычны «неарамантызм» Янкі Купалы ў святле Міцкевічаўскай традыцыі і еўрапейскага мадэрнізму», — Купала паэтызаваў гістарычнае мінулае, у якім бачыў духоўную

апору на новым этапе барацьбы. Для гэтага патрэбна была яго гераізацыя і ідэалізацыя». І гэта тычыцца, зрэшты, не толькі мастацкай рэфлексіі мінулага. Прыхільнік і прадаўжальнік міцкевічаўскага рамантычнага ідэалу свабоды, рамантычнага пафасу ўвогуле, Купала не паказваў свайго героя выключна як істоту сацыяльна і грамадска ангажаваную, а імкнуўся раскрыць багаты ўнутраны свет сучасніка ў яго бясконцай складанасці. Мужык як прадстаўнік народа выступае ў яго носьбітам, з аднаго боку, інертнасці, непераборлівасці, пакорлівасці лёсу, а з другога — духоўнасці, прыгажосці, свабоды, абуджэння духу ўвогуле. Купала існа адчуваў сябе, па словах І. Багдановіч, «паклíканым на новае фармуляванне нацыянальнай ідэі, <...> рашуча адмятаў вобраз бяздольніка-недарэкі і замацоўваў у свядомасці з'яўленне новага годнага, «думнага» сына вялікай краіны. Адпаведна канцэпцыя гістарычнага ўпадку замянялася канцэпцыяй новай, маладой Беларусі, якая творыць сваю адроджаную ўсябытнасць». Гэта азначала, што паэт тым самым публічна абвяшчаў духоўную суверэннасць мужыка як нацыянальнага тыпу, далучаў звычайнага прадстаўніка народа да сучаснай яму цывілізацыі, да культуры, да вышэйшых ідэальных, гуманістычных каштоўнасцяў. Менавіта гэты вобраз як бы імпліцытна ўказваў на складанае перапляценне ў ім усеагульнага, нацыянальна-гістарычнага і індывідуальнага пачаткаў, на яго гістарычную запатрабаванасць падчас лёсавызначальных грамадскіх падзей.

Архіважнасць і маштабнасць задачы нацыянальнага адраджэння акурат уплывала на выбар формаў, метада і прыёмаў яе ажыццяўлення праз мастацкае слова. У многім менавіта гэты фактар абумоўліваў і творчую манеру мастака, арсенал выяўленчых сродкаў. І з той жа прычыны творы Купалы маюць моцны суб'ектыўны пачатак, вызначаючы спавядальнай шчырасцю выказвання запаветных думак, выпакутавана-ўзвышаным поглядам на жыццё. «Лірызацыя беларускай паэзіі, пераход ад «жалейкавай усеагульнасці» да «лірыкі персанальна-псіхічнага» (Р. Бярозкін), акрамя чыста літаратурных, эстэтычных задач, неслі ў сабе і мэту сацыяльную, гуманістычную: «Я — мужык», «Я — чалавек», «Я — асоба» — гэты тэзіс не толькі сцвярджаўся ў паэтычных лозунгах і дэкларацыях, але і канкрэтна ўвасабляўся ў раскрыцці багатага, шматграннага, духоўнага ўнутранага свету селяніна». Доказам таму можа служыць і добравядомы ранні верш Купалы «Мужык», пазначаны сцвярджальным пафасам, герой якога пры незайздросным сацыяльным статусе не траціць пачуццё самапавагі, чалавечай годнасці, і поўны рашучасці здабыць права быць паўнапраўным суб'ектам чалавечай супольнасці: *«Ніколі, браткі, не забуду, // Што чалавек я, хоць мужык».*

Літаратура брала на сябе задачу мастацкага ўвасаблення паўнавартаснага, сапраўднага героя як існага прадстаўніка нацыі, больш таго, прадстаўніка ўсяго чалавецтва. Красамоўным сведчаннем таму могуць служыць і згаданыя вышэй і шмат якія іншыя творы паэта. Так, у вершы «Песня і сіла» Купала нібыта выяўляе свой ідэал гармоніі, які магчымы праз пераадоленне тых перашкод, якія не даюць разгарнуцца ва ўсю моц унутраным сілам чалавека:

Дайце разгону, прастору  
Дрэмлючым песням і сілам, —  
Дрогне запор наймацнейшы,  
Мы ўскалыхнём і магілай.

Продка адвечную думу  
Праўнук санлівы пачуе;  
Што ўзяць курган нам маніўся,  
На кургане адбудуем.

Шлях залаты працярэбім,  
Зорна ўзнясёмся ў высоты  
Вышай няпраўды, няславы,  
Вышай пакутных балотаў.

Моц сваю свету пакажам...  
Здзіўляцца старцы і дзеці:  
Што знача песня і сіла!  
Што знача вельмі хацеці!

Увогуле ж, купалаўская «песня і сіла» вельмі ўжо нагадвае багдановічаўскую «красу і сілу». Гэтыя словы ўспрымаюцца не проста як паэтычная формула, знак найвышэйшай дасканаласці, гармоніі, але, што не менш важна, як бы міжволі высвечваюць момант узвышэння чалавечага духу, калі чалавек можа паўстаць ва ўсёй сваёй духоўнай велічы. Самі назвы можна кваліфікаваць як аснову і шлях духоўнага і фізічнага разняволення і ўзвышэння чалавека прыгожага, здаровага, натуральнага.

Галоўную задачу паэта Купала бачыць у тым, каб быць выразнікам духоўных пошукаў нацыі, абуджаць свядомасць людзей, скіроўваць іх на шлях згоды, гармоніі, праўды. Беларускі пясняр усведамляў вялікую сацыяльную функцыю і актыўнае, дзейснае значэнне паэзіі ў жыцці грамадства, асобую ролю мастака, творцы ў сацыякультурным працэсе. Творы сапраўднага паэта — і гэта было ўласным крэда самога Купалы — павінны быць нечым большым, чым толькі фактам літаратуры. І гэта ён даказваў сваёй творчасцю, сваім жыццём. Усё, што выходзіла з-пад пяра Прарока нацыі, мела праграмную, ідэалагічную скіраванасць. У адным з такіх праграмных, ідэалагічна заангажаваных вершаў «Песняру-беларусу» (1909) акрэсліваецца сапраўды тытанічная задача, якую павінен здзейсніць «*зямлі забытай пясняр*» у імя вышэйшай існасці жыцця:

Шчаслівы ты ці нешчаслівы,
Будзі сыноў сваёй зямлі,
Над беларускай соннай нівай
Нязгаслы светач распалі!

Глядзі — ўскалышыцца, прачнецца
Мільённы прыспаны народ...

Ідэал паэта паўставаў у вобразе духоўнага валадара, цара, творцы-дэміурга (*«Пясняр — слуга слугі усякай, // Пясняр і цар усіх цароў»*), які ўзвялічваецца сілай унутранай работы, шляхам самаспапялення, глыбіннага адчування сэнсазначнасці свайго лёсу, учынку, дзеяння. Вобраз паэта ў Купалы заўсёды спалучаны з ідэяй ахвярадайнасці, высокага служэння роднай зямлі, свайму народу, Бацькаўшчыне.

У вырашэнні задач адбудовы нацыянальнага жыцця вялікая роля адводзілася Я. Купалам вобразу-ідэалагеме «прарока», «песняра», «Уладара». У вершы «Паўстань...» (1919), паводле І. Багдановіч, «вобраз новага мудрага ўладара ... выпісаны Купалам эмацыянальна і «геральдычна», што нагадвае стыль манументальнага гістарызму. Постаць уладара ўмяшчала ў сабе амплуа «прарока», «песняра» і «ваякі», які паўстане кроў з крыві, косць з косці гэтага народа і выведзе яго «адбудаваць свой збураны пасад».

Паўстань з народу нашага, прарок,
Праяваў бураломных варажбіт,
І мудрым словам скінь з народу ўрок,
Якім быў век праз ворагаў спавіт!

Збяры ў адну ўсю Беларусь сям'ю,
Вазьмі з яе прысягу і зарок,
Што не прадасць сябе, сваю зямлю...
Зняць путы Бацькаўшчыны ўстань, прарок!
..................................................................
Паўстань з народу нашага, Ўладар,
Адбудаваць свой збураны пасад,
Бо твой народ забыў, хто гаспадар
І хто яго абдзёр з каронных шат.

На Ўладара жджэ Беларусь даўно,
І жджэ цябе ўладарства Божы дар,
Вялікае, магутнае яно...
Пад беларускі сцяг прыйдзі, Ўладар!

Купала і Колас цесна спрычыніліся да праблем нацыянальнай самаідэнтыфікацыі, да пошукаў тых індэтэрмінантаў, якія абумоўлівалі ступень і характар праяўлення нацыянальнага фактару, уплывалі на працэс эстэтычнага самаўсведамлення і самасцвярджэння маладой беларускай літаратуры, на дасягненне ёю ўласнай самадастатковасці, самавартаснасці. Лёсавызначальныя праблемы і задачы, наўпрост звязаныя з самаідэнтыфікацыяй і самавызначэннем нацыі, нязменна

і пастаянна знаходзіліся ў эпіцэнтры мастакоўскага і чыста чалавечага клопату, вярэдзілі неспакойныя і неспатольныя сэрцы Паэтаў, набывалі небывалую грамадска-палітычную важкасці і вастрыню, мелі папраўдзе ўсюдыісны, трансцэндэнтны характар. Нацыязначнае ў творчасці Купалы і Коласа натуральна і заканамерна перагуквалася з агульначалавечым — адстойваннем права на вартае чалавека жыццё, права карыстацца ўсімі заваёвамі цывілізацыі. Ужо на пачатку нацыянальнага адраджэння нашы будзіцелі-пасіянарыі ўзялі на сябе адказную місію быць генератарамі і праваднікамі нацыянальнай ідэі, нястомна і апантана сілай палымянага мастацкага слова абуджалі ў людзях пачуццё адзінакрэўнасці, духоўнай, чалавечай і нацыянальнай салідарнасці, узаемадапамогі і ўзаемападтрымкі, заклікалі паважліва і беражліва адносіцца да нацыянальных і гістарычных святынь. Высока ацэньваючы падзвіжніцкую ролю нашых пачынальнікаў, якія закладвалі падмурак новай беларускай літаратуры і намацвалі перспектыву яе далейшага развіцця, В. Жураўлёў піша: «Абапіраючыся на традыцыі, яны (пачынальнікі. — **В.М.**) добра адчулі, што пры самых шырокіх і разнастайных сувязях і ўзаемадачыненнях з жыццём мастацкае і літаратурнае слова можа паўнапраўна жыць і развівацца, арыентуючыся не на паказ і ўхвалу барацьбы, калатнечы і людской размежаванасці, а на ўмацаванне духоўнай еднасці і братэрскай суладнасці».

Класікі нашай літаратуры жылі і тварылі з вераю ў заўтрашні дзень, у шчасную долю народа, кіруючыся агульнанародным, агульнадзяржаўным інтарэсам, абіраючы пазіцыю дабратворнага і пазітыўнага дыялога з жыццём. Валодаючы магутным духоўна-інтэлектуальным патэнцыялам, яны былі закліканы гісторыяй стаць бясспрэчнымі ідыёлагамі нацыі, выразнікамі яе глыбінных асноў, высокіх духоўных памкненняў, пасіянарных нацыязначных ідэй і задач па пераўтварэнні і абнаўленні жыцця і прыклалі тытанічныя намаганні, каб Беларусь здабыла нарэшце *«свой пачэсны пасаг між народамі»*, заняла сваё годнае месца ў сусветнай цывілізацыі.

Беларусь пакрысе збіраецца ў адну сям'ю. Дзяржаўнае і нацыянальнае ўмацаванне нашай суверэннай краіны ў многім залежыць ад таго, наколькі мы, яе грамадзяне, усвядомілі і ўсведамляем неацэнны ўклад Купалы і Коласа ў фармаванне нацыянальнай беларускай ідэі, ва ўмацаванне духоўных асноў дзяржавы і нацыі. Валадары дум і спадзяванняў народа ўсёй сваёй чыннасцю прадэманстравалі сваю глыбокую прыхільнасць да спаконвечных, выпрацаваных на працягу стагоддзяў гуманістычных прынцыпаў і ідэалаў, якія пераканаўча засведчылі сваю непераходнасць, жыццястойкасць у адвечным пошуку шляхоў да светлай долі і шчаслівай будучыні.







**Маргарыта ПРОХАР**

# ЭКАЛОГІЯ ПРЫРОДЫ І ЭКАЛОГІЯ ДУШЫ

## Чарнобыль у творчасці Віктара Казько, Івана Пташнікава і Віктара Карамазава

У беларускай літаратуры XX стагоддзя існуюць дзве сумныя даты, што вызначылі дзве вялікія літаратурныя эпохі: 22 чэрвеня 1941 года (пачатак Вялікай Айчынай вайны і ваеннай, змагальніцкай літаратуры) і 26 красавіка 1986 года, калі здарылася страшная катастрофа — выбухнуў чацвёрты блок Чарнобыльскай атамнай электрастанцыі. З таго жудаснага дня для Беларусі жыццё падзялілася нібыта на дзве эпохі: да і пасля Чарнобыля. Адпаведна, айчыннае мастацтва, што адлюстроўвае лёс свайго народа, не магло не адгукнуцца на гэтую балючую падзею. Так пачалася эпоха літаратуры пра Чарнобыль — публіцыстычнай, дакументальнай і мастацкай прозы. Уся яна сугучна сваймў стылю і сродкам адлюстроўвала чарнобыльскую рану Беларусі. Гэта балючыя дакументальныя і мастацкія матэрыялы, аднак яны неабходныя як своеасаблівы маральны катарсіс, які дапамагае перажыць трагедыю, і адначасова незабыўная гістарычная памятка наступным пакаленням: ніколі не паўтарыць такога.

Кожны жанравы складнік літаратуры вырашае гэтую задачу па-свойму, у сваёй спецыфіцы, са сваімі функцыянальнымі акцэнтамі, сваімі сродкамі нарацыі і паэтыкі, і менавіта з гэтага вынікае эстэтычнае і мастацкае багацце літаратуры, яе паўнакроўнасць. «Чарнобыльская трагедыя зрабілася галоўнай ідэйна-тэматычнай лініяй сучаснай літаратуры, гэта шмат у чым вызначальная сэнсаўтваральная з'ява ў сучаснай мастацкай свядомасці. Навуковая і крытычная думка імкнецца паглыблена асэнсаваць феномен Чарнобыля ў літаратуры… Чарнобыльская катастрофа спарадзіла разбурэнне традыцыйнага ўкладу жыцця, хаос, абсурд, яна перасягнула межы чалавечай свядомасці, разумовага і ўнутранага досведу, і як рэакцыя — зварот пісьменнікаў да ўмоўна-мастацкага ўвасаблення рэчаіснасці, прыёмаў містыфікацыі, фантасмагорыі, абсурду, гратэску. Ва ўсёй трагедыйнай сімвалічнасці паказана сцэна сяўбы ў Чарнобыльскай зоне ў аповесці Віктара Казько «Выратуй і памілуй нас, чорны бусел», — піша А. Бельскі.

У мастацкай прозе з'явілася больш за паўсотні твораў на чарнобыльскую тэму: раман «Злая зорка» і аповесць «Зона павышанай радыяцыі» Івана Шамякіна, аповесці «Краем Белага шляху», «Бежанцы» Віктара Карамазава, аповесці «Родны кут» і «Еўка» Барыса Сачанкі, раман «Палыновы вецер» Леаніда Левановіча, апавяданні «Гасцініца над Прыпяццю» Івана Навуменкі і «Львы» Івана Пташнікава, апавяданне Алеся Кажадуба «Дуб», Алеся Адамовіча «Апошняя пастараль», твор В. Гігевіча і А. Чарнова «Хроніка чорнай бяды», А. Кудраўца

«Заложнікі Чарнобыля», Б. Скібы «Ліквідатар», І. Чыгрынава «Драматычная фантазія на чарнобыльскую тэму» і іншыя мастацкія творы.

Сярод дакументальных — зборнік «Прайсці праз зону» (творы, якія з'явіліся пасля наведання пісьменнікамі Чарнобыльскай зоны), «Запіскі аб радыяцыі» Барыса Сачанкі, зборнік «Зона бяды» (укладальніца Тамара Чабан), «Чарнобыльскі сшытак» Ніны Рыбік — пісьменніцы, перасяленкі з чарнобыльскай зоны, «Чарнобыльская малітва» Святланы Алексіевіч.

Наша беларуская проза пра Чарнобыль ідзе ўслед за нашай беларускай рэчаіснасцю. Філасофска-псіхалагічнае спасціжэнне адносін прыроды і чалавека вядзе пісьменнікаў да пераканання, што жыццё і светапогляд знаходзяцца ў цесным адзінстве, а ўсе праблемы пераплятаюцца і не могуць быць вырашаны паасобку.

Асабліва балюча бачыць знішчэнне роднага пісьменнікам, што апявалі прыроду, яе прыгажосць, для якіх яна была сэнсам жыцця і творчасці. В. Казько, В. Карамазаў, І. Пташнікаў адметныя своеасаблівым, трапяткім стаўленнем да прыроды. Для іх герояў зямля, атручаная Чарнобылем, — не проста тэрыторыя, гэта малая радзіма, душа, што жыве ў кожным дрэўцы, птушцы, раслінцы на полі, кроплях расы. З вялікай любоўю апісваюць яны прыроду і чалавека ў родным для яго асяроддзі — у злучанасці, неад'емным суладдзі. Варта згадаць творы І. Пташнікава «Мсціжы», «Алімпіяда», В. Казько «Неруш», В. Карамазава «Пушча» і іншыя. І таму ім надзвычай балюча ўсведамляць раны сваёй зямлі.

І. Пташнікаў, В. Казько, В. Карамазаў — прадстаўнікі амаль аднаго літаратурнага пакалення, якое багатварыла зямлю, бо яны — пісьменнікі-вяскоўцы, яркія прадстаўнікі так званай «вясковай» прозы. І таму цэнтральнымі для іх твораў з'яўляецца дыхатамія «чалавек — прырода». У «чарнобыльскіх» творах гэтыя аўтары раскрылі ўсю глыбіню, трагедыйнасць новай балючай рэчаіснасці — рэчаіснасці атручанай прыроды і адпаведна знішчэння маральнай асновы душы героя-вяскоўца.

Паказальны ў гэтым плане раман В. Казько «Выратуй і памілуй нас, чорны бусел». М. Тычына адзначаў, што талент В. Казько літаратурныя крытыкі яшчэ не поўнаўсцю ацанілі «як мастацкую з'яву» і, па словах Т. Нуждзіной, «яго проза — своеасаблівая загадка. Як загадкавае і пытанне, чаму ці каму абавязаны беларусы, што лёс уратаваў, і ў фізічным, і ў духоўна-маральным плане такога мастака, як Віктар Апанасавіч Казько. Бо ў жыцці гэтага пісьменніка столькі неспрыяльных і нават трагічных момантаў, што міжволі паверыш у цуд ці загадкавую прадвызначанасць лёсу».

Г. Друк у сваім даследаванні «Фальклорна-міфалагічныя матывы творчасці Віктара Казько» разглядае талент пісьменніка праз узаемасувязь са спрадвечнымі традыцыямі і адпаведнымі вобразамі фальклорнай, міфалагічнай паэтыкі. Яна піша: «Традыцыйная праблема «літаратура — фальклор» зноў набыла актуальнасць дзякуючы відазмененаму характару адносін паміж народным і прафесійным мастацтвам. Літаратура мінулага стагоддзя адшукала пастаянны стымулюючы фактар для творчай фантазіі — міфасвядомасць і міф». Міфатворчасць, увядзенне міфа як «магічнага рэалізму» адкрывае новы ключ да спазнання творчай індывідуальнасці пісьменніка, раскрыцця адметнай грані яго творчасці. Імкненне пісьменніка да вытокаў свядомасці, да фальклорнай спадчыны стасуецца з адпаведнымі праблемамі, якія раскрываюцца ў творчасці. Так, у рамане В. Казько «Хроніка дзетдомаўскага саду» ярка выяўляюцца матывы і далейшай творчай скіраванасці аўтара.

У далейшым тэму абароны прыроды найбольш адметна і пераканаўча працягвае раман В. Казько «Неруш». Гэта раман-папярэджанне, раман перадчарнобыльскі, але ў сутнасці сваёй ярка нагадвае аб тым, да чаго можа прывесці нядбайнае абыходжанне з роднай зямлёй. Мастацка-філасофская сістэма поглядаў В. Казько грунтуецца на спрадвечных духоўных вобразах, адсюль і карані яго паэтыкі, яго бачання сувязі «чалавек — прырода». Як адзначыла даследчыца Л. Корань, стыль гэтага пісьменніка «якраз на болевай этычнай рэфлексіі ўгрунтаваны». Сапраўды, В. Казько сваімі творамі сцвярджае, што чалавек да таго часу застаецца чалавекам, пакуль можа пераадолець уласны боль і пакуты, пакуль не страціць здольнасці змагацца за адвечнае, адчуваць сябе асобай, іншымі словамі, пакуль у

яго застаецца магчымасць «унутранага зроку», сувязь са спадчынай, фальклорам, традыцыяй жыцця і мыслення продкаў.

Адпаведна паэтыка твораў В. Казько — яркая, метафарычна акрэсленая, багатая на мастацкія дэталі. Напрыклад, вось як перадае пісьменнік адчуванне Чарнобыля ў людзях праз вобраз Дарожкіна з аповесці «Выратуй і памілуй нас, чорны бусел»: «Твар, як адуванчык, у бялёсым вясеннім пуху. А скрозь гэты пух — дзіцячае ластаўчына рабаціннe, вожыкавая стракатасць і кудзелькавыя валасы вожыкам… Вожык у лятучым адуванчыкавым пуху. Чарнобыльскі няголены вожык».

У далейшым ідзе развіццё партрэтнай дэталі для яркай перадачы настрою і характару без прамой аўтарскай ацэнкі: «… усмешка паволі пачала спаўзаць з твару Дарожкіна. Пушок на яго румяных хлапечых шчоках пачаў цямнець і больш выразна-цвёрда пазначылася на твары вожыкава мяккае рабаценне. Падобна, у чарнобыльскага вожыка пачалі расці калючкі». Аўтар трапна назваў Дарожкіна «чарнобыльскім вожыкам» з румянымі хлапечымі шчокамі, у гэтым — і спачуванне аўтара да яшчэ не сталага, маладога Дарожкіна, і адначасова — насцярога, таму што такі самаўлюбёны Дарожкін — прадстаўнік улады. І гэта не адзінкавы выпадак трапнай характарыстыкі, дадзенай праз мастацкую дэталь. Ярка карыстаецца Віктар Казько мастацкай дэталлю-падрабязнасцю для апісання прыроды і кантэксту «чалавек — прырода», што ў многім вызначальная ў канцэпцыі твораў на чарнобыльскую тэматыку.

Адна з яркіх асаблівасцей твора В. Казько — паўтор-напамін: «Ішла чацвёртая пасяўная ад чарнобыльскай вясны» — пастаянны рэфрэн твора. У творах пра Айчынную вайну не трэба было пісаць, што ідзе вайна, гэта было зразумела па жорсткіх баях, узрывах і страляніне. А Чарнобыль — нябачная, але не меншая бяда. Гэта стоены і замаскіраванны за быццам бы нязменным ходам прыроды і дзеяннямі людзей вораг. І таму паўтор-рэфрэн, які праходзіць праз увесь твор, — вяртанне-папярэджанне. Аднак толькі гэтым яго функцыя ў творы не заканчваецца. Фраза «Ішла чацвёртая пасяўная ад чарнобыльскай вясны» — своеасаблівы скрыты аксюмаран (супастаўленне несупаставімага): пасяўная і чарнобыльская вясна, і нават вясна (мір, цвіценне) і азначэнне «чарнобыльская»: «Ішоў чацвёрты год ад Чарнобыля. Убіралася ў сілу чацвёртая чарнобыльская вясна»; «Чацвёртае лета ад Чарнобыля».

Адзін з асноўных сродкаў вобразнасці трагічных, драматычных жанраў — сімвалы. Яны ўспрымаюцца ў В. Казько як знак нечаканай трывогі і выяўленне бяды, што з нябачнай ператвараецца ў адчувальную пагрозу наваколлю і людзям. І адзін з яе першых сімвалаў новай, постчарнобыльскай рэальнасці — мутанты: пацукі, сабакі-ваўкі і падобнае. Чарнобыльскія ваўкі — «пакінутыя чалавекам, здзічэлыя і параднёныя з ваўкамі чарнобыльскія сабакі з зоны. Страшныя ў сваёй неўтаймаванай мутантнай лютасці». Людзі вераць, што з'явіліся чарнобыльскія ваўкі і палююць на іх дзяцей. І гэта прыкмета таго, што людзі дайшлі да такога адчаю, што гатовы верыць у самае неверагоднае: чарнобыльскіх пачвар-ваўкоў, НЛО і іншае. Гэты сімвал яскрава перадае мяжу адчаю. В. Казько пазначае: «Яны ўжо звыкліся са сваёй асуджанасцю, дайшлі да краю жыцця, калі галоўнае — пражыць бы толькі сёння». Беларуская літаратура скарыстоўвае міфапаэтычны кантэкст для адметнага рэагавання на грамадскія з'явы, выбіраючы адметныя вобразы-сімвалы для паказу сацыяльнага і культурнага стану жыцця чалавека. Сфарміраваліся, напрыклад, устойлівыя міфалагемы непрывабнай сутнасці рэчаіснасці: міфалагемы сцяны, пацука (прусака). У гэтай сувязі варта згадаць раман Ю. Станкевіча «Любіць ноч — права пацукоў».

У рамане В. Казько «Выратуй і памілуй нас, чорны бусел» таксама не абыходзіцца без міфалагем разбурэння і дэградацыі. Іх ролю выконваюць вобразы павука-крыжавіка і варон. Павук-крыжавік, якога падабраў Аўгуст Серада, дзіўнаваты старшыня калгаса «Верны шлях», што верыць у прылёт іншапланецян, хоча пагаварыць з імі, высветліць будучыню. У гэтай адчайнай вар'яцкай ідэі разумнага чалавека — канчатковая страта надзеі на рэальныя магчымасці выправіць сітуацыю. Аўгуст Серада не можа змірыцца і звыкнуцца з думкай пра Чарнобыль, таму не хоча бачыць яго, жыве іншасветам і чаканнем праўды з іншасвету. Аднойчы ён заўважае дзівосных памераў павука-крыжавіка, які залез у шклянку. «Першым памкненнем

Аўгуста быў намер забіць і выкінуць таго павука-крыжавіка. Ён яшчэ з дзяцінства ведаў, што таму, хто заб'е павука, даруецца сорак грахоў. А грахоў тых на яго сумленні мелася куды больш. Ва ўсёй акрузе не хопіць павукоў. І нейкі час наглядаючы, як павук ёрзае па гладкім і коўзкім шкле шклянкі сустаўным сваім шматножжам, як лупіць сферычнае вока скрозь гэтае шкло, што павялічвала яго, вырашыў: хай жыве. Чым не прыхадзень, чым не іншапланецянін. Было, было ў павуку нешта незямное, што адначасова палохала і прыцягвала. Хай жыве ў шкляной бясплоднасці. Папраўдзе прышэлец — вылезе, не сканае незямной сваёй сілай успора шклянку, бластарам-лазерам разрэжа яе ці развесіць павуціну і на тонкай нітачцы падымецца, выйдзе навонку і захаваецца. А не — далоў сорак грахоў». Аўгуст Серада не забівае павука, як зрабіў бы раней у сугуччы з фальклорнымі, генетычна перададзенымі яму законамі сваіх продкаў. Усё перамяшалася, змянілася ў паслячарнобыльскім свеце, і страчваецца тое, што, здавалася, ніколі не страціцца. І наўдзіў Аўгусту павук выжывае. Выжывае істота, якую заклікалі забіваць яго продкі, лічылі пачварай, а высыхаюць крыніцы, чэзнуць дрэвы, хварэе чалавек. І гэта прымушае Аўгуста прыгледзецца больш уважліва да павука. Цяпер ён здаецца нейкім сімвалам усяго, што адбылося на яго зямлі, прышэльцам, пасланцам. І аўтар апісвае яго незвычайным, знаходзіць сімвалічныя колеры-эпітэты і параўнанні: «Павук зрабіўся надзвычай прыгожым. Залаціста-чорны, а крыж белы, нібыта кужаль на ржышчы. А больш за ўсё і здзівіла, і ўразіла Аўгуста — не было ў празрыстай цямніцы ніякіх адыходаў паднявольнага жыцця павука... І Аўгуст палюбіў павука, адчуў, што ён яму блізкі і дарагі. Гэта ж трэба, нідзе ні павуцінкі, ні нават маленькага намёку на павуціну. Нібыта не павук сядзеў у шклянцы, а жыхар неба нейкі».

Такім чынам, мяркуючы па апісанні, адбываецца своеасаблівая фальклорная мутацыя ў адносінах да адмоўнага персанажа, і гэта сігнал перастварэнняў у душы чалавека паслячарнобыльскага часу, яскрава пададзены аўтарам праз вобразна-выяўленчую сістэму твора.

Працягваюць пералік адмоўных сімвалаў вобразы варон, на якія аўтар часта звяртае ўвагу чытача. В. Казько адразу адцяняе іх эпітэтамі-акцэнтамі: «абгрызеныя, з'едзеныя ветрам вароны». Гэта яшчэ адзін сімвал трывогі — вароны і груганы злятаюцца на вынікі смерці, на нежывое. Увядзенне гэтага сімвалічнага вобраза — яшчэ адзін яскравы прыклад адлюстравання драматычнай барацьбы жыцця і смерці. І аўтар скарыстоўвае для гэтай мастацкай карціны адпаведныя вобразна-выяўленчыя сродкі (эпітэты, метафары і параўнанні проціпастаўлення): «Яны стаялі ў траве ў зарасніках і пад дубамі, панура горбячыся, уцягваючы ў тулава шыі, нібы старыя ў дождж пад дубам, не мружачы вачэй, пазіралі на яго і не адляталі. І ён зразумеў, што гэта не каменная крошка ляціць з неба. То вецер выдзімае яго раллю. Ляціць зерне з поля, жыта, жыццё. Груганнё чакае гэтага жыта, калі вецер паднясе яго... Манна нябесная сыпалася ім зверху. Высушанае радыеактыўнымі вятрамі поле, сінюшнае неба разраджаліся жытным дажджом.

У варон не было патрэбы хадзіць па полі і да сёмага поту здабываць хлеб свой надзённы, вышукваць і кляваць па зярнятку. Манна нябесная сыпалася ім з неба, паспявай толькі рот разяўляць і глытаць. Няхай жыве Чарнобыль!» — горка заканчвае пісьменнік. І ў гэтым эпізодзе — яшчэ адно сцверджанне: Чарнобыль выклікае да жыцця істоты, якіх баяўся чалавек, што сімвалізавалі нядобрае ў жыцці і прыродзе, а гіне тое, што ўвасабляла жыццё і росквіт. Аўгуст Серада, старшыня калгаса, бачыць гэта, бачыць, як памірае жыццё і сыцяцца хлебам не тыя, для каго ён рос і хто яго вырошчваў, назірае небывалую карціну паслячарнобыльскай рэальнасці: Вароны «з разяўленымі дзюбамі бадзяліся па дубняку, абцяжарана валюхаліся сярод травы і клявалі жыта, што засела, захрасла ў той траве, адцяснялі і біліся са сваімі таваркамі, што ўжо насыціліся». І Аўгуст адчувае, што павінен нешта зрабіць, каб парушыць гэты кашмар, гэтае насланнё. Ён хапае палку і пачынае гнаць варон з поля. «Але вароны не вельмі яго палохаліся, хаця і ўзняліся ў неба, замглілі сонца, раць незлічоная — з усяго свету, пэўна, вароны. Узняліся і завіслі над яго галавой, не вельмі ўсерджана нават галосячы, хутчэй прыязна дакараючы:

ну чаго табе, чалавеча, маўляў, трэба, хочаш есці, разяўляй рот, лаві ды не лянуйся глытаць». І перад гэтай навалай чорных варон — чорных, як усё, што сімвалізуе Чарнобыль, Аўгуст бездапаможны.

З Аўгустам звязаны і яшчэ адзін сімвал іншай рэальнасці ў творы — іншапланецяне. Ён чакае іх. Гэты вобраз не здаецца яму абсурдным: яго паслячарнобыльская свядомасць смела вядзе параўнанне далёкіх ад рэальнасці рэчаў з гэтай жа рэальнасцю, яго не палохае суіснаванне іншых светаў у маленькай прасторы аднаго палескага раёна. Аўгуст нібы сцвярджае горкую думку: цяпер усё можа быць. І яго параненая свядомасць чапляецца за гэтую думку, таму ён і зусім па-іншаму пачынае думаць нават пра вёску ў якой нарадзіўся: «Так і з Млынішчамі: яны былі, і адначасова іх не было. Нешта агульнае мелі яны і з тымі ж іншапланецянамі, прышэльцамі. Толькі апошнія з неба, з будучыні, а гэтыя з мінуўшчыны, з джунгляў і пячор каменнага веку». І Аўгуст міжволі пачынае бачыць свет праз выяўленне пачвар і іх руху. Так, завітаўшы да старога дзеда, ён заўважае: «І па шкле, па ўгрэтым бярвенні хаты, па выпнутым з пазоў моху поўзалі сінія, як адлітыя са сталі, першыя яшчэ восеньскія мухі.

— А былі людзі, былі, — на нейкае імгненне адарваны ад сваіх думак, даў волю сваім *вачам-мухам*, адказваючы на пытанне Аўгуста, і ссушанымі вейкамі адразу ж прыдушыў тых сваіх мух, заплюшчыў вочы і замоўк».

Паслячарнобыльскі свет — пачварны свет, нібыта праз свайго героя сцвярджае аўтар, таму акрамя згадкі легенды пра белых буслоў у Віктара Казько больш няма станоўчых вобразаў-сімвалаў.

Яркія, светлыя мастацкія фарбы дамінуюць у апісаннях з легенды старой бабулі пра стварэнне свету і трагедыю белых буслоў: «белыя-белыя птушкі сярод белага божага свету» — і ва ўспамінах трактарыста Лазара: «І бусел з вяршыні тысячагадовага дуба ў сваім гняздзе на адной назе вітае іх *вясеннім чыстым* клёкатам». Ён ведае: «Буслянка — калыска яго на роднай зямлі. …нейкі знак, нейкі намёк яму падае. Гэта, пэўна, радасць нядзольная памесціцца ў сэрцы, ірвецца вонку, *вясновая, першая, дзіцячая*».

Метафары, як і эпітэты, таксама будуюцца па прынцыпе супастаўлення (да- і паслячарнобыльскія апісанні) і ўзмацнення дзеяння і нагнятання атмасферы напружанасці і трывогі. Яскравы прыклад — сустрэча Лазара з чорным буслом — чорным, *як чыгун*, яго страх і боль: «Крычаў ён сам, а здалося, што чорныя бусляняткі ў гняздзе ці ландышы зазванілі ў свае малюпасенькія званы, сама крынічка раптам пачала галасіць, застагнаў і адвёў ад яго руку малады ясянёк». Зусім іншыя метафары са светлай легенды старой паляшучкі. Тут яны набіраюць мяккія, светла-настраёвыя адценні: «Не пакідала сонейка неба, увагравала зямлю, і свяціла птушкам, лашчыла іх і песціла. І ад той ласкі нябеснай пачалі расці ў іх крылы»; «Узышло, разгарэлася на небе сонейка, крыху ўгрэла зямлю». Альбо — успамін Лазара пра дзяцінства: «Вачаняты ў неба. А там жаўранак спявае і радуецца, бусел белы лётае, і плывуць белыя хмаркі, сонца ім пасміхаецца. І ў маці на галаве белая хустка, выгодная была ў яго маці».

Да чаго вядзе такое ўзмацненне ролі паэтыкі ў творы? Найперш — аналітызм, асацыятыўнасць, і, як следства, шырокае мастацкае абагульненне праз сімвалізм вобразаў, іх гіпербалізацыю ці літоту: «Баліць веданне, што цябе, якім ты прывык сябе бачыць, ужо больш ніколі не будзе. І твой заяц, твая рыбіна і твой дуб пераажывуць цябе»; і «Жыве дрэва, а чалавек, што пасадзіў яго, дагледзеў, выратаваў, — прах, пыл на касмічным чарнобыльскім ветры». І нават турма ўспрымаецца зусім па-іншаму, не як зло, а як чыстае месца: фарміруецца чарнобыльскае мысленне і адпаведнае іншае светаўспрыняцце, дзе зусім другія разуменні, што добра, а што дрэнна. Бацькі ўжо не перажываюць, што іх дзеці трапілі ў турму. «Галоўнае — ніводзін чарнобыльскі сабака іх не пакусаў, не пазначыў мірным атамам. А да ўсяго ж турма недзе адсюль далёка, у чыстым, без радыяцыі, месцы».

Але чалавек верыць, пакуль ён жыве. І таму не толькі гнеўны крык бяды зрываецца са старонак аповесці Віктара Казько — гучыць у ім і надзея, вера ў перамогу над горам, вера ў чалавека і сэнс яго жыцця. Сімвал надзеі — бусел.

Гэта адвечная птушка беларускай вёскі і дадатны персанаж айчыннага фальклору. Бусел у легендах прыносіць дзяцей, а значыць, жыццё; яго не маюць права забіваць, бо той, хто заб'е бусла, накліча няшчасце сабе і сваёй сям'і; калі паселіцца на падвор'і бусел, то гэты дом ахоўваецца нябеснымі сіламі; бусел прадказвае надвор'е, паказвае, калі можна сеяць, а хлеб, ураджай — самае галоўнае для вяскоўца. Так белы бусел спакон веку ацэньваўся ў нашых продкаў. У рамане Віктара Казько «Выратуй і памілуй нас, чорны бусел» гэтая птушка — галоўны персанаж-сімвал. Аднак бусел тут чорны. Гэта неўласціва яго ўспрыманню ў жыцці і па міфах-легендах. І апісвае яго В. Казько своеасаблівай палітрай эпітэтаў-проціпастаўленняў: «Чорны бусел — птушка неразгаданая, незразуметая чалавекам. Нейчы цень, што прыбіўся і заблукаў на зямлі, мо з іншай нават планеты трапіў у палескае балота. Ёсць у ім *высокае, нябеснае* — крылы і здольнасць лятаць, лунаць. Ёсць і *зямное ганебна-нізкае, змяіна-паўзучае*. Вытыркне з зямлі чорную, як галавешка, галаву — гад паўзучы, і табе пекануць цікуе. Кожная сустрэча з ім знак і перасцярога нейкая чалавеку, і нечаканасць чалавеку».

Здаецца, да многіх праяў Чарнобыля прывыклі героі рамана В. Казько, бо ішла ўжо аж чацвёртая чарнобыльская вясна. Аднак аказалася, калі са стратай і ператварэннем чагосьці матэрыяльнага можна прымірацца, вышукваць новыя спосабы жыцця і адаптацыі ў ім, то ёсць святое, вырачыся і страціць якое страшней за ўсё. Чорны бусел і сустрэча з ім так напалохалі Лазара, які пайшоў у лес высечы сабе вясельца для лодкі, што ён ад нечаканасці выпусціў з рук сякеру і адсёк сабе палец. А чорныя бусляняты — гэта зусім дзіва, і Лазар, успрымаючы іх, нібыта хоча перавесці да будзённых, знаёмых рэчаў, параўноўваючы іх з нечым блізкім для сябе. Таму бусляняты — «дзве чорныя вугалінкі з гарачымі жывымі вачыма… два агаркі, што толькі ўдзьмухалі ў сябе жыццё і цікаўнасць да яго, маладыя і брыдкія, як старасць». У гэтых апісаннях назіраецца вялікая ўвага аўтара да кожнай мастацкай дэталі, кожнага напісанага ім слова. Сродкі вобразнасці, такім чынам, выконваюць адметную сэнсавую ролю канцэнтравання драматызму, настраёвасці твора. Як пацвярджэнне — апісанне далейшага разгортвання, дынамікі дзеяння і думак героя твора. Ад сустрэчы з чорным буслом Лазару неспакойна. Ён аглядаецца, але ні ў чым не знаходзіць падтрымкі: усё вакол — трывожнае, іншае. "Каля яго з-пад лап трохгаловага бацькі-ясеня срэбрам тачылася крынічка. Крыху далей, па сцёку ўжо вады, тое срэбра ператваралася ў жалеза і кроў, трохлістая кісліца па абодва бакі ручая вохрава-крывавая, перасцярожлівая. І цішыня, цішыня навокал, як затоенасць прымружанага, засяроджанага па нечым сваім вока, таксама здавалася перасцерагальнай». З дапамогай адметных драматычных эпітэтаў і параўнанняў пры апісанні заўсёды звонкай і чыстай у ранейшы час крынічкі аўтар ізноў нагадвае: бяда побач. І Лазар, які ішоў у лес, як у дачарнобыльскі час, мірна выразаць сабе з ясеня інструмент для лодкі, пачынае ўсведамляць: не, колькі сябе не падманвай, што ўсё ёсць як было, — на самой справе гэта не так, бо яны ўсюды — знакі бяды.

У легендзе, што рэфрэнам праходзіць праз увесь твор Віктара Казько, смерць старога белага бусла — выразны мастацкі сімвал. «То была, пэўна, і першая смерць на зямлі. Бусел апеў яе, апеў канчыну свайго брата. І пайшоў па чыстым белым полі насустрач сваёй смерці…

— Таксама памёр?

— Не, дзіцятка маё, не. Не да кожнага, хто шукае смерці, яна прыходзіць. Суджаны былі нашаму буслу і ўсяму яго роду яшчэ вялікія пакуты і мучэнні».

І гэтыя сімвалічныя словы — асацыяцыя Чарнобыля, з'яўлення іншага бусла — чорнага.

Міфалагічнасць прозы В. Казько выразна выяўляецца ў кампазіцыі твора: аўтар скарыстоўвае легенду, казку з вельмі моцным духоўным і энергетычным зместам. Увогуле, такі фальклорна-міфалагічны элемент, як казка-легенда, казка-паданне, дазваляе мудра і разам з тым даходліва патлумачыць сувязь мінулага і сённяшняга, раскрыць сутнасць, карані, ідэйны стрыжань жыцця чалавека ў суладдзі з прыродай. Кампазіцыйна казка-легенда старой бабулі, якая расказвае яе ўнуч-

цы, з'яўляецца і кантрастным элементам, які вельмі ярка паказвае розніцу паміж адносінамі да зямлі і прыроды продкаў і цяперашняга чалавека. Змена пакаленняў і змена каштоўнасных духоўных арыенціраў — глабальная праблема ў кантэксце суіснавання чалавека і прыроды, і зварот да мінулага, такім чынам, своеасаблівы напамін аб спрадвечных каштоўнасцях В. Казько якраз і закладае ў сваім звароце да фальклору і міфатворчага пачатку праз структурны элемент — казку-легенду аб стварэнні свету. І гэта — своеасаблівая апеляцыя як да эмоцый, так і да розуму чалавека, увасобленая ў мастацкай форме.

Мастацкая паэтыка пісьменніка заўсёды нясе адбітак яго светапогляду. У «чарнобыльскай» прозе яе роля ўвогуле значна ўзрастае ў сувязі з неабходнасцю творцы вобразна і пераканаўча паказаць вынік абыякавага стаўлення чалавека да прыроды. Калі дакументальная проза выражае гэта фактаграфічным кантэкстам, то мастацкай неабходна тонка і метафарычна-ярка акцэнтаваць увагу чытача. І гэтую ролю выконвае своеасаблівы мастацкі «ўнутраны зрок» пісьменніка. У рамане В. Казько «ўнутраны зрок» раскрываецца праз такую важную прыродную асаблівасць светабачання пісьменніка, як колераўспрыманне. І, відаць, немалую ролю ў развіцці гэтай грані мастацкага таленту пісьменніка адыграла яго ўласная трагічная біяграфія — смерць маці і двухгадовай сястры. Безумоўна, адсюль вынікае і абвостраная аўтарскае прадчуванне бяды, спусташэння, смерці, пакут, што становяцца лейтматывамі ягонай творчасці, выразна выяўляюцца ў творах спецыяльнай слоўна-колеравай палітрай. Яны ўздзейнічаюць і на кампазіцыйны бок твора, паколькі колеравае нагнятанне прыводзіць да «кантрапункта», дамінанты твора. Акрамя таго, колеравая гама «чорны — белы» выконвае мастацкую ролю кантраснага стрыжня казкі-легенды. І такое сінкрэтычнае мысленне В. Казько дазваляе яму адлюстроўваць розныя бакі мнагамернай — міфалагічнай і сапраўднай — рэальнасці ў адзінстве, злучаючы іх сімвалічнымі колеравымі адценнямі, фарміруючы колеравае процілпастаўленне: белы — чорны.

У фальклорнай традыцыі белы колер сімвалізуе святло і чысціню. Вось як расказвала бабуля ўнучцы пра стварэнне свету:

« — … на нашай зямлі спачатку адны птушкі былі. Буслы. Белыя, белыя, як кужаль на ржышчы на першым марозе.

— І дзюбка белая, і хвосцік белы, і ножкі таксама белыя?

— Так, дзіцятко, і душа. Усё белае. Гэта потым доля наша горкая памяшала і чырвонага, і чорнага. А спачатку ўсё белае было, як у катка твайго грудка, святыя белыя птушкі вольна хадзілі па нашай зямлі з даўняй пары і па сённяшні дзень». Боль атручанай зямлі перадаецца ў творы Віктара Казько яркай параўнальнай колеравай гамай: «Белая святая зямля пад белымі крыламі тваіх боскіх птушак буслоў, як ты перавярнулася ў год тысячагоддзя пасля прыняцця крыжа. Прыйшла, упала зорка Палын, і ты ўжо больш не белая. Ты сёння чорная на ўсё наступнае тысячагоддзе». Чорна-белая колеравая гама сугучна з самой назвай трагедыі, каранёвым кампанентам «чорны» ў слове «Чарнобыль: «атрутны чорны чарнобыльскі дым залунаў над зямлёй», «жоўты і чорны прах і пыл зямлі гнаўся за чалавекам і зверам». І смерць Лазара пры ратаванні дубровы таксама апісана ў колеры Чарнобыля: «З напаўрасцятага кулака Лазара сыпаўся на зямлю чорны радыеактыўны пясок і змешваўся, набрыньваў кроўю».

Чорны колер у атачэнні эпітэтаў і мастацкіх параўнанняў набывае асабліва трагічны сэнс, калі жыхары навакольных вёсак збіраюцца ў натоўп ісці бараніць сваю спрадвечную дуброву ад спілоўвання, знішчэння. Іх арганізоўвае Аўгуст Серада, старшыня калгаса, стомлены барацьбой з прывідамі свае паслячарнобыльскай свядомасці, разумеючы, што толькі нешта дзейснае можа выратаваць яго і людзей. І, узняўшы сцягі, людзі пайшлі ратаваць сваё галоўнае багацце — лес, забыўшыся на тое, што ён таксама зняверчаны радыяцый. Зрэшты, для іх не гэта было галоўным: галоўным было тое, што яны пасля болю і гора Чарнобыля знайшлі ў сабе сілы хоць на некаторы час вярнуцца да таго, ранейшага жыцця, бо толькі вера ў яго вяртанне можа выратаваць іх ад пагібелі не толькі фізічнай, але і духоўнай. І людзі са

сцягамі, што калыхаліся на ветры, рушылі да сваёй спадчыннай дубровы. «Аўгуст глядзеў, як яны (сцягі) цяжка палошчуцца над калонай убогіх, сіратлівых і чорных людзей, дзяцей, дзядоў і бабуль, скалечаных, нямых, глухіх, сляпых. Яму здавалася, што гэта самі чорныя буслы выйшлі з лясоў і балот, абгарэлыя кусты ішлі да абгарэлых зараснікаў». І нездарма перад гэтай заключнай часткай В. Казько кампазіцыйна кампануе заканчэнне легенды старой паляшучкі, якая ўспамінае няшчаснага бусла,ператворана ў чорнага: «І высока ў небе ён быў ізноў белы. Белае перайка на перакуленай блакітнай вечнай талерцы. Неба несла яго, як вада нясе лодку, ён упраўляўся ў ім вясельцамі крылаў, сустракаючы на сваім шляху паветраныя ямы і віры. Неба і бусел былі заадно». Прыклад гарманічнага дачарнобыльскага свету ўдала перададзены аўтарам праз светлыя колеры — блакітны і белы. В. Казько нібыта параўноўвае шчасце і трагедыю, што здарылася, вяртае праз удалыя мастацкія апісанні сваім героям памяць аб мінулым. Яе нельга страціць — нібыта сцвярджае ён, інакш страціцца надзея. А надзея павінна быць заўсёды, інакш знікне сэнс і жыццё. Гэта добра разумее старая паляшучка, што расказвае легенду пра пачатак свету і белых буслоў сваёй малой унучцы. Яна кажа: «Сальюцца, знітуюцца яшчэ белае і чорнае, дзве палавінкі людской душы. І тады здарыцца такое… Будзе вялікая радасць і вялікае дзіва. Знітуюцца яны, і тады зноў будзе наша зямля белаю. І белая святая песня абаўе яе. Так было ўжо на зямлі і так яшчэ будзе». І яе словы пацвярджаюцца думкамі аднаго з герояў твора — працаўніка зямлі, трактарыста Лазара: «І дзьмуць над яго галавой цяпер горкія ветры, п'е ён горкія воды. Але, як кажуць, будзем жыць, будзем бачыць, жывымі застанемся — не памром, што ўсім, тое ўжо і бабінаму ўнуку, што люду, тое і дрэву, тое і парасткам яго».

І нездарма калгаснікі ідуць абараняць сваю дуброву ад спілоўвання: ў гэтым яны знаходзяць сэнс, надзею на працяг жыцця.

Чарнобыльская тэма не абмінае творчасці і І. Пташнікава. Ён піша апавяданне «Львы» пра чарнобыльскага сабаку Джукі.

«Джукі блажыла.

Яму выварочвала нутро і язык, — язык рабіўся доўгі, выцягваўся з рота, чырванеў, як агонь, слаўся на траву і на жоўтыя ў цвеце кунатыя адуванчыкі, і з яго цякла зялёная сліна — пенай. Калі блага адпускала, яго адразу хапаў кашаль — сухі, дзяркаты, глыбокі, ад яго падцінала духі, спірала ў вузкіх, маладых яшчэ грудзях — Джукі не было яшчэ і двух гадоў, — і ён тады задыхаўся ад сухой гарачкі, якая паліла ў горле і вострa пахла растаптаным палыном і ёдам». Гэтая падрабязная дэталізацыя — апісанне благога стану сабакі Джукі — яркі прыклад уздзеяння Чарнобыля.

У «Алімпіядзе» — спружынка ў вачах, яе мігценне перадае стан галоўнай гераіні. Падобны прыём у апавяданні «Львы», толькі замест спружыны — чорны круг як сімвал Чарнобыля ў вачах сабакі Джукі: «Ён кружыў усё хутчэй і хутчэй, аж у вачах пайшлі кругі. Чорныя кругі, як дома дзверы ў будцы, тады кругі з беленькай тасьмы, якія, здавалася, цягнуць у ваду на дно. Круг з беленькай тасьмы раптам сашмыкнуўся ў яго з галавы, і ён, маленькі яшчэ, толькі ўбачыў свет сваімі падслепаватымі вачамі, выплыў наверх, на ваду. Па вадзе ішлі кругі, і ён ніяк не мог тады вырвацца з іх, каб даплыць да берага ў мячэўнік…» Чорныя і белыя кругі — нібы падзел у памяці Джукі пра яго нараджэнне і пачатак смерці, сімвалічнае ўжыванне колераў для падзелу на да- (белы) і паслячарнобыльскі свет (чорны).

Метафарычна перадаецца адчуванне сабакам наступлення чарнобыльскай бяды: «Вісела нейкая ўтрапёная, гарачая чалавечая трывога, якую Джукі ўлавіў ўжо тыдні два назад. …Нарэшце яна вылілася ў адну кроплю, чыстую і празрыстую, як раса на ніжыперніцы: ён больш ніколі не ўбачыць свайго маладога гаспадара з маленькімі дзецьмі на руках».

Калі ў В. Казько і многіх іншых пісьменнікаў Чарнобыль і яго вынікі паказаны праз погляд і адчуванні чалавека, то ў сваім апавяданні «Львы» І. Пташнікаў паказвае трагедыю вачыма сабакі. Гэты арыгінальны падыход дазваляе аўтару абвастрыць успрыняцце трагедыі, паколькі жывёла ўвогуле бездапаможная перад тэхнагеннымі наступствамі.

І. Пташнікаў у апісаннях такога плана вельмі ўдала карыстаецца сімваламі кантрасту. Найперш гэта сад чарнобыльскай вясной. «Джукі не бачыў яшчэ, каб так цвіў сад — быў увесь белы ад цвету, як ад пены, зрабіўся нейкі празрысты, нібы шкляны, і цягнуўся ўгару — здавалася, за гэтыя дні ён пачаў шугаць у неба адным белым цветам. І трава ў садзе так буяла, што ў ёй хавалася дзежачка з вадой, якая стаяла пад яблыняй». Вясна, сад — нібыта нічога не здарылася, але на самой справе прыйшла бяда — смерць для прыроды і чалавека. І — нібыта насуперак гэтаму — сад цвіце мацней, чым калі, — нібы прадчувае, што гэта ў апошні раз. Таму што ад Чарнобыля няма паратунку. І аўтар гэтым сімвалічным вобразам саду падкрэслівае кантрастную мяжу да- і паслячарнобыльскага часу. Пасля, адчуваючы сваю віну перад прыродай, вадзіцель, што выратаваў Джукі, скажа: «Жыві! Гляну ў я на цябе, а ты з лапкі на лапку пераступаеш, вочы такія пакорлівыя, і такая ў іх туга, нібы гэта ты адзін вінаваты за ўсё тое, што мы натварылі. Нібы ты гэта сам нарабіў...»

Яшчэ адзін сімвалічны вобраз Чарнобыля — людзі з белымі шапачкамі. Гэта сімвал новых для Джукі людзей, што неслі трывогу, бяду.

Адзін з галоўных прыёмаў у апавяданні І. Пташнікава — адлюстраванне пахаў: «пахла пылам і палыном» — пах Чарнобыля; «пах нейкай праціўнай мазутай, перагарам, паленай гумай, бензінам, гнілой ворванню, ад якой выварочвала нутро, і... ёдам». Ёд — пах дэзінфекцыі, пах Чарнобыля: «пахла ёдам — аж зрывала нос».

Развіццё дзеяння — наступленне Чарнобыля на родную вёскі Джукі, дзе жылі яго гаспадары, праходзіць праз падступ паху: «Пасля і палын пачаў смярдзець бензінам, гнілой ворванню і ёдам... Ні ля калгаснай студні, ні на ўзмежках, ні на дзядзінцы ля фермы не было ратунку...» Па паху Джукі імкнецца знайсці гаспадара. Пах — галоўная якасць сабакі, а Пташнікаў робіць Джукі галоўным героем апавядання.

Апавяданне нібы падзяляецца на кантраст да- і паслячарнобыльскага паху. Пах паслячарнобыльскі: Джукі «нюхам пачуў учарашні горкі пах і праціўны пах кіслай псіны — львінага клубка з логу...» ; «несла кіслай псінай». Машына смерці, дзе везлі мёртвых, адстраляных чарнобыльскіх сабак, таксама пахне Чарнобылем: «У кабіне пахла гарам, бензінам, бядой і, здавалася, маладым гаспадаром». Кульмінацыя апісанняў у апавяданні — яркае адлюстраванне ўздзеяння Чарнобыля: лысыя сабакі. Гэта трапны вобразны сродак паказу наступстваў Чарнобыля. «І ў гэтую кароценькую долю імгнення, калі Мірон вісеў угары, Джукі згледзеў, што той аблез... Быў увесь шэры, нібы ўкачаны ў попел. Доўгая чорная кудлатая поўсць у яго асталася толькі на шыі і на канцы хваста, як у льва»; «І зноў Джукі разанула па вачах — усе яны аблезлі: і Брынза, і Малекула, і два Бімы... Хто знізу з жывата, хто зверху са спіны. Жоўтая Брынза была ўся голая...» Жыццё сабак аўтар апісвае падрабязна, нібы перад развітаннем з імі назаўсёды. Так і здарылася — іх адстралялі, бо яны неслі ў сабе Чарнобыль. Сабакі ўбачылі, што Джукі не лысы, як яны, і яны кінуліся на яго: «жоўта-гола-шэрая беспародная гайня, сплёўшыся яшчэ ўгары над ім у раз'юшаны, разяўлены клубок, сапучы гарачынёй, яхкаючы і рычачы, упала на яго зверху».

Апавяданне заканчваецца падкрэсленнем страшнай чарнобыльскай трагедыі — горка іранічнай і балючай гіпербалай: «У кузаве ляжалі львы». Джукі ўдалося вырвацца, бо ён яшчэ не аблысеў, як усе сабакі, яшчэ не стаў львом, і шафёр злітаваўся над ім: «Жыві, дарагі мой... Калі ты ўжо з такой кругаверці ад міліцыі вырваўся, то жыві — і... Тут ужо я сам не дам цябе застрэліць. Гэта ж падумаць... Ён да мяне ў кабіну. Ратавацца. І правільна зрабіў: жысь твая на валаску вісела». Чалавек адчувае віну за Чарнобыль, і адзінае, чым яе можа выкупіць, — выратаваць яшчэ не аблезлага, адзінага неаблезлага сабаку з зоны — Джукі.

Мастацкая філасофія В. Карамазава выяўляецца ва ўзаемаўзгодненасці прыроды, навакольнага асяроддзя і літаратурнага героя: як прырода мае ўладу над чалавекам, так і ён мае ўладу над ёй. Таму вызначальнай ідэяй, што праходзіць праз творчасць пісьменніка, з'яўляецца прынцып гармоніі, а праблема экалогіі, у тым ліку глабальны чарнобыльскі крызіс, адлюстроўваецца як дыягназ духоўнага стану чалавека і чалавецтва. Багатая паэтыка-вобразная палітра дазваляе найбольш ярка

выявіць і раскрыць ідэйны змест твораў, перадаць канфлікт і пошукі герояў, канцэнтруе на асноўныя, выніковыя моманты. Гэта самабытны, адметны пісьменнік.

В. Карамазаў — яркі прадстаўнік «вясковай» плыні беларускай літаратуры, і паэтыка яго твораў цесна звязана з фальклорнымі і хрысціянскімі матывамі, глыбінёй спасціжэння прыроды і чалавека на зямлі. Найбольш поўна адлюстроўвае яшчэ «дачарнобыльскі» прыродны свет раман В. Карамазава «Пушча». Паэтыка апісанняў, аналіз мастацкай палітры гэтага твора дапамогуць пасля пры параўнанні з творамі В. Карамазава, што адлюстроўваюць вынікі чарнобыльскай катастрофы. Гэта дазволіць зразумець багаты мастацкі талент пісьменніка, разнастайнасць мастацкіх сродкаў і іх кантрастную парадыгму.

Аснову рамана «Пушча» складае барацьба галоўнага героя Міхаіла Валошкі за спрадвечнае багацце — лес. Прырода для Валошкі — аснова гармоніі жыцця чалавека. Аўтар уводзіць параўнанне прыроды з музыкай. Слухаючы пошум лесу, Валошка напаўняўся музыкай, «адчуваў, што яна ўсю раніцу ціха жыла ў ім (...), стаяў, слухаў пушчу, яе і сваю душу ў дзятлавым пошчаку». Пушча, яе жыццё неадрыўныя ад жыцця самога героя, і В. Карамазаў гэта ярка падае праз мастацкія апісанні-ўспрыняцці прыроды галоўным героем. Слушна заўважае Г. Егарэнка ў артыкуле «Прастора і рытм сюжэта», што «вартасць прозы В. Карамазава не ва ўменні (а ён такі і ўмее) намаляваць побытавыя дэталі як прыкмету часу, а ва ўменні пранікнуць у духоўна-філасофскі сэнс хваляванняў і перажыванняў сучаснага чалавека». Прырода і адносіны да яе — нібы люстэрка, што характарызуе герояў. Абвостраны псіхалагізм, аналітычнасць твора дазваляюць пісьменніку дасягнуць сімвалічнага абагульнення, выйсці на ўзровень мастацкага папярэджання аб наступствах чарнобыльскай ядзернай катастрофы, а мастацкія апісанні пушчы становяцца для сучаснага чытача горкім напамінам аб велічы і прыгажосці прыроды, якую людзі не змаглі зберагчы.

Прырода ж, як падкрэслівае аўтар, жывіць нашу душу з маленства, фарміруе чалавека.

Мастацкасць апісанняў прыроды, шматколернасць паэтыкі і надалей застанецца ў творах В. Карамазава, але ў паслячарнобыльскай прозе будзе выконваць іншую функцыю: апісанні прыгажосці прыроды стануць успамінамі галоўных герояў, яркім кантрастам з тым, што прынёс людзям і прыродзе Чарнобыль.

Раман «Пушча» В. Карамазава — адно з найбольш важкіх здзяйсненнняў пісьменніка. Аднак аўтар меў на мэце напісаць яшчэ дзве часткі: да «Зімы» і «Вясны» дадаць «Лета» і «Восень». Аднак надышла «чорная вясна 1986-га. Жаданне пісаць адпала само сабою. Лета і восень Пушчы засталіся ненапісанымі, чарнобыльская вясна іх як бы аддзяліла непранікальнаю заслонаю. Якраз на Ліменскую пушчу апусцілася адна з атручаных хмараў», — пазначаў пісьменнік. У выніку трагедыйным працягам з'явілася аповесць «Краем Белага шляху». Падзеі ў творы разгортваюцца ў час святкавання хрысціянскіх Пакравоў. Аднак гэта не фон, не дэкарацыя. Гэта своеасаблівае напамінанне аб духоўнасці ў кантрасце разбуральнага часу і эпохі, адлюстраванне крызісу быцця. Кантрастным да апісання святых Пакравоў з'яўляецца адлюстраванне асаджэння радыяцыйнага бруду на Магілёўшчыну: «У першыя дні мая восемьдзесят шостага года, (...) ноччу, пад раніцу, пачуліся выбухі, нібы над галовамі рваліся снарады ці ракеты. Пайшоў дождж, у вокны забарабаніў град, лёд з неба пасыпаўся буйны, як боб. А раніцай прыгрэла сонейка, і па вёсцы заблішчэлі сінія, з зялёнымі ды ружовымі беражкамі лужыны. Дзеці высыпалі на вуліцы голенькія, лезлі ў каляровыя лужыны і рагаталі, шчаслівыя. І толькі пазней вёска дачулася, што за шчасце разлілося ў яе пад вокнамі. Ліло з хмар, якія плылі з Чарнобыля на Маскву». Хрысціянскі сімвал Пакравоў — невыпадковы ў творы. В. Карамазаў скарыстоўвае хрысціянскую і фальклорную сімвалічнасць, і, як працяг, — сімвалы Аброка і Белага шляху, міфалагічнае ўспрыняцце многіх спрадвечных вобразаў, наданне ім містычнага каларыту прадвеснікаў бяды. У такім мастацкім кантэксце можна разглядаць сімвалічны вобраз поўні ў аповесці В. Карамазава «Краем Белага шляху». «Поўня глядзела з неба ў акно круглым дзяціным

тварыкам, на ёй былі і вочкі, і носік, і роцік. І цяпер ужо сапраўды здавалася, што поўня плакала Зініным голасам. Балюча заплюшчыў вочы». Поўня асацыіруецца ў галоўнага героя доктара Валетава з прадвесцем бяды, з хворымі ад радыяцыі дзецьмі ў вёсках, якіх ён павінен лячыць, але ведае, што вылечыць іх немагчыма. Поўня з'яўляецца як прадвесце ў сцэне на могілках, пасля размовы пра крыж-Аброк, які стаў сімвалам выратавання, Богам, апошняй верай змучаных Чарнобылем людзей. «Ззяла поўня, з усіх бакоў абсыпаная яснымі зорамі, яшчэ адна поўня ззяла на вадзе, пад тым, далёкім берагам, і ад яе, далёкай, ад берага да берага, тым самым агнём палала белая свечка. Святло ад дзвюх поўняў і свечкі разлівалася па ўсім рачным плёсе, ва ўсе бакі…»

Зямля — цэнтральны вобраз-сімвал беларускай літаратуры, выдатна апеты яшчэ Якубам Коласам у паэме «Новая зямля», пасля прааналізаваны многімі пісьменнікамі ў розных праблемных аспектах. Варта згадаць трылогію І. Мележа «Людзі на балоце», «Подых навальніцы», «Завеі, снежань», дзе за зямлю селянін гатовы аддаць усё, бо зямля — дабрабыт, багацце, лепшае жыццё. Вобраз роднай зямлі, якую захапіў вораг, горыч адабранай і разрабаванай зямлі раскрыты ў творах К. Чорнага, І. Чыгрынава, І. Пташнікава і іншых пісьменнікаў — прадстаўнікоў «вясковай» плыні беларускай літаратуры. Пытанне урбанізацыі, адыходу ад спрадвечнай сялянскай працы, а значыць, выміранне вёскі і адчужэнне ад зямлі, што раней была багаццем і асновай жыцця, паўстае ў творах пісьменнікаў 60—80-х гадоў XX стагоддзя. У гэтым кантэксце прыгадаем зборнік апавяданняў М. Стральцова «Сена на асфальце», раманы «Мсціжы» і «Алімпіяда» І. Пташнікава і інш.

Чарнобыльская катастрофа адкрыла яшчэ адну грань праблемы «зямля — чалавек»: адчужэнне ад зямлі не па сваёй волі. Радыяцыйнае забруджанне прымусіла людзей пакінуць родную зямлю, якую берaглі, з якой карміліся іх продкі. Аднак не так проста чалавеку-селяніну адрачыся спрадвечнага, роднага, што даўно стала не толькі сродкам існавання, жыцця, а душою працаўніка-вяскоўца. Таму нездарма ў аповесці «Краем Белага шляху» В. Карамазаў піша ад імя сваіх герояў пра зямлю, яе ролю і значэнне: «І не воўчая, а наша з табою, родненькая».

— Зямля, кажаш? Была, пакуль не зарасла поўсцю.

— Была і ёсць! — павысіў голас Будавей.

Героі рамана не могуць змірыцца з думкай, што трэба пакінуць родную зямлю, у іх разуменні — усё роўна, што аддаць ваўкам на спажыву і рабаванне. Сімвал зямлі набірае ўсё большае значэнне для герояў твора, паколькі іх жыццё і іх сэрца цесна звязана з ёю, і таму яны не могуць і не павінны судзіць яе. І Валетаў нават пры смерці папрасіў высадзіць яго з машыны, апусціць на зямлю, ён верыць ёй і адчувае яе ўсёй душой: «Пад ім была зямля, вялікая і жывая, над ім — неба, таксама вялікае, родненькае; ён ляжаў, сагрэты знізу і зверху, як паміж духмяным сеннічком і ватовай коўдрачкаю». І Валетаў у апошнія хвіліны напружана думае пра зямлю, сваю радзіму: «Зямля плыла і пагойдвалася. Хто сказаў, што яна нерухомая? Сам калісьці не верыў, што плавае, кружыць вакол свяціла. Не верыў, бо не адчуваў і не бачыў, што гэта так. А цяпер чуе: плыве і пагойдваецца разам з мамчыным цёплым каленам пад галавою».

Для апісання зямлі і прыроды В. Карамазаў скарыстоўвае ў аповесці кантрастную паэтыку метафар і параўнанняў, падзяляючы апісанні на да- і паслячарнобыльскія. Дачарнобыльскія апісанні прыроды маюць характар успаміну і параўнання, яшчэ больш узмацняючы трагедыйнасць твора: «Снег сыпаў, закідваў зямлю, усё навокал ляжала белае, свежае, з лёгкім марозцам». «Сонца ўзнялося, сняжок, які выпаў за ноч, растаў, наваколле блішчэла мокрае, хаты паўз асфальт стаялі з пазашыванымі вокнамі, выганчыкі і сцежкі ля варот і платоў пазарасталі калматым быльнягом, яшчэ зялёным сёлетнім і спарахнела-бурым леташнім ды пазалеташнім, але мокры бляск шыферных дахаў і аконных шыбак, платоў і таго самага быльнягу, стужкі асфальтавай, што беглі насустрач сонцу, рабілі вёску не зусім мёртвай, як бы яшчэ жывой». Прывіднасць жыцця — гэта разумеюць героі твора, але і не могуць думаць аб прыродзе і зямлі, на якой выраслі і жывуць, як аб мёртвай.

Яшчэ адзін адметны бок паэтыкі В. Карамазава ў аповесці «Краем Белага шляху» — кантрастная колеравая гама. Гэта — адна з яркіх вызначальных мастацкіх рыс твора, своеасаблівая аўтарская сімволіка папярэджання развіцця сюжэта. Мірныя, прыродныя колеры — сіні, зялёны і самы святы, неадназначны колер — белы.

Вось яруюю колеравую характарыстыку атрымлівае дачарнобыльская прырода ў аповесці: «А над шыферным дахам з чырвонага коміна цягнулася сіняя ў белым высокім небе стужка дыму».

Колеравая гама — яркі кантрастны сродак для аўтара, магчымасць паказаць, што прырода, якая, здаецца, не змянілася, на самой справе іншая — чарнобыльская. Людзі не ведаюць, як цяпер да яе ставіцца і як з ёй жыць. Мірныя дачарнобыльскія колеры і нязменныя прыродныя цыклы разнявольваюць свядомасць: грэе сонца, дзьме цёплы ветрык, і хочацца забыцца на ўсе трагедыі, на ўсе заклікі — будзьце асцярожнымі! В.Карамазаў не заклікае, ён па-мастацку афармляе папярэджанне з дапамогай мастацкай колеравай палітры, і гэтае папярэджанне — больш яркае і драматычнае, чым любыя заклікі.

Шэры і жоўты колер у В. Карамазава — прадвесце чорнай бяды: «Люстэрка на сцяне завешана шэрай анучкай, а пад ім, на стале ў шклянцы, агарак жоўтай свечкі». Шэры колер прысутнічае ў згадцы смерці (смерць дзеда Данілы) і ў апісанні чарнобыльскага ваўка: «Яна набліжалася: шырокая шэрая лабаціна».

Чорны колер — адзін з дамінантных і кантрастных, сімвал Чарнобыля і яго вынікаў. Найбольш яркі яго ўдзел у падмацаванні агульнапаэтычных сродкаў пры апісаннях разбурэння, закінутасці, смерці. У сукупнасці з шэрым і жоўтым колерамі чорны проціпастаўляецца адзінкавым колеравым адценням зялёнага, белага, нібы аўтар імкнецца адлюстраваць барацьбу жывога і смерці праз пэўныя колеравыя судакрананні ў замалёўках ці сімвалічных украпленнях: «На жоўтым пясочку, абкладзеным зялёным дзёрнам, ляжалі счарнелыя астры». Так адлюстравана сцэна апісання могілак, смерць дзеда Данілы.

Тапаніміка і анамастыка твора таксама мае сімвалічны, абвостраны сэнс, звязана з Чарнобылем, неадступны аб ім напамін: «…загаварылі пра радыяцыю, ёд ды цэзій. І ўжо калі тутэйшыя людзі прыязджалі ў райцэнтр, іх называлі то Цэзіямі, то Цэзарамі. А як дазналіся, што Цэзарам быў імператар старажытнага Рыма, магутны цар, усе зрабіліся Цэзарамі. …У Радзіцах адбыўся выпадак, калі чалавек атрымаў новы пашпарт і ў графе аб нацыянальнасці было напісана — Цэзар. Пісарчук у пашпартнм аддзеле памыліўся? Ці палічыў, што з'явілася новая нацыя? Цары — Цэзары? Усе — цары? І царства — зона».

Не менш вызначальныя і назвы хутаркоў ці часткі вёсак — Вялікая Калыма, Салаўкі, Малая Калыма ці Калымка. Гэта — спрадвечныя назвы-сімвалы адсялення, непрыдатнага для жыцця краю, і аўтар скарыстоўвае іх у абагульняючым пераносным сэнсе, падкрэсліваючы боль і безвыходнасць чалавека на забруджанай Чарнобылем зямлі.

В. Карамазаў скарыстоўвае ў аповесці і кантрастныя вобразы-сімвалы. Напрыклад, мёртвае поле і «сонечны» горад — новабудоўля ў чарнобыльскай зоне, гмахі сярод поля, на якім нельга нічога сеяць. «…далёка навокал разлягалася мёртвае поле. Яно кацілася на ўсход, і там, куды кацілася, на ўсходнім краі, з ягонае дзікасці ў неба паўставала незразумелая белая казка — гмахі, падобныя на светлы міраж у акіяне безнадзейнага змроку». І самі гмахі ва ўяўленні галоўнага героя «паўставалі над безвыходна-мёртвай зямлёю, нібы светлы міраж перад вачыма здарожанага пустэльніка. Ці ўсё ж гэта не міраж? Сонечны горад сярод мёртвых палеткаў? Горад-сонца, які, пэўна, не сніўся і вялікаму фантасту Томасу Мору?» Працягваючы думку, В. Карамазаў зазначае, што пра такія ўтульныя і светлыя гарады марыў Валетаў, галоўны герой твора, але цяпер гэтая мара збылася на атручанай Чарнобылем зямлі і была недарэчнай і непатрэбнай. Светлыя сонечныя гарады на мёртвай зямлі не радавалі, а наадварот, жахам адгукаліся ў сэрцы, вялікім неразуменнем. Праз спалучэнне колеравых сродкаў — сонечны, белы і шэры (мёртвы) аўтар дасягае эфекту іроніі і трагедыйнасці ў апісаннях.

І яшчэ адзін прыклад удалага карыстання кантрастам: ля дарогі ў горад-казку, горад-сонца Валетаў убачыў знаёмага чарнобыльскага ваўка, які раней быў ў двары памерлага дзеда Данілы, і воўк «сядзеў да яго спіною, таксама ўглядаючыся ў светлую казку насупраць, за асфальтам і полем».

Такое карыстанне двума кантраснымі сімваламі надае сюжэтным сцэнам твора абвостраную драматычную настраёвасць. Аднак аўтар не абмяжоўваецца гэтым — ён вядзе чытача да шырокіх абагульненняў — ярка, арыгінальна, дзякуючы прадуманасці колеравых, сімвалічных і агульнапаэтычных мастацкіх сродкаў. «Але воўк як не чуў, што яда пад носам. Сышоў з асфальту і пашыўся ў шэры быльнёг. Поўсць на ім была таго самага колеру, што і поле, шэрая з чорным і рудым, паклычаная, і Валетаў не заўважыў, як звер зліўся з полем, як ягоная поўсць сплылася з поўсцю зямлі. Зямля ў ваўчынай поўсці? Валетаў жахнуўся ад нечаканае думкі. Калі зямля, дык і ўсё астатняе? І ён, чалавек?» І Валетаў прыходзіць да страшнай высновы: «Воўчая поўсць абклала светлы горад? Тады які ж гэта горад? Лагво воўчае. Але ж і воўк у гэтым лагве здыхае?» Так светлы колер у дачыненні да горада на мёртвай зямлі страчвае сваё прамое значэнне, становіцца іранічным азначэннем, а светлы горад — мёртвым, чорным горадам.

Сімвалічным выступае ў аповесці і вобраз чарнобыльскага ваўка. Валетаў сустракае яго ў вымерлай вёсцы. «Перад ім стаяў нямоглы воўк. Страшэнна хударлявы, знясілены худобай ці голадам, з абвіслай па баках поўсцю, зляжала-рудой, закарэлай на чэраве і грудзях, з вострым гарбатым хібам, на падагнутых, як перабітых, задніх лапах. На чалавека воўк не звяртаў увагі. Пастаяў і пайшоў у варотцы, цягнучы зад. Хвост вісеў, бытта галень. Чалавека воўк, вядома, чуў і бачыў, але ўсё роўна як страціў не толькі сваю драпежнасць — адчуванне асцярогі, страху смерці». Гэтае апісанне і сімвал чарнобыльскага воўка — прыклад стварэння новай ментальнасці, калі смерць побач, да яе прывыклі, яе не баяцца. Нездарма галоўны герой аповесці доктар Валетаў, гледзячы на воўка, думае: «У канаючай істоце ўбачыў сябе, сваю дарогу і свой канец. Ды не толькі свой. Канец свету».

Адзін з яркіх вобразаў-сімвалаў — белыя буслы.

Белы бусел — светлы вобраз, сімвал нашай зямлі. Таму аўтар праз сполах белых буслоў сімвалічна зашыфроўвае трывогу і бяду, якую прынёс Чарнобыль.

Белым буслам проціпастаўлены па кантрасце народнай міфалогіі вобраз-сімвал варання. Вараннё — традыцыйны вобраз бяды. «Вараннё чорнай хмараю ўзнялося з зялёнага поля і шуганула цераз дарогу на блішчаста-чорнае. Доўгія і стракатыя цені слізганулі перад коламі машыны, і з-за зялёнае выспы насустрач пакацілася шэрая хаціна». Вобраз-сімвал пададзены ў ацэначнай спецыфічнай колеравай гаме. «У вачах усё зацягнулася змрокам — курганкі, крыжы, дрэвы, хмызняк. Галава напоўнілася шумам-гамам. Узняў галаву, глянуў угару: над бярозамі аж цёмна ад варання. Вялізныя чорныя птушкі кружылі ў небе, садзіліся на дрэвы і ўзляталі, хлябалі ў голлі бяроз чорнымі анучамі крылаў. ...Учора, пачуўшы і ўбачыўшы гэты чорны гвалт, зямлю пад яго ценем, сябе адчуў ценем, зямлёю, душу як бы хто загарнуў у чорныя анучы, а цяпер нечакана абрадаваўся крыкліваму вараннню».

Колер як паэтыка-сімвалічны вобраз скарыстоўвае В. Карамазаў і для новага, уласцівага толькі Чарнобылю вобраза чорных шчытоў Лаўрэна Хроснага, ляснога Цэзара. На кожным шчыце намаляваны чэрап і зроблены папераджальны надпіс «130 кюры на кв. км». Ён як мясцовы ляснік павінен быў ставіць іх па дазіметры, але радыяцыя была ўсюды, таму ён часам здымаў іх, каб людзі маглі схадзіць у грыбы, назбіраць ягад. І толькі па загадзе начальства, перад прыездам высокіх гасцей, расставіў іх усе на дарозе, нібы чарнобыльскія прывітальныя сцягі. «Сказана, каб раніцай выставіў чарапы па асфальце — я павёз і выставіў. Згадана вечарам сабраць у хлеў — паеду і збяру. За гэта мне грошы плоцяць. Я тут малая сошка.

— Ды не, Лаўрэн. Якая ж ты сошка? Ты — Бог. Ад цябе залежыць радыяцыйная абстаноўка ў зоне.

Ляснік зразумеў жарт:

— А што? Як выстаўлю ўсе чарапы, што ў хляве, дык і жыць не захочаш». У гэтых словах Лаўрэна Хроснага — боль і горкае разуменне незваротнасці дачарнобыльскай прыроды. Усё гэта перарастае ў сувязь сімвалаў, своеасаблівае сімвалічнае нанізванне як моцны сродак паэтыкі. Як прыклад, груган і чорны шчыт: «Вялікі чорны груган сядзеў на шчыце, што абяцаў 90 кюры на кв.км, пагойдваўся і нахабна крумкаў у вочы».

Адметнымі сродкамі паэтыкі характарызуе аўтар і вобразы людзей зоны, называе іх Цэзарамі У гэтым — горкая іронія: людзі співаюцца і поўзаюць па зямлі, як мурашы, збіраюць акуркі: «Там, пад зусім аблыселым ад халодных восеньскіх вятроў лазовым кустом, варушылася чырвоненькая плямка. Зноў Мармышка? У сваім капялюшыку ён поўзаў па крузе, грабучы абедзвюма рукамі зямлю. Следам за Мармышкам па тым самым крузе, таксама на ўсіх чатырох поўзаў Цітох...

— Дзівакі?

— Цэзары, — не пагадзіўся з Валетавым Шнэйдар. — Што такое Цэзары? Новыя людзі. Людзі зоны. Ім законы не пісаныя».

Пасля гэтых слоў, пасля вандровак па чарнобыльскіх вёсках у Валетава «не было ўжо ні абурэння, ні слоў, усё гэта з яго даўно выбегла, як выбягае кроў з дзіравага чалавечка». Ён доктар, ён ведае, што радыяцыя невылечная, таму з невытрымным, разбіваючым сэрца болем глядзіць на хворых жанчын і дзяцей.

І гэта бачыў і разумеў Валетаў. «Ён бачыў, як людзі хварэюць і паміраюць. Ад лейкозаў, інсультаў, пухлін. Памірае з кожным годам яшчэ больш... мы, як іранскія камікадосы, смяротнікі».

І яшчэ ён ведаў горкія вынікі бежанства ад Чарнобыля: «На сваёй зямлі, якая яна ні горкая, і ты свой, а на чужой і ты чужы. Хоць Беларусь усюды свая, а ўсё ж усюды не тое, што свая вёска».

І таму Валетаў настойліва шукае выйсця, хоць міфалагічнага, містычнага, але падобнага да веры на збавенне, бо без веры і надзеі жыццё, яго працяг немагчымыя. І такім выйсцем для яго з'яўляецца крыж-Аброк. Ён — адзін з асноўных і вызначальных вобразаў-сімвалаў. «Аброк вартуе вёску ад усіх, хто ў вёсцы, не распускае па свеце, са свету вяртае. Людзі яму прысягаюць у вернасці. Гэтак спрадвек. Людзі забыліся на Аброк. Яны яму здрадзілі. І растрэсліся вёскі». Крыж-Аброк выступае ў аповесці сімвалам надзеі на продкаў, уратавання ад Чарнобыля. Адметная і паэтыка гэтага сімвала ў творы В. Карамазава: «Дарогі, якія разбягаліся ад крыжа, пакарацелі, воддаль зліліся з полем, адно вада ракі блішчэла-разгаралася тым самым жаўтлявым святлом, і крыж, узняты над ростанню, рассякаў цемень белай вертыкаллю, як жывым промнем, злучаў зямлю з нябёсамі, а гарызанталлю, той самай белай, нібы жывымі рукамі, абдымаў ноч, і ва ўсім гэтым відовішчы быў момант і гук не зусім як бы яснай, але неабходнай ісціны». І — вывад, спроба вярнуць ранейшы, дачарнобыльскі, жыццесваральны час, адвечная вера ў магічную сілу, паколькі звычайная, рэальная сіла не здольная гэта зрабіць: «А мы зноў дарогу да Бога пакажам. Аброку хай моліцца. Аброк — Бог», — гаворыць Міцька, герой аповесці. Людзі разумеюць, што для ратавання патрэбна звышсіла, яны атаясамліваюць яе з Аброкам, крыжом, у які верылі іх продкі. Нездарма і В. Карамазаў надае яго апісанню вялікую ўвагу, і вобразна-выяўленчыя сродкі — эпітэты, параўнанні, колеравыя злучэнні — таксама набываюць сімвалічны сэнс, як і сам вобраз крыжа-Аброка.

Аброк — сімвал традыцыйнага разумення дабра, спрадвечнага і роднага, таму В. Карамазаў нездарма вяртае да яго сваіх герояў. Забыццё на Аброчны крыж — пачатак дэструктывізму ў грамадстве, разбурэння прыроды, панаванне смерці, у рэшце рэшт — жудасныя наступствы Чарнобыля духоўнага і Чарнобыля матэрыяльнага, зямнога.

Яркі сімвалізм аповесці працягвае і вобраз Белага шляху — своеасаблівая далейшая распрацоўка і пашырэнне пісьменнікам вобраза-сімвала Аброчнага крыжа. Белы шлях — сімвал нябеснага, а з паняццём неба ў хрысціянскай трады-

цыі асацыіруецца чалавечая душа, духоўнасць народа ў цэлым. «Валетаву здалося, што Белы шлях — гэта крыж, і не ляжаў ён, а стаяў над зямлёю. І стаяў, і плыў са сваёй белай крыжавінаю. Белыя ручнікі на крыжавіне віселі, на ветры матляліся. Хто іх павесіў? Хто паспеў ужо абрачыся зямлі і небу? Вакол белага крыжа сяйво зорак, Богавых дзетак, — яны абракліся на белым крыжы ручнікамі?.. Зноў усе думкі былі пра Аброк. Як жа так? Паставілі на сваім полі, а ён узнёсся на неба. Адмовіўся вартаваць Радзімцы? Паказаў шлях ратунку — Белы, у неба? На небе ратунак?» В. Карамазаў скарыстоўвае і сувязь міфалагічных сімвалаў — Белага шляху і поўні: «Поўня падымалася ўсё вышэй — краем Белага шляху».

Д. Дудзінская пазначае, што «Белы шлях у аповесці становіцца архісімвалам абавязку перад духоўным небам, перад горняй радзімай, дабром, ісцінай». Нездарма пры смерці галоўны герой аповесці Валетаў бачыць у небе Белы шлях, разумеючы яго як увасабленне адвечнага і светлага, што дапаможа людзям перадолець Чарнобыль душы, страх і пакуты. Такім чынам, праз адметную хрысціянска-фальклорную сімволіку В. Карамазаў ярка і пераканаўча даносіць галоўныя ідэі твора, свой заклік не забываць пра родныя карані, спадчыну, духоўнасць, выстаяць у выпрабаваннях лёсу.

Кожны герой твора В. Карамазава праходзіць іспыт на вернасць сваёй зямлі і духоўнасці. Аўтар нібы правярае іх на трываласць — у адвечнай сістэме духоўных каардынат. Паказальна ў гэтым плане выказваецца адзін з герояў — Будавей, у якога не засталося родных: «Вось я — хто я такі? Чалавек на дзірках ад варожых жалезак... У мяне, можа, і твару не было людскага. Бабы ад мяне беглі — лагернік, арыштант. Адны дарогі пад нагамі бясконцыя. І я пайшоў. І знайшоў бераг, зямлі латку. І акрыяў. І жыву. Дык я табе, Міхей, так скажу. У чалавека можна ўсё забраць, а ён будзе жыць, пакуль ёсць зямлі латка, рэчка, лес, поле, паветра глыток». У адрозненне ад Будавея, не ўсе героі вытрымліваюць удары лёсу, не ва ўсіх хапае трываласці душы, не ва ўсіх жыццё сфарміравала цвёрдую філасофію побыту, падмацаваную народнымі традыцыямі. В. Карамазаў стварае палярнае поле герояў аповесці. Дэградацыю жонкі Валетава, ягонага бацькі Хвядоса, местачковых алкаголікаў Мармышкі і Цітка, паргразлай у матэрыяльным дабрабыце Сямёнаўне аўтар проціпастаўляе духоўнасці, народнай філасофіі, спадчыне, што выражаецца ў сімвалічных вобразах Аброчнага крыжа, Белага шляху, крысталізуецца найперш у свядомасці галоўнага героя твора — доктара Валетава. В. Карамазаў вельмі цікава скарыстоўвае гэты вобраз. Валетаў — не проста вясковы ўрач, ён — люстэрка падзей, што адбываюцца ў творы, ацэначная дамінанта. Гэта чалавек, што павінен ратаваць людзей па сваёй прафесіі, і таму ён яшчэ больш цяжка ўспрымае чарнобыльскія падзеі, паколькі ўсведамляе сваё прафесійнае бяссілле перад радыяцыяй.

Свет, разбураны Чарнобылем, прыводзіць героя да роспачы, згубы перспектывы, унутраных арыенціраў, душэўнага «я». І ён становіцца адлюстраваннем, рэнтгенам усяго, што бачыць, пераязджаючы ад адной вёскі да другой. Гэты прыём аўтар скарыстоўвае для поўнага паказу духоўных і фізічных жудасных разбурэнняў, выкліканых чарнобыльскай трагедыяй. У яго душы адбываецца наслаенне і сінтэз сімвалічных вобразаў: новы горад пасярод чарнобыльскай пустыні, зруйнаваная крыніца, што нагадвае пра першае каханне пад мірным, не азмрочаным Чарнобылем небам, згаладалы воўк на кінутай сядзібе, адзічэлы, чарнобыльскі воўк. Сінтэзуючы паслячарнобыльскія вобразы-сімвалы ў свядомасці галоўнага героя, аўтар здолеў стварыць яскравую і поўную карціну наступстваў Чарнобыля на зямлі і ў душах людзей, і, такім чынам, найбольш яркі заклік да новых пакаленняў, перасцярогу на будучае. Як і ў чым яе знайсці? Адказ на гэтае пытанне кожны чалавек шукае ў сімволіцы асноўных славянскіх фальклорных і хрысціянскіх вобразаў, у проціпастаўленні іх разбуральным матывам.

Кругі Валетава па вёсках — нібы кругі пекла, ледзь не прыводзяць галоўнага героя да высновы невяр’я ў магчымасць супраціўлення і процістаяння. Убачыўшы чарнобыльскага ваўка на пакінутай чалавечай сядзібе, Валетаў асацыіруе гэты вобраз з сімвалічнай пагібеллю, немінучай смерцю чалавецтва. Душа галоў-

нага героя нібыта раздзелена на дзве несумяшчальныя палавіны: адна скіравана ў пагібель, дэградацыю і нявер'е, другая — па-ранейшаму не страціла надзеі на нейкае выйсце, кіруецца да несмяротнага, а значыць, спрадвечанага, адлюстраваннем якога выступае ў аповесці Аброчны крыж. Герой імкнецца ўстанавіць яго на тым месцы, дзе ён быў, укапаць моцна, трывала, сімвалічна асацыіруючы крыж-Аброк з надзеяй у продкаў і несмяротную філасофію іх жыцця.

Як піша ў сваім даследаванні Д. Дудзінская, «вельмі важна для разумення аповесці, што Васіль Паўлавіч убачыў апірышча ў самой прыродзе, але не ў той, забруджанай антрапацэнтрычным чалавекам, дзе ён з Будавеем паставілі Аброчны крыж, а там, дзе чалавек яшчэ не нашкодзіў сваёй самаўпэўненасцю, — у Космасе, у Сусвеце. Пэўным чынам Валетаў выспеліў у сабе той момант, калі на Млечны Шлях ён паглядзеў як на Белы шлях і ўспрыняў яго як сусветны Крыж-Аброк, на якім само зямное існаванне развешвала клятвенныя ручнікі». Сімволіка-асацыятыўнае апісанне Белага шляху — пацвярджэнне адметнага вобраза, развіццё яго як містычнага выратавальніка ў свядомасці Валетава.

Што ж адлюстроўвае сімвалічны стрыжань мастацкай паэтыкі аповесці В. Карамазава? Відаць, разам з апісаннем наступстваў чарнобыльскай рэальнасці, нешта большае, чым проста разбуральніцкія матывы неабачлівых адносін да прыроды. Хутчэй гэта адлюстраванне спрадвечнай барацьбы літаратуры за духоўнасць і дабро, вера ў гэтыя непераходзячыя каштоўнасці, перададзеная ўсёй паэтыка-вобразнай сістэмай дадзенага твора. Як слушна заўважыла Д. Дудзінская, «свабода чалавека ў выбары паміж падпарадкаваннем дабру альбо злу, а не ў вызваленні адказнасці за дазвол уладарыць над сабой аднаму з гэтых двух пачаткаў». Чалавек павінен усвядоміць, што мае права выбару паміж дабром і злом — пачаткамі, якія прысутнічаюць у кожнай асобе.

Праз характарыстыку і напружаны, пакутлівы шлях свайго галоўнага героя Валетава і іншых персанажаў твора В. Карамазаў паказвае, што выбар гэты няпросты, да таго ж ускладнены паслячарнобыльскай рэальнасцю, катастрофай веры і духоўнасці чалавека-вяскоўца, для якога смерць прыроды роўная смерці асновы жыцця. Гэты філасофскі падтэкст твора дамінантай пакутлівага роздуму праходзіць праз усе перажыванні персанажаў. Таму, відаць, у В. Карамазава экалагічны стан прыроды прыроўніваецца да экалагічнага стану душы. Менавіта духоўнае, духоўнасць і чалавечнасць становяцца галоўным для пісьменніка ў мадэляванні сістэмы свету для беларуса-вяскоўца, які пасля Чарнобыля страчвае сваё асноўнае апірышча — жыццё ў прыродзе і згодна з прыродай. Хварэе прырода — хварэе душа чалавека, для якога яна — карані, вытокі.

Героі і сістэма паэтыкі твора В. Карамазава скіраваны на пошук ісціны і выйсця ў паслячарнобыльскім свеце, крок за крокам скіроўваючы да роднага, спрадвечнага, духоўна адметнага спасціжэння Універсума, старонак жыцця прыроды, каб перадаць гэтыя знойдзеныя ў пакутлівым пошуку духоўныя арыенціры будучым пакаленням. І, відаць, як пісала даследчыца А. Сямёнава, гэта «словы пра хараство вакол нас. Пра ўладу яго. Пра ўладу мастацтва, мне здаецца, таксама. Як і Слова — роднага нам». І гэта вельмі важна, паколькі глабальныя праблемы экалогіі выяўляюць вартаснасць этычных каштоўнасцей: чым бяднейшыя духоўна людзі, тым больш праяўляецца ў іх імкненне да прагматычна-знішчальных адносін да прыроды, што і прыводзіць да экалагічных катастроф, разбурэння спрадвечнага адзінства катэгорый «Чалавек — Прырода — Побыт — Лёс».



ІВАН ЛЕПЕШАЎ

# ПРА ПАХОДЖАННЕ ПРЫКАЗАК

Ужываючы слова *прыказка*, ледзь не заўсёды ставяць перад ім, усё роўна як пастаянны эпітэт у казках ці песнях, прыметнік *народная*. Калі пад ім разумець «створаная народам», дык ён у аднолькавай меры павінен бы далучацца і да ўсіх спрадвечна беларускіх слоў і фразеалагізмаў, бо і яны створаны народам. Традыцыйна лічаць прыказкі афарызмамі народнага паходжання, узніклымі непасрэдна ў жывой мове народа. Але гэта не зусім так. Ёсць нямала прыказак, якія прыйшлі ў нашу мову з іншых моў як запазычанні, калькі ці паўкалькі. Так, *Іван ківае на Пятра* — запазычанне з рускай мовы; *Што задужа, то не здрова* — паўкалька з польскай мовы; *Рука руку мые* — калька з лацінскай мовы; *Прывычка — другая натура* — паўкалька з лацінскай мовы; *Хто плаціць грошы, той заказвае і музыку* — недакладная калька з англійскай мовы; *Добра смяецца той, хто смяецца апошні* — калька з французскай мовы.

Ёсць шэраг прыказак, якія паводле свайго першапачатковага ўжывання з'яўляюцца афарызмамі кніжнага паходжання, крылатымі выразамі, што адарваліся ад сваёй літаратурнай крыніцы і цяпер ўспрымаюцца як звычайныя прыказкі, фіксуюцца ў фальклорных зборніках або парэміяграфічных слоўніках — без паметы, хто стваральнік гэтага афарызма-прыказкі. Да прыкладу, 17 прыказак прыйшлі ў нашу мову з Бібліі: *Не хлебам адзіным жыве чалавек; Хто не працуе, той не есць* і г. д.

Сёння амаль усе ўжываюць у пэўнай маўленчай сітуацыі прыказку *Апетыт прыходзіць у часе яды.* І дастасоўваюць яе зусім не да яды, а выкарыстоўваюць у значэнні: жаданне, патрэбнасць, цікавасць да чаго-небудзь павялічваецца па меры таго, як пазнаеш што-небудзь, захапляешся тым, што пачаў рабіць. Ужываючы гэту прыказку, сёння мала хто ведае, што яе аўтар — французскі епіскап Жэром дэ Анжэ, а асаблівай папулярнасці гэтага афарызма і набыццю ім крылатасці вельмі ж пасадзейнічаў славуты французскі пісьменнік Франсуа Рабле ў сваім шырокавядомым рамане «Гарганцюа і Пантагруэль».

Яшчэ толькі некалькі прыказак, якія маюць свайго аўтара: *Маўр зрабіў сваю справу, Маўр можа ісці* (Ф. Шылер); *Кропля камень точыць* (Авідзій); *З мілым рай і ў шалашы* (Н. Ібрагімаў); *Двойчы ў адну раку ўвайсці немагчыма* (Геракліт).

Шырока ўвайшоў у побыт крылаты выраз з байкі К. Крапівы «Сава, Асёл ды Сонца», ператварыўшыся ў звычайную прыказку: *Каб сонца засланіць, вушэй*

---

***Лепешаў Іван Якаўлевіч*** *нарадзіўся 23 кастрычніка 1924 года ў вёсцы Іскозы Дубровенскага раёна Віцебскай вобласці. Скончыў Гродзенскі педінстытут. Настаўнічаў. З 1971 года — у Гродзенскім універсітэце. Доктар філалагічных навук, прафесар кафедры беларускай мовы.*

*Аўтар больш за 400 публікацый, сярод іх 31 кніга: «Лінгвістычны аналіз літаратурнага твора», «Асновы культуры мовы і стылістыкі», «Фразеалагічны слоўнік беларускай мовы ў двух тамах», «Этымалагічны слоўнік фразеалагізмаў», «Слоўнік беларускіх прыказак» і інш.*

*асліных мала.* Яе ўжыванне ў сучасных літаратурных тэкстах пацвярджаецца ў «Слоўніку беларускіх прыказак» чатырма ілюстрацыйнымі прыкладамі.

Паўторым яшчэ раз: прыметнік-эпітэт *народная* пры слове *прыказка* лагічна не зусім апраўданы, хоць, несумненна, пераважная большасць прыказак, што ўжываецца ў сучасным беларускім маўленні, склалася ў жывой народнай мове і многія з іх маюць шматвяковую гісторыю.

Шмат якія прыказкі, як лічыў А. А. Патабня, паходзяць з баек, анекдотаў і казак: само сюжэтнае апавяданне з цягам часу забылася, а вывад застаўся. Гэтакай жа думкі прытрымліваўся і І. І. Насовіч, калі ўзнікненне, напрыклад, прыказкі *Няхай той серадзіць, хто на неба глядзіць* звязваў з байкай пра хітрую лісіцу і воўка-дурня. Такія прыказкі Ф. І. Буслаеў называў «байкамі малога аб'ёму», а Я. А. Ляцкі — «прыказкамі-баечкамі».

А. А. Патабня пісаў, што «адзін з відаў прыказак прымыкае непасрэдна да баек». Ён разглядае асобныя «прыёмы ператварэння складанага паэтычнага твора ў прыказку», у прыватнасці, адзначае: «Вядомая частка байкі становіцца прыказкай, дзякуючы таму што астатняя частка яе ўтрымліваецца ў думцы і гатова з'явіцца па нашым першым патрабаванні як паясненне гэтага выказу». Гэта можна было б пераканаўча пацвердзіць (на беларускім матэрыяле) асацыятыўнымі суадносінамі паміж згаданай вышэй прыказкай *Каб сонца засланіць, вушэй асліных мала* і байкай К. Крапівы «Сава, Асёл ды Сонца».

Гаворачы пра прыказку *Куды конь з капытом, туды і рак з клюшняй,* А. А. Патабня піша, што «гэта варыянт байкі «Лягушка і Вол». У ёй расказваецца, што падкоўвалі каня, а рак падставіў сваю клюшню, каб і яго падкавалі». Там жа адзначаецца, што іншы раз не асобны «выказ, а ўвесь змест байкі робіцца прыказкай»; вось некаторыя прыклады: *Кабыла з воўкам цягалася, хвост ды грыва асталася; Сабака на сене ляжыць, сам не есць і другім не дае.*

Ужо ўзгадвалася, што І. І. Насовіч у «Зборніку беларускіх прыказак» (1874) многія парэміі (больш за 40) пры тлумачэнні іх сэнсу суправаджаў прывязкай да, відаць, пачутых у народзе этымалогій. Так, аб прыказцы *Плачце вочы, хоць павылазьце, відалі, што купавалі* сказана, што яна «паходзіць ад баечкі. Цыган замест яблыкаў купіў цыбулю, ад якой пры ядзенні надта каціліся ў яго слёзы, таму ён і сказаў: плачце вочы, хоць павылазьце; відалі, што купавалі». Паводле І. І. Насовіча, прыказка *На вяку ўсяго нажывеш — і Кузьму татам назавеш* «бярэ пачатак ад наступнага аповеду. Адзін пасынак, прывыкшы з маленства называць айчыма па імю Кузьмой, і, падросшы, не пакідаў сваёй прывычкі. Але аднойчы, везучы з айчымам па возе пшаніцы снаповай, неяк уз'ехаў на ўзгорак і трапіў пад воз, які перакуліўся на яго. Пасынак з крыкам клікаў на дапамогу свайго Кузьму, які ехаў наперадзе, але Кузьма, не адклікаючыся, працягваў ехаць. Пасынак, бачачы няўвагу айчыма, пачаў крычаць: «Тата, тата! Памажы мне вылезці». Айчым зараз жа спыніўся і вызваліў пасынка, але той, прыехаўчы дамоў, пры апавяданні пра такі выпадак сказаў: на вяку ўсяго нажывеш — і Кузьму татам назавеш». Падобныя прывязкі да канкрэтнага жыццёвага выпадку маюць і многія іншыя прыказкі.

Я. А. Ляцкі таксама лічыў, што адной з крыніц узнікнення прыказак выступаюць байкі, песні, апавяданні: «Яны ператвараюцца, шляхам «згушчэння думкі», па словах прафесара Патабні, у кароценькія прытчы, байкі, якія, атрымліваючы ў жыцці значэнне прыказак, павінны разглядацца як асобны іх від і могуць быць названыя *прыказкамі-баечкамі*». У якасці прыкладу Я. А. Ляцкі падае прыказку *Хто парасё ўкраў, таму ўвушшу пішчыць*, пра якую «існуе наступнае апавяданне. Нехта, жадаючы даведацца, хто ўкраў у яго парасё, пайшоў да групы аднавяскоўцаў і хутка сказаў: «Хто парасё ўкраў, таму ўвушшу пішчыць!» — «Ото-ж няпраўда!» — адказаў злодзей і тым выдаў сябе».

Генетычная сувязь некаторых прыказак з народнымі апавяданнямі і баечкамі не адмаўлялася і Я. Ф. Карскім, але ён слушна адзначаў, што «толькі працяглыя даследаванні і вывучэнні могуць адкрыць сапраўднае паходжанне прыказкі». Тыя

шматлікія згаданыя вышэй спробы І. І. Насовіча вытлумачыць паходжанне той ці іншай прыказкі, несумненна, у сваёй пераважнай большасці — са сферы так званай народнай этымалагізацыі. І наўрад ці варта перабольшваць адзінкавыя выпадкі ўзнікнення прыказак з баек. Тут, хутчэй, можна гаварыць пра адваротны працэс — вельмі частае ўзнікненне баек на аснове прыказак. Як пісаў В. Р. Бялінскі у кнізе «О классиках русской литературы». — М., 1980), «байка ў адносінах да прымаўкі і прыказкі ёсць вышэйшы род, вышэйшая паэзія, або паэзія народных прыказак і прымавак». Дарэчы, гэта можна пацвердзіць шматлікімі прыкладамі з творчай практыкі К. Крапівы як байкапісца, для якога прыказкі — крыніца ідэй і мастацкіх вобразаў, аснова баечных сюжэтаў і г. д. Так, у аснову байкі «Дзед і Баба» пакладзена прыказка «Баба з воза — каню лягчэй»; паэтычнай асновай байкі «Мурашка і Жук» стала другая частка прыказкі «За пчолкаю — у мёд, за жуком — у гной»; у аснове байкі «Стары і Малады» выразна відаць сляды прыказкі «Стары конь баразны не псуе».

А. А. Патабня хоць і на многіх старонках сваёй працы гаварыў аб прыказках як «аб паэтычнай форме, якую можна назваць скарачэннем байкі», але падмацоўваў такое сцвярджэнне толькі некалькімі прыкладамі. Адначасова ён жа пісаў адносна прыказкі *Если хочешь в рай, передайся к нам:* «Не выклікае ніякага сумнення, што гэта — заключная фраза якогасьці дыялогу. Мы не можам сказаць, хто менавіта так гаварыў, з якога прыватнага вобраза ўзнікла гэта прыказка».

Думаецца, што, сапраўды, не з баек, а з «якіхсьці дыялогаў» узнікла пераважная большасць прыказак. Такое меркаванне найперш датычыць бязвобразных прыказак, хоць, зразумела, не абмяжоўваецца толькі імі.

Уявім такую карціну з далёкага мінулага. Купка сялян, неяк сышоўшыся, гаворыць пра жыццё-быццё. Параўноўваюць, як няроўна, неаднолькава жывуць два вядомыя ім гаспадары: дапусцім, Піліп ледзьве зводзіць канцы з канцамі, а ў Сцяпана і ўраджай заўсёды добры, і ў хляве з жывёламі ды птушкамі ўсё ідзе рукой. «Што і казаць, шанцуе Сцяпану», — з зайздрасцю кажа адзін з суразмоўнікаў, а другі, пасля некаторага роздуму, нібы пярэчыць: «Хто дбае, той і мае». З гэтым пагаджаюцца і іншыя: «Праўду ты сказаў: хто дбае, той і мае. Сцяпан жа гэты — такі руплівы, такі старанны, і ўся сям'я яго гэтакая ж». Так трапнае выказванне, ды яшчэ змацаванае рыфмай, пастулова ператвараецца ў прыказку, калі яно ўспрымаецца моўным калектывам як абагульняльны вывад на аснове шматлікіх жыццёвых назіранняў.

Стваральнікам прыказкі заўсёды з'яўляецца які-небудзь асобны чалавек, і ўзнікае яна адразу, у маўленчым акце, у працэсе маўлення. Спачатку гэта — аўтарскі твор, а пасля ён падхопліваецца іншымі людзьмі з бліжэйшага асяроддзя і з цягам часу становіцца агульнаўжывальнай моўнай адзінкай. «Паколькі асоба аўтараў на прыказках не адбілася, — пісаў Я. Карскі, — то народ лёгка забыў іх складальнікаў і захаваў гэтыя творы як свае ўласныя».

Аказіянальнымі, індывідуальна-аўтарскімі былі на пачатку свайго жыцця сотні іншых прыказак неалегарычнага характару, напрыклад: *Адна бяда — не бяда; Вада не гарэлка — шмат не вып'еш; Госць мала гасцюе, ды многа бачыць; Добры гаспадар і сабаку не выганіць у такую пагоду; Едзеш на дзень, бяры хлеба на тыдзень; Лепей кепскі родны бацька, чым добры айчым; На хаценне ёсць цярпенне; Не можаш памагчы, дык лепей памаўчы.* Дарэчы, утварэнне апошняга выказу, скарыстанага ў байцы К. Крапівы «Кувада», нярэдка памылкова прыпісваюць К. Крапіве, называюць яго крапівоўскім «дасціпным выразам, які ператварыўся ў прыказку». Аднак гэта прыказка занатавана ў свой час яшчэ І. І. Насовічам, ёсць яна і ў некаторых іншых парэміялагічных зборніках. Гэтак жа беспадстаўна называюць наватворам-прыказкай К. Крапівы загаловак ягонага верша «Вось такія дактары вымуць душу без пары», хоць гэта на самой справе крыху перафразаванае аўтарскае запазычанне: *Там добрыя дактары вымуць душу без пары; Гэтыя дактары вынімаюць душу без пары: не лечуць, ды яшчэ калечуць.*

Аналагічным шляхам, у індывідуальным акце маўлення, узніклі шматлікія прыказкі, якія ўжываюцца як адзін з паказчыкаў народнага календара і адносяцца да розных рэлігійных святаў, хоць, як пісаў Я. Карскі, «яны больш характарызуюць стан прыроды ў час гэтых святаў»: *На Пакровы дай сена карове; Грамніцы — палавіна зіміцы; Добра яблычка к Іспасу; Магдалена — вады па калена; Прыйшлі Пакровы — заганяй у хлеў каровы* і шмат іншых.

Што да прыказак з поўным або частковым пераасэнсаваннем іх кампанентнага складу, то яны таксама часцей за ўсё паходзяць з «якіхсьці дыялогаў». Прычым, напэўна, толькі нямногія з іх напачатку маглі ўжывацца ў прамым значэнні, а пасля ўжо пераасэнсаваліся, стаўшы дастасоўвацца да шмат якіх іншых аналагічных з'яў. Гэта, напрыклад, такія выказы: *Бот лапцю не пара; Дзіравага мяшка не напоўніш; Дзе п'юць, там і льюць; З вялікага грому малы дождж бывае; З песні слова не выкінеш; Кабыла здыхае, а траву хапае; Клін клінам выбіваюць; Любіш катацца, любі і саначкі вазіць; На лечаным кані далёка не заедзеш; Чым бы дзіця ні цешылася, абы не плакала; Якая птушка, такое і гняздзечка; Якія сані, такі і гаспадар; Не бойся таго сабакі, які брэша, а бойся таго, што лашчыцца; Парою сена косяць; Пешы коннаму не таварыш; Што пасееш, тое і пажнеш; Як сабаку кормяць, так сабака і брэша.*

Асобныя з гэтых прыказак і некаторыя іншыя і сёння выкарыстоўваюцца не толькі ў пераносным, але (зрэдку) і ў прамым значэнні, што часткова адлюстравана ў «Слоўніку беларускіх прыказак».

Пераносныя значэнні ўзнікаюць у прыказак звычайна ў выніку метафарычнага пераасэнсавання — пераносу пэўнага суджэння з адной з'явы на другую па аналогіі, на аснове падабенства паміж імі. Пры такім пераасэнсаванні пэўнае абстрактнае суджэнне, увасобленае ў прыказцы, перадаецца праз канкрэтны вобраз, праз нагляднае ўяўленне пра што-небудзь. «Абагульненне мае для нас цану, — пісаў А. А. Патабня, — толькі ў тым выпадку, калі пад ім мы маем канкрэтныя ўспрыманні, з якіх яно атрымліваецца». Напрыклад, абагульненае, абстрактнае значэнне «таго, што было, назад не вернеш» мы можам перадаць праз метафарычнае выказванне-прыказку *Адрэзанай лусты не прыклеіш*, у аснове якой ляжыць канкрэтны вобраз. Прыказкі алегарычнага характару паводле свайго ўзнікнення — гэта разгорнутыя метафары, якія складаюцца з некалькіх унутрана звязаных кампанентаў-метафар.

Іншасказальныя, пераносныя прыказкі ўтвараюцца не на лексічнай, а на сінтаксічнай аснове, г.зн. у выніку пераасэнсавання не кожнага слова паасобку, а ўсяго выказвання-сказа ў цэлым. Аб'ект пераасэнсавання (скажам, *Яблык ад яблыні недалёка падае*) як бы выварочваецца навыварат цалкам і адначасова, а не асобнымі сваімі словамі. *Яблык* і *яблыня* ў іх свабодным ужыванні, як засведчана ў тлумачальных слоўніках, наогул адназначныя назоўнікі, а *падаць* і *недалёка* маюць па некалькі слоўнікавых значэнняў. Адпаведныя ж словы-кампаненты ўнутры прыказкі *Яблык ад яблыні недалёка падае* дэактуалізаваліся, як бы растварыліся ў агульным сэнсе прыказкі (яна абазначае «свае недахопы ці станоўчыя рысы дзеці пераймаюць ад бацькоў») і не маюць нічога агульнага з прамымі ці пераноснымі значэннямі гэтых слоў.

Тое самае назіраем ва ўсіх іншых прыказках гэтага тыпу. Скажам, у прыказцы *Кашу маслам не сапсуеш*, што значыць «неабходнае, карыснае ніколі не зашкодзіць», усе кампаненты атрымалі скразное і адначасовае пераасэнсаванне. Яна ўспрымаецца як матываваная моўная адзінка, як разгорнутая метафара або як параўнанне, толькі без ягоных прывычных параўнальных злучнікаў *як, нібы, як быццам*, а менавіта: гэтак жа, як кашу маслам не сапсуеш, так і неабходнае, карыснае ніколі не зашкодзіць. Супастаўім таксама: *Кабыла здыхае, а траву хапае* — «у якім бы стане ні знаходзіўся чалавек, яго думы і дзеянні звязаны з жыццёвымі, надзённымі інтарэсамі».

Метафару часта азначаюць як прыхаванае параўнанне адной з'явы з другой. Можна вылучыць некалькі найбольш тыповых семантычных мадэляў, па якіх

арганізуецца супастаўленне розных з'яў. Напрыклад, ёсць шмат прыказак «жывёльнага паходжання», г. зн. такіх, якія дастасоўваюцца да чалавека, але ўзніклі праз параўнанне людскіх учынкаў, дзеянняў і інш. з паводзінамі, звычкамі жывёл. Вось некалькі такіх прыказак — з поўным або частковым пераасэнсаваннем іх кампанентаў: *Авечку стрыгуць, а баран дрыжыць; Адальюцца воўку авечыя слёзы; Апошняму парасяці цыцка пад хвастом; Бадлівай карове бог рог не дае; Быў конь, ды з'ездзіўся; Ваўка ногі кормяць; Воўк і лічанае бярэ; Воўк не з'еў, дык бугай не забадае; Два мядзведзі ў адной бярлозе не зімуюць; Стары вол баразны не псуе.*

А гэта прыклады прыказак «птушынага паходжання»: *Адна ластаўка вясны не робіць; Арлу з савой не па дарозе; Гусь свінні не таварыш; Варона з куста, пяць на куст; Кожная птушка ляціць у сваю чараду; Кожны кулік сваё балота хваліць; Над пешым арлом і варона з калом; На сваім сметніку і певень гаспадар; Начная зязюля дзённую перакукуе; Пужаная варона куста баіцца.*

Ёсць таксама нямала прыказак «расліннага паходжання»: *Ад крывога дрэва прамога ценю не бывае; Без ветру і дуб не шуміць; Вясной і травінка да травінкі хінецца; Добрую траву сеюць, а ліхая чорт ведае адкуль бярэцца; І да грыба трэба нагнуцца; Пустазелле з поля вон; Сем гадоў мак не радзіў, а голаду не было; Скрыпучае дрэва доўга скрыпіць; Хвалілася рэдзька, што з мёдам смачная; Хто ў боб, хто ў гарох, а хто ў сачыўку.*

Як ужо адзначалася, у парэміялагічным складзе беларускай літаратурнай мовы ёсць шмат прыказак, якія прыйшлі ў яе кніжным шляхам — як запазычанні, калькі або паўкалькі з іншых моў, а таксама як былыя крылатыя выразы, што сталі звычайнымі прыказкамі.

Тут найперш трэба назваць такую крыніцу, як Біблія. Адзначым, дарэчы, што Біблія, самая папулярная ў свеце кніга, перакладзеная на 1250 моў і дыялектаў, аказала і працягвае аказваць вялікае ўздзеянне на развіццё сусветнай культуры. Біблейскія сюжэты, матывы, вобразы і сімвалы выкарыстоўваліся на працягу стагоддзяў і цяпер выкарыстоўваюцца ў сусветнай літаратуры, жывапісе, тэатры, музычным мастацтве, кіно. Ніводная іншая кніга не можа параўнацца з Бібліяй па колькасці фразеалагізмаў, уведзеных ва ўсенародны ўжытак (115 выразаў). Прыкметна папоўніла Біблія і прыказкавы склад мовы (17 прыказак). След ад Бібліі ва ўсім — вялізны, відавочны і неаспрэчны.

Пададзім далей прыказкі-біблеізмы, адначасова называючы біблейскі тэкст, з якога яны пачыналі свой шлях у афарыстыку.

*Бог даў, Бог і ўзяў.* Паўкалька з царкоўнаславянскага тэксту: «Господь даде, Господь и отъя» (з «Кнігі Іова», 1, 21).

*Няма прарока ў сваёй айчыне.* Неаднойчы паўтараецца ў Бібліі (напрыклад, у «Евангеллі ад Марка», 6, 4) як словы Ісуса пра тое, што не бывае прарока без пашаны, хіба толькі ў айчыне сваёй і ў доме сваім.

*Не хлебам адзіным жыве чалавек.* З евангельскага тэксту: «Не аб хлебе адзіным жыў будзе чалавек» (Лука, 4, 4).

*Няма нічога тайнага, каб не стала яўным.* «Няма нічога тайнага, каб не зрабілася яўным» (Марк, 4, 22).

*Неспавядальныя шляхі Гасподнія.* Паўкалька з царкоўнаславянскай мовы: «Неисповедимы пути Господни» (з «Паслання апостала Паўла да рымлянаў», 11, 39).

*Хто сее (пасее) вецер, той пажне буру.* З «Кнігі прарока Асіі» (8, 7): «Як яны сеялі вецер, то і пажнуць буру».

*Супраць ражна не папрэш.* З «Дзеянняў святых апосталаў» (9, 5; 26, 14): «Цяжка табе перці супраць ражна».

*Хто не працуе, той не есць.* З «Другога паслання апостала Паўла да фесаланікійцаў» (3, 10): «Калі хто не хоча працаваць, той не есць».

*Забаронены плод салодкі.* Паўкалька з рускай мовы *(Запретный плод сладок).* Склалася на аснове біблейскага сюжэта пра дрэва пазнання дабра і зла, зрываць плады з якога Бог забараніў Адаму і Еве: «І не датыкайцеся да іх, каб

вам не памерці» (Быццё, 3, 3; 2, 16—17). Аднак занадта цікаўная Ева не ўтрымалася, каб не сарваць забаронены плод, і спакусіла Адама. За гэта абое былі пакараны і выгнаны з раю.

*Нішто не вечна пад месяцам.* Паўкалька з рускай мовы. Паходзіць з верша М. М. Карамзіна «Вопытная Саламонава мудрасць, або Вобразныя думкі Эклезіяста» (1797), дзе ёсць радок «Ничто не вечно под луною», які з'яўляецца перайманнем з «Кнігі Эклезіяста» (1, 9): «Што было, тое і будзе; і што рабілася, тое і будзе рабіцца, і няма нічога новага пад сонцам».

*Усё новае — гэта добра забытае старое.* Калька з французскай мовы. Лічыцца, што ўпершыню нібыта так сказала мадэмуазель Бертан, мадыстка Марыі Антуанеты, паднавіўшы старую сукенку каралеўны. У французскай мове афарызм склаўся пад уплывам радкоў з «Кнігі Эклезіяста» (1, 10): «Бывае нешта, аб чым кажуць: глядзі, вось гэта новае, але *гэта* было ўжо ў вяках, якія былі да нас».

*Бойся Усявышняга і не гавары лішняга.* Склалася пад уплывам біблейскага выказвання: «Не спяшайся языком сваім, і сэрца тваё няхай не спяшыць вымавіць словы перад Богам» (Эклезіяст, 5, 1).

*Падняўшы меч, ад мяча і згіне.* З «Евангелля ад Матфея» (26, 52): «Тады гаворыць яму Ісус: вярні твой меч у яго месца, бо ўсе, узняўшыя меч, мячом загінуць».

*Шукайце і знойдзеце.* Паўкалька з царкоўнаславянскай мовы: «Ищите и обрящете» (Матфей, 7, 7).

*Не судзіце, ды не судзімы будзеце.* З «Евангелля ад Матфея» (7, 1—2): «Не судзіце, ды не судзімы будзеце, бо якім судом судзіце, такім будзеце судзімы; і якою мераю мераеце, такою і вам будуць мераць».

*У чужым воку саломку бачым, а ў сваім і бервяна не заўважаем.* Параўн.: «Што ты глядзіш на сучок у воку брата свайго, а бервяна ў тваім воку не адчуваеш?» (Матфей, 7, 5; 6, 41).

*Дай божа ў добры час сказаць, а ў ліхі памаўчаць.* Як лічыць І. І. Насовіч, прыказка склалася пад уплывам выказвання з «Кнігі Эклезіяста» (3, 1—7): «Усяму свой час... час маўчаць і час гаварыць».

Прыказкі-біблеізмы, як пісаў Я. Карскі, «маглі быць запазычаны народам або з царкоўных чытанняў і пропаведзяў, або (што больш верагодна) унесены ў народную масу асобнымі пісьменнымі людзьмі».

Прыказкамі, кніжнымі паводле свайго пранікнення ў літаратурную мову, з'яўляюцца некаторыя крылатыя выразы беларускіх пісьменнікаў. З паэмы Я. Коласа «Новая зямля»: *Назад не прыйдзе хвала тая, што з быстрай рэчкай уплывае; Мой родны кут, як ты мне мілы; Забілі зайца не забілі, а гуку многа нарабілі.* З паэмы Я. Купалы «Курган»: *Дум не скуеш ланцугамі.* З байкі К. Крапівы «Заява»: *Як свінню ні кліч, яе заўсёды выдасць лыч* (а таксама памянёная раней *Каб сонца засланіць, вушэй асліных мала* — з байкі «Сава, Асёл ды Сонца»). Шырока выкарыстоўваецца ў сучасным маўленні радок *Няма таго, што раньш было* — з верша М. Багдановіча «Ізноў пабачыў я сялібы...» (1913). Верш пакладзены на музыку (кампазітар І. Лучанок), стаў песняй, таму радок набыў асаблівую крылатасць, ператварыўся ў прыказку. Аналагічныя аўтарскія афарызмы, якімі ўзбагачаецца родная мова, называюць «неўміручымі помнікамі таленту, дасціпнасці і натхненню» (Я. І. Яфімаў).

Можна прывесці яшчэ нямала прыказак, іншамоўнага кніжнага паходжання, аўтарства якіх вядомае. Яны, як калькі, паўкалькі ці (радзей) запазычанні, папоўнілі парэмійны склад нашай мовы. Некаторыя з іх ужо называліся ў пачатку артыкула. Пададзім яшчэ толькі некалькі такіх афарызмаў-прыказак.

*Цяжка злавіць чорную кошку ў цёмным пакоі, асабліва калі яе там няма* — належыць кітайскаму мысляру Канфуцыю (551—479 гг. да н. э.).

З грэчаскай мовы: *Корань навукі горкі, ды плады яго салодкія* (Арыстоцель); *Усё цячэ, усё мяняецца* (Геракліт).

З лацінскай мовы: *Нішто чалавечае мне* (ім і інш.) *не чужое* (Тэрэнцій); *Платон мне сябра, а ісціна даражэйшая* (Платон); *Час — найлепшы доктар*

(Аўгусцін); *Грошы не пахнуць.* Апошні выказ паходзіць са слоў рымскага імператара Веспасіяна (I ст. н. э.), які ўвёў падатак на грамадскія прыбіральні, а калі сын папракнуў бацьку за гэта, той паднёс да яго носа першыя грошы, сабраныя як падатак, і прапанаваў яму панюхаць, ці пахнуць яны.

З англійскай мовы: *Час — гэта грошы* (Б. Франклін); *Добрымі намерамі выслана дарога ў пекла* (С. Джонсан).

З французскай мовы: *Калі б маладосць умела, а старасць магла* (А. Эт'енне); *Ад вялікага да смешнага адзін крок.* Апошняя фраза належыць Напалеону, які ў снежні 1812 г. у часе ўцёкаў з Расіі часта паўтараў яе свайму паслу ў Варшаве, пра што той пісаў пасля ў сваёй кнізе «Гісторыя пасольства ў Вялікім герцагстве Польскім» (1816).

З рускай мовы: *Адзін раз схлусіўшы, хто табе паверыць?* (К. Пруткоў); *Што маем — не шануем, а як страцім — плачам* (К. Пруткоў); *Тэатр пачынаецца з вешалкі* (К. С. Станіслаўскі); *Вялікае бачыцца на адлегласці* (С. Ясенін); *Рукапісы не гараць* (М. Булгакаў). *Пераможцу(-аў) не судзяць* — выказ прыпісваецца імператрыцы Кацярыне II, якая нібыта гэтак сказала пра Суворава, калі той самавольна павёў войскі на штурм Туртукая і авалодаў горадам. Яшчэ адзін выказ — *Няма (не бывае) правілаў без выключэння,* — відаць, паўкалька з рускай мовы, дзе афарызм стаў крылатым пасля таго, як А. С. Пушкін ужыў яго ў «Яўгеніі Анегіне» ў такіх радках: «Хоть он людей, конечно, знал и вообще их презирал, но (правил нет без исключений): иных он очень отличал». У рускую мову выслоўе прыйшло як калька з лацінскай мовы (словы належаць філосафу Сенеку: *Nulla regula sine exceptione*).

Калі цяпер вярнуцца да пытання пра тыповасць ці нетыповасць утварэння прыказак з баек, казак, песень, то, як паказвае прааналізаваны матэрыял, гэта вельмі рэдкія выпадкі ў парэміялогіі. У прыватнасці, толькі дзве згаданыя раней прыказкі *(Каб сонца засланіць, вушэй асліных мала; Як свінню ні кліч, яе заўсёды выдасць лыч)* узніклі з баек (як іх канцоўка-мараль). Адна прыказка — *З рога ўсяго многа* — паходзіць з аднайменнай беларускай народнай казкі, дзе, апрача іншага, расказваецца і пра дзіўны сярэбраны рог, які падараваў жуOn the next line: журавель беднаму дзеду, пакрыўджанаму панам. Вось урывак з казкі: «— Скажы: «З рога ўсяго многа!» — З рога ўсяго многа! — крыкнуў зайздросны аканом. Тут, адкуль ні вазьміся, выскачылі з рога дванаццаць хлопцаў-малайцоў з бізунамі ды давай лупцаваць аканома». Прыказка *З мілым рай і ў шалашы* — запазычанне з рускай мовы, куды выказ прыйшоў з народнай песні на словы паэта Н. М. Ібрагімава — аўтара «Рускай песні» (1815), дзе ёсць такія радкі: «Не ищи меня, богатый, ты не мил моей душе. Что мне, что твои палаты? С милым рай и в шалаше!»

Варта асобна сказаць пра нетыповыя, адзінкавыя выпадкі ўтварэння як фразеалагізмаў, так і прыказак з загадак. Фразеалагізм *зімой і летам адным цветам*, што значыць «заўсёды ў адным і тым жа адзенні», склаўся на аснове аналагічнай загадкі пра елку, хвою; напрыклад: «Адзець на змену не было чаго. І яна, і дзеці зімой і летам адным цветам, — адно насілі, латанае-пералатанае» (М. Гіль). Ацэначная прыказка *Сам худ, а галава з пуд* (ёю характарызуюць разумнага чалавека) утварылася з аднайменнай загадкі пра бязмен: «Якуб Якубыч Худ, у яго барада пад колер ліса і, як кажа прыказка, «сам худ, а галава з пуд» — чалавек разумны, нават мае лысіну» (А. Куляшоў).



Уладзімір ШУШКЕВІЧ

# ПА СЛЯДАХ ЛЕПЕЛЬСКІХ АРГАНАЎТАЎ

**Вядомы фальклярыст і этнограф, гісторык і пісьменнік, выдатны даследчык лепельскага краю Іван Данілавіч Гарбачэўскі (1860—1914) у сваёй рабоце «Лепельскі павет Віцебскай губерні», выдадзенай Віцебскай губернскай друкарняй асобнай кніжкай у 1895 годзе, пісаў: «На поўдзень ад Лепеля, менш чым у дзесяці вёрстах, пачынаецца Барысаўскі павет Мінскай губерні, з яго непраходнымі ляснымі нетрамі, балотамі і тванямі. Насельніцтва закінутых сярод гэтых нетраў вёсак адрозніваецца дзікунствам і крайнімі забабонамі: тут пачынаецца сапраўдная радзіма палескіх чараўнікоў, русалак ды іншай чартоўшчыны. І няма нічога дзіўнага, што гэтыя недаступныя месцы сваёй невядомасцю і таямнічасцю заўсёды ўражвалі ўяўленне лепельскіх беларусаў, дапускаўшых, што там дзесьці і свету канец, і неба з зямлёй сышлося, пакуль гэта памылковае геаграфічнае вучэнне не развеялі першыя лепельскія арганаўты, якія хадзілі на выганку лесу ў самую глыбіню Палесся. Вяртаючыся дахаты, яны распавядалі знаёмым, што на поўдні да бясконцасці раскінуліся лясы ды балоты, што там жывуць сумленныя, гасцінныя і вельмі заможныя людзі і што сваёй праставатасцю палешчыкі пераўзыходзяць нават лепельцаў».**

Прайсці шляхам лепельскіх арганаўтаў па Гарбачэўскаму мяне і падштурхнула якраз выказванне славутага земляка. Падумалася, што ніхто яшчэ не хадзіў гэтым маршрутам, тым больш ніхто не апісваў наваколлі лепельскага Палесся.

Пачаць маршрут я вырашыў прыкладна з тых мясцін, куды, калі верыць гісторыку Гарбачэўскаму, хадзілі лепельскія арганаўты. У спадарожнікі ўзяў сына Валерыка, бо адзін пабаяўся ўтапіцца ў запаведных балотах.

Калі глядзець на карту, мяжа Лепельскага раёна перасякае жвіроўку на Беразіно за вёскай Савін Дуб. Аднак маршрутны аўтобус завёз нас да дарожнага знака на мяжы Бярэзінскага біясфернага запаведніка. Давялося пехатой прыкладна з кіламетр вяртацца назад і наўздагад зварочваць на лясную дарогу.

Вялікі лес неўзабаве скончыўся. Адзін за другім з’яўляюцца невялікія лапікі незасеяных палёў. Па ўсёй імавернасці тут калісьці быў хутар. На ўскрайку дарога абрываецца, і мы ступаем у балота.

Паколькі я захапляюся падарожжамі, то і кніжкі чытаю адпаведныя. І хачу сказаць, што не люблю, калі вандроўныя нататкі пішуць масцітыя пісьменнікі. Гэтыя «спяцы» так закручваюць апісанні ды кідаюцца ў асабістыя развažанні, што ад самога падарожжа амаль нічога не застаецца. Зусім проста і даступна апісваюць свае вандроўкі ды навакольныя краявіды звычайныя падарожнікі, далёкія ад літаратурнага знаўства (Арсеннеў, Пржавальскі, Сямёнаў-Цяньшанскі...). Пастараюся і я без лішніх апісанняў падаць маршрут такім, якім яго ўспрынялі мы.

...Лісцёвая балацявіна раптоўна пераходзіць у мохавую хваёвую. Не паспяваю падумаць, што тут павінны быць журавіны, як адразу знаходжу купіну з чырвонымі леташнімі ягадамі. Хоць і мяккія яны, але смачныя, кіслючыя. Далей трапляецца толькі голы журавіннік.

Літаральна за дзень да нашай вандроўкі прайшлі абложныя майскія дажджы. Паўсюдна стаіць вада. Пераскокваем з купіны на купіну, аднак усё адно набіраем у боты цераз верх. Праз гадзіну шляху выбіраем сушэйшыя купіны. Сядаем на гадзінны адпачынак. Скідваем боты і насоўваем кеды. Будзем у іх ісці прама па вадзе.

За тыдзень мо першы раз па-вясноваму ззяе сонейка. Аднак без справы сядзець у мокрым лесе цяжка. Ідзём далей. Трапляем на старую лясную прасеку, якая значыцца на маршрутнай карце. Значыць, ідзём правільна.

Па прасецы ласі праклалі сцежку. Аднак ісці ёй горш, чым лесам. Звяры капытамі пратаўклі верхні пласт глебы да гразі пад ім. Ногі правальваюцца глыбока.

Зараснікі святлеюць. Падыходзім да даліны, па якой рака Сергуч (Бузянка), выцякаючы з возера Тэкліц, коціць свае воды, змешваючы іх з навакольнымі балотнымі. Пойма скрозь запоўнена вадой. Цобаемся, не разбіраючы дарогі.

Надыходзіць час адпачынку. Знаходзім корч на нізінным беразе, кідаем на яго заплечнікі. Сядаем.

Якраз па Бузянцы бяжыць мяжа Лепельскага і Докшыцкага раёнаў, а таксама Бярэзінскага біясфернага запаведніка. Мы знаходзімся на докшыцкім баку. Запаведніцкія правілы забараняюць вудзіць рыбу. І ўсё ж рашаю іх парушыць. Мяркую, што не шмат прынясём урону багаццям прыродаахоўнай установы. За гадзіну выцягваю шэсць ладных плотак. Ад працяглага стаяння ў вадзе стынуць ногі.

Бузянка мае шырыню метраў з пяць. Плынь павольная. Каля берага бабёр праклаў каналы, напілаваў дрэў, збудаваў вялікую конусападобную хатку. На лепельскім беразе бачым лодку. Валерык аддае мне заплечнік і кідаецца ў раку ў адзенні. Дно тваннае. Плыве. Спіхвае дзіравую лодку ў ваду. Яна пачынае тануць. Валерык ледзьве паспявае перайсці па лодцы назад. Не здзяйсняецца мара прадоўжыць падарожжа на судне.

Надта гладкія водныя паверхні даводзіцца прамацваць дручком, бо асцерагаемся праваліцца ў баброва «акно». На балотнай сцябліне знаходжу старыя соты дзікіх пчол. А ў іх — мёд. Ласуемся, хоць прысмакаў тых на адзін зуб.

Прама ў вадзе спыняемся на абед. Заплечнікі кладзём на кусты, каб не прамоклі. Валерык ідзе з вудай на бераг, а я на кургане распальваю вогнішча, вару юшку. На супрацьлеглым беразе двое рыбакоў цягаюць плотак. А ў Валерыка не клюе.

На лазовых дубцах падсмажылі тых шэсць плотак, якіх злавілі раней. Голад гэтым не наталілі. Дабавілі тушаніны з ялавічыны, сала ды гарбаты. Нарэшце наеліся. Змералі тэмпературу паветра. 22 градусы. Бузянка пашырэла метраў да дзесяці.

На залітым схаванай у траве вадой поплаве ўбачылі два стажарышчы. Тут ужо хадзілі людзі. Праз паўгадзіны выходзім на насыпаную, але ўжо аб'ехаўшую дамбу. Яна абрываецца на беразе Бузянкі. З лепельскага боку пачынаецца такая ж дамба. З вады тырчаць гнілыя палі моста. Здагадваемся, што гэта дарога з докшыцкага Асецішча ў лепельскую Мядзвёдаўку. Ідзём на Асецішча. Праз нейкі кіламетр заўважаем на высокім лузе статак кароў. Пастухі паведамляюць, што да Асецішча менш як паўкіламетра. Плануем зайсці ў краму, каб папоўніць харчовы запас. Аднак магазін больш двух тыдняў не працуе з-за адсутнасці прадаўца. А ў вёсцы, між іншым, каля паўсотні хат, шмат дачнікаў-мінчан.

Зноў вяртаемся на дамбу. З яе і вудзім рыбу. Трапляецца драбяза. Гатуем небагатую юшку, падмацоўваем яе макаронам хуткага прыгатавання ды салам.

Падышоў мясцовы вясковец. Ад яго даведаліся, што тут праходзіла самая кароткая дарога на Лепель. Да Мядзвёдаўкі шэсць кіламетраў. Аднак у вайну партызаны спалілі мост. Распрануўшыся, можна перайсці Бузянку ўброд. Дно не надта багністае.

...Неба накрылі падазроныя хмары. Хуценька ставім палатку. З'яўляюцца першыя ў сезоне камары. Каля вогнішча Валерык чытае кніжку, я пішу гэты дзённік, спявае транзістар. Пытаю ў сына, ці падабаецца яму вандроўка.

— Каб яшчэ тэлевізар быў, — на смех мне і сабе сур'ёзна адказвае ён.

Цемра заганяе нас у палатку.

* * *

Хоць у спальных мяшках ды куртках спалі, аднак уначы было халаднавата. Толькі ранішняе сонца прагрэла палатку. Дзень абяцае быць спякотным.

Трэба перабірацца на лепельскі бок. Распранаемся. Валерык, не жадаючы двойчы заходзіць у ваду, адразу ўзвальвае на галаву заплечнік і ступае ў раку. На сярэдзіне плыні ён натыкаецца на корч і валіцца разам з заплечнікам. Тут жа ўскоквае і зноў упіраецца ў корч. Нарэшце вылазіць на супрацьлеглы бераг. Мне ісці лягчэй — Валерык з лепельскага боку карэкціруе маршрут. Глыбіня па плечы. Дно завалена затанулымі бярвеннямі, пясчанае.

Праз некалькі дзесяткаў метраў пратока рассякае дамбу, злучаючы канавы абапал яе. З вады тырчаць па́лі яшчэ аднаго былога моста. Перабіраемся па заваленай упоперак пратокі бярэзіне.

Збочваем з дамбы, каб ісці ўніз па плыні Бузянкі. Балота, парослае лісцёвымі дрэвамі, рассякаюць звярыныя сцежкі, ідзём імі. Яны не аблытаны галінамі, але растоўчаны капытамі. Бузянка пышыраецца і павольна ўліваецца ў возера Вольшыцу. Яно вялікае, з усіх бакоў ахоплена балотам.

Прасоўвацца ўздоўж возера цяжка. Бабёр нарабіў нораў, набудаваў каналаў, зрабіў мудрагелістыя завалы з вадасховішчамі каля сваіх хат. Ля сялібы азёрнага гаспадара бераг пачаў разам са мной апускацца ў твань. Ледзь выскачыў. Як перайсці? Добра, што далей той жа зубаты звер паклаў бярэзіну ўпоперак канала.

Лес падступае да самай вады. Прасоўвацца, заглыбіўшыся ў яго, яшчэ горш. Старыя вялізныя сосны ды бярозы аджылі сваё, пападалі дагніваць на зямлю. Іх ніхто не прыбірае: у запаведніку ўсё павінна само нараджацца, само паміраць.

Вось табе і на! Не мы першыя ідзём гэтымі, здавалася б, непраходнымі нетрамі. На беразе валяюцца поліэтыленавы пакет, насоўка, капронавыя і шкляныя бутэлькі, з іх адна растоўчаная, зламанае вясло. Хіба вада прынесла сюды гэты бруд?

Пад дрэвамі ляжыць гнілая вялізная рыбіна. Мяркуем, што вялікай вадой яна зайшла ў лес паміж курганоў, а паніжэнне ўзроўню возера адрэзала ёй шлях назад.

На прывал спыніліся на паваленай у возера каравай бярозе. Бы ў крэсле, сядзім на ёй над самай вадой. Каля нас плёскаецца рыба, пад намі снуюць маляўкі. Аднак вудзіць не адважваемся. На докшыцкім баку зводдаль ад заазёрнай



вёскі Асецішча на самым беразе месціцца дыхтоўная драўляная будыніна дачнага тыпу. Магчыма, гэта вартавы пункт ахоўніка возера Урбана, аб якім нам паведамлялі асецішчане. Зірне на нас у бінокль, калі не ў аптычны прыцэл, ды прымчыць на маторцы. Даказвай тады, што мы не браканьеры і маем вусны дазвол дырэктара запаведніка прайсці па лепельскай мяжы.

Зазначу, што мы арганізавалі экспедыцыю толькі з мэтай апісаць мясцовасць абапал мяжы раёна і ні ў якім разе не прыцягнуць увагу турыстаў да нашага маршрута. Запаведныя правілы забараняюць усялякае знаходжанне пабочных людзей на сваёй тэрыторыі. Дзякуй галоўнаму гаспадару запаведнай установы, што не палічыў нас такімі.

Гадамі назапашаная практыка вызначыла расклад руху. Гадзіну ідзём, гадзіну адпачываем. На абедзенны прывал адводзім дзве гадзіны. Усяго рухаемся чатыры гадзіны. Дылетанту-падарожніку, да ліку якіх мы сябе не адносім, можа падацца гэтага мала. Аднак з вопыту ведаем, што хоць і не стаміўся за гадзіну шляху, спыняйся і гадзіну сядзі. Інакш за некалькі дзён вандроўкі выдыхнешся і ўцячэш дахаты.

У кедах ды красоўках месім усё тое ж тваннае балота. Вольшыца вузее і выцягнутай губой выпускае Бузянку на спатканне з наступным запаведным возерам Плаўна. Пратока, якую ўяўляе рака паміж азёрамі, шырокая, падобная на доўгае возера. Прасоўвацца дужа перашкаджаюць заваленыя старыя дрэвы. Бачым лодку, прымкнутую да ўзбярэжнага тоўстага дрэва.

— А мы не можам трапіць пад самастрэл? — трывожна жартую.

— Пад ногі глядзі! — сур'ёзна адказвае Валерык і дадае: — Гэтыя штуковіны ўжо развучыліся рабіць.

Выбіраемся на насыпаную дарогу, якая выбягае з лесу і тупіком упіраецца ў Бузянку-пратоку. Згледзелі прымітыўны стол з лаўкамі, абсталяванае месца для вогнішча. Спыняемся на абедзенны прывал. З палёгкай скідваем мокры і брудны абутак.

Афіцыйна рака называецца Сергуч. «Беларуская савецкая энцыклапедыя» паведамляе, што толькі ў Лепельскім раёне ніжэй возера Манец яе называюць Бузянкай. Гэта пацвярджаюць і дарожныя знакі з абодвух бакоў моста на Мінскай шашы.

З мыска, якім абрываецца насып, рыбалоў кідае спінінг. Ніхто не хапае блясну. Побач стаіць веласіпед. Няёмка пытацца, адкуль прыехаў рыбалоў. Бачна, што не тутэйшы.

На небе час ад часу з'яўляюцца падазроныя хмары, аднак тэмпература а палове трэцяй гадзіны — 24 градусы.

Трэба кранацца. Не хочацца лезці ў балота. Аднак нічога не зробіш — мяжа раёна праходзіць па Бузянцы і азёрах, якія яна рассякае.

Лес адбегся ад берага, саступіўшы месца хісткаму поплаву. Шырыня Бузянкі дасягае сотні метраў. Паступова вады пад нагамі дабаўляецца. Поплаў ахінаюць лазовы хмызняк ды чародкі бяроз. Шлях перасякае паўтараметровай шырыні прыток Бузянкі. Да яго не падысці — дрыгва. Ідзём уверх па плыні. Знаходзім адзінокую алешыну на беразе. Ссякаем яе і валім упоперак рэчышча. Прасоўваюся па ёй да сярэдзіны і кійком мацаю супрацьлеглы бераг. Ён не адчуваецца, як і само дно рэчкі.

Толькі нашмат вышэй змаглі перакінуць цераз недарэчную перашкоду пару сухіх ствалоў ды перабрацца на іншы бок.

Чым далей, тым балота горшае. Вады і вокан дабаўляецца. Аб асаку рэжуцца рукі. Ногі ледзь перастаўляюцца. Завальваем адзінокі сухі ствол бярозы ў дзесяці метрах ад берага Бузянкі і на ім праводзім вечаровы прывал. Скрозь сухі леташні чарот праціскаюся да рэчышча. Рака перапоўнена, і яе воды заліваюць навакольныя балоты-паплавы.

Дзіўная зямля лепельская. Тут можна знайсці і хваёвую змрочную тайгу, і непралазныя хмызовыя джунглі, і зыбкую забалочаную ды голую тундру. Не трэба ехаць па вышэйназваную экзотыку ў трыдзесятае царства. Усё літаральна пад бокам.

Канца-краю няма гэтым гіблым мясцінам. Ужо завалы з тоўстых лазовых галін не прапускаюць наперад. Зварочваем бліжэй да берага, на мяжу паміж хмызам ды зараснікам леташняга чароту. І тут жа адскокваем назад. Надта тонкі слой глебы над безданню ледзь не правальваецца. Вось у чым справа! Бузянка ўжо ўлілася ў Плаўна. А возера так называецца таму, што яго засяляюць плавы — кавалкі зямлі, адарваныя ад берага. Такія плывучыя астравы могуць доўга блукаць па возеры, пакуль іх хвалі ды вецер не прыб'юць да сушы, дзе яны часова прыжывуцца да новага падарожжа па вадаёме.

Думалі, што ніводнага дурня не загоніш у гэтыя нетры. Якое ж было наша здзіўленне, калі ўбачылі веласіпеднае кола з поліэтыленавай плёнкай на беразе Плаўна. Потым яшчэ наткнуліся на дзве прымкнутыя лодкі. Нехта ж прыходзіць па іх.

Бы вызваленне ад сённяшніх пакут, успрынялі далёкую чырвоную вежу на нашым беразе. Там знаходзіцца аб'ект, які раней быў вядомы лепяльчанам пад назвай «Дача Машэрава», а цяпер месціцца гасцінічны комплекс «Плаўна». Перад ім павінны быць Бярэзінскі канал і вёска Валова Гара.

Аднак яшчэ доўга сунемся балотам. Непраходныя гушчары аддаляюць нас ад берага. Знаходзім некалькі штучных завалаў са спарахнелых дрэў. Спыняемся на версіі, што іх сцягнулі яшчэ падчас існавання лесасплаву, ды па нейкіх прычынах не сплавілі.

Зусім нечакана выходзім на поле. Па яравой збажыне ідзём бы па асфальце. Радуемсялясной дарозе. Яна выводзіць нас да новай плаціны цераз Бярэзінскі канал перад вёскай Валова гара.

Коратка падам гісторыю гэтых аб'ектаў. На пачатку XIX стагоддзя завершана будаўніцтва Бярэзінскай воднай сістэмы для сплаву беларускага лесу ў Рыгу. Васьмікіламетровы штучны Бярэзінскі канал злучыў возера Плаўна басейна Чорнага мора з возерам Бярэшча басейна Балтыйскага мора. З цягам часу старыя і новыя водарэгулявальныя шлюзавыя камеры разбурыліся, і воды Плаўна шыбанулі на Балтыку. Каб іх ўратаваць, выток канала перагарадзілі пясчанай загародкай. Плаўна ўратавалі. Канал загубілі. І толькі ў 1997 годзе лепельскія меліяратары разбурылі загародкі і пусцілі ваду з Плаўна цераз пабудаваны імі шлюз, папярэдне з двух бакоў яго прачысціўшы канал на некалькіх сотнях метраў. Вось ён, белы, прыгожы, надзейны. З манатонным няспынным гулам воды Плаўна звальваюцца з двухметровай вышыні ў Бярэзінскі канал. На дамбе канала, у двух дзесятках метраў ад шлюза, пад шатамі старых ялін, сосен ды бяроз мы і спыняемся на начлег.

Увечары пайшоў аглядаць Валову Гару. Канал ніжэй плаціны значна папаўнеў. З'явілася плынь, якой не было раней. Вада, падпёртая плацінай на супрацьлеглым канцы вёскі, застойвалася, бы ў сажалцы, псавалася.

Цяпер другая плаціна скідвае лішак вады з канала, ажыўляючы працяглыя нізоўі. Праўда, стары працаўнік запаўняецца вадой, аднак яго рэчышча-фарватэр так і застаецца не расчышчаным. Самы цэнтр плыні чысты, а па краях з вады тырчаць леташні чарот, іншая трава, кусты, дрэвы.

Вёска Валова Гара калісьці была вялікай. Аднак карэнных валавагорцаў засталося ў ёй сямей з дваццаць. І ўсе жыхары састарэлыя. Ажыўляюць вёску больш маладыя дачнікі, якіх прыкладна столькі ж панаехала пераважна з Мінска ў апусцелыя валавагорскія хаты ці пабудаваныя новыя харомы.

Абурылі адносіны вяскоўцаў да свайго карміцеля, даўшага нараджэнне вёсцы і падаўжаючага жыццё яе цяпер, бо менавіта гістарычная значнасць ды прыгажосць яго разам з глухімі навакольнымі гушчарамі вабяць сюды дачнікаў. Жыхары спілоўваюць на дровы дрэвы, абляпіўшыя берагавыя схілы, а вось галлё пакідаюць на беразе або зусім скідваюць у рэчышча. Ды і абрэзаныя галіны садовых дрэў, іншы хлам зносяць да канала.

Бачыў я высаджаныя на беразе абляпіху, чаромху, садовыя дрэвы, пабудаваныя лесвічкі да вады, з густам абсталяваную крынічку. Уразіла тое, што ў трох

службовых будынках часін існавання сплаву жывуць дачнікі, яны падтрымліваюць гістарычныя пабудовы ў прыстойным стане.

На дамбе сустрэў свайго даўняга рэспандэнта Івана Кульбу з вудамі і з рыбнай дробяззю.

— Ну, ці дало што Валовай Гары будаўніцтва плаціны? — пытаюся ў валавагорца.

— А як жа, — адказвае. — Канал напоўніўся, вада абнавілася, рыба пачала з'яўляцца. Жыць весялей стала.

У вярхоўях канала, ачышчанага меліяратарамі ад смецця, сядзелі рыбаловы, аднак мы вуды размотваць не сталі. Валерык зачытаўся, а ў мяне адняла час экскурсія па Валовай Гары.

* * *

На высокай дамбе ўначы ў палатцы было цёпла. Раніца сустрэла бясхмарным сонечным небам.

Ад плаціны дарога прывяла нас да верталётнай пляцоўкі, потым да аб'екта «Дача Машэрава», пераабсталяванага ў выдатны гасцінічны комплекс. Вельмі ўжо не хацелася зноў паўзці ў балота, і мы рушылі па прыкатанай дарозе, што вядзе ад «Дачы» ў Ніўкі, ранейшую вёску, а цяпер нейкі запаведніцкі аб'ект. Дарога пралегла паралельна рэчышчу Бузянкі, аддаляючыся ад яго найбольш на 1,4 кіламетра. Але праз колькі дзесяткаў хвілін не вытрымліваем такога лёгкага маршруту і зварочваем на перпендыкулярную лясную дарогу. Віхляе яна чыстым борам, паступова занепадаючы. У рэшце рэшт, упёршыся ў балота, заканчваецца тупіком. Перад балотам на дрэвах збудаваны паляўнічы лабаз. Непадалёк пракладзена прасека ўбок дарогі на Ніўкі. Сунемся ёй, абыходзячы і пералазячы завалы з дрэў. Трапляюцца свежыя сляды капытных жывёл, смаржкі.

Упіраемся ў залітую вадой даліну невялікай рэчкі. Высякаем кійкі і перабіраемся цераз яе па раскіданых у розных кірунках зваленых старасцю дрэвах. На ранішні прывал спыняемся ўжо каля бойкай дарогі.

У Ніўках тры драўляныя пабудовы: дзве — жылога характару і адна — адміністрацыйнага ці гаспадарчага, хлеў на некалькі дзесяткаў жывёлін. Наўкола



прыгожы ўтульны бор. Ладкуемся на абедзенны прывал паміж Ніўкамі і Мінскай шашой.

Іду ў Ніўкі па ваду. Насустрач — маладая жанчына з сабакам, які азвярэла накідваецца на мяне. Ледзь адцягвае яго гаспадыня. Тлумачыць, дзе ўзяць вады. На зваротнай дарозе тая самая Найда ашалела імчыць на мяне. Ратуе тое, што здагадваюся прысесці. Гэта азадачвае звера. Падаспеўшая гаспадыня хапае Найду за карак.

— А я думаў, што ў Ніўках ніхто не жыве, — пачынаю размову.

— Як жа, — адказвае жанчына.

— А колькі сямей тут? — не адчапляюся я.

— Хапае, — незадаволена кажа ніўчанка. — Ідзіце. Не буду ж я ўвесь час сагнуўшыся над сабакам стаяць.

Раней адчынены шлагбаум пры ўездзе на Мінскую шашу быў замкнуты. Пэўна, жанчына тут не проста жыве, а нясе нейкую службу.

Што ні абед, то хмары засцілаюць сонца. Добра, што хоць дажджу не прыносяць. Даймаюць не камары, а чырвоныя мурашы. Іх наўкола процьма. Залазяць пад адзенне, кусаюць. Валерыка так уджыголіў адзін у лоб, што аж рог вырас. І хлопец не ўстрымаўся:

— Больш я ў такую вандроўку не пайду.

Да Бузянкі некалькі сотняў метраў. Паралельна кірунку, якога мы сёння трымаліся ў аддаленні ад яе, тры гады таму мне давялося праплысці на байдарцы ў складзе экспедыцыі па вывучэнні стану Бярэзінскай воднай сістэмы. Берагі яе на гэтай дыстанцыі такія ж, як і паміж Асецішчам ды Валовай Гарой. Возера Плаўна ці то сваім рукавом, ці кароткім рэчышчам Бузянкі пераходзіць у меншае возера Манец. Пакінуўшы яго, рака праз пару кіламетраў падныpвае пад Мінскую шашу і бяжыць забалочанай поймай за вёску Домжарыцы, дзе аддае сваю моц Сергуцкаму каналу, а сама, падобная на старарэчча, паўз вёску Кветча цячэ ў Бярэзіну.

Рэчышча Бузянкі паміж Ніўкамі і Манцом месцамі затоўчанае плавамі. Прадзіраешся скрозь іх з боязззю заблудзіцца. Вяслом імкнешся адштурхнуцца ад плывучага вострава, а атрымліваецца, што адпіхнуў яго ад сябе.

Мяжа раёна па Бузянцы дайшла да Мінскай шашы і адразу нацянькі звярнула на паўночны захад у змрочны забалочаны лес. Суцэльная вада сысці з дарогі дазволіла толькі цераз некалькі сотняў метраў ад моста. Лясной дарогай, перагароджанай глухім шлагбаумам (ні сваёй, ні чужой тэхніцы няма чаго таптаць запаведныя нетры), ідзём змрочным змешаным лесам. Дарога адхіляецца да бузянскай поймы, а мы па компасе рухаемся ўяўнай мяжой раёна. Блытаемся сярод зараснікаў. Інтуіцыя на кожным кроку падводзіць, скіроўвае памылковым напрамкам. Компас выпраўляе памылкі.

Вырашаем на вячаровы прывал не спыняцца, а дасягнуць узвышша, змешчанага на карце паўз дарогі з Рожна Лепельскага на Слабаду Докшыцкага раёнаў. Да Рожна бліжэй, і мы ідзём туды ў краму. Гэта першы магазін на нашым шляху, які працуе. Атаварваемся неабходнымі прыпасамі. Не знаходзім толькі алоўка, ручкі ды сшыткаў, якія ў нас спісваюцца. Аднак абвінавачваць у тым гандаль не бяруся: вельмі ўжо спадабалася маладая, ветлівая прадаўшчыца. Кідаем пад яе варту заплечнікі, а самі з ражнянскім пенсіянерам Фёдарам Герасімёнкам крочым па пітную ваду. Да першых трох водаразборных калонак яна не даходзіць. Запраўляем ёмістасці на цэнтральнай нізіннай вуліцы. Па дарозе да яе Фёдар Георгіевіч распавядае пра жыццё вёскі. Яна налічвае каля паўсотні хат. Жывуць тут мо 70 жыхароў, пераважна пенсіянеры.

Перад вайной перайменавалі Рожна ў Сасноўку. Потым вярнулі назву назад. Ліквідавалі Бягомльскі раён. Сфарміравалі калгас «Бальшавік». А ў 1963 годзе ўсё перайначылі, і калгасныя землі адвялі пад запаведнік. Насельніцтва ад гэтага не пацярпела. На апрацоўку ўласных агародаў выдзяляюць чатыры кані Ражнянскага лясніцтва. Столькі ж рабочых жывёлін маюць прыватнікі. Хапае.

Запаведнік адмовіўся ад калгаснага саду. Яго прыстасавалі пад уласныя агароды і сады вяскоўцы. Абгарадзілі. Даглядаюць і апрацоўваюць.

На вясковай пясчанай вуліцы наш гід па Рожну пальцам малюе кірунак лясных дарог ды сцежак ад пагранічнай ракі Бярэзіна да глухой вёскі Саўскі Бор.

На пачатку адной з тых дарог, у некалькі сотнях метраў ад Мінскай шашы, спыняемся на начлег. Ціхі ялова-сасновы гушчар ледзь прапускае гул аўтамабіляў, што праносяцца па аўтатрасе. Ад камароў ратуе спецыяльны сродак «Навінка», прыдбаны гадоў з восем назад. Трэба ж! За такі час не страціў сваіх якасцей.

* * *

Спалася не вельмі добра. Уначы зрабілася душна. Давялося вылазіць са спальніка і скідваць куртку. Пад раніцу пахаладанне зноў пагнала ў спальнік. Увесь час на шашы гулі аўтамабілі, а над палаткай — камары. Па традыцыі раніца прывітала нас чыстым небам і лагодным сонцам.

Мяжа раёна праходзіць у кіламетры адсюль па рацэ Бярэзіна. Яе пойма амаль не адрозніваецца ад бузянскай. Такая ж невыразная і забалочаная даліна. Таму далей ідзём закінутай лясной дарогай. Дзесьці павінна быць разгалінаванне на Домжарыцы і Саўскі Бор. Не хочам трапляць у Домжарыцы. Увесь час трымаем правей. Здараецца, што памыляемся. Адной прылеглай дарогай ішлі мо з кіламетр, пакуль не зразумелі, што пралічыліся. Вярнуліся назад.

Ад шашы адышлі на добрых чатыры кіламетры. Зноў зварочваем на правейшую дарогу. Яна паступова глушэе. Праз паўтары гадзіны прасоўвання спыняемся на ранішні прывал. Лясная выспа паступова спаўзае ў змрочнае балота.

Мясціны тут ціхія. Усе нашы дарогі сцелюцца па ўзгорыстых маляўнічых верацеях, занятых светлымі грыбнымі барамі. Іх абступаюць таксама светлыя мохавыя балоты, парослыя чэзлымі старымі хваінамі. Эх, і грыбоў тут з чарніцамі ды журавінамі ў сезон! І наўрад ці трапляюць гарадскія грыбнікі ды ягаднікі ў гэтую глухмень. А што яе мала трывожаць людзі, сведчаць бы культыватарам ускалупаныя дзікамі дарогі.

І ў нас, бліжэй да Лепеля, маглі б быць такімі нерушнымі бары ды балацявіны, каб не сквапныя рукі лесанарыхтоўшчыкаў, якія нарабілі столькі дзялянак, што з любой з іх свеціцца наступная. А ў запаведніку мы чацвёрты дзень не бачым ніводнага лесапавалу, за выключэннем месца верталётнай пляцоўкі.

Дарога на балоце ледзь бачна. Яе прыціснулі ўпаўшыя векавыя яліны. Цераз адны перакульваемся, іншыя абыходзім. І выходзім да голага, зарослага толькі асакой ды сухім чаротам балота. Вады столькі, што штаны схаваюцца. Па далёкіх зубцах высачэзных хваін вызначаем, што выйшлі да Бярэзінскай поймы. Недалёт, выходзіць, да Саўскага Бора. Вяртаемся.

Збочваем на квартальную лінію, якая трымаецца кірунку месца размяшчэння лясной вёскі. Яе перасякае бойкая сцежка зноў жа ў патрэбным кірунку. Ідзём па ёй і прыходзім у даўжэзнае гразкаватае балота. Разварочваемся. Панурыя цягнемся па лініі. І яна прыводзіць нас да забалочанага поплаву. Чарговы разварот. Трапляем на нейкую дарогу.

— Збіліся з кірунку — Домжарыцы! — узрушана ўскліквае Валерык.

— Ды там няма нічога, — няпэўна кажу я.

— А мне здаліся дахі хат, — уздыхае мой спадарожнік. — Глюкі, значыцца.

У перакладзе з ягонай на нармальную мову гэта азначае галюцынацыі, міраж. З'яўляюцца штабелі арганізавана нарыхтаваных дроў з сухастоін і хворых дрэў. Значыць, нейкім чынам забіраліся сюды людзі. Удалечыні папярэчнай прасекі заўважаю рудую раллю. Пазней выяўляецца, што за яе я прыняў густую сцяну craлоў чэзлых сосен на мохавым балоце. І ў мяне пачынаюцца «глюкі»?

Дарога палезла пад безбярэжныя калюгі даўжынёй дзесяткі і сотні метраў. На беразе адной з іх заўважаем мужчыну і жанчыну перадпенсійнага ўзросту ля веласіпеда і кучы надранага моху.

— Куды гэта мы ідзём? — пытаемся.

— У Домжарыцы.

— Вось табе на! А хацелі трапіць у Саўскі Бор.

— Вас туды не пусціла балота. У вёску вядзе адзіная дарога цераз Крайцы і Пераходцы.

— А ці можна, мінуўшы Домжарыцы, карацей выйсці на Крайцы?

— Перад полем звярніце на правейшую дарогу. Выйдзеце на крайцаўскі асфальт каля Кветча.

Дзякуем лясным суразмоўцам за тлумачэнні і ідзём прапанаваным імі кірункам. Лес, нарэшце, заканчваецца. Даўно час абедаць, а вады няма. Перасякаем асфальт, яравое поле, вузкае, але гразкае балота і з палёгкай ступаем на цвёрдую дамбу паўнаводнага Сергуцкага канала. Крыху раней Бузянка аддала яму сваю ваду, а сама старарэччам пралегла дзесьці за супрацьлеглай дамбай.

Канал шырокі, глыбокі. Дамбы чыстыя, сухія. Месца быццам спецыяльна прызначана для адпачынку.

Вада звальваецца з паўтараметровай вышыні плаціны ў працяг канала. Далей ён хоць і нашмат ніжэйшы ўзроўнем воднай паверхні, аднак дастаткова паўнаводны пасля дажджлівай непагадзі сярэдзіны мая. Па плаціне пераходзім на другі бок, ідзём у вёску Кветча. Перад ёй запаволеная Бузянка-Сергуч разлілася аж да самых вясковых гаспадарчых пабудоў.

Ідзём у вясковую краму. Наганяем сталых мужчыну з жанчынай. Мужык ці дзед, не ведаю, як яго дакладней назваць, распавядае гісторыю вёскі, аднак назвацца адмаўляецца.

Цяпер у Кветчы каля 30 хат. Вёсцы гадоў пад 200. Ёсць легенда аб паходжанні яе назвы. У невялікае паселішча прыехаў купец. Загуляў. Стомлены заснуў. Прачнуўшыся, выявіў, што ў яго не выкрадзены вялікі грашовы запас, што заўсёды здаралася ў падобных выпадках у іншых месцах. Купец задаволена акінуў позіркам наваколле, парослае палявымі кветкамі, і, паколькі сам быў картавы, усклікнуў:

— Ну і кветчы ў вас тут!

Удзячныя купцу за пачастунак мясцовыя насельнікі так і празвалі мізэрнае паселішча Кветчам.

Насупраць вясковай крамы гісторыю вёскі дапоўнілі пенсіянеры Аляксандр Буяльскі, Канстанцін і Анастасія Шаманы.

Тройчы рэфармоўваліся мясцовыя калгасы за перыяд калектывізацыі. І тройчы мяняліся іх назвы: «Новае жыццё», імя Максіма Горкага, імя Энгельса. Нарэшце «ўладу захапіў» запаведнік. Ці лепш стала жыць мясцоваму люду? Адказ кароткі. Аляксандр Буяльскі, які разам з іншымі вяскоўцамі бясплатна ледзь не кругласутачна гнуў спіну ў калгасах, быў прыняты рабочым у будаўнічую брыгаду з акладам у 100 рублёў. Тое ж атрымалася і з іншымі калгаснікамі. Цяпер запаведніцкія пенсіянеры незадаволены стаўленнем да іх мясцовай адміністрацыі. Я ж, як чалавек далёкі ад пенсійнага ўзросту, устрымаўся каменціраваць іх выказванні.

На выхадзе з Кветча тым жа шляхам вяскоўцы наперабой пачалі частаваць нас пітной вадой з уласных студняў. Гасцінныя людзі квятчане.

Левай дамбай канала, па якой пракладзена бойкая дарога, я ўжо неаднойчы хадзіў. Цяпер ідзём правым берагам. Дамба то зарастае пустазеллем, то зноў ператвараецца ва ўтульныя лужкі. Ладкуем вечаровы прывал насупраць шырокай трубы з супрацьлеглага боку, якая бурна вылівае ў канал балотную ваду. Хочам пакупацца, аднак баімся ўзбярэжнай глыбіні, праверанай падручным калом. Абгароджаныя частаколам агароды падказалі, што падыходзім да вёскі Крайцы. Гародзяцца тут не ад людзей, а ад хатняй жывёлы ды звяроў.

У Крайцах вартаўнік запаведніцкага машыннага двара Пётр Данілаў ладкуе ўласную агароджу. Ад Крайцаў да мяжы раёна праз нейкіх тры кіламетры, за Бярэзінай, пачынаецца Барысаўскі раён Мінскай вобласці.Раней ніякіх зносін з тым бокам не было, але апошнім часам пабудавалі мост.

Адкуль назва Крайцы? Слова само за сябе кажа. Край зямлі. Але не толькі лепельскай. Край цывілізацыі. Бо Бярэзіна перакрывала ўсялякія зносіны з поўд-

нем. Няма гэтага цяпер. Вядома, далёка і да Лепеля, і да Барысава, аднак зносіны паміж раёнамі наладжаны.

У цэнтры Крайцаў нас абступілі нашчадкі паноў, пра якіх сто гадоў таму паведамляў гісторык Гарбачэўскі. Сапраўды сумленныя, гасцінныя людзі.

Малады ляснік Ігар Сыч сам напоўніў нашыя ёмістасці пітной вадой. Даведаўшыся, што наш далейшы шлях ляжыць скрозь яго абход, папярэдзіў, што там ёсць мядзведзі, і прапанаваў на ноч застацца ў Крайцах. Былы ляснік, а цяпер пенсіянер Генадзь Цяліца дагнаў нас на веласіпедзе ўжо за вёскай, каб яшчэ раз апісаць запаведніцкія блытаныя і глухія дарогі, якія так і хочуць збіць чалавека з правільнага кірунку.

Некалькі характэрных штрыхоў трэба дадаць да апісання вёскі. Раней Крайцы лічыліся цэнтрам запаведніка. Да пераезду ў Домжарыцы тут былі кантора, музей, клеткі і вальеры з дзікімі жывёламі, навуковы цэнтр, сталоўка, іншыя спадарожныя аб'екты, нават бальніца са сваёй амбулаторыяй. Вёска з'яўлялася своеасаблівым турыстычным цэнтрам. Цяпер жа ад былой велічы засталіся толькі запаведніцкія збудаванні, раздзеленыя людзьмі пад жыллё, ды лазня, якая пакуль на рамонце. Карэнных крайчанаў засталося пяць сямей. Астатнія жыхары пераехалі сюды з больш захалусных навакольных вёсак. Але вінаваціць кагосьці ў заняпадзе населенага пункта не даводзіцца. Час расстаўляе ўсё на месцы. Вяскоўцы з гэтым змірыліся, хіба адно не могуць даравацъ сучаснікам: ліквідацыю не так даўно тутэйшай лекавай установы. Складана жыць без яе.

Дзіўна, што і ў Верабках, і ў Валовай Гары, і ў Кветчы, і ў Крайцах мясцовае насельніцтва аб'екты Бярэзінскай воднай сістэмы называе Кацярынінскімі. Тлумачу ім, што праектаванне і будаўніцтва сістэмы пачалося пасля смерці царыцы Кацярыны па загадзе цара Паўла ў 1797 годзе. Паціскаюць плячамі і не вераць, бо першы раз чуюць пра такога самадзержца.

Ідзём накатанай дарогай, якая злучае Крайцы і Цярэшкі. Даўжыня яе каля двух дзесяткаў кіламетраў. Прызначаны шлях для службовых зносін, бо з абодвух бакоў перагароджаны шлагбаумамі. Нас суправаджаюць змрочныя гушчары і светлыя бары, густыя яловыя балоты і журавінавыя імшарнікі. Неяк трапечацца сэрца, калі позірк ловіць самотную лясную магілку. Чытаем на помніку за агароджай: «Партызану Красніку Мікалаю Савельевічу, 1906 года нараджэння, загінуў — чэрвень 43. Памяць жонкі і сына». Дзіўна, што не чулі пра гэтае захаванне раней.

Наперадзе рэзка пасвятлела, і позірк узрадавала вялізная шматгектарная паляна, абнесеная бярозавымі гаямі. Размешчаныя паўз дарогі студня, бэзавыя кусты, садовыя дрэвы сведчаць, што тут стаялі хаты. Здагадваемся, што гэта месца даўно не існуючай вёскі Пастрэжжа. Выдатны пляц сабе выбралі пастражане. Аднак не вытрымалі адарванасці ад цывілізацыі (да бліжэйшых Крайцаў сем кіламетраў), раз'ехаліся. Уражвае, што вада ў студні за шмат гадоў не сапсавалася. Нейкі клапатлівы прахожы падвесіў на капронавы шнур пластмасавае вядзерца.

Ставім палатку ля студні. Гатуем ежу.

* * *

Перахваліў учора пагодлівыя раніцы. Сёння ўжо сонца не вылазіць з-за хмарнай тоўшчы. Пахаладнела. За снеданнем агледзеліся, што знік ладны кавалак сала. Бачна, забыліся яго на ўчарашнім абедзенным прывале. Што ж, будзем абыходзіцца без дадатковай харчовай падтрымкі.

На сярэдзіне даўнішняга папару заўважаем збудаванне на слупах — штосьці накшталт капітальнага назіральнага пункта. Ужо ў лесе, на некаторым аддаленні ад Пастрэжжа, трымціць лістотай абнесены агароджай ліпава-асінавы гаёк.

У ім — помнік у выглядзе барадатага партызана з аўтаматам на грудзях. На ім надпіс: «Слава вам, храбрым беларускім партызанам! Ваша бессмяротнасць над вамі ўстане, доблесна паўшыя, спіце спакойна — вас ніколі не забудзе народ! (Загінулі смерцю храбрых 19 чэрвеня 1943 г.)». Пад помнікам — тры захаванні. У першым ляжыць камандзір партызанскага атрада «За Радзіму» Міхаіл Сцяпанавіч Гнятко, у другім — лейтэнант А. Г. Дабрынін, сяржант Н. Г. Самойленка і 15 партызанаў. Трэцяя магіла схавала 17 партызанаў. Прозвішчы іх пералічаны на надмагільных плітах. З краю, прама на зямлі, месціцца помнічак з нержавейкі. На ім прымацавана шыльдачка з надпісам: «Даўнаровіч Алег Канстанцінавіч. 1924—06. 1943». Побач з агароджай звалены свежыя штыкеты і жэрдкі. Будуць, значыць, будаваць новую. Усе пахаваныя загінулі ў адзін дзень. Шкада, што не ведаем, як гэта здарылася.

Цераз балотную рэчку Смалянка перакінуты мост. Адразу за ім яна разгаліноўваецца на Ліпу і Пясчанку, якія імчаць да Бярэзіны. За мостам знаходзім дзве горкі свежых мядзведжых экскрэментаў. Становіцца страшнавата. Валерык кажа:

— Глядзі наперад, каб своечасова дзёру даць.

А куды ўцячэш, калі наўкола насыпанай дарогі непраходныя балоты? Бяру ў руку сякерку. Валерык жартуе:

— Калі раптам з'явіцца мядзведзь, ты пра яе і не ўзгадаеш.

Яно так. Дагэтуль нам шанцавала на сустрэчы з жывёльным светам. Бачылі толькі дзікіх качак, дзятлаў, іншых птушак, дзвюх вавёрак, яшчарак, забітую гадзюку, мядзянку — бязногую яшчарку, якая палохае сваім падабенствам на вужаку. Будзем спадзявацца, што больш буйныя звяры нам не трапяцца.

Прырода тут бяднейшая на маляўнічыя краявіды, чым учарашняя, пры нашым прасоўванні ад Мінскай шашы да Сергуцкага канала. Сёння мы ідзём больш змрочнымі лясамі, больш затопленымі балотамі ды раўнінным мясцовасцю.

Прыходзім да абгароджанага штыкетам таўшчэзнага і высачэзнага дуба. Няйнакш, як ён залічаны ў помнікі прыроды. Дарога робіць разгалінаванне на вёску Цярэшкі Лепельскага і былы хутар Гурба Барысаўскага раёнаў. Выбіраем больш бойкі шлях на Гурбу.

На ранішні прывал сядаем прама на дарозе. Абапал яе сцелецца травяніста-мохавы чарнічны бор.



Пасля кароткага прыпынку праходзім міма тоўстай высокай яліны, абгароджанай жэрдкамі. Не думаў, што і елкі бываюць помнікамі прыроды.

Падыходзім да Вялікай ракі. Ведаючы з Энцыклапедыі, што яе даўжыня 18 кіламетраў, назву гэту лічыў жартоўнай. І памыляўся. Шырыня метраў з дзесяць, разлілася па нізкай даліне, глыбіня з берага каля метра, надзіва цвёрдае дно, плынь лёгка ловіцца вокам, рудая балотная вада надае ўяўленне бяздоннасці, мост капітальны, драўляны, з вады тырчаць палі яго папярэдніка. Сапраўды вялікая рака для гэтай мясцовасці.

Набіраем рудой вады для будучага абеду. Нядрэнна было б пакупацца, аднак на вуліцы не горача, ды і камары з'ядуць голых.

Сімвалічны факт: мы ў Мінскай вобласці. Мяжа раёна і вобласці пакідае Бярэзіну і па Вялікай рацэ цягнецца да яе вярхоўяў. Не ведаем, радавацца нам ці смуткаваць. Справа ў тым, што наша двухкіламетровая карта за межамі Віцебскай вобласці ўяўляе белую пляму. Ідзём усляпую, па компасе.

Ад дарогі шуганула ў гушчар ліса. Сумна жартуем, што звяры, якія нам трапляюцца, буйнеюць.

Праходзім дзіўнае бярозавае балота. Дол — мох з вадой, а замест сосен — бярозы. На гразцы выразна адбіваецца свежы воўчы след. Па-ранейшаму трапляюцца мядзведжыя экскрэменты, толькі ўжо нясвежыя. Як быццам мядзведзі ходзяць толькі па дарозе.

Прыходзім на вялікую паляну. Яблыні сведчаць, што тут стаялі хаты. Здагадваемся, што гэта Гурба. Паляну ўсцілаюць метровай вышыні расліны з гіганцкім лісцем. Між імі тырчаць леташнія ствалы-дудкі метры пад чатыры ўвысь, завяршаючыся сухім суквеццем накшталт парасона. Вось і зрабіў для сябе чарговае адкрыццё. Раней нават не чуў пра такую гіганцкую траву. (Ужо ў Лепелі даведаўся, што гэта была мядзведжая дудка, завезеная запаведнікам з Далёкага Усходу для развядзення на корм звярам, аднак тыя не сталі есці гіганцкага чужынца. Падарожнік па Сіхотэ-Аліню Уладзімір Арсенneў класіфікуе яго як дуднік даурскі).

Напрыканцы паляны дарога зарастае маліннікам і ўпіраецца ў рэчку. З вады тырчаць палі ранейшага моста. Толькі меркаваць можна і без карты, што гэта рака Юраўка, якая выцякае з возера Бяздэнка паміж Цярэшкамі і Аношкамі Лепельскага раёна і ўпадае ў Вялікую раку ўжо ў Барысаўскім раёне. А мо ўвогуле гэта рака Гурба? Краем вуха быццам бы чуў штосьці такое. (Дзённік пісаў па меры прасоўвання. Таму толькі ў Лепелі даведаўся, што перад намі была чатырнаццацікіламетровай даўжыні рака Гурба, прыток Вялікай ракі).

Заўважаем збоку кладкі. Падходзім да іх запоўненай вадой поймай. Які дзівак прыцягнуў сюды добрыя дошкі для пераправы? Тыкаем у дно кійкамі, высечанымі з трубак гігантаў. Ну і дзіва! На глыбіні каля метра кійкі грукаюць аб цвёрдае пясчанае дно. А наўкола ж балота!

За былым мостам ніхто не ездзіў на транспарце мо некалькі дзесяткаў гадоў. Гразка. Грэбля цераз яе разбурана. Упоперак дарогі ляжаць ледзь не суцэльнай сцяной паваленыя ветрам бярозы ды яліны. Ідзём панурыя. Канца краю не бачна гэтай глухмені. Дарэчы, ужо другі дзень рухаемся па новым раскладзе. Паміж адпачынкамі цяпер знаходзімся на нагах паўтары гадзіны: заплечнікі палягчэлі ды і болей прайсці хочацца.

Ледзь выйшлі на крыху сушэйшае месца, спыніліся на абедзенны прывал. Мясцовасць няўтульная. Наўкола змрочны яловы лес, зямля вільготная, сядзець можна толькі на палках. Тэмпература паветра а 15-й гадзіне — 16 градусаў цяпла (учора было 22).

Дарога байчэе, лес лагаднее. Нарэшце трапляем на шыльду з указаннем пачатку запаведніка. Радуемся і жартуем, што зараз пачнуцца дзялянкі. Гразкая дарога сушэе і выходзіць на больш бойкую. Тая адным напрамкам кіруецца на Барысаў, другім — на Лепель. Ці трэба тлумачыць, куды мы пайшлі?

Доўга круцімся разам з дарогай па лесе, перасякаем лясныя рэчкі-ручаі па драўляных мастках. Зганяем з дрэва вялікага цецерука. У рэшце рэшт прыходзім на старую дзялянку. Перш, чым на яе наткнуліся, добрую гадзіну ішлі некранутым лесам. Няўжо толькі ў Лепельскім раёне так нішчаць лес, што і дзесяць хвілін не пройдзеш па ім, каб не ўперціся ў дзялянку?

На супрацьлеглым краі дзялянкі спыніліся на вячаровы прывал. Неба сінее навальнічнымі хмарамі, аднак дождж пакуль шкадуе нас.

— Цяжка ісці пасля адпачынку, пакуль ногі раскачагарацца, — уздыхае Валерык.

Сапраўды, падаўжэнне пераходаў паміж прываламі ў паўтара раза выклікае стомленасць. Мінаем дзялянку за дзялянкай. Дарога ўсё горшае і, нарэшце, зусім знікае — праклалі яе толькі для вывазу лесу з дзялянак. Ідзём па компасе. Забрыдаем у хмызнячнае балота, горшае за пройдзеныя ў першыя дні экспедыцыі. Прасоўвацца перашкаджаюць густыя кусты, хісткія курганы, глеістае дно. Палохаемся вужа, прыняўшы яго за гадзюку. Настрой прыгнечаны. Цешыць толькі думка, што павінен жа быць канец гэтаму гібламу месцу.

Нарэшце трапляем на ледзь прыкметную і гразкую старую дарогу. І зноў пачынаюць чаргавацца вялізныя колішнія лесапавалы з мізэрнымі лапікамі лясоў між імі. З кожнай непраходнай дзялянкай дарога байчэе, але разам з тым расце і непакой. Набліжаецца час начлегу, а пітной вады няма.

Па-дзіцячаму радуемся свежаму следу трактара. Яшчэ больш узнімаюць настрой штабялі нарыхтаваных леснікамі дроў. Хутчэй бы які-небудзь населены пункт! Хоць барысаўскі, хоць чашніцкі, хоць лепельскі. Не памыляюся. Магчыма і апошняе. Мы блукаем па Барысаўскім раёне ў не такой ужо вялікай аддаленасці ад месца сутыкнення межаў названых трох адміністрацыйных адзінак.

Сляды пратэктараў трактарных колаў выводзяць нас на яшчэ лепшую дарогу, якая пралегла з поўдня на поўнач. Нам жа патрэбен паўночны ўсход, каб выйсці на жвіроўку Чарнаручча—Красналукі на адрэзку Аношкі—Замошша—Адамаўка—Чорная Лаза—Латыгалічы.

Вось і адгалінаванне менш наезджанай дарогі. Затое яно мае патрэбны нам кірунак. Падбадзёрвае свежы след матацыкла, які, бы плугам, араў гразкую каляіну. Промнем святла ў цёмным царстве ўспрымаем невялікае поле, засеянае збажынай. Наперадзе — гара. Інтуіцыя падказвае, што за ёй убачым вёску. З хваляваннем узнімаемся на грэбень і з палёгкай уздыхаем. За стужкай жвіроўкі ў зяляніне садоў хаваюцца дахі хат. Падыходзім бліжэй. На дарожным указальніку чытаем: «Адамаўка». Не прамахнуліся! Самі сябе хвалім за валацужную інтуіцыю і ўменне арыентавацца без карты. Дарэчы, ужо цяпер пачынае дзейнічаць наша абласная карта. Па ўскрайку першага поля праходзіць мяжа паміж абласцямі і раёнамі — Барысаўскім ды Чашніцкім.

Нам бы бліжэй да мяжы нашага раёна. Знясіленыя, тры кіламетры цягнемся да памежнай чашніцкай вёскі Замошша. Засякаем час, за які пераадолеем адлегласць паміж двума кіламетровымі слупамі. Супастаўляем хуткасць прасоўвання з часам знаходжання на нагах. Атрымліваецца, што сёння адмахалі 36 кіламетраў. Не так ужо і страшна, калі б па асфальце. Але ж мы часцей адчувалі пад нагамі зыбкае балота.

Валерык перад Замошшам душыць на куртцы кляшча. Яшчэ аднаго ён выявіць на падэшве кеда падчас вячэры. Трэцяга выцягне са скуры на баку ўжо ў гарадской кватэры. Расхвалюецца, каб не захварэць на энцэфаліт. Мяне ж гэтая пачвара чамусьці не ўпадабала.

У Замошшы набіраем вады з першай студні. Такія стомленыя, што не хочацца ні з кім размаўляць. Ведаючы, што да лепельскай вёскі Аношкі крыху больш за кіламетр, цягнемся да знака «Лепельскі раён», зварочваем у бор і, канчаткова зняможаныя, валімся на ўсцелены хваёвымі іголкамі мох.

* * *

Уначы па палатцы шротам малаціў першы за нашае бадзянне дождж. Раніца выдалася пахмурная. Паспешліва згортваем шматлікі валацужны рыштунак ды крочым на замошскі прыпынак, да якога хутка павінен падрулiць лепельскі аўтобус. У яго чаканні заводжу гутарку з будучай пасажыркай, мясцовай пенсіянеркай, якая не пажадала называцца. Чую тое, аб чым ведаў і раней.

Які дурань перасунуў мяжу раёнаў на цяперашняе месца, аддаўшы Замошша, Адамаўку і Чорную Лазу Чашніцкаму раёну? Да Лепеля ж 25 кіламетраў, а да Чашнік каля 70. Тры гадзіны трасешся аўтобусам, бо іншага шляху, чым цераз Латыгалічы ды Красналукі, няма. Ды і аўтобус той ходзіць толькі ў сераду і суботу, як і хлеб падвозіць хлебавозка. А Лепельскі аўтапарк штодня два рэйсы забяспечвае ў Замошша. Пакуль «хуткую дапамогу» дачакаешся, ды пакуль яна адвязе хворага ў Чашнікі ці Новалукомль, дык той і сканаць можа. А чашніцкая міліцыя наведваецца толькі, каб скласці пратакол, як хто самагонку выганіць.

А квітнела ж раней Замошша. Цэнтрам сельсавета было. Сваю дзесяцігодку мела. І раптам — бац! Адыходзьце, замашане, пад Чашніцкі раён. Дзесяцігодка ператвараецца ў васьмігодку, потым у пачатковую школу і, нарэшце, ад школьных памяшканняў, як і ад будынка сельсавета, застаюцца адны падмуркі. Гуляе вецер праз пустыя аканіцы колішняга ФАПа. Тры дзесяткі замошскіх кароў даводзіцца ганяць пасвіцца за пяць кіламетраў аж на заэсенскія паплавы.

Саўгас «Латыгалічы» ўвесь раскралі. Дырэктар ваюе са злодзеямі, аднак яны непераможныя. Вось, ля прыпынку рвалі кішкі, будуючы вялізнае гумно. А цяпер яго расцягваюць пакрысе.

Можа б, такое здарылася і пры кіраўніцтве з Лепеля, бо час бярэ сваё. Аднак замашане ва ўсіх сваіх бедах абвінавачваюць ненавісныя ім Чашнікі. Пісьмо калектыўнае напісалі лепельскаму начальству яшчэ вясной. Аднак адказу пакуль не чутна. Мабыць, дарэмна ўсё гэта. Калі Лепель і захоча ўзяць сабе Замошша, дык Чашнікі не аддадуць. Трэба будзе ў Віцебску шукаць справядлівасць.

Падышоў аўтобус, жанчына махнула рукой у роспачы ды палезла ў дзверы: у Віцебскую бальніцу едзе да дужа хворага мужа. Зноў жа цераз Лепель.

На гэтым знаёмства з «палешчыкамі па Гарбачэўскаму», адкрытай «лепельскімі арганаўтамі» «радзімай палескіх чараўнікоў, русалак ды іншай чартоўшчыны», закончылася. Аднак прыватная экспедыцыя па перыметры раёна не завяршылася. Яшчэ мо тры разы па столькі бяжыць нязведаная намі мяжа Лепельскага раёна са своеасаблівымі прылеглымі да яе вёскамі з іх цікавымі насельнікамі ды гісторыямі, з навакольнай адметнай прыродай і яе дзіўнымі загадкамі.



Алесь КАРЛЮКЕВІЧ

# ВАНДРОЎКА ПА ЛІТАРАТУРНАЙ ВАЛОЖЫНШЧЫНЕ

Серыяй «Беларусь літаратурная» выдавецтва «Мастацкая літаратура» акрэсліла ў апошнія гады цікавы і досыць плённы накірунак у сваёй дзейнасці. Нельга сказаць, што падобных, у нечым блізкіх вопытаў у айчынным кнігавыданні не было раней. Яшчэ ў 1926 годзе ў Полацку выходзіў альманах «Наддзвінне», які аб'яднаў творы «маладнякоўцаў», што працавалі ў горадзе на Дзвіне. У 1949 годзе пабачыў свет «Літаратурны Магілёў». Ужо ў 1990-я ініцыятыўная грамадскасць Брэсцкай вобласці пры істотнай падтрымцы аблвыканкама падрыхтавала два выпускі гісторыка-краязнаўчага і літаратурнага зборніка: у 1993 годзе выйшлі «Берасцейскія карані», а праз пяць гадоў — «Берасцейскія карані-98». Разнапланавыя па сутнасці пастаўленых укладальнікамі задач, зборнікі гэтыя дапамагаюць і зараз болей шырока, чым кнігі некалькіх нават аўтараў з рэгіёна, уявіць карціну літаратурнага жыцця на пэўным гістарычным адрэзку.

Серыя «Беларусь літаратурная» — фактычна новая прыступка на шляху стварэння мастацкага партрэта рэгіёна. І хаця ўжо выдадзена некалькі своеасаблівых, скажам так, «рэгіянальных анталогій», «валожынскі» том найболей яскрава адказвае на запыты чытачоў, якія хацелі б мець літаратурнае, мастацкае ўяўленне пра тую ці іншую старонку.

> Люблю наш край — старонку гэту,
> Дзе я радзілася, расла,
> Дзе першы раз пазнала шчасце,
> Слязу нядолі праліла.
> Люблю народ наш беларускі,
> Хаціны ў зелені садоў,
> Залочаныя збожжам нівы,
> Шум нашых гаяў і лясоў.

Вершам Канстанцыі Буйло «Люблю», напісаным у Вішнева 25 верасня 1910 года, пачынаецца анталогія «Люблю наш край...» з падзагалоўкам «Валожыншчына літаратурная». Вішнева — паселішча, вядомае яшчэ з XIV стагоддзя, у другой палове XVI стагоддзя — мястэчка, цэнтр гміны ў Ашмянскім павеце Віленскага ваяводства. Вельмі мала вядома пра стасункі К. Буйло з паселішчам. Толькі ў «Энцыклапедыі літаратуры і мастацтва Беларусі» чытаем: «...У В.(ішнева) ...жыла (у пач. 20-га ст.) паэтэса К. Буйло...» Шкада, што і ўкладальнік не расшыфроўвае акалічнасці жыцця паэтэсы ў Вішнева. Верш «Люблю» ведае, пэўна, кожны, хто ўвогуле нераўнадушны да беларускага слова. Простыя, выразна эмацыянальныя, шчыра-патрыятычныя ціхмяна-грамадзянскія словы — у глыбінях памяці тысячы беларусаў. Такім бы вершам ды помнік ставіць!.. Чытаючы неўміручыя радкі К. Буйло, узнаўляеш у памяці словы Д. Ліхачова:

«...зразумець літаратуру, не ведаючы мясцін, дзе яна нарадзілася, не меней цяжка, чым зразумець чужую думку, не ведаючы мовы, на якой яна выказана. Ні паэзія, ні літаратура не існуюць самі па сабе: яны вырастаюць на роднай глебе і могуць быць зразумелыя толькі ў сувязі з усёй роднай краінай».

За вершам К. Буйло — «Гімн Валожынскай зямлі». Словы напісаў С. Маляўскі. Аўтар музыкі — Э. Зарыцкі. Публікацыя пададзена з нотамі. І пасля ўжо, калі чытач атрымаў настраёвы зарад, пачуццёва ўзбагаціўся, кніга адкрываецца прадмоўкай старшыні Валожынскага райвыканкама Івана Маркевіча, у якой ёсць і такія словы: «Развіваючы эканоміку, адраджаючы сяло, мы паранейшаму клапоцімся пра чалавека з яго марамі і захапленнямі . Праводзіцца вялікая работа па захаванні нашых нацыянальных традыцый культурнай спадчыны. На ніве адраджэння грунтуецца духоўнае выхаванне моладзі, ствараюцца спрыяльныя ўмовы для працы адораных людзей для таго, каб вынік іх працы быў заўважаны і ацэнены. Выхад гэтага зборніка літаратараў Валожыншчыны — пацвярджэнне таму.

Мы падтрымліваем, будзем падтрымліваць сваіх таленавітых землякоў, чыя творчасць, чый талент служаць выхаванню пачуцця любові да Айчыны, адданасці роднаму краю».

Першы раздзел «валожынскай анталогіі» — «Крыніцы жыватворныя». Укладальнік Вячаслаў Рагойша на першы план вылучыў народную вусна-паэтычную творчасць краю. Матэрыялам паслужыла кніга У. Зянько «Спадчына маёй зямлі». Тут трэба зрабіць кароткае адступленне і сказаць некалькі слоў пра Уладзіміра Зянько. У каментарыях перш-наперш ён названы фалькларыстам і паэтам, які нарадзіўся ў вёсцы Селеўцы Маладзечанскага раёна. Ды чытаем далей і адкрываем, наколькі гэта магчыма ў дадзеным выпадку, унікальны лёс: «...Скончыў некалькі класаў пачатковай польскай школы. Працаваў шафёрам, слесарам у Маладзечанскім лакаматыўным дэпо. Супрацоўнічаў з рэгіянальным друкам. Аўтар шэрага вершаў, паэмы «Беларуская трагедыя». Неаднойчы наведваў радзіму сваёй маці Зосі Сымонаўны Сарафіновіч у вёсцы Ласокіна Валожынскага раёна. Ад яе запісаў звыш 300 народных песень, шмат казак, загадак, прыказак прымавак...» У 1993 годзе (фалькларыст памёр у 1987 годзе) у Мінску пабачыла свет сабраная Уладзімірам Зянько народная творчасць «Спадчына маёй маці: песні, загадкі, казкі, жартоўныя апавяданні». Уклаў зборнік вядомы даследчык Васіль Ліцьвінка. Пагадзіцеся, асоба У. Зянько — унікальны прыклад служэння роднаму слову. Просты рабочы, збіральнік фальклору, які не меў спецыяльнай адукацыі, жыццём сваім здолеў даказаць, што пры жаданні, пры трываласці духу можна многае паспець зрабіць у адным зямным жыцці.

У раздзеле «Карані. Камель. Крона» прадстаўлена творчасць 29 аўтараў, якія альбо нарадзіліся на Валожыншчыне, альбо жылі тут у розныя гады. Да публікацыі кожнага з пісьменнікаў ёсць уступнае слова: артыкул пра літаратара альбо ўрывак з яго аўтабіяграфічных нататак. У каментарыях укладальнік патлумачвае, чым кіраваўся, калі ўключаў творы ў другі раздзел: «Раздзел знаёміць з творамі пісьменнікаў мінулага і пазамінулага стагоддзяў, што занялі сталае месца ў гісторыі літаратуры. Што датычыць нашых сучаснікаў, то гэта — сябры творчых саюзаў». А ўжо ў трэці раздзел — «Узбор'е» — сабраны «творы маладых літаратараў, цесна звязаных з «родным кутом», пераважна — сяброў літаратурнага аб'яднання «Рунь», што ўжо каторы год існуе на Валожыншчыне». Чацвёрты раздзел — «Далучанасць» — змяшчае «творы (мастацкая проза, паэзія, эсэістыка) літаратараў, якія так ці інакш «далучыліся» да валожынскага краю (працай, вучобай, месцам часовага пражывання і г. д.) і якіх гэты край натхніў на літаратурную творчасць, абумовіў тэматыку, матывы, пафас творчасці».

Але ж вернемся да другога раздзела. Адкрываецца ён творамі В. Дуніна-Марцінкевіча. Вялікай падборкай прадстаўлена і паэзія Канстанцыі Буйло. Своеасаблівай прадмовай служыць артыкул вядомай журналісткі Дзіяны Чаркасавай. Дарэчы, якраз яна ў свой час, працуючы ў газеце «Голас Радзімы», зрабіла нейма-

верна шмат дзеля асвятлення жыцця і творчасці Канстанцыі Буйло. Выйшла нават асобная кніга Д. Чаркасавай, прысвечаная паэтэсе, — «Люблю». Быў цэлы шэраг публікацый у «Голасе Радзімы». Чытаем у «валожынскай анталогіі» : «Усе Буйло, пачынаючы з бацькі, былі людзьмі гордымі, духоўна незалежнымі, ад гэтага часта мелі залішне клопату.

Не толькі служба панскага аб'ездчыка (Антон Буйло змяніў шмат пасад) прымушала сям'ю пераязджаць з месца на месца. Ён не спускаў сваім гаспадарам знявагі і несправядлівасці, не лез у кішэню па слова, бунтаваў сам і падбухторваў сялян. Антон Аляксандравіч працаваў старшым конюхам у скакавых стайнях князя Гагарына, аб'ездчыкам у графа Тышкевіча, у Адравонжу даглядаў разарый, працаваў учотчыкам на цагельні, быў добрым паляўнічым, рабіў чучалы жывёл, птушак, майстраваў музычныя інструменты, у тым ліку для свайго сямейнага аркестра, лячыў дзяцей, займаўся пчалярствам…Вільня, Маладзечна, Сугвазды, Барсуковіна, Радзейкова, Вішнева (Адравонж), Ірэнёва, Зазер'е, Скрыдлёва, Дыманова — мясціны, па якіх пралёг шлях Антона Буйло, яго сям'і. Гэта было цыганскае, часам амаль жабрацкае жыццё…»

І далей: «…Як вядома, скласці зборнік (размова пра першую кнігу паэтэсы «Курганная кветка». — **А. К.**) К. Буйло прапанаваў Янка Купала. Ён пісаў ёй лісты, патрабуючы ўсё больш і больш вершаў, бо хацеў, каб «кніжка атрымалася найтаўсцейшай». А яна дасылала свае творы і з Горнага Скробава, з вёскі Чаўшклі на Лідчыне, дзе настаўнічала: днём вучыла дзяцей, а вечарамі праводзіла гутаркі з сялянамі, чытала ім газеты, давала парады. Многа лістоў ішло з Вішнева, дзе жылі бацькі з малодшымі дзецьмі, да якіх Канстанцыя Антонаўна часта ездзіла…»

Будзем спадзявацца, што валожынскія краязнаўцы будуць шукаць далей і з часам выкладуць многія акалічнасці бытавання, творчай работы К. Буйло ў Вішнева. І хаця часу з пачатку мінулага стагоддзя прайшло шмат, яшчэ і зараз да новых росшукаў можна спрычыніцца праз самы разнастайны арсенал краязнаўчых высілкаў. Звярнуўшыся да паэзіі К. Буйло 1910-х гадоў, можна заняцца аналізам мовы вершаў, параўнаннем яе з мясцовым фальклорам Вішнева, ваколіц. Па-другое, увагі патрабуюць звесткі пра паселішча канца XIX — пачатку XX стагоддзя. Веданне пра тагачасных гаспадароў Вішнева, жыхароў вёскі шмат што дапаможа ўявіць болей рэльефна, выразна. Можна зазірнуць і ў «Нашу ніву» 1909—1910 гадоў, а таксама перагарнуць вокладкі тых дзіцячых часопісаў, якія выпісваў Антон Буйло.

Знаёмячыся з трэцім і чацвёртым раздзеламі «валожынскай анталогіі», яшчэ болей пераконваешся, што ў «герої» абраны асаблівы куточак зямлі беларускай. Адзін толькі валожынскі Ракаў чаго варты!.. І ў яго эпіцэнтры — дом, сядзіба Рагойшаў. Яшчэ знойдзецца такі даследчык, што створыць асобную манаграфію на гэтую тэму. Хаця і цяпер ужо шмат напісана. Таццяна Кабржыцкая піша ў нарысе «Белым каменем адзначым гэты шлях»: «2002 год у Беларусі быў афіцыйна аб'яўлены «годам Шаўчэнкі». У сувязі з «годам Шаўчэнкі» Беларусь двойчы наведваў генеральны дырэктар Нацыянальнага музея Тараса Шаўчэнкі ў Кіеве Сяргей Гальчанка. Ён завітваў і ў Ракаў, наведаў прыватны Музей поліэтнічнай культуры Ракаўшчыны (музей на сядзібе Вячаслава Рагойшы. — **А. К.**), быў прыемна ўражаны шырынёю і арыгінальнасцю яго ўкраінскай экспазіцыі. Яна змяшчае выданні перакладаў украінскай класікі на беларускую мову — Тараса Шаўчэнкі, Івана Франко, Міхайлы Кацюбінскага, Лесі Украінкі, сучасных аўтараў — Ю. Мушкетыка, Р. Іваньычука, У. Яварыўскага і іншых, выкананых гаспадарамі і арганізатарамі музея… Ёсць у ім і навуковыя даследаванні, якія закранаюць праблемы ўкраіністыкі, у прыватнасці, манаграфія «Карані дружбы», асобны вялікі раздзел яе «Будзь і нам жа бацькам мілым, украінча слаўны», названы крылатым радком Янкі Купалы, раскрывае прысутнасць Тараса Шаўчэнкі ў духоўным жыцці Беларусі… Шмат у музеі і кніг з аўтографамі ўкраінскіх дзеячаў культуры і навукі, фотаздымкаў, дакументаў, якія сведчаць пра розныя формы існавання

«ракаўскай украіністыкі». Тут матэрыялы рэгулярных Міжнародных навуковых канферэнцый «Ракаўскія чытанні» і экземпляры рэгіянальнага культурна-асветніцкага перыядычнага выдання «Ракаўскі шлях» (выйшлі ўжо трыццаць нумароў газеты, рэдактар-выдавец — В. Рагойша) з заўсёднай прысутнасцю ўкраінскай тэматыкі…» Ракаў Рагойшаў — гэта і Уладзімір Караткевіч, Адам Мальдзіс, Алег Лойка, Сяргей Панізнік… У 1967 годзе з нагоды вяселля Вячаслава Рагойшы і Таццяны Кабржыцкай Уладзімір Караткевіч напісаў «Эпіталу Таццяне і Славе» (пад творам — дата : «Ракаў, 1967 г.»). Чым не літаратурны дакумент часу:

Каханне Бог у светлай сіле
Сядзіць між нас. Я п’ю нагбом
За вас: прыгожых, добрых, мілых,
За ваш стары і новы дом.

Да схілу дзён сваіх астатніх
Мы вам сябры. Няхай жыве
Наш гонар: Слава і Таццяна,
Сябры ад сёння і — навек.

Малю аб вечным і адзіным:
Хай шчасны будзе на вякі
Шлюб Беларусі і Ўкраіны,
Шлюб Львова й Іслачы-ракі.

Руплівасць укладальніка выявілася і ў тым, што В. Рагойша сабраў літаратурныя творы, публіцыстычныя нататкі, дзе аўтары, хто ўскосна, штрышком дакрануўшыся да Валожыншчыны, выказваюць любоў, замілаванне Іслаччу, Ракавам, Дорамі, Вішневам ды шмат якімі мясцінамі краю. Літаратуразнаўца Таццяна Шамякіна прадстаўлена нататкамі «Меркаванні пра назву Ракаў». Уладзімір Субат у эсэ «Наша Волька» знаёміць з журналісткай, ураджэнкай Ракава Вольгай Налецкай (1952—1989). Алесь Пісьмянкоў (1957—2004) — паэт, для якога Іслач была адной з любімых рэк, прадстае перад чытачом «валожынскай анталогіі» вершам «Лоўля рыбы ў дзень Святога Пятра». Адам Мальдзіс — нарысам «Сказ пра забытых герояў» (першая публікацыя — у часопісе «Маладосць» за 1964 год).

Унікальнасць кнігі «Люблю наш край…» настолькі прыкметная, што можна толькі параіць усім укладальнікам-наступнікам: выбіраючыся ў дарогу па стварэнні карціны «літаратурнага жыцця» таго ці іншага краю, арыентуйцеся на «валожынскую анталогію», і поспех будзе гарантаваны.





# *МЕТРЫКА*
## *літаратурная*

## 410

гадоў таму нарадзіўся **Філіповіч** Афанасій, беларускі пісьменнік-публіцыст, палітычны і царкоўны дзеяч.

З 1620 года служыў пры двары князя Льва Сапегі. Быў настаўнікам Я. Лубы, якога польскія прыдворныя колы выдавалі за рускага царэвіча. У 1627 годзе пастрыгся ў манахі пры віленскім Святадухаўскім манастыры. Жыў у манастырах: Куцеінскім (пад Оршай), Міжгорскім (пад Кіевам), Дубайскім, Купяціцкім (каля Пінска). У 1640—43 гадах — ігумен Сімяонаўскага манастыра ў Брэсце. У 1637—38 гадах ездзіў да рускага цара, напісаў спецыяльную рэляцыю «Гісторыя падарожжа ў Маскву». Гэта яго першы публіцыстычны твор, у якім разглядваецца цяжкае становішча праваслаўнага насельніцтва Беларусі і Украіны ў Рэчы Паспалітай. За актыўную дзейнасць супраць Брэсцкай царкоўнай уніі 1596 года і рэзкія выпады на дзяржаўных сеймах (1641 і 1643) у адрас караля сасланы ў Кіеў (1643), але неўзабаве зноў вярнуўся ў Брэст. За дапамогу рускаму паслу ў 1644 годзе быў арыштаваны і пасаджаны ў варшаўскую турму, дзе напісаў шэраг артыкулаў («Навіны», «Фундамент непарадку касцёла рымскага», «Супліка трэцяя», «Парада пабожная», «Прыгатаванне на суд», «Аб фундаменце царкоўным»), у якіх з дэмакратычных пазіцый крытыкаваў палітыку Рэчы Паспалітай, царкоўных іерархаў, выступаў супраць уніі, за саюз з Рускай дзяржаваю. Гістарычная абмежаванасць Філіповіча ў тым, што ён памылкова бачыў выратаванне свайго народа ў адраджэнні праваслаўнай царквы і ўмацаванні хрысціянскай веры. У 1644—47 гадах адбываў ссылку ў Кіева-Пячорскім манастыры. Па абвінавачванні ў дапамозе казакам Б. Хмяльніцкага расстраляны. Аўтар «Дыярыуша» («Дзённіка», 1646), дзе сабрана ўся публіцыстыка пісьменніка. Гэта помнік палемічнай літаратуры ў Беларусі.

Памёр у 1648 годзе.

## 190

гадоў таму ў маёнтку Шчорсы пад Навагрудкам нарадзіўся **Глінскі** Антон Юзаф, беларускі фалькларыст, пісьменнік.

Працаваў у бібліятэцы Храптовічаў. З 1844 года жыў у Вільні, дзе рэдагаваў «Виленские губернские ведомости». З 1863 года быў перакладчыкам у часопісе «Виленский вестник» («Kurjer Wilenski»). Меў знаёмства з У. Сыракомлем, В. Каратынскім, А. Кіркорам і іншымі даследчыкамі беларускага фальклору. Аўтар «Польскага казачніка» (т. 1—4, 1853) — зборнік апрацаваных беларускіх казак, апавяданняў з ваколіц Навагрудка. Сярод іх казачныя сюжэты, запісы якіх вельмі рэдкія: «Дзяўчына-кветка», «Маці мяне забіла, бацька мяне з’еў» і іншыя. У зборнік уключаны таксама пераробкі вядомых вершаваных казак А. Жукоўскага і А. Пушкіна. На сюжэт казкі пра папараць-кветку з яго зборніка Ф. Багушэвіч напісаў верш «Хцівец і скарб на святога Яна» (1887). Зборнік Антона Глінскага перакладзены на чэшскую, французскую (1864), англійскую (1874) і нямецкую (1878) мовы, а на польскай мове перавыдаваўся 11 разоў.

Памёр у 1866 годзе.

**110**

гадоў таму ў вёсцы Старакаменная Гродзенскай вобласці нарадзіўся **Дзяржынскі** Уладыслаў (Чаржынскі Уладыслаў Вікенцьевіч), беларускі крытык, літаратуразнаўца.

Пачатковую адукацыю атрымаў у народным вучылішчы. Пасля паступіў у Гродзенскую гімназію, якую эвакуіравалі ў Мінск (скончыў у 1918 годзе). Для заробку даваў прыватныя ўрокі на Лагойшчыне. У 1925 годзе скончыў этнолагалінгвістычнае аддзяленне БДУ (адначасна з вучобай выкладаючы на рабфаку). На першапачатку працаваў у часопісе «Полымя», а з 1925 да 1930 года выкладаў у Камуністычным універсітэце Беларусі. У 1931 годзе быў беспадстаўна асуджаны і высланы на 5 гадоў у Казань. У 1935 годзе быў вызвалены ад высылкі, а ў 1988-м рэабілітаваны канчаткова. Працаваў у Казані. Займаўся выкладчыцкай дзейнасцю ў Казанскіх медыцынскім і стаматалагічным інстытутах да 1971 года.

З крытычнымі артыкуламі ў беларускай перыёдыцы пачаў выступаць з 1922 года. Быў шчырым, дасведчаным і сумленным у сваіх літаратурных працах. Яго аналіз творчасці Я. Купалы, Я. Коласа, М. Чарота, З. Бядулі і Ц. Гартнага і да гэтай пары ўражвае глыбінёй даследчыцкай думкі, аргументаванасцю і пластычнасцю стылю. У сваёй крытычна-літаратурнай працы ён кіраваўся эстэтычнымі катэгорыямі, а не вульгарна-сацыялагічнымі догмамі. На вялікі жаль для нашай нацыянальнай крытыкі, пасля арышту і высылкі У. Дзяржынскі адышоў ад літаратурнай і крытычнай дзейнасці. У 1928 годзе выйшла ў свет яго адзіная кніжка «Да пытання аб псіхалагічным стылі нашаніўскай паэзіі». А чаму б сёння нашым літаратуразнаўцам-руплівуцам не сабраць лепшыя публікацыі таленавітага крытыка і не выдаць іх асобнай кніжкай? Да прыкладу, я сам як літаратурны аглядальнік нярэдка карыстаюся яго колішнімі *палымянскімі* публікацыямі...

Памёр у 1974 годзе.

# КРАСАВІК

**1**

— **145** гадоў таму ў мястэчку Халопенічы Крупскага раёна нарадзіўся **Багдановіч** Адам Ягоравіч, беларускі этнограф, гісторык культуры, фалькларыст, мовазнаўца. Бацька класіка беларускай літаратуры, вялікага нацыянальнага паэта *Максіма Багдановіча*.

Вучыўся ў мясцовай пачатковай школе, а пасля розным рамёствам — у Мінску. Скончыў Нясвіжскую настаўніцкую семінарыю і быў накіраваны ў сельскую школу на Ігуменшчыне. Прымаў удзел у рабоце арганізацыі рэвалюцыянераўнарадавольцаў у Мінску. З 1885 года быў загадчыкам пачатковага вучылішча, а ў 1892 годзе пераехаў з Мінска ў Гродна, служыў там у Сялянскім зямельным банку. Пастаянна займаўся самаадукацыяй, у прыватнасці, вывучаў многія замежныя мовы. А неўзабаве стаў супрацоўнічаць з П. В. Шэйнам: збіраў і запісваў беларускі фальклор, народныя песні, легенды і г. д. У 1896 годзе, пасля смерці жонкі (Марыі Апанасаўны Мякоты, маці *Максіма Багдановіча*), быў пераведзены па службе ў Ніжні Ноўгарад, дзе пасябраваў з М. Горкім. Ажаніўся з яго сястрой, якая хутка памерла, але цёплыя сваяцкія сувязі з рускім пралетарскім пісьменнікам захаваліся на ўсё жыццё. Пасля Кастрычніцкай рэвалюцыі быў прызначаны кіраўніком Яраслаўскага аддзялення Сялянскага банка. Пасля скасавання банка (1920) перайшоў на педагагічную працу — выкладаў у тэхнікумах Яраслаўля. У 1931 годзе выйшаў на пенсію і заняўся навуковай працай.

Выступаць у перыядычным друку пачаў з 1886 года з артыкуламі па гісторыі, этнаграфіі і народнай асвеце. Выдадзены асобнымі зборнікамі яго працы «Про панщину. Рассказ из белорусской жизни времен крепостного права» (1894),

«Пережитки древнего миросозерцания у белорусов» (1895), «Страницы из жизни Максима Горького» (1965), «Язык земли» (1966).

Памёр у 1940 годзе.

**1**

— **60** гадоў таму ў вёсцы Клешаў на Случчыне нарадзіўся **Жук** Алесь (Аляксандр Аляксандравіч), беларускі празаік.

Вучыўся ў Дзюдзеўскай сярэдняй школе, пасля заканчэння якой (1965) паступіў на філалагічны факультэт БДУ. Атрымаўшы дыплом (1970), працаваў рэдактарам у выдавецтве «Мастацкая літаратура». У 1977 годзе быў прызначаны намеснікам галоўнага рэдактара часопіса «Маладосць». З 1979 года — інструктар сектара літаратуры ЦК КПБ, а з 1980 года — галоўны рэдактар тыднёвіка «Літаратура і мастацтва». З 1990 года працаваў намеснікам галоўнага рэдактара часопіса «Полымя».

Першыя творы пачаў друкаваць у 1965 годзе. Выдаў шмат кніг мастацкай прозы розных жанраў: «Асеннія халады», «Паляванне на старых азёрах», «Зоркі над палігонам», «Не забывай», «На саннай дарозе», «Паляванне на Апошняга Жураўля» (пастаўлены спектакль у Нацыянальным акадэмічным тэатры імя Янкі Купалы), «Чорны павой», «Помста матылькоў», «Праклятая любоў». Выходзіла выбранае вядомага пісьменніка.

Лаўрэат прэміі Ленінскага камсамола Беларусі (1978, за кнігу «Зоркі над палігонам»), літаратурнай прэміі імя І. Мележа (1982, за кнігу «Паўстанак вяртання»), Дзяржаўнай прэміі Беларусі імя Я. Коласа (1992, за кнігу «Праклятая любоў»).

**4**

— **450** гадоў таму ў вёсцы Астроўна Бешанковіцкага раёна нарадзіўся **Сапега** Леў Іванавіч, грамадскі і дзяржаўны дзеяч Вялікага княства Літоўскага.

З 1581 года пісар вялікалітоўскі, а з 1585-га — падканцлер літоўскі. У 1589—1623 гадах быў канцлерам вялікалітоўскім. Удзельнічаў у падрыхтоўцы і выданні збору законаў феадальнага права — Статута Вялікага княства Літоўскага (1588). У якасці прадмовы да друкаванага Статута змясціў сваю прамову на Варшаўскім сейме 1588 года — яркі ўзор беларускай свецкай аратарскай прозы XVI стагоддзя. На сацыяльна-палітычныя погляды Статута зрабілі ўплыў ідэі антычных філосафаў і палітычных дзеячаў. На іх аснове спрабаваў вырашыць шэраг актуальных праблем тэорыі і практыкі сацыяльных адносін. Высока ставіў сацыяльную каштоўнасць права, выказваўся за неабходнасць умацавання правапарадку і верацярпімасці ў краіне, ухваляў выданне Статута на беларускай мове. У 1616 годзе апублікаваў «Спосаб спраў трыбунальскіх». Пры Статуце пачата будаўніцтва Ружанскага палаца.

Памёр у 1633 годзе.

**7**

— **60** гадоў таму ў гарадскім пасёлку Коханава Талачынскага раёна нарадзіўся **Славук** (Слаук) Валерый Пятровіч, беларускі графік.

Скончыў Беларускі тэатральна-мастацкі інстытут (1977). Удзельнік мастацкіх выставак з 1976 года. Працуе ў станковай і кніжнай графіцы. Сярод станковых работ: «Казкі летняга дня», «Купальскае насланнё», «Пасля навальніцы», «Збор ягад», «Старая музыка», «На выпасе», «Дрэва на вогнішча» ды іншыя. Зрабіў ілюстрацыі да беларускіх народных казак «Разбойнікі», «Мужык і чорт». Цікавая яго серыя работ «Канфлікты». Займаецца мастацкім афармленнем кніг, за што мае шмат узнагарод і дыпломаў, у тым ліку і міжнародных.

**15**

— **105** гадоў таму ў вёсцы Кляннікі Смалявіцкага раёна нарадзіўся **Ніканові́ч** Мікола (Мікалай Уладзіміравіч), беларускі празаік і перакладчык.

Скончыў мясцовую пачатковую школу, а пасля — гімназію ў Чэрвені. Удзельнічаў у барацьбе супраць польскіх акупантаў. Пасля грамадзянскай вайны настаўнічаў у роднай вёсцы, вёў актыўную грамадскую работу з сялянамі, асабліва супраць грамадскай пасіўнасці, забабонаў і п'янства. У 1928 годзе перабраўся ў Мінск і пачаў працаваць стылістам у газеце «Чырвоная змена», а пасля ў «Звяздзе». Цягам 1923—32 гадоў актыўна друкаваўся ў перыядычных выданнях рэспублікі. У 1933 годзе быў незаконна рэпрэсіраваны і сасланы на тры гады на Урал. Працаваў у газетах «Уральский рабочий» і «Советский Дон». У 1942 годзе быў прызваны ў армію. Удзельнічаў у баях з фашыстамі. У кастрычніку 1944 года на тэрыторыі Чэхаславакіі прапаў без вестак. Рэабілітаваны ў 1956 годзе.

Першае апавяданне надрукаваў у газеце «Савецкая Беларусь» у 1923 годзе, першы верш — у часопісе «Маладняк» у 1925 годзе. Выдаў кніжкі: «Золак» , «Радасць», «Крык працы», «Вясновы прамень», «Мяцеліца», «У паўстанцаў». Выйшла пасмяротнае выбранае «Летнім днём» (1960) і кніжка прозы «Светлая даль» (1985).

**17**

— **65** гадоў таму ў вёсцы Шклянцы Докшыцкага раёна нарадзіўся **Зубрыцкі** Эдуард Іосіфавіч, беларускі паэт і журналіст.

У 1968 годзе скончыў БДУ. Працаваў настаўнікам беларускай мовы і літаратуры ў Чашніках і Асвеі на Віцебшчыне. З 1971 года — супрацоўнік рэдакцыі верхнядзвінскай раённай газеты.

Першыя вершы надрукаваў у 1960 годзе ў часопісе «Маладосць». Сваім хросным бацькам у паэзіі лічыць Міколу Аўрамчыка. Аўтар аповесцей «Сцэна» (1968), «Жальба Сар'янскай пушчы» (1993). Выдаў зборнікі вершаў і паэм «Блакітныя казкі» (1975), «Рабінавыя астравы» (2004), «Мне б хоць кропельку неба» (2005), «Журлівіца» (2006), «След чмяля» (2006), «Прычашчэнне» (2007).

**18**

— **120** гадоў таму ў мястэчку Турэц на Навагрудчыне нарадзіўся **Дзяркач** Анатоль (Зіміёнак Анатоль Рыгоравіч), беларускі паэт, сатырык і гумарыст.

Нарадзіўся ў сям'і фельчара. Скончыў мясцовую народную школу, а пасля гарадское вучылішча ў Навагрудку (1904). Служыў пісарам у Мінску ў гарадской і земскай управах. Перасследаваўся за ўдзел у рэвалюцыйным руху — сядзеў у царскай турме, адбываў ссылку. Пасля рэвалюцыі працаваў у рэдакцыі газеты «Беларуская вёска», а з 1924 года быў рэдактарам сатырычнага часопіса «Дубінка» (дадатак да «Звязды»). З 1929 года працаваў у газеце «Піянер Беларусі». Але 16 кастрычніка 1936 года быў незаконна арыштаваны і асуджаны да вышэйшай меры пакарання. Расстраляны 5 верасня 1937 года. Рэабілітаваны ў 1957 годзе.

Першы яго верш «За свабоду» быў выдрукаваны ў газеце «Голос провинции» ў 1907 годзе пад крыптанімам А. З. Псеўданім А. Дзяркач быў узяты паэтам пасля рэвалюцыі, калі ён цалкам пачаў займацца гумарыстычнай дзейнасцю. Многія яго творы мелі антырэлігійны характар, а большыня сатырычных напісана зніжана-прастамоўным стылем. Друкаваў творы і для дзяцей. Перакладаў з рускай і ўкраінскай моў.

Выдаў кніжкі: «Пра папоў, пра дзякоў, пра сялян-мужыкоў», «Міколава гаспадарка», «Нашы прыяцелі», «Першы дзень у дзіцячым садзе», «Працавітая дзяўчына», «Звяры нашых лясоў», «Бог удвох», «Качаргой па абразох», «Усім патроху».

**19**

— **95** гадоў таму ў Полацку нарадзіўся **Прокша** Леанід Януаравіч, беларускі празаік.

Дзяцінства і юнацтва прайшлі ў Віцебску. Тут скончыў сямігодку. У 1931 годзе атрымаў дыплом мінскага педагагічнага тэхнікума. Працаваў у школах на

Мазыршчыне і ў Барысаве. Служыў у Чырвонай Арміі. Пасля быў літсупрацоўнікам у газеты «Віцебскі рабочы» (1937—40), польскіх газет «Sztandar Wolności» і «Pioner» (да 1941). У гады Вялікай Айчыннай вайны быў інструктарам-літаратарам у палітупраўленні фронту, а таксама журналістам. Працаваў загадчыкам аддзела газеты Паўночнай Групы савецкіх войск «Wolność» у Польшчы (1945—53). Скончыў Ваенна-палітычную акадэмію (1955), працаваў загадчыкам аддзела часопіса «Камуніст Беларусі» (1956—58), з 1958 года — рэдактар газеты «За вяртанне на Радзіму» (з 1960 года «Голас Радзімы», цяпер дадатак пры газеце «СБ»). З 1969 года — галоўны рэдактар тыднёвіка «Літаратура і мастацтва».

Літаратурнай дзейнасцю пачаў займацца з 1937 года. Першае апавяданне «Порка» было выдрукавана ў калектыўным празаічным зборніку ў 1942 годзе. Пісаў фельетоны і памфлеты, гумарыстычныя апавяданні і прозу для дзяцей. Выйшлі кніжкі: «Источник красоты», «Каб жылося-вялося», «Камедыянты», «Кантроль сумлення», «Мальчик в больших башмаках», «Праз туманы», «Туман развеецца», «Незвычайныя прыгоды хлопчыка Бульбінкі», «Стрэлы над ярам», «Пакуль жывеш на свеце», «Туника Несса», «Урок любві і нянавісці». Пісаў на беларускай, рускай і польскай мовах.

Памёр у 1994 годзе.

**24**

— **60** гадоў таму ў Брэсце нарадзіўся **Дзямешка** Аляксандр Сяргеевіч, беларускі артыст эстрады, выканаўца на ўдарных інструментах.

У 1964—66 гадах вучыўся ў Брэсцкім музычным вучылішчы. З 1969 года — ударнік вакальна-інструментальнага ансамбля «Песняры». У складзе ансамбля праслаўляў нацыянальнае песеннае мастацтва Беларусі ў былых рэспубліках СССР і за мяжой (Венгрыі, ГДР, Югаславіі, Фінляндыі, Кубе, Балгарыі, Польшчы, Румыніі, ФРГ, Чэхаславакіі, Швейцарыі, ЗША). Заслужаны артыст Беларусі (1979).

Памёр у 2006 годзе.

— **90** гадоў таму было заснавана **Першае таварыства беларускай драмы і камедыі**.

Існавала ў Мінску з красавіка 1917 года да сярэдзіны 1920 года. Заснавана Ф. Ждановічам пры ўдзеле І. Буйніцкага і У. Фальскага. Адкрылася спектаклямі «Паўлінка» Я. Купалы і «У зімовы вечар» Э. Ажэшкі ў памяшканні гарадскога тэатра. Працавала ў клубе «Беларуская хатка». У склад уваходзілі ўдзельнікі аматарскіх драмгурткоў, хор пад кіраўніцтвам У. Тэраўскага, танцавальная група Ч. Родзевіча, аркестр народных інструментаў Дз. Захара. Ставілася пераважна беларуская драматургія: п'есы Я. Коласа, У. Галубка, К. Каганца, В. Дуніна-Марцінкевіча, М. Чарота, К. Буйло, а таксама М. Крапіўніцкага і А. Чэхава. Упершыню паставілі драму Я. Купалы «Раскіданае гняздо» (1917). У склад таварыства ўваходзілі акцёры: Я. Беларус, Р. Жакоўскі, А. Крыніца, П. Мядзёлка, В. Тарасік, А. Ільінскі, У. Галубок, Г. Грыгоніс, Л. Ржэцкая, К. Саннікаў, С. Станюта.

У 1920 годзе значная частка акцёраў на чале са Ф. Ждановічам увайшла ў склад БДТ.

Існавала да сярэдзіны 1920 г.

**50** гадоў з часу выхаду 1-га нумара дзіцячага часопіса **«Вясёлка»**.

*Аўтар рубрыкі Леанід ГАЛУБОВІЧ.*



**ПАДПІСКА:**

**індывідуальная (індэкс — 74985)**

**на 1 месяц — 4600 руб.**

**на 3 месяцы — 13 800 руб.**

**ведамасная (індэкс — 749852)**

**на 1 месяц — 6200 руб.**

**на 3 месяцы — 18 600 руб.**

**ведамасная льготная (індэкс — 00727)**

**на 1 месяц — 5200 руб.**

**на 3 месяцы — 15 600 руб.**

***Аўтары нясуць адказнасць за факты, якія прыводзяцца ў публікацыях, у адпаведнасці з заканадаўствам Рэспублікі Беларусь.***

***Рукапісы не рэцэнзуюцца і аб'ёмам да двух аркушаў не вяртаюцца.***

***У выпадках паліграфічнага браку ў часопісе звяртацца ў друкарню.***


***e-mail: minsk@lim.by***

Рэдакцыя часопіса «Полымя», 220034, Захарава, 19.
Тэлефоны: галоўнага рэдактара, намесніка галоўнага рэдактара,
аддзелаў прозы, паэзіі, навукі,
крытыкі і літаратуразнаўства — 284-80-12.



Стыльрэдактар *М. І. Гусева*
Камп'ютэрная вёрстка *С. І. Таргонскай*

Падпісана ў друк 05.04.07 г. Фармат 70 × 108 $^{1}/_{16}$. Папера газетная.
Друк афсетны. Умоўн. друк. арк. 21,0. Ул.-выд. арк. 21,3. Тыраж 3619 экз. Зак. 1044.

Рэспубліканскае унітарнае прадпрыемства «Выдавецтва «Беларускі Дом друку».
220013, Мінск, праспект Незалежнасці, 79.

Нашы індэксы
індывідуальны — 74985
ведамасны — 749852
льготны — 00727



# Чытайце ў наступным нумары:

**Уладзімір Дамашэвіч**
**На мяжы цярпення**
Раман (працяг)

**Андрэй Федарэнка**
Апавяданні

**Віктар Шніп**
**Алег Салтук**
**Леанід Крыванос**
Вершы

**Легенды XX стагоддзя**
**Іван Паўлавіч Мележ**

ПОЛЫМЯ

ISSN 0130-8068

